Г. Ф. ЮРЧАНКА

# НАРОДНАЕ ВЫТВОРНАЕ СЛОВА

З гаворкі Мсціслаўшчыны

М—Р (разбарона)

МІНСК «НАВУКА І ТЭХНІКА» 1983

ББК 81.2Бел-4
Ю83

Рэдактар
А. А. Крывіцкі,
кандыдат філалагічных навук

Рэцэнзенты
А. Г. Падлужны, доктар філалагічных навук,
І. Я. Яшкін, кандыдат філалагічных навук

**Юрчанка Г. Ф.**
Ю83 Народнае вытворнае слова: З гаворкі Мсціслаўшчыны. М—Р (разбарона).— Мн.: Навука і тэхніка, 1983.— 304 с.
У пер.: 1 р. 20 к.

Гэта кніга — працяг слоўніка, які выйшаў у 1981 г. пад гэтай жа назвай і ўключыў у сябе лексіку на літары А—Л, сабраную на ўсходзе Беларусі, на мяжы непасрэдных кантактаў сучасных рускіх і беларускіх гаворак. Шырока паказана форма- і словаўтваральная сістэма гаворкі, яе сінаніміка і эмацыянальна-вобразная афарбоўка. Усяго пададзена і растлумачана больш 5600 лексічных адзінак, аб'яднаных у 2595 гнёзд. У ілюстрацыйных прыкладах адлюстраваны фанетычныя, марфалагічныя і сінтаксічныя асаблівасці гаворкі.
Разлічана на лінгвістаў, выкладчыкаў і студэнтаў філалагічных факультэтаў ВНУ. Карысны для сябе матэрыял знойдуць тут работнікі друку, пісьменнікі, журналісты.

Ю $\frac{4602020000-017}{М316-83}$ 124—83

ББК 81.2Бел-4
4Бел

## ПРАДМОВА

Першы выпуск слоўніка «Народнае вытворнае слова», у які ўключана сабраная на Мсціслаўшчыне дыялектная лексіка на літары А—Л, выйшаў з друку ў 1981 г. У другі выпуск увайшла дыялектная лексіка на літары М—Р. Як паказвае назва, у слоўніку змяшчаецца вытворная лексіка. Але ад гэтага правіла як у першым, так і ў гэтым выпусках дапушчана адступленне: прыводзяцца паасобныя невытворныя словы (*мыс, мыт, мяздра, плак, порч, прад, пруд, прыд* і некалькі іншых), выяўленыя пасля выхаду ў свет нашага «Дыялектнага слоўніка» (1966) і некаторых іншых збораў. Слоў, якія пачынаюцца з *о*, у гаворцы вельмі мала. Гэта галоўным чынам выклічнікі *ой, ох, оп* і некаторыя ўтварэнні ад іх. Таму лексіка на літару *о* ў слоўнік не ўключана.

Спосаб падачы лексікі застаўся той жа, што і ў папярэднім выпуску,— камбінаваны алфавітна-гнездавы. Гнёздамі падаюцца адназначныя аднакарэнныя варыянты слова; аднакарэнныя назоўнікі мужчынскага і жаночага роду, якія абазначаюць асоб па дзеянню; дзеясловы незакончанага і закончанага трывання, незалежныя і залежныя дзеясловы, а таксама дзеепрыметнікі і дзеепрыслоўі на *-ёмшы* да іх; аднакарэнныя варыянты назоўнікаў, а таксама прыметнікаў, якія маюць значэнне памяншальнасці, павелічальнасці, узмацняльнасці і інш. Рад дзеепрыметнікаў падаецца асобнымі артыкуламі. Дзеепрыслоўі асобнымі артыкуламі не прыводзяцца; выключэнне зроблена толькі для дзеепрыслоўяў да прэфіксальных дзеясловаў з коранем *іціць (ісці)* з-за своеасаблівасці іх утварэння. У некалькіх выпадках у якасці рэестравай бярэцца літаратурная норма (*мяса, пуня, пінжак, пуза, п'яный, пятніца* і інш.), калі ад яе ўтворана некалькі дыялектных форм. Па гэтай жа прычыне прыводзяцца раней апублікаваныя словы *мурзапон, няўрома, пракуда*.

Ранейшымі засталіся падача рэестравых слоў, спо-

саб тлумачэння, сістэма памет, запіс ілюстрацыйнага матэрыялу. Пры гэтым, як і раней, пры памяншальных, павелічальных, узмацняльных і іншых формах назоўнікаў не пазначаецца род, паколькі ён супадае з родам рэестравага слова: падклетак *м.* — *памянш.* падклетачак; пузач *м.* — *узмацн.* пузачына; падтопа *ж.* — *памянш.* падтопка; плюндра *ж.* — *павеліч.* плюндрышча; падпавецце *н.* — *памянш.* падпавеццікa. Стылістычныя паметы і памета пераноснасці значэння падаюцца пры рэестравым слове; пры гэтым маецца на ўвазе, што такія паметы адносяцца і да іншых слоў гнязда або да аднолькавых значэнняў слоў у гняздзе. Так, памета *іран.* пры *падстаўляцца* адносіцца і да дзеяслова закончанага трывання *падставіцца*. Памета *перан.* пры дзеяслове *падкінуць* адносіцца да ўсіх трох яго значэнняў.

Націскі ў рэестравых словах пазначаны ў ілюстрацыйных прыкладах. Не пазначаецца націск над складамі з *о, э, е, ё,* паколькі такія склады ў гаворцы бываюць толькі пад націскам.

Выбухное *г* паказваецца графічна: *ґанкі, дыґалы, выланґацца, ґ бацьку, ґ боку, ґ дзеду, ґ жару, ґ зіме, да цуґу.*

## СПІС СКАРАЧЭННЯЎ

*Абраж.*— абражальнае, *адзінк.*— адзінкавае, *асудж.*— асуджальнае, *выкл.*— выклічнік, *выш. ст.*— вышэйшая ступень параўнання, *груб.*— грубае, *гумар.*— гумарыстычнае, *дзеепрым.*— дзеепрыметнік, *дзеепрысл.*— дзеепрыслоўе, *дзеясл.*— дзеяслоўны, *дзіц.*— дзіцячае, *ж.*— жаночы род, *жарт.*— жартоўнае, *займ.*— займеннік, *зак.*— закончанае трыванне, *зал.-бессуб'ект.*— залежна-бессуб'ектная форма, *зб.*— зборны назоўнік, *звыч.*— звычайна, *знач.*— значэнне, *зневаж.*— зневажальнае, *зніж.*— зніжальнае, *інш.*— іншае, *іншаск.*— іншасказальнае, *іран.*— іранічнае, *м.*— мужчынскі род, *мн.*— множны лік, *н.*— ніякі род, *-н.*— небудзь, *неадабр.*— неадабральнае, *незак.*— незакончанае трыванне, *нездав.*— нездаволенасць, *пабоч. сл.*— пабочнае слова, *павеліч.*— павелічальнае, *памянш.*— памяншальнае, *перан.*— пераноснае значэнне, *прым.*— прыметнік, *прысл.*— прыслоўе, *прыназ.*— прыназоўнік, *рэдкаўж.*— рэдкаўжывальнае, *узмацн.*— узмацняльнае, *часц.*— часціца, *экспр.*— экспрэсіўнае.

# М

**Магілёвец** *м.* Жыхар Магілёва, а таксама чалавек, які быў у Магілёве. *Я думыю, ці ні пад'едуць сяньня твае мугулёўцы? Мыгілёвіц Анькін ужо зыявіўся.* **Магілёўка** *ж. Як мугулёўкыю стала, нырядзілыся, што ні пызнаць, падумыіш: хуць што дык па́ньськыя дычка.*

**Маёвік** *м. гумар.* Гуляка. *Мае маёвікі некуды ріпірця́цца, ці ні ў Ма́зылыўшчыну кытану́ць. Памянш.* **маёвічак**. *Маёвічкым нашым сяньня ні ды барон: гульня́, ат абедыў ріпірцяцца.*

**Мажарына** *ж. зніж.* Мажары. *Худзь ба зьля́пыў якую-небудзь мыжа́ріну, скарей ба падвезьць було што. Памянш.* **мажарынка**. *Лі Кузьмы стаіць мыжа́рінка, можна запрежч, толька іна ня дужа крепкыя, нілізя многа класьць.*

**Мазанне** *н. перан.* Лёгкае паранне ў лазні. *Што йта зы па́ріньня — ма́зыньня, ты хырашэнька сьцібані, ды ўськінь, каб дух быў.*

**Мазаць** *незак. перан.* Злёгку парыць у лазні. *Лю́біць, каб яго ма́зылі, тады ляжы́ць ны палку́ і сьмяецца: ні гыря́ча.* **Мазануць** *зак.* 1. Злёгку папарыць. *Венікым ны палку мызану́ў яго па́ру разоў,— пішчыць, кру́ціцца, ня хочыць па́ріцца.* 2. Ударыць. *Мызану́ць і зьнясеш, яны с табою доўга ні пачы́кыюцца.*

**Мазголенне, мазгольства** *н.* Квэцанне, пэцканне, мазанне. *Ажно глядзець ня хочыцца ны ваша мазґоліньня, ра́зьві ета работа. Кінь ты мазґольства, ці так прясну́шкі замешыюць, у цябе бліны палу́чуцца.*

**Мазголеннік** *м.*, **мазголя** *м.* і *ж.* Той, хто квэцае, пэцкае, мажа. *Ты зірні-ка на етыга мазґоліньніка, што ён тваріць: бярець зь мі́сычкі і мажыць тубурецік. Якей жа ты мазґоля нікуратный, пыглядзі ны свае полы. А ну цябе, мазґоля, атыйдзі ты адзь дзежкі, я сыма зьдзелыю. Памянш.* **мазголька**. *Прібяры-ка ты ету мазґольку ат куліша́, іна ўжо усё чыста вы́мызыла. Павеліч.* **мазголішча**. *А мазґолішча ж ты нісусьветныя, а што ж ты*

*тут нытварі́ў!* **Мазголенніца** *ж. Што, мазґоліньніца, хвуртучок узноў мыць нада?*

**Мазголіць** *незак.* Квэцаць, пэцкаць, мазаць. *Цэлый дзень сяньня мазґоліла сьцены, троху пызымáзывыла пазы́, шчэліны.* **Мазголіцца** *незак.* Квэцацца, пэцкацца, мазацца. *Зыбяpi місычку, яны будуць ду пуўдня мазґоліцца, ня столька зьядуць, сколька рысквáклюць.*

**Мазіла** *н.* 1. Мазь, раствор для замазвання. *Вун твой чыряпок з мазілым за ступыю стаіць.* 2. Квач, пэндзаль. *Вазьмі-ка мазіла ды другей раз прайдзі пы сьцяне зьверьху.*

**Мазілка** 1 *ж.* Квач, пэндзаль. *Січас ні пыбягіш купляць, зьдзелый якую мазілку, нукруці тряпку ны канец і ладна будзіць.* 2 *м.* і *ж.* Няўмека. *Не, ня сьпец ты, мазілка, во глядзі, як я пыддам, ніхай бегыюць зы мячыкым.*

**Мазкатанне** *н.*, **мазкатня** *ж.* Грукат, стук. *Так ныдаела тваё мызкытáньня, ажно ў гылаве тряшчы́ць ац стýкыту. Я іх січас пырызгыняю зь іх мысьцяреньнім, ета ж нада такую мызкатню́ пыдняць.*

**Мазкатаннік, мазкатун** *м.* Той, хто грукае, стукае. *Крепка ўзяліся мызкытáньнікі, мысьціря́ць нешта, кылі пальцы ні пыдбівáюць. Што тут наш мызкатýн клепіць, пальцы ішчэ ні пыббівáў, цэлы?* **Мазкатанніца** *ж. Ну ніхай мальцы з мылатком, дык і йна мызкытáньніца нешта стукыіць, дзелыіць.*

**Мазкі** *мн. груб.* 1. Мазгі. *Ні варюць у цябе мазкі, чылавек, ніскалька.* 2 *перан.* Галава. *Нашто ў цябе мазкі ны плічах, кылі ты нічога думыць ня хочыш.*

**Мазком, мазочкам** *прысл.* Злёгку пацягваючы венікам (парыць у лазні). *Ён дужа ня сьцёбыіцца, ня любіць, усё мазком, мазком. Ты яго крепка ні парь, мазочкым трошку венікым пыгладзь, ато рысьпішчы́цца.*

**Маканне** *н.* Мачанне. *Як ты посьлі мыкáньня, аблізывыісься, хырашы бліны с салым?*

**Маканнік** *м.* Той, хто мачае. *Мае мыкáньнікі жыва спруўля́юцца, чугунок бульбы атварю́, скыўрадў сала пыстаўлю — у мінуту пыдмятýць.* **Маканніца** *ж. Нешта мыкáньніца твыя губы надýла, ня хочыць бліноў сы сьмітаныю.*

**Макануць** *зак.* Макнуць. *Мыкані во пару разоў, на дне трошку сьмітаны астáлыся, а большы німа.*

**Макдзіліён** *м. жарт.* Велізарны лік. *Ну як жа, Гы-*

*рас быў грымацей, ён усігда шчытаў: сіксіліён, ма́кдзіліён, хру́ктыліён.*

**Макрацішча** *ж.* Вялікая макрата. *Ны дваре мыкрацішча, а йна у ту́хількых вупруўля́іцца,— боты нада ныдзіваць.*

**Макраццё** *н.* 1. Мокрае, дажджлівае надвор'е. *Не ўжо, я такім мыкрацьцём нікуды ні пайду.* 2. Набраклыя вадой рэчы. *Прусушы́ сваё мыкрацьцё, разьвесь нат коміным, можна на шост на печы уськінуць што.*

**Макрэнне** *н. адзінк.* Набраклыя вадой рэчы. *Усё макреньня кінуў кучыю і ніхай выляіцца, прібірай за ім кылі хочыш.*

**Малавумна** *прысл.* Безразважна, па-дурному. *Кромі цябе так мылаву́мна ніхто ня зьдзелыіць.*

**Малавумнасць, малавумственнасць** *ж.,* **малавумства** *н.* Безразважлівасць. *Ты ўжо хуць сваю мылаву́мнысьць ні пыказывый, сядзь маўчком і сядзі. Ня т розыму, а ат мылаву́мнысьці так гаворіць. Ета аттаго пашоў ны свадзьбу, што мылаву́мствінныcьць у гылаве, — нада ныбраца совісьці нізваныму іціць! У цябе ў сымаго мылаву́мства хвыта́іць і нечыга пру другіх гывaріць.*

**Малавумнік** *м.* Неразумны чалавек, дурань. *З вашым мылаву́мнікым ніхто і рызгыварівыць ні станіць, а ня то зь ім іціць куды.* **Малавумніца** *ж. Мылаву́мніца тріпанець што хочыш, іна загыдзя ні падумыіць ні ра́зу.*

**Малавумственный** *прым.* Неразумны, безразважлівы, дурны. *Мы ня думылі, што твой зяць такей мылаву́мствінный, як ён можыць гывaріць пра сена, ежылі нічога ня відзіў.*

**Маладжэнне** *н.* 1. Спроба паказаць сябе больш маладым. *Яму ішчэ мыладжэньня на ўме, зубува́іць пра ўнука.* 2. Амалоджванне. *Ета, гывaрілі, нейкій доктыр у горыдзі паехыў ны мыладжэньня і памёр.*

**Малалесіца** *ж.* Малалессе. *Пісала, што жывуць яны некуды пацьсьцепы, у іх тама мылалесіца.*

**Маламоцна** *прысл.* Небагата. *Хто жыў мыламоцна, тэя ні ўпіра́ліся, ахотня ішлі ў калхоз.*

**Маламоцнасць** *ж.* Беднасць. *Мыламоцнысьць у яго была таго, што ня дужа быў рыстаропін, пыспаць любіў, а пыработыць ні стряміўся.*

**Маламоцный** *прым.* Небагаты. *Яго хызяйства шчыталыся мыламоцным, тыкі і праўда, нічога ў яго дужа ні було.*

**Маласілле** *н.* Слабасць. *Чуць ногі цігаю, саўсім нейкыя мыласільля. У горыд — здарой, а пыка́шывыць — мыласільля.*

**Малахолле, малахольніцтва** 1 *н.* Безразважнасць, дзівацтва, дурнота. *Нечыга ўсякыя мылахольля слухыць, ідзі двору. Ну цябе с тваім мылахольлім! Стой, кылі ныра́віцца, а мне нііньціресна яго мылахольніства.* 2 *м.* і *ж.* Безразважны, дурны чалавек, дзівак. *Мылахольля чылавек, праўды ат яго, забі, ні пачуіш. Ікая ж іна мылахольля, дайжа б ні падумыў, што Мархвіна дычка такою будзіць. Якея там людзі, мылахольніства сыбра́лыся, мае там нагі ня будзіць.*

**Малахольна** *прысл.* Безразважна, па-дурному. *Ніхто б так мылахольна ні прідумыў скызаць, як ты. Ня дзелый мылахольна, сам посьлі пыжалеіш.*

**Малахольнасць** *ж.*, **малахольства** *н.* Безразважнасць, дзівацтва, дурнота. *Мылахольнысьці ў яго дужа многа, во чаго так дзелыіць, разумный ба чылавек сам падумыў, ці прыдываць пастройчыну. Я ж ні вінувата, што ў тваўго зяця мылахольства дужа многа.*

**Малахольнік** *м.* Безразважны, дурны чалавек, дзівак. *Саўсім мылахольнік чылавек, нашто яму було умешывыцца у чужоя дзела.* **Малахольніца** *ж.* *Мылахольніца ты, мылахольніца, ты сваіх дзяцей ні даглядзіш як нада, а яшчэ возьміш чужога дзіцёнка.*

**Малацільшчык, малачэннік** *м.* Малацьбіт. *С аднаго якей мылацільшчык, стукыіць у адзін цэп увесь дзень, а ў яе ніхай ніякія работы ня будзіць — ня выйдзіць. Заві-ка ты мылачэньнікыў абедыць, яны сяньня зымаріліся, пыра́дышна снапоў зьбілі.* **Малацільшчыца** *ж.* *Удзьвюх еткім мылацільшчыцым дык тут і дзелыць нечыга, зу пу́ўдня спра́вюцца. Нылівай крупеню, січас мылачэньніцы прідуць.*

**Малацьбітка** *ж.* Жанчына малацьбіт. *Зымарілыся наша мыладзьбітка, ідзець і вілкі усьлед цягнуцца.*

**Маленнік** *м. жарт.* Той, хто моліцца. *Ты глядзі-ка, яшчэ адзін маленьнік ідзець, во табе й Міця!* **Маленніца** *ж.* *Зь іх ужо й маленьніцы, яны, верна, забылі, як нада ксьціцца.*

**Малёсенькій** *прым.* Вельмі маленькі. *Кідай у тэй тазік, што малёсінькій, піріпылыска́ць нада, а яны тут затру́ць.*

**Малкій** *прым.* Малы. *Ма́лкыга нічога на ногі ні*

*бяры, хадзіць ні судоліііш. Табе каб ня быў ма́лык етый пла́шчык. За дну зіму усе рубашкі сталі яму ма́лкі.*

**Малодка** *ж.* 1. Маладзіца. *У Сьціпана ла́дныя малодка.* 2. Ніжэйшая па вартасці ігральная карта. *Глядзі, якей хітрінькій: кырыля́ б'ець малодкыю, думыіць, я ня ўвіджу, — зьнімай! Памянш.* **малодачка.** *Ішчэ табе малодычку! — старуха ладна будзіць. Поўныя рука малодычык.*

**Малонне** *н.* Мліва. *Дывай я сам пукручу́, ато с тваім малоньнім мы тут зыначу́ім. Сьпіць посьлі малоньня, ні так даўно пріехыў.*

**Малочай** *м.* Малачай. *Засеў пы гріда́х малочый як шчотка, ты яго рьвеш, ірьвеш, а ныза́ўтріга узноў вы́ліз.*

**Малошнік** *м.* 1. Ахвотнік да малака. *Ён у мяне малошнік, сала ня есьць, дайжа к роту ні падносіць.* 2. Зборшчык малака. *Яго малошнікым ні ызна́чуць, такога гультуя́.* 3. Маладая істота, выкармленая малаком. *Пырыся́тык малошнікыў жыва раску́пюць. Памянш.* **малошнічак**. *Малошнічык мой пры́гыіць і мычы́ць, каб скарей паіла.* **Малошніца** *ж. перан.* Карова. *Хадзі, хадзі, мыя малошніца, я табе хлеба пріпісла.*

**Малошня, малошная** *ж.* Прыёмны пункт малака. *Мы тады мылако здывалі пряма ў малошню, дылікува́та, ну насілі. Міхалкіна хата неік аста́лыся пыд малошныю, ён прыда́ў, а сам піряехыў у горыд.*

**Мальства** *н.* Малы ўзрост. *Ні глядзіць ны ма́льства, пысылаіць унукыў і скот пыпа́сьвіць, і травы пырыся́тым сыбраць. З ма́льства к рабоці пріву́чыны.*

**Мальчына** *м.* Хлапчук. *Ны пыгляд большый — Мітрыхваный мальчы́на, а меншых я ўжо ні пызна́ю. Памянш.* **мальчынка.** *Пуслухмя́ный мальчы́нка, я пыпрасіў к Сямёну зьбегыць, січас паслухыў.*

**Малюпенькій, малюпенечкій** *прым.* Вельмі маленькі. *Нукулупа́лі нейдзі малю́пінькіх казельчыкыў, дык во сяджу́, пірібіра́ю. Ні лазь, ня тры ціціві́, тама малю́пінічкія гурочыкі, тольки зывя́зывыцца сталі.*

**Мамрук** *м.* Надзьмуты, незадаволены чалавек. *Нейкій мамрю́к стаў, раншы ён ня быў такей. Усігда ходзіць як мамрю́к, губы наду́ўшы. Узмацн.* **мамручына.** *Зыда́ўся мумрючы́на, зь ім слова ні прідумыіш, як скызаць. Павеліч.* **мамручышча.** *Нейкій зьдзелыўся мумрючы́шча, пы-чылавечыску ні скажыць, буркніць і пашоў.*

**Мамручка** *ж. Нешта стыяла Пёкла з мамрю́чкыю тою зь вірямеі́ўскыю.*

**Мамрукаватый** *прым.* Надзьмуты, незадаволены. *Троху мумрюкува́тый, ну алі ж айдзе ты луччыга на́йдзіш, пупыда́іцца, дык ніхай бярець.*

**Мамылістый** *прым.* Надзьмуты. *Мамы́лістыя дзяўчонка, ужо шысна́ццытый год, стыдна такою быць.*

**Мамыліцца** *незак.* Дзьмуцца, крыўдзячыся і прымаючы непрыступны выгляд. *Нечыга мамы́ліцца, села і еж, я табе січас прісма́кі буду із-зы граніцы выпісывыць.*

**Мамыля** *м.* і *ж.* Надзьмутая асоба. *С такою мамы́лію трудна рызгыварівыць. Памянш.* **мамылька.** *Ай, нейкій мамы́лька, ізь яго слова ня вы́цігніш. Павеліч.* **мамылішча.** *Гадоў сімнаццыць хлопцу, а нейкій мамы́лішча, як кра́сныя дзевіца.*

**Мамырастый** *прым. іран.* Надзьмуты, замкнуты, капрызны. *Будзіць такей самый мамы́рістый, як тата, уся ўхва́тка та́тыва.*

**Мамырына** *м.* і *ж. іран.* Надзьмутая, замкнутая, капрызная асоба. *Во яшчэ другей мамы́ріна, як яго толька жонка церьпіць.*

**Мамырыцца** *незак. іран.* Дзьмуцца, капрызнічаць. *А йна ўсігда мамы́ріцца, ці ета первый раз, мы ўжо дос наглядзіліся.*

**Маразюга** *м.* Вельмі моцны мароз. *Во мыразю́га бярецца, зімля пасьці ні прісы́пына, можыць усё пымарозіць.*

**Мардалысый** *прым. зневаж.* Непрыгожы, брыдкі. *Мне твой мырдалы́сый кывалер ні нада, сыма йдзі зы яго, кылі ён табе харош.*

**Марзанне** *н.* Біццё. *Ня дужа я спужаўся яго мырза́ньня, ніхай паспробыіць пацскочыць.*

**Марзаннік** *м.* Той, хто пагражае ўдарыць. *Ух, мырза́ньнік найшоўся, глядзі, каб сымаму́ скарей ні пупа́ла.*

**Марзануць** *зак.* Ударыць (звыч. па твары). *А во так будзіць: мырзану́ць хырашэнька, пірякру́ціcься і пойдзіш.*

**Марзёкала** *м.* і *ж.*, **марзёканнік** *м.* Той, хто квэцае, пэцкае. *Другей марзёкыла ўзяўся пымыгаць, паможыць як хваробі кашыль. Ну чаго ж ты еткыя марзёкыла расьцеш, за што ня возьмісься, усюдых у цябе рукі ня ў тэй бок слу́жуць. Ладный жа сь цябе марзёкыньнік,*

*рубашка ўся зымазґоліна, пірімувáць нада.* **Марзёканніца** *ж. Адна пініда дною марзёкыньніцы як узяліся, дык яны па вушы бульбыю вы́мызыліся.*

**Марзёканне** *н.* Квэцанне, пэцканне. *Ну пыглядзі ты ны яе марзёкыньня: бярець бýльбіну, у сьмітану мыкáіць і пу тубуреткі возіць,— дай пу руках.*

**Марзёкаць** *незак.* Квэцаць, пэцкаць. *Нечыга мне тут марзёкыць, я й бісь цябе так дзелыць умею.* **Марзёкацца** *незак.* Квэцацца, пэцкацца. *Я б ішчэ ні знаю, сколька б яны марзёкыліся лі таго чугунка, дык я атыбрáла.* **Марзёкнуць** *зак.* Паквэцаць, папэцкаць. *Марзёкнула, марзёкнула — пыбяліла, нызывáіцца, печ: як стыяла грязныя, так і асталыся.* **Марзёкнуцца** *зак.* Паквэцацца, папэцкацца. *Ты нейдзі лі дзёхцю марзёкнуўся, ета дзіхцівáя пляма, зразу відна, што дзіхцівáя, яе ня дужа чым шчы́сьціш.* **Марзёканый, марзёкнутый** *дзеепрым. Пріходзіць учора: пінжачок марзёкыный, штанёнкі дайжа ні пызнаіш якея,— айдзе ты быў? — Гулялі. Рукаў у нейкыю смалу марзёкнут, ні ччышчáіцца.*

**Марзёпа, марзёпка, марзёпала, марзёпкала** *м.* і *ж.,* **марзёпаннік, марзёпканнік** *м.* Той, хто квэцае, пэцкае. *Такога марзёпу ні пірявýчыш і ні пірядзелыіш, урадзіўся еткій. Што ты зь яе хочыш, ізьвесныя марзёпа. Што ж тут наша марзёпка дзелыіць? — ого, як рузукрáсілыся! Марзёпыла ты, марзёпыла, ці відзіш ты, у што твой пінжáк пызадзелын, разьві ты ня можыш трошку акуратнейшым быць. Такога марзёпкылу ішчэ сьвет ня відзіў, за што ня возьміцца, увесь вы́мыжыцца па вушы. У марзёпыньніка абычáйныя работа: налёпыіць, налёпыіць як зря, а ты тады хадзі ўсьлед за ім, прібірáй. Табе етыя марзёпкыньнікі надзелыюць, памогуць, будзіць паможына.* **Марзёпанніца, марзёпканніца** *ж. Зразу відна, што марзёпыньніца узілася за дзела: зыквáкліны і сьцёклы, і пыдвáлкі, і ны масту гліна кучымі нылáпына. У марзёпкыньніцы і кохта залепліна, і нос у грязі, толька вочы блішчáць.*

**Марзёпанне, марзёпканне** *н.* Квэцанне, пэцканне. *Ні работа, а марзёпыньня, гліна ня вы́мішына як нада, лепіць, а йна нызад вáліцца. Мне марзёпкыньня ні нада, калі бяресься дзелыць, дык дзелый па-людзку.*

**Марзёпаць, марзёпкаць** *незак.* Квэцаць, пэцкаць. *Ні марзёпый-ка ты стыла с тваёю ядою, прігніся ныц скыў-*

*радою ды вазьмі скварку ў рот. Хвáціць марзёпкыць, цеста і так ужо ладна пірямешына.* **Марзёпацца, марзёпкацца** *незак.* Квэцацца, пэцкацца. *Сколька ты будзіш зь естыю шáічкыю марзёпыцца, скрібанула троху і ладна. Усё раньня марзёпкылыся з блінамі, троху сьпіклá, нейкія ня дужа зыдáшныя.* **Марзёпнуць** *зак.* Паквэцаць, папэцкаць. *У нешта клейкыя марзёпнуў бок, усё дно як клей нейкій, і ні цьцірáіцца.* **Марзёпнуцца** *зак.* Уквэцацца, упэцкацца. *Тута астыражней нада, марзёпнісься аб якую бочку, тады нічым ні ататреш.* **Марзёпаный, марзёпканый** *дзеепрым. Уся пасуда марзёпыныя, мыць нада, бальшýха ж шчытáіць ніжы сябе посыд упырáччыць. Ужо і вязёнкі марзёпкыныя, як жа ты надумыўся іх у дзёгыць уперць.*

**Марзянка** *ж.* Намарожаны знізу лубок для коўзання зімой. *Мы, як малыя былі, усігда мырзя́нкі дзелылі, зьдзелыім і пашлі ны гару. Памянш.* **марзяначка.** *Лоўкінькыя мырзя́нычка, як разгонісься, стрялою ляціць.*

**Маркасць** *ж.* Бруд, забруджанасць. *Ён красівый мыцірія́л, ну ўжо нейкій нежнінькій, на ім мáркысьць будзіць дужа відна.*

**Маркатанне, мэрканне** *н.,* **маркатня** *ж.* 1. Ціхае бляянне. *Нейкыя мыркытáньня ну лужку, ці ні абначы́ліся воўцы тама? Ніякыга я мэркыньня ня чую. Усё дно як ікая-то мыркытня́ зу гумном.* 2. Мармытанне. *Ні словічка ні рызьбярý у яго мыркытáньні. Ныдаела мне яго мэркыньня, усё ні па ём. Мы абея нічога ў яго мыркатне ні пынімаім.*

**Маркатаць, мэркаць** *незак.* 1. Паціху бляяць. *Аўца маркочыць зь ігня́ткымі, каб далёка ня беглі адны. Аўца з мáлінькімі ігня́ткымі усігда так мэркыіць.* 2 *перан.* Мармытаць. *Нешта мыркытáў пра нейкія дровы. Чаго ён там мэркыў як казёл, я ўсё пылажыла на места.* **Маркатнуць, мэркнуць** *зак.* 1. Паціху забляяць. *Аўца мыркатнець, ці цэлы ігня́ты, а тады ўзноў маўчыць. Бырáн мэркнуў, а тады сьціх.* 2. Мармытнуць. *Нешта мыркатнуў сабе пад нос, яго ні разу ня пойміш, што ён скажыць. Мэркніць сам сабе і пашоў, дужа ні пыгаворіць.*

**Маркатун** *м.* Мармытун, той, хто невыразна гаворыць. *Такей ужо мыркатýн, як зывядзець, слова ня пойміш. Памянш.* **маркатунчык.** *Мыркатýнчык мáлінькій нешта хочыць скызаць.* **Маркатуха** *ж. Ты луччы сваю*

*мыркатўху слухый, іна табе ныгаворіць. Памяни.* **маркатушка.** *Нясі-ка, нясі сваю мыркатўшку, пакажы.*

**Мармыль** *м.*, **мармылька** *м.* і *ж.* Чалавек з невыразным вымаўленнем. *Мырмыля узіла сабе, турлычыць нешта, ні рызыбраць што. Скажы-ка ты мармыльку свайму, ніхай уніміцца дзяцей дражніць. Прівёў сабе якуюто мармыльку,— хызяйка ў хаці. Памяни.* **мармылёк, мармылёчак.** *Ужо пяць гадоў, а ён мырмылёк нейкій, нізашта ні рызьбяреш гаворкі. Што ты турлычыш, мырмылёчык малінькій? Узмацн.* **мармыліна.** *Яго і так ня дужа рызьбяреш, а ўжо як надмецца мармыліна, нешта бўркніць і пашоў. Павеліч.* **мармылішча.** *З мармылішчым пыгыварі папробуй.*

**Марудства** *н.* Маруднасць. *Я ні ў якім дзелі марўдства ні люблю, кылі ўзяўся — дзелый, а ня хочыш, дык ні бярíся саўсім.*

**Маруськанне** *н.* Падзыванне каровы словамі «марусь-марусь». *Прінясі ськібычку хлеба, іна і біз марўськыньня будзіць к рукам бежч.*

**Маруськаць** *незак.* Падзываць карову словамі «марусь-марусь». *Сколька ні марўськый, іна ў клевір кытанець, пастылыя карова.*

**Масленка** *ж.* 1. Масленіца. *Па-мойму, Цімох ны мáсьлінку зыхадзіў к нам, большы мы яго ня відзілі.* 2 *перан.* Прывольнае жыццё. *Скора табе мáсьлінка кончыцца, зыпрягесься ў работу. Ня ўсё кату мáсьлінка, будзіць і вялікій пост.*

**Масленне** *н.* 1. Намазванне, паліванне маслам, смятанай, тлушчам. *Якоя ж ета мáсьліньня — ложка сьмітаны на міску бліноў.* 2 *перан.* Пялегаванне, песты. *Мáсьліньнім толька бáлыіш дзіцёнка, ніхай пысядзіць сам, а ты яго з рук ні спускáіш.* 3 *перан.* Давядзенне да дасканаласці. *Ня столька тае работы, сколька мáсьліньня зь етым грыбяльнішчым.*

**Масленнік** *м.* Той, хто масліць. *Во ета мáсьліньнік, сала наліў большы чым ладык у міскі, як ты есьць будзіш.* **Масленніца** *ж.* *Ты ўжо скарей кыпашыся, мáсьліньніца, уремя ня церьпіць.*

**Масліць** *незак. перан.* 1. Пялегаваць, песціць. *Пряма ні знáюць, як етыга дзіцёнка мáсьліць, бегыюць кругом яго: унўчычык, унўчычык, — аж трясўцца.* 2. Даводзіць да дасканаласці. *Ён ужо такей: кылі возьміцца зы грáблі, кажный клечык мáсьліць, мáсьліць дый*

*мáсьліць большы некуды.* **Масліцца** *незак. перан.* 1. Вазіцца, песціцца. *Калі ты пірістáніш зь ім мáсьліцца?* 2. Даводзіць да дасканаласці. *Сколька б ты зь естыю карзінкыю мáсьліўся яшчэ?* **Маслянуць** *зак.* Памазаць. *Печ у мяне няплоха пыбялілыся, нада було і сьценку кыла посыду мысьлянýць.* **Маслянуцца** *зак.* Памазацца, замазацца. *Як будзіш бяліць тую хату, і тут мысьлянецца. Лі нейкыга жыру ты мысьлянýўся.* **Маслянутый** *дзеепрым. Куртычка твыя мысьлянýта айдзе-то кылы машыны.*

**Масоленне** *н.* Важданіна з тлустым, масленым. *Пыдзікýйсь ты ны яго масоліньня, ны каго ета ён паходж стаў.*

**Масоля** *м.* і *ж.* Той, хто важдаецца з тлустым, масленым. *Такей ты нікурáтный масоля, што пряма ні знаю, што с табою дзелыць. Уся замýрзыныя масоля, на лбу і то сала блішчыць. Памянш.* **масолька, масолічка.** *Сядзіць масолька с косткыю, увесь замýрзыўся. Што табе яшчэ даць, масолічка мыя?*

**Мастачаный** *дзеепрым.* Роблены выключна, надзвычайна. *Канешня, ета Пынаськыю мыстáчына, худзь ба ні хацей, дык пызнáіш.*

**Масціць** *незак. перан.* Даваць у масць (пры гульні ў карты). *Ты мне кажын раз мосьціш, як пойдзіш, так і ў масьць.* **Масціцца** *незак.* 1. Рабіцца (пра падлогу, насціл з дошак). *Ня дужа нешта ў цябе мосьціцца.* 2 *перан.* Давацца ў масць (пры гульні ў карты). *Як жа ня будзіць масьціцца, калі ў мяне ўсякія мáсьці пойна, ды адны малодкі.*

**Масцярыха** *ж. звыч. іран.* Жанчына-майстар. *Ізыкáмі яны харошыя мысьцяріхі, усё пірядзелыюць, толька як возьмуцца за што, дык рукі ні туды слýжуць.*

**Масцярэнне** *н.* Майстраванне. *Такоя мысьцяреньня мне саўсім ні нырáвіцца, па мне, кылі дзелыць, дык каб усё було пыдыгнáна як яечка.*

**Маталыга, масталыга** *м.* Хітрэц, круцель, падманшчык. *Як ты паверіла таму мыталыгу, сколька ён дзевык пыдмыняў: прідуць, гарелку вып'юць, а нызаўтріга сьмяюцца. Ты бірягіся етых мысталыг, яны што хочыш утворюць. Узмацн.* **маталыжына, масталыжына.** *Сьвет такога мыталыжыны ня відзіў, усё скрýціць. Ты думыіш, хто ета сытваріў,— Іваный мысталыжына, бізь яго дзела ні абыйшлося. Павеліч.* **маталыжышча, масталы-**

**жышча.** *Мыталы́жышча быў і аста́ніцца на́вік такім, ня верь яму ні на грош. Чаго ён такей мысталы́жышча зыда́ўся?*

**Маталыжанне, масталыжанне** *н.* Круцельства, падман. *Я ны мыталы́жыньня дужа ні люблю глядзець. Ты сваё мысталы́жыньня другім пыказывый, а мне ні нада.*

**Маталыжыць, маталыжыцца, масталыжыць, масталыжыцца, маталыжнічаць, маталыжнічацца, масталыжнічаць, масталыжнічацца** *незак.* Займацца круцельствам. *Работыць ні хацелі, мыталы́жылі, коні езьдзілі пы дзіры́ўня́х лячыць, выражы́ць пробывылі, — пыдмыня́лі людзей. Хто яго знаіць, айдзе ён, па сьвету мыталы́жыцца, доўга нійдзе ні задзержыіцца. Мысталы́жыць ён сьпіцыяліст луччы некуды. Пірістань мысталы́жыцца, пакуля цябе ні праўчы́лі як нада. Як табе ня стыдна мыталы́жнічыць, ці цябе бацька з маткыю учылі етыму. Ладный хлопіц быў, а тады пашоў мыталы́жнічыцца, скруціўся. Ета ты думыіш усё ўремя так мысталы́жнічыць? — не, забудзь ны такоя. Айт, што пры яго тулкува́ць, ён усю жызьню мысталы́жнічыўся.*

**Матаннік** *м.* Той, хто матае, намотвае, матальшчык. *Ён у мяне мыта́ньнік луччы старога, ся́дзіць і ўсё пірімыта́іць ны мытавіла. Памянш.* **матаннічак.** *Нічога быў ба мыта́ньнічык, каб ні ляніўся.* **Матанніца** *ж. Ты, мыта́ньніца, ні лухту слухый, а скарей кынчай, ато зыначуіш зь віряцёнымі.*

**Мататоранне** *н.* Кешканне. *Я доўга іхным мытаторіньнім любувацца ня буду, жыва іх вы́прыўлю.*

**Мататорыцца, маторыцца** *незак. рэдкаўж.* Кешкацца. *Чаго яны столька ўремя мытаторіліся, ета прівычка тыкая ў людзей. Яго ні пыдгані, будзіць ныд вярёвычкыю пуўдня маторіцца, дывадзіць да цўґу.*

**Матузанне, матужэнне** *н.* Лупцоўка матузамі. *Було б яму увечыры мутуза́ньня,— уцёк, у каноплі схувайся. Ня дужа яны спужаліся твайго мутужэньня.*

**Матузаць, матузіць** *незак.* Лупцаваць матузамі. *Мала яго ма́ліңькыга мутуза́лі, паетыму і неслух такей зыдайся. Учора за нешта свайго меншыга мутузіла, іна іх дзяржыць у руках, ні даець распу́сты.* **Матузнуць** *зак.* Лупянуць матузамі. *Як мутузну́ ціряс плечы, дык і паедзіш на месьці, дам табе спакой і ўгамон.*

**Маўчака, маўчаком** *прысл.* Моўчкі. *Пракоп пытха-*

*дзіў, толька муўчыка́ пыстыяў трошку, ня ўмешывыўся. Ён усігда муўчаком, яго голыс дайжа редка калі пачуіш.*

**Маўчанка** *ж.* Праднамеранае маўчанне. *Ні спасець яго муўча́нка, бацька зыста́віць пра ўсё рыскыза́ць, — ета ж нада дупусьціць такоя балыўства!*

**Маханнік** *м.* Той, хто кідае, шпурляе, размахвае. *Етыя мыха́ньнікі дудура́чуцца, што ў вакно каторый пупадзець палкыю. Памянш.* **маханнічак.** *Ох ты, мыха́ньнічык, пыціра́іш ключ і ні найдзіш.* **Маханніца** *ж. Сь цябе ўжо мыха́ньніца, палка ня ў тэй бок ляціць, куды нада.*

**Махініна** *ж.* Вялікая рэч, пабудова. *Такую махініну разьвёў, душ ны пітна́ццыць, у такой хаці сьмела дзьве сям'і памесьцюцца. Павеліч.* **махінішча.** *Глянула на тэя пастройкі: ай-я-яй, махінішчы, пуўраёна скоту можна пыста́віць.*

**Махлаватый** *прым. неадабр.* Бяздумны, ветраны. *Мухлува́тый ты чылавек, разьві ж ба хто прідумыў, пірідзіржа́ўшы зіму, прыдываць карову. Памянш.* **махлаваценькій.** *Ён нічога жаніх, мухлува́ціинькій трошку, што ж ты зьдзелыіш.*

**Махнацік** *м.* Махнатая жывёла, птушка. *Якей жа ў цябе красівый сыбачка — мыхна́цік, во каб мне такога пупасьць айдзе, я ўзяў ба.* **Махнатка** *ж. Завёў нейкыю новыю пароду курей — мыхна́тык. Памянш.* **махнатачка.** *Мыхна́тычка кошычка, дужа красівінькыя, нам ба такую.*

**Мацярэнне** *н.* Лаянка, мацюканне. *Не, яго нада атаўчы́ць ат етыга мацяреньня, што йта зы рызгавор: усё мыцірі́ком і мыцірі́ком.*

**Мачоный** *прым.* Мочаны, размочаны. *Мачоныя каноплі пат крышу ставюць, яны вы́мірзнуць, вы́сыхнуць. Мачоныя яблыкі редка калі ўдаюцца смашнымі.*

**Машараванне** *н.* Бесцырымоннае распараджэнне, гаспадаранне. *Я дам яму спакой зь яго мушурува́ньнім, хызяін такей-то найшоўся.*

**Машкарэзь** *ж.* Машкара, заядзь. *Мышкарезь як нывáліцца на скот, спасу німа, хуць ні гыняй у кусты.*

**Машынка** *ж.* 1. *Памянш.* ад машына. *Во табе й Напреіхін зяць: ны машы́нкі рызыіжджа́іць.* 2. Металічная частка лямпы, у якой умацоўваецца кнот. *Нешта ма-*

*шынка ў лампі спорцілыся, круціш, круціш, кнот ні туды ні нызад ня йдзець.*

**Машэнстваваць** *незак.* Займацца машэнствам. *Ні нада машэнствывыць, дык і людзі ня будуць клясьць.*

**Меншанне, мененне** *н.* Змяншэнне, памяншэнне. *Я табе нічога ні гыварій пра меншыньня, што ты прідумывыіш. Я тута ня віджу меніньня, у етый бочычкі було ні дасыпына на чэцьвірць жыта і січас столька ні хвытаіць.*

**Меншаный, мененый** *дзеепрым.* Зменшаны, паменшаны. *Меншыный пінжачок. Я прасіла, каб ён укруціў лампу, а прышынаюся — і агонь ня менін, і ён сьпіць ныц сталом.*

**Мераннік, меральшчык, мершчык** *м.* Той, хто мерае. *Сам ба ўзяў шыгала ды памерій, ато етыя меріньнікі намеріюць табе, яны шчытаюць і гаворюць. Заўтря будуць хадзіць мерільшчыкі, піріміряць. Дужа далёка твае мершчыкі, у Полькі ны ґанкых курюць.* **Меранніца, меральшчыца, мершчыца** *ж. Ну пуўгіктарі намеріла двацыцьць сотык, во ікая зь яе меріньніца. Ішчэ памножыць хырашо ня ўмеіць, а ўжо мерільшчыца бярецца. Адна мершчыца прістала ўжо, зымарілыся, аддыхаць села.*

**Мератый** *дзеепрым.* Мераны. *Мерітыя бірнушкі адзьдзельна склыдай. Мерітыя я зыпішу табе, а астатнія ураньні замерію.*

**Мерзляццё** 1 *н.* Змерзлыя рэчы, прадметы. *Ты хуць сьнег трошку аббі с курчыг, нынясеш мірзьліцьця ў хату, аттаець і пыдз загнетым лужа стаіць усігда.* 2 *м.* і *ж.* Асоба, якая мерзне, баіцца холаду. *К старысьці мірзьляцьцё станіш, сколька ні ныпрятыісься, усё табе халодна.*

**Меркаваный** *дзеепрым.* Размеркаваны. *Зь етыга боку міркуваныя участкі, а туды заўтря пойдуць глядзець. Ячмень дывалі ну трудадні, а пышаніца ішчэ ні міркувана.*

**Метляваць** *незак.* Абкідваць ніткамі. *Мітлюваць хырашо іна ішчэ ня можыць, ну трошку пыправіць.* **Метлявацца** *незак.* Абкідвацца ніткамі. *Ні хвытайся, дык яно і мітлювацца будзіць лучы, раўней палучыцца.*

**Метный** *прым.* Прыметны, адметны. *Наша карова дужа метныя, ні ш чыёю ня спутыіш. Памянш.* **метненькій.** *Метніенькія мяшочыкі, я іх айдзе хочыш пызнаю.*

**Мехам, мяшком** *прысл.* Поўнасцю (знімацца, ві-

сець). *Кіпятком лінуў ны нагу, кожа мехым зьлезла. Левый бок у рубашкі мяшком атвісáіць.*

**Мешань** *ж.*, **мешанне** *н.* Другое ворыва. *Пышаніцу нада па мешыні сеіць. Дужа мяккыя мешынь, пряма як пух зімля. Па мешыньню у тýхількых ня пойдзіш, абыйдзі кругом.*

**Міжвоканне, міжваконне, междувоканне, междуваконне** *н.* Сценка паміж вокнамі, прасценак. *Міжвокыньня ня дужа крепкімі палкымі зыклáджына, пыдапрелый лес. Жалка ны міжваконьня резыць длінныя доскі, туд ба і абрезкі якея пашлі кароцінькія. Што ты дужа дзелыла, за цэлый дзень міждувокыньня зымáзыла гліныю, тута ны адзін час работы. Зьнізу зялёным пыкрáшына, а міждуваконьня ён хочыць другою краскыю красіць, ці будзіць ета красіва.*

**Міждарожжа** *н.* Прастора, поле паміж дарог. *Міждарожжа тут нібальшэй кусочык, яно ні рáзу ні пыхáлыся, у харошыя гады касілі троху.*

**Міжперсніца** *ж.* Хвароба накшталт каросты. *Памойму, у яе міжперсьніца, ета нада ґ доктыру звазіць, каб мазі якея даў.*

**Міжсобка, междусобка** *ж.* Міжусобіца. *Ай, у іх дайно ета міжсобка вядзецца, дайжа ня помню, ш чаго пычалося. Там міждусобка цягніцца ужо гадоў двацыыць, пычалося ўсё, як ішчэ Сашка быў жыў.*

**Міжсобкаю, междусобкаю** *прысл.* Міжусобна. *Есьлі яны міжсобкыю зыв'яліся, чаго було другім улізаць.Ніхай яны пыгаворюць міждусобкыю, а ўмішáіцца хто, дык ішчэ напорціць можыць.*

**Мікала** *н. жарт.* Цялё, карова. *Мікыла тваё крічыць, нясі піць скарей.*

**Мікнуць** *зак.* Прамычаць коратка, адрывіста. *Кыла коп цялёнычык мікнуў, ці ня ўсе яны тама, у кыпáх.*
**Мікнуцца** *зак. Зал.-бессуб'ект. ад* мікнуць *Мікнулыся нешта карові спрасонку, можа клевір сьніцца ці вярёўка можа.*

**Мінанне** *н.* Абмінанне. *Якоя ж ета мінáньня, калі ты восьсю за шула чыпляісься, шула цэла будзіць, а вось можыць крэхнуць.*

**Мінутаю** *прысл.* Хутка, за мінуту. *Ты мінýтыю атвернісься у горыд, а мне плашы́-ка зьбірацца ды цягнуцца туды.*

**Мінушчый** *прым.* Мінулы. *Мы ж відзілі Шурку, у*

*мінўшчыю суботу быў тут. Што ўжо мне пымінáць мінўшчыя! Мінўшчыя дзела, ну ета ўсё вы́думка, нічога ён ні гывáрíў.*

**Міргунь** *выкл. дзеясл.* Пра аднаразовае морганне. *Коля мірьгўнь Сашкі і пашоў, іна мінутку пысядзела і дзеўкым: я пайду двору — і за дзьвері.*

**Мірыцель, мірыльшчык** *м. жарт.* Той, хто мірыць. *З Навума ніплахей міріціль, ён, хочыш, сам людзя́м чубы́ зьвядзець. Як бягіць, бягіць Андреіў мірільшчык: што тута каму нада?* **Мірыцелка, мірыцельніца, мірыльшчыца** *ж. Січас другая міріцілка прібягіць, вун іна ўжо трясець тряхольлім, ажно пыл усьлед пыднімáіцца. Сь цябе, акáзыіцца, ніплыхáя міріцільніца, так яны шубуцелі, а ты іх скорінька успакоіла, цябе нада ўсігда звáць. Січас другую мірільшчыцу як пызавўць, зразу пырядык станіць.*

**Мітанне** *н.* Мільганне. *Табе прідаецца, ніякыга мітáньня я ня віджу і хто там можыць быць.*

**Мітацца** *незак.* Мільгаць. *Ты ж прігледзься хырашэнька, тама нехта мітáіцца, во січас за кўсьцікым чуць відзін, ці ня косіць хто.*

**Мітульжэнне** *н.* Мільганне паблізу. *Пріроіцца мітульжэньня, тады прець лухтў, што нехта пы садку ходзіць.*

**Мітульжэць, мітульжэцца** *незак.* Мільгаць блізка перад вачамі. *Каб ты ні мітульжэў тут пірід вычамі, дужа б ладный маліц быў. Табе ў вычах мітульжы́цца, нікога там ны грідáх німа.*

**Мітушэнне** *н.* Мітусня. *Нечыга бегыць бяс толку, тут усё можна бізь мітушэньня зьдзелыць.*

**Мляўка** *прысл.* Млосна. *Другей раз як станіць мляўка, дык ні знаю, куды б дзелыся.*

**Мляўкасць** *ж.* Млосць, млявасць. *Ні знаю, чаго ў цябе мляўкысьць ну душэ, можа с кумою даўно гывáріла.*

**Мляўкій** *прым.* Млосны, млявы. *Від у яго якей-то мляўкій, ці ні зыбалеў жывоцік.*

**Мокі** *мн.* Вымя (?). *Ваша мама прішла, вам есьць прініста: поўны мокі малокі, поўны цыцы вадзіцы* (З казкі).

**Мотуз** *м.* Матуз. *Мотузым тут ні зьвяжыш, дзіржацца ня будзіць, тут ба нада аборінка крепінькыя, тая б дзіржала.*

**Мсліва, імсліва** *прысл.* Помсліва. *Сколька ўремя прайшло, а ён і цяперя мсьліва глядзіць. Дужа мне важна, што яны імсьліва зіркыюць.*

**Мслівасць, імслівасць** *ж.* Помслівасць. *Вот мне важна яго мсьлівысьць, я пры яго і думыць ні хачу. Ні знаіць, куды імсьлівысьць дзіва́ць.*

**Мслівый** *прым.* Помслівы. *Бацька быў мсьлівый і сыны такея самыя халеріны. Памянш.* **мсліверькій.** *Ніхырашо мсьлівінькім быць, ні нада.*

**Мудрэнне** *н.* Мудраванне. *Ніякыга тут мудреньня ні нада, вагу пат корінь зыкладзі ды жымані хырашэнька.*

**Мужыкоў, мужыкоўскій** *прым.* 1. Мужаў. *Мужуковы грошыкі прібра́ла к рукам і рыспыріджа́іцца. Ну мужукоўскім дабре хызяйнічыіць.* 2. Сялянскі. *Вам што, вы ні знаіця, ікая мужукова доля была. Каб яны мужукоўскага хлеба папробывылі, тады б ні кідалі кускі айдзе зря.*

**Муканне** *н.* Мычанне. *Чую, чую тваё му́кыньня, січас нясу поіла, нап'есься.*

**Мукнуць** *незак.* Замычэць. *Карова му́кнула, даіцца завець, іна дужа строґыя: каб у адно ўремя даілі. Ці ета ні наша карова там му́кнула, каб іна там ні атырва́лыся?*

**Муленне** *н.* Мулкасць. *Му́ліньня ўсякыму міша́іць, як жа йціць, кылі нагу трець і трець.*

**Мулчэць** *незак.* Рабіцца больш мулкім. *Чую: пычына́іць мулчэць, я сеў ды пірябу́ўся, каб ні пірябуўся, сьцёр ба нагу.*

**Муравець, муравецца** *незак.* Пакрывацца муравой. *І двары мураве́юць, і садкі зырыста́юць, некыму пріглідаць. Муравеіцца дарожка, як стала цёпла, густа трыва засела.*

**Мурашкін** *прым.* Мурашыны. *Ну лугу́ кажный год мура́шкіных ку́чычык многа, касою як шырханеш, і лупа́ць, і кліпа́ць нада часьцей: клёп сьціраіцца. Памянш.* **мурашачкін.** *Ні нада трогыць, ета мура́шычкіна гнязьдзечка.*

**Мурзалей** *м.* Мурза. *Пылядзі ты на етыга мурзалея, ны каго ён паходж. Ходзіць мурзалей мурзалеім, яму дайжа памыцца лень. Памянш.* **мурзалейчык.** *Якей жа ты стаў мурзалейчык, бягі скарей памыйся. Узмацн.* **мурзалеіна.** *Во мурзалеіна явіўся, дайжа вачэй ня відна, усё ў грязі. Павеліч.* **мурзалеішча.** *Як табе ня стыд-*

*на, мурзалеішча, такей лабрэт, а вымыцца ня можыць.*

**Мурзапон** *м.* Мурза. *Ого, сколька ў етыга мурзапона злосьці, цáцку мáлыя ўзялі, дык біцца гатоў. Паммяниш.* **мурзапончык, мурзапонік.** *Ета ўсе твае такея мурзапончыкі? Мурзапонік ты мáлінькій, мыцца нада кажный дзень. Павеліч.* **мурзапонішча.** *Ну, такога мурзапонішчу няскора ў пырядык прівядзеш.*

**Мурзапоненне, мурзанне** *н.* Мурзатасць. *Ны тваё мурзапоніньня ажно глядзець праціўна, усё дно як мáлінькій дзіцёнычык. Нада зразу пріўчáць, каб акурáтнінька елі, мýрзыньня я дужа ні люблю.*

**Мурзапоніцца, мурзаціцца** *незак.* Мурзацца. *Ніхай ядуць, толька ніхай ні мурзапонюцца, ато іх атмувáць ні спруўляісься. Ядуць і мурзáцюцца, а што ж ты зь імі зьдзелыіш, ложку ў рот, а другую на грýдкі вы́льлюць, пакуль наўчуцца.* **Мурзачаный** *дзеепрым. Ходзіш мурзáчыный, вазьмі мыла ды атмыйся.*

**Мурзач** *м.* Мурза. *Такога мурзычá, як ты, каб і шукаў, дык ныўряд, ці скора найдзіш. Пулюбуйціся, якей мурзáч явіўся сюда.*

**Мурзачы** *мн. груб.* Твар. *Ты сьпірвá свае мурзачы́ ад грязі атмый, а тады пувучáць будзіш, дужа ты любіш усім указывыць.*

**Мурлач, мурлан** *м.* Паўнатвары чалавек. *Мурлач Андрю́шчыхін рысхáджыіцца, ці ня быў у кумоў у гысьцях. Мне ваш мурлáн ня дужа аньціресін, ён ужо ці ні два разы жаніўся, можыця і трецьцію нявесту йскаць.* **Мурлаччо** *н. зб. Тама знаіш, якоя мурлаччо сядзіць, ня дужа пацстýпісься.*

**Мурло** *м. груб.* Чалавек з поўным тварам. *Гатоўся, січас тэй мурло прівылакецца, угышчáйця яго — пріяціль такей-то найшоўся. Узмацн.* **мурліна, мурлаціна.** *Глядзі, ён цябе паслýхыіць, ня дужа на етым мурліні пад'едзіш. Відзілі мы Проськіныга мурлáціну: плечы во, сáжнім ні схваціш. Павеліч.* **мурлішча, мурлацішча.** *Мурлішча іхный пріехыў, дык ні знаюць, як яму дыгадзіць. Ты ня відзіла, якей там мурлáцішча ходзіць — як кыбан, толька пыхціць.*

**Мурлычанне** *н.* Мурлыканне. *А я слухыю, якоя ета тутыцька мурлы́чыньня, катоў, кажыцца, ні було.*

**Мурлычыць** *незак.* Мурлыкаць. *Ён сьпіць, і кошка кылы яго мурлы́чыць. Сядзеў ны ґанкых, нешта мурлы́чыў сабе пад нос.*

**Мурыжыцца** *незак.* Валтузіцца, цярпець пакуты, непрыемнасці. *Месіцы два ён муры́жыу́ся, а тады кіну́у́ ды пашоу́, ікая мне, гаворіць, польза вазіцца зь імі.*

**Мусарына** *ж.* Адно каліва смецця. *То там, то там выля́юцца му́сыріны пы хаці.*

**Мутарыць** *незак.* Прыносіць непакой, прыкрасць. *Я ж віджу, што цябе нешта му́тыріць, ні сядзіцца за кніжкыю, відна, згываріліся бежч куды-то.*

**Мутня** *ж.* Сумніцельныя дзеянні. *Тая мутня́ пычыла́ся ня у́чора, Кузьмянкі дау́но круцілі. Ага, даб'есься ты толку у́ етый мутне, верцюць у любэй бок, як самі хочуць.*

**Мучына** *ж. зніж.* Мука наогул. *Ікая мучы́на была, дык расходывыла, ціпля́тым у бульбу падмешывыла. Пыслала змалоць мяшочык, ну як жа біз мучы́ны у́ дваре. Памянш.* **мучынка.** *Усё пыдгрібла́ і пыдміла́, мучы́нкі ніу́дзе ні аста́лыся, нада везьць на мельніцу.*

**Мушкарджанне** *н.* Муштраванне. *Ня выцірьпіу́ цёшчыныга мушка́рджыньня, зьбег.*

**Мушкардзіць** *незак.* Муштраваць. *Што ты у́сё свайго старога мушка́рдзіш, ён і так у цябе пы адной масьнічыні ходзіць.*

**Муштрау́ня** *н.* Муштроу́ка. *Якей ён быу́ раншы, такей і посьлі твае муштрау́ні астау́ся, ня дужа ты яму што зьдзелыіш.*

**Мушына, мухіна** *ж.* Адна муха. *У мяне у́ хаці за у́сё лета можа адна ікая му́шына пыявіцца, я ім ні даю рызвадзіцца. У мяне му́хіны у́ хаці ні було, кляёнку вадою мытну́, і чысьцінька, сьвежынька. Памянш.* **мушынка.** *Ты глядзі, каб ні му́шынкі ні рызвадзілыся, ета дужа гадысьць.*

**Мшоный** *дзеепрым.* Пракладзены імхом. *У пуні зьдзелыу́ яшчэ мшоныю пуньку, наверьх усяго ныклау́, як столь пулучылыся, курям цёпла у самыя марозы.*

**Мшэнне** *н.* Пракладванне імхом. *Ну што ты, сьмяесься? — хто йта калі хату біз усякыга мшэньня ста́віу́.*

**Мыленне** *н.* 1. Намыльванне. *У яго як пычынаіцца мы́ліньня, дык на цэлый час, доу́га будзіць пылыска́цца.* 2 *перан.* Нерашучасць, сорам. *Ці у́жо гывары, ці нічога ні гывары, некылі мне ны тваё мы́ліньня любува́цца.*

**Мымра** *м.* і *ж.* Надзьмутая, неразгаворлівая асоба. *Ні чылавек, а мы́мря, усё надутый ходзіць. Во табе й мы́мря, такога хлыпца́ атхваціла, ці ета хто ждау́.*

**Мымранне** *н.* Надзьмутасць. *Ён пряма ня можыць бяз мы́мріньня, як індык надмецца і ходзіць, слова зь яго ня вы́цігніш.*

**Мымрыцца** *незак.* Дзьмуцца. *Есьлі ўжо стаў мы́мріцца, толку ат яго ні даб'есься ніякыга, ці мы яго ні знаім.*

**Мыс** *м.*, **мысіна** *ж.* Рог, вугал. *Мыс нейкій ізь мішка тарчыць. Кругом абжата, а тут мыс кінулі, астаўся і астаўся. Ні нада і мысоў кідаць, нада ўсё збры́нкыць. Дывай атпілім ету мысі́ну, ішчэ праб'ецца хто. Ладныя мысі́на тарчы́ць адна, на́ дзінь казьбы будзіць. Памяниш.* **мысок, мысік, мысічак** *м.*, **мысінка, мысіначка** *ж. Тута й мысок такей, ну луччы сьсеч, ня будзіць мішаць нікому. Мысок ат мяжы скасі, луччы будзіць с плугым зывыра́чывыцца. Мы́сік у нажы войстрый як агонь. Нада было мы́сікі ад балота пыджжа́ць. Самый мы́січык пыттачы́ трошку. Лі аборка мы́січык ні дыпа́хын, грязна, конь прыіжджа́іць. Вун пад верхнім бірьвяном мысі́нка, сьцяшы́. Мысі́нка клеверу стаіць, нада б скасіць, каб пагода. На етый мысі́нычкі ні паверніськя с канём, лупаткыю кыпанецца.*

**Мысатый, мысастый** *прым.* З доўгім мысам. *Ета каб дужа мыса́тый нож, задзеў ба туды глубока, можа, пірярезыў ба. Цісаць бярьвеньня дзелыюць сьпіцыяльныя тыпары́ мыса́стыя, імі хырашо браць. Памяниш.* **мысаценькій, мысасценькій.** *Мыса́цінькій ножычык пыцірялі, цяперь нечыга у лес браць, сталовыга ж я вам ні дам. Мыса́сьцінькім ножычкым бульбу ладна скабліць, што нада, узяў і вы́кывырнуў.*

**Мыт** *м.* Бойкае, адкрытае месца. *Ны краю — ета ўсігда ны мыту́, у ноч, у поўныч спакою ні знаіш. Так дренна жыць ны мыту, хто ня йдзець аткуль, усе к табе.*

**Мытнік** *м.* Той, хто мые. *Во ўзяўся мытнік, рубашку сваю мыіць.* **Мытніца** *ж. Ету мытні́цу самую у таз пысадзіць ды вы́мыць хырашэнька.*

**Мытнуць** *зак.* Памыць спехам. *Ты ўсю сарочку ні ныма́чывый, ету пляму трошку мытні ды скарей ны вярёўку на сонца, іна мігым прасохніць.* **Мытнуцца** *зак.* Спехам памыцца. *Яны доўга ні ждалі, мытну́ліся, пы стыкану мылыка зьелі і пабеглі. Мытнецца твыя ху́стычка заўтря.*

**Мышарэзіна** *ж. жарт. іншаск.* Кошка. *Ну й мышарэзіна ж ета, усіх мышэй пірілавіла, к суседзім бегыіць.*

**Мышарэзь** *ж.*, **мышарэззе** *н.* Пасечаная мышамі салома. *Зьверьху нічога была салома, а зьнізу адна мышарезь, у гной толька высыпыць. Ікая ў мяне салома, кучка мышарезьзя, карові пы каплі пыткідаю.*

**Мышаччый, мышын** *прым.* Мышыны. *У клеці нейкій дух мышаччый, пряма б'ець у нос. Мышын сьлед ны сьнягу відзін, яны тут, у гумне, жывуць.*

**Мышына** *ж.* Адна мыш. *Кошка прінясець мышыну, кыціняты і гуляюць зь ёю. Памянш.* **мышынка.** *Мышынкі адна зу другою жыг, жыг між бочкымі.*

**Мядзведзька** *м. жарт.* Мядзведзь. *Мядзьведзька схуваіцца ў саломі і будзіць сядзець, а як ты станіш бáлывыцца, ён цябе хап і зловіць. Памянш.* **мядзведзечка.** *А мядзьведзічка ты мой, у цябе ж саўсім лáпа атвáлівыіцца!*

**Мядзвёдак** *м.* Мядзведка. *Як уеўся мядзьвёдык у капусту, гляджу — капусьціны адна за дною сохнуць, пыцягніш — кырянёк ат'еджын.*

**Мяжджуленне** *н. перан.* Грубая яда. *Ты пыглядзі ны яго мяжджýліньня, кускамі пхáіць у рот і глык, глык кусок зу куском.*

**Мяжджуліць** *незак.* 1. Давіць, ціснуць. *Тута ўжо нечыга мяжджýліць большы, усё і так ны кашу ўзялося.* 2 *перан.* Есці многа, груба, без разбору. *Сядзелі удзьвюх, пряснушкі мяжджулілі іс салым іс сырым.*

**Мяздра** *ж.* Цестападобнае рэчыва. *Што йта ў цябе тута, нейкыя міздрá мяккыя. Во сыгрябі, сыгрябі ўсю ету мяздрю ды вон выкінь.*

**Мяздрачанне, мяздрэнне** *н.* Біццё. *Як ты посьлі міздрячыньня, ці бакі троху пачэсыюцца? Во, ён дужа твайго мяздреньня спужаўся.*

**Мяздрачыць, мяздрыць** *незак.* Біць, таўчы. *А нягож хто, бабы яго кучыю і міздрячылі. Як стала міздрячыць кіт, ён пымякчэў, тады вокны абляпіла. Як узяліся яго ляжýчыга мяздріць, дык яму і дзівацца некуды.*

**Мяздрыстый, мяздрастый** *прым.* Ацесліва. *Хлеб мяздрістый пулучыўся, як ляміц, відна, ні пыдыйшоў як нада. Пріснакі міздрястыя-міздрястыя, пряма на зубы ліпнуць, есьць нільзя.*

**Мякінашный** *прым.* Мякінны. *Мякінышныя мяшкі ліжаць ны ґанкых кылы лавычкі.*

**Мякініцца** *незак.* Пакрывацца мякінай. *Ня йдзі сю-*

*да мякініцца, я сыма ныгрябў карзінкі дзьве, я усё дно пыльныя.*

**Мякіннік** *м.* Жывёла, кормленая мякінай. *Нейкій мякіньнік бегыіць па пуні, пішчыць, мякіныю сала ні нагоніш. Памяниш.* **мякіннічак.** *Во й мякіньнічык пыгладзеў, як стала мукі пыцсыпаць.* **Мякінніца** *ж.* 1. Пасудзіна для мякіны. *Сплёў бальшую карзіну, бульбы пудоў ны пяць, яе і ні падыміш, і рузлумаіцца, мякіньніца будзіць.* 2. Жывёла, кормленая мякінай. *Во мыя мякіньніца рявець, настолька любіць мякіну, і зыпаріныю хвытаіць, а ні зыпарь — сухую будзіць хвытаць, кажыцца, аб адной ба мякіні жыла.*

**Мякчуг** *м.* Мяккая трава. *Пы аборкых ладный мякчўг, яго каб уремім скасіў ды высушыў, зылатэй ба корм быў. Памяниш.* **мякчужок.** *Нічога мікчужок лі балота, скот хырашо скубець, і каровы, і ціляты.*

**Мякчыць** *незак.* Рабіць мяккім, мякчэйшым. *Ета ён так пасьцель мякчыць: каленкымі разьёрзыіць, разьёрзыіць. Ці ты помніш, як Мікіта свой пулушубык мякчыў?* **Мякчыцца, мякчэцца** *незак.* Рабіцца мяккім, мякчэйшым. *Нісколька ў цябе ні мякчыцца пылатно. Вы ўжо ні знаіця, што такоя пысканьніна, а мы і пысканьніны нынасіліся, пяреш, пяреш яе, а йна ні мякчэіцца, цьвёрда, як кол.*

**Мякчэнне** *н.* Змякчэнне. *Ні пымыгаіць і тваё мякчэньня, тута камком усё зьбіта, цьвёрдыя, цьвёрдыя.*

**Мякшыць** *незак.* Гнясці, таўчы. *Яго пупалі аднаго і дывай мякшыць, дык ён у крік. Дзеепрым.* **мякшоный.** *Мякшоный вярнуўся, ні прізнаецца. Дзеепрысл.* **мякшомшы.** *Каторый ужо раз ты мякшомшы пріходзіш, а ўсё ні каісься.*

**Мялістый** *прым.* Непаваротлівы, марудны. *Ён ішчэ ні стар, здаровый мужык, ну дужа мялістый, ніпываротлівый, пакуля рыскычаіцца, час пройдзіць.*

**Мялка** 1 *ж.* Церніца. *Як жылі кажный сам сабе, ува ўсіх былі мялкі, лён мялі, пяньку, білым як настукыісься, рукі быляць. Памяниш.* **мялачка.** *Айдзе-то ў пуні выляіцца мялычка, цяперя іна нікому ні нада.* 2 *м.* і *ж. перан.* Непаваротлівая асоба. *Ета мялка пакуля паверніцца, дык наждзэсься.*

**Мянёк** *м. перан. гумар.* Сыты гультаяваты малады чалавек. *Большый у арміі служыць, а меншый у дваре,*

*ладный мянёк разьеўся: высьпіцца, выліжыцца і пашоў с хлопцымі на ўсю ноч цігацца.*

**Мярло** *м.* і *ж. груб.* Ненаедная асоба, абжора. *Такей мярло, айдзе йна адна пракорміць. Во яшчэ мярло, усё б ела і ела, айдзе ў яе што дзяецца. Узмацн.* **мярліна.** *Прець мярліна як ні ў сабе, паўбулкі хлеба зы раз увамнець. Павеліч.* **мярлішча.** *Во хто быў мярлішча — Кірей, іна, бувала, гатовіць яму аднаму ні спруўлялыся. Ікая ж ты мярлішча нінаедныя!*

**Мярылка** *ж.* Любое прыстасаванне для замеру. *Жэнька зь мярілкыю зы быльшак пашоў. Твыя мярілка толька што ны бярне ліжала, айдзе ж іна дзелыся. Памянш.* **мярылачка.** *Раўнейшынькыю хвырасьціну вазьмі і аьсякеш мярілычку.*

**Мярэканне** *н.* Разуменне. *Ідзі ты ў баню сы сваім мярекыньнім, я кылі ні пынімаю, дык і гыварю, што ні пынімаю.*

**Мярэкаць** *незак. жарт.* Разумець. *Во-о, ты дайжа ў зямле пычаў мярекыць, ты й бульбу гатоў пы пясочыку сеіць.*

**Мяса** *н.* Мяса. *Памянш.* **мяска, мясца.** *Пыдажджы мінутычку, я табе мя́ска сь печы дыста́ну. Мя́сца ты любіш, а пырыся́т пыпа́сьвіць ня дужа хочыш. Узмацн.* **мясюга.** *Бычка зарезылі, мясю́гі нысалілі, будзіць за́тыўкі ў капусту ны зіму́. Павеліч.* **мясішча, мясюжышча.** *Мала што йна стогніць, у іх мя́сішча ны два гады і ні пыядуць яшчэ. Каб мне яе мясю́жышча, я б год бяз горя праседзіла.*

**Мясавід** *м.* Мясаед. *Мыя свадзьба у мя́сывід была. Цяперя некылі, можа мя́сывідым ґ дзіцям зьежджу, пы мя́сывіду свыбадней будзіць.*

**Мясіна** *ж.* Мяса наогул. *Ікая мя́сіна зывядзецца, дык ці яны с толкым спыжывўць. Кыбынка́ забілі, у другіх ба мя́сіна дзіржа́лыся, а етыя усё прымынтачылі. Памянш.* **мясінка.** *Як жа так зьбівацца, каб мя́сінкі ў бочкі ні було.*

**Мятлей** *прысл.* Уважлівей, спрытней. *Я мятлей цябе, я зразу прімеціла, чаго ён круціцца лі калёс. Трошку мятлей нада пывыра́чывыцца.*

**Мятроўка** *ж.* Прадмет, звыч. палка, дошка, мятровай даўжыні. *Зь мятровык нічога ні пастроіш, пупыла́м піряреж ыш на дровы і ўсё. Памянш.* **мятровачка.** *Машыну мятровычык прівёз, самі тут пілім удваіх.*

**Мяценне** *н.* Падмятанне. *Ты кылі ўзяўся месьць, дык мяці, ато пыкажу мяценьня — толька пыліць.*

**Мяшчэнне** *н.* Размяшчэнне, нагрувашчванне. *Якоя ж ета мяшчэньня, кылі ўсё валіцца, хут ты стой ды дзяржы.*

## Н

**Наабарачываць** *зак.* Абярнуць шмат. *Гырлачоў на ўслоні ныабырачывыла, штук дзесіць! Што ты зьдзелыў, чугунок абярнўў, — ну глядзі, ты ў мяне ныбырачывыіш.* **Наабарачывацца** *зак.* Абярнуцца шмат разоў. *Ныбырачыіцца, што каткі дулумаіць, нечыга будзіць запрежч.*

**Наабгаварываць, наабгаварывацца** *зак.* Абгаварыць усіх, многіх. *Ім пупадзіся ны язык — ныабгывáрівыюць і ні пупадзіся — тоя самыя будзіць, днямі сідзяць і мелюць пустоя. Прося німала чаго ацьцерьпіла, ныабгывáрівыліся большы некуды.*

**Наабгадываць** *зак.* Набыць шмат, але з цяжкасцю. *Патроху ныабгáдывылі ў хату. Такея хызіівá ныбгáдыюць: яны бацькыва дабро распўсьцюць і будуць як старцы якея хадзіць.*

**Наабганяць** *зак.* 1. Закончыць абганяць, выпярэджваць. *Ну, ладна ныбгыняў, цяперя удвору пыбягіш за восьсю, — во ды́ чаго дуры́ даводзюць.* 2. Наабворваць. *Ты бульбы ныбгыняй, а тады ўжо едзь у лес, я піріхáджывыць буду.* **Наабганяный, наабганятый** *дзеепрым.* Абвораны ў вялікай колькасці. *Худзь ба сяньня ны́бгыняныю бульбу піряйшлі, і то б ладна було. Ныбгынятыя бульба ждаць ня будзіць, яе пыправіць нада, айдзе пацсы́пыць, айдзе пыдняць.*

**Наабнімаць** *зак.* Закончыць абнімаць. *Тоньку ныбнімаў, ужо к Пітрачонкывый дачке клінкі пыдбіваіць.* **Наабнімацца** *зак.* Закончыць абнімацца. *Ныабнімáліся, ужо клянуць адна адну,— во што з бальшэя дружбы буваіць. Ныбнімáюцца, што ўзной пычануць адна ну другую касіцца.*

**Наабрузацца** *зак. груб.* Наспацца. *І калі ўжо ён нубрюзáіцца, гультаішча етый, еў ба смашна і спаў, ні ды чаго датронуцца ня хочыць.* **Наабрузаный** *дзеепрым.* *Выйшыў, вочы нубрюзáныя, пы шапкі, аж запўхлі.*

**Наабсініваць** *зак.* Абсініць усё, шмат. *Ты глянь,*

*сколька ныапсінівыў сваёю рубашкыю, усё бяльлё папорціў.*

**Наабуваць** *зак.* Абуць шмат разоў. *Дужа многа ныабуваў ён тваe боцікі, разы трі усторнуў і кінуў, выляюцца у сенцых лі сундука.*

**Наадпускаць** *зак.* Закончыць адпускаць. *Хвалі, хвалі, многа ён цябе нутпускаў у горыд, — сам сеў і паехыў, а ты адна дуріся с хызяйствым.*

**Наадураваць, наадуравацца** *зак.* Набалавацца. *Я цябе січас ныадурюваю, як хлыбазіну вазьму ў рукі. Адны як астануцца, нудурюваюцца, ім свабода тады, пряма ны гылывах ходзюць.*

**Наадціраць** *зак.* Памыць шмат (пра бялізну). *Што я дзелыла скрысеньня? — ні гуляла, як ты, ці відзіш сколька я більля ныцьціpала.* **Наадціpацца** *зак.* 1. Памыцца шмат (пра бялізну). *Ні так ужо тут многа і ныцьціралыся.* 2. Стаміцца, мыючы бялізну. *Як ныцьціраісься за дзень, дык худзь ба пысядзець ціхінька.* **Наадціраный** *дзеепрым. Відзіш, ікая ў мяне гыра ныцьціраныга ляжыць, сушыць нада.*

**Наакалпачываць** *зак.* Нападманваць. *Так ужо яго і ныакылпачывылі, ён жа ні ў чужых быў.* **Наакалпачывацца** *зак.* Нападманвацца. *Ты ўжо іх ныакылпачывыўся уволю, хваціць.*

**Наапастылівацца, наапастыляцца** *зак.* Палаяцца, пасварыцца з усімі, многімі. *Ныапастылівыцца нядоўга, а толька ж посьлі ны цябе ніхто глянуць ні захочыць. Ныапыстыляіцца зь людзямі, а тады: чаго йта мяне ніхто ня любіць?*

**Наапекарстваваць, наапекарыць, наапякуннічаць** *зак.* Паапекаваць. *Сімянку дай волю, ён ныапекырстыіць, дывядзець ды ладу: усё пусьціць на веціp. Ты ўжо ныапекырiў — зайшоў два разы; каб ні дзядзька, пы тваёй помычы у іх ба ўсё рызвалілыся. Другая апякунша зныйшлася, тожа столька ныапякуньнічыіць, — ізыком толька трепліцца.*

**Наартамоніцца, наартамоннічацца** *зак. неадабр.* Пагаварыць пры неразуменні субяседніка. *Пакуля ты ныартамонісься зь ім, рысталкуіш, сам ба скарей атвярнуўся, ці тут дужа далёка. Я зь імі зы два гады ныартамоньнічыўся, хваціць, сам, кылі хочыш, пудурiся.*

**Наатарвываць** *зак.* Наадрываць. *Во такую кучу*

*ныатáрвывaў жалезных лістоў. Я цябе січас ытáрвыю,— ня трогый, як прібіта, так і ніхай вісіць.*

**Наатмашку** *прысл.* Наводмаш. *Другей раз падлезіш так, пляхніць нытмáшку і зьнясеш, ён с табою доўга ні пачыкыіцца.*

**Набабахаць, набабахкаць** *зак.* Нагрукаць, настраляць. *Ныбыбáхылі, што пальцы чуць ні пыдбівáлі. Ныбыбáхкыіш, як молытым пы наге пупадзеш. Ой, многа вы там ныбыбáхылі, пы два разы вы́стрілілі. Раніньна пашлі і ныбыбáхкылі вутык.* **Набабахацца, набабахкацца** *зак.* 1. Нагрукацца. *Ныбыбáхыўся лі свайго зялезьзя. Хвáціць грюкутáць, ты ўжо ныбыбáхкыўся.* 2. Напрацавацца, стаміцца працуючы. *Ныбыбáхыліся за дзень, к вечыру саўсім зымаріліся, чуць прівылакліся. Ныбыбáхкыўся, пріплёўся, сеў, гаворіць, усё, зымаріўся, ажно рукі дрыжаць.* **Набабаханый, набабахканый** *дзеепрым.* Накладзены, навалены. *Пыпалі-ка ты дровы, што ў цябе за сеным ныбыбáхыны, а тады будзіш плакыць. У яго на ўсю зіму аднаго лугавога сена ныбыбáхкына, аборкывыя пыд вясну прыдáсьць.*

**Набабухаць, набабухкаць** *зак.* 1. Нагрукаць, настраляць. *Нудурáчысься, ныбабýхыіш, што пупадзеш у каго-небудзь. Ныбабýхкыюць, што пальцы адзін другому пыдбівáюць.* 2. Накласці, наваліць празмерна. *Пýню сена ныбабýхылі, зы два гады ні пытрáвюць. Дроў ён ладна у пуньку ныбабýхкыў, можна сядзець цёплінька.* **Набабухацца, набабухкацца** *зак.* 1. Набіцца. *Ныбабýхылыся ў баню, што нейдзі було мыцца. Калі нічога, ня цесна, а другей раз як ныбабýхкыюцца, ажно рукі ні прасýнуць, ды накурюць яшчэ, ні прады́хыць.* 2. Напрацавацца, стаміцца працуючы. *Мы сяньня ныбабýхыліся лі ям, чуць жывэя прівылакліся. Каб ты так ныбабýхкыўся, як я, і ны вічарінку б забыў.* **Набабуханый, набабухканый** *дзеепрым. У зáсічкі ўсяго ўсякыга ныбабýхына, нада вы́брыць як-небудзь урем́я ды вы́чысьціць. Ныбабýхкына саломы на жордычкі ў пуні пыт павецьцю, нашто яму було цігаць туды.*

**Набабчыцца** *зак.* Напоркацца, навазіцца. *Пакуля ты ныбáбчысься, дык я воз мякіны прівязу с поля, а тады можна і ў лес атвярнýцца.*

**Набазарыць** *зак. неадабр.* Набалбатаць. *Ім толька дай сыйціцца уместа, ныбызáрюць, што вушы зьвянуць.* **Набазарыцца** *зак.* Набалбатацца, накрычацца. *Скажы,*

*каб ішла карову даіць, ато ніяк ні ныбызáрюцца, новысьціў дужа многа сыбралыся.*

**Набалабоніць** *зак. асудж.* Шмат набурчаць. *Іна адна зы дзісіцярых ныбылабоніць, толька слухый.* **Набалабоніцца** *зак.* Набурчацца. *Вы ўжо самі ні знаіця, калі б вы ныбылабоніліся, мелюць і мелюць пустоя, кынца краю німа.*

**Набалахоніць** *зак. неадабр.* Нагаварыць пустога. *Прішоў, ныбылахоніў лухты, ты ня верь ні аднаму яго слову.* **Набалахоніцца** *зак.* Нагаварыцца попусту. *Няўжэлі вам ні хваціла ўремя дарогыю ныбылахоніцца?*

**Набалматаць** *зак.* Нагаварыць невыразна, неразборліва. *Мала што яны табе ныбалмочуць, ты ня слухый, ім завідна, яны і выдýмывыюць што зря.* **Набалматацца** *зак.* Нагаварыцца невыразна, неразборліва. *Калі ты ўжо ныбалмочысься, калі ты хут троху ўспакоісься?*

**Набандурыцца** *зак.* Натлуміцца. *Каб жа зь ёю пыгывaріў як ш чылавекым, ато то прыдаець, то разым дос, як атрезыла, пакуля ныбандýріліся зь ёю, дык і ноч ны дваре.*

**Набаніць** *зак.* Напарыць у лазні. *Ну як ты, ці хыраш цябе бацька ныбáніў?* **Набаніцца** *зак.* Напарыцца ў лазні. *А ты сходзі ныбáнься хырашэнька, піріпацей, іна і прастуда скарей пройдзіць.* **Набаненый** *дзеепрым. Прібег ныбáніный, крáсьнінькій, што агурчык.*

**Набарабаніць** *зак.* 1. Пабарабаніць. *Ён табе многа ныбырыбáніць пыч чáркыю, прідзіць і пашоў у круг скыкаць.* 2 *перан. неадабр.* Набалбатаць. *Ізычок дык ізычок, адна зы дзісіцярых ныбырыбáніць, зь ёю ніхто ні справіцца.* **Набарабаніцца** *зак.* 1. Стаміцца барабанячы. *Ты ўжо ныбырыбáніўся, аддыхні.* 2 *перан.* Набалбатацца. *Ныўряд, каб тыкая ізыкáтыя калі-небудзь ныбырыбáнілыся.* **Набарабаненый** *дзеепрым.* Набалбатаны, наплявузганы. *Я па віду пызнáла: яму ладна ныбырыбáніна.*

**Набарахліць, набарахлець** *зак. неадабр.* Набалбатаць, наплявузгаць. *Сам ба ён ні стаў прідумывыць, яму нехта ныбырахліў пры Машычку. Яму ні падумыўшы ныбырахлелі, а яно вун як выйшла.* **Набарахліцца, набарахлецца** *зак.* Набалбатацца, наплявузгацца. *Ці вы ішчэ ні ныбырахліліся тут, пойдзім-ка пірякусім троху. Ёй ныбырахлецца ня столька ўремя нада, хуць пуўдня дай.*

**Набарахцець, набарахціць** *зак. неадабр.* Набурчаць, набалбатаць. *Ён адзін можыць зы піцярых ныбырахцець. Што табе тут кума ныбырахціла, іна ж пуўдня сыбірала новысьці.* **Набарахцецца, набарахціцца** *зак.* Набурчацца, набалбатацца. *Ці ты зы ўчырашній дзень ні ныбырахцеўся, сяньня узноў пычынаіш с самыга раньня? Знаць, ныбырахціліся, рызыйшліся, — во зыняція сабе ніяк ні найдуць бабы.*

**Набарсаць** *зак.* Дабарсаць. *Ныбырсаіць ён, што забырсьні пы быках прыцягніць, як Паўлюк, вазьмі ды сам зьдзелый.*

**Набасятнічаць, набасятнічацца, набасячыцца** *зак.* Павесці сябе распусна, па-басяцку. *Чаго ня ўмеюць, а ныбысятнічыць могуць, тута бальшэя вучобы ні нада. Мы ўсё відзілі і знаім, сколька ён ныбысятнічыўся, пакуль паехыў. Ныбысячыўся зы два гады ладна, на ім шкура гаріць.*

**Набатракаваць, набатракавацца** *зак.* Папрацаваць у якасці батрака. *А ці ны вас Прося мала нубутрукувала, бувала, кажный дзень і бягіць, і бягіць к вам. Сколька нубутрукуваліся ны яго і мае мальцы, і Кындратывы, хваціць зь яго надоўга.*

**Набахаць** *зак. перан.* 1. Настраляць. *Нейкыя нібальшоя балоцца пупалі, там ніхто ні буваіць, вутык ныбахылі, варюць.* 2. Накласці звыш меры. *Яму ня чорт бяды, ныбахыў пуню сена урайне зь вільчыкым, грібанець пыд вясну грошы.* **Набахацца** *зак.* Стаміцца. *Ныбахыўся лі калодык, яны дужа сукуватыя, ніяк ня колюцца.* **Набаханый** *дзеепрым.* Накладзены. *Ні плач ты дужа, ні плач, у цябе ўсякыга дыбра ныбахына столька, што й дзеці ні спыжывуць.*

**Набаярыць, набаярыцца** *зак.* Напрацавацца. *Дужа ён многа ныбыяріў, адзін год пыработыў. У дзеда зямлі ні було, дзьве дзісяціны, а сям'ішча, дык ён ныбыяріўся у паноў, хваціла зь яго.*

**Набаяцца** *зак.* Пабаяцца шмат. *Што ўжо я, бувала, ныбаюся адна ў хаці: што як хто-небудзь, думыю, улезіць у клець. Я цябе ныбаюся, прітвыряісься ты мне с тваім быяньнім.*

**Набіваннік** *м.* 1. Той, хто набівае, узбівае. *У твайго ныбіваньніка другей раз бочка рыссыпаіцца.* 2. Той, хто прапаноўвае. *Ідзі ты, ныбіваньнік, айдзе быў сы сваёю цыбулію, у мяне самой трі пляцёнкі вісіць, каб купіў хто.*

**Набіванніца** *ж. Ікая зь мяне ныбіва́ньніца, сікану́ два разы, і тапор узно́у зва́лііцца. Зь яе ныбіва́ньніца ла́дныя, і біс кыряньково прыдасьць капусту.*

**Набіць** *зак. перан.* Накалоць (дроў). *Што ж ты на трі печкі набі́у дроу, худзь ба ны нядзелю прігатові́у, што я сыма с такімі калодымі дзелыць буду.* **Набітый** *дзеепрым. Набітыя дровы сухенічкія ні прібралі, пынадзеіліся: дажджу́ ня будзіць, а ён як ліну́у пыд раньня, усё ымачы́у.*

**Наблажэннічаць, наблажэннічацца, наблажэнстваваць, наблажэнстваваццa** *зак.* Пажыць шчасліва, у дастатку, з задавальненнем. *Ты ныблажэньнічыла за ўсіх, што табе атхадзіла у́ жызьні, чаго табе ні хвытала. Каб ты столька ныблажэньнічылыся, сколька я, тады б ты знала, як чыцьвяры́х узгудува́ць, на ногі пыставіць. Каб ты сам столька ныблажэнствывы́у, есьлі ты яе жызьні завідыіш, іна ця́пнула горя большы некуды. Німа, німа чаго плакыць, ты зы Сямёным ныблажэнствывылыся уволю, ты за ім рукі ні разу ні зымачы́ла.*

**Наблуканяццa** *зак.* Нахадзіцца без справы і без мэты, увільваючы ад працы. *За лета нублукуня́ўся, ета ладна, што цётка есьць варіла; каб ні карміла, падумыў ба, як жыць.*

**Наблындацца** *зак. неадабр.* Наблукацца бязмежна. *Хва́ціць, наблы́ндыліся, я ныкліпа́ў косы, заўтря пойдзіця на луг, с сонцым пыдыму́.*

**Набожнік** *м.* Ручнік на абразах. *У Мархвы ішчэ ста́рых набожнікыў многа, красівыя, іна дужа сьпецна вышывала. Памянш.* **набожнічак.** *Ты ж чысьцейшыя набожнічкі павесь, няўдобна пірід гысьцямі.*

**Набохаць** *зак.* Накласці, натаптаць. *Пуню сена за лета набохыў, ня меншы пітнаццыці вазоў утыпта́ў туды.* **Набоханый** *дзеепрым. Сам ужо ён ні знаў, куды склыдаць што, у клець дроў набохына ніізьвесна сколька, кучышча хворысьця вазоў пяць ляжыць.*

**Набраджаный, набрадзеный, набратый** *дзеепрым.* Набраны. *Тута цэла, ніхто ня трогыў, а зь естыга боку ныбра́джына, во, дайжа відна, як гряблі. Ношка жыта ныбра́дзіна с капы, відна, як зьвя́зывыў, кыласкі апіціра́ліся. Ніхай яму ныбра́тыя бокым вылізіць.*

**Набразкаць** *зак.* 1. Пабразгаць. *Многа ён тама ныбря́зкыў, трі разы стукнуў, а табе пыкызалыся ніізьвесна што.* 2 *перан. неадабр.* Нагаварыць, наплявузгаць.

*Нешта ныбрязкылі Пуўлюку: ходзіць, як сыч, надутый.* **Набразкацца** *зак.* 1. Настукацца. *Ці яны ішчэ ні ныбрязкыліся, ніхай-ка ідуць у хату, а ня мерзнуць хыладзішчыю.* 2. Набалбатацца. *Пакуля ныбрязкыюцца, ныбалмочуцца, дык і палоць некылі.*

**Набромнік, набродыванні**к *м.*, **наброда** *ж.*, **наброддзе** *н.* і *ж.* Шкадлівая, памаўзлівая асоба. *Набродні*к *маліц, капількі ня слухыіць. Кучыю ходзюць набродывыньнікі, ат іх бірягіся — ні ўбірягесься, сад аптресьць, гарод выцірць — у мінуту сытвыряць што хочыш. Ікая ж ты наброда стала, нарошня ўсё дзелыіш. Во ўдача, во набродзьдзя, хаці ты зь яго толку, як пыдрасьцець, кылі ён табе січас вока ну кулак нясець.* **Набродніца, набродыванніца** *ж. Ну ніхай ужо мальцы, а штоб дзяўчонкі такою набродніцыю быць — ета ж нада, а? Во табе й дзяўчонка, тыкая набродывыньніца, чышчы мальцыў.*

**Набродный, набродлівый** *прым.* Шкадлівы, памаўзлівы. *Набродныя мальцы, ім утваріць што хочыш — раз плюнуць. Я ўжо сыма ні прідумыю, што с такою набродныю каровыю дзелыць, хут ты яе у табун пўтый. Твае хлопцы ні такея набродлівыя, і я маўчу, а калі ўжо дзіцёнык морквіну вырвыў, дык нада ґвалт пыднімаць? Ну й набродлівый пацьцёлык, глядзі і ня ўгледзіш, ходзіць, ходзіць, а тады шмыг і ў шкоду.*

**Набродыванне** *н.* Шкадлівасць, памаўзлівасць. *Зы набродывыньня яго крепка прыбіраюць, дык ці ён слухыіць, сойдуцца кучыю і ўзноў зы сваё.*

**Набродываць, набродні**ч**аць** *незак.* Шкоднічаць. *Подрысьні набродыюць пы дзярейні, як вечыр, так і пашлі сады лыташыць. Як було ім гадоў пы шыснаццыць, сколька яны набродні*ч*ылі! Нікыянства ці што сядзіць у етым цялёнку, сколька ён набродні*ч*ыіць.*

**Набрусянець, набрусянецца** *зак.* Напухнуць. *Рука ды самыга локця нубрюсянела, нешта плахоя, аткладывыць нілізя, нада ґ дыктырам кідыцца. Буваіць, што і адз зубоў шчыка нубрюсянеіцца аж глядзець страшна.* **Набрусянелый** *дзеепрым. Ты пыглядзі-ка, ікая ныга нубрюсянелыя, грець нада, грець і рысьціраць крепка.*

**Набрызкаць** *зак.* Напырскаць. *Ці ня ты тут набрызкыў усюдых?* **Набрызкацца** *зак.* Напырскацца. *Ні само ж яно набрызкылася. Я вас січас набрызкыюся, вы ў мяне найдзіця зыняція, кылі дзелыць нечыга.*

**Набрындацца** *зак.* Нашвэндацца. *Дужа далёка твой*

*Сенька, ты ж яго зынлція знаіш: набрындыўся, наеўся, а цяперя сьпіць на сені.*

**Набрынкацца** *зак.* 1. Настукацца. *Ці ты ішчэ ні набрынкыўся, хваціць ляпыць, ідзі заўтрікыць.* 2 *перан.* Нашвэндацца. *Пакуліцька набрынкыіцца, яму некылі зы работу брацца.*

**Набубнець** *зак.* 1. Пабарабаніць. *Нада було б харошыга бырыбаншчыка пызваць, а етый табе нубубніць: бубін кініць і пыбягіць за дзеўкымі.* 2 *перан.* Набурчацца. *Ладна за выпріж нубубнеў, ну ета і праўда, можна ж було прібраць.* **Набубнецца** *зак.* 1. Стаміцца барабанячы. *Ты ўжо нубубнеўся, аддыхні, ніхай Толік троху пыбырыбаніць.* 2. Набурчацца. *Пастылыя баба, пакуля зы ўсякыю мелыч ні нубубніцца, ні ўспакоіцца.*

**Набуванне** *н.* Абуванне. *Як пычанець нубуваньня — цэлый час, ніяк ні падгоніш.*

**Набуваннік** *м.* Той, хто абуваецца. *Хацела паможч— не, я сам, — ну сядзі, нубуваньнік, кулупайся. Памянш.* **набуваннічак.** *Ці паможч табе, нубуваньнічык мой, дай, я шнурочыкі зывяжу.* **Набуванніца** *ж. Ай, нубуваньніца, цябе пакуля дажджэсься, дык ба лі быльшыка быў.*

**Набуваць** *незак.* 1. Абуваць. *Мяне дзед у школу трі гады у лапці нубуваў. Нубувай што цяплейшыя, сяньня на вуліцы дужа халодна.* 2 *перан.* Падманваць. *Сколька разоў нубувалі цябе зь естымі пырысятымі!* **Набувацца** *незак.* Абувацца. *Тыкая быльшая дзяўчонка, а ня ўмеіць нубувацца, ніхай пріўчаіцца.* **Набуць** *зак.* 1. Абуць. *Набуй ты яго, ніхай зьбегыіць на вуліцу. Набуў ба валінкі — ні прыгыдаў ба.* 2 *перан.* Падмануць. *Крепка яго с каровыю набулі, ён ні разгледзіў, а йна на трі саскі доіцца.* **Набуцца** *зак.* Абуцца. *Набуйся ў валінкі, дык ты будзіш пан паным, ні зыкалеюць дыгылы, як у тухільвых.* **Набутый** *дзеепрым.* Абуты. *Вы ж слабінька набуты, доўга ня стойця ны марозі.*

**Набузаваць** *зак.* Нарыхтаваць. *Нубузуваў кучышчу арешніку, вазы трі будзіць. Сакі нубузувалі, харошыя пацьсьцілка ў мароз.* **Набузавацца** *зак.* Стаміцца. *Столька нубузуваліся кыла пнёў: крепкія, корінь у ствол пашоў уніз, пакуля ды яго дыбяресься пірясеч, ат рук ацстаніш.* **Набузаваный** *дзеепрым.* 1. Нароблены. *Кустоў пряма с кареньнім нубузувана нівісь сколька, хвырасток ладна будзіць гарець.* 2. Стомлены, выбіты з сіл.

*Нубузува́ныя прішлі, ім ні ду гулю́шкі, толька ды пасьцелі дыбра́ліся.*

**Набузаніць, набузаніцца** *зак.* Збэсціць. *Што йта вы ні пыладзілі, што кума цябе так нубуза́ніла? Каго іна толька ні нубуза́нілыся, нійдзе і ні разу ціхамірія ёй ні було.*

**Набузацёрыць** *зак.* Нашумець, натварыць. *Вашы хлопцы пашлі у Валоўнікі і нешта нубузацёрілі там. Ён такей, што айдзе хочыш можыць нубузацёріць.* **Набузацёрыцца** *зак.* Нашумецца. *Нубузацёріўся, аціх, ато ж яму сколька ўремя уходу ні було, як цётка ні страміла — ні пымыгала.*

**Набуйтавацца** *зак.* Празмерна стаміцца. *Капец бульбы насыпылі сухенічкія, накрылі, а тута відзім: порцицца пагода, дывай хвытаць зысыпа́ць, нубуйтува́ліся крепка.*

**Набунтаваць** *зак.* Перашкодзіць, збіць з панталыку. *Ты мне нубунтува́ла сы сваімі саветамі, я б скарей сам распу́тыў.*

**Набурбулецца** *зак.* Накіпецца. *Дыстывай чугуны́, яны ўжо нубурбулеліся, пывыкіпывылі.*

**Набурхаць** *зак.* 1. Набіцца ў вялікай колькасці. *Чаго вас столька сюда набу́рхыла?* 2. Накласці вельмі многа. *Набу́рхыў пуню паленьня ўсякыга, ґ зіме пыпіліць у печ, яно сухоя, жыва ціплыта́ пойдзіць.* **Набурханый** *дзеепрым. Што мне ў іх дзелыць, я пыглядзела циріс парог — там і бізь мяне поўныя хата людзей набу́рхына. У погріб бульбы набу́рхына, патпольля зугрузілі і ішчэ куча ў пуні ляжыць, дзівацца некуды.*

**Набуханый** *дзеепрым. перан.* Накладзены. *Чаго ў ету клетычку толька ні набу́хына, тута нядзелю будзіш рызьбіра́цца — ні рызьбяресься.*

**Набухікацца, набухукацца** *зак.* Накашляцца. *Мой зы нядзелю нубухікыўся ладна, у лесі пацсты́ў, дык я ўсё грела, мылаком атпа́івыла. Ну што, кылі ў рязон дайжа ні бярець, як ні ды яго гаворіна, пыбягіць пасьці голый, прыбярець яго ладна, тады ўжо нубуху́кыіцца.*

**Набухцець** *зак.* Наплявузгаць, набурчаць. *Прідзіць і ўзноў нубухціць, чаго й на сьвеці ні разу ні було, я б такога чылавека дайжа ны парог ба ні пусьціла.* **Набухцецца** *зак.* Наплявузгацца, набурчацца. *Ні знаю, ці нубухціцца іна калі-небудзь, зы ўсякыю мелыч найдзіць прічыну бубнець.*

**Набэхаць** *зак.* Накласці, напакаваць. *Сундукі тріп'я набэхыла, яно ў яе зьлежыцца і патлеіць ці моль паесьць.* **Набэхацца** *зак. перан.* Стаміцца. *Шўльля сяньня зыкáпывылі, набэхыліся, яго ня дужа лёхка ставіць, нада яму выкыпыць, уцягнуць, а каторыя і выцягывыць пріходзіцца, пыткáпывыць.* **Набэханый** *дзеепрым.* Накладзены, набіты. *Вазы два аборкывыга сена ляжыіць, а ты трілю́дзіў, што набэхына нівісь сколька.*

**Набязульнічаць, набязульнічацца** *зак.* Нагультаявацца. *Айт, ён і прі бацьку ныбязўльнічыіць ня меншы. Што ўжо ныбязўльнічыліся яе мальцы за лета, сколька чаго можна було зьдзелыць, а яны вы́ліжуцца і пашлі цігацца.*

**Набялендзіць** *зак.* Набалбатаць спакваля. *Ён чаго хочыш ныбяленьдзіць, ты толька большы слухый рот разінуўшы.* **Набялендзіцца** *зак.* Набалбатацца спакваля. *Ныўряд, каб яны калі-небудзь ныбяленьдзіліся, сколька жывуць, столька і треплюць пустоя, і треплюць ні пірістуючы́.*

**Наваджываць, наводжываць** *незак.* 1. Прыводзіць шмат. *Каб ты етых сваіх друзей меншы нывáджывыў у хату, яно б луччы було. Мы пашлі і пашлі ны работу, а ён поўныю хату мульчугáныў наводжывыіць і мушурўюцца тут як хочуць.* 2. Указваць, прыводзіць (са злачыннымі мэтамі). *Сам ён красьць ні хадзіў, а зладзю́г нывáджывыў. Хто-небудзь іс суседзій наводжывыіць, аткуль ба яны зналі, айдзе што ляжыць.*

**Навадзіць** *незак. перан.* Разводзіць. *Многа цялёнку ні нывадзі, ён многа ня п'ець, трошку смыктанець і атходзіць.* **Навесць** *зак.* Развесці. *Зря ты нывілá поўныю шáічку, пылавіна астáніцца.* **Наведзеный** *дзеепрым. Поіла наведзіна, нада несьць, цёлка ажно скáчыць кылы ґанык.*

**Навазголіванне** *н.* Квэцанне, пэцканне. *Няўжэлі ты ня можыш біз нывазґолівыньня абыйціцца, абізáцільна нада зыгáдзіць усё.*

**Навазграціць, навазгроціць** *зак.* Напэцкаць. *Дужа нікуратный старэй стаў, пакуль пытаўкець бульбу, дык кругом шайкі нывызґряціць, што хадзі ўсьлед с тряпкыю ды пыцьцірай. Усё раньня Полька бурчэла ны нявестку: нывазґрёціла, нывазґрёціла і пышла.* **Навазграціцца, навазгроціцца** *зак.* Напэцкацца. *Само ж яно ні нывызґряцілыся, нехта ж квэцыўся. Ніяк ты ні нывазґрёцісься*

*сы сваімі гыршкáмі, кідай, ехыць скарей нада.* **Навазграчаный, навазгрочаный** *дзеепрым. Доўга ўремя ждаць нада, пакуля ты ўсё нывызґрáчыныя прібяреш. Нывазґрёчына большы некуды, ну ніхай самі і пыцьцірáюць.*

**Навалаводзіць** *зак.* Павалаводзіць, павалакіціць шмат. *За ета ўремя ён столька нас нывылаводзіў і нічога ня зьдзелыў, ікая ж ета совісьць у чылавека.* **Навалаводзіцца** *зак.* Павалаводзіцца, павалакіціцца шмат. *Думыіш, мы меншы нывылаводзіліся? — мы ішчэ вясною пычалі бегыць.* **Навалаводжаный** *дзеепрым. Асташонкі такея нывылаводжыныя, што большы некуды, яны пряма забегыліся.*

**Навалтузіць** *зак.* Павалтузіць шмат. *К яму толька пупадзіся ў лапы, знаіш як нывалтýзіць, спрасі кылі хочыш у Косьціка.* **Навалтужаный** *дзеепрым. Аўдзяёнык тожа такей самый нывалтýжыный, што ты хочыш — паспробый ш чортым дыгыварíцца.*

**Навалхвіць, навалхвіцца** *зак.* Папялегаваць, папесціць шмат. *Ты змалку тріпáлыся, а ён у вы́гыдзі жыў, нывалхвілі яго уволю. Нынáнчыліся зь ім і нывалхвіліся яго, дык ён цяперя во чым плоціць.*

**Навалыніць** *зак.* Павалаводзіць, павалакіціць шмат. *А разьві ты муўчаў ба, каб цябе столька нывалы́нілі?* **Навалыніцца** *зак.* Павалаводзіцца, павалакіціцца шмат. *Во ўвідзіш, як будзіць: нывалы́нісься зь імі, уремя пыцірáіш і нічога ні палучыцца зь яздою.*

**Наварзёкаць, наварзёпаць, наварзёпкаць** *зак.* Напэцкаць, наквэцаць. *Усігда во так: нываразёкыіць, а тады кініць і пойдзіць, хадзі ўсьлед за ім зь вехцім і выцірай. Ну рубашку бульбы нываразёпыў ядýн твой, сядзіць вы́мызыный з ног ды гылавы. Я яго яду знаю: ня столька зьесьць, сколька нываразёпкыіць кругом.* **Наварзёкацца, наварзёпацца, наварзёпкацца** *зак.* Напэцкацца, наквэцацца. *Пакуля я з блінамі нываразёкылыся, дык і ў ягыды некылі йціць, ня пойдзіш жа нá ныч. Ці ты сяньня нываразёпыісься лі етых чугункоў ай не? Мы ня меншы цябе нываразёпкыліся, пакуля прібралі ўсё, пірямылі, усе скамейкі, тубуреткі пачысьцілі.* **Наварзёканый, наварзёпаный, наварзёпканый** *дзеепрым. Тута ды мяне було нываразёкына, я дайжа ні зыхадзіла ў хату, толька цірíс парог пыглядзела. Хлеб дужа пыдыйшоў і пацёк зь дзяжы, ны тряпкых цеста нываразёпына, замы́ць нада. Ці*

*ета клеім якім ныварзёпкына, ці бульбыю налепліна, дайжа нажом ні скрябецца.*

**Навашчаніваць** *незак.* Васкаваць шмат. *Раз ня ўмеіш нывышча́нівыць, ні бяріся, ці тута дужа быльшая навука нада.* **Навашчаніваццa** *незак.* Васкаваццa шмат. *Во так во прывядзі нескылька разоў, нітка і нывышча́ніiцца.* **Навашчаніць** *зак.* Паваскаваць шмат. *Скруці нітку ў чатырі редзі, нывышча́нь хырашэнька, во табе й дра́твіна.* **Навашчаніцца** *зак.* Паваскавацца шмат. *Прывядзі нескылька разоў туды-нызад і нывышча́ніцца.* **Навашчаненый** *дзеепрым. Нывышча́ніныя ніткі і прыця́гывыюцца луччы, і многа кряпчэй, я ўсігда кусочык воску бірягу́.*

**Навідзецца** *зак.* Пабачыць шмат. *Усякія жы́сьці я навідзілыся, усяго пыспыта́ла. Айдзе вы былі, што вы відзілі, во я зы сваю жы́зьню навідзіўся!*

**Навісець** *зак.* Павісець пэўны час. *Доўга етыя вокырычкі ні нывіся́ць, тыкая сямейка — даду́ць ра́ды.* **Навісецца** *зак.* 1. Павісець доўгі час. *Ідзі атреж кілбаску, яны ўжо нывіселіся, нывіселіся ў цябе. 2 перан.* Надакучыць. *Прівылакецца, носым уторніцца і стаіць, ну нывісіцца нуд рукамі, што пыпрашу́ калі-небудзь.*

**Навіскатацца** *зак.* 1. Напішчацца прарэзліва. *Галодныя свіньні нывіскочуцца, нада хря́п'я больші укінуць. 2 перан. асудж.* Накрычацца. *Ні знаю, калі яны нывіскыта́ліся, цёмна було, а ўсё крічалі на полі.*

**Навогірыць** *зак.* Пазадавацца. *Ого, сколька Мархвіны сыны тут навоѓірілі! Навоѓіріць, што крепкыю ўзбу́чку палу́чыць.*

**Навод** *м.* Навядзенне са злачыннымі намерамі. *Мы знаім, чый тута навод быў, ета толька сквілу узьнімаць ня хочыцца. Яны дыгыда́юцца, чый навод, ніхай як хочыць атпіра́іцца.*

**Наводнік** *м.* Наводчык, хаўруснік. *Я сам пынімаю, што тута біз наводніка ні абыйшлося, ну цьвёрда скызаць ні ны каго ні магу. Памянш.* **наводнічак.** *Харошый наводнічык і Сашка твой быў.* **Наводніца** *ж. Адна ладныя наводніца і другая ат яе ні атхадзіла.*

**Навуськыванне** *н.* Падбухторванне. *Наслу́хыліся мы яго наву́ськывыньня больші, чым хто.*

**Навухраць, навухрываць** *зак.* Вучыць, падвучваць. *Ты яго так вучыш, усё дно як Праскоўя нувухря́ла свайго, у сва́ты вупруўля́ючы. Дос табе наву́хрівыць, ён сам*

*знаіць, што к чаму.* **Навухраный, навухроный** *дзеепрым. Яго пы вычах зразу пызнáіш, што ўжо навýхріный ідзець, прайшоў абучэньня. Харошыя курсы яму былі, нувухрёный — луччы быць ня можыць.* **Навухромшы** *дзеепрысл. Аттуля толька нувухрёмшы атпýсьцюць, яны б усіх на свой капыл пірядзелыць гатовы.*

**Навыбівацца** *зак.* 1. Выбіцца шмат. *Відзіш, сколька ішчэ зірнят нывыбівáлыся.* 2 *перан.* Напрацавацца. *Хвáціць таго, што мой дзед нывыбіваўся ну другіх, дык тады ж урем я саўсім ні такоя було.* **Навыбіваный** *дзеепрым. Нывыбівáныя снапкі у грязі выляюцца.*

**Навылангацца** *зак.* Навылежвацца. *Зы бацькыю ды зы маткыю нывылынґáлыся, самой хызяйнічыць нісмашна будзіць.*

**Навыпахываць** *зак.* Выараць шмат. *Раз зы дваром пыхалі і лі лашчынкі нывыпáхывылі бырывікоў, гыварілі, ета падзьземныя бырывікі. Бульбы многа нывыпáхывыў, нада, каб усю выбрыць.* **Навыпахывацца** *зак.* Выарацца шмат. *Бульбоўнік як піріпáхывылі, бульбы ладна нывыпáхывылыся.* **Навыпахываный** *дзеепрым. Ні пасьпеім мы к цёмныму нывыпáхывыныю бульбу пыдыбрáць.*

**Навярнуць** *зак. перан. іран.* З'есці. *Чаго яму ня быць крепкім: сядзіць, міску варіва зьесьць, тады атрежыць сала, хунты два наверніць, мылаком зап'ець,— айдзе ж яно дзеніцца.* **Навярнуцца** *зак.* З'явіцца выпадкова. *Штоб я дзелыў кылы таго воза, ні знаю, а тута ны шчасьця нывярнýўся Ільля, памог ускласьць.* **Навярнутый** *дзеепрым.* Накладзены, нагружаны. *Нывярнýта куча хворысьця зь зямлёю, нічога ня выцігніш.*

**Нагагатацца** *зак. груб.* Нарагатацца. *Сыбярýцца, ныгагочуцца зь дзеўкымі, во якоя зыняція у іх кажный вечыр.*

**Нагаладавацца** *зак.* Нагаладацца. *Ня будзіш работыць, дык ныгыладýіська, ны цябе ірвацца ніхто ні станіць. Зы вайну многія крепка нугулудувáліся.*

**Нагалдзець, нагалдзіць** *зак.* Нарабіць крыку бязладна і шумна. *Яны толька і приходзюць сюда ныгалдзець, чаго ж яшчэ. Етыя удваіх большы ныгалдзілі, чым другея дзеці кучыю.* **Нагалдзецца, нагалдзіцца** *зак.* Накрычацца бязладна і шумна. *Няўжэлі вы зы рáньня ішчэ ні ныгалдзеліся, што вам і днём спакою німа. Дай*

*ты ім ныгалдзіцца, можа ўнімуцца троху, а не — дык турні хвырасьціныю.*

**Нагалузаваць, нагалузіць, нагалузнічаць** *зак.* Пасваволіць, параспуснічаць шмат. *Ну й бáлыўнік жа, сколька ён ныгалýзывыў зы нядзелю, большы я зь ім нізáштычка ні астáнуся, хут ты мяне азылаці. Во бáлыўнікі, так і глідзяць, каб ныгалýзіць. Мне гываріла цётка, сколька вы тут ныгалýзьнічылі, ах вы, бáлыўнікі мáлыя!* **Нагалузавацца, нагалузіцца, нагалузнічацца** *зак.* Насваволіцца, нараспуснічаць. *Ня можыць быць, каб яны так скора ныгалýзывыліся, ня тэя дзеці. У мяне ты ныгалýзіўся, а ґ бацьку паедзіш — там цябе жыва ўспакоюць, кончыцца тваё неслухства. Ты ня жджы, пакуля ныгалýзьнічыюцца, а крікні, каб ішлі двору.*

**Наганятый** *дзеепрым.* 1. Заезджаны. *Ныгынятыга кыня у далёкыю дарогу ні зыпрягеш.* 2. Выараны (пра бульбу). *Сяньня ні нада выпáхывыць, худзь ба пасьпець ныгынятыя грядкі вы́брыць.*

**Нагарланіць, нагарлапаніць** *зак. неадабр.* Нарабіць шмат крыку, шуму. *Ты ішчэ мала знаіш Гаўрілу, ён адзін зы піцяры́х ныгырлáніць. Ты зь імі папробый-ка пыгываріць, адна пяріда дною як рышчыніліся, ныгырлыпáнілі і пашлі.* **Нагарланіцца, нагарлацца** *зак.* Накрычацца, нагарлапаніцца. *Пат поўныч ныгырлáніліся, усё хадзілі сь песьнімі, ажно вуліца тряшчэла. Скажы, ніхай у хату ідуць, няўжэлі яны ішчэ ні ныгырлáліся за стока ўремя.*

**Нагарныцаць, нагартываць** *незак.* Нагортваць. *Ты дзяржы мяшок, а я буду ныгáрнывыць, так скарей дзела пойдзіць. Цяперя сілыс ні ў ямы зыкáпыюць, а сыпюць у кучы, апклыдаюць саломыю, а машына зямлю ныгáртывыіць.* **Нагарнывацца, нагартывацца** *незак.* Нагортвацца. *У Колі скарей рукамі ныгáрныіцца, як у цябе лупáтыю. Нешта ў вас дужа медлінна ныгáртыіцца, нада скарей вурушы́цца, зыначýім.* **Нагарнуць** *зак. перан.* Напрытуляць. *Многа твой брацік каго ныгарнýў, ён усё глядзіць, каб з вы́гыдыю дзелыць.* **Нагарнуцца** *зак.* 1. Згарнуцца. *Нібыльшая крошка была пасеіна, а тыкая куча ячменю ныгарнýлыся, няплоха зырадзіў.* 2 *перан.* Прыгарнуцца. *Ён вуўкувáтый усюдых, і ў дваре, і ну людзях, ня дужа к такому і пляменьнікі нагорнуцца.*

**Нагарцаваць** *зак. перан. неадабр.* Набегацца, насваволіць. *У мяне яны многа ні ныгарцýюць, я быйстра*

*пысаджў на места.* **Нагарцавацца, нагарцацца** *зак.* 1. Наездзіцца вярхом. *Што ўжо любюць коні, за лета нугурцуваліся, яны тама днювалі і нучувалі. Дужа ныравіцца кыла коні быць, з большымі хлопцымі ныгырцаіцца вірьха і даволін.* 2 *перан.* Набегацца, насваволіць. *Вясною мульчуганым воля, як ныгарцўюцца за дзень, к вечыру прібігаць двору, дайжа есьць ні бяруць, каб толька скарей у пасьцель. Няўжэлі вы за дзень ні ныгырцаліся, што і ў пацёмкых спакою німа.*

**Нагваздаць** *зак.* 1. Наквэцаць, намазаць. *Ну ці можна ж так дзелыць: ныгвыздаў, ныляпыў і кінуў, хадзі усьлед зы табою і выцірай.* 2. Пабіць. *Ня дужа, воґірь, зыдывайся, утраіх яны любому ныгвыздаюць.* **Нагвазданый** *дзеепрым.* 1. Наквэцаны, намазаны. *Мішала як ні сваімі рукамі, ныгвыздана цеста кругом, што мыць нада.* 2. Пабіты. *Ты дыхырахонісься, што ныгвызданый пойдзіш.*

**Нагваздзіць** *зак.* Пабіць. *Ты глядзі, каб табе ні ныгвазьдзілі, хрыбряцў такому, тама знаіш якея атлёты ёсьць.*

**Нагвэздаць** *зак.* Наквэцаць, намазаць. *Нашто вам у хату пырысят пускаць, каб толька нагвэздылі?* **Нагвэздацца** *зак.* Наквэцацца, намазацца. *Қідай-ка ты сваю гліну, ты ўжо нагвэздылыся большы некуды, усьцягнім травіцу ны хату, іна сухенічкыя.* **Нагвэзданый** *дзеепрым. Ны стале нейкыга клею нагвэздына, а ну тубуреткых кулеш кучымі ляжыць.*

**Нагламаздаць** *зак.* Зрабіць няўмела (звыч. заплесці). *Як ён заплёў — ныглымыздаў, ныглымыздаў, тама ня то што куры, а й цялёнык пралезіць.* **Нагламаздацца** *зак. Зал.-бессуб'ект. ад* нагламаздаць. *Як ныглымыздаіцца, так і ладна, калі мне масьліцца с тваім хворыстым.* **Нагламазданый** *дзеепрым. Сколька тут усякіх кускоў ныглымыздана, ні рызьбяресься.*

**Нагламаздзіць** *зак.* Накласці абы-як, нагарадзіць. *Ныглымазьдзілі хворысту, усю дарожку зынялі, праходу к хаці німа.* **Нагламаздзіцца** *зак. Зал.-бессуб'ект. ад* нагламаздзіць. *А во так патроху усякыга шыльля ныглымазьдзілыся, рызьбіраць нада.* **Нагламазджоный, нагламозджаный** *дзеепрым. Қаб акуратнінька склаў ета суччa, яно б многа места ні зынімала, а так ныглымажджона як зря, увесь двор зывалін. Вышы крышы*

*ныгламожджына лазы, сеч нада, пакуля пагода, ніхай сохніць.*

**Наглумачыць** *зак.* Нашкодзіць (у справах). *Ты ні паможыш, а толька нуглума́чыш, яны бісь цябе скарей рызьбяруцца.* **Наглумачыцца** *зак.* Наваждацца. *С путны́м чылавекым зразу б дыгыварі́ўся, а зь ім толька нуглума́чысься і да толку ні дыбяресься.*

**Наглыкацца** *зак.* Наглытацца. *Вішні нейкія стыялі ў ба́нычкі, ён наглы́кыўся пряма с костычкымі. Ты жві хырашэнька, ныглыка́ісься, жывоцік будзіць балець.*

**Наглядачкам** *прысл.* Наглядкам. *Прося пышла, а ён усьлед на́глідычкым. Ты ўсігда прівыкла на́глідычкым хадзіць.*

**Нагоцацца** *зак. неадабр.* Набегацца, наскакацца з тупатам. *Як стог кладуць, ім тады радысьць, нагоцыюцца ў саломі, сколька хочыцца.*

**Нагрукаць** *зак.* Настукаць да непрыемнасці. *Ладна нагрю́кыў: нейкыю жалезіныю пы пальцых ударіў зьверьху, разьбіў ды касьці.* **Нагрукацца** *зак.* Настукацца гучна. *Калі заснуў, то нагрю́кыісься, яго і с пушкыю ні разбудзіш.*

**Нагрыбчыць** *зак.* Нахапаць. *Ета ня тэй чылавек, што пысьцісьня́іцца, етый нагрібчыць сабе сколька ўздумыіць.* **Нагрыбчыцца** *зак.* Нахапацца. *Нагрібчыўся, што ўжо некуды большы хвытаць, ато ж усё зь яго мала було.* **Нагрыбчаный** *дзеепрым. Ета зь віду прыстачок, прікідывыцца ён умеіць, ты б зірнуў, сколька ў яго чаго нагрібчына.*

**Нагрызць** *зак. перан.* Моцна дапячы сваркай, папрокамі. *І мылыдая цаца харошыя, а як жа яшчэ ста́рыя прідзіць, як возьмуцца удзьвюх, крепка ныгрызу́ць.* **Нагрызца** *зак.* Нагрызціся, насварыцца. *Жджы, пакуля яны між сабою ныгрызу́цца.* **Нагрызеный** *дзеепрым. Сяньня ў яго ныстраенія ня тоя, нагры́зіный ладна: цёшча праборку дывала.*

**Нагрымець** *зак.* 1. Пагрымець. *Сыбіра́лыся туча — адно страхоцьця і дужа многа ныгрімела: бліснула два разы́, дождж пыка́пыў, дайжа пылу ні прібіў.* 2 *перан.* Набурчацца. *Ня дужа ёй салодка пріхадзілыся: старэй кажный дзень ныгриміць, а Пятрок ня дужа засту́піцца.* **Нагрымецца** *зак. перан.* Набурчацца злосна. *Чаго яму спакою німа ні разу, калі ўжо ён ныгріміцца, калі яго духі нарьвець?*

**Нагрымячыць** *зак.* Надаваць кухталёў. *Як жа ета ім удалося — такога здыравілу ныгрімя́чылі.* **Нагрымячаный** *дзеепрым. Ты січас пыбягіш ныгрімя́чыный, калі ня хочыш слухыць пы ла́скі.*

**Нагрэсць** *зак.* 1. Нагрэбці. *Пару капёшык ныгряблі́, тама травы дужа ні було.* 2 *перан. асудж.* Нахапаць, набраць. *Ня думый, ні праморгыюць, ныгрябу́ць усяго, зь іхныю жа́днысьцю трудна нысыта́цца.* **Нагрэсца** *зак.* 1. Нагрэбціся. *Сколька ныгрябецца, столька й будзіць, каб толька прівезьць сухенькыя.* 2. Нахапацца. *Калі ты, чылавек, ныгрябесься, няу́жэлі сь цябе ні хвыта́іць, што зарьвець, то й вылакець.* **Нагрэбеный** *дзеепрым.* 1. Нагрэбены. *Сколька там у цябе нагребіна, можа кыня гнаць ня стоіць.* 2. Нахапаны. *Ніхай яны спыжыву́ць нагребіныя, ны дваццыць гадоу́ хва́ціць.*

**Нагукацца** *зак.* Наклікацца. *Што мы нугука́ліся яго, думыім, айдзе мульчуга́н дзеу́ся, заблу́дзіцца і ня выйдзіць.*

**Нагультайнічаць, нагультайнічацца** *зак.* Пагультаяваць уволю. *Ня дужа у́ цябе нугульта́йнічыіш, ты й ніжывога успоріш, ні дасі залежыцца. Нугульта́йнічыу́ся ты хва́ціць сколька, нада паможч стырікам сена троху нысыбіра́ць.*

**Нагуніць, нагуніцца** *зак.* Пазнеслаўляць, паганьбаваць. *Калі ты сваю куму нагу́ніш, дык што ёй станіць. У цябе у́се нагу́ніліся, нікога німа ла́дныга, адна ты за у́сіх хырыша.*

**Нагутаторыцца** *зак.* Нагаварыцца. *Раз кучыю сыбра́ліся, цяперя яны нугутаторюцца, ета ста́рыя дружбакі.*

**Нагыкаць** *зак. груб.* Набурчаць (адрывіста, злосна). *Пасьледнія у́ремя што зь ім стала, ні знаю, прідзіць, нагы́кыіць на у́сіх, дзеці сталі духу яго быяцца.* **Нагыкацца** *зак.* Набурчацца (адрывіста, злосна). *Ці нагы́кыу́ся, ай усё німа табе спакою, як чылавек ня можыш скызаць нічога?*

**Нагыцаць** *зак. неадабр.* Пазбіваць, памяць, пацерці. *Пылядзі, як нагы́цылі, усю саломку разьбілі, піряцёрлі, склыда́й на́ныва, ды ні салома, а аторя стала.* **Нагыцацца** *зак.* Наскакацца, нагоцацца. *Нагы́цыліся, зьлезьлі са стога — ажно ха́кыюць, воздуху ім ні хвыта́іць.*

**Надаба** *ж.* Патрэба. *Ні було яму на́дыбы у Віхряны ехыць. Біз на́дыбы ён купляць ні станіць.*

**Надаяда** *м.* і *ж.* Дакучлівая асоба. *Чаго ты такей*

*ныдыя́да, я ж табе рыскызала казку, ідзі пугуляй ны дваре, а я аддыхну мінутычку. Ныдыя́да дзяўчонка, скліміць усё і скліміць.*

**Надаяданнік, надаяднік** *м.* Дакучлівы чалавек. *Чаго ты стаў такей ныдыіда́ньнік, хочыш, каб я путуріў цябе ат'етуль? Ладный ужо хлапчына, ну дужа ныдыя́днік бальшэй, усё, каб зь ім гулялі.* **Надаяданніца, надаядніца** *ж. Стыдна быць такою ныдыіда́ньніцыю, цётка будзіць сьміяцца і рыскажыць усім, ікая ты. Ныдыя́дніца ты ма́лыя, нядзелю с табою пабудзіш, дык ат'ясі духі.*

**Надбежч** *зак.* Падбегчы. *Нада было б надбежч глянуць, як там адны дзеці. Надбегла, калі ўжо цямнела, снапкоў дзесіць ныжала, дужа ні пымыгла́.*

**Надвечар** *прысл.* Адвячоркам. *Не, я схаджу на́двічыр, можа ёй тама паможч што-небудзь нада.*

**Надвужываць** *незак.* Звужваць. *Пычаў надву́жывыць і лішніга ўзяў, а з другога боку саўсім аткалолыся.* **Надвужывацца** *незак.* Звужвацца. *Ня дужа надву́жывыіцца, ні так то лёхка зьдзелыць, як хочыцца.* **Надвузіць** *зак.* Звузіць. *Увярьху́ ты надву́зіў вароты, пыря́дышныя дзірькі пулучы́ліся, прі́дзіцца планкі прібіваць.* **Надвузіцца** *зак.* Звузіцца. *Ні нада табе дужа нічога дывадзі́ць, тута во трошку надву́зіцца і ладна будзіць.* **Надвужаный, надвужоный** *дзеепрым. Кверьху ета вакно надву́жыныя, на вока відна. Нейкія ўжо модныя штаны сабе зыкызаў, гыварі́ў, нудвужоныя будуць.*

**Надгараць** *незак.* Надгарваць. *У цябе ўжо дровы ныдгыря́юць, а ў печ нічога ні ста́ўліна.*

**Наддажыданне, наджыданне** *н.* Чаканне. *А йдзі ты з ныддыжыда́ньнім с тваім, чаго яны такім ніна́сьцім паедуць. Што толку з ныджжыда́ньня, кылі яны, можа, і пісьма ні пулучалі.*

**Наддажыдаць, наджыдаць** *незак.* Чакаць. *Я сваіх учора ныддыжыда́ла, думыла, можа, пад'едзіць каторыя. Во сядзім, ныджжыда́ім, абішчалі к абеду пыцкачы́ць, ужо і конь прігна́т, і бульба насы́пына.* **Наддажыдацца, наджыдацца** *незак.* Чакацца. *Ці ні ныддыжыда́юцца ў цябе сяньня госьці, нешта дуўнува́та ні було нікога. Яны ішчэ учора ныджжыда́ліся, дык во і сяньня ці пад'едуць, ці не.* **Наддажыданый** *дзеепрым. Вун ён твой ныддыжыда́ный коціць с партхвельчыкым, сустрюкай.*

**Наддзелыванне** *н.* Даробліванне, надбудоўванне. *У восінь яго надзьдзелывыньня зыцягнулыся, нічога ні пулучылыся.*

**Наддзелываць** *незак.* Дарабляць, надбудоўваць. *Некылі мне твае рукайкі надзьдзелывыць, бязь іх работы па горла. Быў узяўся пуньку надзьдзелывыць, а тады кінуў.* **Наддзелывацца** *незак.* Дарабляцца, надбудоўвацца. *Сам рукавок ня будзіць надзьдзелывыцца. Ці ты ні зьбіраісься надзьдзелывыцца? — нада було б пат крышу пыдыгнаць сенцы.* **Наддзелаць** *зак.* Дарабіць, надбудаваць. *Надзьдзелый кохтычку, дык можна будзіць надзець у хылады, а так звыляіцца.* **Наддзелацца** *зак.* Дарабіцца, надбудавацца. *Ніхай пыляжыць, рукаўчыкі заўтря надзьдзелыюцца, будзіць пыдзьдзіваць у школу.* **Наддзеланый** *дзеепрым. Дужа бырата пастроіўся, піцісьценка быльшая, а зьверьху усё дно як другей ітаж надзьдзелын.*

**Наджанне** *н.* Імкненне. *Ніхай-ка ён пугуляіць зь яго наджыньнім, пірікармлівыць дзіцёнка нілізя.*

**Наджыгаць** *зак.* 1. Напячы крапівой. *Яго каб хырашэнька наджыгый крапівыю, тады б ён знаў, як пы гародых лазіць, гуркі выцірáць.* 2. Нахвастаць, напарыць. *Пруцікым наджыгыю, як злаўлю, во ныбáлыісься. Венікым крепінька ныджыгаў, толька соп.* **Наджыгацца** *зак.* Напарыцца ў лазні. *Ай, сколька ты там наджыгыўся, мінутку пысядзеў ны палку.* **Наджыганый** *дзеепрым.* 1. Напечаны крапівой. *Дай-ка я ды крапівы дыбяруся, пыбягіш ты ат'етуля наджыгыный, ой, пыбягіш.* 2. Напараны ў лазні. *Красьнінькій з бані ідзець, наджыгыный, вымыўсь чысьцінька.*

**Надзежнік** *м.* Палатняная накрыўка для дзяжы. *Надзежнік нада абрубіць кругом, каб зь яго ніткі ня лезьлі. Памянш.* **надзежнічак.** *Дайжа надзежнічык цьвецікымі вышыла, во мылыдая хызяйка!*

**Надзікавацца** *зак.* Надзівавацца. *Нам ета ні ў нывіну, за дзесіць гадоў мы ныдзікувáліся ны яго вытвырáньні большы ні нада.*

**Надзіцца** *незак.* Імкнуцца, цягнуцца. *Здаровінькій мальчык, усё нáдзіцца есьць. Дужа нáдзіліся за йгрушкымі, кажыцца б, зразу лубку іх зьелі.*

**Надзогаць, надзугаць** *зак. неадабр.* Пазбіваць, гойсаючы, дурэючы. *Гані іх ат'етуля мятлою, ато яшчэ ня столька надзогыюць, ты зь імі толька пудуріся. Каб ты*

*відзій, сколька яны саломы надзу́гылі, край ат або́рка саўсім зьбілі.* **Надзогацца, надзугацца** *зак.* Нагойсацца, нагарцавацца. *Скажы ты мне, ма́ліц, калі ты надзогысься, няўжэлі табе другога зыняція німа ніякыга. Што йта ў іх зывіря́іцца, ці надзу́гыюцца калі етыя мальцы.* **Надзоганый, надзуганый** *дзеепрым. Хуць надзогыныя нада пацскресьць,— ета ж нада нызьбіва́ць столька саломы зы адзін дзень. Сколька тута сакі надзу́гына! — шкуру спусьціць зь іх нада.*

**Надзыгаць** *зак. неадабр.* Пабегаць з намерамі нешта выведаць. *Што-то йна сяньня надзы́гыла, якея айдзе новысьці пысыбра́ла?* **Надзыгацца** *зак.* Набегацца з намерамі нешта выведаць. *Сьвет у хаці гаріць, прішла, надзы́гылыся, — як ёй ня стыдна так жыць?*

**Надзюбацца, надзюбкацца** *зак.* 1. Надзяўбціся. *Большы ня сып, яны ўжо надзю́былiся.* 2 *перан. іран.* Наесціся, напіцца. *Мае ні глідзя́ць,— пакуля заўтрік зваріцца, ужо надзю́быюцца. Ты як вірябейчык: устаў і зразу надзю́бкыўся. Пашлі з горыда кра́сьніནькія, надзю́былiся ў рістырані. Етыя ні праморгыюць, надзю́бкыюцца, кылі будзіць за што.*

**Надзюлькацца, надзюлёкацца** *зак.* Наклікацца (парасят, свіней). *Пырысяткі ў Адаркіных учора вылізьлі і пабеглі па бульбі, во яны надзю́лькылiся, пакуля пысыбра́лі. Задзелый дзірьку зразу, ато як вы́рьвіцца сьвіньня, набегысься па полю, нудзюлёкысься.*

**Надзюшкацца** *зак.* Наклікацца (свіней). *Ну й надзю́шкылыся я ўвечырі: пырысёнык пад'еў, лёг у гнездо і ляжыць, а я бегыю, заву яго, шукаю.*

**Надзяўбацца, надзёўбацца, надзёўбцца** *зак.* 1. Надзяўбціся. *Лі снапоў нудзюўба́лiся, кыш сь сянец!* 2 *перан. гумар.* Пад'есці. *Ну як ты, ма́лый, нудзюўба́йся? — еж, еж, каша смашнінькыя. Ты ны ма́лых ні глядзі дужа, пакуля заўтрік зваріцца, яны с-пад рук надзёўбыюцца, то тоя, то тоя схвацюць. Ты ўжо ладна надзёўбся, ідзі пабегый.* **Надзяўбаный, надзёўбаный** *дзеепрым.* 1. Надарваны ў выніку дзяўбання. *Кінуў сенцы аччы́нітымі, куры тубуном уваліліся, зыйшла я, кы́шнула, а ўсе мяшкі ячменныя нудзюўба́ныя, зышыва́ць нада. Як жа ты пывязеш, кылі мяшкі надзёўбыныя, зукулупні троху.* 2. Сыты. *Ні галодзін ён, нудзюўба́ный ходзіць, кылбасу еў нідаўна с хлебым. Ня хныч,*

*ты ўжо надзёўбына, а кылі мала, блін вун вазьмі ў ла́ткі.*

**Надзячыць** *зак.* Набалбатаць, наплявузгаць. *Такей нейкій чылавек, хто што ныдзячыць, усё слухыіць і ўсяму веріць.* **Надзячыцца** *зак.* Набалбатацца, наплявузгацца. *Во тыкі ныдзя́чыўся і сьціх.* **Надзячаный** *дзеепрым. Я чуствыю, што яму узноў якой-то лухты ныдзя́чына: прішоў і на сьвет ні глядзіць.*

**Надоргаць** *зак.* 1. Навырываць. *Ма́лыя, наверна, кылячкоў надоргылі, яны тама бегылі, я сварілыся, каб нічога ня трогылі, дык ці яны паслухыюць.* 2. Нарваць. *Паліц праб'еш, пакуля ён надоргыіць, наму́чыісься, дужа баліць.* 3. Наванітаваць. **Надорганый** *дзеепрым.* 1. Вырваны. *Вун відзіш, надоргыныя каноплі выляюцца, во як яны гуляюць, твае хва́ліныя.* 2. Нарваны, нагноены. *Рука ў яго дужа больныя, надоргыныя зьверьху кылы пальцыў, на рожу выдаець.* 3. Наванітаваны.

**Надражніць** *зак.* Нацвяліць. *Як вам ня стыдна, дзіцёнка ныдражнілі, плачыць. Ныдра́жніця, што кініцца і ўкусіць.* **Надражніцца** *зак.* Нацвяліцца. *Ныдра́жнісься, што зловіць і ў крапіву пасодзіць, во тады пыдра́жнісься.* **Надражненый** *дзеепрым. Ого, якей ён сярдзітый буваіць ныдра́жніный, калі ня ймець рукамі справіцца, зубамі гатоў кусаць.*

**Надрамацца** *зак.* Падрамаць значны час. *На сту́льчыку надремліцца, а тады ўжо ту́шыць агонь, на печ лезіць.*

**Надрапацца** *зак.* Падрапаць сябе. *Нада баню тапіць ды мыць ма́лых, усё некылі за бульбыю, а яны ладна ўжо ныдра́пыліся.*

**Надрызкацца** *зак. іран.* Напіцца п'яным. *Ідзіця, ды глядзі, каб ні надры́зкыўся, ато ўзноў ніізьвесна што пычанець вытвыря́ць.*

**Надрынкацца** *зак. неадабр.* Нашвэндацца, набадзяцца. *Зыдалося бяспу́цьця на сьвеці, ні к я́кыму дзелу ні пріту́ркыіш, устаніць, пад'есьць і пыцягнуўся, надры́нкыіцца, прівылакецца — і ўся помышч яго.*

**Надтуханне** *н.* Патуханне. *Якоя нуттуха́ньня, кылі тама курчы́гі гыряць і ішчэ будуць гарець трі часы.*

**Надтухаць** *незак.* Пачынаць патухаць. *Печ ужо нуттуха́іць, скора дыгаріць, зымяту́ і пыбягім.* **Надтухнуць** *зак.* Патухнуць (не да канца). *Агонь наттýхніць, тады*

*гылавешкі нада заліць вадою, так нілізя кідаць, вецір падніміцца, усё можыць быць.*

**Надтушываць** *незак.* Змяншаць гарэнне. *Дужа ні дывай рызгáрівыцца, наттýшывый, каб ні шугаў агонь уверьх.* **Надтушывацца** *незак.* Змяншацца (пра гарэнне). *Ня дужа ж яно наттýшыіцца, агонь рузбушувáўся ого як.* **Надтушыць** *зак.* Зменшыць гарэнне. *Што ж ты дзелыіш, агонь аж пат крышу йдзець, нуттушы́ троху, ато будзіць як Архіпу: чаго яно зыгаріцца, я сам тут,— ат'ехыў у другей канец, а гумно пылаіць.* **Надтушыцца** *зак.* Зменшыцца (пра гарэнне). *Як у нас Амшара гарела, кажыцца, нуттушы́лыся, а тады ўзноў агонь пашоў гуляць і ды самыя вясны гарела.* **Надтушаный** *дзеепрым. Мала што наттýшына, можыць узноў рызгарецца, прінясі яшчэ вядро вады, залі ўсё.* **Надтушомшы** *дзеепрысл. Нуттушомшы кідыць нілізя, нада саўсім зыгасіць, каб нійдзе жарінкі ні астáлыся.*

**Надубасіць** *зак.* Адлупцаваць. *Цябе зы такея прадзелкі нудубáсюць, так ты ня вы́круцісься.* **Надубашаный** *дзеепрым. Учора пабег нудубáшыный, сяньня яшчэ большы палучыш, твае рёбры па лýпкі даўно плачуць.*

**Надудоліцца** *зак. жарт.* Нассацца. *Спакойный дзіцёнык, нудудоліўся і сьпіць. Так ня п'ець мылыка, а дай яму нудудоліцца ціряс соску.*

**Надудырыванне** *н.* Натапырванне. *Пыглядзі ты ны яго нудуды́рівыньня: кот сыбаку пужаіць.*

**Надудырываць** *незак.* Натапырваць. *Кот сыбаку як увідзіць, нудуды́рівыіць шэрсьць, каб прыгнаць.* **Надудырывацца** *незак.* 1. Натапырвацца. *Сыбакі адзін пірід адным нудуды́рівыюцца, а кінуцца быяцца.* 2 *перан.* Ашчаціньвацца, прымаць непрыступны выгляд. *Нечыга нудуды́рівыцца, кылі праўду гаворюць, раз ня ўмеіш дзелыць як нада, слухый.* **Надудырыць** *зак.* Натапырыць. *Сыбака нудуды́рiў шэрсьць і кінуўся к норіні, нешта пачуў тама.* **Надудырыцца** *зак.* 1. Натапарыцца. *Кошка ны сыбаку як нудуды́ріцца, кажыцца, зьесьць гатова.* 2. Ашчацініцца, прыняць непрыступны выгляд. *Чаго ты нудуды́рілыся, яны ж нічога хлопцы.* **Надудыраный** *дзеепрым. Стыяў нудуды́ріный, а яны нешта ўбаку шыптáліся, ці ні пры яго адна адной рыскáзывылі і ажно пылігáлі.*

**Надціх** *м.* Сціханне. *Ці будзіць калі нацьціх етыму*

*дажджу, усё пыгніець, патлеіць, ніякія травіны ня высушыш.*

**Надчаханне** *н.* Дапальванне (печы). *Што там тýхніць, кылі печ халодныя, ты паткінь нескылька бярёзывых палык, ніхай згыряць, тады будзіць ныччыхáньня.*

**Надчахаць** *незак.* Дапальвацца. *Печ ужо ныччыхáіць, скора зымятý ды пыстáўлю быракі ў лёхкыю печ, ніхай преюць.* **Надчахнуць** *зак.* Дапаліцца. *К полымю кулеш ні стынаві, ні зваріш, яго луччы пыставіць, як ныччáхніць, пыстаў ды жарком апкаці.*

**Надыбаць** *зак.* Пахадзіць з цяжкасцю. *Сколька я тут надыбыю, прайду раз ат аборка ды аборка.* **Надыбацца** *зак.* Нахадзіцца з цяжкасцю. *Пы іржышчу надыбыісься, яго ня дужа хырашо гресьць, тады ўжо саўсім ног ні пыцягнýць.*

**Надыбіць** *зак.* Натапырыць. *Кошка надыбіла шэрсьць ны шчынкá, а тэй і ныпрáўду уцікаць ат яе.* **Надыбіцца** *зак.* 1. Натапырыцца. *Відзіш, як сыбака надыбіўся, некыга чуіць пац стогым.* 2 *перан.* Ашчацініцца, прыняць непрыступны выгляд. *Мыкарёнык надыбіўся, ні пытхадзі к яму, а хлопцы за шкырку ўзялі — зразу аціх.* **Надыбленый** *дзеепрым. Абоя як пітухі надыбліныя стыяць і нысамі сморгыюць.*

**Надыйціць** *зак.* Прыйсці нечакана. *Нада ж було на етый слýчый Ігнацёнку ныдыйціць! Каб ні ныдыйшлі вашы кýдріцкія хлопцы, тут ба ні знаю, што магло быць.*

**Наесць** *зак.* Задаволіцца ў ядзе малой колькасцю. *Сколька яны наелі, толька ложкі памачылі, — гульня, мячык, січас ім ні ды яды.* **Наеджаный, наедзеный, наетый** *дзеепрым.* 1. Пакусаны, пагрызены. *Ліжала ў пýні нескылька кычанкоў, думыла, буду паткрышывыць патрошку сьвежыя капусты ў варіва, хвацілыся ўчора — усе наеджыныя. Наедзіныя быракі пареж у цугун спáріць. Палезла у погріб, цап — уся морква наетыя: мышы.* 2. Сыты, тлусты. *Яны ўжо наеджыны, таго разы два кулупнýта ложкыю с аднаго боку, уся міска нінычынáтыя. Яны сідзяць наедзіныя, ні нада іх звань. Ряжка наетыя во тыкая, увесь як кыбан рузгудувáўся, — во што значыць у выгыдзі жыць.*

**Наёрзаць** *зак.* 1. Пабалавацца, пападскокваць. *Я б вам наёрзыў, каб вы былі мае дзеці.* 2. Назбіваць. *Наёрзылі саломы зьверьху ня меншы воз, унізу выляіцца,*

*ведна, цэлый дзень тулува́ліся.* **Наёрзацца** *зак.* Набалавацца. *Ляглі, дык ціха сьпіця, ато ўніму, кылі вы ні наёрзыліся, дам спакой.*

**Нажадаваць** *зак.* Здаволіць да канца. *Цябе ніхто ні ў век ні ныжа́дывыіць, усё тваёй душэ мала, усё ні хвыта́іць.* **Нажадавацца** *зак.* Здаволіцца да канца. *Во прішло ўремя, і Цітанкі ныжа́дывыліся, усё ж мала зь іх було, і аць сена, і ад дроў ажно зытырха́ліся.*

**Нажалаць** *зак.* Нажадаць шмат. *Мне пляменьнікі прісллалі пісьмо, дужа хырашо пішуць, усяго ўсякыга ныжыла́лі.*

**Нажалець, нажалецца** *зак.* Нашкадаваць. *Ня тэй Лыўрінёнык чылавек, ня дужа ён каго ныжалеіць, ён усё дзелыіць з вы́гыдыю. Нас і людзі ныжалеліся, і дзед пымыгаў сколька мог, то шу́бычку пашыіць, то сплящець ла́пцікі.*

**Нажаніхаць** *зак. іран.* Паўшчуваць за заляцанні. *Ні ў мае ён рукі пупаў, я б яго ныжыніха́ла, атаўчы́ла б ад дуроў.* **Нажаніхацца** *зак.* Здаволіцца заляцаннямі. *Будзіць табе тоя са́мыя, як Валодзька ныжыніха́ўся: гуляў зь нейкыю бабыю, а яе браты: бяры, а не — знаіш, што будзіць,— і ўзяў.* **Нажаніханый** *дзеепрым.* *Другей раз пойдзіць ён ат'етуля ныжыніха́ный, эйш ты яго, як дура́чыцца наўчы́ўся!*

**Нажаніцца** *зак. іран.* Здаволіцца ад жаніцьбы. *Ныжаніўся ўжо, большы ні зыіка́іцца пры нявест, здаўся.*

**Нажвянькаць** *зак. неадабр.* Наплявузгаць. *Думыіш, яны так сабе стыялі? — не, ныжвя́нькыла тая пры Дзім'янёнка, іна ня ўцерьпіць, каб ні ныжвя́нькыць.* **Нажвянькацца** *зак.* Наплявузгацца. *Ідзі двору, сьвіньней нада карміць, ішчэ будзіць вам урем'я ныжвя́нькыцца.* **Нажвянькaный** *дзеепрым.* *Кірей ні так сабе дмецца, яму нечыга ныжвя́нькына, кума ў яго ніда́рым пуўдня сядзела.*

**Наждаць** *зак.* Пачакаць нядоўга. *Верь ім, многа нажду́ць, можа, мінутку пысідзяць і паедуць.* **Наждацца** *зак.* Начакацца. *Сколька мы ныжда́ліся ўчора, думыім, во пад'едуць, во пыка́жуцца, усе вочы прагледзілі.*

**Нажратый** *дзеепрым.* 1 *груб.* Сыты. *Чаму ныжра́тыму ні выгу́лівыцца.* 2. Прасякнуты вадой (пра снег). *Такея ёсьць лашчы́ны ныжра́тыя, будзіш іціць, іціць і па поіс шлы́кніш, нада дужа-дужа астарожна глядзець.*

**Нажубраваць, нажубравацца** *зак.* Нажыцца ў няста-

чы. *Ганна зы сваю жысьць нужубрувала, ні прівядзі бог сколька нугурювалыся. Ня ўсім роўна буваіць, адзін прыжывець — як сыр у масьлі прыкычаіцца, а другей нужубруіцца большы некуды.*

**Нажульнічацца** *зак.* Пажульнічаць шмат. *Пырядку тады ішчэ дужа ні було, а ён махырь ня промых, крепка нажульнічыўся.*

**Нажыванне** *н.* Набытак. *Прідлыгаіць: пыработый у мяне два гады, я табе дам кыня, карову, сьвіньню і аўцу, а я гыварю: я сыма зароблю, ета будзіць маё ныжываньня.*

**Нажытэй, нажытый, нажытнэй** *прым.* Набыты ўласнай працай. *Каб ета быў твой ныжытэй двор, тады б ты хваліўся, а чужым хвастыцца дренна. Сваё ныжытоя кажныму дорга. Ета, знаць, твой первый ныжытнэй пінжак. Шубка — дзела ныжытноя, каб бяды большыя ні було.*

**Нажэнцы** *мн.* Нажніцы. *У мяне такея лоўкінькія нажэнцы былі, усё пыдряд резылі і нейдзі зываліліся, ні найду.*

**Назабарсываць** *зак.* Падрыхтаваць (пра ўцягванне ў лапці абор). *На, многа табе лапцей нызыбарсывыў, трі пары, толька насі. Вун ён, дужа многа нызыбарсывыў, ды галоўкі прадзеў аборіну ў курцы і кінуў.*

**Назабаўляць** *зак.* Пазабаўляць непрацяглы час. *І Толік столька нузубуўляіць, сколька Шурік, дзьве мінуты пакруціцца ў хаці і пабег, а малый крічы, хуць парьвіся.* **Назабаўляцца** *зак.* Пазабаўляцца непрацяглы час. *Відзіш, сколька ён нузубуўляўся адзін — ужо ў шаічкі палошчыцца, хырашо, што міскі ні пырысквасіў. Дужа многа нузубуўляліся, мінутку пыбылі ў хаці і ўжо лазіюць пу гумну, пакуль катнецца каторый.*

**Назаварачываць** *зак.* 1. Паадварочваць (пра жывёлу). *Сам глядзі, ато малыя табе нызывырачыюць: зугуляюцца і ўвесь скот уваліцца у ярі.* 2. Папрымацоўваць (аглоблі да саней). *Нызывырачывыў, што завірты пыляцелі, цяперя шукай вярёўкі новыя прівязывыць.* **Назаварачывацца** *зак.* Наадварочвацца (пра жывёлу). *Ну што ета зы пацьцёлык, яго ж ні нызывырачыісься, ат ячменю атыгнаў — у вык ляціць.*

**Назадавацца** *зак.* Пазадавацца ўволю. *Аўгінкіна дычка нызыдывалыся, ня чутна і ня відна стала, во як буваіць з бальшога зыдываньня.*

**Назаўтрага** *прысл.* Назаўтра. *Што яны самі сабе думыюць, етыя хлопцы: сяньня ў адну дзярэўню бігаць, нызáўтріга у другую, у трецьцію, так жа дайжа стыдна бегыць пы дзіріўнях.*

**Назважываць** *зак.* Звезці шмат. *Нада, каб хто старейшый быў, ато адны яны многа нызвáжывыюць.* **Назважывацца** *зак.* Звезціся шмат. *Ладна капёшык нызвáжывылыся зу суботу.* **Назважываный** *дзеепрым.* *Саломы нызвáжывына многа, толька ёй ішчэ ряд нада даць, пріпуціць, складсьць пы-хызяйску.*

**Назгінаць** *зак.* Закончыць згінаць. *Ого, сколька ты абручоў нызьгінáў, можна ны прыдажу карзінкі плесьць. Нызьгінáлі клянок, што крэхнуў, німа дзеріўца.* **Назгінацца** *зак.* Пазгінацца. *Нызьгінáіцца, што тресьніць пупылáм, тады будзіш ікытáць.*

**Наздрыстый** *прым. перан.* Пульхны (пра хлеб). *Цеста калі хырашо падойдзіць, тады хлеб смашный, наздрістый.*

**Назірачкам** *прысл.* Назіркам. *Яны прітпылыгáлі, што ён ходзіць у бульбу, і праўда, пад вечыр зь мяшком пашоў, а яны нáзірычкым усьлед і зашчўчылі кылы кыпца — пыўмішкá нагрёб ужо.*

**Назнашываць, назнашывацца** *зак.* Назносіць. *І свае, і суседзі, і саўсем чужэя нызнáшывылі на первый случый, ну як жа, нада пыгарелкі паможч. Тыкая абўза, свае, нызнáшыюцца, зьдзелыюць атправіцільныю і людзей многа пызавуць.* **Назнашываный** *дзеепрым.* *Мы відзілі, сколька там чаго нызнáшывына, на цэлыю свадзьбу хваціла б.*

**Назнібецца** *зак.* Наныцца, наплакацца. *Ні засьнець, пакуля ні нызьнібіцца, што йта зы дзіцёнык зыдайся.*

**Назыкацца** *зак.* 1. Нагізавацца. *Сёліта назыкыліся ціляты: жарішча нівынасімыя, яны пряма места сабе ні ныхадзілі.* 2 *перан. гумар.* Набегацца. *Ты, мылышок, сяньня за дзень назыкыўся, усюдых пубувáў.*

**Назычыць** *зак.* Нажадаць. *Тыкая ж лісіца пляменьніца, як устреціцца: здрáстуйця, мыя цётычка — апцалўіць, нышчабечыць, усяго ўсякыга назычыць, распросіць пра ўсё чысьцінька.*

**Назюкаць, назюзюкаць** *зак.* Нагаварыць таемна. *Што ж табе аньціресныга кума назюкыла, ці ні рыскáзывыла што-небудзь пры Ціхонывых? На вушка нешта нузюзюкылі адна адной і давольны.* **Назюкацца, назю-**

**зюкацца** *зак.* Нагаварыцца таемна. *Пыдажджы трошку, яны назюкыюцца, часы ціріз два кончуць. Каб ім толька ўремя, ні знаю, калі б яны нузюзюкыліся — столька новысьціў у абеіх — зы нядзелю ні пірігываріць.*

**Назямляніцца** *зак.* Забрудзіцца зямлёй. *Калі бульбу у ямку носіш, як ні асьціпігайся, усё дно у хаці нызімляніцца: і зы нығамі носіцца, і так сыпіцца с карзін.*

**Наірдзіцца, наірдзецца** *зак. перан.* Пазлавацца доўга. *Ты б відзіла, як ён ныірдзіўся за ету баню, што пы яго ня выйшла. Ішчэ хваціць яму ўремя ныірдзецца.*

**Наірзацца** *зак. неадабр.* Набалавацца, насваволіцца. *Унімаць некыму було, дык яны ўжо ныірзаліся зы нядзелю, ажно хата ад дуроў рысьсідалыся.*

**Найстрыць** *зак.* Навастрыць. *Найстріць тапор бальшога уменьня ні нада, бярі брусок ды шырахый, а пілу навесьць — ні ўсякій нывядзець, тут нада ўмець.* **Найстрыцца** *зак.* Навастрыцца. *У мяне любэй ножык найстріцца, ніхай самый рустуэй будзіць.* **Найстраный, найстроный** *дзеепрым. Глянь-ка ты, як хырашо ножычык найстрін, войстрінькім і скабліць ладна. Пілка найстрёныя як агонь, сухей дуб режыць, ажно сьвішчыць.* **Найстромшы** *дзеепрысл. Найстрёмшы будзіш цісаць, а січас тапор туп як палка. Красьнінькій ножычык крепка найстрёмшы.*

**Накабызіцца** *зак.* Накапрызіцца. *Зымашкі ў яго ого якея, ня дужа ўладзіш ступіць піряд ім, ты б відзіў, сколька ён учора ныкыбызіўся ны свадзьбі.*

**Накавэнчыцца, накаенчыцца** *зак.* Намучыцца. *З войстрым са ўсім нада астарожна, Васіль цюкнуў тыпаром пы наге, рыскаціў косьці, сколька ён ныкавэнчыўся: плоха зыжывала. Застудзісься, тады ныкаенчысься, застуда так ні праходзіць, іна і ціряз многа гадоў можыць атрыгнуцца.*

**Наказыванніk** *м.* Той, хто карае. *Ты толька ны слывах дужа страшный ныказывыньнік, а на дзелі ты яго пальцым ні зачэпіш.* **Наказыванніца** *ж. Сь цябе ого ікая ныказывыньніца, ты пыкрічыш і ўсё, яны цябе нісколька ні быяліся і ні быяцца.*

**Накалантырыць** *зак.* Натузаць. *Зьдзелыць яны нічога ня зьдзелыюць, а ныкылантырюць ладна.* **Накалантырыцца** *зак.* Намітусіцца, натузацца. *Нейкій дзень сумашэчный быў, ныкылантыріліся абоя, аж гылыва кругым пышла.* **Накалантыраный** *дзеепрым. Ты каб*

*прішоў такей ныкылантыріный, то забыў ба пра шўтычкі.*

**Накалашмаціць** *зак.* Натузаць. *Я б цябе ні так ныкылышмáціў, каб ты быў мой дзіцёнык.* **Накалашмачаный** *дзеепрым. Ныкылышмáчыный прібягіць і хвáліцца: во мы ім далі!*

**Накалдыбацца** *зак.* Накульгацца. *Летыся усю зімычку так балелі ногі, ныкалдыбылыся, ступіць ні мыгла. Пакуля тут ныкылдыбáісься, тады к тым сьпяшы́.*

**Накалпачыць** *зак.* Нападманваць. *Ён нійдзе ня быў, дужа нічога ня відзіў, ныкылпáчуць яго ўсе, хто ўздумыіць, нада, каб з большым сь кім пысылáць.*

**Накалупаць** *зак. перан.* Назапасіць пакрысе, па дробязі. *Яшчыхіна дычка ні тыкая рыськідон, як ты, іна нукулупáіць грошы і купіць што нада.* **Накалупаный** *дзеепрым. Ні плач, ні плач, у цябе грошы ладна нукулупáна.*

**Накальжэцца, накальчэцца** *зак.* Намерзнуцца. *Сколька я, бувала, ныкальжэюся, пакуля шчаўлю нышчыплю. У стáрінькій шубёнкі ныкальчэісься, ныдзівай новый пулушубык, цэл ён будзіць.*

**Накамкаць, накомкаць** *зак.* Накамячыць. *Кучу бумагі ныкымкáў, кылы патпечча ляжыць, у печ укінуць будзіць. Нехта бумагі накомкыў пыдззагнецьця, пылажыў ба роўнінька, було б пыттáплівыць дровы.* **Накамкацца, накомкацца** *зак.* 1. Накамячыцца. *Усяго ныкымкáлыся, нада рызыбрáць. Як накомкыіцца тряп'ё, хут ты выкідáй.* 2 *перан. гумар.* Наесціся. *Сядзіць, бульбы ныкымкáіцца, мылаком зап'ець і пыдаўся на вуліцу, як пан. Як толька с пасьцелі, так і пыдывай яму есьць, накомкыўся і зы цацкі.* **Накамканый, накомканый** *дзеепрым. Ныкымкáныя бумажкі пыдмяці ґ загнету. У етый ступі многа чаго накомкына, пыспрабўй рызьбярíся.*

**Накамсаный** *дзеепрым.* Надзеты празмерна цёпла. *Ныкымсáный як куль, пывярнуцца ня можыць, а ня то лупатыю мыхаць.*

**Накамсіць** *зак.* Набіць, натаўчы. *Каб, кажыцца, дыгнала яго ці хто прівёў мне, ну й ныкамсíла б, пыкызала б, як ня слухыць.* **Накамшоный** *дзеепрым. Не, маліц, ныдаелі мне твае конікі, ні паслўхыіш — пойдзіш ныкамшоный ат'етуля.*

**Наканархаць, наканархацца, наканырхаць, наканырхацца** *зак.* Напрасіцца. *Кылі Ікімёнку у рукі пупала, то палучыш, будзіць палўчына, ныкынáрхыіш ладна і ішчэ ні аддасьць. Табе нечыга сьміяцца, ты ня меншы мяне*

*ныкынáрхыўся. Ты ні знаіш, сколька ён ныканы́рхыў, каб аддылá мячык. Пакуля дапросісься чаго-небудзь, ныканы́рхыісься, дужа нісызнáцільный чылавек.*

**Наканіцеліць, наканіцеліцца** *зак.* Нарабіць валакіты,важданіны. *Я знаю, як яны абішчаюць: ныкыніцелюць і нічога ня зьдзелыюць, мне ўжо сколька разоў так було. Каб ты знаў, сколька мы ныкыніцеліліся зь естым дыстывáньнім: то адно ні так, то другоя ня етык.*

**Наканькацца** *зак.* Напрасіцца. *Увідзіла у Аленкі красівыя плáцьціка, што ныкáнькылыся: купі і мне такоя.*

**Накапавіч** *м.* Вілы для накідання гною. *Калі-то ў мяне быў лоўкій ныкáпывіч, я, бувала, у мінуту воз гною ныкідáю.*

**Накапашыцца** *зак.* Наварушыцца. *Мáлыя ўсігда так: ныкапошуцца і заснуць спакойна.*

**Накапцець** *зак. перан.* Нажыць, пражыць. *Не, мае вы бáбычкі, я многа на етым сьвеці ні ныкапчу́, і баліць ўсё, і коліць, і ломіць усюдых.* **Накапцецца** *зак.* 1. Набрацца копаці. *Ета ат лампы накапцелыся так.* 2 *перан.* Нажыцца. *Ныкапцецца на сьвеці — ета ня жызьня.*

**Накаравіць, накаравіцца** *зак. перан.* Зняславіць, зганьбіць да канца. *Кажный раз ныкырявюць, кажным куском хлеба пыпікáць будуць, — пызнáіць зяці і як бацьку з маткыю ня слухыць. Пакуль кажныга ні ныкырявіцца, ня сьціхніць, — чаго ў яе тыкая натура акыя́нныя.* **Накараўленый** *дзеепрым.* *Луччы ні зьвя́зывыйся, калі ня хочыш быць ныкыря́ўліным.*

**Накараскаць** *зак.* З'явіцца, наваліцца нечакана. *Во яшчэ ныкырáскыла горя ны маю гылаву, каб я адна, я ж ба знала, калі мне ўстаць, што мне зварыць, куды пайціць, а так усё пры яго думый.* **Накараскацца** *зак.* Назойліва напрасіцца. *Мы ўжо адны сыбрáліся іціць — не, і етый хлюст ныкырáскыўся з намі.*

**Накарожыцца** *зак.* 1. Намучыцца, наплакацца, нахныкацца. *С пасечыныю нагою ныкарёжыўся, такую боль нялёхка цярьпець. Ці ў яго баліць што, ці так прівык ужо, кажный раз пакуля ні ныкарёжыцца, ні засьнець.* 2. Назадавацца. *Шкет шкетым, а столька ныкарёжыўся, пакуль Аўсей ні ўспакоіў.*

**Накарствавацца** *зак.* Намучыцца. *З балезьнімі ніхто ня ўскрес, вазьмі ты, сколька Мархва ныкáрствывылыся з ныгамі.*

**Накарцініцца** *зак. гумар.* Упрыгожыцца. *Як ку́кылка ныкарцінілыся, толька любуйся ны яе.*

**Накарыць I** *зак.* Ачысціць ад кары. *Ныкарі́ў асіньніку, роўнінькія паплеціны, адна ў вадну, хва́ціць і ны хату, і на пуню.* **Накарыцца** *зак.* Стаміцца акорваючы. *Я сяньня ныкарі́ўся, ажно рукамі ні пывярну́, у плічах быляць.* **Накораный** *дзеепрым. Ельнік накоріный кучыю ляжыць, харошыя крю́чча, ні знаю, калі ён яго прівёз.*

**Накарыць II** *зак.* Нагаварыць папрокаў. *Што ўжо ныкаріла Пылага Сумусёнка, гаворіць, як табе ня стыдна людзям на вочы пыка́зывыцца, як табе ні стра́мна пы дзяреўні хадзіць.*

**Накарэбкацца** *зак.* Палазіць, налазіцца. *Ныкарэбкыісься, што зьляціш і ладна гнітанесься, тады ні пішчы́.*

**Накасаць, накаснуць** *зак.* Навязаць, зрабіць клопатам. *Ныкысала іх ны маю гылаву, тута бязь іх дыхыць некылі, а яшчэ і чужых людзей глядзі. Ныкасну́ла етых квырціра́нтыў, сыма сабе клопыту надзелыла, што ўзіла.* **Накаснуцца** *зак.* Навязацца, зрабіцца клопатам. *Нада бежч палоць, трыва па льну гудзіць, а тут госьці ныкасну́ліся, і пыгываріць аньціресна, рыспрасіць пра ўсё, і ўремя німа.*

**Накаўзацца** *зак.* Накатацца (на каньках, саначках). *Нукуўза́ліся, што пар зь іх ідзець стаўбом, давольныя прібеглі. Як нукуўза́юцца, ім і ў кніжку глядзець некылі, крупені пиріхва́цюць і спаць скарей.*

**Накаць** *ж.* Накат. *Крепкыя на́кыць, підзьдзісят гадоў прыстаіць. Мы ў сорык чацьвёртым, як немцыў пыгналі ад Горык, на́кыці у бліндыжа́х рызьбіра́лі і дзелылі сабе ха́ччынкі.*

**Накашаляць, накашаліць** *зак.* Накласці абы-як, навáліць. *Ныкышыля́ў хворысьця кыла печы, што ґ загнету ні пуцступіцца. Ты ў сенцых ныкышаліў ны мяшкі ўсякыга лому, як зыгрі́міць калі ўніз уночча, пытхва́цісься глядзець.* **Накашаляный** *дзеепрым. У пуні ўсякыга бырыхла́ ныкышыля́на, там каб прібраў акуратнінька, праход зыграможджын, саку можна б скласьць.* **Накашалёмшы** *дзеепрысл. Вот-вот тваё гыраджэньня пыляціць, так ныкышалёмшы, яно ліжаць ня будзіць.*

**Наквакліванне** *н.* Квэцанне, пэцканне. *А ну вас і з ыкква́клівыньнім вашым, ёсьць мне ўремя хадзіць усьлед зь вехцім ды выцірать.*

**Наквакліваць** *незак.* Пэцкаць, намазваць. *Хва́ціць*

*табе нықвáклівыць кругом шáік, там мост і так ні прысыхáіць ні разу.* **Наквакліваца** *незак.* Пэцкацца, намазвацца. *Усігда тут нықвáклівыіцца, як ты астарожын ня будзь.* **Наквакліць** *зак.* Напэцкаць, намазаць. *Пыглядзі ны сваіх ідуной: куляшу ны скамейку нықвáклілі і варзёпыюць — зыняція найшлі.* **Наквакліцца** *зак.* Напэцкацца, намазацца. *Дос ужо ім, нықвáкліліся, зыбярі міску ды абмый трошку абоіх.* **Наквакленый** *дзеепрым.* *Ікая ж ты хызяйка: кругом чугуноў цеста нықвáкліна, а табе і ня дýмыіцца прібірáць.*

**Наквактацца** *зак. перан.* Настагнацца. *Калі ты ўжо наквокчысься тама, вісна ны дваре, пры ўсядзьбу нада думыць, а ні ліжаць.*

**Наквэцацца** *зак.* Напэцкацца. *Табе многа нада ўремя наквэцыцца, а мне ждаць некылі.*

**Накіданнік, накідываннік** *м.* Той, хто накідвае, займаецца накідваннем. *Стыяць нықідáньнікі зь вілкымі, коні дыжыдáюць. Калі сіла ўся, то ўжо нівáжный накідывыньнік, ніхай ідуць кряпчэйшыя.* **Накіданніца, накідываніца** *ж.* *Зымаріліся нашы нықідáньніцы большы некуды, такую пуню гною узыдраць няпроста. Сяньня накідывыньніцым гулявэй дзень, два вазы накідыюць і сідзяць ны бярне пыць сьцяною.*

**Накладаннік, накладываннік** *м.* Той, хто накладае, займаецца накладаннем. *Твой нықлыдáньнік ішчэ пірібірáнку на воз ні пыдáсьць. Ня дужа вашы нықлáдывыньнікі хочуць шывяліцца, у ряке пуўдня сідзяць бяз вылызу.* **Накладанніца, накладыванніца** *ж.* *Ні жалей ужо, нықлыдáньніца, ні жалей, пылажы большы, ні пыбяднеіш. Стыряіцца нықлáдывыньніца, пымагі ёй пыдаць атаву наверьх вілкымі.*

**Наклатый** *дзеепрым.* Накладзены. *Чаго ж стыяць з нықлáтымі вызамі, нада ехыць, вечыр ужо нідалёка.*

**Наклеіць** *зак. перан.* 1. Вызначыць, прызначыць (штраф, пакаранне). *Яму, знаць, ладна за лес наклеілі, учора суд быў. Кылі пупадýць з ношкыю, другей раз ня столька наклеюць.* 2. Пабіць. *Як зловюць аднаго, дык наклеюць хырашэнька, тады ты пірістáніш к людзям прістывáць.* **Наклееный** *дзеепрым.* 1. Вызначаны, прызначаны (штраф, пакаранне). *Я знаю, сколька яму було наклеіна.* 2. Нанесены (пабоі). *Яму наклеіна як нада, ніхай сам пыхвáліцца за што.*

**Наклуміць** *зак.* Натлуміць. *Мяне дзеці за дзень нук-*

*лумілі знаіш як, нікуды я ні пайду.* **Наклуміцца** *зак.* Натлуміцца. *Пріедуць мае — скажу, зыбірайця і гадуйця самі, я ўжо нуклумілыся, мне спакой нада.* **Наклумленый** *дзеепрым. Гылыва наклўмліныя, і гудзіць, і ніізьвесна што ў ёй творіцца.*

**Наклыпаць** *зак.* Папахадзіць з цяжкасцю (пра слабога). *Папомніш маё слова, што ваша стáрыя многа ні наклы́пыіць, іна дайжа на від дужа слаба.* **Наклыпацца** *зак.* Нахадзіцца з цяжкасцю (пра слабога). *Сяньня я наклы́пылыся, палезу, хуць мінутку ны паду пагреюся.*

**Накляваццa** *зак.* 1. Надзяўбціся. *Куры нуклювáліся, гані пат печ.* 2 *перан. іран.* Наесціся, напіцца. *Вы, відна, там ладна нуклювáліся, што такея вясёліںькія.*

**Накляпацца** *зак.* 1. Стаміцца, клеплючы косы. *Мой ныкліпáўся зы раньня, бабы адна за дною ідуць і йдуць: пыкляпі мне, пыкляпі мне.* 2 *перан. іран.* Набалбатацца. *Раз кучыю сыйшліся, пакуля наклеплюцца, ні разойдуцца.*

**Накрындзядзюліць** *зак. неадабр.* Набалбатаць паволі, крывячыся. *Што вам тута кума ныкріньдзядзю́ліла, іна ж была ны свадзьбі, многа чаго чула.* **Накрындзядзюліцца** *зак.* Набалбатацца паволі, крывячыся. *Ім ныкріньдзядзю́ліцца нада ні адны судкі, усякыю лухту мелюць і мелюць бісь пірістáнку.*

**Накрышка** *ж.* Крышка, накрыўка. *Нáкрышка ну гуркáх як заплесьніiць, яе абмыць нада, каб чысьціںькыя была. Памянш.* **накрышачка.** *Нейдзі нáкрышычка зь бітончыка пыцірялыся, ніійдзе ні магу найцiць. Пыкладзі накры́шычку ны гырлач зьверьху, каб ні сурнýлыся.*

**Накукобіцца** *зак.* Наваждацца, нанянчыцца. *Я ўжо з мáлымі нукукобілыся, знаю, сьпірва аднае дачкі нянчыла, тады прішлося другея дачкі вазіцца.*

**Накуксіцца** *зак.* Наплакацца (пры недамаганні). *Як зýбкі режуцца, тады мáлый накýксіцца, яно больна, пішчыць, плачыць, горя тады зь ім.*

**Накулажыцца** *зак.* 1. Пахмарыцца. *Во табе й нукулáжылыся, ужо рызгыня́іць.* 2 *перан.* Паплакаць (пры недамаганні). *Зы ўчырáшній дзень мáлый нукулáжыўся, вочкі пыкрасьнелі, ці ён прістыў, ці што-небудзь другоя ў яго.*

**Накуламесіць** *зак.* Натаўчы, намясіць. *Лі парога рызьмя́кла, пырысяты с курямі нукуламесілі, рáзу ступіць нейдзі, нада пяску насы́пыць.* **Накуламесіцца** *зак.*

Натаўчыся, натоўпіцца. *Каб ты так нукуламесіўся кажный дзень, як я, тады б ты скарей падумыў ці кынайкі прыкыпáць, ці зямлі пацсы́пыць у пуні.* **Накуламешаный** *дзеепрым. Лі сянец у цябе нукуламешына, ні стáніш.*

**Накулдыкацца** *зак.* Накуляцца. *Ты нукулды́кыісься і будзіць шыйка балець. У сьнягу як нукулды́кыюцца, пріходзюць двору мокрыя з гылавы да ног, сушу, пірідзівáю.*

**Накурняўкаць** *зак.* Накрычацца да пэўнага выніку (пра ката). *Я цябе січас нукурня́ўкыю: кылбыса ну тубурецiку ліжала — украла і яшчэ шукаіць.* **Накурняўкацца** *зак.* Пакурняўкаць доўга. *Кошычка як-то пацэлілыся, злавіла мыш, пычыла гуляць, а тая ўцікла, што йна нукурня́ўкылыся, пы саломі бегыла, шукала,— вазьмі тря́сцы, ці мыш будзіць другей раз цябе ждаць.*

**Накухтываць** *незак.* Захутваць. *Дужа крепка ні накýхтывый, яму жарка будзіць, ета ніздарова.* **Накухтывацца** *незак.* Захутвацца. *Ты накýхтывыісься усё дно як проця кыля́дных марозыў.* **Накухтаць** *зак.* Захутаць. *Накýхтыла, што яны ў цябе як пукі, ні павернуцца.* **Накухтацца** *зак.* Захутацца. *А накýхтыўся ж, куды ты сыбраўся так ехыць, цябе ніякій мароз ня пройміць.* **Накухтаный** *дзеепрым. Ён накýхтын, што дайжа у санычкі ні пасодзіш, ня месьціцца.*

**Накырхаць, накэрхаць** *зак. перан.* Пажыць, моцна кашляючы. *Зь яе здароўім многа ні накы́рхыіш, хырашо, кылі ды вясны пыліпіць, дужа-дужа слаба. Во відзіш, многа твой Антон накэрхыў.* **Накырхацца, накэрхацца** *зак.* Накашляцца з хрыпам. *Увосінь зустудзіўся крепка, што ўжо накы́рхыўся зы зімý, ніяк праступа ні прыхадзіла. Прастýджыный ні адзін ня ўскрес, прастудзісься, дык накэрхыісься, балезьню пулучыць лёхка, а выганя́ць дужа трудна.*

**Наласкатаць** *зак. неадабр.* Набалбатаць. *Табе нядоўга нылыскытáць усяго, у цябе язык ціряшчýр лёгінькій.* **Наласкатацца** *зак.* Набалбатаццца. *Ці ты думыіш, ждаць цябе стáнуць, пакуля ты с кумою ныласкочысься?*

**Налахаць** *зак. асудж.* Набалбатаць. *Ці відзіў, ці дайжа саўсім тама ня быў, каб толька нылáхыць усякія трілю́ды.* **Налахацца** *зак.* 1. Набегацца. *Не, такой нада пяць дзірявень аббежч, каб нылáхыцца.* 2. Набалбатацца. *Можа ж калі прідзіць урем́я, што й Пуўлюкоўна нылáхыіцца.*

**Налашчыць** *зак.* Напялегаваць, напесціць. *Пакуля ныла́шчыць сваю дырагенькыю, і сонца ўзойдзіць, спаць некылі.* **Налашчыцца** *зак.* Напялегавацца, напесціцца. *Ты як ма́ленькій: ныла́шчысься, а тады ўжо зьбіраісься ў школу.* **Налашчаный** *дзеепрым.* *Твыя ныла́шчыныя кошычка і апцыра́пыла цябе.*

**Налаяць** *зак.* Палаяць, аблаяць моцна. *Ныла́іл̄і яго большы некуды, троху пыкрасьнеў і муўчаў сагнуўшы гылаву. Што, кылі яны ныла́іл̄і, кыпа ўся разьбіта, гурцува́ліся цэлый вечыр ку́чыю.* **Налаяный** *дзеепрым.* *Ня хочыш іціць як нада, пойдзіш ныла́іный, я ні пыгляджу́, што ты чуб адгудува́ў як пымяло.*

**Налескатаць** *зак. неадабр.* 1. Набразгаць. *Ім дай волю, яны ныляскочуць, і мылаткі ня будзіш знаць айдзе шукаць.* 2 *перан.* Набалбатаць. *Чы́шчы яе ныліскыта́ць ныўряд ікая другая ці найдзіцца, тыкая ўжо мысьцяріца, што ні прідý мыіш.* **Налескатацца** *зак.* 1. Набразгацца. *Кіньці-ка вы сваё жалезьзя, ато ніяк ні ныляскочыціся.* 2. Набалбатацца. *Знаць, ныліскыта́ліся, рызвылакліся, на́да кароў даіць, а каб ні каровы, яны б тут і нучува́лі.* **Налескатаный** *дзеепрым.* Набалбатаны. *Тама, я знаю, і ні прідýмыіш, чаго тому Высілю ныліскыта́на.*

**Налёпаць** *зак.* 1. Наляпіць. *Налёпыла гліны і ні прібрала, так іна і ляжы́ць, зысыха́іць.* 2. Пабіць нямоцна, напляскаць. *Злавіла свайго і налёпыла, каб ні ба́лывыўся.* **Налёпацца** *зак.* Наляпіцца. *Што ж у цябе налёпылыся як зря, нада було зразу сырую гліну рызгла́джывыць пы сьцяне.* **Налёпаный** *дзеепрым.* 1. Налеплены. *Налёпыныя цеста атмува́й, пакуля сыроя, засохніць — тады скресьць будзіш.* 2. Пабіты нямоцна, напляска ны. *Што налёпыный хны́кыіць — ніхай пахны́кыіць, як хлыбазіну вазьму, тады ныпра́ўду зырявець.*

**Наліваннік** *м.* Той, хто налівае. *Твой ныліва́ньнік ішчэ міскі як нада ў руках дзіржаць ня ўмеіць.* *Памянш.* **наліваннічак.** *Знаіць ныліва́ньнічык, што чарепыць, мяса з дна выбіра́іць.* **Наліванніца** *ж.* *Пышла ныліва́ньніца, каб там чугункоў ні пыбыра́чывыла.*

**Наліпач** *м. рэдкаўж.* Таўкач, да якога прыліпае цеста. *Апскрябі ныліпа́ч ці саўсім абмый у тазу.* *Памянш.* **наліпачык.** *Ныліпа́чык у кычарежніку, вазьмі й пытаўкі, ета работа ні цяжолыя.*

**Наліпець** *зак.* 1. Павісець, ледзь трымаючыся. *Вазьмі карзінку ды апт рясі яблыкі, ато яны ў цябе ныліпя́ць:*

*хто-небудзь паццэліцца ды аптрясець.* 2 *перан.* Пажыць (са слабым здароўем). *С такім здароўім многа ні ныліпіш.*

**Налузкываць** *незак.* Атрымліваць пры лузанні. *Я за́дзінь па решыту квасолі налу́зкывыла, бувала, ажно пальцы парежыш стручка́мі.* **Налузкывацца** *незак.* 1. Пачынаць вылузвацца. *Боб пасьпеў, стручкі ўжо налу́зкывыюцца, нада аба́рвывыць.* 2 *перан.* Намячацца. *У Кіреівых свадзьба, па-мойму, налу́зкывыіцца.* **Налузкаць** *зак.* 1. Налузаць. *Налу́зкый стручкоў, я зварю крупені с квасольлю, с ахоткі зьесца. Многа арехыў нулузка́ў, харошыя, сьпелыя.* 2 *перан.* Набіць. *Нейдзі ву́тык нулузка́ў, нёс за шыі.* **Налузкацца** *зак.* 1. Налузацца. *Нешта ж у цябе дужа мала гароху нулузка́лыся, ты яго, знаць, пылавіну паеў.* 2. Стаміцца лузаючы. *Скора ж ты налу́зкыўся, што с кніжкыю сеў. Іна нулузка́лыся, ніхай трошку пабегыіць.* 3 *перан. гумар.* Наесціся, напіцца. *Сам увідзіш, што найдуць, налу́зкыюцца.* **Налузканый** *дзеепрым.* 1. Налузаны. *Сколька ў цябе тут налу́зкына, адна горсьць, сядзь пудлузка́й. Нулузка́ныя арехі нада ішчэ пуцсушы́ць, ны зіму будуць.* 2 *перан. гумар.* Поўны, сыты. *Ніпірябірлівый мальчык, што стреніць, то й зьесьць, відзіш, налу́зкыный бегыіць. Ня бойся, ні галодны, нулузка́ныя пабеглі.*

**Налупасіць** *зак.* Адлупцаваць са злосцю. *Крепка нулупа́сілі Міцю, айдзе яго й храбрысьць дзелыся, прі́ціх як мыш.* **Налупасіцца** *зак. перан. гумар.* Наесціся. *А што яму, капусты зь мясым нулупа́сіўся, ходзіць і жывот пыгла́джыіць.* **Налупашаный** *дзеепрым.* Адлупцаваны са злосцю. *Пыбягіш ты ат мяне нулупа́шыный, яйбогу, пыбягіш, ня буду я тваё балыўства цярьпець кажныю мінуту.*

**Налухціць, налухцець** *зак.* Нагаварыць глупстваў. *Каця можыць такея тріл́юды нулухціць, што ты дайжа ува сьне ні сасьніш такога. Яны тута многа чаго нулухцелі, мы ня ўсё слухылі.* **Налухціцца, налухцецца** *зак.* Нагаварыцца, наплявузгацца. *Стой ты, яе дыжыда́й, пакуль іна нулухціцца, ніхай конь у бульбі топчыцца. Нулухцецца ім уремя нада ды ўремя, су́дкымі гатовы сядзець на етый лавычкі.*

**Налыскацца** *зак.* Напіцца. *Ты ім паверіў, грошы дай, цяпер налы́скыюцца, будуць сь песьнімі каціць з горыда, сустрюкай.*

**Налюкаць** *зак.* Накрычаць, насварыцца. *Як налюкыіш, дык нябось ты, гылаву троху сагнець моўчынька, а так жа уходу німа нійдзе.*

**Наляганне** *н.* 1. Абляганне, прыцісканне. *Відзіш, што ат твайго нылігáньня пулучылыся: треснула пірікладзінка. 2 перан.* Прымус. *Каб ны цябе такоя нылігáньня було са ўсіх бакоў, і ты б ня ўстоіў.*

**Налягацца** *зак.* Налягаць. *Будзіш так нылігáцца, і аблумáіш край у карзіні, іна ня дужа крепкыя.*

**Наляпіць** *зак. перан.* Пабіць, напляскаць. *Крепка яму ныляпілі, запомніць, як ш чужымі чыпáцца.* **Наляпёмшы** *дзеепрысл.* 1. Наляпіўшы. *Тута ныляпёмшы куляшу ці нейкыга цеста, ні сядзь. Пісьма нільзя кідаць, ні ныляпёмшы мáрык.* 2. Пабіўшы, напляскаўшы. *Пашлі, ныляпёмшы Аўдзяёнку, ні пачыкыліся зь ім.*

**Намаліць** *зак.* Палічыць малым. *Нымáліш ты яго, пакуля зы хахольля возьміць.* **Намаліцца** *зак.* Палічыць сябе малым. *Во нымáліўся, цірізь нядзелю свадзьба будзіць.*

**Намамыліваццa** *незак. іран.* Дзьмуцца, нахмурвацца. *Нечыга нымамылівыцца, зы такея дуры каб і мыхрáч пы плічах пыхадзіў, ні ў чужоя б места було.* **Намамыленый** *дзеепрым. Я зайшоў — сядзіць нымамыліный, спрашыю, чаго ты — маўчыць, толька носым сапець.*

**Намамырываццa** *незак. іран.* Дзьмуцца, нахмурвацца. *Я б яго жыва атаўчыў нымамырівыцца, іш, цаца ікая, слова яму ні скажы.* **Намамыраный** *дзеепрым. Ну дык што, кылі ён нымамыріный, пысядзіць, пысядзіць і атойдзіць.*

**Намасліцца** *зак. перан. неадабр.* Наваждацца. *Многа нымáсьліўся с тубуреткымі, можна було так і ні дывадзіць.*

**Намасоліваццa** *незак. неадабр.* Пэцкацца ў тлушч. *У нікурáтныя гыспадыні і падол, і полы нымасолівыюцца.* **Намасоліцца** *зак.* Запэцкацца ў тлушч, наваждацца. *Кінь ты ўжо ету костку, ты зь ёю нымасоліўся большы некуды.* **Намасоленый** *дзеепрым. Нымасоліныя тряпкі складзі адзьдзельна, бяльлё іш шчолыка выню, а ета ўсё туды ўкіну, ніхай пымікáіць хырашэнька.*

**Намататорыцца** *зак.* Накешкацца. *Перва нада карову пыдаіць, ш чыріпкáмі пасьпеіш нымытаторіцца, а с каровыю як спозьнісься, за сьветым дыгыняй табун.*

**Намахываць** *незак.* Накідваць. *А ну-ка пірістáньця*

*усякыга пыльля́ нымáхывыць у іструб, хто посьлі вымітаць будзіць.* **Намахаць** *зак.* Накідаць. *Чаго ты ліжаў на печы, чаго ні путуріў іх, поўныя сенцы сьнежык нымыхáлі, ідзі прібірáй. Я цябе січас нымыхáю, як злаўлю.* **Намаханый** *дзеепрым. Сьнежык нымыхáны поўныя сенцы, вылітай, кылі хочыш.*

**Намацюкаць** *зак.* Налаяць. *Толька стрену Андрея, ну й нумуцюкáю, разьві ж можна цярьпець, што ён тварíць.* **Намацюкацца** *зак.* Налаяцца. *Нумуцюкáўся і пашоў новыя пута віць, ета ж нада кабы́лі наўчы́цца — лазовыя пута пірігрызáіць.* **Намацюканый** *дзеепрым. Ці ён адзін раз нумуцюкáный, ны яго ўжо нічога ня дзействыіць.*

**Намашараваць, намашаравацца** *зак. неадабр.* Нагаспадарыцца. *Нымышару́іць, што я ыпрашу яго ат'етуля. Ты ўжо нумушурувáўся тут большы ні нада, усё рыўна як у сваім дваре рыспыріджáўся.*

**Наменець** *зак.* Зрабіць залішне малым. *Наменіш, што каротка будзіць, нада хырашэнька памерíць, а тады атрізáць.* **Наменены** *дзеепрым. Ну што ты з наменіных кусочыкыў будзіш дзелыць, у печ паколіш і большы нічога.*

**Намітусь** *прысл.* Крыж-накрыж. *Прыцягні, прыцягні намітусь нескылька лазíн, і трошку пыдзяржы́цца, хуць пару дней. Трошку зысьцябні намітусь і ладна будзіць.*

**Намлецца** *зак. перан.* Павыказваць неадольнае жаданне. *Пачулі, што я ў Віхряны еду, сколька яны намлеліся: мы тожа хочым ґ дзеду зьезьдзіць.*

**Намуздаць** *зак.* 1. Нацугляць. *Нумуздáіш, што конь вы́рьвіцца і саўсім уцякець, тады яго ня зловіш.* 2 *перан.* Пабіць бязлітасна. *Ну ні пупалі цябе лі капёшкі Сьціпыняты, яны б цябе так нумуздáлі, што ты б ныўсігдá зарёкся трогыць сена.* **Намузданый** *дзеепрым.* Адлупцаваны бязлітасна. *Ты ішчэ ні пріхадзіў нумуздáный, дык прідзіш, так табе ні абойдзіцца с тваімі зыдáчымі.*

**Намурзачываць** *незак.* Заквэцваць, замазваць. *Сядзіць і нумурзáчывыіць кошку, во паміць у дзіцёнка!* **Намурзачывацца** *незак.* Заквэцвацца, замазвацца. *Пірістань нумурзáчывыцца, ідзі рукі памый.* **Намурзаціць** *зак.* Заквэцаць, замазаць. *Нумурзáціў і ліцо сабе, і рубáшычку, затоя пад'еў.* **Намурзаціцца** *зак.* Заквэцацца, замазацца. *Ні нада яму дываць большы нічога, ты відзіш, як ён ужо нумурзáціўся, ні пызнáць стáла.* **Намур-**

**зачаный** *дзеепрым. Сядзіць, як пузыʼрь, нумурзáчыный, толька пыхціць.*

**Намурзываць** *незак.* Вымазваць. *Корміць мáлыга і намýрзывыіць, я ўжо скарей абмуваць бяруся.* **Намурзывацца** *незак.* Вымазвацца. *Ежця, толька акуратнінька, ні нада намýрзывыцца.* **Намурзаць** *зак.* Вымазаць. *Ты ня столька накорміш дзіцёнка, сколька намýрзыіш.* **Намурзацца** *зак.* Вымазацца. *У што етый дзіцёнык намýрзыўся, зыляпіў і ліцо, і рубашычку, ці кулеш нейкій, ці цеста.* **Намурзаный** *дзеепрым. Намýрзыный сядзіць у пасьцілкых, толька вочы блішчаць.*

**Намшоный** *дзеепрым.* Пракладзены мохам. *Бáнька ўсігда дылжна быць крепка намшоныя, яе мшаць дайжа луччы, чым хату, каб дух ні выхадзіў.*

**Намыкываць, намычываць** *незак.* Рабіць (пра мычкі). *Па лýбкі мычык намыкывылі і зы два дні ўтрёх пыпрідáлі. Я многа ня буду намычывыць, некылі прясьць, выляцца будуць.* **Намыкаць, намычыць** *зак.* Нарабіць (пра мычкі). *Увечырі прясьць ужо ні хацелыся, дык я троху мычык намыкыла. Ты прядзі, а я січас яшчэ трошку намычу.* **Намыкацца, намычыцца** *зак.* Нарабіцца (пра мычкі). *Дыпрідáй ужо етыя, намыкыюцца і заўтря. Сколька намычыцца, столька й ладна, худзь ба ета пыпрясьць.* **Намыканый, намычаный** *дзеепрым. Нічога ў цябе тута ні намыкына, сядзь, падмыч, етых на вечыр ні хваціць. Во сколька ёсьць намычыныга, дыпрядзём ды будзім кросны стáвіць.*

**Намылка** *ж.* Намыльванне. *Ікая ж намылка, кылі ты два разы мылым ціpнýўся, намылься хырашо, ны табе грязі, як ны пырасёнку.*

**Намэнчыць** *зак. неадабр.* Навалаводзіць, навалакіціць па дробязях. *Каб цябе так намэнчылі, як мяне, тады б ты другоя запеў, ато пріходзіш: адзін адно скажыць, другей другоя, тэй туды пысылáіць, етый сюды, і ні рызьбяресься, куды йціць і што спрáшывыць.* **Намэнчыцца** *зак.* Намучыцца па дробязях. *Я с адным намэнчыўся, хвáціць зь мяне, ні хвытáла мне ішчэ з другім гылаву дуріць.* **Намэнчаный** *дзеепрым. Мы ўчора прішлі намэнчыныя, а сяння ты схадзі пабегый.*

**Намякаць** *зак.* Пабіць злёгку, без злосці, жартам. *Дай-ка мне, дай етыга бусурмáна, я яго січас крепка нымякыю.* **Намяканый** *дзеепрым. Січас ты будзіш нымякыный, як ета так дзеда ня слухыць.*

**Намякініваць** *незак.* Насмечваць мякінай. *Ты большы у тую хату ні зыхадзі, ні нада нымякінівыць.* **Намякініваца** *незак.* Насмечвацца мякінай. *За вобувым носіцца як ходзіш і нымякінівыіцца.* **Намякініць** *зак.* Насмеціць мякінай. *Мяшкі стынавіў сюда і нымякініў, нада падмесьць.* **Намякініцца** *зак.* Насмеціцца мякінай. *А тута нымякінілыся таго, што ты сам нікурáтна дзелыіш.* **Намякіненый** *дзеепрым. У цябе ўсюдых нымякініна, айдзе ні ступі.*

**Намякшыць** *зак.* Натаўчы, пабіць. *Цябе нада було б крепка нымякшыць, ета я ніяк ні дыбярўся.* **Намякшоный** *дзеепрым. Ты ці ні кажный дзень ходзіш нымякшоный, усё табе пупыдáіць то аттуль, то аттуль.* **Намякшомшы** *дзеепрысл. Нымякшомшы, ён трошку пыспыкайнеў ба.*

**Намярэкаць** *зак.* Прыдумаць. *Ну, што ты нымярекыў тут зы нядзелю? — я б табе дужа ні рáіў выбірáцца, тут у цябе ўсё на месьці, а там ніізьвесна як будзіць.*

**Намясіць** *зак. перан.* Пабіць адчувальна. *Ці праўда, што цябе ў Зяціцы троху нымясілі?* **Намяшоный** *дзеепрым. За то нымяшоный, што слухыць нікога ні капількі ня хочыць.* **Намясёмшы** *дзеепрысл.* 1. Намясіўшы, намяшаўшы. *Чаму ні заморісься, столька сьнегу нымясёмшы. Нымясёмшы ўместа і цубулі, і гуркоў, і з банычкі нечыга, пыстáвіла: есьця.* 2 *перан.* Пабіўшы адчувальна. *Ну калі пупадўць, яны цябе . толька хырашо нымясёмшы пўсьцюць.*

**Намяшаный** *дзеепрым.* Замешаны. *Сяння і ні нада було паріць, ішчэ ўчырáшніга нымішáныга цеста многа стаіць у шáічкі.*

**Нанічываць** *незак.* Насукваць (нітак). *Ні нада многа нанічывыць, хвáціць.* **Наніціць** *зак.* Насукаць (нітак). *Ты наніцій, што і пяць шнуроў выйдзіць, ну павесь, ніхай, мала на што крепкій шнурочык зныдабіцца.* **Нанічаный** *дзеепрым. Нанічыных у мяне ўжо ні астáлыся.*

**Нанокацца** *зак.* Закончыць нокаць. *Хваціла, пакуля выіхылі біз дарогі, нанокыліся.*

**Нанюндзіць** *зак. неадабр.* Наплявузгаць. *Іна мне ўчора за цэлый дзень нанюньдзіла, дык ішчэ сяньня ў вушах стаіць.* **Нанюндзіцца** *зак.* Наплявузгацца. *Пріцягніцца, рысьсядзіцца і пычыла: пры таго гываріці, пра етыга ні гываріці, пры дзісятыга скажуць, — пакуля ні нанюньдзіцца, ня пойдзіць с хаты.*

**Напаведыванне** *н.* Наведванне. *Ты нешта ўсё дно як расстроілыся посьлі ныпаведывыньня, можа там што ў іх случылыся?*

**Напаведываць** *незак.* Наведваць. *Унучкі Мархву часта ныпаведывыюць, глядзіш, то адна бягіць, то другая.* **Напаведывацца** *незак.* Наведвацца. *Сістра яе ні зубуваіць, часта ныпаведывыіцца, то тады зыбягіць, то тады.* **Напаведаць** *зак.* Наведаць. *Горька б нада схадзіць ныпаведыць Антоніху, як іна там, толька ні знаю, калі я туды дыбяруся.* **Напаведацца** *зак.* Наведацца. *Думыю, што ў ета скрысеньня сястрўхна ныпаведыіцца, іна пірідывала, што дужа хочыць пріціць.* **Напаведаный** *дзеепрым.* *Раз усе свае ныпаведыны, можна ехыць нызад.*

**Нападнукывацца, нападнуцкывацца** *зак.* Падганяць, падахвочваць. *А хваціць, вы ўжо й так ныпаднукывылііся большы некуды. Усіх ныпаднуцкывыўся, дос сь цябе, у каго толька еткыя натура урадзілыся.*

**Нападобію, нападобу** 1 *прыназ.* Накшталт. *Нехта пашоў ныпадобію Івана, толька як жа ён мог пайціць пысярёд нядзелі, разьві з работы прыгналі. Нехта стукыўся к Аўдотыткі ныпадобу твайго зяця, ай ён ня зьдзелыіць такога?* 2 *пабоч. сл.* Быццам. *Хто йта стаіць кылы Варычкіных, ныпадобію Пітракоў меншый? Ныпадобу Мітрыхванок праехыў, я ні разгледзіла.*

**Напаіць** *зак. перан.* 1. Адлупцаваць адчувальна. *Яны толька ждуць, каб айдзе-небудзь пупасьць цябе, яны цябе крепка напоюць.* 2. Абыграць (пры гульні ў карты). *Во мы вас ныпаілі за вечыр, усіх дуракоў пынісіцё двору!* **Напоеный** *дзеепрым.* 1. Адлупцаваны адчувальна. *Храбріўся, ды пабег напоіный, ладна пулучыў.* 2. Абыграны (пры гульні ў карты). *Пашлі напоіныя, яны слаба гуляюць.* **Напаёмшы** *дзеепрысл.* *Ныпаёмшы скот, і пыліжаць можна ды вячэрі. Пысьміяліся, ныпаёмшы іх у карты, ныдывалі дуракоў зь нюхым.*

**Напалаць** *зак.* Навеяць. *Во табе, цэлыю міску яшных круп ныпылаў, станоў кашу.* **Напалацца** *зак.* Навеяцца. *Трошку ныпылалыся, хваціць зваріць, астатнія сурувата.* **Напаланый** *дзеепрым.* *Нашто табе загыдзя нутуўкаць круп, у цябе ныпыланых, гатовых ны нядзелю хваціць.*

**Напалоцца** *зак.* Перастаць палоць ад стомы або адсутнасці жадання. *Ну што, ныпалолыся, ахоту сыгнала, ποліва — цяжолыя работа.*

**Напамагаць, напамагацца** *зак.* Дапамагчы нязначна

або вельмі многа. *Ты ўжо хваціў, ныпымыгáў, Хрісьціна і праўда пымыгала ува ўсём, а ты толька ізыком трепіш. Табе ўсе ныпымыгáліся, нада ні на помышч надзеіцца, а сымаму думыць, як жыць.*

**Напараджоный** *дзеепрым.* Падрыхтаваны, гатовы да чаго-н. (пра чалавека). *Куды вы такея ныпыряджоныя стыіцё? Ішчэ гырманіст ці будзіць, ці не, а яны ўжо ныпыряджоныя, скыкаць гатовы.*

**Напасціведый** *дзеепрым.* Напасвены. *Калі Хведзька пасець, скот галодный ня прідзіць, будзіць ныпáсьцівін. Ныпáсьцівіныя б карова ні ріўлá, яны прібеглі галодныя, бакі пыўпáлі, нада травы паткінуць.*

**Напастылець** *зак.* Вельмі надакучыць. *Ныпыстылеў ён мне сваёю дуратою: мінутку айдзе пыстаю з бабымі — айдзе ты была, куды ты бегыла, — і спакою ні даець.* **Напастылелый** *дзеепрым. Можа каму і ныпыстылелый, а Мархві — не.*

**Напасылаць, напасылацца** *зак.* Паслаць неаднаразова. *Сколька ён ныпысылáў унукым пасылык, бувала, цэлыю восінь носіць яшчыкі ў горыд, яшчык зы яшчыкым. Каб ты столька ныпысылáўся, усё ўремя цягнуў аць сябе.*

**Напахываць** *незак.* Навыворваць. *Многа бульбы ні ныпáхывый, пагода дужа нінадзёжныя, дождж пряма вісіць — хляніць і астáнуцца быразёнкі ліжаць.* **Напахывацца** *незак.* Навыворвацца. *Нашто, каб лішнія бульба ныпáхывылыся, вы́біріцца — яшчэ туды — ныдад праедзіш с плугым.*

**Напацецца** *зак. перан.* Напрацавацца да поту. *Дзед мой рысказывыў, сколька ён у Кіркора ныпацеўся.*

**Напашкі, напашку** *прысл.* Наапашкі. *Што яму думыць пра што. пад'еў, пінжак ныпáшкі і пашоў. Ідзець воґірь, пулушубык ныпáшку. Памянш.* **напашачкі, напашачку.** *Стаіць, пінжачы́шка ныпáшычкі, пыпіроса ў зубах,— такей хлюст, што куды там! Уськініць што-небудзь ныпáшычку і пыдаўся ў тэй бок.*

**Напеклавацца** *зак.* Намучыцца. *Хто ў нас ні знаіць вайну, прыпадзі іна пропыдым, астáліся з мáлымі дзіцямі, што мы ныпіклувáліся, за ўсім зы ўсякім самі і самі, і самі.*

**Напераймы, наперайма** *прысл.* Пераймаючы. *Ён пабег у кусьцікі, думыў, там схуваіцца і ў лес ускочыць, а*

*мы ніпіряймы́ і цап яго! Ета вы ні дадўмыліся пабежч ныпірійма́, вы б абізацільна злавілі.*

**Наперакармліваць** *зак.* Перакарміць неаднаразова. *Ты глядзі, ныпіріка́рмлівыіш, што калі-небудзь за ногі выцігніш с пуні, карміць нада з вумом.*

**Напералом** *прысл.* У становішчы з магчымасцю пераламіцца. *Рука пупала ныпірялом і крэхнула. Хужы яблына рыздрыжа́іцца, што етый сук так во, ныпірялом.*

**Напетаць, напетаваць** *зак.* 1. Пабіць без жалю. *Прачуй-ка ты як-небудзь, за што іх тама напетылі. Зу дуры́ яго і напетывылі, большы ні за што.* 2 *перан.* Накласці, напхаць, набіць. *Ніхай ня стогніць, пытпаветку дроў напетыў — зы два гады ні пыпа́ліць. Пуню сена напетывылі пыц самый вільчык, і карові хваціць, і будзіць прыдыва́ць усю зіму.* **Напетацца, напетывацца** *зак.* 1. Напрацавацца да знямогі. *Ты думыіш, лёхка рызьбіваць хунда́мінт, мы абоя напетыліся — сьпін ні рызагнуць. Лі пнёў як напетывыўся, худзь ба пыліжаць мінутычку.* 2 *перан.* Наесціся. *Дзела дужа ня жджы, а напетыцца дай, ды глядзіць, каб смашна, абы-чаго ня хочыць. Я ныліла́ ім капусты, булку хлеба пылажыла, яны напетывыліся і пашлі.* **Напетаный, напетаваный** *дзеепрым.* 1. Пабіты, адлупцаваны без жалю. *Каб толька мне пупасьць яго як-небудзь у садку, пабег ба напетыный. Ні сызнаецца, што прішоў напетывыный.* 2. Накладзены, напханы, набіты. *Усякыю ірундою клець напетына, дайжа дзьвері ні аччы́ніш, а ня то за́йдзіш туды. Лугавога трошку, а аборкывыга сена напетывына поўнінька, ды яно дужа пагодныя, кошына і ўбірана без дажджоў.*

**Напетушыцца** *зак.* Пазадавацца, павычвараць. *Ня ўмешывыйся, ныпітуша́цца і ўспакоюцца, а не — дык мушчыны раськідыюць.*

**Напіліць** *зак. перан.* Насварыцца, дапячы вельмі моцна. *Што ўжо ныпіліла Пёкла свайго, як ён толька цярьпеў.* **Напіліцца** *зак.* 1. Насварыцца паміж сабой. *Шчапіліся, няскора напілюцца.* 2. Насварыцца, дапячы вельмі моцна. *Ныпілілыся, давольна, ну дацерьпіцца ён, лопнуць яго нервы.* **Напіленый** *дзеепрым. Сяньня ты палучыш, будзіш напіліный, дапросіць, айдзе трыя́чку дзеў.* **Напілёмшы** *дзеепрысл. Вы пойдзіця толька ныпілёмшы дроў, іначы я вас ні пушчу. Ныпілёмшы Сярьгея, давольныя пышла.*

**Напітый** *дзеепрым.* 1. Выпіты· *А сколька тут і напіта, і*

*наета, пымінáць стыдна.* 2. Утвораны ў выніку піцця. *Нада було б падумыць, як вярнуць напітый доўг.*

**Напіхацца** *зак. перан. іран.* Наесціся абы-чаго. *Ён дужа ні пірібіраіць, яму абы ныпіхáцца, тады ходзіць і брюха пыглáджывыіць.*

**Наплаіць** *зак.* Напладзіць. *Дзьве кошкі ў хаці, яны табе ныплыяць кыцінят, што ты ат іх азелісься і ат хаты атрякесься.* **Наплаіцца** *зак.* Напладзіцца. *Іхныга роду ўжо стОлька ныплаілыся, знаць, пы ўсяму сьвету ёсць.* **Наплаёный, наплоеный** *дзеепрым. Ныплаёныю хвірму ету карміць нада. Высіпінят німала наплоіна, айдзе іх тольکі німа.* **Наплаёмшы** *дзеепрысл. Ныплаёмшы карміць і пріглідаць нада, а яны ня дужа навўчыны к етыму.*

**Наплутухаць** *зак.* Наблытаць, пераблытаць. *Кучу вярёвык нуплутухáў, паспробый дыбярíся да толку зь імі.* **Наплутухацца** *зак.* Наблытацца, пераблытацца. *Махроў нуплутухáлыся, іх нада кажный пы адзьдзельнысці распўтывыць.* **Наплутуханый** *дзеепрым. Чаго тут толька ні нуплутухáна, ідзі ты сам рызьбірáйся у сваім шырабўры.*

**Наплявушыць** *зак.* Надаваць аплявух. *Яны яго ладна тыкі ныплявўшылі, нашто яму було улізаць, міріціль найшоўся.* **Наплявушыцца** *зак.* Здаволіцца, б'ючы ў вуха. *Ідзець, даволін: ныплявўшыўся, — во ўредзіна чылавек.* **Наплявушаный** *дзеепрым. Так яму ні абойдзіцца, пыбягіць і ат'етуля ныплявўшыный.*

**Напаставаць, напаставацца** *зак. перан. іран.* Нацярпецца нястачы. *Напостыіш, як адзін астáнісься, кончуцца твае прáзьнікі. Думыіш, так ужо ён і напостывыўся — ён ня с тых, ета гэрчык ішчэ тэй.*

**Направаджываць** 1 *незак.* Накіроўваць. *Ты яго ныпрывáджывый ціряс поля, ну ніхай трошку правей бярець, ні ў нізіну.* 2 *незак. перан.* Навучаць. *У жызьні дзяцей нада ныпрывáджывыць.* 3 *зак.* Праводзіць неаднаразова. *Ну сколька ён там ныпрывáджывыў Вольгіччкіну дачку, можа пару разоў прайшлі рáзым.* **Направаджывацца** 1 *незак.* Накіроўвацца. *Куды ж вы сяньня ныпрывáджыіціся, ці ні ў Валоўнікі вас зыпрышáлі?* 2 *зак.* Праводзіць неаднаразова. *Столька ты ныпрывáджывыўся Алёну і ўсё ныпрáсна.*

**Направоджываць** 1 *незак.* Накіроўваць. *Каб зь дзяцей пуць быў, іх нада у жызьні ныправоджываць.* 2 *зак.*

Праводзіць неаднаразова. *Дужа ён многа Шурку ныправоджывыў, нескылька раз прайшоў.*

**Напракудываць, напракуднічаць** *зак.* Навычвараць. *А разьві ты ні дыга́дывыісься, хто тут мог ныпраку́дывыць? — Сычанкі, большы ніхто. Ну й атлёты, куды ня пойдуць, ныпраку́днічыюць.* **Напракудывацца, напракуднічацца** *зак.* Навычварацца. *Ста́рыя паедуць, ім будзіць раздольля ныпраку́дывыцца. Ой, зыбіякі, ой, сколька яны ныпраку́днічыліся!*

**Напрападлую** *прысл.* Напрапалую. *Такей аччайню́га, куды хочыш пойдзіць ныпрыпа́длыю.*

**Напрасміхываць, напрасміхывацца** *зак.* Абсмяяць усіх, многіх. *Ён усіх ныпрасьмі́хывыў, а цяперя во сымаго апсьміялі кругом. Ныпрасьмі́хывыліся людзей, хва́ціць з вас.*

**Напрасніца, напрасліца** *ж.* Напасць, дарэмшчына. *Нечыга усякыю ныпра́сьніцу прідумывыць ны чылавека. Трахім ні сном ні духым ні знаў нічога, а ны яго узьвялі ныпра́сьліцу.*

**Напраўдашный** *прым.* Сапраўдны. *Ты ўжо думый, як ныпра́ўдышный лісапет купляць, ён бальшэй хлопіц.*

**Напрыбіраць, напрыбірацца** *зак.* 1. Убраць неаднаразова. *Многа ты ныпрібіра́ла, два разы мост падмы́ла ды шчолык зьдзелыла. Іна і зы сваімі ныпрібіра́лыся, і зу чужымі, хваціла зь яе.* 2. Прыбрацца, адзецца прыгожа. *Я цябе ныпрібіра́ю с тваімі вічарінкымі, ідзі бульбу сыбіраць, ато ўсе твае тра́нты сыбяру, сыбяру і ў сундук замкну. Во ныпрібіра́лыся, усё плацьця заліта жырным, яму ря́ду ні дасі атмыць.* **Напрыбіраный** *дзеепрым. Дужа тутыцька ныпрібіра́на: грязный посыд у вугол сыстаўлін.*

**Напрызмушчаць** *зак.* Нападманваць абяцанкамі. *Як яму толька ня стыдна, дзяцей етых ныпрізмушча́іць, яны плачуць.* **Напрызмушчацца** *зак.* Нападманвацца абяцанкамі. *Ці ты, бальшу́н, ішчэ ні ныпрізмушча́ўся?*

**Напрынімаць** *зак.* 1. Напрымаць. *Марья ныпрініма́ла гасьцей, сколька к ёй піряезьдзілі сы ўсяго сьвету — і сёстры, і пляменьнікі, і яго радні дужа многа, — і ўсё к ёй.* 2. Убраць неаднаразова. *І ац сваіх, і ач чужых ныпрініма́ла, усё за кім-то глядзець пріходзіцца.* **Напрынімацца** *зак.* 1. Напрымацца. *Цяперя яны уволю ныпрініма́юцца, важныя госьці зьехыліся.* 2. Убраць неаднаразова. *Старік ны маіх руках быў — ныпрініма́лыся, а*

*тады ён дужа цяжола зьлёг, ня мог узьвярнýцца, тожа хвацíла.*

**Напрыяць, напрыяцца** *зак.* Паспрыяць. *Пляменьніцы табе ўжо ныпріялі ўсяго, большы некуды. Я сабе столька ні жыла́ла, сколька ім ныпріялыся, дык ці яны помнюць дабро.*

**Напугацца** *зак. груб.* Наесціся. *Старік, бувала, ня жджэць заўтріка, халодныя учыра́шнія капусты прама ш чугунка напýгыіцца і пашоў ну гумно.*

**Напуздрачыць** *зак.* Пабіць, натаўчы. *Адзін аднаго нупуздря́чуць, нупуздря́чуць, троху пырявýць, а тады узноў умесьці гуляюць, ета ж дзеці.* **Напуздрачыцца** *зак. жарт.* Напіцца. *Нупуздря́чыўся халодныя вады, як гарбуз стаў.* **Напуздрачаный** *дзеепрым. Таго маўчыць, што нупуздря́чыный, ато б ён тута ірзáў.*

**Напукаць, напукацца** *зак.* Нападаць (пра плады). *Яблыкі пасьпелі, чуць дзіржацца, кажныю ноч многа напýкыіць, нада зьнімаць ды ны хату сыпыць. Там і тресьць ні нада, сыбяры, што напýкылыся і сь цябе хвáціць.* **Напуканый** *дзеепрым. Глянь-ка ты, сколька дýлік напýкына, а я думыў, што яны дужа позныя.*

**Напульгаць** *зак.* Нашпурляць. *Упацёмкых я ні рызыбрáла, што там ляжыць, а ўраньні як глянула — ета ж бáлыўнікі зямлі нупульгáлі, — ну хочуць яны вярёўкі! Напýльгыюць, што шыбку высыдзюць.* **Напульгацца** *зак.* Нашпурляцца. *А ну-ка марш двору, ужо нупульгáліся.* **Напульганый** *дзеепрым. Што ты гаворіш ня відзіўшы, сколька там сьнегу нупульгáна.*

**Напурхаць** *зак.* Набурчаць, налаяцца. *Добрыга слова ат яго ня дужа пачуіш, а напýрхыць усігда напýрхыіць.* **Напурхацца** *зак.* Набурчацца злосна, налаяцца. *А ніхай ты прываліся с такім хрáкцірым, штоб зы ірвáныю вярёвычку столька напýрхыцца!*

**Напуста** *прысл.* Падчыстую. *Усё нáпуста падмеціна і паччышчына, ні пурушынкі ніідзе ні асталыся.*

**Напуставацца** *зак.* Папуставаць працяглы час. *Такей кусок нупустуваўся, а зімля жырныя, тама нямерныя урыжаі браць можна було.*

**Напучаць** *незак.* Вучыць, рыхтаваць на добрыя справы. *Каб ты змáлку нупучáла, лучный ба толк быў.* **Напучацца** *незак.* Вучыцца. *Нупучáіцца тады, калі ў сымаго ў гылаве што ёсьць.* **Напуцёмшы** *дзеепрысл. Ці нупуцёмшы, ці ні нупуцёмшы, а як толку німа, дык німа.*

**Напушчаць** 1 *незак.* Напускаць. *Сюда ні нада було нупушчáць вады, калі іна вы́сыхніць.* 2 *зак.* Напусціць, упусціць. *Во дадýмыўся: пырысят у хату нупушчáў.*

**Напушыць** *зак.* Налаяць. *Што, кылі ты яго нупушы́ў, ды яго ета ні даходзіць.* **Напушаный** *дзеепрым.* *Ты ны яго напýшыныга пыглядзі.* **Напушомшы** *дзеепрысл.* *Выпрывіў яго нупушомшы.*

**Напхнуць** *зак.* 1. Напхаць. *Сам ні прідýмыіць, сколька хвытáць, напхнýў у ґрадку сена, што сесьць нілізя́.* 2 *перан. іран.* Пад'есці. *Чым напхнýў сябе, тоя й ладна, абы брюха поўна.* **Напхнуцца** *зак.* 1. Напхацца. *Сяньнíк і заўтря напхнецца, нада скарей салому пат крышу насіць, нымякніць уся.* 2. Наесціся. *Пакуля ні напхнецца ладна, яго ня дужа куды вы́прывіш.* **Напхнутый** *дзеепрым.* *Мяшочыкі ужо напхнýтыя, ты іх прівяжы ны калёсых, каб ні пызьляцелі.*

**Напырхацца** *зак.* 1. Наскакацца. *Калі б іна напы́рьхылыся, цэлый дзень скачыць. Напы́рьхыісься, што жывоцік будзіць балець.* 2 *перан.* Навычвараць. *Сколька ўремя яму ніўдзе спакою ні було, а во напы́рьхыўся, ня чýтна стáла.*

**Напытацца** *зак.* Стаць вядомым у выніку распытванняў. *Каб айдзе ныпытáлыся ладныя хата, я б яе заўтря ýзяў і пірявёз, рядым ба во пыставіў.* **Напытаный** *дзеепрым.* *Хуць ён і ныпытáный пацьцёлычык, ну нівáжнінькій, ныўряд, каб зь яго ладныя карова была.*

**Напыхцецца** *зак. гумар.* 1. Напрацавацца ў стане незадаволенасці. *Чуць-чуць прітýркыла дровы пабіць, ныпыхцеўся ны дрыватоньні, ну тыкі і пабіў, і пыць сьцяну акуратнінька склаў.* 2. Пабурчаць. *Знаю, што ныпыхціцца, ну нада ж гря́дкі ускыпáць, там с канём ня дужа разьвернісься.*

**Напярхацца** *зак. нездав.* Накашляцца. *Мой ня меншы цябе ныпірьхáўся, сядзеў на печы, бухý, бухý — прастýду выгрівáў.*

**Напяхцерыцца** *зак. перан. іран.* Наесціся. *Пакуля ні ныпяхцеріцца, нікуды ня пойдзіць, ён на етый шчот строґ.*

**Нарагатаць** *зак. асудж.* Дарагатацца. *Кылі селі лузкáць квасолю, дык лузкáйця як нада, ато я вас там ныріга́чý.*

**Наразбірацца** *зак.* Разабрацца, паразбірацца. *Я знаю,*

*колька яны тута нырызьбірáюцца: прíедуць, пысíдзяць і ныэад пакоцюць.*

**Наразявоніць, наразявоніцца, наразявоннічаць, наразявоннічацца** *зак.* Праявіць разявацтва. *Відзіш цяперя сам, як ты нырызівоніў. Хвáціць, нырызівоніліся, паедзім двору. Нырызівоньнічыіш, што кыня ў кулдобіну уваб'еш і воз піряверніш. Ён ужо нырызівоньнічыўся, больши ня будзіць.*

**Нарапярціць** *зак.* Падрыхтаваць, сабраць. *Ты сваіх ныріпярціла, як ныстыяшчых нявест, толька жыніхоў ні хвытаіць.* **Нарапярціцца** *зак.* Падрыхтавацца, сабрацца. *Думыла, каб лі кароў пыстыяў, дык ён жа у горыд ныріпярціўся — ня ўдзержыць.* **Нарапярчоный** *дзеепрым. Я відзіла, што стыялі ныріпярчоныя, я і ні дадумылыся, куды яны так сыбраліся.*

**Нараскрываць** *зак.* Параскрываць пэўны час. *Дужа многа тваё работнікі нырыскрывáлі: узьлезьлі, вільчык ськівулі і зываліліся спаць.*

**Нарассусоліваць, нарассусоліваццa** *зак. неадабр.* Пагаварыць, паразважаць бязмэтна. *Зыпрігáй скарей ды едзь, ато нуруссусолівыіш, пакуля дождж лінець, некуды будзіць ехыць. Нуруссусолівыюцца, што Пятрок пад'едзіць, а яны саўсім ня будуць сыбрáны.*

**Нарастварaць** *зак.* 1. Парасчыняць (дзверы, вокны). *Нырыствырáў нáныч вокны, вецір усхадзіўся, сьцёклы пабіў, нада новыя шыбкі устыўляць.* 2. Шмат рашчыніць (цеста). *Бліноў нырыствырáла, пыстáвіла: ніхай падойдуць, зутурлычылыся з бабымі, яны й пыцяклі.*

**Нарасчыняць** *зак.* 1. Парасчыняць (дзверы, вокны). *Дзьверí ўсігда нада зыпіраць, нырышчыняіш, што якей мáхырь ускочыць і схваціць што хочыш.* 2. Шмат рашчыніць (цеста). *Нырышчынáла цеста, усё роўна як ны свадзьбу сыбрáлыся хлеб печ.*

**Народухна** *м.* Народ. *Што народухну пылягло зы вайну, ды ўсё мушчыны мыладэя, здаровыя, а ніжынатых сколька! Куды толька етый народухна едзіць?*

**Нарта** *м.* і *ж. неадабр.* Назола, упартая асоба. *Такей самый нáрта, як мама. Трудна з нáртыю рызгыварівыць, што ёй ні талкýй, іна сваё. Узмацн.* **нарціна**. *А быў нáрціна, ня хочыцца пры яго тулкувáць. Тыкая нáрціна усё вымындзырíць. Павеліч.* **нарцішча.** *Ну й нáрцішча чылавек, як прістаніць — ні атвяжысься.*

**Нартлівый** *прым.* Упарты, настырны. *Ён дужа нáртлівый, за ета яго ніхто і ня любіць.*

**Наругацель** *м.* Той, хто здзекаваецца. *Якей жа зь яго чылавек — нуругáціль, Марья ат яго кажный дзень плакыла.* **Наругацельніца** *ж. Тыкая бісьсярдзешныя, тыкая нуругáцільніца, стáрыя ат яе сколька ўремя плáкым плáчыць.*

**Наругацельный** *прым.* Такі, які здзекаваецца. *Дужа быў нуругáцільный чылавек, мы яго зналі як аблýплііныга.*

**Наругацельства** *н.* Здзек. *Іна тожа німала нуругáцільства відзіла зы сваю жызьню.*

**Наруліцца** *зак.* Праявіць стараннасць. *Пыдажджы трошку, гультай нарýпіцца, увідзіш зь яго рýпыты.*

**Нарынуць** *зак.* Наваліцца, насесці. *Нарíнулі ны яго кучыю, пычáлі страміць — во трошку ўсё дно як пасýпіўся.*

**Нарыца** *ж.* Хвароба ў коней. *Наріца — калі пач шыію нейкія нарывы дзелыюцца, тады прырывáюць, дзірькі абразýюцца. Наріцыю коні балеюць.*

**Нарэзаць** *зак. перан.* 1. Налупцаваць моцна. *Іван учора нарезыў свайго бáлыўніка, гываріў, кожу спýсьціць, калі ня ўніміцца з дурáмі.* 2. Насварыцца, дапячы вельмі моцна. *Нарежыць свайго стáрыга кажный дзень.* **Нарэзацца** *зак.* 1. Стаміцца пры лупцаванні. *Нарезыўся, ажно сеў аддыхаць, а тэй ікытáў, што большы некуды.* 2. Пасварыцца моцна. *Учора як схляснýліся сваріцца, так нарезыліся, чаго толька адна адной ні дыкáзывылі.*

**Насагінаць** *зак.* Назгінаць. *Глядзі, нысыгінáіш, крэхніць рябінка, тады ўкусі цябе зá бык.*

**Насакатаць** *зак. перан.* Нагаварыць вельмі многа. *Унучкі як прібігáць, яны мне тут столька нысакочуць, усё чысьцінька рыскáжуць.*

**Насапасаць** *зак.* Навычвараць. *Як прідуць, чаго яны толька ні нысыпысáюць.* **Насапасацца** *зак.* Навычварацца. *Ну хваціць, ужо нысыпысáўся, бярі зы каўнерь ды двору зывядзі.*

**Насаўсім** *прысл.* Назусім. *Ці ты ня чула, ці Аўдзеіхін сын нысаўсім пріехыў, ці ўзноў паедзіць?*

**Насвярдліць** *зак.* 1. Накруціць (дзірак). *Ён многа дзірік нысьвярдліў, бі кылячкі і снуй, хуць дзьвінаццыць гýбык рызвадзі.* 2. Пачаць пракручваць дзіркі. *Кылі баісься, што можыць треснуць, луччы нысьвярдлі трош-*

*ку.* **Насвярдліцца** *зак.* 1. Станіцца, круцячы дзіркі. *Нысьвярдліўся, аддыхаіць,— дзелыіць лесьвіцу у погріб, палкі сухея дубовыя, дужа цьвёрдыя.* 2. *Зал.-бессуб'ект.* *ад* насвярдліць 2. *Нешта мулуваата ў цябе нысьвярдлілыся.* **Насвердлены** *дзеепрым. Ні нада табе нічога браца, ны хаці насьвердліных брускоў сколька хочыш, бяры і ныбівай кляцы.* **Насвярдлёмшы** *дзеепрысл. Трошку нысьвярдлёмшы, луччы б гвозд палез, і надзёжній ба, а так гнаць — можыць треснуць.*

**Насвяціць** *зак.* 1. Пасвяціць. *Малый твой ладна насьвеціць, вазьмі сам лучынку ды пысьвяці.* 2. Напасвяцаць. *Бувала, насьвецюць булык, яец, тады пріходзюць с цэрьквы і рызгыўляюцца.* 3 *перан.* Моцна пабіць. *Яму нійдзе места німа як чылавеку, усюдых улезіць, за ета і нысьвяцілі, ды крепка далі, с хвынырямі ходзіць.*

**Наседзець, насядзець** *зак.* Пасядзець, праседзець абмежаваны час. *Відзіш, сколька яны ў хаці наседзілі, ужо носюцца зь мячыкым па выгыну. Ага, нысідзяць яны табе ў дваре, толька выідзіця, яны і пашлі насіцца па вуліцы, ці ты прікаазывый, ці ні прікаазывый, саўсім ня слухыюць.*

**Насініваццa** *незак.* Афарбоўвацца ў сіні колер. *Ета ж ат верхніцы твыя ніжнія рубашка насінівыцца, нейкыя краска на ёй, што злаазіць.* **Насініцца** *зак.* Афарбавацца ў сіні колер. *Рубашкі нічога, а пылаценцы лішніга нысініліся, ты пірясыпыла сінькі.*

**Насіпець, насіпецца** *зак. перан.* Стоена выказаць злосць. *Ні даюць ёй спакойна жыць, старік грызецъ кажный дзень, а ў прідаачу ішчэ цётка яго прідзіць, нысіпіць. Учора зы банку нысіпеўся, а сяньня грімеў — нійдзе мылаток ня мог найціць,— айдзе ён яго дзеў, тэй мылаток. Абая нысіпеліся уволю, дужа ім ні пыныравілыся, што Цімошыха Хвядоса пыхваліла.*

**Наскараджываць** *незак.* Набараноўваць. *Знаіш, сколька я мыладым за дзінь ныскыраджывыў, ты б трі дні за борынымі хадзіў.* **Наскараджывацца** *незак.* Набараноўвацца. *Ні нада ўжо так ныскыраджывыцца, што прідзіш і есьць ня хочыцца, каб толька скарей аддыхнуць.* **Наскарадзіць** *зак.* Набаранаваць. *Мы вам ныскырадзілі нівісь сколька, сеіць толька спруўляйціся.* **Наскарадзіцца** *зак.* Набаранавацца. *Ну й ныскырадзіліся мы зы нядзелю, зымаріліся, ажно ўсе косьці гудзяць, як ета мальцы па месіцу з борын ні выходзюць.*

**Наскароджаный** *дзеепрым. Па-мойму, сяньня іціць у борыны ім ні нада, тама бальшэй пляц ныскароджыный, ны два дні хваціць сеіць, ніхай яны луччы бульбу падвозюць.* **Наскарадзёмшы** *дзеепрысл. Вы ж хуць глядзіця, ні паедзьця ні ныскырадзёмшы ім кусок пад бульбу.*

**Насварываецца** *незак. перан.* Напальвацца на сонцы. *Мне кажыцца, так ныскварівыцца ня дужа здорыва, ты ні зыгарей, а згарей на сонцы.* **Насварыцца** *зак.* Напаліцца на сонцы. *Ныскваріліся мы лі скытá за лета, тыкая жарішча стыяла, а нійдзе ні кусьціка, схувацца нейдзі.* **Наскварaный** *дзеепрым. Ён ныскваріный, кожа як чугун стала, пряма пычарнела..*

**Насверцца** *зак.* 1. Насквярціся. *Во ўжо вясною лягушкі ныскваярўцца пы аборкых!* 2 *перан. неадабр.* Нагаварыцца. *Пакуля ныскваярўцца кучыю адна адной, пакуля ні пырыскáжуць трілюды, ні разойдуцца.*

**Наскіпаць** *зак.* 1. Накалоць. *Як астáніцца ў дваре, ён усё пріпырячыць, усё падзелыіць: і бульбы нарыіць, і дрой ныськіпáіць.* 2 *перан.* Пабіць. *Яму ладна там ныськіпáлі, дні трі ліжаў у дваре, а тады пыдняўся.* **Наскіпацца** *зак.* 1. Накалоцца. *А ныськіпáюцца твае дровы, ідзі ты еж, усё зыстывáіць.* 2 *перан. іран.* Напіцца. *Павёз бульбу, прыдаў, нейкіх друзей устреціў, ныськіпáўся зь імі ладна, сь песьнімі двору явіўся, а грошы — адна пяцёрка ў кырмáні, прыдаў, нызывáіцца.* **Наскіпаный** *дзеепрым. Ты ж ні зубувáй: ныськіпáных дроў асталыся ны два разы, ня большы, набі, а тады паедзіш.*

**Насклімецць** *зак.* 1 Паплакаць, пахныкаць. *Ты ў мяне ныскліміш, нахныкыіш, я цябе атучў ад дурнэя прівычкі.* 2 *перан.* Пажыць у безнадзейным стане. *Многа ён ужо ні ныскліміць, у яго від пряма ніжывэй.* **Насклімецца** *зак.* Наплакацца, нахныкацца. *Ужо так ныsклімеўся зь етымі пыпряньнікымі: купі і купі, і хут ты што — купі!*

**Наскнарнічаць, наскнарнічацца, наскнарыцца** *зак.* Пасквапнічаць. *Столька ўсяго пыныкрятына, меры сваім зыпасым ні знаіць, а сколька ныскнáрнічыў, як скызалі пляменьніку паможч. Пыпрасі дзісятку пазычыць, дык ніізьвесна сколька ныскнáрнічыіцца. Летым ладныя каройкі пупыдáліся ны бызарі, а пакуля ён ныскнаріўся, дык купіў, што глядзець неныша.*

**Наскрабанне** *н.* Нагортванне. *Атыйдзі ты с такім ныскрібáньнім, сходзі луччы кыня ныпаі ды вядзі зыпрігаць.*

**Наскрабаннік** *м.* Той, хто нагортвае. *Што-то тваеныскрібаньнікі ня дужа ахотня варўшуцца.* **Наскрабанніца** *ж. Нада пріслаць другую ныскрібаньніцу, адна тут запоріцца.*

**Наскрабаный** *дзеепрым.* Надрапаны. *Уся ножка ныскрабыныя, і нейкія бургункі пашлі, відна, чысалыся, нада пымазыць чым ці доктыру пыкызаць.*

**Наскрыляцца** *зак.* 1. Нарэзацца скрылямі. *Ого, сколька ў цябе ныскрылялыся!* 2. Здаволіцца, наразаючы скрылямі. *Ныскрыляўся, сядзіць давольный, кругом резыныя бульба выляіцца, пыдбяpi ў чугун пырысятым.* **Наскрыляный** *дзеепрым. Вун відзіш, сколька ныскрыляныга батона ляжыць, нашто нырізаць лішніга.*

**Наскрыпець, наскрыпецца** *зак.* Нарыпацца. *Ты ў мяне січас ныскріпіш, пірістань балывыцца. Ці ты ішчэ ні ныскріпеўся? — січас пыганю пугыю ат варот.*

**Наскрысеніваць** *незак. жарт.* Прыбіраць у нядзелю. *Ты яе ціряшчур ні ныскрысенівый, ато ат хлопцыў адбою ня будзіць.* **Наскрысеніваццa** *незак.* Прыбірацца ў нядзелю. *Хваціць вам ныскрысенівыцца, пойдзім, пызнаюць вас.* **Наскрысеніць** *зак.* Прыбраць у нядзелю. *Іна ж пакуля ні ныскрысеніць дачушку, ня выбіріцца.* **Наскрысеніцца** *зак.* Прыбрацца ў нядзелю. *Ого, як вы ныскрысеніліся, як кукылкі мулюваныя!* **Наскрысененый** *дзеепрым. Чаго йта сяньня Іван такей ныскрысеніный?*

**Наскрэсца** *зак.* 1. Наскрэбціся. *Нічога тут ні ныскрябецца. Наскрёбся ўжо, хваціць, усе дарожкі рашчысьціў.* 2. Надрапацца. *Хваціць, ныскрябліся, тапі баню.* 3 *перан.* Далазіцца. *Ныскрябуцца, што різанецца каторый аб землю, будуць ім гнёзды.*

**Наскубанне, наскубыванне** *н.* Наскубенае (воўна і інш.). *Я вун ґ дзіванчыку тваё нускубаньня адгарнула. Сколька таго наскубывыньня, адна горсьць.*

**Наскуліцца** *зак. перан. неадабр.* Напішчацца, напрасіцца. *К аднаму падойдзіць — нускуліцца, ґ другому пойдзіць — ныдаесьць, яе ўсім слухыць спрацівіла.*

**Наскусць** *зак.* 1. Наскубці. *Луччы було б сы стыжка наскусьць у ґрадку, там сена хужэйшыя.* 2. Паскубці (пра жывёлу). *Многа твыя цёлычка наскубла, ужо стаіць пыдзь дзьвірямі, піць просіць.* 3 *перан.* Натузаць. *Іхныя племя такоя: як узвалюцца, дык нускубуць, нійдзе ні дадуць спакою.* **Наскусца** *зак.* 1. Стаміцца скубучы. *Ты ўжо наскубся, аддыхні трошку.* 2. Наскубціся, пад'есці

(пра жывёлу). *Ніхай ні рявець, мыгла наскýсца. Каб ня бегылі, можна наскýсца, трайка ужо троху ёсьць.*

**Наскяпліваць, наскепліваць, наскяпываць** *незак.* Надколваць. *Ну што ты дзелыіш, ці ты нарошня ныськя́плівыіш брусочык? Пычаў наськеплівыць, а яно тресь пыпылáм. Астарожна ныськя́пывый, каб ды кынца ні калолыся.* **Наскяпліваццa, наскепліваццa, наскяпываццa** *незак.* Надколваццa. *Яно то ныськя́плівыіцца, ды ні так, як я хацеў, у бок ідзець. Балона наськеплііцца, а сірядзíна крепкыя, ня дужа хочыць трескыць. Відзіш, як ныськя́пыіцца, чуць ні кругом бірьвінá.* **Наскяпіць** *зак.* Надкалоць. *Трошку наськепіш, забі клінок, а тады яшчэ калі.* **Наскяпіцца** *зак.* 1. Надкалоцца. *Ета калода няплоха ныськяпілыся, нада пару кліноў дубовых, іна рызарьвецца.* 2 *перан.* Навязацца. *Другей мне прывыджáньнік ныськяпíўся, нада яны мне.* **Наскепленый** *дзеепрым.* Надколаны. *Наськеплíный брусочык, ато б харошыя тыпарíшчыка було, ёмкíнькыя.* **Наскяпёмшы** *дзеепрысл.* *Есьлі брусочык ныськяпёмшы, зь яго нічога ня зьдзелыіш, ны ря́мы нада цэлыя палычкі.*

**Наслацца I** *зак.* 1. Папасылаць. *Сколька яны пісім нысла́ліся — ніхто нічога пры Зьмітрыка ні знаіць.* 2. Імкнуцца накіраваць, паслаць. *Ты яго многа ныслáлыся, сядзіць у хаці бяз вы́лызу.*

**Наслацца II** *зак.* Папасцілаць (пасцель). *Ныслáлыся і сваім, і чужым, за ўсімі пыўхáджывыла.*

**Наслепнуцца** *зак.* Пасляпіцца. *А ці мала я зы прáжыю насьлеплыся, ны такую сям'ішчу адной нада було і пыныпрідáць, і пынытыкáць.*

**Наслізкацца** *зак.* Накоўзацца. *Тыкая сьлізота, шагу нілізя ступіць, асобінна ны різíні, што мы нысьлізкáліся, глядзі, гылаву рызаб'еш.*

**Насмакавацца** *зак.* Наесціся з асалодай. *Мёду прінісла цэлыю банычку літровыю, што ўжо мае нусмукувáліся!*

**Насмалівацца** *незак.* Напальвацца на сонцы. *Трошку зыгарець — ета нічога, а так нысмáлівыцца, па-мойму, ня дужа здарова.* **Насмаліцца** *зак.* 1. Папасмаліць. *Што ўжо мой нысмаліўся сьвіньней, бувала, баба ікая б'ець і бягіць за ім, ён дужа лоўка дзелыў.* 2. Напаліцца на сонцы. *Мальцы за лета нысмáлюцца біз рубах, станупь чорныя-чорныя.* 3 *перан.* Накурыцца. *Нысмалíліся, ажно пысылавелі, як яны ня могуць атвыкнуць ат етыя прі-*

*вычкі.* **Насмаленый** *дзеепрым.* 1. Празмерна загарэлы. *Відзіш, якея яны нысмáліныя, кожа аж пычарнела.* 2. Пракураны. *Тута воздух нейкій нысмáліный, аччыні дзьвері.* **Насмалёмшы** *дзеепрысл.* 1. Моцна загарэўшы. *Глянь-ка, як у яго сьпіна нысмалёмшы, нейкыя бáгрывыя зьдзелылыся.* 2. Накурыўшы. *Нысмалёмшы, худзь ба дзьвері аччынілі, ад дыму ні прадыхыць.*

**Насмаргываць** *незак.* Выцягваць шморгаючы. *Тута і нысмáргывыць ні нада, бярі гатовыя, вы́цігнутыя.* **Насмаргывацца** *незак.* Выцягвацца пры шморганні. *Яно тут наверьх трошку нысмáргывыіцца.* **Насмаргаць, насморгаць** *зак.* 1. Нацягаць шморгаючы. *Канцы ны гваздý вісяць, нысмыргáй, скруці і зывяжыш мяшочык, там бyльшая крепысьць ні нада. Кыласкоў ж жыта нысмыргáў сабе ў кырман.* 2. Пашморгаць. *Прасты́ніш, дык нысмыргáіш носым, надзеньсяцяплей. Пукупáўся у скрысеньня, выда халодныя, ладна насморгыў, хырашо, што хуць успаленія ні пытхваціў.* **Нысмаргацца, насморгацца** *зак.* 1. Нацягацца шморганнем. *Ладна, сколька нысмыргáлыся, столька й хвáціць. Што тут у цябе насморгылыся?* 2. Нашморгацца. *Твайму, знаць, абыйшлося, а мой нысмыргáўся: вады зь лёдым хвацілі рыспацеўшы. Чаму ж ні насморгыіцца носым, пабегшы ў адной рубацёнкі.* 3. Накурыцца таемна, спяшаючыся. *Пыбягім за школу, нысмыргáімся і ў клас бягім. Насморгыўся, аж пысінеў, як куріный пуп.* **Насмарганый, насморганый** *дзеепрым.* Навыцягаваны, навырываны. *Хваціць сь цябе і нысмыргáных кыласкоў, повін кырман. Во табе насморгыныя сувайкі, зывязывый.*

**Насмурыжываць** *незак. перан.* Лаяць, бэсціць. *Пёкла ўзілася свайго нусмуры́жывыць, ён аж кіпіць увесь.* **Насмурыжывацца** *незак. перан.* Настройвацца на лаянку. *Я зразу пызнаю́, як ён пычынаіць нусмуры́жывыцца.* **Насмурыжыць** *зак.* 1. Змякчыць трэннем (вяроўку). *Во крюк, нусмуры́ж, вярёўка мякчэй станіць, луччы будзіць вазіць ёю.* 2 *перан.* Налаяць, набэсціць. *Верычка свайго кажный дзень як нусмуры́жыць, дык ён ходзіць сам ня свой.* **Насмурыжыцца** *зак.* 1. Змякчыцца пры трэнні (пра вяроўку). *Ох, нусмуры́жыліся вожычкі, многа пымякчэлі.* 2. Настроіцца на лаянку. *Крепка нусмуры́жыўся, ат яго хуць прікýрівый.* **Насмурыжаный** *дзеепрым.* 1. Змякчоны пры трэнні. *Нусмуры́жынью вярёўку луччы і ў рукі ўзяць.* 2. Налаяны, набэшчаны. *Як вырь-*

*віцца ат іх нусмурыжыный, ён, кажыцца б, ніізьвесна што зьдзелыў.*

**Наснуджыванне** *н.* Узвядзенне ненадзейнага прыстасавання. *Ці помніш, што на той нядзелі було з насну́джывыньнім, і січас тоя самыя палу́чыцца.*

**Наснуджываць** *нёзак.* Прыстасоўваць ненадзейна. *Што ты насну́джывыіш, яно чуць здріганецца і ўсё пыляціць, чыряпкі пыдбірацъ будзіш.* **Наснуджывацца** *незак.* Прыстасоўвацца ненадзейна. *Ня стоіць етык насну́джывыцца, некуды, тут і так бырыхла́ ўсякыга хвытаіць.* **Наснудзіцца** *зак.* Прыстасавацца ненадзейна. *Мех нуснудзі́ўся, вот-вот пыляці́ць і рассы́піцца.* **Наснуджаный, наснуджоный** *дзеепрым.* *Прібяры насну́джыныя банкі, шыра́хнісься, і яны кэхнуцца на мост. Тут і так усяго нуснуджоныга поўна, ня прі ішчэ гырлачы́.* **Наснудзёмшы** *дзеепрысл.* *Нашто ты так нуснудзёмшы цёрлычкі кідаіш, чуць зачэпіш дзёнушка, і яны пасыпюцца.*

**Насоджаный** *дзеепрым.* 1. Наса́джаны, пасаджаны. *Як мы сюда піряехылі, садок етый быў ужо насоджын. Гасьцей було насоджына, што пальца ня ўцісьніш, чуць ні адзін на дном сядзелі.* 2. Узбіты. *Маты́чка крепка насоджына, ні сарьвецца.*

**Насопць, насопсць** *зак.* Насапці, пасапці, нагаварыць сапучы. *Насоп носым, а тады пашоў ны канькі. Прасту́дзісься, тады ла́дныга нысапеш. Што ён табе пасьпеў насопсьць?* **Насопцца** *зак.* Насапсціся. *Дужа цяжол ны пад'ём, сьпірва́ насапецца, тады толька пойдзіць. Насопся, пакуля такую калодзішчу разьбіў.*

**Наспасібкаць, наспасібкацца** *зак.* Нагаварыць падзяк. *Так ужо ныспасі́бкыла іна Колю, ён дужа пуслухмя́ный хлопіц, можа, калі і яшчэ прігадзіцца. Калі ёй услу́жысься, іна і ныспасі́бкыіцца, і ўгасьціць, так ні атпу́сьціць.*

**Наспраўляцца** *зак.* Справіць у вялікай колькасці. *Я ж табе ні нуспруўля́юся ны кажный месіц новыя пла́цьця.*

**Нассаджываць** *зак.* Ссадзіць неаднаразова. *Глядзі, іна ныссаджывыіць, што пыліцяць і абоя ўдарюцца, ён, пузырь, цяжолінькій.*

**Нассякацца** *зак.* Стаміцца ссякаючы. *Нысьсіка́ўся, ужо сядзіць, аддыхаіць.* **Нассяканый** *дзеепрым.* *Нашто табе сеч яшчэ, зу кустамі вун нысьсіка́ных бярёзык сколька хочыш, пыд'іжджай і кладзі.*

**Наставаць** *незак.* З'яўляцца (пра маладзік). *Па-мойму, ці ні сяньня мыладзік ныстаець, пагода можыць зьмяніцца.* **Настаць** *зак.* З'явіцца (пра маладзік). *Мыладзік ужо трі дні як ныстáў, увечырі сярпок быў віdзін.*

**Настойчывата** *прысл.* Настойліва. *Кындрашонык дужа настойчывыта к ёй прістывáў, каб ішла зы яго, а йна ні блізка,— а ныпрáсна: зь ім ба можна було жыць.*

**Настойчыватасць** *ж.* Настойлівасць. *Дaўно усё можна було рузузнáць і купіць, каб настойчывытысьці троху.*

**Настойчыватый** *прым.* Настойлівы. *Нада быць большы насточывытыю, а ты як мяльля.*

**Настраміць** *зак.* Насарамаціць. *Дужа я плакыць буду, кылі ты майго сына ды настрáміш, страмі, кылі зуслужыў.* **Настраміцца** *зак.* Насарамаціцца, набрацца сораму. *Ты пойдзіш, дык толька ныстрáміcься, ты ня сьцерьпіш зь імі, пысядзі луччы ў дваре.* **Настрамленый** *дзеепрым. Есьлі пупаўся Гаўріліхі на вочы, то мала яму ня будзіць, пойдзіць ныстрáмліный.* **Настрамёмшы** *дзеепрысл. Ныстрамёмшы аднаго, зу другога возьміцца.*

**Настрыкаць** *зак.* Напячы крапівой. *А ну іх, етыя жавіны, я толька рукі ныстрыкáў. Цябе б даўно нада було ныстрыкáць хырашэнька.* **Настрыкацца** *зак.* Напячыся крапівой. *Ета ж ат крапівы такея бурдулі пыўскáкывылі, дужа ныстрыкáўся.* **Настрыканый** *дзеепрым. Ныстрыкáныя дужа чэшыцца,— ета як якоя цела: каму нічога, а ў каго пузырі выскáкыюць.*

**Настукатаць** *зак.* Нагрукаць. *Як возьмуцца ў трі мылаткі, яны столька нустукочуць, што ат хаты атрякесься.* **Настукатацца** *зак.* Нагрукацца. *Во тыкі, знаць, нустукытáліся,— у вушах цэлый дзень зьвінела. Можа, хвáціць ляпыць, ты сяньня нустукытáўся, большы некуды, як нустукытáўся, пылажы сваe стýкылкі ды вазьміся за кніжку, пычытáй.*

**Настыдзіць** *зак.* Насарамаціць. *Сколька ні настыдзіш, у бяссовісныга совісьці ні прібавіцца. Праскоўя цябе ныстыдзіць, толька пупадзесься ёй на вочы.* **Настыджаный, настыджоный** *дзеепрым. Настыджыный ат Кухарёнка выскычыў, ён ня думыў, што такую бáню палýчыць. Сядзеў ныстыджоный у вугалку, і гылавы ні пыднімаў ну людзей.* **Настыдзёмшы** *дзеепрысл. Куды ж іна ныпрáвіцца, ныстыдзёмшы Андрея?*

**Насубочыванне** *н. жарт.* Прыбіранне па-святочнаму

ў суботу. *Пасьпеіш іс сваім нусубочывыньнім, зьбегый пірімяні бацьку лі кароў.*

**Насубочываць** *незак. жарт.* Прыбіраць святочна ў суботу. *Запёрліся ў задній хаці, нусубочывыюць адна адну.* **Насубочывацца** *незак.* Прыбірацца святочна ў суботу. *Як станиць нусубочывыцца, тады ўжо ім нічога ні гывары зьдзелыць.* **Насубоціць** *зак.* Прыбраць святочна ў суботу. *Ці скора ты яе нусубоціш, ішчэ вады ні каплі німа ў хаці, нада прінесьць.* **Насубоціцца** *зак.* Прыбрацца святочна ў суботу. *Дзеўкі нусубоцііся, а тут гырманіст ні пpішоў.* **Насубочаный** *дзеепрым. Сяньня яны ходзюць нусубочыныя с самыга пуўдня.*

**Насукаваць** *зак.* Нагаварыць замоў словам «сук» пры гульні ў мяч. *Ага, я табе нусукувáў, і ты зьбіўся.*

**Насукываць** *незак.* Навязваць. *Воч чаго іх насýкывыіць кажын раз, і ўсігда тады, як ні нада.* **Насукывацца** *незак.* Навязвацца. *А сколька раз ён насýкывыўся, ніхай яго.* **Насукаць** *зак.* Навязаць. *Што яго нусукáла ны Машкіну гылаву, ні було клопыту бáбі, дык нá табе, найшоўся клопыт.* **Насукацца** *зак.* Навязацца. *Мы ўжо былі саўсім сыбрáліся ехыць — не, нусукáўся Міхяёнык: дывайця, дзядзька, вып'ім,— у яго і бутылычка у кырмáні была.*

**Насупаратываць, насупаратывацца** *зак.* Насупраціўляцца, наўпірацца жартам. *Ты відзіш, сколька ён нусупурáтывыў. Ах, якей бáлыўный, яму каб абізацільна нусупурáтывыцца.*

**Насупрэк** *прысл.* Наперакор. *Што ні скажыш, ён усігда нусупрек, што ў яго зы прівычка тыкая.*

**Насурываць** *незак.* Насмечваць. *Мой насýрівыіць, ну й пыдмітáіць сам, я ўчу глядзець зы пырядкым.* **Насурывацца** *незак.* Насмечвацца. *Ты стругáй, ды глядзі, каб дужа ні насýрівылыся, ато ў цябе стрýжкі дайжа у ваду ліцяць.* **Насурыць** *зак.* Насмеціць. *Насýріш — сам і прібірай, я ня буду усьлед зы табою хадзіць пымінутна зь венікым.* **Насурыцца** *зак.* Насмеціцца. *Таго нусурілыся, што ні прівык зы пырядкым глядзець, нікурáтный дужа.* **Насураный** *дзеепрым. У хаці насýріна, усё дно як год ніхто ня мёў.* **Насуромшы** *дзеепрысл. Нусурёмшы, усігда прібраць нада.*

**Насыпаннік** *м.* Той, хто насыпае, займаецца насыпаннем. *Нешта ў етыга нысыпáньніка рукі лупáтычку ня хочуць дзіржаць посьлі вічарінкі.* **Насыпанніца** *ж. Удзь-*

*вюх нысыпáньніцы як возьмуцца, у іх зыкіпіць дзела, у мінуту мяшкі будуць поўны.*

**Насытаць** *зак.* Насыціць. *Калі іх нысытáіць, пітнацьцыць капеік ні туды ўшло, дык нада вайну пыдымаць на цэлый дзень.* **Насытаный** *дзеепрым. Сядзіць нысытáный, гаворіць, думыіць карову прыдываць, — во каму нада, ніплыхáя каройка.*

**Насэндзіць** *зак. неадабр.* Наплявузгаць. *Ны работу ня ходзюць, дык што ім, кучыю сыбярўцца, усяго насэньдзюць.* **Насэндзіцца** *зак.* Наплявузгацца. *Сонца толька с абедыў зьвярнўла, сыйшліся, і мы ўжо зы каровымі пашлі, а яны ніяк ні маглі насэньдзіцца.*

**Наталавацца** *зак.* Натаптацца, нагоцацца. *Учора мальцы нутулувáліся лі стагоў, пы стыгах, аб'езьдзілі крайній стог, можыць зымякнуць,— ну нада б ім баню даць!*

**Наталаскаць** *зак.* Пабіць, пацягаць. *Ну яе і нада було нытылыскáць, саўсім совісьць пыціряла.* **Наталаскацца** *зак.* Пабіцца, пацягацца. *Зрáзу мы дўмылі, што яны шўцюць, а яны ладна нытылыскáліся, во табе й падругі.* **Наталасканый** *дзеепрым. Каб ён раз ды другей пабег нытылыскáный, глядзі, пыцішэў ба, ато ніхто яму рогі ні саб'ець.*

**Натапіцца** *зак.* 1. Напаліцца. *Дровы сухея, бярёзывыя, баня крепка нытапілыся, дух лёхкій, хырашо ныпáріліся.* 2. Здаволіцца напальваючы. *Ты дайжа ні знаіш, якое яно пыдасецьця, а я пыдасецьціў нытапіўся, бувала, курчыг нынкладзеш, зыпаліш, асець ужо насоджына і греіцца.* **Натопленый** *дзеепрым.* Напалены. *Сянішнія баня дужа натопліна.* **Натапёмшы** *дзеепрысл. Так нытапёмшы, чаму духу ня будзіць. Баня ужо была нытапёмшы, як мы пріехылі.*

**Натапырыванне** *н. перан.* Прынящце непрыступнага выгляду. *А ні тапырься, ніхто твайго нытапырівыньня ні баіцца.*

**Натарабаніць** *зак. перан.* Нагаварыць шпарка і невыразна. *Што ўжо яны там нытырыбáнілі, ні знаю, ну пырядышныга стыялі.* **Натарабаніцца** *зак.* Нагаварыцца шпарка і невыразна, набалбатацца. *Ім ня столька нада ўремя нытырыбáніцца, ім каб сўдык двоя пыдряд, ня піўшы і ня еўшы трілюдзіліся б.*

**Натарабарыць** *зак. неадабр.* Нагаварыць пустога. *Домна адна лухты нытырыбáріць два мяшкі — ні зывя-*

*жыш, а ныйпачы як сойдуцца сы Сьпірідоніхыю.* **Натарабарыцца** *зак.* Набалбатацца. *Я ж ня буду стыяць с канём, пакуля вы нытырыбáріціся, кылі ўздýмыла ехыць, дык садзіся.*

**Натарабеніць** *зак. неадабр.* Набалбатаць. *Яны табе нытырабенюць сколька нада і ў два разы большы.* **Натарабеніцца** *зак.* Набалбатацца. *Ныйўряд, каб такоя ўремя прішло, што яны нытырабенюцца.*

**Натараторыць** *зак.* Нагаварыць шпарка. *Адна за трёх нытыраторіць, няскора яе піряслýхыіш.* **Натараторыцца** *зак.* Нагаварыцца, набалбатацца. *Можа, нытыраторюцца сяньня, а можа і нызáўтріга троху кінуць.*

**Натаўморыцца зак.** Натлуміцца. *Зьдзелыць нічога ня зьдзелылі, а нытаўморіліся большы некуды.*

**Натаўмясіць** *зак.* Намясіць. *І крупы, і квасоля, і дайжа гарох — нытыўмясіла у гаршчок усяго, яно ня дужа смашна так.* **Натаўмясіцца** *зак.* Натаптацца, натаўчыся ў гразі. *Еткій дождж, усё рыстварілыся, мы нытыўмясіліся, пакуля вы́брыліся с таго бызара.* **Натаўмяшоный** *дзеепрым. У шáічкі ўсяго нытыўмяшона, там і бульба, і бруква пáріныя, а ён яшчэ мякіны насы́пыў.* **Натаўмясёмшы** *дзеепрысл. Нытыўмясёмшы грязі, чуць жывэя прікаціліся, зыкалелі саўсім.*

**Натаўпорыцца** *зак.* Натаптацца, натаўчыся. *Нытаўпоріліся і ўсё, ныпрáсна схадзілі, нічога пытхыдзя́шчыга ні було ўзяць.*

**Натаўпясіць** *зак. неадабр.* Намясіць. *Нада було адзін кыцялочык сыпнýць мякіны ў ету бульбу, а ты нытыўпясіў нівісь сколька ды зь нейкыю саломыю.* **Натаўпясіцца** *зак.* Натаўчыся ў цеснаце. *Народу було многа, ні к чаму ні прíступіцца, нытыўпясіліся мы, нытыўпясіліся і ні ш чым пріехылі.*

**Натачка** *ж.* Натацыя. *Яму дайно нада была нытáчка. Ты сяньня крепкыю нытáчку палучыш, так табе ні абойдзіцца.*

**Наташнавацца** *зак.* Набедавацца. *Высіліха пы сваіх дзіцях крепка нутушнувáлыся, ну што ж ты думыіш: паехылі і як у ваду кáнулі.*

**Натопкацца** *зак.* Натупацца. *Тут і работы бальшы́я німа, а натопкыісься зы раньня, дык ужо ні да поліва становіцца.*

**Наторкацца** *зак.* 1. Уваткнуцца шмат. *Прýцьця во зь естыга боку наторкыіцца і ладна бýдзіць. 2 перан.* На-

паказвацца таемна. *Наторкыўся ён сы сваімі ва́лінкымі, іх брацъ ніхто ня хочыць, яны ніва́жна зва́ліны.*

**Натрапліваць** *незак.* Натрапляць. *Ці ты ні нытра́плівыў айдзе ны бызарі пулушубка ла́дныга, каб цёплый, ты там часта буваіш.* **Натраплівацца** *незак.* Натрапляцца. *Будзіць нытра́плівыцца пытхыдзя́шчый пацьцёлык, я вазьму, карова мыя ужо стара, а сена на́ зіму хва́ціць, пірікармлю.*

**Натрахтаваць, натрахтавацца** *зак.* Начаставаць. *Варычка іх нытрахту́іць, дажду́цца: капусты міску унясець с погріба, га́лычык пыставіць і можа ішчэ сырыква́шы у міску лінець. Я ня меншы вас нутрухтува́лыся, а кылі й вы пару дней пакорміця, ні зьбяднеіця.* **Натрахтаваный** *дзеепрым. Янó й відна, што нутрухтува́ный ідзеш, хырашо кума ўстреціла.*

**Натрогаць, натрогацца** *зак.* Накратаць, дакратаць. *Натрогыіш ціплят, што квакуха як кініцца ў вочы, будзіш пішча́ць. Што, натрогыўся, ці я ні гываріла табе, каб ты ня лез к ім і дайжа ні пытхадзіў.*

**Натрубіцца** *зак.* 1. Здаволіцца трубячы. *Можа ты ўжо нутрубіўся, мне тваё трубленьня дужа ыдаела.* 2 *перан.* Набалбатацца. *Калі вы тама натру́біціся, ідзі карову дой,— во некыму рызыгнаць вас мятлою нейкыю.* **Натрубленый** *дзеепрым.* Набалбатаны. *Нешта ёй пра Колю натру́бліна, ні стала нічога слухыць: я знаю пры вашыга Колю,— і пышла.*

**Натруніць, натруніцца** *зак.* Насмяяцца здзекліва. *Ныт Каціным ма́льцым Зьмітрачок нутруніў: усё яго то тым, то тым пыдзьдзіва́ў. Я знаю, сколька ён нутруніцца, пакуля Цімох прідзіць.*

**Натруняцца** *зак.* Нашвэндацца. *Ты тожа ня меншы Сумусінка́ нутруня́ўся, урем прутрубіў, а цяпер хвыта́ісься, дыгнаць хочыш.*

**Натрускам** *прысл.* Насыпам. *Ікая там капёшка, на́трускым прітрусіў, здаліку глядзець — воз сена, а яго паўвоза ня будзіць увізаўшы.* *Памянш.* **натрусачкам.** *На́трусычкым паложыны ку́чкі, як нарошня.*

**Натрыбушыць** *зак.* Нашкуматаць, натрэсці. *Яно й відна, што ні ма́лыя нытрібушы́лі столька гароху, тут бальшы́я пыхадзілі ладна.* **Натрыбушаный, натрыбушоный** *дзеепрым. Ты пыглядзі, сколька тута пукоў кынапель нытрібу́шына. Цэлыя куча тріп'я́ нытрібушона.*

**Натрылюдзіць** *зак.* *неадабр.* Нагаварыць пустога.

*Пашкіна жонка ні глядзі, што мылыдая, нытрілю́дзіць можыць усяго.* **Натрылюдзіцца** *зак.* Набалбатацца. *Няўжэлі вы ішчэ ні нытрілю́дзіліся, пыра б ужо кончыць вашы трілю́ды.* **Натрылюджаный** *дзеепрым. Я знаю, пры каго яму нытрілю́джына, есьлі сь Кіріліхыю пыстыяў, тая Адама ні прапу́сьціць.*

**Натрэскываць, натрэскывацца** *незак.* Надколвацца. *Думылі, расколім, дзьве плашкі будзіць, а сколька білі — дайжа натрескывыць ні пычало, во крепкыя дубіна. А глядзі, пычынаіць калода натрескывыцца, во сюда яшчэ адзін клінок нада.* **Натрэснуць, натрэснуцца** зак. Надкалоцца. *Думыў, харошый вілышнік палу́чыцца, а ён натреснуў, ды ў таком месьці, што дзіржаць будзіць нялоўка. Такей ладный целіш, а ў двух містах глубока натреснуўся, і як яго пііліць цяперя, ні знаю.* **Натрэснуты** *дзеепрым. Апцісаў брусочыкі і нада було пыт павець ці ў пуню пылажыць, а ты на сонца, відзіш, яны ўсе натреснутыя.*

**Натужыць, натужыцца** *зак.* Набедавацца. *Танічка многа ні нату́жыць, паехыў — іна цірязь дзень і забыла. Пу мужуку́ як пу мужуку, а пы сынах іна дужа крепка нутужы́лыся.*

**Натукаць, натукацца** *зак.* Насварыцца, наўшчуваць. *Ніхай ба ж ты хуць нату́кыла ны яго, ён дурату́ тваріць усігда, а ты маўчыш. Ну ці я ж кажный раз нату́кыюся на іх, у іх свыя матка ёсьць, а мне нада умешывыцца?*

**Натуляцца** *зак.* Нашвэндацца хаваючыся. *Ты большы ўсіх нутуля́ўся, а йшчэ другіх стыдзіш, табе сымаму німа за што ложкі крупені ўліць.*

**Натуняцца** *зак.* Налодарнічацца, набадзяцца без справы. *Хто касіць, хто ў дровы, а яны ўдваіх за лета нутуня́ліся як вапрі, і біз драві́ны, і бісь сяні́ны астаюцца ў зіму.*

**Натураць** *зак.* Наганяць. *Нутуря́юць скот, што галодный прігонюць.* **Натурацца** *зак.* Набегацца. *Такея няўходлівыя ціляты, ні мінуты ні пускубу́ць спакойна, што я нутуря́ўся за імі.* **Натураный** *дзеепрым. Яго толька нутуря́ныга і зловіш, дужа га́дкій конь, саўсім ня ловіцца.*

**Натурзаць** *зак.* Натузаць. *Із-зу пустэя бумажкі і столька нату́рзыць, а ніхай ба іна агнём гарела! Каб вашы хлопцы ні пыдыйшлі, яго б ладна нату́рзылі.* **Натурзацца** *зак.* Натузацца. *Шчэпюцца, дык нату́рзыюцца, луччы січас рызьвядзіця. Цялёнык ні прівык ны вярёўкі*

*хадзіць, натýрзыіцца.* **Натурзаный** *дзеепрым. Сяньня ён натýрзыный, дык ніўлагодня, луччы ня трогый, ён тольκа бýркніць.*

**Натуркаць** *зак.* Набурчаць. *Ці ты натýркыіш, ці не, адзін толк будзіць, ні паслýхыў ён цябе і ні паслýхыіць.* **Натуркацца** *зак.* Набурчацца. *Такей работнік, што натýркыісься: пакос пройдзіць і куріць, а хочыш, пат куст зывáліцца.*

**Натурлычыць** *зак.* Нагаварыць неразборліва. *Табе цяперь ужо рáдысьць, мáлыя нутурлы́чуць, ня будзіш сядзець моўча.* **Натурлычыцца** *зак.* Нагаварыцца (пры немагчымасці зразумець). *Зь ёю пакуль нутурлы́чысься, дык луччы б сам схадзіў і пыглядзеў.*

**Натурчэць** *зак.* 1. Нацячы струменем. *Нада абізáцільна схадзіць погріб пыглядзець, дужа баюся, каб вады ні нутурчэла, тама дзірік мышы кругом нытачы́лі.* 2. Напець. *Нейкія мáлінькія птушычкі тута жывуць, столька ўжо нутурчаць кажныя раньня!* **Натурчэцца** *зак.* Напецца. *Нутурчэліся птушкі, ужо ня чýтна, ні пяюць, як вясною.*

**Натыкацца** *зак. груб.* Напаказвацца. *Як табе ня стыдна браць чужоя, ны цябе ўсе наты́кыюцца, во, скажуць, Марья вы́гыдывыла сына дык вы́гыдывыла.*

**Натыхаць, натыхацца, натыхкаць, натыхкацца** *зак.* Моцна пабіцца (пра сэрца). *Ён думыў, што крепка пупадзець, наты́хыла серца. У цябе б ня меншы серца наты́хылыся, каб такей страх увідзіў. Каб ты так пупаўся, у цябе б тожа серца наты́хкыла ня меншы. Наты́хкыіцца серца, як узнаіць, што Аўдзяёнычкіна замуж ідзець, ці ні заўтря расьпісыюцца.*

**Натэпкацца** *зак.* Натупацца. *Сядзь во, пысядзі трошку, ты сяньня лáдныга натэпкылыся.*

**Наўгадку** *прысл.* Наўгад. *Віджу, што зублудзіўся, а сонца німа, ні прідумыю, куды йціць, тады я пашоў ныўгáдку, думыю: выйду куды-небудзь.*

**Наўгашчаць** *зак.* Добра пачаставаць. *Ня дужа вас Нюшка ныўгышчáіць, ні надзейціся.* **Наўгашчацца** *зак.* Начаставацца. *Ныўгышчáўся, давольнінькій прішоў, стыяў кылы Максімывых, нешта рысказывыў.* **Наўгашчаный** *дзеепрым.* 1. Начаставаны. *Ат каго ныўгышчáныя? Ат Мархвы? — ні нясі ты трілю́ды.* 2 *перан.* Адлупцаваны. *Ныўгышчáный пабег, бакі пачэсывыў.*

**Наўда** *прысл.* 1. Наўрад. *Нáўда, каб ён на етый ня-*

*дзелі падбег: строіцца, свае работы як прывярнýць.* 2. Дарэмна. *Пайціць можна, толька вы нáўда сходзіця.*

**Наўдобію** *прысл.* Быццам бы, падобна да. *Дылікувáта було, хырашо я ні пагледзіла, наўдобію ета Кычанёнык ішоў, паходка яго.*

**Наўзлакоткі** *прысл.* На локці. *Бабы там пыд вакном кучыю дуріліся, а ён аччыніў вакно, ныўзлакоткі аппёрся і слухыў.*

**Наўкась, наўкось, наўскос, наўскасік, наўскасячок** *прысл.* Наўкос, наўскасяк. *Правёў нáўкысь лінію, тут, гаворіць, кыпайця, дальшы нійдзе ні нада. У цябе піла наўкось ідзець, паетыму цяжола режыцца. Реж наўскось, ніхай большый краёк астаецца, лáпікі будуць. Мы ўсігда лі балота ныўскасік бегылі ны быльшак к Пірагоўскыму логу. Пы дарогі ныдзяжней іціць, ні саб'есься, ну мы ныўскысічок бегыім ціряс кусьцікі: кырацей.*

**Наўміць** *зак.* Навучыць, даць разумную параду. *Ніхто ні нáйдзіцца наўміць яго, куды схадзіць: Ляксейку б нагрелі.*

**Наўскапыт** *прысл.* 1. Наўскач. *Лётыюць пы дзяреўні ныўскапыт, во як гнітанецца каторый с кыня аб дарогу!* 2. Шпарка (бегчы). *Імчацца зь лесу ныўскапыт, я думыла, іх нупужáў тама хто-небудзь.*

**Наўтвараць** *зак.* 1. Навычвараць. *Такея прыйдзісьветы чаго хочыш ныўтвырáюць.* 2. Шмат учыніць (цеста). *Ну й ныўтвырáла ты сабе бліноў, вы і зы два дні ні пыясьцё столька.*

**Наўчыняць** *зак.* Шмат учыніць (цеста). *К свадзьбі як гатовіліся, хлеба сабе ныўчынялі: дзьве дзежкі у сябе пыставілі, адну ў Полькіных, трі дні і варілі, і тушылі мясноя.*

**Нахарахоніцца** *зак.* Пазадавацца, павычварацъ. *Етый усюдых ныхырахоніцца, у яго зыдач ніізьвесна сколька.*

**Нахарашыць** *зак.* Прычапурыць, падхарашыць. *Ты яе так ныхырашыла, што дайжа і Цімох ні пызнáіць.* **Нахарашыцца** *зак.* Прычапурыцца, падхарашыцца. *Луччы ўсіх ныхырашылыся, хуць пыд вянец цябе стаў січас.* **Нахарашомшы** *дзеепрысл.* *Сяньня яны ныхырашомшы выпрывіліся ў горыд.*

**Нахітраваць, нахітравацца** *зак.* Пахітраваць шмат. *Ніхай ба ён сеў с Колію і зь Ягорым, тады б увідзілі,*

*сколька б ён ныхітруваў, а зь дзіцямі што, проста хітруваць. Ныхітруваліся яны здорыва, ну толку зь естыга мала.*

**Нахлёбывацца, нахлябывацца, нахлябтывацца** *незак.* 1. Нахлёбвацца. *Зь відра сыбака нахлёбывыіцца, гані яго палкыю. Праціўный шчанёнык: прівык тут ныхлябывыцца і ўсё лі чугуноў круціцца. Усігда тут ныхляптывыіцца.* 2 *перан. асудж.* Напівацца п'яным. *Ні нада було столька нахлёбывыцца, тады б і гылыва ні балела. Яны ў Андреівых ныхлябывыюцца, нягож яшчэ айдзе. Што йта зы прівычка ныхляптывыцца, каб ногі ня йшлі.* **Нахлябтацца** *зак.* 1. Нахлёбацца. *Ладна ловіць твыя кошычка: ныхліпталыся мылыка і палезла на печ, а мышы ніхай самі ловюцца.* 2. Напіцца п'яным. *Яму абы-чаго, хуць гарі якой ныхліптацца, будзіць даволін.*

**Нахліпацца, нахліпкацца** *зак.* Наплакацца ўсхліпваючы. *Дужа капрызныя дзяўчонка, зу любую мелыч нахліпыіцца. Ці ты ішчэ тама ні нахліпкыўся? — бальшун такей, а скліміць, як малютычка.*

**Нахлынкацца** *зак. неадабр.* Нашвэндацца. *І зы сябе нахлынкыўся, і за Толіка. Жджы ты, пакуля яны нахлынкыюцца, калі дзела гаріць.*

**Нахлянуць** *зак.* Нацячы, наліцца празмерна. *Глядзі, глядзі, каб дзірічык айдзе паць сьцены ні було, ныхляніць вады у ямку і прыпала бульба.*

**Нахмыляцца, нахмылівацца** *незак.* Хмыліцца. *Орлік — спакойный конь, ета ж ён так ныхмыляіцца. Як станіць нахмылівыцца, дык ты яго пугыю хырашэнька.* **Нахмыліць** *зак.* Скасавурыць. *К етыму каню ні ўсякій падойдзіць: нахмыліць морду, вушы складзець, глядзі, укусіць, толька паткніся.*

**Нахныкаць, нахныкацца** *зак.* Наплакацца паціху. *Ты ў мяне січас нахныкыіш, будуць пыпряньнікі, еж вун, што ў міскі наліта. Ну ніхай нахныкыіцца, ета балыўства, распуста — дай тоя, што яму уздумыіцца і большы нічога.*

**Находчывата** *прысл.* Знаходліва. *Васіль умеіць усігда нахоччывыта атвеціць.*

**Находчыватасць** *ж.* Знаходлівасць. *Нахоччывытысьці у цябе німа, другей ба так яго апсек, што й зарёкся б трогыцца.*

**Находчыватый** *прым.* Знаходлівы. *На від ён рызівон, а дужа нахоччывытый чылавек.*

**Нахропцца** *зак.* Нахрапсціся. *Ныхрапу́цца, вы́ліжуцца, а ты іх толька трухтува́ць усьпіва́й.*

**Нахрупкацца** *зак.* Нахрумстацца. *Войцы любюць такоя цьвёрдзінькыя сянцо, нахру́пкыюцца, толька вады ім нясі.*

**Нахрыстаць** *зак. перан.* 1. Зашыць груба, абы-як. *Ныхрістáў абы-як, ці ета зышыва́ньня.* 2. Моцна пабіць з размаху. *Зычапі́йся с хлопцымі, тэя ныхрістáлі яго,— нашто було лезьць.*

**Нахрысціць** *зак. перан.* 1. Налаяць. *Крепка яго Адарка ныхрісьціла, пряма гарей ац стыда.* 2. Пабіць моцна. *Яго каб пупаў там ды ныхрісьці́ў хырашэнька між лупатык дрючком, тады б ён троху атвы́к лазіць айдзе ні нада.*

**Нахуркаць** *зак.* Злосна набурчаць. *Пріш*о*ў, наху́ркыў: як ета так можна гывáріць, мы свае ішчэ,— с такою абі́дыю.* **Нахуркацца** *зак.* Набурчацца. *Уві́дзіць — наху́ркыіцца, луччы ты пыдатрі́, пакуля ні пріш*о*ў.*

**Нахурхулецца** *зак.* Бурна пакіпець, набулькацца. *Столька нухурхулелыся крупеня, вы́цігнула, а мяса сурува́та, што значыць стáрыя кырывя́ціна!*

**Нахырлець** *зак. перан.* Папакутаваць. *Я глянула ны ліцо і зразу віджу: многа Кірей ні нахы́рліць, у яго ліцо — крысівей у гроб кладуць.* **Нахырлецца** *зак.* Напакутавацца. *Дужа крепка нахы́рлі́йся, у яго здаро́йя з мыладых гадоў ніва́жныя.*

**Нацадзіцца** *зак. перан. іран.* Напіцца павольна да стану моцнага ап'янення. *Селі ў Аксюціных кыла беда, патрошку, патрошку і крепінька ныцадзі́ліся к вечыру.*

**Нацёпаць, нацёпкаць** *зак.* Напарыць (у лазні). *Нацёпый яго крепінька, нічога, кылі пыпішчыць, ён даўно ня мыт. Нічога нацёпкыў, і ён муўчаў, толька кряхцей.* **Нацёпацца, нацёпкацца** *зак.* Напарыцца (у лазні). *Як нацёпыюся хырашэнька, тады мне ляхчэй, а так дужа ногі ломюць. Я нацёпкыюся, зымарю́ся, дык каб скарей лежч аддыхну́ць.* **Нацёпаный, нацёпканый** *дзеепрым. Нацёпыный, кра́сьнінькій прібег з бані. Я гыварю: ты ішчэ мала нацёпкына, нада яшчэ раз ны палок, — дык іна ў піск.*

**Нацмыгацца** *зак. неадабр.* Нашукацца. *Нацмы́гылыся, ды, відна, дырма́, нічога ні ўдалося найціць.*

**Нацокаць** *зак. жарт.* Нацалаваць. *Скора ты свайго дыражэнькыга нацокыіш, верна, ужо бягіць.* **Нацокацца**

*зак.* Нацалавацца. *Хва́ціць, хва́ціць, нацокылісь, дывайка яе цяперя нам.* **Нацоканый** *дзеепрым. Яно й відна, што ты явіўся нацокыный: сіяіш, як медный сумувар.*

**Нацопацца** *зак.* Натаўчыся ў гразі. *Выда пыцьцікла́ ў пуню, усё рызьмя́кла, нацопыіська, пакуля пацсохніць.*

**Нацурболіць, нацурбоніць, нацурбэніць** *зак. неадабр.* Наліць. *Вады нуцурболіў у цеста, жы́дка дужа стала. Хто ж ета столька вады сюда нуцурбоніў? Усігда нуцурбэніць вадзішчы, як біз гылавы жывець на сьвеці.* **Нацурболіцца, нацурбоніцца, нацурбэніцца** *зак.* 1. Нацячы. *У ямку вады як нуцурболіцца, прыпадзець бульба, а тама дзірічкі ёсьць кылы штындарык. Ну многа нямнога, а вядры два нуцурбонілыся, усё нымякла. Якей хызяін, такоя і хызяйства, даўно нада було крышу абгледзіць, дык ці ён пару́піцца, вады ў клець нуцурбэнілыся, а ён ня думыіць ні пра што.* 2. Напіцца. *Толька дупусьці, яны ні пыглідзяць, нуцурболюцца. Работы ат яго дужа ня жджы, а нуцурбоніцца толька пыдай. Айдзе ж яны так нуцурбэніліся? — сваіх грошы у іх тря́сцы каб було, а ўгышчаць іх ня дужа хто ста́ніць.* **Нацурболеный, нацурбоненый, нацурбэненый** *дзеепрым. Я віджу, што сюда вады нуцурболіна ла́дныга. Ета ні выда, я дайжа ні рызьбяру́, чаго сюда нуцурбоніна. Учора було бязь меры нуцурбэніна вады і сяньня тоя самыя.*

**Нацыгаць** *зак.* 1. Напішчацца (пра куранят). *У хаці ціпляты нацы́гыюць, што аду́рюць.* 2 *перан.* Пажыць, цяжка хварэючы. *С такою балезьнію многа ні нацы́гыіш.* **Нацыгацца** *зак.* 1. Напішчацца (пра куранят). *Біс квакухі адны ціпляты нацы́гыюцца.* 2 *перан.* Наплакацца. *А як жа я дзелыла? — кіну адных і пышла, большыя нічога, гуляюць, а ма́лый нацы́гыіцца.*

**Нацыркацца** *зак.* 1. Надаіцца. *Што ты ат я́лыўкі хочыш, кружка нацы́ркыіцца ураньні, кружка увечыры, як хочыш, так і еж.* 2 *перан.* Папераліваць. *Калі ты ўжо тут нацы́ркыіська зь етымі бутылкымі?* **Нацырканый** *дзеепрым. Нацы́ркыныя вун у кушунку́ стаіць, я прыцадзіла.*

**Нацыўкацца** *зак.* Наморгацца. *Тут табе дзелыць нечыга, нацы́ўкыўся і йдзі двору, цялёнка набі.*

**Нацюкаць** *зак.* 1. Насячы павольна. *Тут трошку хвырастку́ нада нацю́кыць, зімою ета дырыгая растопа.* 2. Намеціць, робячы засечкі. *Айдзе я нацю́кыў, там і нада атрізаць, я хырашо меріў.* **Нацюкацца** *зак.* 1. Стаміцца

секучы. *Я ўжо нацюкыўся, пысяджу трошку.* 2. *Зал.-бессуб'ект. ад* нацюкаць. 1. *Сколька нацюкыіцца, столька й ладна, ірвацца ня буду.* **Нацюканый** *дзеепрым.* 1. Насечаны. *Тама ішчэ учырашній нацюкыный хвырасток ёсьць, унясеш і хваціць.* 2. Намечаны насечкамі. *Глядзіця ні атрежця кырацей, прыпадзець бірьвяно, режця, тама ладна нацюкына.*

**Нацюпаць, нацюпкаць** *зак.* Патупаць. *Ні знаю, ці многа ён нацюпыіць, здароўя у яго ўсё. Доўга Пятрок ні нацюпкыіць, саўсім слаб.* **Нацюпацца, нацюпкацца** *зак.* Натупацца. *Многа я нічога ня зьдзелыю, а ўсё роўна за дзень пы двару нацюпыюся. К каровым схадзіла, тады хрял'я прынісла, сьвіньней ныкарміла, так і нацюпкылыся.*

**Нацягнуць** *зак. перан.* Сабрацца (пра гной у нарыве). *Раз ныцягнула, скора прарьвець, а сам ні чыпай, можыць хужы стаць.*

**Нацясацца** *зак.* 1. Абчасацца да патрэбнай колькасці. *Паплёт пасьпеіць, нацешыцца, нада іструб скарей ськідывыць, каб ні выляўся як зря.* 2. Здаволіцца, стаміцца чэшачы. *Ці вы тута ішчэ ні ныцісаліся? — заўтрік гатоў.*

**Начаёўнічаць, начаёўнічацца** *зак.* Начаставацца чаем. *Ня думыйця, ня дужа вы ў Гапкіныя дачкі нычаёўнічыіця, іна толька й будзіць глядзець, каб вы скарей выпрывіліся. Пакуля нычаёўнічыюцца, тады пыбылакыюць, і йціць некылі будзіць.*

**Начальнічаць** *незак. іран.* Уладарыць. *Нычальнічыць ба ён любіў, толька прізнываць яго ня дужа хто хочыць.*

**Начапаць** *зак.* Патупаць. *Сколька я ні нычапыю, дык тута я сыма сабе хызяйка, а там ніізьвесна як палучыцца.* **Начапацца** *зак.* Натупацца. *Я і кылы двыра нычапыўся, што каб толька пысядзець.*

**Начапаць, начапацца** *зак.* Дакратацца. *Нычыпаіш ты яго, што ацскочыш зыплакыўшы. Ну што, нычыпаўся? — ці я ні гыварыў, што так будзіць.*

**Начапурывацца** *незак.* Чапурыцца. *Ты зірні-ка, як яны нычапурівыюцца, як ныстыяшчыя дзеўкі, а што зь іх будзіць дзеіцца, як пыдрастуць?* **Начапураный** *дзеепрым. Ого, якея нычапуріныя, хуць пыд вянец станоў абеіх зразу.* **Начапуромшы** *дзеепрысл. Сідзяць нучупурёмшы ны скамеічкі, ждуць сваіх кывалерыў.*

**Начарнець, начарнецца** *зак. перан.* Нагаравацца.

*Столька ўжо нычарнела Пуўлючыха пы сваіх сынах, як чуствывыла, што ня вернуцца, а яны пашлі і як у ваду канулі. Усякыя б матка нычарнелыся схувáць аднаго сына, а ўсьлед другога.*

**Начарніцца** *зак.* Пабэсціць, паабгаворваць. *Сколька яны мяне нычарніліся, ніхай яны самі ета ацьцерьпюць.*

**Начарэпываць** *незак.* Начэрпваць. *Ні нада так поўна нычарепывыць, пыблівáіш і штаны, і бацінычкі.* **Начарэпывацца** *незак.* Начэрпвацца. *Вядро пакуль ішчэ нычарепывыіцца, ну тама вады саўсім мала астаецца, нада було б горька пачы́сьціць калодзіж.* **Начарэпаць** *зак.* Начэрпаць. *Я нычарепыю, а ты зынясі, так скарей будзіць, я пакуль зь відрáмі дайду, многа ўремя пройдзіць.* **Начарэпацца** *зак.* Начэрпацца. *Ці ня рыбкі ў цябе нычарепылыся, ай можа лягушка ў вядро пупáла?* **Начарэпаный** *дзеепрым. Ны лáвычкі ж нычарепыныя вёдры стыяць, увечырі Максім прінёс і пыстáвіў.*

**Начаставаць, начасціць** *зак.* 1. Пачаставаць добра. *Думыіш, кылі ты ўжо яго нучуствуáў, дык ён длі цябе ўсё зьдзелыіць, — не, ён ні такей. Знаць, пляменьніца з мужуком зыхадзіла, нычасьцілі іх хырашо, мужык крáсьнінькій пашоў.* 2 *перан. іран.* Збэсціць, пабіць. *Толька стреніць цябе Андрей, нычастýіць, чаго ты к яго хлыпцáм чыпляісься усякій раз. Крепка січас нычасьціла Кузьмоўна свайго зяця.* **Начаставацца, начасціцца** *зак.* Пачаставацца добра. *Рыскажыці-ка, як вы нучуствуáліся учора ў Астрейкывічых? У каго ж ты так нычасьціўся? — дужа вясёлінькій ідзеш.* **Начаставаный** *дзеепрым.* 1. Пачаставаны добра. *Ганна так ня вы́пусьціць, ат яе паедуць нучуствуáныя.* 2. Збэшчаны, пабіты. *Ну, як ты, пулучы́ў, што хацеў, нучуствуáный ходзіш?*

**Начупырываць** *незак.* Настаўляць трывожна (вушы), прыслухоўвацца. *Чаго ты вушы нучупы́рівыіш, нікога там німа, ня бойся.* **Начупырывацца** *незак.* Трывожна прыслухоўвацца. *Глянь-ка, як кот нучупы́рівыіцца, нешта стрáшныя чуіць.* **Начупырыць** *зак.* Наставіць трывожна (вушы), пачаць прыслухоўвацца. *Нешта там у кустах ёсьць, сыбака нучупы́ріў вушы і глядзіць.* **Начупырыцца** *зак.* Трывожна прыслухацца. *Нешта коні нашы нучупы́ріліся, толька ж ныўряд, каб днём воўк палез.* **Начупыраный** *дзеепрым. Адзін сядзіць на пне, аганёк гарíць, і два сыбакі нучупы́ріныя кылы яго збоку.*

**Начыгаць, начыгацца** *зак.* Нацярпецца нягод у вын-

ку безгаспадарлівасці. *Начыгыіць ён зы сваю жызьню,— ета нада такому бязрупытныму урадзіцца! Летыся ладна начыгыліся і сёліта будзіць тоя самыя: ніскoлька ні забоцюцца, каб ґ зіме прідбаць чаго.*

**Начыкаць** *зак. жарт.* Нарэзаць. *Хто йта тут столька палычык начыкый? — нехта балывыйся.* **Начыкацца** *зак. перан.* Павазіцца. *Васіль с табою вун сколька начыкыйся, а са мною так дзела ня пойдзіць, я жыва ўніму.* **Начыканый** *дзеепрым. Бярі-ка венік, усё сваё начыкыныя пыдмітай!*

**Начыкрыжываць** *незак. жарт.* Наразаць. *Ой, не, столька ні нада нычыкрыжывыць!* **Начыкрыжывацца** *незак. Зал.-бессуб'ект. ад* начыкрыжываць. *У цябе ўсігда лішніга нычыкрыжывыіцца.* **Начыкрыжыць** *зак.* Нарэзаць. *Міску гуркоў нычыкрыжыла, пуўбанкі сьмітаны туды, сь печы бульбу новыю — наця ежця.* **Начыкрыжыцца** *зак. Зал.-бессуб'ект. ад* начыкрыжыць. *У цябе столька ні нычыкрыжыцца, ты так ня ўмеіш.* **Начыкрыжаный** *дзеепрым. Во і сала гатова, нығжаріна, і хлеб нычыкрыжын, хуць ету мінуту за стол садзіся.*

**Начысціць** *зак. перан.* Адлупцаваць. *Ні я яго бацька, начысьціў ба хырашэнька раз ды другей, дык ён ба зарёкся дуры сыпысаць.* **Начышчаный** *дзеепрым. Крепка начышчыный пабег учора з Мыкарывыга сада.*

**Начэгнуцца** *зак.* Напакутавацца ад недахопу харчавання. *Тую вясну мы крепка начэгліся. Што ж біз мылыка такую мальгву браць, начэгнуцца ў цябе етыя пырысятычкі.*

**Нашабуцець, нашабуцецца** *зак.* Навычвараць, пашумець. *Трыхімёнык нушубуцець можыць, мы яго хырашо знаім. Кіреівы мальцы нушубуцеліся і пашлі двору, бацька іх ладна угосьціць, ён шубуценьня ня любіць.*

**Нашаваліць, нашавяліць** *зак. перан.* Назбіраць шмат (пра грыбы). *Ого, сколька бырывічкоў нышывалілі ўдваіх! Ён дужа знаіць мясьцінкі, як пойдзіць, усігда нышавеліць мыладзенькіх грібкоў.*

**Нашалапуціць, нашалапуціцца** *зак.* Навычвараць. *Ты ні прідумыіш, сколька яны тут нышылапуцілі. Ён і посьлі чаркі нышылапуціцца, і біш чаркі любіць сябе пыкызаць, прірoдзьдзя такоя.*

**Нашалацца** *зак.* Набадзяцца. *Яны дужа многа па сьвету нышылаліся, з мыладых гадоў як пашлі, усё ўремя езьдзілі.*

**Нашалудзіць, нашалудзіцца** *зак.* Навычвараць. *Пы днаму яны нічога, хлопцы як хлопцы, а як сыбяру́цца ку́чыю, нушулудзя́ць. Учора ён уволю нушулудзі́ўся, во каб ён сяньня сам ны сябе паглядзеў збоку.*

**Нашамацецца** *зак.* Нашоргацца. *Ну й нышымацелыся сяньня мыш зы дзіва́нчыкым, дужа я жалела, што кошку вы́кінула за дзьвері.*

**Нашарахоніцца** *зак.* Навычвараць (дзейсна, з шумам). *Пріехылі Кындрацёнкывы хлопцы, яны тута кучыю цяперя нышырахонюцца.*

**Нашарахываць** *незак.* Націраць. *Так ужо ня стоіць нышыра́хывыць, што кра́сна дзелыіцца.* **Нашарахывацца** *незак.* Націрацца. *Меншы нышыра́хывыйся, нашто так многа.* **Нашарахаць** *зак.* Нацерці, замазаць. *Нышыра́хыў рука́вы, сталі грязныя, пряма нікчомныя.* **Нашарахацца** *зак.* Нацерціся, замазацца. *Плічамі ў нейкыю пыль нышыра́хыўся, ажно пыбялелі.* **Нашараханый** *дзеепрым. Якоя ў цябе плячо нышыра́хыныя, пряма ды крыві аб нешта цірну́ўся крепка.*

**Нашарудзіць** *зак.* Падбухторыць. *Пашоў, нушурудзі́ў іх, большыя і ляціць сваріцца: як ета так, што з намі ніхто ні шчыта́іцца.* **Нашарудзіцца** *зак.* Павычвараць. *Ну, думыў, што чы́шчы яго нікога на сьвеці німа, тута нушурудзі́ўся — жыва ўня́лі.*

**Нашарыцца** *зак.* Нашукацца. *Сколька ён усюдых ныша́ріўся, думыў, што найдзіць грошы, а я далёка схува́ла, ні дыбярецца.*

**Нашкаруднічаць, нашкаруднічацца, нашкарыднічаць, нашкарыднічацца** *зак.* Навычвараць. *Зь дзіцямі і ён нышкарю́днічыіць, а нарьвецца на ўзрослых, дык будзіць сядзець ніжы травы, цішы вады. Ніхай ба цябе бацька увідзіў, во тады б ты нышкарю́днічыўся,— зразу забыў ба пры свае дуры́. Не, многа ты ні нышка́рідні-чыіш, цябе мігым унімуць. Ён троху сілу чу́ствывыў тоя ўремя, дык уго сколька нышка́рідні-чыўся.*

**Нашкумарджываць** *незак.* Тузаць доўга. *А ні нада ўжо яго так нушкума́рджывыць, ён і так чуць ні пла́чыць.* **Нашкумардзіць** *зак.* 1. Нарваць. *Кучу тріп'я́ нушкума́рдзіў за́ дзінь, во чым ён зыніма́ўся.* 2. Натузаць. *Ён хлапчы́на ціхій, а яны бысяччо-бысяччо, нушкума́рдзілі етыга мальца.* **Нашкумардзіцца** *зак.* Натузацца. *Пень ня дужа й тоўстый, ну ўсё кареньня ўніз, а кыпа́ць цяжола, кругом кусты, мы зь ім крепка нушкума́р-*

*дзіліся.* **Нашкумарджаный** *дзеепрым.* Натузаны. *Нейкій ён сяньня нушкумáрджыный прішоў, ці пыцігáўся сь кім, ці што.*

**Нашкуматаць** *зак.* Нарваць, надзерці (пра паперу і інш.). *Каторый ета столька бумагі нушкумутáў? — ну й ты, старэй, усё дно як мáлінькій дзіцёнычык, глядзіш і ня крікніш на іх.* **Нашкуматацца** *зак.* Нарвацца, надзерціся (пра паперу і інш.). *У цябе тожа ня меншы нушкумутáлыся, а прібраць ты ня дужа хочыш.* **Нашкуматаный** *дзеепрым. Во ўсё ета нушкумутáныя сыбярі, сыбярі паверьх ды ў печ, каб пыд ныгамі ні вылялыся.*

**Нашкумаціць** *зак.* 1. Надзерці. *Во шытніца наша ўзілáся, нушкумáціла кучу тряпык.* 2 *перан.* Натузаць. *Добря чынюць, кылі нушкумáцюць, ты даўно ета зуслужыў.* **Нашкумаціцца** *зак.* Натузацца. *Як шчапіліся ўдзьвюх, ладна нушкумáціліся.* **Нашкумачаный** *дзеепрым.* 1. Надзёрты. *Тута і бумага, і мацерія нейкыя — усяго нушкумáчына.* 2. Натузаны. *Пыбягіш ты січас ат'етуля нушкумáчыный.*

**Нашлёпацца, нашлёпкацца** *зак. перан.* Натупацца (па гразі). *Нада було кынáўкі пыпрыкыпáць, выда б сьцікáла, а так усігда нашлёпыісься, ногі мокрыя. Як нашлёпкыісься пы грязі за цэлый дзень, дык глядзіш, каб скарей на печ ускаціцца.*

**Нашлындаць** *зак.* Набадзяцца. *Што, нашлындыў? — а ці табе ні гыварілі, каб за розум браўся. Ты ўжо нашлындыў большы ні нада, заўтря у лес паедзім.*

**Нашлэпацца, нашлэпкацца** *зак.* Натупацца. *Работы ніякый ня відна, а нашлэпыісься, нашлэпыісься, лі хызяйства усігда ёсьць работа. Ты ужо ўволю нашлэпкыўся, пысядзі ў хаці.*

**Нашмаравацца** *зак.* Нацерціся добра. *Хвáціць, нушмурувáўся, с твайго хумутá дзёгыць січас зыкáпыіць.*

**Нашмуляваць** *зак.* 1. Нацерці да бляску. *Нушмулювáў ремінь, ажно гырячый стаў.* 2 *перан.* Адлупцаваць. *Каб ремнім нушмулювáў зы такея дуры, другей ба раз падумыў, ці тваріць, ці не.* **Нашмулявацца** *зак.* Нацерціся да бляску. *Хвáціць ужо цігаць, нушмулювáўся, займіся чым другім.* **Нашмуляваный** *дзеепрым.* 1. Нацёрты. *Вярёўка нушмулювáна, аж гырячыю стала.* 2. Адлупцаваны. *Пыцішэіць нушмулювáный, ато ж на ім пряма рогі пырасьлі.*

**Нашмуляный** *дзеепрым.* 1. Нацёрты. *Я ж віджу, што*

*нечым нушмуля́ныя рука, так ба ні пыкрасьнела.* 2 *перан.* Адлупцаваны. *Крепка нушмуля́ный сядзіць, пулучыў за ўсё зразу.*

**Нашныхарыць, нашныхарыцца, нашныпарыць, нашныпарыцца, нашныраць, нашныраццa** *зак.* Нашукацца старанна, пранырліва. *Ета есьлі дыбярецца, усюдых нашны́хырiць, кажный вугольчык абгледзіць і аппоріць. Можа, хва́ціць, ты ўжо учора нашны́хырiўся большы некуды. Я відзіла сколька яны пы двару нашны́пырілі, што ўжо найціць тама хацелі, ні знаю. Ні пупа́ла я яго ў той пуні, я б яго з гря́зьзю зьміша́ла,— ета нада іціць у чужую пастройку і нечыга шукаць. Учора зу пуўдня нышныря́ў пу кустах, думыў, сваю красотку сь кім-нібудзь пупадзець. Хваціла яго ўсюдых, усюдых нышныря́ўся.*

**Нашпіляный** *дзеепрым.* Нахвастаны. *Учора аднаму пупала, а сяньня абоя так ня вы́круціціся, нышпіля́ныя пыбігіцё.*

**Нашураць** *зак.* Моцна паганяць. *Ня столька ныпа́сьвіў, сколька нушуря́ў етых цілят.* **Нашураццa** *зак.* Моцна пабегаць, паганяцца. *Ну што, кылі ты нушуря́ісься, ці ты бырына́ зловіш на полі.* **Нашураный** *дзеепрым. Нушуря́ныя войцы і на двор іціць быяцца.*

**Нашурхаць** *зак.* Набурчаць злосна. *Ніхай ён сьпірва ны сваю жонку нашу́рхыіць, а тута яму рызыря́цца нечыга.* **Нашурхаццa** *зак.* Злосна набурчацца. *Ці будзіць ужо такоя ўремя, каб ён сьціх, во і сяньня нашу́рхыўся і пашоў.*

**Нашчабятаць** *зак. перан.* Нагаварыць вельмі многа (звыч. пра дзіця). *Мыя ўнучка як прібягіць, нышчабечыць, пра ўсё чы́сьцінька рыскажыць.* **Нашчабятацца** *зак.* Нагаварыцца. *Сьпі ўжо, сьпі, ты за вечыр нышчыбіта́лыся, усе казкі бабі рыскыза́ла.*

**Нашчырыць** *зак.* Пашчыраваць. *Ніхто столька ні нышчыріць, як усё гарнула у хызяйства Полька.*

**Нашэннік** *м.* Той, хто носіць. *Якей з ма́лыга нашэньнік, дзьве палкі чуць нясець.* **Нашэнніца** *ж. Другая нашэньніца січас пыдбягіць, тады вы жыва упра́віціся.*

**Наюджыванне** *н.* Нагаворы. *Ні ста́нуць Пракопывы яго наю́джывыньня слухыць, яны сымыстыя́цільныя людзі, а ён ветріньнік.*

**Наюджываннік** *м.* Той, хто нагаворвае. *Етыя наю́джывыньнікі пыдвядýць пуд дурнога хату, нарошня чу-*

*бы шчэпюць.* **Наюджыванніца** *ж. Ня меншыя наю́джывыньніца і твыя сьвякро́ўка, ні зуступа́йся дужа.*

**Наюджываць** *незак. асудж.* Нагаворваць з мэтай нацкаваць, выклікаць злосць да іншага. *Пряма штонебудзь зьдзелыць ні сырва́лі, дык узяліся Мархву наю́джывыць.* **Наюджываный, наюджаный** *дзеепрым. Ён ужо наю́джывыный большы некуды. Што-небудзь жа наю́джына, чаго б ён кіпеў так біз усякія прічыны.*

**Наякатаць** *зак.* Паенчыць. *Я цябе ныікачу́ січас, што ты ныпраўду зыякочыш. Пальцы як рызбалеліся, што ён ныікыта́ў.* **Наякатацца** *зак.* Наенчыцца. *Ні хыця ныякочысься, кылі цярьпець нільга — тыкая боль.*

**Наярыжыванне** *н.* Падбухторванне. *Не, ні паслухыіць ён ніякыга ныяры́жывыньня, ён знаіць, к чаму яны клонюць.*

**Наярыжываць** *незак.* Падбухторваць. *Узяліся Гыўрілёнка ныяры́жывыць, стыря́юцца, думыюць, што ён з брігадзірым пысва́ріцца.*

**Неакуратнічаць** *незак.* Рабіць неакуратна, нязграбна. *Ня дужа красіва так нікура́тнічыць, зы сабою ўсігда прібра́ць нада.*

**Неакуратства** *н.* Неакуратнасць. *Я дужа нікура́тства ні люблю, усё, бувала, бурчу́ ны стыріка, каб акуратнейшым быў.*

**Неапратнік** *м.* Неахайнік. *Пры ніапря́тніка ты мне ні гывары, ён і дзяцей ні пріпу́ціць, і сябе да толку ні дывядзець. Памянш.* **неапратнічак.** *І сынок пыдрыстаіць такей самый ніапря́тнічык, увесь чыста бацька. Узмацн.* **неапраціна.** *Во жывець ніапря́ціна, як толька Сямёныва дычка яго церьпіць. Павеліч.* **неапрацішча.** *Ніапря́цішча быў старэй, зы адзёжыю ніскалька ні глядзеў, ні зыста́ў пірядзецца, і будзіць хадзіць у грязным.* **Неапратніца** *ж. Што ж ты будзіш дзелыць, кылі зма́лку ніапря́тніцыю зыдыла́ся.*

**Неахайства** *н.* Неахайнасць. *Я б ні аднае мінуты ні стала цярьпець такога ніаха́йства, жыва б пріўчы́ла к пырядку.*

**Небыльніца** *ж.* Небыліца. *Якую-нібудзь нібыльніцу прідумыюць і самі ў яе верюць,— во людзі дык людзі.*

**Невынасіма** *прысл.* Невыносна. *Ні пріду́мыю, ач чаго, ну гылыва рызбалелыся нівынасі́ма.*

**Невынасімасць** *ж.* Невыноснасць. *Чаго ёй такую нівынасі́мысьць цярьпець як зыпрыда́джыный якой.*

**Невынасімый** *прым.* Невыносны. *Я б сяньня ні пышла нікуды, холыд нівыносный, можа к таму скрысеньню пыцяплеіць.*

**Недаборкі** *мн.* Пакінутыя каноплі, лён. *Нада було б вырвыць нідаборкі, ніхай ба ні стыялі, ато скажуць: во, пучок кынапель ня могуць высмыргнуць. Памянш.* **недаборачкі.** *Ета ў мяне тут нідаборычкі вырвыныя ліжаць.*

**Недаветраный** *дзеепрым.* Неправеяны (на ветры). *Усё нідаветріныя у начоўкых, тама ня дужа многа астáлыся.*

**Недавідзець** *незак.* Мець дрэнны зрок, недастаткова добра бачыць. *У мяне былі дужа харошыя вочы, а ў пасьледнія ўремя стала нідавідзіць, у іголку ні ўкладу.*

**Недавольстваваць** *незак.* Выражаць незадаволенасць, быць незадаволеным. *Скызаць Андрей нічога ні скажыць, ну я віджу, што крепка нідавольствыіць.*

**Недавольствіе** *н.* Незадаволенасць. *А ты ні глядзі ны яго нідавольствія, як нада, так і дзелый.*

**Недажратый** *дзеепрым. груб.* Няз'едзены. *Ні нырізáй кускоў, тама ішчэ ўчырашнія нідыжрáтыя выляюцца.*

**Недакладжаный, недакладзеный, недаклатый** *дзеепрым.* Не накладзены поўнасцю, не завершаны. *Нідыклáджыный цугун ні нада ставіць у печ, памый нескылька бульбін ды разреж наверьх. Нідыклáдзіный стог нымякніць. Ай-я-яй, капёшка асталыся нідыдлáтыя пад дождж.*

**Недалёжка** *ж.* Недалежаны лён. *Порціцца лён ны кажным шагу: то нідалёжка, то пірялёжка.*

**Недалічаць** *незак.* Недалічваць. *Ну чаго йта ён так— ці ашыбáіцца, ці нарошня нідылічáіць?*

**Недамерак** *м. перан. абраж.* Недарослы чалавек. *Яны ўжо сваім нідамеркым хвáлюцца і ні ныхвáлюцца ніяк.*

**Недамератый** *дзеепрым.* Недамераны. *Во тут астáлыся нескылька нідамерітых палык.*

**Недамуздак, недавуздак** *м.* Аброць прасцейшага віду. *Я ж хырашо помню, што вешыў нідамýздык на крюк у сенцых. У мяне ну крючку вісеў нідавýздык, ці ні ўзяў хто. Памянш.* **недамуздачак, недавуздачак.** *Харошый быў нідамýздычык ряменный, нешта даўно ня відна, я ўсё сы брыцямі хаджу цяпер. Акуратный нідавýздычык пашыў, ні нада будзіць у Аўсяёнка прасіць.*

**Недасаль** *прысл.* З недахопам солі. *Калі недысыль, пыцсалі трошку, во ў банычкі соль. Учора крупеня была пірясоліна, а сяньня недысыль.*

**Недахватства** *н.* Недахоп. *Як ты жывеш, што ў цябе ўсігда нідыхваства, ны кажным шагу то аднаго ні хвытаіць, то другога, рупіцца большы нада, во што!*

**Недацёпістый** *прым.* Нехлямяжы, няўклюдны. *Сыма нейкыя лахўдра, і дзеці па ёй зыдаліся нідацёпістыя, вырынятымі ходзюць.*

**Незавідна** *прысл.* Незайздросна. *Мала што яны треплюць, нізавідна Антанёнык жывець. Памянш.* **незавіднелька.** *Нізавіднінька яму тама пріходзіцца, ніхай ні хваліцца.*

**Незадашлівасць** *ж.* Няўдача. *Во нізыдашлівысьць у Зьмітраковых етый год, ісь сьвіньнямі ні пыдвязло, а цяперь с каровыю горя еткыя; як ні пывязець, дык яно адно зу другоя і чыпляіцца.*

**Незамошчаный** *дзеепрым.* Не засланы падлогай, без падлогі. *А мы зімувалі у нізамошчыный хаці. Сенцы асталіся нізамошчыныя, трі доскі пыкладжыны пысярёд у хату хадзіць.*

**Нездаравяка** *м.* і *ж.* Асоба са слабым здароўем. *Сколька мы яго знаім, ён усё ўремя ніздырывяка. Хрузычкіна дычка і дзеўкыю была ніздырывяка.*

**Некаліцца** *незак.* Не хапаць часу за клопатамі. *Калі ўжо табе етык некыліцца, бягі, ці я цябе зы палў дзіржаць буду.*

**Неканне** *н.* Адмаўленне, аднекванне. *У цябе некыньня усё рыўна як у маліңкыга дзіцёнычка.*

**Некаць** *незак.* Адмаўляцца, аднеквацца. *До ўжо некыць, даюць, дык вазьмі і скажы спасіба.*

**Некаяннасць** *ж.* Нягодніцтва. *Я ні ў кога столька нікыяннысьці ня відзіла, сколька ў Ляксея, чаго зь яго толька ні тварілыся.*

**Некаяннік** *м.* Нягоднік. *Пыдрыстаюць нікыяньнікі, спакою ў дзяреўні ня будзіць.* **Некаянніца** *ж.* *Ды зы сваё бярецца, што йта зы нікыяньніца урадзілыся на сьвет!*

**Некаяннічанне** *н.* Нягодніцкія ўчынкі. *Усе ўжо нагледзіліся ны яго нікыяньнічыньня, і што зь ім тварiцца, раншы ж быў чылавек як чылавек.*

**Некаяннічаць** *незак.* Паступаць па-нягодніцку. *Січас яго ня відна й ня чутна, а сколька ён тоя ўремя нікыянь-*

*нічыў, сколька зьдзіваўся нуд людзямі, сколька раз ету сваццю сваю у паліцыю цігаў.*

**Некаянный** *прым.* Нягодны. *Дужа нікыянныя баба, нійдзе ні разычку спакою німа ёй ні ў чым.*

**Некаянства** *н.* 1. Нягодніцтва. *Во нікыянства уелыся ў чылавека, грызець яго і грызець, ажно места сам сабе ні находзіць.* 2. Нягоднік. *Ну й нікыянства чылавек, гадзі — ні ўгадзіш.* 3 *зб.* Нягоднікі. *Адно нікыянства сыбралыся, яны б жыўём паелі людзей.*

**Некрасівый** *прым.* Непрыгожы. *Памянш.* **некрасівенькій.** *Кылі й хлопіц нікрасівінькій, дренна, а дзяўчонкі і саўсім плоха. Узмацн.* **некрасівенный.** *Ай-яй, якей жа ён нікрысівенный, зь ім жа на людзі выйціць нілізя. Павеліч.* **некрасівушчый.** *Старшыя дычка нічога, а меншыя нікрысівушчыя, ікраз як мама.*

**Некудышна** *прысл.* Нікуды не варта, вельмі дрэнна. *Як стыряліся, нічога дзелылі, а тады сталі нікудышна гресьць, клыкамі сена астаецца.*

**Некудышнасць** *ж.* Няздатнасць. *Нікудышнысьць мне нісколька ні ыравіцца. Есьлі нікудышнысьць, я дайжа і глядзець ні хачу.*

**Некудышнік** *м.* Няздара.*Нікудышнік ты, а ні масьцір, твыя сьценка, глядзі, вывірніцца.* **Некудышніца** *ж. Нікудышніца работніца, зь ёю дайжа ніхто стынавіцца разым ня хочыць.*

**Некульцяпістасць** *ж.* Нязграбнасць. *Не, маліц, калі ня будзіш прілямывыцца к рабоці, ні знаю, што сь цябе будзіць і хто будзіць тваю нікульцяпістысьць ярьпець.*

**Нелюдзёвый** *прым.* Нягодны, не такі, як людзі. *Адзін сын, і тэй нілюдзёвый. Хўжы німа, як пупадзецца нілюдзёвый чылавек.*

**Немтура** *ж.* 1. Нямы чалавек або такі, які дрэнна гаворыць, у якога дрэнная мова. *Во яшчэ айдзе німтура, слова прыгыварíць ня можыць.* 2 *зб.* Нямыя людзі або такія, у якіх дрэнная мова, якія дрэнна гавораць. *Німтура тама сыбралыся, як ты пыгаворіш зь імі.*

**Немудрушка** *м.* і *ж.* Незайздросная асоба, жывёла, прадмет. *Узіла сабе зяця с-пат Крічыва, мы відзілі яго: німудрушка мушчына. Дзіржаць німудрушку кароўку, многа ні даець, ну ложка мылыка ўсігда свыя. Ета німудрушка хатка, табе б нада луччыю прапытывыць. Памянш.* **немудрушачка.** *Німудрушычку ўзяў, жывуць,*

*знаць, адзін сын ёсьць. Німудрушычка банька, чуць ліпіць. І хатка ў яго німудрушычка, і сенцы чуць ліпяць, вецір ладный дунець і зывалюцца.*

**Ненаеддзе** *н. асудж.* 1. Сквапнасць. *У ёй такоя самыя нінаедзьдзя, як у старых.* 2. Сквапны чалавек. *Ні чылавек, а нінаедзьдзя нейкыя, ні прідумыіць, сколька б ён грёб пыць сябе. Узмацн.* **ненаедзіна.** *Во хто быў нінаедзіна, пряма ні знаў, сколька гресьць і хвытаць. Павеліч.* **ненаедзішча.** *Нінаедзішчу ні разу нічым ні ўблыгытваріш.*

**Ненаеднік** *м. асудж.* 1. Чалавек, які многа есць. *Сколька б ён жраў, нінаеднік етый.* 2. Сквапны чалавек. *Урадзіўся нінаеднікым, усігда ўсяго мала, жадныcьць адуріла.* **Ненаедніца** *ж. Во нявестка пыдыбралыся к сьвякрові, ікраз тыкая самыя нінаедніца.*

**Непагляднасць** *ж.* Непрывабнасць. *Нада табе дужа тая пыглядныcьць, ніпыглядныcьць, во зыйшла, дык і ніхай жывець.*

**Непаглядный** *прым.* Непрывабны. *Не, мужык ён саўсім ніпыглядный, як іна йшла зы такога. Ніпыглядныя карова, ныўряд, каб зь яе мылыка наеў. Памянш.* **непаглядненькій.** *Ніпыгляднінькыя цёлычка, я б такую ні браў.*

**Непадрушна** *прысл.* Няёмка, нязручна. *Сходзіў ба ты луччы сам, мальцу к ім іціць ніпадрушна.*

**Непадрушный** *прым.* Нязручны. *Дужа ты ніпадрушныя ўремя выбрыў ехыць, нада було нядзелі дзьве пыдыждаць.*

**Непадходна, непадходліва** *прысл.* Без умення падысці. *У цябе ўсігда неік ніпатходна пулучаіцца: прішоў і ляп зразу. Ніпатходліва ты зьдзелыў, паетыму іна і скызала так.*

**Непадходнасць, непадходлівасць** *ж.* Няўменне падысці, просталінейнасць. *Табе ніпатходныcьць увы ўсякім дзелі мішаіць, ты ўчыся, як Шурка: ён і з малым ровін, і сы старым харош. Цябе атвучаць нада ат ніпатходлівысьці.*

**Непадходный** *прым.* Няўмелы ў абыходжанні, просталінейны. *Ніпатходный ты чылавек, нада було пыгываріць, рыспрасіць, а ты зразу: пызавіця мне Пітрыка.*

**Непапутна** *прысл.* Не па дарозе. *Туды йціць ніпапутна мне, круг такей прідзіцца дзелыць.*

**Непаслухмянства** *н.* Непаслушэнства. *Мы ўжо ні*

*прідумыім, што зь іхным ніпуслухмя́нствым дзелыць, ні ка́пілічкі ня слухыюць.*

**Непачынатый, неначынатый** *дзеепрым.* Некрануты, цэлы. *Сяньня можна ні купляць: ішчэ цэлыя булка ніпычына́тыга хлеба ляжыць і тут кра́іц ладный. У яго, мы відзілі, ніньічына́тыя кладка сена ляжыць.*

**Неперабіра** *м.* і *ж.* Той, хто непатрабавальны ў ядзе. *Табе хырашо, твыя карова ніпірябі́ра, што паткініш, то й зьесьць, а мыя чмы́хыіць: дай лугавога сена.*

**Неперабірлівасць** *ж.* Неперабoрлівасць, непатрабавальнасць у ядзе. *Я ўсігда хвалю ніпірябі́рлівысьць: што стрей, то й зьей, ета хырашо.*

**Неперабірлівый, неперабірастый** *прым.* Неперабoрлівы. *Ніпірябі́рлівыя дзеці, бульбы іс салым нымыка́юцца і пабеглі на вуліцу, гуляюць. Яны ў мяне растуць ніпірябі́рістыя, што нывaрю́, то й ядуць.*

**Неперанасіма** *прысл.* Невыносна. *А ну вас, ікая мне свадзьба, у мяне ніпірінасі́ма сьпіна баліць.*

**Неперанасімасць, непераноснасць** *ж.* Невыноснасць. *Усякыя ніпірінасі́мысьць у жызьні была, а піріжывалі людзі. Мне тыкая ніпіряноснысьць была, што я сыма ні знала, як вы́ціррьпіць.*

**Неперанасімый, непераносный** *прым.* Невыносны. *Я быў у Сяредній Азіі, тама ніпірінасі́мыя жыра. Ніпіряносныя ўремя було, і дзень, і ноч быя́ліся прі акупацыі.*

**Непераносна** *прысл.* Невыносна. *У мяне пасечыныя нядзелю ніпіряносна балела, я места сабе ні ныхадзі́ў.*

**Непрыкаяннік** *м.* Гаротнік. *Ня трогыйця вы етыга ніпріка́іньніка, у яго горя гарчэй некуды.* **Непрыкаянніца** *ж. Машка сыма ніпріка́іньніца, што іна вам паможыць.*

**Непусканне** *н.* Затрымліванне. *Дужа яму будзіць важна тваё ніпуска́ньня, сыбярецца і пойдзіць, куды ўзду́мыў.*

**Непусканнік** *м.* Той, хто затрымлівае, не пускае. *Дужа йна пыглядзіць ны свайго ніпуска́ньніка, паслухыіць і пышла, а ён ніхай бурчыць.* **Непусканніца** *ж. А сядзі ты, ніпуска́ньніца, ціха, калі сядзі́ш, ета цябе саўсім ні кыса́іцца.*

**Непутнэй, непутный** *прым.* Няўдалы, дрэнны. *Сам ніпутнэй і жонка тыкая самыя пупа́лыся. А ніпутны́я пырысяткі: ні ядуць, склімя́ць, самі ні знаюць, чаго яны*

*хочуць. Памяніш.* **непутненькій, непутненечкій.** *Быў у яго нейкій ніпутненькій кунюшок, пудоў па дзесіць сена вазіў з лугу на ём. Ніпутненічкія пырысяткі бегыюць лі двыра. Узмацн.* **непутненный.** *Чаго ты такей ніпутненный зыдáўся? Павеліч.* **непутнюшчый, непутняшчый.** *І ў дзейкых была ніпутнюшчыя, і цяперя тыкая самыя астáлыся. Есьлі ніпутняшчый урадзіўся, дык ты яму хуць жару пацсы́п, ні ныпрáвіш.*

**Непуццё** *м.* і *ж.* Няўдаліца. *Старшый у яе ніпуцьцё маліц, а млáчшыя нічога, слухмя́ныя. Штоб дзейкі такім ніпуцьцём быць, гарюіць зь ёю матка большы некуды.*

**Неразборчывата** *прысл.* 1. Неразборліва. *Пішыць ніразборчывыта, ні нада сьпяшыць, па бýквычкі вывадзі, дык і прычытаіш.* 2. Гугнява. *Гаворіць у нос ніразборчывыта.* 3. Неакуратна, бяздумна. *Нашто ж ты дзелыіш так ніразборчывыта?*

**Неразборчыватасць** *ж.* Неразборлівасць. *Ікая у чылавека ніразборчывытысьць: ідзець сь кім пупала, гаворіць што зря, як глумáк якей.*

**Неразборчыватый** *прым.* 1. Неразборлівы (пра почырк). *У цябе поччырк дужа ніразборчывытый.* 2. Неакуратны, бяздумны. *Нільзя быць такому ніразборчывытыму, падумый, перш чым гыварíць.*

**Неразборчыста** *прым.* 1. Неразборліва. *Ён дужа ніразборчыста пісаў, а ў мяне поччырк харошый быў, усігда ныстаўніца хваліла.* 2. Гугнява. *Нешта бýркнуў ніразборчыста, я ні пынілá што.*

**Неразборчыстый** *прым.* Неразборлівы (пра почырк). *Дренна, кылі поччырк ніразборчыстый, напішыць, а ты нічога ня пойміш.*

**Неразваротліва** *прысл.* Неэнергічна, пасіўна. *Ета ні твыя біда, што ён дзелыіць нірызваротліва, як умеіць, так і жывець.*

**Неразваротлівасць** *ж.* Неэнергічнасць, пасіўнасць. *Айсей нядренный мушчына, а вот нейкыя нірызваротлівысьць мішаіць яму у жызьні.*

**Неразваротлівый** *прым.* Неэнергічны, пасіўны. *Яны абоя нірызваротлівыя, сам увесь чыста пы бацьку ўдаўся і йна ня дужа рупіцца.*

**Неразгаворчастый** *прым.* Маўклівы. *Ён усігда быў нірызгаворчыстый, а іна шчыбятýньня, зы траіх ныгаворіць.*

**Неразкій, неразкей** *прым.* Такі, які дрэнна скошваецца (пра траву). *Пы аборкых трыва нірізкáя, пы бічывікáх, ня то што ну лугу. Пісьсяк нірязкей, кышанеш, а кыса пышла паверьх, куўзáіцца.*

**Нерва, нервіна** *ж.* Нерв. *Гаворюць, нейкыя нерва у руке рызыйшлáся, дык во пальцы ня дзействыюць. Ён быў рáніт, можа ікая нерьвіна затронута, паетыму і баліць. Памянш.* **нервінка.** *Пыразіт ты, ты Аньку даводзіш усякій раз, што ў яе кажныя нерьвінка разойдзіцца.*

**Нервенный** *прым.* Нервовы. *Зь нерьвінным мужуком трудна жыць. Ні хыця стáніш нерьвінным, с табою жыўшы.*

**Неспадрушна** *прысл.* Нязручна. *Ты неік ні так стаў, табе ніспадрўшна будзіць кідáць.*

**Несчыслёна** *прысл.* Вельмі многа. *Арехыў летыся было нішчысьлёна многа. Нішчысьлёна грібануць хлебушка, урыжай дужа харошый.*

**Несчыслёный** *прым.* Бязмерны. *Гною увалілі, у іх нішчысьлёный урыжай будзіць, ніхай толька убяруць воўрімя.*

**Неўгалаў** *прысл.* Не прыпомніцца, не ў памяці. *Мне дайжа неўгылыў, што вы тут можыця ждаць. Нам неўгылыў було на копкі глянуць.*

**Неўгамон** *м.,* **неўгамонне** *н.* Несціханак. *Ну завёўся ў табе ніўгамон, ніяк спакою сабе ні дыбяреш. Я з вас выгыню січас ніўгамоньня, кылі вы сабе зыняція ня можыця ніяк найціць.*

**Неўдаб, няўдоба** *ж.,* **неўдаб'е, няўдоб'е, няўдобішча** *н.* Зямля, не прыгодная для апрацоўкі, няўдобіца. *Во відзіш, і на неўдыбі, як рызработылі, урыжай вырыс. У некытырых дзіріўнях пырядышныга няўдобы. Неўдыб'я пырызрыбáтывылі і сеюць, ладныя поля стала. У нас кругом няўдобішча многа, містамі дайжа скот ні пыпасеш.*

**Неўдагад** *прысл.* Няўцям. *Яму ніўдыгáд, што етыя атлёты надумыліся сытваріць, а яны яму атпáлюць штуку.*

**Неўдаль** *м.* і *ж.,* **неўдалле, неўдаллё, неўдальства** *н.* 1. Няўдалае дзіця. *Ты ўжо ац свайго неўдыля ніякыга толку ні дажджэсься. Ён усігда быў неўдыльля. Адна дзяўчонка, і тая неўдыльля. Ні склімі ты, ніўдальлё мой, засьні. Ніўдальлё ты мыя горькыя, калі ты ўжо станіш адўжывыць? Сядзіць неўдыльства ны парогі, жджэць,*

*што я з горыда прінісла.* 2 *н. зб.* Няўдалыя дзеці, асобы. *Тама дзяўчонкі путнэя німа, толька неўдыль. Якея там хлопцы — неўдыльля, зь імі дайжа скыкáць стыдна. Сідзяць пы хатых, ніўдальлё адно. Ніўдыльля́ троху сыбрáлыся. Нейкія дзеці ў яе неўдыльства, ні к рабоці — ні к чому.* **Неўдалька** *м.* і *ж.* Няўдалае дзіця. *Чаго табе, мыя неўдылька, ні хвытаіць?*

**Неўкавырастый** *прым.* Капрызны, незгаворлівы. *Чаго ж ты стаў еткім ніўкавы́рістым, раншы ты чылавек як чылавек быў.*

**Неўкатарый** *займ.* Які-небудзь, каторы. *Як субота патходзіць, я й жду: можа неўкытырый пад'едзіць. Ён ужо неўкытырый раз пабег зу бумажкыю.*

**Нехазяйлівый** *прым.* Безгаспадарлівы. *Ён дужа ніхызя́йлівый, каб другей, усё б ета пріпыря́ччыў, яшчэ б сена сыбраў, пыткасíў і пацьцёлка пірядзержыў ны яго месьці, а ў етыга адзін хвост і тэй будзіць галодный.*

**Нехармузістый** *прым.* Нязграбны. *Ніхармýзістый твой хлеб: скарінка атхлýпла, зьнізу адно цеста — ня ўмеіш ты печ.*

**Нехармузна, нехармузіста** *прысл.* Нязграбна. *Ай, у цябе ўсё ніхармýзна пулучáіцца, за што ня возьмісься. Нешта ў цябе ніхармýзіста выходзіць, ты пыглядзі, як Пынас дзелыіць.*

**Нехрысцень** *м.* і *ж. асудж.* Нехрысць, нягоднік. *Хто ж ба мог падумыць, што Ляксей твой такей нехрісьцінь будзіць.*

**Нехуцавасць** *ж.* Неакуратнасць. *Кажныму б ныдаела ны такую ніхуцáвысьць глядзець, ці ты ня можыш зьдзелыць як нада.*

**Нехуцавец** *м.* Неакуратны чалавек. *Зразу прівучай і к чыстаце, і к пырядку, ато вы́рысьціць ніхуцáвіц, сьміяцца ўсе будуць.* **Нехуцаўка** *ж. Кылі сыма ніхуцáўка, дык ты думыіш, што ўсе такея.*

**Нівесь, нівесць** *прысл.* Немаведама, невядома. *Летыся ён нівісь сколька яблык прыдаў. Нівісь якоя ўремя, а ты сьпіш. Нівісьць калі пашоў, а ўсё німа і німа. Нівісьць куды за тым канём нада плесца.*

**Ніжанне** *н.* Зніжэнне. *А ніякыга тута ніжыньня ня відна, абея сьценкі роўнінькія.*

**Ніжыць** *незак.* Рабіць ніжэйшым. *Неік няроўна ну хундáміньці пулучы́лыся, сталі ніжыць і ўвесь вугыл рузлумáлі.* **Ніжэць** *незак.* Рабіцца ніжэйшым. *Нарожні-*

*чык падгніў, дык і пуня ніжэіць, налета падрўблівыць прідзіцца.*

**Нікалі** *прысл.* Ніколі. *Нашто гывацірь, чаго ні знаіш: нікалі ён тута ня быў.*

**Нікудышнік** *м.* Нікуды не варты чалавек. *Зы пасьледнія ўремя ты саўсім нікудышнік стаў.* **Нікудышніца** *ж. Зьдзелылыся і нізґрая, і нікудышніца, цябе ні к якыму дзелу нілізя путпускаць.*

**Нікчома** *м.* і *ж.*, **нікчомнік** *м.* Неакуратная, неахайная асоба. *Ён усю жызьню быў нікчома. Пасьледнія ўремя і ты нікчомыю стала. Што гывацірь пры нікчомніка, кылі ён век прытарчэў у грязі.* **Нікчомніца** *ж. Думыіш, Варычкіна чысьцей? — тыкая самыя нікчомніца.*

**Нікчомна, нікчоміста** *прысл.* Нікчэмна. *Якея ж ета пасьцілкі, яны ны пасьцілкі ні пахожы, нікчомна выткыны. Нікчоміста пашыта рубашка, як мех якей сядзіць.*

**Нікчомістый** *прым.* Нікчэмны. *Штоб хлопцу быць такому нікчомістыму — ходзіць, а рукавы у нейкыю бульбу пызыляпыны.*

**Нікчомнасць, нікчомістасць.** *ж.* Нікчэмнасць. *Калі ў любом дзелі нікчомнысьць, я дайжа глядзець ні хачу. Разьві ета работа,— нікчомістысьць, харошый ба хызяін з двыра пыгнаў с такою работыю.*

**Ніскока** *прысл.* Нікольні. *Мае сяньня ніскока ягод ні прінясьлі, гыварілі, пу пыўстыкана ныбрáлі і паелі.*

**Ніціцца** *незак.* Скручвацца ў некалькі столак (пра ніткі). *Нешта ў цябе плоха ніціцца.* **Нічаный** *дзеепрым. Нічыный у мяне во адзін кончык астаўся.*

**Нічанне** *н.* 1. Скручванне нітак у некалькі столак. *Хвáціць табе вазіцца зь нічыньнім зь етым, заўтрік саўсім стыніць.* 2. Ніткі, скручаныя ў некалькі столак. *Во яно, тваё нічыньня, ляжыць пыд вязёнкымі.*

**Нічогенька, нічагенька, нічогачка, нічогенечка, нічагенечка** *займ.* Нічагусенькі. *Марья дужа астарожныя баба, нічогінька лішніга ні скажыць. Ныпрáсна схадзіла у горыд, нічагенька ні купіла. Посьлі вайны у нас нічогычка ні астáлыся, а тады пычалі абжывáцца патрошку. Нічогінічка тут ні було, я ўжо ўсё абыйскáла, увідзіла б, каб айдзе тэя вязёнкі ліжалі. Нічагенічка ён мне ні гыварій, што ты выдўмывыіш.*

**Нішчымнічаць** *незак.* Жыць на нішчымніцы. *Січас дужа шурока едзіш, а цірязь месіц будзіш нішчымнічыць.*

**Нокнуць** *зак.* Крыкнуць на каня «но!» *Нехта нокнуў у Лібісых, усё адно як Андреіў голыс.*

**Норына** *ж.* Нара. *Нейкыя пырадышныя лі стаўбоў норіна, ці ні лісіцы жывуць. Памянш.* **норынка.** *Пыць сьцяною ад гряд многа норінык, нада апсыпыць і аптоўч.*

**Нотный** *прым. іран.* Капрызны. *Куды ж ёй, такой нотный, рызгывáрівыць с Пытáпчыкывым сыным. Памянш.* **нотненькій.** *Ні чыпайся, яны дзевычкі нотінькія, ім ні с табою гывaрiць.*

**Ноччы** *прысл.* Уначы. *К нам часта пырцізаны зыхадзілі ноччы. Ты ўжо ці ні збіраісься ноччы касіць?*

**Нуджанне** *н.* Моташнасць, млоснасць. *Мяне дык нейкыя нýджыньня так мýчыіць, чуць ні кажный дзень, ні прідýмыю, чаго зьесць.*

**Нукнуць** *зак.* Выказаць здзіўленне, сказаць «ну-у!» *Усе муўчалі, толька адзін Сірьгяёнык нýкнуў.*

**Нурыць** *незак.* Знясільваць. *Работыю яго нурілі, ніякыга продыху ня відзіў.*

**Нурэнне** *н.* Знясільванне. *Такоя нуреньня ня дужа хто вы́дзіржыць.*

**Нутранасць** *ж.* Унутранасці. *Як пабіўся зь ліпы, дык жáліцца: нýтрінысьць баліць,— а ні нада яны, і пчолы етыя!*

**Нутраный** *прым.* Нутраны (пах, тлушч і інш.). *Як кыбынá рызьбірáюць, дык усігда такей нýтріный запых. Пырáдышныю бáнычку нýтрiныга сала нытапіла.*

**Ныканне** *н.* Згінанне. *А ну іх і грібоў етых, ат ны́кыньня аж гылыва баліць.*

**Ныкаць** *незак.* Шукаць згінаючыся, мільгаць. *Чаго яны там пы аборку ны́кыюць, можа, схувалі што-небудзь. Усё дно як нехта ны́кыў на сьцёжычкі.*

**Нэканне** *н.* Крык на каня «нэ!» *Я тожа нейкыя нэкыньня чула, а хто там езьдзіў, аткуль я знаю.*

**Нэкаць** *незак.* Крычаць на каня «нэ!» *Ны Пыдгародзьдзі хто-то нэкыў позна вечыра і калёсы ры́гылі.*
**Нэкнуць** *зак.* Падагнаць каня воклічам «нэ!» *Сьцібані хырашэнька, нэкніш — дык дужа ён цябе паслýхыіць, пляцецца як сонный.*

**Нюндзі** *мн. неадабр.* Несканчоныя скаргі, ныццё. *Як толька устреціць каго, і пычынаіць свае ню́ньдзі. Мы яе нюньдзіў наслýхыліся.*

**Нюхнуць** *зак. перан.* Зведаць. *Сярьгей усякія жызьні*

*нюхнўў. Каб вы нюхнўлі тоя, што ён піряжыў, тады б вы інáчы гыварілі.*

**Нявестухна** *ж.* Нявестка. *Паслўхый-ка, што я табе скажу, нявестухна мыя.*

**Нявырушна** *прысл.* Невыгодна. *На лета прыдывáць кыравёнку нявы́рушна. Паехыць мне січас нявы́рушна, пыдажду троху.*

**Нягоддзе** *н.* Нягоды. *Усякыя нягодзьдзя ны яго сы́пліцца. Мы німáла нягодзьдзя відзілі зы сваю жысьць.*

**Нягож** *часц.* Хіба, ды ну, няўжо. *Нягож я ні знаю, хто етыя дроўцы браў. Нягож, пайду я туды людзей страміць. Во, нягож, нада ён мне горька! Нягож не, Пятрок тама і быў, большы некыму.*

**Нядуга** 1 *ж.* Нядужасць. *А ўжо як уесца нядўга, тады нічым ня вы́лічысься, будзіш хы́рліць і большы нічога.* 2 *м.* і *ж.* Хілая, недалужная асоба. *Што ты стогніш, мой нядўга? Сколька я помню, іна ўсігда тыкая нядўга.*

**Нядумана** *прысл.* Раптоўна, нечакана. *Неік нядўмына сыбраўся і паехыў. Нядўмына-нігыдáна грім у хату.*

**Няеджаный, няетый** *дзеепрым.* Няедзены. *Толька забеглі і нызад пыляцелі, усё няеджыныя стаіць. Вазьмі-ка ты на дно у кашолку пыстáў, няетыя місычка, хырошый сьцю́дзінь.*

**Нязграістый** *прым.* Неакуратны. *Матка была нізґрáістыя і дычка тыкая самыя, с адным дзіцёнкым з грязі ня вы́лізіць.*

**Нязграй, нязграйнік** *м.* Неакуратны чалавек. *Можна ж і луччы, і акуратней зьдзелыць, а ён увы ўсякім дзелі нізґрáй. Зразу відна, што нізґрáйнік пыхадзіў.* **Нязграйніца** *ж. Нізґрáйніца за што ня возьміцца, дык дажджэсься ат яе работы.*

**Нязграйна, нязграіста** *прысл.* Неакуратна. *Змáлку як прівыкніць дзелыць нізґрáйна, на ўсю жызьню такім астáніцца. К чаму ні пріткнецца, усё будзіць нізґрáіста зьдзелына.*

**Нязграйнасць, нязграістасць** *ж.* Неакуратнасць. *Аць цябе толька нізґрáйнысьць відзіш, большы нічога. Тыкая нізґрáістысьць усюдых, глядзець ня хочыцца.*

**Няздзержнасць** *ж.* Нявытрыманасць. *У яго нязьдзержнысьць нівісь ікая, нада патрошку астўджывыць.*

**Няздзержный** *прым.* Нявытрыманы. *Нільзя быць такім нязьдзержным, нада зьдзержывыць сябе.*

**Няльга** *прысл.* Нельга. *Так рызбалеўся паліц, ра́зу нільга́ ступіць. Нільга́ пызвыля́ць яму дура́чыцца.*

**Нялюддзе** *м.* і *ж. асудж.* Нелюдзь. *Нялю́дзьдзя як зыда́сца, яму ні прідумыіш, як слова скызаць. Зь нялю́дзьдзя толку ні дажджэсься.*

**Нямаць** *незак. дзіц.* Есці. *Січас будзім ня́мыць, я сма́шінькія крупенькі зваріла.*

**Нямаш** *прысл.* Няма. *Мала што ён гаворіць німа́ш, ён бяз грошы ні сядзіць. У дваре яго німаш, ён паехыў ны кірмаш.*

**Нямерна** *прысл.* Надзвычай. *У мяне ныга нырыва́ла, нямерна ікая боль была. Ета куртка табе нямерна длінна.*

**Нямірна** *прысл.* Надзвычай. *Яблык сёліта нямірна многа, дужа ўрадзілі.*

**Нямірный** *прым. перан.* Надзвычайны. *Ты яго ні знаіш, ён нямірныя грошы заплоціць за ету хату.*

**Нямтур, нямчур** *м. зневаж.* Глуханямы або глухі чалавек. *Як ты зь німтуром толку даб'есься. Ты ўсё дно як нямчу́р якей, нічога ды цябе ні даходзіць.*

**Няпеўна** *прысл.* Няпэўна. *Кызаў, што падойдзіць, ну неік няпеўна кызаў, дык і ні знаю, ці ждаць, ці не.*

**Няпеўный** *прым.* Няпэўны. *Максім—няпеўный чылавек, ны яго нілізя́ надзеіцца, у чом хочыш пыдвядзець.*

**Няпраўдзіць** *незак.* Выказваць няпраўду. *Айт, мала што ты пыгыда́іш, твае карты ніпра́ўдзюць.*

**Нясклёпа** *м.* і *ж.* Няўмелая асоба. *Нясклёпа нейкій хлопіц, адно дзелыіць, а другоя пулучаіцца. Нясклёпа пасьцілкі ні ныря́дзіць, ніхай хуць простыя пылатно вы́ткіць.*

**Няскубеный** *прым.* Нерасцягнуты (пра воўну). *Воўна ішчэ ўся няску́біныя ляжы́ць, некылі було зы яе брацца.*

**Нясмашный** *прым.* Нясмачны. *Памянш.* **нясмашненькій.** *А-а, якей ты, нісма́шінькыга ня хочыш есьць. Узмацн.* **несмашненный, несмашнюшчый.** *Чаго зря ныва́ріць, усё нісмашненныя, як тэй мужык церьпіць. Я ложку зычарепнула, кулеш нісмашню́шчый, толька сьвіньням вы́кініш.*

**Нясушчый** *прым.* Нясучы. *Беліныкыя куріца нясу́шчыя. У Праскоўі дужа нясу́шчый тубунок курей.*

**Няўежна** *прысл.* Галодна. *Як ста́ніць няўежна, тады, можа, схва́ціцца троху за розум, а січас што яму.*

**Няўжыўчыватый** *прым.* Няўжыўчывы. *Ён і мыладэй*

*ладныя цаца быў, а цяперя саўсім няўжыўчывытый стаў.*

**Няўклюд** *м.* Нязграбны чалавек, няўклюда. *Другея мальцы як мальцы, а ета няўклюд нейкій, нічога зьдзелыць ня можыць.*

**Няўклюдлівый** *прым.* Нязграбны, няўклюдны. *Няўклюдлівый быў мушчына, ён тыкі і ня дзелыў нічога.*

**Няўлежна** *прысл.* Непрывольна. *Як станіць няўлежна, тады падніміцца і работу найдзіць, а зы бацькыю можна вылынгацца.*

**Няўломак** *м.* Здаровы, фізічна развіты чалавек. *Ты тожа няўломык, можна атвярнуцца ў горыд. Ладныя няўломкі, толька гультаі первыга сорту.*

**Няўлюддзе** *м.* і *ж.* Нелюдзь. *Мы ішчэ трошку помнім туую Варку, у яе бальшэй быў лабрэт, няўлюдзьдзя, усё на печы ліжаў. Як зыдасца няўлюдзьдзя, ці хлопіц, ці дзейка, цяпніць матка горя.*

**Няўмысля** *прысл.* Незнарок. *У мячыка гулялі, няўмысьля ударілі малыга ў вока.*

**Няўрод** *м.,* **няўроддзе** *м.* і *ж.* Нелюдзь. *Буваіць, што няўрод зыдасца і ў харошых бацькі з маткыю. У мяне тожа так було, я знаю, як зь няўродзьдзім жыць.*

**Няўроднасць** *ж.* Нелюдзімасць. *Што йта ў табе пряма нейкыя няўроднысьць зывіряіцца, калі ты пурузумнеіш!*

**Няўрома** *м.* і *ж.* Вельмі неакуратная, неахайная асоба. *Памянш.* **няўромка.** *Няўрёмка ты маліолькыя, нада ні рукавом выцірапь, а тряпычкыю.* *Узмацн.* **няўроміна.** *Во вам і другей няўрёміна такей самый, за што ня возьміцца, дык ні пы-чылавечыскі выходзіць.* *Павеліч.* **няўромішча.** *Ікая ж іна няўрёмішча, ныляпыіць кылы шайкі цеста і топчыцца пы грязі.*

**Няўромный, няўромістый** *прым.* Неакуратны, неахайны. *Ты ўсігда быў няўрёмный, акуратнысьці ў цябе ні на грош німа. Няўрёмістыя сь цябе хызяйка, ніяк цябе Кузьма ні пірядзелыіць.*

**Няўступчывата** *прысл.* Упарта. *Ён зразу няўступчывыта зубурчэў.*

**Няўступчыватый** *прым.* Упарты. *Ішчэ ж малый, а тожа упорлівый, ікраз як дзед быў няўступчывытый.*

**Няўходлівый** *прым.* Неспакойны (пра жывёлу на пашы). *Нейкій дужа няўходлівый цялёнык, ні так, як другея, стаў ба у адном месьці і скуб.*

**Няхайканне** *н.* Выражэнне абыякавасці. *Тута ні ніхайкыньня паможыць, а нада крепка за шкы́рку брацъ.*

**Няхайкаць** *незак.* Выказваць абыякавасць. *Што ты ніха́йкыіш, паедуць голыя, пыпрасту́джыюцца, тады будзіш пы бальніцых вазіцца зь імі.*

**Няханне** *н. неадабр.* Беганіна ў пошуках спажывы. *Яе калі-небудзь прыздра́вюць, што і ны ня́хыньня забу́дзіць.*

**Няхаць** *незак. неадабр.* Бегаць у пошуках спажывы. *Ня кормюць свайго сыбаку, ён і ня́хыіць пы двырах. Як толька ёй ня стыдна ня́хыць пы хатых с аднае ў другую.* **Няхацца** *незак.* Займацца беганінай. *Ёй ладна ня́хыіцца, хуць у дваре ўсё ня дзелына,— кінула-рінула і пабегла.*

**Няхоццю** *прысл.* Без ахвоты. *Старэй яе няхоцьцю пывалокся ў Піра́дніна, ні надзеіцца ён што-небудзь вы́хыдзіць, знаіць, што ні палучыцца.*

## П

**Паабадраць** *зак.* 1. Абдзерці з усіх бакоў. *Рукі пыабдзяреш, большы ты нічога ня зьдзелыіш. Пыбыдра́ў етый хлеб, што зы яго ні ўзяцца. 2 перан.* Абабраць. *Яны гатовы адзін другога пыабыдра́ць, пряма нейкія нінаедныя сы сваёю жа́днысьцю.* **Паабадрацца** *зак.* Абдзерціся, абшарпацца. *На дзеріва, зь дзеріва, ні мінуты спакойна ні пысідзяць, пыбыдра́ліся ды крыві. Каб ета гультаі пыбыдра́ліся, дык ба ня дзіва, ато ж адж жа́днысьці голым целым сьвеціць.* **Паабадраный** *дзеепрым. Рукі пыбыдра́ныя у абоіх. Ходзюць пыбыдра́ныя, што ў ніпуцьця́ будзіць калі-небудзь.*

**Паабарвываць, паабарваць** *зак.* Абарваць поўнасцю. *Нада мінуту вы́брыць ды квасоль пыаба́рвывыць, дос ёй тама тарчэць колым. Тута столька таго й гароху було, дзеці яго даўно пыбырва́лі, як толька сь ціцівою ні зьнясьлі.* **Паабарвывацца, паабарвацца** *зак.* 1. Абарвацца поўнасцю. *Боб так ніўзаметку пыаба́рвывыўся, тэй ачшчыпнець, тэй, во й німа. Пыбарьвецца яшчэ і квасоля, ніхай пысядзіць. 2 перан.* Абшарпацца. *Чаго яны пыба́рвывыліся як ста́рцы якея? Зы маткыю цёпла було сядзець, а адны за год пыбырва́ліся, яны дужа няру́пытныя.* **Паабарвываный, паабарваный** *дзеепрым. Што пыба́рвывыныя ды пулузка́ныя, пыдз загнет кінь, у печы*

*згаріць. Пыглядзела я на тэй гарох: увесь чыста пыбырван, там стручок вісіць, там.*

**Паабассаць** *зак.* Абсмактаць поўнасцю. *Усе канхветы пыбыссаў і пакідыў, во што ён надзелыў, твой хваліный.*

**Пааббегаць, пааббягаць, пааббежч** *зак.* Абабегчы ўсё навокал. *Сяньня вы, відна, усё кругом пыаббегылі, пакуля грібоў ныбралі. Яны ўсё ўсюдых пыббігаюць, ну арехыў нашчыплюць, дужа прыспалітныя. Мы знаіш сколька пыаббеглі сяньня? — пыц самымі Ходысымі пыбылі.*

**Пааббіраць, паабабраць** *зак.* 1. Абабраць поўнасцю. *На сьлівіных нічога німа, даўно дзеці ўсё пыаббіралі. Ны квасолі стручкі кой-айдзе асталіся, нада было пыбыбраць.* 2 *перан.* Абабраць многіх. *Мы ўжо знаім, хто іх тады пыббіраў. Ты сясьцёр роднінькіх пыбыбраў і ўсё с твайго горла ні хвытаіць.* **Пааббіраный, пааббіратый, паабабраный, паабабратый** *дзеепрым. Няўжэлі яшчэ ня ўвесь гарох пыббіран? Мідунічкі ўсе пыббіратыя, ірьві белый наліў. Што я буду глядзець, тута ўсё пыабыбрана. Сьліўкі пыбыбратыя, яблыка сыладзейшыя сарьві ды зьеж.*

**Паабваджываць, паабвадзіць, паабвесць** *зак.* 1. Павадзіць усюды. *Іна лес хырашо знаіць, усюдых нас пыабваджывыла. Ён цябе пыабводзіць па ўсіх мыгазіных і ты выбіріш, што табе нада. Ён тады глухімі сьцёжкымі пыабвёў хлопцыў.* 2. Абвесці шмат (алоўкам, пяром). *Нашто йта ты карцінкі пыбваджывыў чарнілым, кніжку спорціў? Красным кырындашом пыбвадзіў цітрадкі. Большый акуратнінька нырісуваў, а малый як зря пабвёў кырындышамі усё рісуваньня, што кріку було, што зыку, што сьлёз.* **Паабваджываный, паабведзеный** *дзеепрым.* Абведзены (алоўкам, пяром). *Я ўжо відзіў, што карцінкі пыбваджывыны. Як у цябе тута нікуратна пыабведзіна.*

**Паабвазголіваць, паабвазголіць** *зак.* Заквэцаць, завэдзгаць шмат. *Зусукай рукавы, пыабвазґолівыіш, засохнуць, тады мыць нада будзіць. Пыабвазґоліла ты ўсё кругом.* **Паабвазголівацца, паабвазголіцца** *зак.* Заквэцацца, завэдзгацца шмат. *Ты пыглядзі, як яны пыбвазґолівыліся! Мае малыя як пыбвазґолюцца, я іх пуўдня атмуваю.* **Паабвазголеный** *дзеепрым. Вун яно тваё тряхольля пыбвазґоліныя выляіцца, сам пріпучывый.*

**Паабвазграўліваць, паабвазгравіць** *зак.* Моцна заквэцаць, завэдзгаць. *Ацсунь адзежу, ён усё чысцінька пыбвызґряўлівыіць. Лі посыду, лі печы што ні надзень,*

*усё пыбвызґрявіш.* **Паабвазграўліваюца, паабвазгравіцца** *зак.* Моцна заквэцацца, завэдзгацца. *Вы ўсігда найдзіця, айдзе пыбвызґряўлівыцца. Што ня зьдзелыюць, а пыабвызґрявіцца прідўмыюць.* **Паабвазграўлены** *дзеепрым. Гляджу, ідуць у хату пыабвызґряўліныя, нейкыя цеста на іх пряма ляжыць, як налепліна.*

**Паабвазграчываць, паабвазграціць, паабвазгрочываць, паабвазгроціць** *зак.* Запэцкаць з усіх бакоў. *Ні пыбяліла ету печ, а пыабвызґрячывыла. Нада ж етык новыя штонікі пыбвызґряціць! Яму нядоўга што хочыш пыбвазґрёчывыць. У што йта вы рушнікі пыабвазґрёцілі?* **Паабвазграчывацца, паабвазграціцца, паабвазгрочывацца, паабвазгроціцца** *зак.* Запэцкацца з усіх бакоў. *Ета ж вы ў пуні пыбвызґрячывыліся! Ня лезьця вы туды, толька пыбвызґряціціся. Што вы, дужа хочыця пыбвазґрёчывыцца? Учора яны яшчэ пыбвазґрёціліся.* **Паабвазграчаны, паабвазгрочаны** *дзеепрым. Вы ж хуць пыабвызґрячыных тряпык у хату ні нясіця. Пыбвазґрёчыныю вобуў стынавіця у сенцых, нада ў тазік вады наліць ды пубмуваць.*

**Паабваліць** *зак.* Абваліць поўнасцю. *Мы нарошня пыбвалілі столь, іна чуць ліпела, мыгла ударіць каго.* **Паабваліцца** *зак.* Абваліцца (пра значную колькасць). *Пляхі з насьцілу усе пыгнілі і пыбваліліся, вот-вот зімля праедзіць.* **Паабвалены** *дзеепрым. Стыяць пуні, крышы пыбвáліныя, ці будзіць іх хто-небудзьріманьцірывыць.*

**Паабварачываць, паабвярнуць** *зак.* Абгарнуць значную колькасць. *Кáжныя яечка бумажкымі пыабвырáчывыіць, складзець у партхвель і, гаворіць, усігда цэлы. Худзь ба троху чым-небудзь пыабвярнўў етыя кускі, каб мухі ні садзіліся.* **Паабварачывацца, паабвярнуцца** *зак.* Абгарнуцца (пра значную колькасць). *Пыбвырáчывыюцца адзін пасьцілкымі, а другей у адзіяла і сьпяць нывярьхў. Калі пыабвернуцца чым-небудзь, хужы ня будзіць.* **Паабварачываны, паабвернуты** *дзеепрым. Масла у іх акуратнінька у чыстую бумагу пыабвырáчывына. Пыпіклáся дужа, дык рукі у чыстыя кускі пылытнá пыабвернуты.*

**Паабвязаць** *зак.* Абвязаць (пра шмат прадметаў, асоб). *Яблынкі горька нада пыбвізáць, зайцы пыгрызўць. Пыабвізáлі хусткі усё дно як зімою, у марозы.* **Паабвязацца** *зак.* Абвязацца (пра шмат прадметаў, асоб). *Чаго вы етык пыбвізáліся, сяньня ж ні так халодна.* **Паабвязаны** *дзеепрым. Ідуць пыбвязыныя, хусткі*

*усё ліцо зыкрываюць, толька вочы блішчаць. Вы нешта пыбвізаныя як старыя бабы.*

**Паабвярчываць** *зак.* Паабгортваць. *Вун іна, малыя, зынілася сы сваімі куклымі, лентычкымі пыабвярчывыла і любуіцца.* **Паабвярчывацца** *зак.* Паабгортвацца. *Ты нешта пыбвярчывылыся як старуха, так ні работыць, а толька ў вазку сядзець.* **Паабвярчываный** *дзеепрым.* *Аппёк рукі, ходзіць с пыабвярчывыными.*

**Паабвяхываць, паабвяхкываць, паабвяхаць, паабвяхкаць** *зак. перан. неадабр.* Абгаварыць (пра некалькіх асоб). *Яны ні пысьцісьняюцца, пыабвяхывыюць усюдых. Такім нядоўга пыабвяхкывыць каго хочыш. Пряма ні прідумыць, у каго яны ўрадзіліся, усіх суседзіў пыбвяхылі. Пыдажджыця трошку, як саміх пыбвяхкыюць, тады вы пызнаіця, што ета за людзі.*

**Паабгадываць, паабгадаць** *зак.* Набыць шмат, але з цяжкасцю. *Патроху, патроху, а ўжо німала чаго пыбгадывыла сабе, і адзёжы нуспруўляла, і апстаноўку у хаці пыставіла. За ета ўремя яны многа чаго пыбгыдалі сабе.*

**Паабгаліць** *зак. перан.* Забраць шмат. *Пыліцэйскія ны нашу дзяреўню крепка зуб імелі, яны многіх тут пыбгалілі, імсьцілі зы пырцізан.*

**Паабдзяўбываць, паабдзяўбаць** *зак.* 1. Паабдзёўбваць поўнасцю. *Віряб'і кучыю як ныва́люцца, каноплі пыабдзяўбывыюць. Нягож хто, ета куры пыбдзіўбалі гарох.* 2 *перан.* Абсячы (няўмела або тупой сякерай). *Нада хут троху суччa пыбдзяўбывыць, тут жа резыць нілізя. Такім тыпаром ня дужа і вербу пыбдзіўбаіш.* **Паабдзяўбываный, паабдзяўбаный** *дзеепрым.* 1. Паабдзяўбаны. *Каноплі ўжо кругом пыабдзяўбывыны, яшчэ трошку пыстыяць і нечыга будзіць аббіваць. Запрі курей і ны мінуту ні выпускай, уся проса і так пыбдзіўбана ужо.* 2 *перан.* Паабсечаны (няўмела або тупой сякерай). *Бярёза троху пыбдзяўбывына. Ты хуць пыбдзіўбаныя суччa пріпыряччы троху.*

**Паабдрыпывацца, паабдрыпацца** *зак.* Абнасіцца, абшарпацца. *Гультайства заела, таго і пыабдріпывыліся, разьві яны ня могуць лішнію капейку заробіць? Як вам ня стыдна, ны каго вы паходжы—так пыабдріпыліся.* **Паабдрыпаный** *дзеепрым.* *Волочуцца пыабдріпыныя, усякій стыд пыціря́лі, — як ета можна, што сябе ні даглядзюць мыладыя мушчыны.*

**Пааб'есць** *зак.* Пааб'ядаць. *Кажный год чырьвякі*

*пыаб'ядýць капусту, ні прідумыю, што зь імі дзелыць.* **Пааб'есца** *зак.* Пааб'ядацца. *На клевір кароў ні ўспускáй, могуць пыаб'есца, будзіць, што ў Высіля у Дзянісывыга пулучы́лыся.* **Пааб'еджаный, пааб'етый** *дзеепрым. Быракі ліжаць пыаб'еджыныя, тама цёлычка пыхызя́йнічыла. Нічога німа на тым вы́гыні, дайжа кусьцікі стыяць пыаб'етыя.*

**Паабжымаць, паабажмаць, паабжаць** *зак.* Паабціскаць з усіх бакоў. *Пыбжымáй біряжкі, крысівей глядзецца будзіць. Тэя карзінкі пыабыжмáў, а ета нейкыя як роіла. Ты акуратнінька пыбажмі, луччы будзіць.* **Паабжымацца, паабажмацца, паабжацца** *зак.* Паабціскацца (пра ўсё, шмат). *Ніхай яно так, ні праў нічога, зьляжыцца, пыбжымáіцца і будзіць ліжаць. Нічога ў цябе тута ні пыбажмецца, як сплёў, так і будзіць тарчэць што куды. Раз прыклáдкі харошыя, то й пыбжáлыся.* **Паабжыманый, паабжыматый, паабажманый, паабажматый, паабжатый** *дзеепрым. Рагі на крышы крепка пыбжымáныя, а затýл зьдзелын дренна. Стагі ні хыця́ будуць пыбжымáтыя: мáлыя зь іх куўзáюцца. Пыбыжмáныя карзінкі дайжа глідзяцца луччы. Капёшкі пыбжымáтыя, акуратна зьдзелыны, ні далжны прымя́кнуць. Пыбжáтыя стагі зразу відна.*

**Паабзваніваць, паабзваніць** *зак. перан. іран.* Расказаць, разнесці весткі ўсюды. *Яны ўсё кругом пыбзвáнівыюць, дайжа німа пра што тріпáць, дык пыпрідýмыюць. Усім пыбзванілі, што Машку умесьці з Высілём відзілі.*

**Паабкалаціць** *зак.* Абтрэсці (пра значную колькасць). *Сяньня нада будзіць пысядзець у садку, іначы вічарінышнікі ды адной яблынкі пыапкалоцюць.* **Паабкалочаный** *дзеепрым. Якіх ты йгрушык глядзіш, яны ўжо даўно пыапкалочыны.*

**Паабкалываць, паабкалоць** *зак.* Абкалоць з усіх бакоў. *Краі пыапкáлывыў, а сірядзіна астáлыся. Сьпірва пыпкалоў, а тады ўсю разьбіў, ны абух ціріс плячо.* **Паабкалывацца, паабкалоцца** *зак.* Абкалоцца з усіх бакоў. *Етыя гарбінкі айдзе пыпкáлывыюцца, айдзе сьцешуцца. Палка сырая, мёрзлыя, кускамі пыпкалолыся, пыкрышы́лыся.* **Паабкалываный, паабколаный, паабколатый** *дзеепрым. Тут ужо ўсё пыпкáлывына, бі пысярёд, можа рысься́дзіцца. Пыапколыныя канцы нада атрезыць, тута дліньні́ны хвáціць. Разьбі етыя папколытыя цільпушкі, яны сушэйшыя.*

**Паабкалясіць** *зак.* Аб'ездзіць шмат месц. *Яны нііззьвесна сколька за́ ныч пыпкылясілі, ты луччы спрасі, айдзе іх ні було.*

**Паабкідываць** *зак.* Абкідаць з усіх бакоў. *Зугува́льню я троху пыапкідывый, а во пуню пыптыка́ць пат крышыю горька нада.* **Паабкідываный** *дзеепрым. Як яно тут у цябе пыапкідывына, айдзе ляжыць трошку зямлі, а айдзе жывэй бульбоўнік.*

**Паабкічываць, паабкічаць** *зак.* Абкіціць поўнасцю. *Чым пустатою зынімацца, ты б луччы вокны пыапкічывый. Абізацільна вокны нада пыпкіча́ць, у зіму́ так нілізя кіда́ць.* **Паабкічываный, паабкічаный** *дзеепрым. Ого, я віджу, у цябе ўжо і вокны пыапкічывыны. Вокныто пыапкічыны, ну ха́ці іщчэ бальшэй прігля́д нада.* **Паабкіцёмшы** *дзеепрысл. Пыпкіцёмшы вокны, ні прыгыда́іш, ціплыта луччы будзіць дзіржацца.*

**Паабклініваць, паабкліновываць, паабкліціць, паабклінаваць** *зак.* Абабіць, умацаваць клінкамі (пра шмат аб'ектаў). *Сам вазьміся ды пыапклінівый, ато будзіш ніізьвесна ны каго надзеіцца. Хырашо козлы пыпкліновывылі, далжны крепка стыяць. Злазь ты луччы сам ды пыпкліні стыякі. Перша козлы пыапкліну́й, а тады ўжо будзіш пыця́гі узвыла́кывыць.* **Паабклінованый, паабклінены, паабклінаваный** *дзеепрым. Ладны ўжо будуць і папкліініныя санкі, бярі. Козлы стыяць, хіта́юцца, клінкі ліжаць кучкыю, а ён гаворіць, што ўсё пыпклінува́на.*

**Паабковываць, паабкаваць** *зак.* Акаваць (пра шмат аб'ектаў). *Гываріў, што нада восі папковывыць, ды нешта ні куець. Усе вугалкі пупкува́ў, зьдзелыў сундучок як яечка.* **Паабкаваный** *дзеепрым. Уго, там вароты знаіш якея былі пупкува́ныя, такея б ніхто ні ўзлума́ў.*

**Паабкруціць** *зак.* Абгарнуць з усіх бакоў. *Сёліта я крепка яблынкі пупкруціў, трясцы, каб зайцы да іх далезьлі.* **Паабкруціцца** *зак.* Абгарнуцца (з усіх бакоў). *Чаго вы пупкруціліся як старухі якея?* **Паабкручаный** *дзеепрым. Ногі ў цябе ладна пыапкру́чыны, а на плечы падзьдзець нада б што-небудзь цяплейшыя.*

**Паабкрывяніваць, паабкрывяніць** *зак.* Акрываваць шмат. *Нада саломкі большы пыдысла́ць, каб мост ні пыпкрывя́нівыць. Зьдзень ты саўсім рубашку, у хаці цёпла, рука́вы пыпкрывя́ніш.* **Паабкрывяніваца, паабкрывяніцца** *зак.* Акрывавіцца шмат. *Ня лезь у чыстый адзежы, ай хочыш увесь пыпкрывя́нівыцца? Ты пыглядзі*

*сам ны сябе, увесь чы́сьцінька пыпкрывя́ніўся.* **Паабкрывяненый** *дзеепрым. Кроў зразу ні спусьцілі, дык усё мяса пыпкрывя́ніныя.*

**Паабламываць, паабламліваць, паабламіць** *зак.* Абламаць поўнасцю. *Лішнія расткі ны пымідорых усігда нада пыблáмывыць. Мáлыя етыя бáлыўнікі залезуць у сад і пыблáмлівыюць сучкі ны яблынкых. Ты ніжнія сучкі пыбламі, яны мішаць ня будуць.* **Паабламывацца, паабламлівацца, паабламіцца** *зак.* Абламацца поўнасцю. *Во тут пыблáмывыіцца і луччы будзіць. Зь вербы многа сучча пыблáмлівылыся ат вобліву. Ціхінька лезь, там усё зразу можыць пыабламíцца.* **Паабламываный, паабламліваный, пааблomленый** *дзеепрым. Усё пыблáмывыныя кідáй пыдз загнет, у печ будзіць. Пыблáмлівыныя лісьця зынясі пырысятым, яны бацьвíньня лю́бюць. Усе ігрушыны пыабломліны, во што яны нытварілі, твае ігру́шнікі.*

**Пааблíць** *зак.* Пааблíваць. *Пыблілі адзін адныго, бегыюць і рягочуць.* **Пааблíцца** *зак.* Пааблíвацца. *Пыблíліся з ног ды гылывы твае мытніцы, зь іх ажно плувець.* **Пааблíтый** *дзеепрым. Ну што ж вы будзіця дзелыць, усё пыаблíтыя сушы́ць павесьця.*

**Пааблупіць** *зак.* Аблупіць поўнасцю. *Нада публупіць цыбу́лінкі. Каб вас ваўкі публупілі, етых авец, нізашто ня йдуць у пуню, первыя нагою топ і кытану́лі ўбок.* **Пааблупіцца** *зак.* Аблупіцца поўнасцю. *Якей зыгáр, кылі яны пряма згарелі і публупíліся.* **Пааблуплены** *дзеепрым. Бегыюць, насы пыаблу́пліныя, ажно шулушáцца — цэлый дзень у вадзе і на сонцы.*

**Пааблягаць, пааблежч** *зак. перан.* Пакрыцца балячкамі з усіх бакоў. *Ці ета прасту́да ікая вы́сыпыла, ці што, уся шыя пыблігáла болькымі нейкымі. Вулдырí якея-то пыбляглí пу руках, нада пáріць іх, выгрівáць.* **Пааблягацца, пааблежца** *зак.* Аблегчыся (пра многіх). *Ны капу́ пыблігáліся і пра нешта руссуждáюць. Ны плятне пыбля́гуцца і доўга вісяць, адна адной усё нешта дуду́кыюць.*

**Пааблязаць** *зак.* Пааблезці. *Посьлі зімы каровы пакуль пыблізáюць, дык на іх шэрсьць клоччым вісіць.*

**Пааблянець** *зак.* Абленавацца (пра ўсіх, многіх). *Настолька пыблянелі, што дайжа відра вады прінесьць ня хочуць.* **Пааблянелый** *дзеепрым. Такіх пыблянелых людзей я дайжа ня відзіла.*

**Паабмесць** *зак.* Абмесці поўнасцю. *У хаці троху пріпыря́ччылі і сенцы прібралі, сьцены пыбмялі, ніхай чысьцей будзіць.* **Паабмесца** *зак.* Абмесціся поўнасцю. *Як пыбмяцецца, дык яно глядзець крысівей.* **Паабмецены** *дзеепрым. Кругом паччы́шчына, пыабмеціна, глядзець люба.*

**Паабмешываць, паабмяшаць** *зак.* Абмяшаць усім. *Ка́жныя ра́ньня пакуль пыабмешывыіш скату, ладна зытаўпорісься. Печ вы́тыпіла, есьць ныварíла, скату пыбміша́ла — і пуўдня прайшло.* **Паабмяшаный** *дзеепрым. Тута усё пыбміша́ныя, толька вы́нісіця і пыста́віця.*

**Паабмурзаць, паабмурзачываць, паабмурзаціць** *зак.* Замурзаць усё, з усіх бакоў. *Сам сябе пыабму́рзыў, зыляпыў усё, і нос, і шчокі. Ты ня столька ныкарміла дзіцёнка, сколька пубмурза́чывыла ўсяго. Тута астарожнінька прайдзі, ато можыш пальто пыабмурза́ціць.* **Паабмурзацца, паабмурзачывацца, паабмурзаціцца** *зак.* Замурзацца з усіх бакоў. *Пыкармí ты сыма, ён пабму́рзыіцца, што атмува́ць і ацскріба́ць будзіш. А божычка ж ты мой, а айдзе ж ты етык пубмурза́чывыўся? Пубмурза́цiліся куляшом, што мыць нада абоіх у начоўкых.* **Паабмурзаный, паабмурзачаный** *дзеепрым. Яны ні пысьцісьня́юцца, і пыабму́рзыныя пыбіга́ць на вуліцу. І сыма у дваре цэлый дзень, і дзеці пубмурза́чыныя бегыюць.*

**Паабмякчыцца** *зак. перан.* Парабіцца больш лагоднымі (пра некалькіх асоб). *Зразу к ім прíступу ні було, а тады троху-патроху пыбмякчы́ліся, сталі спыкайней гывcovaріць.*

**Паабмятлёвываць, паабметляваць** *зак.* Абшыць, абкідаць усе краі ў адзенні, тканіне. *Так ні атклыда́й, зразу пыбмятлёвывый, руспуска́цца ня будзіць. Первый раз узіла́ся і акуратнінька пыабмітлюва́ла ўсё.* **Паабметлявацца** *зак.* Абшыцца, абкідацца (пра ўсе краі ў адзенні, тканіне). *Як пыабмятлю́іцца, так і ладна, абы ня ехыла.* **Паабметляваный** *дзеепрым. Пыабмітлюва́на, ды ня ўсё, відзіш, сколька тута яшчэ работы.*

**Паабмячаць, паабмеціць** *зак.* Зрабіць меткі з усіх бакоў. *Ён абыйшоў сваю па́йку і кругом пыабміча́ў. Січас увідзіш, як яны ўсё пыабмецюць.* **Паабмячаный, паабмечаный** *дзеепрым. Відзіш, як у Хрола пыабміча́на, ні прідзяресься. Я дык і ні пайму, як тута пабмечына.*

**Паабнараўліваць, паабнараўлівацца, паабнараўляць, паабнараўляцца** *зак.* Зрабіць уступку на пэўны час, па-

чакаць. *Нескылька дней пыабнырáўлівыў, а тады гаворіць, сядзі-ка ты ціхінька на печы, я бісь цябе знаю, што дзелыць. Ты ўжо некытырыя ўремя пыбнырáўлівыйся, ніхай трошку успакоюцца. Ні знаю, доўга Матруніна дычка ім ні пыбнырыўляíць. Умесьці жыць — нада лáдзіць, троху стáрыя пубурчыць, а ты пыбнырыўляйся.*

**Паабнеслаўляць, паабняславіць** *зак.* Зняславіць усіх, многіх. *За што зы якоя пыбніслыўлялі дзяўчонык. Яны так ня просьцюць, пытымсьцяць вам, могуць так пыбніслáвіць, што вы места сабе ніўдзе ні нáйдзіця.* **Паабнеслаўляцца, паабняславіцца** *зак.* Зняславіцца (пра ўсіх, многіх). *Самі пыбніслыўляліся як тýркі якея. Глядзі за імі, учы троху, ато ўлезуць у кашу, пыбніслáвюцца на ўсю акрýгу.* **Паабняслаўленый** *дзеепрым. Пыбніслáўліныя ходзюць, вочы ну людзей пыдняць стыдна.*

**Паабпарываць, паабпароць** *зак. перан.* Абшукаць усе закуткі. *Нечыга іскаць, тута ўжо ды цябе найшліся сьпіцыялісты, пыаппáрывылі. Айдзе тэя канхветы, ат малых нічога ні схуваіш, яны ўсё паппорюць і найдуць.* **Паабпораный** *дзеепрым. Я ўжо сам віджу, што тут усё пыаппоріна.*

**Паабразацца** *зак.* Абрэзацца (пра шмат аб'ектаў). *Як етыя сукі пыбрізáюцца, і ў хаці пысьвятлеіць. Як жа ты брыўся, што ўвесь чыста пыбрізáўся?*

**Паабразумліваць, паабразумляць, паабразуміць** *зак.* Абразуміць многіх. *Ніхто ні нáйдзіцца пыабразýмлівыць іх. Як пубрузумлялі троху ў Ходысых, дык яны пыцішэлі. Чаго ты іх ні пыабразýміш, што яны самі сабе думыюць!* **Паабразумлівацца, паабразумляцца, паабразуміцца** *зак.* Абразуміцца (пра многіх). *Вам даўно пыра пыбразýмлівыцца, лабрэтым еткім. Як жа яны пубрузумляюцца, кылі тэй усё нупучáіць, наводзіць на пуць ісьцінный. Ці пубрузуміліся яны там хуць нямнога, ай усё дурату твыряць?* **Паабразумленый** *дзеепрым. Ніхай зьезьдзюць, сьвету пыглідзяць, можа троху пыбразýмлінымі вернуцца.*

**Паабрасяніваць, паабрасяніць, паабрасіць** *зак.* Абрасіць з усіх бакоў. *Ідзіця дарогыю, па сьцёжкі штаны пыбрысянівыіця. І штаны, і рукáвы — усё пыбрысянілі, сушыць нада. І ні ныбрáлі нічога, і адзёжу пыбрасілі, калі яе цяперя дасýшысься.* **Паабрасянівацца, паабрасяніцца, паабрасіцца** *зак.* Абрасіцца з усіх бакоў. *Грібоў ба січас найшоў, ну толька ж пыбрысянівыіціся пу*

*кустах, ны вас сухея ніткі ні астáніцца. Нілізя ныпрямкі іціць, пыбрысяніціся, во вам і прямкі будуць. Хуць пыбрасіліся крепка, ну затоя харошых грібоў ныпаролі.* **Паабрасяненый** *дзеепрым. Прішлі такея пыбрысяніныя, што на іх аднае ніткі сухея ні було.*

**Паабрузаць** *зак. груб.* Паспаць пэўны час. *Дай ты ўжо ім пубрюзáць, цігаліся ж цэлыю ноч айдзе-то.*

**Паабскубываць, паабскусць** *зак.* Паабскубаць. *Пыапскýбывылі стажок са ўсіх бакоў, ён скора зывáліцца. Усё ета, што вісіць, нада пыапскýсьць, ніхай ні буўтаіцца.* **Паабскубывацца, паабскусца** *зак.* Паабскубацца. *Як пыапскýбывыіцца, ён будзіць красівый вазок. Ніхай так пыляжыць, посьлі пупскубецца.* **Паабскубываный, паабскубеный** *дзеепрым. Тырчаць нейкія папскýбывыныя капёшкі, за імі, знаць, ніхто ні глядзіць. Ты і папскýбіных курей ні пріпыряччыш.*

**Паабстраіваць, паабстроіць** *зак.* Узвесці пабудовы з усіх бакоў. *Пыапстрáівылі двары хырашо. Нада ж зы два гады так пыапстроіць!* **Паабстраівацца, паабстроіцца** *зак.* Пабудавацца шмат. *Зы пасьледнія ўремя яны крепка пыапстрáівыліся. Ты б відзіла, як яны пыапстроіліся, ні хаты, а харомы пыстыўлялі.* **Паабстроеный** *дзеепрым. Ні такея ўжо яны пыапстроіныя, па пýнчыні пріпялі.*

**Паабтрапывацца, паабтропывацца, паабтрапацца** *зак.* Абнасіцца ўшчэнт. *А божычка мой, а чаго ж вы так пыптряпывыліся як стáрцы якея! Яны дужа такея, што ні глідзяць ні на што, паптрёпывыюцца і ходзюць. Ды я віджу, што пыатріпáліся, ніхай спруўляюць адзежу, за восінь яны крепка заробілі, грошы у іх ёсьць.*

**Паабтыніваць, паабтыніць, паабтыняць** *зак.* Абставіць плахамі з усіх бакоў. *Каб сьцены ў погрібі пыаптынівыў, чысьцей ба було, зімля б ня сыпылыся. Выбірі-ка ты мінутку, прідзі погріб пыптыні. Ён, бувала, сáжылкі пыаптыняіць, люба глянуць, харошый быў хызяін.* **Паабтыніцца** *зак. Зал.-бессуб'ект. ад* паабтыніць. *А паптынюцца тваe сьценкі, пасьпеіш яшчэ.* **Паабтыненый** *дзеепрым. Пыаптыніныя сажылкі доўга дзіржаліся, пянькý ў іх мачылі, ну канешня ня ўсе тынілі.* **Паабтынёмшы** *дзеепрысл. Пойдзіця пыптынёмшы, нечыга там адным вычáмі сьвяціць.*

**Паабцярэбліваць, паабцярабліваць, паабцерабіць** *зак.* Абсячы з усіх бакоў. *Нада тут пыпцяреблівыць тро-*

*ху, гушчына́, што сьвет ні праходзіць. А ты бярёзы пыпціря́бліўвый, глядзі, сколька хворысту будзіць, пысякецца, сухенькій як порых пыпа́ліш. Мой сяньня пыпцірябіў дзерівы, пыря́дышныга суча насек.* **Паабцярэбліваца, паабцяраблівацца, паабцерабіцца** *зак.* Абсячыся з усіх бакоў. *Так табе ўжо сяньня прісьпічыла лезьць, і заўтря пыпцяребліюцца. Самі ж бярёзы ні пыпцірябліваюцца, лезьць нада. Пару вазкоў зь лесу прівязём хворысьця, дзерівы пыпцяребюцца, будзіць ны растопу ны зіму́.* **Паабцярэбленый** *дзеепрым. Ура́ньні ныкріча́ла ны яго, чаго йта ты, гыварю, ні пра што ня рупісься,— дык пріхаджу з горыда, ліпы пыпцяребліныя стыяць.* **Паабцерабёмшы** *дзеепрысл. Зь лесу прівязеш ды троху сыбяреш, апса́дку пыпцірябёмшы — во й будзіць троху.*

**Паабчыкрыжываць, паабчыкрыжыць** *зак.* Абрэзаць, абстрыгчы з усіх бакоў. *Ці ня ты йта пыхызя́йнічыў тут, усю брукву пыпчыкры́жывыў. А ты ні дывадзі дужа, пыпчыкры́ж бальшымі ныжня́мі і цэлы будуць.* **Паабчыкрыжаный** *дзеепрым. Прібеглі Матруніны ма́лыя, рідамі пыпчыкры́жыны.*

**Паабчыкрыніваць, паабчыкрыніць** *зак. жарт.* Абрэзаць, абстрыгчы з усіх бакоў. *Глядзі, кініш так, могуць гу́жыкі ўраз пыпчыкрінівыць. Ці ня ты ета ў мяне пацсоніцы пыпчыкрініў, нешта ты к ім дужа прігліда́йся.* **Паабчыкрынены, паабчыкрынетый** *дзеепрым. Ох, ідуць пыпчыкрініныя, блішчаць як месікі. Стыяць пацсоніцы пыпчыкрінітыя, вічарінышнікі пыхадзілі, хто ж яшчэ.*

**Паабчышчываць** *зак.* Паабчысціць. *Пыапчы́шчывый плашч, увесь аппы́рскын грязьзю. Калі дзеріўцы зьнізу папчы́шчывыць, лучы росьць будуць.* **Паабчышчываца** *зак.* 1. Паабчысціцца. *Грязь пыапчы́шчывылыся, ну плямы асталіся, зумува́ць прідзіцца.* 2 *перан.* Абжыцца. *Якея былі задріпы, а пычалі зырыбля́ць — папчы́шчывыліся, жывуць як усе людзі.*

**Паабшарпываць, паабшарпаць** *зак.* Абадраць, знасіць ушчэнт. *Касьцюмчык пу кустах саўсім пыапша́рпывыў. Нічога быў пулушубык, дык ні бярёг, ныдзіва́ў куды зря, пыпшырпа́ў увесь чыста. Пыпшырпа́лі сьцены, шма́цьцім шпалеры вісяць.* **Паабшарпывацца, паабшарпацца** *зак.* Абадрацца, абнасіцца ўшчэнт. *Аўсяёнык пыпша́рпывыўся неік, ходзіць атря́ха атряхыю. Пыпшырпа́ліся, шубёнкі наскрозь сьвецюцца, — во што гарелыч-*

*ка дзелыіць.* **Паабшарпаный** *дзеепрым. Як табе тольки ня стыдна такому пыпшырпаньіму хадзіць.*

**Паабшарываць, паабшарыць** *зак.* Абшукаць усё, усюды. *Етыя ні прапу́сьцюць, усюдых пыапша́рівыюць. Яны ўсе кусты даўно пыпша́рілі, тута нійдзе ні аднаго арешыка ні асталыся.* **Паабшарываный, паабшараный** *дзеепрым. Там ды цябе пыпша́рівына луччы ні нада. Етыя кусьцікі пыпша́ріныя, схадзі, кылі ні ляніськя, зы ряку.*

**Паабшчалеплівацъ, паабшчалепіць** *зак. жарт.* Пааб-дымаць. *Пыапшчалеплівылі сваіх дырагіх, нагледзіцца ня могуць. Січас увідзіш, як яны пыпшчалепюць гасьцей.* **Паабшчалеплівацца, паабшчалепіцца** *зак.* Паабдымацца. *Пыпшчалеплівыліся, рысстря́цца ня могуць, во дружба. Хут ты іх рысьця́гывый, так пыпшчалепіліся.*

**Паабшчаплівацъ, паабшчапляць, паабшчапіць** *зак.* Абняць (пра некалькіх асоб). *Устрецілі сваіх цётык, пыпшча́плівылі іх. Пыпшчыпля́лі Івана са ўсіх бакоў, — уся рыдня зьбеглыся, нагледзіцца ня могуць. Пыапшчэпіця вы сваіх дырагіх, пыдажджы́ця трошку.*

**Паабшчапулівацъ, паабшчапуліць** *зак. жарт.* Пааб-дымаць. *Во ўстреціліся, пыпшчапу́лівылі адна адну, як сто гадоў ня відзіліся. Пыпшчапу́лілі родніňкіх, дужа ра́дыя.* **Паабшчапулівацца, паабшчапуліцца** *зак.* Пааб-дымацца. *Пыпшчапу́лівыліся, усё дно як Антон сь Пёклыю, хуць рызвадзі іх. Яны як веціp: сяньня пыпшчапу́люцца, а заўтря пысва́рюцца.*

**Паабшчупывацъ, паабшчупаць** *зак.* Абмацаць старанна. *Я ўжо ўсё тряхольля пыапшчу́пывыў, — ніійдзе німа ножычка. Ты папшчу́пый хырашэнька у лісьці, ці ні тама зывалілыся сьпіца.* **Паабшчупывацца, паабшчупацца** *зак.* Абмацацца старанна. *Яны папшчу́пывыліся, усе кырма́ны пірітрясьлі, — як згарелі ключы ці прываліліся айдзе. Я ўжо большы некуды як папшчу́пыўся, відна, нехта вы́хвыціў пяцёрку с кырмына́.* **Паабшчупываный, паабшчупаный** *дзеепрым. Усе кырма́ны пыапшчу́пывыны, ніійдзе німа. Я пыдня́ў шапку — і сьпічкі ліжаць, — во табе й папшчу́пына ўсё!*

**Паабязножыць, паабязножыцца** *зак.* Абязножаць (пра некалькіх асоб). *У ста́рысьці ўсяк буваіць, ну хужы ўжо німа, як старэя пыбязножыюць. Якея яны жыцілі, калі пыбязножыліся, горя і ім, і зь імі.*

**Пааглуздацца** *зак.* Папрыходзіць у сябе, разабрац-

ца (пра некалькіх асоб). *Пакуля мы пыаглу́здыліся, дык цямнець пычало.*

**Пааграбаць** *зак. перан.* Хапануць у вялікай колькасці. *Тэя гады яны пыагрібáлі грошы с саду, а цяперя некыму упрыўля́цца.*

**Паадкаіваць, паадкаяць** *зак.* Адхаяць (пра некалькіх асоб). *Комін зычынілі і ляглі спаць, дык хырашо, зыйшла Мархва, відзіць — яны біс сызнанія, стала людзей зваць, набеглі, чуць пыткáівылі. Глядзіця, так зычыня́ўшы угыріцё, некыму будзіць пыткáіць.* **Паадкаеный** *дзеепрым. Яны ўжо былі пыткáіныя, як мы прібеглі.*

**Паадкідываць, паадкідаць** *зак.* Адкінуць шмат. *Нада було б пыаткідывыць сьнег, ніхай ба скарей пыцсыхáла лі ґанык. Пыткідáйця сьмяцьцё дальшы, яно з гноім вы́візіцца.* **Паадкідывацца, паадкідацца** *зак.* 1. Адкінуцца (пра ўсё, шмат). *Як усё пыаткідывыіцца, тады будзіць места хвырасток скласьць. Ніхай пыляжы́ць, заўтря пыткідáіцца.* 2 *перан.* Пакінуць назусім гнёзды (пра птушак). *Патрогылі гнёзды, птушычкі і паткідывыліся. Не, к віріб'ям калі і злáзіш, яны ні пыткідáюцца.*

**Паадплаўляць, паадплавіць** *зак.* Моцна намачыць знізу (пра значную колькасць). *Дзірьку ты ні зыхацеў забіць, дождж у сенцы наліў, путплуўля́ў усё, цяперь вынасіся, пірясу́шывыйся. Пыатплáвіш ты мяшкі с такім мыцьцём, ну я ўжо іх сушыць ні пывылаку́.*

**Паадсачаць** *зак.* Аддзяліцца ад ствала (пра кару ў час руху веснавога соку). *Як кырá пыцсычáіць, тады дзерівы і пычынáюць рыськідáцца, сок тады йдзець.*

**Паадстраваць, паадстраць** *зак.* 1. Адстаць, адваліцца з усіх бакоў. *Тріханí хырашэнька, грязь ета, што засохла пля́йсьцірымі, пыцстрівáіць. Дзёгыць хуць і вы́сыхніць, дык ні пыцстря́ніць.* 2 *перан.* Адчапіцца (пра некалькіх асоб). *Ці пыцстрівáіця вы ат етых дзяўчонык, лабрэціны? Ня дужа яны пыцстря́нуць, як нькысáюцца.*

**Паадтаівацца, паадтаіцца** *зак.* Адмовіцца, утаіць (пра некалькіх асоб). *Ты іх дайжа увідзіш і скажыш, што відзіў, і яны ўсё роўна пыаттáівыюцца, яны такея. Пыттаіліся і што ты зь імі зьдзелыіш, зá бык ня ўку́сіш.*

**Паадтапырываць, паадтапырыць** *зак.* Адставіць нязграбна, нязручна (пра некалькіх асоб). *Во рукі пыттапы́рівылі, як ловюць каго. І яны пáльчыкі пыттапы́рілі, як ты, тожа гуляюць.* **Паадтапырывацца, паадтапырыцца** *зак.* Адставіцца нязграбна, нязручна (пра некалькі

аб'ектаў). *Кырмáны пыттапы́рівыліся, усяго ўсякыга туды пыныпіхáлі. Ат ветру рубашкі ны плічах пыаттапы́риліся.* **Паадтапыраный** *дзеепрым. Сядзелі с пыттапы́ріными губамі, ні знаю, хто іх там пырызабіджывыў дужа.*

**Паадужываць, паадужаць** *зак.* Паправіцца (пра некалькіх асоб). *Яны чуць пыаду́жывылі, с успаленіім усе ўтраіх ліжалі. Куды іх везьць, ніхай пысідзяць, пыаду́жыюць, посьлі звозюцца.*

**Паадумывацца, паадумацца** *зак.* Адумацца (пра некалькіх асоб). *Вы пыаду́мывыліся, ды позна, пра ета нада було ішчэ у прошлым месіцы гывáріць. Пыаду́мыйціся, людзі, што вы трілю́дзіця, ні знаўшы, ня ведыўшы.*

**Паадураваць** *зак.* Пасваволіць груба. *Пыадурювáлі, пакуля бацькі у дваре ні було. За ўрокі ім садзіцца некылі, а пыадурювáць урemя находзіцца.*

**Паадурываць, паадурыць** *зак.* Затлуміць, задурманіць. *Як станýць гылыгалець, як рызарзу́цца, яны пыаду́рівыюць усіх. Ці яны вас ішчэ ні пыадурілі сваім гылыгаленьнім? — што зы распу́шчыныя дзеці!* **Паадурывацца, паадурыцца** *зак.* Затлуміцца, задурманіцца. *Зь імі адзін дзень пабудзьця і пыаду́рівыіціся. Пыадуріцца нада — еткій крік кажын дзень слу́хыць.*

**Паадхлупаць, паадхлупнуць** *зак.* Аддзяліцца з усіх бакоў (пра кару, скуру і інш.). *Бярьвеньня доўга ліжала ні карёмшы, кыра пыатхлупáла ўжо. Ты рану ня трогый, зажывець і ўсё само пыатхлу́пніць.*

**Паадчыніваць, паадчыніць** *зак.* Парасчыняць. *Пыаччы́нівыіць дзьвері, кініць і пашоў сам, — во якей хызяін мой. Пыччыні-ка ты пу́ні, ніхай там троху прысыхáіць зьвіцярком.* **Паадчынівацца, паадчыніцца** *зак.* Парасчыняцца. *Самі ж етыя хворткі ні пыаччы́нівыліся, нехта ж іх аччыня́ў. Веціp усхадзі́ўся, вароты пыччыніліся і ціляты пыразьбегліся.* **Паадчыненый, паадчынетый** *дзеепрым. Дзьвері пaччы́ніны, самі храпу́ць ва ўсю, а ў хаці куры хызя́йнічыюць. Вокны пыаччы́ніты, Васіль ны гармоні режыць, а яны скачуць у той хаці.*

**Паазяляць, паазяліць** *зак.* Атлуміць многіх. *Зá дзінь як наду́рюць гылаву, пряма пыазіля́юць сваім гылыгаленьнім. Ці яны вас яшчэ ні пызялілі.* **Паазяляцца, паазяліцца** *зак.* Атлуміцца (пра многіх). *Ці вы ат іх ішчэ ні пыазіля́ліся? У прошлым гаду столька ўжо було арехыў, усе пряма пызіля́ліся, насёмшы і вылачомшы. Ета*

*ж нада пыазяліцца ат яблык, сколька іх сёліта урадзіла!*

**Паакапіровываць, паакапіраваць** *зак.* Дапамагчы абжыцца многім. *Цяперя ўжо нада думыць, як дзяцей пыакыпіровывыць. Максім сваіх дзяцей пыакыпірувáў.* **Паакапіровывацца, паакапіравацца** *зак.* Абжыцца, асталявацца (пра многіх). *Табе ўжо ня горя, дзеці пыкыпіровывыліся. Яны ўсе ў горыдзі пыкыпірувáліся, ладна жывуць.* **Паакапіраваный, паакапіраваный** *дзеепрым. Калі дзеці пыкыпіровыны, табе тужы́ць не п чым. Яны хырашо пыкыпірувáны, ні біджáйся.*

**Паакляяць** *зак.* Акрыяць (пра некалькіх асоб). *Ніхай яны троху пыакліяюць, ныскыкáліся ўчора, дык і сяньня ня могуць у сябе пріціць.*

**Паапекарыць, паапекарыцца** *зак.* Паапекаваць пэўны час. *Быў пыдняхверіўся: я іх вы́віду у людзі, — с пайгода пыапекырій ды ныэад. Доўга ён ні пыапекыріцца, цярьпеньня ні хваціць.*

**Паарашаць, паарашыць** *зак.* 1. Рашыць усё. *Усе зыдáчкі пыарішáў зы мінуту, ён дужа хырашо рішáіць. І ён столька парешыць, як ты.* 2. Пазнішчаць. *Яны, нелюдзі тэя, столька народухну пырішáлі, бувала, пачуіш і пачуіш: пывылаклі пыліцэйскія. Іх пырішы́лі знаіш айдзе? — зу Дубровыю.*

**Паартамоніць, паартамоннічаць, паартамоніцца, паартамоннічацца** *зак.* Пагаварыць, паглядзець без сэнсу, у разгубленасці. *Нешта пыартамоніў зь імі і пашоў, яны як глумакі якея. Ну схадзі яшчэ ты, пыартамоньнічый, думыіш, толку даб'есься. Кылі ты пыартамонісься, дык, думыіш, будзіць луччы? — не, луччы ня будзіць. Я віджу, што табе дужа гаріць пыартамоньнічыцца зь імі.*

**Паасесць** *зак. перан.* Паасядаць. *Верна, ўжо ніхто ня помніць, аткуля яны пріехылі, яны дайно тут пыаселі.*

**Пааслаўляць, пааславіць** *зак.* Абняславіць (пра некалькіх асоб). *За што ж вы людзей пыслыўлялі, яны вам нічога дренныга ня зьдзелылі. Ні за што могуць пыаслáвіць, — у такіх ні пытаць чаго хочыш.*

**Паатамсціць, паатамшчаць** *зак.* Адпомсціць усім, многім. *Яны вам пытымсьця́ць, так вам ня пройдзіць. Доўга гразілі пытымшчáць, ах, злудзюгáны: пырысят пабілі і яшчэ мсьціць хацелі!*

**Паатахоціць** *зак.* Адбіць ахвоту (ва ўсіх, многіх). *Я іх жыва пыатахочу у сад лазіць, кылі злаўлю каторыга, мала ня будзіць.* **Паатахоціцца** *зак.* Адахвоціцца

(пра ўсіх, многіх). *Нешта яны скора пытахоціліся ат вічарінык, сяньня ж пад бокым, а яны ў дваре сідзяць.*

**Паатмуздываць, паатмуздаць** *зак.* Расцугляць (пра некалькіх коней). *Пыатму́здывыйця коні і цірісься-дзельнікі атпусьціця, ніхай трошку скубану́ць. Коні путмузда́лі, пусьцілі, а самі зываліліся спаць.* **Паатмуз-дывацца, паатмуздацца** *зак.* Расцугляцца (пра некалькіх коней). *Самі яны ні маглі пыатму́здывыцца, тут нехта нарошня пыхадзіў. Аброці ні зышпілілі як нада, коні і пытмузда́ліся.* **Паатмузданый** *дзеепрым.* *Як я йшоў, коні стыялі патму́здыныя. Путмузда́ныя коні вы́рвыліся і ўцяклі.*

**Паачухывацца, паачухацца** *зак.* 1. Прыйсці ў сябе (пра некалькіх асоб). *Яны чуць пыачу́хывыліся посьлі той Домніный праборкі, хваціла ім. Дай ты ім пыачу́-хыцца, яны і так у заты́лкых скрябу́ць.* 2 *перан.* Абжыц-ца пасля нягод (пра некалькіх асоб). *Будуць ру́піцца, дык пыачу́хывыюцца. Доўга як старцы хадзілі, а цяпе-ря пыачу́хыліся: пулушубкі новыя, боты новыя — рыс-храньціліся.*

**Паачынацца, паачынуцца** *зак.* Апынуцца (пра некалькіх асоб). *Ім, думыіш, тоя Ма́зылыва далёка, яны за́ ныч айдзе хочыш пыачына́юцца. А чаго ж вы ў Пу-стынкых пыачыну́ліся, хто вас туды зваў?*

**Пааш**мураваць, пааш**мурэць** *зак.* Ачмурэць (пра некалькіх асоб). *Саўсім пушмурюва́лі етыя ма́льцы, ці ві-дзіш, што зь іх творіцца. Ці вы пушмурелі усякыю лух-ту перць ны чылавека, ні знаўшы нічога і ня ведыўшы.*

**Пабабіць** *зак.* Спавіць. *Тымара прікызала: нікога ні завіця, толька Хадору, хачу, каб іна мне дзіцёнка пыба́-біла.*

**Пабазарыць, пабазарыцца** *зак. перан. неадабр.* Шум-на пабалбатаць, пакрычаць, пасварыцца. *Стой, жджы іх, ежылі хочыш, пакуля яны пыбыза́рюць. Я знаю, чаго цябе туды цягніць, пыбыза́ріцца.*

**Пабайкаць, пабайкацца** *зак.* Пагаварыць няпэўна, паплявузгаць, папляткарыць. *Печы троху праку́рюць, тады сойдуцца кучыю, пыба́йкыюць, дыця́гнуць уремя ды абеда. Сьпірва лі Аксюты пыба́йкыліся, тады зайшлі к Ісаёнку, там пысядзелі.*

**Пабалабоніць, пабалабоніцца** *зак. перан. іран.* Па-балбатаць, паплявузгаць. *Ці яны ні найдуць пра што*

*пыбылабоніць? А вы б яшчэ троху пыстыялі, пыбылабоніліся, можа б зы вас найшоўся хто кароў пыдаіў?*

**Пабалахоніць, пабалахоніцца** *зак. неадабр.* Пабалбатаць нудна. *Табе нешта прібўдзіць, калі ты пыбылахоніш у той кынпаніі. Дзела ат іх дужа ня жджы, сыбяруцца, пыбылахонюцца і ўсё.*

**Пабалматаць** *зак.* Пагаварыць невыразна, неразборліва, пабалбатаць. *Пыбылмытаў нешта, стоючы кылы Гапкіных. Дужа ён у рязон возьміць, кылі ты ны яго пыбалмочыш, ён дайжа слухыць цябе ні станіць, былмачы.*

**Пабандарыць, пабандарнічаць** *зак.* Пазаймацца бандарствам. *Вы як пыбындаріця, дык ат етых бочычык і клёпык ні сыбяреш. Я віджу, што ты нічога пыбындарнічыў: абрўчыкі пырызырваў.*

**Пабандурыць, пабандурыцца** *зак.* Пабалбатаць, паўспамінаць. *Ён знайдзіць пра што пыбандўріць, яму пыткäзывыць ні нада. Пыбандўріліся, пакуля каровы уваліліся ў вык ўсім тубуном.*

**Пабаразніць** *зак.* Пагаварыць невыразна, незразумела, без ладу, парадку. *Пытхадзіў і Кываленык, нешта пыбыразьніў, яго дужа ніхто ня слухыў.*

**Пабарахлець, пабарахліць** *зак. неадабр.* Пагаварыць попусту, пабалбатаць. *У адной хаці пыбырахлела, тады у другую пыцягнўлыся, язык пычысала. Ны цільпухах тута пысядзелі, пыбырахлілі ш час, тады рызыйшліся.*

**Пабасець** *зак.* Застацца без абутку (пра некалькіх асоб). *Усё ня выбірімся пыглядзець чаго-небудзь на ногі, мы ж саўсім пыбаселі за ета ўремя.*

**Пабатракаваць** *зак.* Папрыслугоўваць. *Заслўжыць спасіба, кылі пыбытракўіць, дажджэцца. Ніхай сходзюць, пыбытракўюць, можа, адўмыюцца.*

**Пабаярыць** *зак.* Цяжка папрацаваць. *Лета яны крепка пыбыярілі, ні адзін раз пот сыгналі.*

**Пабілябеніць** *зак.* Пабалбатаць. *Дужа ўжо, дужа вам хочыцца пыбілябеніць, пряма царьпець ня можыця.*

**Пабіндзюгацца** *зак.* Пацягацца, палодарнічаць, пахадзіць бязмэтна. *Січас я ні знаю, айдзе Косьцік, летыся пріінджай, пыбіньдзюгайся тут зь месіц.*

**Паблажэннічаць** *зак.* Пажыць вольна, бесклапотна. *Зы Высілём яны пыблажэньнічылі, цяперя нісмашна будзіць самім за ўсё зы ўсякыя брацца.*

**Паблізкасці** *прысл.* Поблізу. *Адной ба ёй туга прі-*

*шлося, ну сёстры жывуць паблізкысьці, пыдбігаюць паможч.*

**Паблуканяцца** *зак.* Пахадзіць без справы і без мэты, паблукаць. *Яму каб толька публукуняцца; стырікі ішчэ крепкія, грышамі сныбжаюць, дык што яму.*

**Паблындаць** *зак. неадабр.* Паблукаць, пахадзіць бязмэтна. *Думыў, тута паблындыіць, а цётка дырма карміць ні стала, дык сьвістануў нызад.*

**Паблямкаць** *зак.* Пабразгаць. *Наверна, яны купацца пабеглі, трошку лі жалезьзя пыблямкылі, а січас ня чутна.*

**Пабожкаць** *зак.* Павыражаць спагаду, здзіўленне. *Што, есьлі ты пыстаіш, пабожкыіш, паможч ты нічым ні паможыш.*

**Пабосць** *зак.* 1. Пабадаць. *Твыя Лыска ўсіх кароў пыбыла ў тубуне, ні адна зь ёю ні спруўляіцца. 2 перан.* Панепакоіць пэўны час. *А пыбало яго, як скызалі, што ліcьнікі пры бярьвеньня спрасілі.*

**Пабочына** *ж.* Мяса ад бакавіны тушы. *Старік мой, бувала, дужа любіў кіслыю капусту с пабочыныю. Пабочына — пінька ня мочына. Памянш.* **пабочынка.** *Можа б ты пабочынкі зьеў кусочык, ай цялёнка гудуваць ня хочыцца?*

**Пабрудзяніць** *зак.* 1. Пабрудзіць. *Ты ж усе рубашкі пубрудзяніў, калі я тоя ўремя выбіру памыць.* 2. Пабрудзіцца. *А пубрудзяніла ўжо ўсё плацьця, горька нада шчолык дзелыць.* **Пабрудзяніцца** *зак.* Пабрудзіцца. *Лі бульбы ўсё пубрудзяніцца, цяжола, пакуля яе выхвыціш зь зямлі.* **Пабрудзяненый** *дзеепрым. Рубашкі твае ліжаць пубрудзяніныя, пірісьцірну ны днях.*

**Пабрузнуць** *зак. груб.* 1. Патаўсцець, распаўнець, апухнуць. *Ногі пабрюзьлі, ны адну дайжа ступіць ня можыць. 2 перан.* Паспаць. *А ня трогый ужо, ніхай пабрюзьніць, ён ніяк ня можыць выспыцца.*

**Пабрусянець, пабрусянецца** *зак.* Апухнуць. *Пальцы яму крепка прідавіла, пубрюсянелі, пышывяліць ня можыць. Уся правыя шчыка пубрюсянелыся адз зубоў, куды яму йціць.*

**Пабрындавусіць** *зак.* Паблукаць бязмэтна, пабадзяцца. *Пырядышныга пыбрындавусіў і твой Колічка, знаць, месіцы два дайжа рукі ні пріклаў ні к чому.*

**Пабузаніць** *зак.* 1. Занасіць, забрудзіць. *Каб знала, што етык пубузаніш адзежу за месіц, я б табе нічогінь-*

*ка ні спруўляла.* 2 *перан.* Патузаць здзекамі і прыніжэннем чалавечай годнасці. *Пубузанілі яго ладна, год чуць выдзіржыў.* **Пабузаніцца** *зак.* Занасіцца, забрудзіцца. *Нічога ні бірягець, пубузанілыся адзежа, а ён і ў тэй бок ні глядзіць.* **Пабузанены** *дзеепрым. У цябе вун пубузаніныга тріп'я куча выляіцца.*

**Пабусіць** *зак. жарт.* Пацалаваць. *Бягі ўжо, бягі, пабусіш свайго ніныглядныга.* **Пабусіцца** *зак.* Пацалавацца. *Во як вы крепінька пабусіліся! Як пабусілыся, дык і ні ацстаець ат яго.* **Пабусены** *дзеепрым. Воць цяперя і ты пабусіный, можыш усім хваліцца.*

**Пабухікаць, пабухукаць** *зак.* Моцна пакашляць. *Мой крепка пубухікыў: рыспацеўшый прібег і вады халодныя як зы сябе кружку выпіў. Пубухікыіць — тады будзіць знаць, ці нада ныдзівацца, ці не.*

**Пабухцець, пабухціць** *зак. неадабр.* Пабурчаць незадаволена. *Ты ні гарюй дужа, ён знайдзіць за што пубухцець. Пубухціў нешта, пубухціў і паплёўся с тапорікым ны кынавы, хуць сеч тама нечыга.*

**Пабушмаціць, пабушмачыць** *зак.* Пагаварыць пра пустое, пахлусіць. *Учора троху Аўдзяёнык пысядзеў, пубушмаціў, як ён зладзеіў лавіў. Яму толька дай уволю пубушмачыць, большы нічогычка ні нада.*

**Пабушнець** *зак.* Зрабіцца больш лапушыстым. *Посьлі даждажоў усё ны гародзі пубушнела, хырашо пашло ў рост.* **Пабушнелый** *дзеепрым. Пыглядзіця, ікая пубушнелыя капуста, ужо кычаночыкі зывязыюцца.*

Пабядзяшчае: **на пабядзяшчае.** На пахаванне. *Такея тайныя сховы былі, вырылі ў баку ямку, пыклалі, усё зымазылі і зыгладзілі, ніхто на сьвеці ні знаў, адзін Ляксей, усё зыбраў, Рухамініха дужа кліла: ніхай яму ны пыбідзяшчыя!*

**Пабязуліць, пабязуліцца, пабязульнічаць, пабязульстваваць** *зак.* Пагультаяваць. *Работы вы зь іх ні дыжджыцё, пыбязулюць зь месіц і ызад паедуць. Там ён нічога ня дзелыў і ў Мікіціхі толька пыбязуліцца. Яму ні касіць, а пыбязульнічыць нада, чаго ж ён яшчэ пыд'явіўся. Пыбязульствывылі, пакуля Сярьгей ні пріехыў, а тады уняліся.*

**Пабялендзіць** *зак. неадабр.* Пабалбатаць нудна, павольна. *Пряма цярьпець ня можыць, каб ні пыбялендзіць, аткуль у яе што бярецца зь естымі тріпюдымі.*

**Пабяляный** *дзеепрым. перан. жарт.* Светлавалосы.

*Нешта Верычкін пыбіля́ный дужа сяньня к Тымаркі пріглідайся.*

**Павазголіць** *зак.* Замазаць, вымазаць. *Нічога ён ня зьеў, толька міскі пывазґоліў.* **Павазголіцца** *зак.* Пакешкацца, паваждацца (звыч. з цестападобным рэчывам). *Ну ніхай сам пывазґоліцца, ці ты ж яго будзіш ды дзісяці гадоў карміць, ніхай прівучыіцца.*

**Павазгравіць** *зак.* Папэцкаць. *Дужа ішчэ будзіш класьць, толька посыд пывызґря́віш, дай у рукі і ніхай бягіць.* **Павазгравіцца** *зак.* Папэцкацца. *Трошку ш чугунком пывызґря́віўся і пабег на вуліцу ў мячыка гуляць.* **Павазграўленый** *дзеепрым.* *Складзі ўсё пывызґря́ўліныя у шаічку, я січас вады дыстану і пірямыю.*

**Павазграціць, павазгроціць** *зак.* Папэцкаць. *Во памыла, дык памыла, пывызґря́ціла, а ні памыла. Прібярі скарей адзежу, пырысяты лычамі ўсё пывазґрёцюць.* **Павазграціцца, павазгроціцца** *зак.* Папэцкацца. *Пысядзелі трошку, пывызґря́цілісь, тама нечыга выбіраць с тае бульбы, пасьці ўся гнілая. Думыіш, бальшэй толк будзіць, калі яшчэ ты сюда ўлезіш, пывазґрёцісься.*

**Павалантырыць** *зак.* Паваждацца, павалаводзіць. *Яны маглі б даўно ныпісаць, нарошня ні пісалі: дай пывылантырім. За лес яго ладна пывылантырілі.* **Павалантырыцца** *зак.* Паваждацца, павалаводзіцца. *Сколька ўремя я зь імі пывылантыріўся, пакуль угывыріў ехыць!*

**Павалхвіць** *зак.* Папялегаваць, папесціць. *Баба цябе пывалхвіла, а я так ухаджывыць ня буду, мне ўремя німа столька вазіцца.*

**Паварзёкаць** *зак.* Папэцкаць. *Зьесьць ці ня зьесьць, ніхай сам пыварзёкыіць.* **Паварзёкацца** *зак.* Папэцкацца. *Мінут пяць пыварзёкылыся ды кінула.* **Паварзёканый** *дзеепрым.* *Нейкыя пыварзёкыныя скыўрыдá стаіць, ці ні пыхызя́йнічыла ў ёй кошка.*

**Паварзёпаць, паварзёпкаць** *зак.* Папэцкаць. *Пыварзёпыла сьцены, яны сталі хужы, чым былі. Многа яны наелі сьмітаны, пыварзёпкылі па міскі і пашлі.* **Паварзёпацца, паварзёпкацца** *зак.* Папэцкацца. *Пакуля пыварзёпылыся с посыдым, дык пырысяты у грідах ачынуліся. Абізацільна табе січас хочыцца пыварзёпкыцца, пыдажджэць твыя печ ды заўтріга.* **Паварзёпаный, паварзёпканый** *дзеепрым.* *Якоя там беліна, так, пыварзёпына квачым, айдзе мызанута, айдзе не. Ты хуць пыварзёпкыныя скоўрыды пріпыря́ч.*

**Паваўчэць** *зак.* Зрабіцца нелюдзімым. *Я іх гады трі ня відзіў, яны яшчэ большы пываўчэлі.*

**Павашакоміць, павашакоміцца, павашакомнічаць, павашакомнічацца** *зак. іран.* Пазадавацца, павыхваляцца. *У чарку нюхнуць, тады яны пывышакомюць. У нас ба дужа ні пывышакоміўся, мы б скора асадзілі. Ён ня можыць, каб ні пывышакомнічыць, тады яму ажно мутырна. Тута яны доўга ні пывышакомнічыюцца, тута на іх любувáцца ні стануць.*

**Павашапрудзіць, павашапрудзіцца, павашапруднічаць, павашапруднічацца** *зак. іран.* Пазадавацца, павычварацць. *Пывышапрудзіць ён умеіць, учыць ні нада, сам каго хочыш наўчыць. Тама і людзей тых — кырáндышы аблезлыя, а любюць пывышапрудзіцца. Пырядышныга пывышапруднічылі, з Зыхарывымі сойдуцца і пашлі адурювáць. Пывышапруднічыцца ён умеіць чышчы зы Іхімінят.*

**Павашапуціць, павашапуціцца, павашапутнічаць, павашапутнічацца** *зак. іран.* Пазадавацца, павычварацць. *Ну як жа яны ўпусьцюць, ні пывышапуцюць піріч чужымі людзямі. Бацька такей быў, і сын любіць пывышапуціцца, праўду ж гаворюць: якей корінь, такей і атростычык. Пірят кім ён там пывышапутнічыіць, ны яго ніхто глядзець ні захочыць. Яны адзін піріда дным учора здорыва пывышапутнічылíся, адзін хырашо, а другей яшчэ чышчы.*

**Паверабеніць** *зак.* Патараторыць. *Я глядзела, што зь іх будзіць, — не, доўга ні стыялі, трошку пывірябенілі і рызыйшліся.*

**Паверзць** *зак.* Паплявузгаць. *Думыіш, што-небудзь путноя скажыць? — пывярзець сваe трілюды і пойдзіць.*

**Павеса, павеснік** *м. неадабр.* Гультай і залётнік. *А ты павесьніка свайго зыстаў пыкасіць, ато блукуняіцца дзень прі дні. Узмацн.* **павесіна.** *Ні прідумыіш, якей быў павесіна, стáрыя білыся як рыба аб лёд, а ён нажрецца і пашоў цігацца. Павеліч.* **павесішча.** *Павесішча быў чылавек ніізьвесна якей, ныцярьпелыся зь ім Проська.* **Павесніца** *ж. Павесьніца ты, павесьніца, як табе ня стыдна дырмавэй хлеб есьць!*

**Павікаць** *зак.* Пакрычаць піскліва. *А ніхай павікыіць, ён мне ўсе рукі атырваў,— насі яго, ні спусьці ні ны адну мінуту.*

**Павіліца** *ж.* Павітуха (травяністая расліна). *Пывілі-*

*ца — тыкая трыва, што за ўсё чыпляіцца, яе бярэш, а тады ацьцягывый ат рук, і скот яе ня есьць.*

**Павільготываць, павільготывацца** *зак.* Пажыць прывольна, раскошна. *Пывільготывыць ім ныравілыся, каб толька хто усім смашным сныбжаў. Месіц пывільготывыліся, дык ужо і ні смашна зы граблі ды зы сярпы брацца.*

**Павінаходзіць** *зак.* Пакруціцца, пабалавацца. *Мульчуганы кучыю як сыбяруцца, тады пывінаходзюць, усюдых іх пубуваіць.*

**Павірыдаваць, павірыдавацца** *зак.* Паздзекавацца, пасамаўпраўнічаць. *Доўга ім пывірідуваць ні ўдалося, некылі було рызмахнуцца. Твой браціц німала пывірідуваўся.*

**Павісачэць** *зак.* Падрасці, зрабіцца больш высокім. *Твой мальчонка пырядышныга за етый год пывісачэў.* **Павісачэцца** *зак.* Падрасці, зрабіцца больш высокім (звыч. пра дрэвы). *Ліпкі заметна пывісачэліся, яны сталі хырашо росьць.*

**Павіскатаць** *зак.* 1. Папішчаць гучна. *Ну ніхай троху пывіскочуць тваё сьвіньні, цэлы будуць, пріду і ўвальлю.* 2 *перан. асудж.* Пакрычаць пранізліва. *Пывіскытаць ім нядоўга, сыбяруцца і пычалі: а ты так кызала, а ты етык гываріла.*

**Павогірнічаць, павогірстваваць, павогірыць** *зак.* Пазадавацца, пафанабэрыцца. *Думыў, што за ім дзеўкі будуць кучыю бегыць, павоґірнічыў тут. Яму каб толька павоґірствывыць, каб ім любуваліся. Павоґіріць думыў тута, ды ні прішлося, ніхто ны яго ні глядзеў.*

**Па-вулішнаму** *прысл.* Па мянушцы (называць). *У іх дзяреўні дык неік усім далі прозьвішчы і завуць па-вўлішныму.*

**Павухрыць** *зак.* Павучыць. *Хто яго пувухріць, дзядзьку сымаго учыць нада, а кылі сам за розум ні бярецца, ніякыя вухреньня ні паможыць.*

**Павучына** *ж.* Павуціна. *Не, я ўжо ні дупушчў, каб пувучына па ўсёй хаці вісела. Пувучыну пріклыдаюць ны рану, каб кроў ні ішла. Памянш.* **павучынка, павучыначка.** *Кылы набожніка пувучынкі кой-айдзе вісяць. Чысьцінька, прібраджына ў хаці, ні пылінычкі нійдзе, ні пувучынычкі. Павеліч.* **павучынішча.** *Во хызяйка, дык хызяйка: усё зырасло і зуплуло грязьзю, а пувучынішча пряма мішкамі вісіць пу ўглах.*

**Павучыніна, павуцініна** *ж.* Павуціна (са знач. адзінкавасці). *Ці відзіш ты, ікая длінныя пувучыніна вісіць. Увосінь то там, то там пувуцініна, і на дзерівых, і па ржышчу — усюдых. Памянш.* **павучынінка, павуцінінка.** *Пувучынінкі пу ўглах скарей усяго пыіўляюцца. Іна была дужа акуратныя баба, падмыіць, паччысьціць, нійдзе пувуцінінкі ня ўвідзіш.*

**Павушлець** *зак.* Стаць больш разумным, разважным. *Пыдрасьцець, дык пувушлеіць, ня будзіць усё ўремя рызівоным.* **Павушлелый** *дзеепрым. Домнін сын пацёрся між людзей, пувушлелый пріехыў.*

**Павыбарсываць, павыбарсаць** *зак.* Павыцягваць аборы з лапцей. *Крепкія аборы пывыбарсывый, а ірвань кідай у печ разым з лыпцямі. А чаго ж ты аборы ні павыбырсыў, яны ж пасьці новыя.* **Павыбарсывацца, павыбарсацца** *зак.* Павыцягвацца з лапцей (пра аборы). *Кідай, лапці посьлі пывыбарсыюцца, пойдзім бірнушкі пыўскладыім. Ня дужа з вузламі павыбырсыюцца аборы.* **Павыбарсываный, павыбарсаный** *дзеепрым. Пывыбарсывыныя аборінкі я на пріпік лажыў, айдзе ж ета яны. Не, тыкі лапці павыбырсыны.*

**Павыбрузнуцца** *зак. груб.* Выспацца (пра многіх). *Парі, ніхай устаюць, ніяк яны ні павыбрюзнуцца сяньня.*

**Павывухраць, павывухрываць, павывухрыць** *зак.* Старанна навучыць, падвучыць (пра многіх). *Пывывухряла сваіх, цяперя пырядык знаюць, айдзе зря вобуў ня кінуць. К пырядку ні прівучыны, трудна іх будзіць пывывухрівыць. Такіх лабрэтыў ня дужа лёхка павывухріць.* **Павывухраный, павывухрываный** *дзеепрым. С такімі пывывухрянымі толька пыгыварі. Ого, як яны ў цябе пывывухрівыны, чуць ні па дной масьнічкі ходзюць.*

**Павыгаляць, павыгаліць** *зак. перан.* Выскубці поўнасцю. *Тубуны дужа бальшэя, пывыгыляў скот усё чысьцінька, разу скубнуць нейдзі. С краю аблужкі коні павыгылілі, сталі голыя як бубін.* **Павыгаляный, павыгаленый** *дзеепрым. Ны пывыгыляных ўблых ці пасі, ці ні пасі, грызнуць нечыга. Айдзе ты ныпасеш, кылі ўсё усюдых павыгыліна.*

**Павыдужываць, павыдужаць** *зак.* Ачуняць, паправіцца (пра многіх). *Зы зіму скот аслабніць, а ны траву пойдзіць, дык пывыдужывыіць. Слабінькія былі цілятікі, а тады трохі-патроху павыдужылі.*

**Павыжмурываць, павыжмурыць** *зак. жарт.* Выпіць

усё шмат. *Соку пыря́дышныга було, увесь пывыжму́рівылі. Толька ні прібяpi хырашэнька, ні схувай, найдуць і ўсё павы́жмурюць.* **Павыжмураный** *дзеепрым. Стыялі буты́лычкі, хвацілыся — пустэя, павы́жмуріны.*

**Павыжымацца** *зак. перан.* Пакапрызнічаць. *Пы-чылавечыску ні ра́зу ні скажыць, сьпірва пывыжыма́іцца, тады яе голыс пачуіш.*

**Павызыбываць, павызыбаць** *зак.* 1. Павыцягваць расхістваннем. *Гняты́ з глею пакуля пывызы́бывылі, мы зыпа́ріліся. Большы ні аткапывый, можа як павы́зыбыім.* 2 *перан.* Вызваліць з цяжкасцю. *У такую куламесу ўскачы́лі, што ныўряд ці ўдасца пывызы́бывыць. Піліпу дысталося, пакуля ён павы́зыбыў сваіх мальцыў.*

**Павыкамырываць, павыкамырывацца, павыкамырыць, павыкамырыцца, павыкамырнічаць, павыкамырнічацца** *зак.* Паштукарыць. *Троху пывыкамы́рівыў, а Лідка сыгрібла́ яго ды ў хату. Яны любюць пывыкамы́рівыцца, усюдых пыка́зыюць сябе. Толька сойдуцца разым, етыя пывыкамы́рюць. Хочыцца яму пывыкамы́ріцца, аж пря́гніць. Ні дыла ім Вольга пывыкамы́рнічыць, пыт па́шкі аднаго, другога і пывылыкла́. Гыварілі, ты тожа ладна пывыкамы́рнічыўся, ці праўда ета ай выду́мыюць?*

**Павыкласць** *зак.* 1. Выкласці шмат. *Прішла Аўдотка, павы́клыла гасьцінцыў, у іх ажно вочы разьбегліся.* 2. Пакастрыраваць. *Нам так хырашо пупа́ла: хадзіў кыныва*л *і мы павы́клылі пырыся́тык.* **Павыкласца** *зак.* Выкласціся (пра ўсё, шмат). *Садзіся есьць, павы́клыдуцца грібы пазьней.* **Павыкладзеный, павыкладжаный** *дзеепрым.* 1. Выкладзены. *Ні глядзі, усё ўжо аттуля павы́клыдзіна, на ўслончыку у сенцых ляжыць. Павы́клыджыныя кычанкі нічога, а тэя ў мяшку пряма спа́ріліся.* 2. Пакастрыраваны. *У мяне кыбанкі павы́клыдзіны, такіх луччы купля́юць. Павёз ны бызар павы́клыджыных пырысят — кыба́нчыкыў.*

**Павылангацца** *зак. асудж.* Павылежвацца. *Знаю, што ты любіш пывылынґа́цца, ды нада йціць гной рыськіда́ць, старэй во-вот кыня падгоніць.*

**Павымудраць, павымудрацца** *зак.* Павыдумляць, пакапрызіць, павымудроўваць. *Сьпірва пывымудря́іць, тады толька за ложку возьміцца, што зы праціўный дзіцёнык. Ты ў мяне пывымудря́ісься, дажджэсься, што ні гліда́ючыся ацскочыш ац стыла́.*

**Павыпугываць, павыпугаць, павыпужываць, павыпу-**

**жаць** *зак.* Перапалохаць многіх. *Што вы дзелыіця, вы так дзяцей пывыпу́гывыіця. Знаіш, як можна павы́пугыць, зь естым шуткі дренныя. Яны нас у лесі былі пывыпу́жывылі. Так павы́пужылі, што ў нас каленкі трясьліся.* **Павыпугывацца, павыпугацца, павыпужывацца, павыпужацца** *зак.* Перапалохацца (пра многіх). *Там нічога ні було, а вы ніізьвесна як пывыпу́гывыліся. Ты выйдзі ўсьлед пыглядзі, ато павы́пугыюцца, што балець будуць. Зублудзіліся, ні знали, куды йціць, пывыпу́жывыліся. Малым нядоўга павы́пужыцца.*

**Павыскараджываць, павыскароджываць, павыскарадзіць** *зак.* Пабаранаваць усё поўнасцю. *Не, Хведзька абы-як ня зьдзелыіць, ён усё пывыскыра́джывыіць, дывядзець да толку. Тута нада крепка пывыскароджывыць, зімля як пряд, цяжолыя. Я знаю, як павы́скырыдзіць ён: кініць як зря, ны камлы́жжы нічога ня будзіць.* **Павыскараджывацца, павыскароджывацца, павыскарадзіцца** *зак.* Пабаранавацца (пра ўсё поўнасцю). *Борыны як прікладзеш цяжола, кляцы́ глубока запу́сьціш, усё кареньня пывыскыра́джывыіцца, чыстыя зімля ста́ніць. Хырашо поля пывыскароджывылыся, мяккыя зімля. Нядренна вы́кыпылі, многа бульбы ні павы́скырыдзілыся.* **Павыскараджываный, павыскароджываный, павыскараджаный** *дзеепрым.* *Ты пыглядзеў ба, як тама ўсё пывыскыра́джывына. Усю пывыскароджывыныю бульбу я пыдыбрала. Павы́скырыджыныя кареньня у кучу нада сыбраць, пацсохніць і спаліцца.*

**Павыскрыпываць, павыскрыпаць** *зак.* Выстудзіць частым адчыняннем дзвярэй. *Адзін у хату, другей с хаты, адзін за дным носюцца ні сьціха́ючы, як пывыскріпывыюць — хыладзіна ў хаці, хуць ваўкоў гыня́й. Павы́скріпылі за́ дзінь зь естым вя́зьзім, паетыму і халодна.*

**Павыскусць, павыскубсць** *зак.* Выскубці поўнасцю. *Біряжкі каровы павы́скублі, саўсім німа травы. Айдзе зьля́мчыныя, павы́скубі. Во ета клочча нада б павы́скубсьць.* **Павыскусца, павыскубсца** *зак.* Выскубціся поўнасцю. *Крепка ні ціга́йця, можыць павы́скусца. Ты ж глядзі, каб усё ні павы́скублыся.* **Павыскубеный** *дзеепрым.* *Там усё павы́скубіна, ні травінкі німа.*

**Павыскяпываць, павыскяпліваць, павыскепліваць** *зак.* Павыколваць. *Сірядзінкі пывысьця́пывый ны паттопу, а астатнія ў печ. А калі ты і пывысьця́плівыіш, дык нашто яны, етыя палычкі. Пывысьцеплівыў круглячкоў,*

*ну яны ны качулкі ня годны, качулкі бярёзывыя дзелыюць.* **Павыскяпывацца, павыскяпліванца, павыскепліванца** *зак.* Павыколвацца. *Ня ўмеіш цісаць,— у цябе і тапор войстрый, і палка пывысьќяпывылыся кускамі. Трі тыпаріншчы дзелыў, і ўсе пывысьќяплівыліся. Ну кылі й пывысьскеплііцца, у печ укіну.* **Павыскяпліваный, павыскепліваный** *дзеепрым. Пывысьќяплівыныя ночвы і адны, і другея. Ета бырахло, пывысьскеплівыныя пáлычкі, нічога зь іх ня зьдзелыіш.*

**Павыстаўляцца** *зак. перан. іран.* Паганарыцца, пазадавацца. *Трахім дужа любіў пывыстыўля́цца, вісока сябе нёс.* **Павыставіцца** *зак.* Выставіць сябе на агляд. *Нырядыў пынапёрлі ны сябе, павы́стывіліся: любу́йціся, якея мы, сколька ў нас быга́ства.*

**Павысцябываць, павысцёбываць, павысцябаць** *зак.* Выбіць сцябаннем. *Нудура́чуцца с пу́гымі, што вочы адзін другому пывысьця́бывыюць. Яму нада було вочы пывысьцёбывыць, такому бясстыжыму, нікыя́ньніку такому зы яго прíду́мствы. Ты ж так вочы павы́сьцібыіш, што ты дзелыіш!*

**Павытрашчаць, павытрэшчываць, павытрашчыць** *зак.* Параскрываць шырока (пра вочы). *Із-зы плітня́ вочы пывытрішча́лі, усё глядзелі, хто йта йдзець. Кажын раз пывытрешчывыюць вочы, дужа ім усё аньціресна. Павы́тріншчылі вочы ну людзей.* **Павытрашчацца, павытрэшчывацца, павытрашчыцца** *зак.* Параскрываць шырока вочы. *Чаго вы пывытрішча́ліся? Са ўсіх вокын пывытрешчывыліся, думылі, увідзюць ніізьвесна што. Хто ня йдзець, дык яны ўсігда павы́тріншчуцца.* **Павытрашчаный** *дзеепрым. Стыяць, вочы во такея павы́тріншчыныя, дзіку́юцца.*

**Павыхартацца, павыхартавацца** *зак.* Прагаладацца (пра некалькіх асоб). *Ета січас вымудря́іця, а павы́хыртыіціся, дык і крошычкі пыдбіріцё. Павы́хыртывыліся, галодныя прібеглі, крупені зы мінуту па міскі апыражнілі.*

**Павычаўрыць** *зак.* 1. Моцна высахнуць, перасохнуць. *Столька ўремя дажджоў ні було, зімля пряма павы́чыўріла.* 2 *перан.* Счахнуць, памарнець, пасхуднець. *Вам і аддыхну́ць урема німа, ажно павы́чыўрілі зы работыю.*

**Павэрзаць** *зак. неадабр.* Зрабіць няўмела, абы-як. *Айт, я ны такую работу глядзець ні хачу, павэрзыў, што ў рукі ні ўзяць карзінкі.* **Павэрзацца** *зак.* Парабіць няў-

мела, абы-як пэўны час. *Павэрзыўся там, трошку прігырадзіў, тэй пляцень чуць ліпіць.*

**Павядзіць** *зак.* 1. Пажыць, паліпець. *Мікілай саўсім увесь, доўга ён ні пывя́дзііць. Бык як пыкычаў, ён с паўгода пывя́дзіў і памёр.* 2. Панепакоіць. *Бува́іць, асьцю́ль-кі пупаду́ць, во ўжо тады пывя́дзіюць.*

**Павякаць** *зак.* Пакрычаць. *Ну што я, пывя́кыла, а ніхто ні адгука́іцца, хаджу і ні знаю, куды ўдвору.*

**Пагадзя** *прысл.* Пачакаўшы. *Доўга яны ні сядзелі, мінутычку пыгыдзя́ паехылі. Перша Стыхван пыд'явіўся, а трошку пыгыдзя́ і Антонывы пыдыйшлі.*

**Пагайкаць** *зак. неадабр.* Пакрычаць, пагалёкаць. *Троху пы дзяреўні пыга́йкылі, алі скора спаць пашлі.*

**Пагаладаваць** *зак.* Пагаладаць. *А што ж ты думыў, пріхадзілыся, што куска хлеба пы нядзелі у вочы ня ві-дзілі, пугулудува́лі зы вайну.*

**Пагаламузіць, пагаламузнічаць** *зак. жарт.* Пасваволіць. *Дужа ж вы любіця пыгыламу́зіць, мае мальчыкі. Пыгыламу́зьнічылі тут зра́ньня, а тады пабеглі некуды.*

**Пагалдзіць** *зак. асудж.* Паразмаўляць бязладна і шумна, пакрычаць. *Кучыю пыгалдзілі, тама ні рызыбра́ць було, хто што хочыць.*

**Пагалузнічаць, пагалузнічацца, пагалузіць, пагалузіцца, пагалузываць, пагалузывацца** *зак.* Пасваволіць. *У мяне б яны столька ні пыгалу́зьнічылі. Зь дзіцямі ўсігда гуляў хырашо, а астаўся адзін — ён і пасьпіць, і пыгалу́зьнічыіцца, усё яму нечыга ні хвыта́іць. Ціхінькія, ціхінькія, а пыгалу́зіць любюць, учыць ні нада. Ты яго сам рызба́лывыў, ён і глядзіць, каб пыгалу́зіцца. Ты, знаць, ня можыш, каб ні пыгалу́зывыць. Я ім дужа ні даю пыгалу́зывыцца, успыка́івыю.*

**Пагамбіць** *зак.* 1. Зганьбіць (пра некалькіх асоб). *Во дружы́ла, дружы́ла, дружба была вадою ні разьліць, і разым пыга́мбіла іх, пасьледнімі людзямі зьдзелыла.* 2. Паганьбаваць пэўны час. *Ну ніхай іна і мяне пыга́мбіць, ніхай ёй на ду́шынькі яе пыляхчэіць.*

**Пагамзіць, пагамзаць, пагэмзаць** *зак.* Пабрудзіць, пакамячыць, папсаваць. *Ты толька большы спруўля́й, ён усё пыгамзіць. Пыгымза́ў столька сена, ды лугавога, біз дажджу прібра́джына. У іх було троху адзёжы, дык пагэмзылі — ні біряглі, ні прібіра́лі, ні глядзелі.* **Пагамзіцца, пагамзацца, пагэмзацца** *зак.* Пабрудзіцца, пакамячыцца, папсавацца. *Сколька ты яму ні спруўля́й, усё*

*пыгамзіцца. У харошыга хызяіна нічога ні пыгымза́іцца, а ў атряхі ні было нічога і ня будзіць. Тэя касьцю́мы пагэмзыліся, выля́юцца, а ты яшчэ хочыш спруўля́ць.* **Пагамжоный, пагамзаный, пагэмзаный** *дзеепрым. Пыгамжоныя ужо ні ды я́кыга ладу ні дывядзеш. Чаго ў цябе пінжакі такея пыгымза́ныя? У нейкім у пагэмзыным, пагэмзыным пальцішку плёўся.* **Пагамзёмшы** *дзеепрысл. Пыгамзёмшы сена, будзіш резь резыць.*

**Паганянне** *н.* Падганянне. *Хырашэнька сьцібані, а с такім пыгыня́ньнім ты і да поўначы ні даедзіш.*

**Паганяннік, паганяльшчык** *м.* Той, хто падганяе. *Ты, пыгыня́ньнік, ужо зымаріўся, знаць, дывай-ка мне вожкі. Якей жа ты пыгыня́льшчык, што пугу пыціря́ў.* **Паганянніца, паганяльшчыца** *ж. Уку́тыйсь-ка ты лучча, пыгыня́ньніца, у шубу ды пысядзі ціхінька. Адбярі ты ў етыя пыгыня́льшчыцы прут, ато йна вочы сабе пывысьця́быіць.*

**Пагарбачаный** *дзеепрым.* Пагорблены. *Нейкія ж ў цябе досткі пыгырба́чыныя, толька на столь парезыць.*

**Пагардабычыцца** *зак. неадабр.* Павыхваляцца, пазадавацца. *Яны сябе ціряшчу́р вісока нясуць, пыгырдабы́чыцца усігда любюць.*

**Пагаркаць** *зак.* Пагарлапаніць. *Ня дужа хто спужа́ўся, калі ён пыга́ркыіць, ніхай га́ркыіць, хуць і парьвецца.*

**Пагарлаць** *зак. неадабр.* Пагарлапаніць, пакрычаць. *Пакуля ні пыгырла́іць, дык яму, кажыцца, і абед ні ў абед.*

**Пагарчэць** *зак. перан.* Зрабіцца горшым (пра жыццё). *Ёй ні разу салодка ні було, а цяперя яшчэ пыгарчэла, ікая айдзе біда, усё ны яе гылаву́.*

**Пагарэлка** *ж.* Жанчына, у якой пажар знішчыў дом і маёмасць. *Пырызыйшліся пыгарелкі пы дзіріўня́х, хто айдзе пріюціліся. Пыдыйшла я і спрашывыю: як тута наша пыгарелка?*

**Пагвэздаць** *зак.* Забрудзіць, паквэцаць. *Усе ыпря́ткі пагвэздыў у дзёгыць, а дзёгыць жа нічым ні атмува́іцца.* **Пагвэздацца** *зак.* Забрудзіцца, заквэцацца. *Ай-я-яй, ета ж паспробый прідумыць так пагвэздыцца.* **Пагвэзданый** *дзеепрым. Прішоў увесь пагвэздыный і ні прізнаецца, айдзе ён быў.*

**Пагенераліць, пагенеральнічаць** *зак. іран.* Уладна пагаспадарыць. *Ёй хочыцца пыгініра́ліць, а тута ні да-*

*юць рызгарнуцца. Ета пыгініра́льнічыіць,— і мылыдая, а тыкая ныха́льныя баба.*

**Пагібаць** *зак.* Пазгінаць. *Пагібыў шалёвычку, а йна крэх ну сука́х, пыпыла́м.* **Пагібацца** *зак.* Пазгінацца. *Пагібыіцца, пакуль піряломіцца, во што можыць быць.*

**Пагіморнічаць, пагіморнічацца** *зак. іран.* Пакапрызнічаць. *Ну-у, ён ня можыць, каб ні пыґіморнічыць, уся та́тыва натура. Ого, сколька пыґіморнічыліся, ні ўспакоіць було.*

**Пагладзець** *зак.* Пагладчэць. *Доўга я ждаць ня буду, трошку пыгладзеіць кыбанчык, і заб'ю, дужа мне нада сьмігува́цца аб нішчы́мніцы.* **Пагладзелый** *дзеепрым. Ат'етуля пыгладзелыя паехылі, яны ўсігда пріїжджа́юць сюда ат'іда́цца.*

**Пагламаздаць** *зак.* Няўмела зрабіць, парабіць. *Увідзіш, як ён спляцець — пыглымызда́іць, толька лазу папорціць. Мінут дзесіць пыглымызда́ў, а тады зываліўся спаць.*

**Паглум** *м.* Псаванне. *Няўжэлі ты ня можыш прібраць, каб у паглу́м ня йшло? Раз кругом паглу́м, то жызьні ня будзіць.*

**Паглумачыць** *зак.* Папсаваць без патрэбы, без карысці. *Пыря́дышныга було адзёжы, і ні плахея адзёжы, а так усё пуглума́чылі бяс толку.* **Паглумачыцца** *зак.* 1. Папсавацца бяссэнсна. *Усякыга дыбра у іх многа пуглума́чылыся.* 2. Паваждацца. *Я зь ім уволю пуглума́чылыся, ідзі цяперіцька ты шукаць толку.* **Паглумачаный** *дзеепрым. Столька ў іх пуглума́чыныга сена, у гной пусьцілі, пад ногі скату.*

**Пагляданне** *н.* Погляды. *Прапу́сьціш — во табе й будзіць пыгліда́ньня, ты зьбегый і спрасі, калі яны зьбіраюцца ехыць.*

**Пагляднасць** *ж.* Добры знешні выгляд. *Пыгля́днысьць ішчэ табе нада, іна кыравёнка ны мылако нічога, бярі.*

**Пагніваць** *незак.* Згніваць, гнісці. *А ці раз у етыга хызя́іна пыгніва́ла сена ны аборкых, як-небудзь скосіць, а прібраць ні субы́чыцца.*

**Пагнядзець** *зак. жарт.* Пасталець, увабрацца ў сілу. *Што табе тужы́ць, кылі сыны пыгнядзелі, сядзі ціха ды еж хлеб.* **Пагнядзелый** *дзеепрым. Пыгнядзелыя хлопцы, самыя што работнікі сталі, а ты бяду́іш.*

**Пагойзаць** *зак. неадабр.* Патаптаць, пазбіваць. *Сушы-*

*ла я, сушыла сьвірепычку, яе дужа ладна карова зімою есьць, ліжала у вугалку, дык пагойзылі усю чыста.* **Пагойзацца** *зак.* Пабегаць, пагойсаць. *Перша лі стагоў пагойзыліся, а посьлі я ні знаю, куды пабеглі.* **Пагойзаный** *дзеепрым. Нада пыглядзець, можа узноў копы пагойзыны.*

**Пагрыбазвоніць** *зак. іран.* Пабалбатаць. *Чаго яны сходзюцца? — пыгрібазвоніць, другога у іх зыняція ні буваіць.*

**Пагрыбчыць** *зак. жарт.* Палавіць, пахапаць. *Ах, бáлыўнікі, я вас січас пагрібчу у карзінку. Іх тама на месьці пагрібчылі, тэя і аглянýцца ні пасьпелі.*

**Паграбня** *ж.* Прыгрэбнік. *У яго харошыя пыгрібня́: двá вянцы нару́бліна, а тады накры́та крепка. Ны пыгрябне усякій хлам склáдыюць. Памянш.* **паграбенька.** *Нада хуць якую пыгрябеньку тріпя́ць, усё сьнéгым ні зынясець погріб.*

**Пагрымець** *зак. перан.* 1. Пабурчаць злосна. *Зу любую мелыч пакуля пыгріміць, так ні прапýсьціць.* 2 *перан. жарт.* Паехаць з грукатам, урачыста. *Учора атвечыра яе госьці пыгрімелі, нугусьцювáліся, Мархва ужо рада, рада.* 3 *іран.* Вызваліцца з пасады з шумам. *Думыў, будзіць дужа доўга хызя́йствывыць, а тут ні прішлося, пыгрімеў з должнысьці.*

**Пагрэць** *зак. перан.* Пакараць. *Пупадзецца калі-небудзь, крепка пагреюць, будзіць тады кусаць сабе локці.*

**Пагуніць** *зак.* Зняславіць, паганьбаваць. *Ну пагýніла ты маіх сыноў, ну й ладна, ніхай будуць плахея, а ты будзь харошыя.*

**Пагуртаваць** *зак.* 1. Скласці абы-як. *Што вы тута пугуртувáлі усё ў адну кýчу, нада було пы адзьдзельнысьці склáдывыць. Пугуртýюць адно на дно, тады рызьбірáйся.* 2. Аб'яднаць. *Нада харошый зыкапёршчык, каб іх пугуртувáць.* **Пагуртаваный** *дзеепрым. Буду я ся́ньня ета пугуртувáныя паленьня рызьбірáць ды ўпыря́ччывыць.*

**Пагусць** *зак. перан.* Паплакаць уголас. *Учора ты пагýў зы кынапелькі, ды, відна, мала. Ніхай пугудýць, ета ні ў чужоя места.*

**Пагутаторыць, пагутаторыцца** *зак.* Паразмаўляць павольна, няспешна. *Ішлі яны на той нядзелі ціріз дзярейню, кылы Сямёнывых пыстыя́лі, пугутаторілі. Пакуля*

*вы тут пугутаторіціся, дык і за стол некылі будзіць садзіцца.*

**Падаплёшный** *прым.* Падкладачны. *Сукно у мяне ужо ёсць, нада цяперь пыдаплёшныга мыцірія́лу ныбраць ды занесьць усё ў мысьцярскую.*

**Падасадзіць, падасадываць, падасадзіцца, падасадывацца** *зак.* Пабедаваць. *Ня бойся ты, Аксюціна дычка доўга ні пыдыса́дзіць. Сыма сабе пыдыса́дывыла, на людзі іна вынасіць нічога ня любіць. Яны абея пыдыса́дзюцца пы Сярьгею. Прі́дзіцца ёй пыдыса́дывыцца.*

**Падасець** *ж.,* **падасецце** *н.* Яма пад сушняй у гумне, дзе знаходзіцца печ. *Мой старік, бува́ла, у пыдасець нагру́зіць пнёў, а тады у печ кіда́іць, су́шыць снапы. Пыдасецьця вы́кыпыць тожа нада було ўмець. Памянш.* **падасетка, падасецціка.** *У нас была глубокінькыя пыдасетка, толька ціснува́цінькыя, можна було рыскашнейшыю дзелыць. Старік, бувала, топіць, топіць, а тады і засьнець у пыдасецьціку.*

**Падбадзюліваць** *незак.* Паддзяваць, падсаджваць з сілай. *Ты хырашэнька пыдбадзю́лівый, туды, пряма пыт кареньня лупа́ткыю.* **Падбадзюлівацца** *незак.* Паддзявацца, падсаджвацца з сілай. *Ня дужа яно пыдбадзю́лііцца, тама ці ня мёрзлыя зімля ішчэ.* **Падбадзюліць** *зак.* Паддзець, падсадзіць з сілай. *Тута нада трошку пыдбадзю́ліць, а тады вагу́ зыкла́сьць.* **Падбадзюліцца** *зак.* Паддзецца, падсадзіцца з сілай. *Не-а, зь естыга боку ніза́штычка ні пыдбадзю́ліцца.*

**Падбародавіч** *м.* Падбародак. *Пріїжджа́ў мушчы́нішча — во, пыдбародывіч тэй вісіць, — што значыць чылавек у вы́гыдзі, у дыгля́дзі жывець.*

**Падбіраннік** *м.* Той, хто падбірае. *Нешта ня дужа хочуць твае пыдбіра́ньнікі сыгіна́цца, бульба усьлед астаецца, яны толька есьць дужа скорыя. Памянш.* **падбіраннічак.** *Ты ж, пыдбіра́ньнічык, бульбы ні рыссыпа́й, ато дзьве ўкініш, а дзесіць вы́сыпіцца.* **Падбіранніца** *ж. Зымаріліся пыдбіра́ньніцы, сідзяць у саломі, аддыхаюць.*

**Падбірацца** *незак. перан.* Падыходзіць, набліжацца да канца (пра гады, сілу, жыццё). *Што ж ты зьдзелыіш, сіла пыдбіра́іцца. Сілы пыдбіва́юцца і гады́ пыдбіра́юцца.*

**Падбрушша** *н.* Падчарэўе. *Можа ты відзіў, ці ні хадзіла тут тыкая пылыва́я карова, падбрюшша сівыя?*

**Падбуваць** *незак.* 1. Абуваць у дадатак, папраўляць абутае. *Старэй наш усігда суконкі пудбуваў, гыварiў, тады цяплей у ногі.* 2 *перан.* Падманваць. *Цябе ўжо ні раз пудбувалі, увы ўсякім дзелі ты як рызівон.* **Падбувацца** *незак.* Папраўляць абутае ў лапці. *Я хырашо помню, як ты малінькій учыўся пудбувацца.* **Падбуць** *зак.* 1. Абуць у дадатак, паправіць абутае. *У цябе, бувала, анучкі аб'едуць, і ты жджэш, пакуля цябе дзед падбуіць.* 2 *перан.* Падмануць. *Крепка яго падбулі с каровыю, зы нішто зы ніякыя такея грошы ўцургыў.* **Падбуцца** *зак.* Паправіць абутае. *А што ж, і падбуцца нада було ўмець.* **Падбутый** *дзеепрым.* 1. Акуратна абуты (у лапці). *А бегылі мы ўсяк: хто ладна падбутый, а ў каго анучкі аб'едуць, мы ўсё дно ны мырзянкі і пыкацілі з гары.* 2 *перан.* Падмануты. *Тама такея махырі, што вы пойдзіця аттуля падбутыя.* 3 *перан.* Вывучаны, падрыхтаваны. *Ты ішчэ дренна падбутый, каб мяне ўчыць, табе нада с паўгода паўчыцца.*

**Падбушмачыванне** *н.* Нагавор. *Ужо ўсе яго пудбушмачывыньня наслухыліся большы некуды.*

**Падбушмачываць** *незак.* Нагаворваць, падбухторваць. *Кірей ні паслухыў, тады ўзяліся Ільле пудбушмачывыць на Просю.* **Падбушмачыць, падбушмаціць** *зак.* Нагаварыць, падбухторыць. *Іна і сыма знаіць, што ета ніпраўда, нарошня пудбушмачыла, каб хахлы зьвесьць. Ты знаіш, хто ў іх быў? — Ганна зысыжанская, а ета ня ўпусьціць, каб ні пудбушмаціць.*

**Падваконне** *н.* Падвоканне. *Дужа ім смашна ета пыдваконьня, кажный вечыр тута талуюцца. Носюцца с палкымі пы пыдваконьню, глядзі, шыбкі пывысаджыюць.*

**Падвалак** *м.* Падаконнік. *Пыдвалкі мне ўжо даўно міняць нада, ды ўсё ніяк ні сыбяруся. Памянш.* **падвалачак.** *Крепкыя бярно, смалістыя, чатыpi пыдвалычкі харошыя палучуцца.*

**Падвалашный** *прым.* Прызначаны для падаконніка. *У яго пат пунію два здаровыя пыдвалышныя круглякі ліжаць.*

**Падварухнуць** *зак.* Падварушыць. *Пагода ня дужа надзёжныя, пудвурухні сена, пакуль сонца, скарей прасохніць.* **Падварухнуцца** *зак.* Падварушыцца. *Калі пудвурухнецца, тады й ладна.* **Падварухнутый** *дзеепрым.* *Нешта ня дужа паходжа, што ета трыва пудвурухнута.*

**Па-дваякаму** *прысл.* І так і гэтак. *Тута можна пы-*

*двыякыму судзіць, ці яму ёсьць рашчот піріхадзіць к Мархві, ці німа.*

**Падвесяліць** *зак. перан.* Паддаць рухавасці, імпэту, падагнаць (каня). *Ты яго пу́жкыю пыдвісялі, ато будзіць клыпыць ныга ціріз нагу, вы пызысьніцё с такою яздою.*

**Падвухрыванне, падвухранне** *н.* Падвучанне, падвучванне. *Во табе, і падву́хрівыньня ні пымагло, ні пашоў Пайлюк зы калёсымі. Яе зы адно пудвухря́ньня нада було ныла́іць, ылаіць і ўсё.*

**Падвухрываць** *незак.* Падвучваць энергічна. *Етыя яго і падву́хрівылі, яны ж ня могуць цярьпець, кылі відзюць, што нехта пычына́іць луччы жыць.* **Падвухраный, падвухроный** *дзеепрым. Як толька туды сходзіць, нызад варочыіцца падву́хріный. Можа ён і пудвухрёный, ну я ні замеціла.* **Падвухромшы** *дзеепрысл. Пудвухрёмшы лю́бюць із-зу вугла глядзець, каб самім у баку астыва́цца.*

**Падвучыванне, падвучанне** *н.* Падбіванне, падгаворванне. *Каб ён меншы слухыў падву́чывыньня, каб большы сваёю гылавою жыў, куды б луччы було. Іхныга пудвуча́ньня наслу́хыіцца, а тады ходзіць і пысьміха́іцца.*

**Падганяннік, падганяльшчык, падгоншчык** *м.* Той, хто падганяе. *Ні жалей, пыдгыня́ньнік, сьцібані пу́жкыю, дык пыбягіць. Эх ты, пыдгыня́льшчык, штоб пыціря́ць пу́гу! Я віджу, якей сь цябе пулуча́іцца падгоншчык.* **Падганянніца, падганяльшчыца, падгоншчыца** *ж. Сядзіць пыдгыня́ньніца у пірядку́ і дремліць. Ты была б харошыя пыдгыня́льшчыца, каб зы цябе хто работыў. Нада ўжо троху пыдмяніць ету падгоншчыцу.*

**Падграбаннік, падграбальшчык, падгробшчык** *м.* Той, хто падграбае, падгортвае. *Ты ж, пыдгріба́ньнік, ні засьні лі кучы, дождж пряма вісіць. Во калі пыдгріба́льшчыкі зышывяліліся. А ты сам стынавіся зы падгрёбшчыка, скарей дзела пойдзіць.* **Падграбанніца, падграбальшчыца, падгробшчыца** *ж. Не, пыдгріба́ньніцы, вы ня столька зыпа́ріліся, сколька вічарінка вам прісьпічыла. А зыпыліліся ж пыдгріба́льшчыцы, толька вочы блішча́ць! Ідзі пымагі падгрёбшчыцым, яны сяньня зымаріліся.*

**Паддабраць, паддабрываць** *незак.* Запраўляць (страву). *Кулеш нада кылбасою пыддыбря́ць, накры́шыш кусочыкымі, тады ён — заесца. Пыдда́брівыць любэй су-*

*меіць, абы було чым.* **Паддабрыць** *зак.* Заправіць (страву). *Ты ж ні забу́дзь пыддабріць крупеню, ато будзіш есьць нішчы́мныю.* **Паддабраный, паддобраный, паддаброный** *дзеепрым. Нешта і ня відна, што ета капуста ў цябе пыддыбря́на. Пылажы большы сала, ні жалей, паддобріныя смашней зьяду́ць. Пыддабрёныя бульба пышла зы маліну.* **Паддабромшы** *дзеепрым. Пыста́ўлю пыддабрёмшы, дык яны зы мінуту па міскі ўмяту́ць.*

**Паддавала** *м.* Той, хто падкідвае мяч напарніку для ўдару пры гульні ў мяч. *Якей жа ты пыддыва́ла, што ў цябе мячык у бок ляціць.* 2. Той, хто ўзлівае на печку ў лазні. *Ну-ка, пыддыва́ла, яшчэ кру́жычку ўськінь.*

**Паддавалка, паддавашка** *ж.* Пасудзіна, якой узліваюць на печку ў лазні. *Бяры ста́рыю кружку, во й будзіць табе пыддыва́лка. Нейдзі пыддыва́шка закінулыся, а можа дзеці куды зывылаклі, яны там бегылі.*

**Паддаваннік, паддавец** *м.* Той, хто ўзлівае на печку ў лазні. *Наш пыддываньнік як шу́хнуў бальшую кружку, дык мы як боб пасы́пыліся с пылка́. Якей сь цябе пыддавец, што пылавіна вады ны сьцяну льлецца.* **Паддаванніца** *ж. Ета пыддываньніца чуць ні пыпьпікла́ ўсіх.*

**Паддаджаный** *дзеепрым.* Падпушчаны. *Што йна дасьць, ні стаіць, нілізя́ даіць, прібіла з выдня́мі, у вядро як ка́хнула, іх, кажыцца, усё дно як згон, як з вульля хто вы́пусьціў, як пыдда́джыны яны.*

**Паддакыванне** *н.* Падтакванне, выказванне згоды. *Яго пыдда́кывыньня тольна ны слыва́х, а помышчы ня дужа дажджэш. Я й біс пыдда́кывыньня знаю, што дзелыць, мне памошнікі ні нада.*

**Паддзелыванне** *н.* Спроба ўплыву на справы пры дапамозе чараўніцтва. *Айт, дураты́ ўсякія хвыта́ла, у падзьдзелывыньня верілі, у чырыўнікоў.*

**Паддзелываць** *незак. перан.* Уплываць на справы пры дапамозе чараўніцтва. *Ні дурі ты гылавы, ета тріл́юдзюць, што ўмелі падзьдзелывыць.* **Паддзелаць** *зак.* Паўплываць на справы пры дапамозе чараўніцтва. *Карова зыбалеіць, мылако унікніць, во й гаворюць, што падзьдзелылі.* **Паддзеланый** *дзеепрым. А можа яно й ныпра́ўду падзьдзелына?*

**Паддубянка** *ж.* Паддубовік (грыб). *У нас пуддубя́нкі ня ўсе бяру́ць, хто бярэць, а хто й не. Памянш.* **паддубяначка.** *Выйшла ны такую кругловіну, дык там пуд-*

*дубяанычык як насыпына, ды мыладзенькія, мыладзенькія, я трошку сыбрала.*

**Паддур** *м.*, **паддуранне, паддурыванне** *н.* Падманванне, адурманьванне. *Глядзі, яны скарей цябе сымаго абвядуць кругом пальца, во табе й паддур будзіць. Не, яго пуддуряньнім ня возьміш, ён зразу дыгыдаіцца. Ты як маліенькій паддурівыньня баісься.*

**Пад'еджаный, пад'етый** *дзеепрым.* 1. Пад'едзены, ад'едзены знізу. *Як жа што будзіць росьць, кылі кыряньқі пад'еджыны. Гляджу, вяніць капуста, я выцігнула трі каліўцы — кареньня пад'етыя.* 2. Сыты, такі, які пад'еў. *Ну, кылі пад'еджыныя, дык гуляйця. Ні гарюй, яны пад'етыя, бульбу ісь сьмітаныю елі, ладкі мыкалі, яешню дывала — ні галодны.*

**Паджанішнік** *м.* Шафер. *Пыджжанішнік тама вясёлінькій быў. Ні пушчу я свайго к Высілю пыджжанішнікым. Памянш.* **паджанішнічак.** *Наш пыджжанішнічык такей, што тожа хуць сяньня садзі зы мыладога.*

**Паджмыхаць** *зак.* Пачмыхаць. *Яе карова дужа пірябірлівыя, харошыга сена паложуць — паджмыхыіць, паджмыхыіць і вывірніць мордыю.*

**Паджога** 1 *ж.* Падпал. *Ны паджжогу ныськіваць нада лучыны. Біс паджжогі дровы ні гыряць.* 2 *ж. перан.* Падбухторванне. *Што яны гаворюць, ета паджжога, нарошня пускаюць туман.* 3 *м.* і *ж.* Той, хто падбухторвае, падбухторшчык. *Ён тожа паджжога ні пасьледнія, што хочыш тріпанець, каб чубы зьвесьць.*

**Паджымаць** *незак.* 1. Падціскаць. *Ты луччы пыджжымай, тужэй гайкі закручывый, каб ні шыталыся.* 2. Падтульваць. *Што йта зы сыбака: топні ны яго, ён хвост пыджжымаіць і ўцікаіць.* 3 *перан.* Падганяць **(пра час).** *Ён ба пабыў, ды ўремя пыджжымаіць, нада малых к школі гатовіць.* **Падажмаць, паджаць** *зак.* 1. Падціснуць. *Пыдажмі-ка ты етыя гайкі луччы, яны ішчэ пакруцюцца. Восі к падушкым ты слаба пыджжаў.* 2. Падтуліць. *Губы пыджжала, чуць ні рявець.* 3. Падагнаць (пра час). *Іх так пыдыжмала, што ні зналі, як вярцецца, нікуды ні пысьпівалі. Што я буду дзелыць, кылі ўремя пыджжала, — нявыкрутка.* **Падажманый, падажматый, паджатый** *дзеепрым. Атосы хырашо пыдыжматы. Троху кліньнім пыджжата, ці будзіць дзіржацца, ці не. Села с пыдыжманымі губамі і ўвесь вечыр слова ні прыраніла.*

**Падзагнецце** *н.* Месца пад загнетам. *Усігда ў цябе пыдззагнецьця зыкваклінья. К пыдззагнецьцю прімяці, заўтря укініцца ў печ.*

**Падзебялець** *зак. жарт.* Памацнець, зрабіцца дужэйшым. *Ты ўжо ладна пыдзібялеў, цябе хуць у сваты вядзі, а тута і нявеста пад бокым.* **Падзебялелый** *дзеепрым. Ён нічога, пыдзібялелый, учора ўжо касу кліпаў.*

**Падзікавацца** *зак.* Паглядзець са здзіўленнем, падзівіцца. *Ты пыдзікуйсь-ка, што яны вытвыряюць: у нейкія хамуцікі зыпрігаюцца.*

**Падзіркаціць** *зак.* Парабіць дзіркі (звыч. у лістах). *Ны капусьці нехта усё лісьця пыдзірькаціў, чырьвякі нейкія зывяліся.* **Падзіркаціцца** *зак.* Парабіцца дзіркамі. *Я сыма ні прідумыю, чаго ета рубашка пыдзірькацілыся.* **Падзіркачаный** *дзеепрым. Сёліта кычаноў ня жджы, лісьця пыдзірькачыныя нупувал.*

**Падзіцянець, падзіцянецца** *зак.* Здзяцініцца. *Што гывaріць ны малых, кылі старыя пыдзіцянелі. Ці вы, людзі, пыдзіцянеліся, што йта з вамі тваріцца, што вы вірзіцё як нісмышлёнышы якея.* **Падзіцянелый** *дзеепрым. Ну яй-богу ж, яны пыдзіцянелыя нейкія, большы пра іх нічога ні скажыш.*

**Падзогаць, падзугаць** *зак. неадабр.* Абабіць, пазбіваць скачучы, гоцаючы. *Тама дзьве капёшкі стыяла, падзогылі мульчуганы. Усё сена у пуні падзугылі, а ты дайжа ні гляніш.* **Падзогацца, падзугацца** *зак.* Патаптацца, пабегаць сваволячы. *Падзогыліся пы саломі і к речкі кытанулі. Кругом хаты падзогыліся, а січас ні знаю, айдзе яны. Калі яны падзугыюцца, тоя сена прідзіцца у мяшкі сыпыць.* **Падзоганый, падзуганый** *дзеепрым. Вона, падзогыныя трыва, я адзьдзельна склаў, пыглядзі, што зьдзелылі. Уся салома падзугына, відна, цэлый дзень тулуваліся.*

**Падзюбаць** *зак. перан. жарт.* З'есці, паесці. *Можа, дужа ня хочуць есьць, а трошку падзюбыюць, ніхай сыдзяцца.*

**Падзюлькаць, падзюлёкаць** *зак.* Паклікаць парасят, свіней выгукамі «дзюль-дзюль», «дзюлёк-дзюлёк». *Я падзюлькыў, а іх нійдзе ня чутна. Пудзюлёкый-ка ты лі саломы, яны там ці ні пызыкапывыліся, можа адззавуцца табе.*

**Падзяжыць** *зак.* Пабегчы. *Нашы воґірі пыдзяжылі*

*некуды пыц Сапрыныві́чы, відна, пры вічарінку праню́хылі.*

**Пад'імшыць** *зак.* Добра пракласці мохам. *Тут ба нада було луччы пыдымшы́ць, ты саўсім мала ложыш.* **Пад'імшыцца** *зак.* Добра пракласціся мохам. *Хыраше́нька пыдымшы́цца, дык мароз ня прройміць.* **Пад'імшоный** *дзеепрым.* *Каб було пыд'імшона ла́дна, мароз ба ні прыла́зіў, а так відзіш: уся сьціна́ белыя.*

**Падкавыка** *ж.* Падкалупванне, шпілька. *Дзёма ні пыня́ў зразу, што ета пыткавы́ка, дывай аб'ісьня́ць, як ішоў ціріз Равы.*

**Падкавырыста** *прысл.* З падколам. *Ён жа слова абыкнавенна ні скажыць, усё пыткавы́ріста, усё, каб путкулупну́ць.*

**Падкавырастасць** *ж.* Падкол. *Дужа мне яго пыткавы́рістысьць ва́жна, ніхай вун сваю Кызімірёўну пыткавы́рівыіць.*

**Падкавырастый** *прым.* Такі, які любіць падкалоць. *Ого, ета мужык пыткавы́рістый, кажыцца, усё мякка гаворіць, а ўсё са шпількыю, сы сьмяшком.*

**Падкалоцвіны** *мн.* Сыроватка, якая аддзяляецца пры збіванні масла. *Хто іх будзіць есьць, пыткалоцьвіны, пырысятым вы́льлюцца ў кары́цца, яны луччы пацмокчуць.*

**Падкарманіваць** *незак.* Красці. *Як вы ні зышчыча́йця Ікімёнка, а ён ладна ўмеў пыткырма́нівыць.* **Падкарманіць** *зак.* Украсці. *Рашшчы́тывыў, што тут удасца пыткырма́ніць, а так ні пулучы́лыся.*

**Падкасыванне** *н.* Падсукванне. *Якоя ж тваё пытка́сывыньня, што рука́вы пыміну́тна аб'іжджа́юць і аб'іжджа́юць.*

**Падкачаць** *зак. перан.* Падгадаваць. *Бальшога дужа ні гаду́іць, ну пудоў на шэсць кыба́нчыка кажный раз пыткыча́іць і заб'ець.* **Падкачацца** *зак.* Падгадавацца. *Мой пырасёнык ішчэ худува́т, ніхай пыткыча́іцца.* **Падкачаный** *дзеепрым.* *Кыбанчык быў ні са́льный, а так, пыткыча́ный, я тоўстыга сала ні хачу.*

**Падкідыванне** *н.* 1. Падкіданне. *Што йта зы паткі́дывыньня, што мячык ляціць саўсім ня ў тэй бок, куды нада.* 2. Узліванне на печку вады ў лазні. *Ліні поўныю кру́жку, каб па́ра пышла хырашо, а паткі́дывыньнім па ложкі ні пыддасі́.*

**Падкідываннік** *м.* 1. Той, хто падкідвае. *Ну хва́ціць,*

*паткідывыньнік, ты мне ўсю шапку спорціш.* 2. Той, хто ўзлівае на печку ваду ў лазні. *Пірістáнь, паткідывыньнік, бáлывыцца, ато сымаго січас ны палок пысаджў!*

**Падкінуць** *зак. перан.* 1. Даць, дадаць. *Яму сват сена харошыга паткінуў. Нечыга абіджáцца, ім сыны то тоя, то тоя паткінуць.* 2. Узліць на печку ваду ў лазні. *Паткінь-ка с паўкрýжычкі яшчэ.* 3. Пабіць. *Яны муўчáць, скрывáюць, а Мікілаю там троху паткінулі.*

**Падклетак** *м.* Прыклецце. *У яго быў харошый патклетык, шурокій, што хочыш можна було пыклáсьць. Нейдзі у патклетку куры нясýцца, я ж туды ні далезу, ніхай мáлыя злáзюць, пушукáюць. Памяниш.* **падклетачак.** *Што йта будзіць зы патклетычык, вузёсінькій, кылі такей дзелыць, луччы саўсім ня дзелыць.*

**Падкусываннік** *м.* Той, хто любіць падкалоць. *Я ващыга паткýсывыньніка уніму, змоўкніць і зумурýіцца.* **Падкусываннiца** *ж. Ці помніць ета паткýсывыньніца, што ёй самой було летыся, як іна бегыла і прасіла цёткy зуступіцца.*

**Падлавіць** *зак. перан.* Набыць несумленным шляхам, украсці. *Айдзе якую капейчыну падловіць, дык ці ён яе пусьціць у дзела. Так і цыляіць, каб абізацільна што айдзе ды пыдлавіць.*

**Падлавічча** *н.* Месца пад лаўкай. *Сьперіду пы вярьхý мітанець, мітанець, а с пыдлáвічча дайжа ні падýмыіць вымісьць.*

**Падлаза** *м.* і *ж.* Той, хто ўмее падмасліцца, падлабуніцца. *Раншы ты еткім пыдлáзыю ня быў. Што зы пыдлáза дзеўка, іна што хочыш і ў каго хочыш вымындзыріць.*

**Падлатацца** *зак.* Атрымаць або здабыць не зусім сумленна. *Так і цыляіць, каб айдзе пыдлытáцца, як яму толька ня стыдна.*

**Падлішчываць** *незак.* Даваць у масць пры гульні ў карты. *Ты любіш, калі табе падлíшчывыюць.* **Падлісціць** *зак.* Даць у масць пры гульні ў карты. *Ты мне абізацільна пыдлісьціш.* **Падлісціцца** *зак.* Папасці ў масць (пры гульні ў карты). *Другей раз само пыдлісьціцца, што й ні падумыў ба.*

**Падлоб'е** *н.* Частка твару каля ніжняй часткі лба. *Нічога б мушчына, толька вочы неік нікрасіва у падлоб'я заехыўшы.*

**Падлэўдзіць** *зак.* Схапіць, украсці. *Глядзі, каб ні*

*падлэўдзілі етыя мяшочыкі, тута такея ма́хыры ходзюць, што хочыш атпа́люць. Кі́дыіш так інструмент, і падлэўдзюць што-небудзь.*

**Падманнік, падманяннік, падманяльнік, падманяльшчык** *м.*, **падманяла** *м.* і *ж.* Падманшчык. *Ты ж ішчэ ма́лінькій, а ўжо такей пыдма́ньнік, — ніхырашо, саўсім стыдна. Як ты пыдмыня́ньніку веріш, нійдзе ён ня быў і нікога ня відзіў. Усе вы пыдмыня́льнікі, вам ні ў чом веріць нілізя. Ета первый пыдмыня́льшчык, ён у сва́ты пойдзіць, — пойдзіць, кылі яму цірязь месіц на службу. Як жа я пыдмыня́лі паверю, праўды ў яго німа ні на нохыць. Памянш.* **падманнічак.** *Ах ты пыдма́ньнічык, у мідунічкі злазіў і атка́зыісься.* **Падманніца, падманянніца, падманяльніца, падманяльшчыца** *ж. Не, пыдма́ньніца, нада зы цябе крепінька брацца, іна́чы сь цябе толку ня будзіць. Ня будзь пыдмыня́ньніцыю, ета твыя работа, кот тут ні лазіў, ён ны дваре. Ета ж пыдмыня́льніцы такея, ім у горыд дужа зыхацелыся. Што ж вам скажыш, кылі вы абея пыдмыня́льшчыцы.*

**Падманянне, падманіванне** *н.* Хлусня, падман. *Ні баюся я іхныга пыдмыня́ньня, мяне яны нізашто ні падмонюць. Мы зразу пыня́лі, што ета пыдма́нівыньня, ніхто к ім ні приходзіў і нічога ні гываріў.*

**Падмучываць** *незак.* Крыху ўзмучваць. *Ні нада падму́чывыць, тута і так му́ту хвыта́іць.* **Падмуціць** *зак.* Крыху ўзмуціць. *Ат учыра́шніга яшчэ ня ўсё асела, а яны ўлезлі з ныгамі, большы пудмуцілі, куды цяперя ета выда годна.*

**Падмыкываць, падмычываць** *незак.* Рабіць мычкі ў дадатак да зробленых. *Сяньня я ня буду падмы́кывыць, позна ўжо. Трошку пыліжа́ла, пірідыхну́ла, тады села мы́чык падмы́чывыць.* **Падмыкаць, падмычыць** *зак.* Зрабіць мычкі ў дадатак да зробленых. *Нада, знаць, трошку падмы́кыць, етыя ужо дыпрідáюцца. Падмы́ч-ка яшчэ трошку, каб хваціла на вечыр.*

**Падмятаннік** *м.* Падмятальшчык. *Нікуды́шный сь цябе пыдміта́ньнік, сьмяцьцё ку́чымі астаецца. Памянш.* **падмятаннічак.** *Ах ты, мой пыдміта́ньнічык, етый венік большы цябе.* **Падмятанніца** *ж. Ты дай етый пыдміта́ньніцы мятлу ў рукі ды ніхай мяцець як нада.*

**Падмятаць** *незак. перан.* З'ядаць усё падчыстую. *Яе дзеці ніпірябірлівыя, што ні зва́ріць, усё пыдміта́юць пыччысту́ю.* **Падмесць** *зак.* З'есці ўсё падчыстую. *Я ду-*

*мыла, тут яды нызáўтріга астáніцца, а яны пыдмялі за вечыр ду кусочыка.*

**Паднесца** *зак. перан.* Падысці, звярнуцца з прапановай нетактоўна, не ў час. *У мяне ў руках мяшочык і кашолка, а йна пыдніслáся: бяріця ў мяне яблыкі.*

**Падніззе** *н.* Ніжняя частка пабудовы. *У нас ішчэ паднізьзя ня дужа зышчычона, а аттуля крепка холыдым цягніць.*

**Падніманнік, падыманнік, паднімальшчык, падымальшчык** *м.* Той, хто падымае. *Зь Нісьцярёнка пыднімáньнік ніплахей: ён дзесіць хýнтыў ці пынясець. Якея мушчыны пыдымáньнікі, лён слаць і пыдымáць — бáбскыя работа. Утраіх бярýцца пыднімáльшчыкі, макýшку трошку шавелюць. Ны такую сьцяну крепкіх пыдымáльшчыкыў ні нада, етыя бірнушкі ны плячэ любэй пынясець.* **Падніманніца, падыманніца, паднімальшчыца, падымальшчыца** *ж. Кылі вам нада помышч, вот бягіць другая пыднімáньніца. Сяньня пыдымáньніцым дасца, пірікалеюць, дужа ёдкій веціp цягніць. За кучыю сідзяць пыднімáльшчыцы, аддыхáюць. Вот табе й пыдымáльшчыцы, каб ні пымыгла, і ні пыднялі б.*

**Паднукыванне** *н.* Падганянне, падахвочванне. *Гультаю ніякыя паднýкывыньня ні паможыць, кажныю мінуту ні ныпаднýкывыісься.*

**Паднукываць** *незак.* Падганяць, падахвочваць. *Ня дужа яны пытхвáтныя, усё ўремя нада паднýкывыць.* **Паднукнуць** *зак.* Падагнаць, падахвоціць. *Пыдыйшлі з грыблямі мушчыны, паднýкнулі: дывайця, дывайця і разым дыгряблі.*

**Паднуцкыванне** *н.* Падбухторванне. *Як жа ён ныдаеў з яго паднýцкывыньнім, так і цыляіць, каб каго-небудзь ну другога нупусьціць.*

**Паднуцкываць** *незак.* Падбухторваць. *Дужа ты любіш паднýцкывыць, кылі зьвядзеш хахлы — ета табе як маслым пу душэ.* **Паднуцкнуць** *зак.* Падбухторыць. *Ён такей, што нарошня паднýцкніць, каб сьміяцца посьлі.*

**Паднявесніца** *ж.* Шаферка, дружка. *Харошыю свадзьбу адгулялі, я пыднявесьніцыю была. Зы пыднявесьніцу бяруць луччыю падругу.*

**Падоба** *ж.* Падабенства. *Німа ў іх ніякія падобы, ростым толька адзінáкывыя.*

**Падпавеціна** *ж. зніж.* Павець. *Худзь ба пасьпець*

*якую-небудзь пытпавеціну пріпяць ґ зіме, каб хуць зьверьху ня сыпыла на етый хлам.*

**Падпавецце** *н.* Прастора пад павеццю. *Пытпавецьця загрўжына ўсім усякім, чаго тама толька німа. Памянш.* **падпавецціка.** *Нада паччысьціць пытпавецьціка, саломы якей вазок склаўся б.*

**Падпаўзанне** *н.* Рух паўзком. *Глянь-ка ты ны яго путпуўзáньня, ета ж ён гулубцá хочыць злавіць.*

**Падпахываць** *незак.* Пачынаць непрыемна пахнуць. *Вокыркі нілізя́ аткла́дывыць, січас нада саліць, ато пыліжаць дзень і станyць пытпа́хывыць.*

**Падпашша** *н.* Месца пад пахай, тое, што пад пахай. *Ходзіць і пытпа́шша пырва́ныя, як яму толька ня стыдна людзей.*

**Падплятанне** *н.* Заплятанне нізу ў лапцях. *Ні хачу я такога пытплітáньня, ныкывірзáў як зря і гатова, абувáй.*

**Падпорак** *м.*, **падпорына** *ж.* Падпорка. *Шўла пыдгніло, нада патпорык пыстáвіць, ато сьценка можыць вы́вірнуцца. Патпоріну усігда ставюць дубовыю ці сасновыю смольныю. Памянш.* **падпорачак, падпорынка.** *Тут ба й нада нібальшэй патпорычык, дык німа пуд рукамі нічога. У лес паедзіш, дык вы́сікі нескылька патпоріныk.*

**Падправа** *ж.* Заправа для стравы. *Пытпра́ву я табе прігатовіла, ны сталe стаіць, увальлеш у гаршчонычык і прістáвіш ґ жару.*

**Падпраганнік** *м.* Той, хто прыпрагае, займаецца прыпраганнем. *Ці знаіш ты, пытпрігáньнік, як зу дугу брацца і зь якога боку к каню пыдыйціць.* **Падпраганніца** *ж. Во табе ў помышч другая пытпрігáньніца, удзьвюх вы к абеду і спрáвіціся.*

**Падпратка** *ж.* Вопратка, якую апранаюць пад іншую. *А пытпря́тка ў цябе цёплыя, так можна хуць у якую дарогу ехыць. Памянш.* **падпратачка.** *Вазьмі с сабою пытпря́тычку якую-небудзь, пыхыладнеіць і падзьдзеніш.*

**Падпратываць, падпратывацца** *незак.* Апранаць пад верхнюю вопратку. *Як пыхыладнеіць, я ўсігда пытпря́тывыю во ету бізрукáвычку. А ты пытпря́тывыйся, ні так холыд будзіць прынімáць.* **Падпрануць, падпрануцца** *зак.* Апрануць пад верхнюю вопратку. *Каб пытпрянўў што-небудзь пад ніз, ні прыгыдáў ба. Пытпряніся, застыніш і зыкалеіш, тыкая хыладзіна, што ня вы́трывыць.*

**Падпранутый** *дзеепрым. Што там у цябе пытпрянута, ты пірядрыгніш увесь чысьцінька. Во кужушок пытпрянут і цяплей.*

**Падпуздрачыць** *зак. жарт.* Падбіць вельмі высока (пра мяч). *Во ўмеіць біць, як путпуздрячыць мячык, дык ён ляціць — чуць відзін.*

**Падпуззе** *н.* Падбрушша. *Нашу карову ты зразу пызнаіш, у яе патпузьзя белыя, адна тыкая ў тубуне. Памянш.* **падпуззіка.** *А ты прімець-ка вун таго пацьцёлычка, што патпузьзіка білуваціನькыя.*

**Падпузырываць** *незак. экспр.* Падбіваць вельмі высока (пра мяч). *Ох, як лоўка Іван путпузырівыў мячык!* **Падпузырыць** *зак.* Падбіць вельмі высока (пра мяч). *Цэлый дзень у мячыка гуляюць, ужо каторый як путпузыріць, мячык ляціць вісока-вісока, чуць зглядзіш.*

**Падпусканне** *н. перан.* 1. Падсочванне. *А пыдажджэць тваё путпусканьня, хадзі, вугол зарежым.* 2. Падгонка (звыч. бярвення). *Разьві ж ета путпусканьня, што ў дзірьку кулак лезіць, сякець — чырты саўсім ні глядзіць.*

**Падпусканнік** *м.* Той, хто падсочвае. *Толька пыгадзіць бярёзы ваш путпусканьнік, сам ба дзьве бярёзкі путпусьціў і хваціла б.* **Падпусканніца** *ж. Ты як мушчына путпусканьніца, дайжа чышчы дзірькі круціш.*

**Падпускаць** *незак.* 1. Падсочваць. *Мы будзім абізацільна путпускаць, зь бярёзывіка дужа смашный квас.* 2 *перан.* Узмацняцца (пра дождж). *Мы бягім сколька жысьці, а дождж усё большы путпускаіць.* 3 *перан.* Бегчы шпарчэй. *Глядзі-ка, як яны путпускаюць, паспробый дыгнаць.* **Падпусціць** *зак.* 1. Падсачыць. *Нада було б путпусьціць сколька бярёзык, ніхай ба кружка квасу была ў лета.* 2. Узмацніцца (пра дождж). *Дождж як путпусьціў, дык мы пряма ні знали, куды дзівацца.* 3. Пабегчы шпарчэй. *Як путпусьцілі пряма па ржышчу, як кытанулі, іх ба канём ні дыгнаў.* **Падпушчаный** *дзеепрым.* Падсочаны. *Дзерівым ніхырашо, што іх путпускаіш, патпушчыныя бярёзкі пряма хвырають.* **Падпусцёмшы** *дзеепрысл. Путпусьцёмшы нада глядзець і зьлівацъ воўрімя і каб хто ні пыбырачывыў.*

**Падпяваннік** *м.* Той, хто падпявае. *Во вам пытпіваньнікі у помышч, каб вісялей пелыся.* **Падпяванніца** *ж. Тыкая ўжо сь цябе пытпіваньніца, цягніш абы куды.*

**Падпяваць** *незак. перан.* Нагаворваць. *Ну людзей ты*

*любіш пытпіва́ць, а як пры сымаго праўду скызалі, дык стала нісма́шна.* **Падпець** *зак.* Нагаварыць. *Нарошня патпелі, каб яны пысваріліся. Што яму ні пытпяюць, усяму веріць, нейкій пряма як глума́к.* **Падпетый** *дзеепрым. Мы зразу пынялі, што патпета яму, і тут бісь Сірьгяёнка ні абыйшлося.*

**Падпякаць** *незак. перан.* 1. Даймаць. *Тут ужо доўг пытпіка́іць, рыспла́чывыцца нада.* 2. Рабіць вялікія непрыемнасці, выдаваць, прадаваць. *Як трасу́шчыя ўремя, дык находзюцца ідылы, што пытпіка́юць людзей.* **Падпеч** *зак.* 1. Даняць. *Яму пытпякло з естыю паездкыю большы некуды.* 2. Зрабіць вялікія непрыемнасці, выдаць, прадаць. *Так яны крепка пытпяклі Напрея зы нівошта, тэй у божжым сьвеці ніякія бульбы ня відзіў.*

**Падпяўняць** *незак.* Падгаворваць. *Яны ўзяліся яго нарошня пытпіўня́ць: ці паверіць ён, ці не.* **Падпяўняцца** *незак.* Пагаджацца. *Што ты будзіш пытпіўня́цца, яны нічога ні скажуць.* **Падпяўніць** *зак.* Падгаварыць. *Яго Трахім пытпяўніў, а ён ні тряпло, абы-чаго ні скажыць.* **Падпяўніцца** *зак.* Пагадзіцца. *Знаў, што паедзіць, што дайжа ня будзіць тут у скрысеньня, а пытпяўніўся, як яму толька ня стыдна.*

**Падрабацець** *зак. экспр.* 1. Пайсці няўклюдна, з гучным шорганнем. *Туды ўверьх па вуліцы пыдрыбацела некуды твыя Антаноўна.* 2. Паскакаць з дробным тупаннем, шорганнем. *Ну, пыдрыбацелі й хва́ціць, дайця другім места.*

**Падражняць, падражняцца** *незак.* Пацвельвацца. *Такей лазьбень, а дзіцёнка пыдрыжня́іць, канхветычку аддаць жалеіць. Пірістáнь пыдрыжня́цца, ніхай ні склі-міць. Ета ў іх дружба тыкая, што пыдрыжня́юцца адзін з другім.*

**Падраіваць** *незак.* Раіць (без падстаў або з несумленнымі намерамі). *Яны даўно пыдра́івыюць Вукулёнычку Хвеньку браць, — ніхай возьміць, пыра́дыіцца.* **Падраіць** *зак.* Параіць (без падстаў або з несумленнымі намерамі). *Зічыча́ні пыдра́ілі, а цяперя сьмяюцца: а нашто ў яго ў сымаго гылыва ны плічах.* **Падраеный** *дзеепрым. Па-мойму, було пыдра́іна, сам ба ён такога ні пріду́мыў.*

**Падрахцець** *зак.* Зрабіцца больш поўным, тлустым. *Лянь-ка ты, як пыдряхцела за етый год Кулініна дычка.*

*Чаго яны так пыдряхцелі?* **Падрахцелый** *дзеепрым. Ішоў тута іхный старэй, пыдряхцелый стаў.*

**Падрацца** *зак. перан.* Палезці ўверх. *Бярёза гла́дзінькыя-гладзінькыя, а ён пыдра́ўся як кошка ўверьх, думыла, абарьвецца і ка́хніцца.*

**Падруб, подруб** *м.* Вянок або некалькі вянкоў, дабаўленыя пад стары зруб. *Етый хаці ежылі даць крепкій падру́б, іна підзьдзісят гадоў практоіць. На подруб у яго лес ёсьць, можыць хырашо зьдзелыць.*

**Па-другасці** *прысл.* Другі раз. *Сьпірва́ яны ны пяцьсот ні сыглыша́ліся, а тады па-дру́гысьці зыхадзілі, відна, былі б сыгласны і пяцьсот зыплаціць.*

**Падрушна** *прысл.* Зручна. *Па-мойму, яму ня дужа падру́шна спра́шывыць пры Кымшачонка. Каб мне було так падру́шна, я б нікога ні прасіў, сеў ба і зьезьдзіў. Выш. ст.* **падрушней.** *Табе сымаму́ падру́шній схадзіць у Бірязуйкі. Спрасіў ба ты сам, табе падру́шній.*

**Падрушнасць** *ж.* Зручнасць. *Ікая тута падру́шнысьць, ні стаць, ні пывярну́цца, ні пыста́віць нійдзе нічога.*

**Падрыгаць** *зак. іран.* Пайсці з выкрунтасамі. *Пад ру́чку сашчэпюцца і падрыґылі ў горыд,— дужа імі там нужда́юцца.*

**Падрыгнуць** *зак.* Падрыжаць ад холаду. *Раз зыхацелі падры́гнуць, ніхай біга́ць голыя, ці я ўгыва́рівыць буду.*

**Падрыпкаць, падрыпкацца** *зак. іран.* Пайсці няўклюдна. *Падріпкыла сы сваім пузаном ці ні ў Пустынкі, усьлед за ім. Січас і кума падріпкыіцца, доўга іна тама сядзець ні станіць.*

**Падрэз** *м.* Напалову кастрыраваны самец (звыч. конь). *Ета ўжо даўно було, у Мікіты быў конь падрез.*

**Падсаблянне** *н.* Дапамога. *Якоя ні пыцсыбля́ньня, а дзьве гря́дычкі бульбы вы́брыла, усё меншы нада стыяць крю́кым.*

**Падсабляннік** *м.* Памочнік. *Во я табе яшчэ дваіх пыцсыбля́ньнікыў прівіла́, цяпер вы жыва спра́віціся. Памянш.* **падсабляннічак.** *У цябе пыдрыста́іць пыцсыбля́ньнічык, будзіць каму пыпа́сьвіць.* **Падсабляннiца** *ж. Тама пыцсыбля́ньніцы ёсьць і многа, ку́чыю яны скора пасеюць бульбу.*

**Падсаджываннік** *м.* Той, хто падсаджвае. *Пыглядзі, каб дзіцёнык умесьці с пыцса́джывыньнікым ні бря́знуў-*

*ся.* **Падсаджыванніца** *ж. Плыха́я сь цябе пыцса́джывыньніца, цябе саму́ю ішчэ дзіржаць нада.*

**Падсаджываць** *незак. перан.* Падводзіць, падсякаць (пра гора, няшчасце). *Мяне ўжо так біда пыцса́джывыла два разы, што я табе і скызаць ні магу як. Дзеці кылі ніўда́шныя, яны ўсігда пыцса́джыюць бацьку з маткыю.*

**Падсасоннік** *м.* Сасоннік. *У пыцсасоньнік каб зьбегыў, там ба мігым казелік ныпароў. Памянш.* **падсасоннічак.** *Нікрасівыя сысна, красівый пыцсасоньнічык, нікрасівыя сыма — красівый мой мілёнычык.*

**Падсатанянне** *н.* Падбухторванне. *Не, Кірей ніякыму пыцсытыня́ньню ні паверіць, у яго гылыва ны плічах ёсьць.*

**Падсатаняннік** *м.* Падбухторшчык. *Ён ізьвесный пыцсытыня́ньнік, яму каб толька хахольля людзя́м зьвізаць.* **Падсатанянніца** *ж. Ета пыцсытыня́ньніца у мяне скора так палу́чыць, што задзівіцца.*

**Падсатаняць** *незак.* Падбухторваць. *Етый нарошня пыцсытыня́іць, а тая тады ажно сыма сь сябе выходзіць, зра́ньня бягіць сваріцца.*

**Падсватывацца** *незак. перан.* Падлабуньвацца. *Ці ты ні пыніма́іш, чаго яны пыцсва́тывыюцца к Пырхвянёнку: хочуць, каб пыставіў буты́лычку.* **Падсватацца** *зак.* Падлабуніцца. *Ну й прайдошлівый чылавек, к каму хочыш пыцсва́тыіцца.*

**Падскараджываць** *незак.* Прыбаўляць пры баранаванні. *Ты січас паедзіш пыцскыра́джывыць, а трошку пыгыдзя́ мушчыны прідуць сеіць.* **Падскарадзіць** *зак.* Прыбавіць пры баранаванні. *Ат Лужы нада пыцскырадзіць пріссáныю зямлю туды, ўверьх, к узгорычку.* **Падскароджаный** *дзеепрым. Ны пыцскароджыным мякчэй, і ячмень узыйшоў як чачотка.*

**Падскробак** *м. перан. іран.* Апошняе дзіця ў сям'і. *Ніхай-ка твой пацскрёбык трошку ўніміцца дзяцей зыбіджаць. Памянш.* **падскробашак, падскробачак.** *Ух, твой пацскрёбушык дужа прыспалітый, усюдых лезіць, куды яму дайжа саўсім ні нада. Ну й удаўся пацскрёбычык, нійдзе места яму ні находзіцца.*

**Падскрысеніваць** *незак. жарт.* Прыбіраць па-святочнаму. *Ну ўсё ж пыцскрысенівыіць сваю куклу, думыіць, Мікіпырёнычку пынырáвіцца.* **Падскрысенівацца** *незак.* Прыбірацца па-святочнаму. *Як ста́нуць пыцскрысені-*

*выцца, ім пуўдня нада.* **Падскрысеніць** *зак.* Прыбраць па-святочнаму. *Нешта ж ніва́жна матка цябе пыцскрысеніла.* **Падскрысеніцца** *зак.* Прыбрацца па-святочнаму. *Як пыцскрысеніцца, дык ён тады нічога хлопіц.* **Падскрысенены** *дзеепрым. Во табе, і свыцьця́ сяньня ходзіць пыцскрысеніныя, верна воўк у лесі здохніць, ёй жа усё ўремя ні буваіць.*

**Падскрэсца** *зак. перан.* Абжыцца. *Зы пасьледнія ўремя яны крепка пыцскрябліся, хырашо зырыба́тыюць, многа чаго купілі.*

**Падсміханне** *н.* Падсмейванне. *А ты ны яго пыцьсьміха́ньня ні абрышча́й ніякыга уніма́нія, пыпыцьсьміха́іцца і пірістаніць.*

**Падсміхаць, падсміхываць** *незак.* Кпіць, высмейваць. *Дужа любіць пыцьсьміха́ць ка́жныга, гані, каб яго тута і пах ні пах. Пацьсьміхывыў, пакуля сымаму́ Ганна так укаціла, што ён ні знаў, як круціцца.* **Падсміхацца, падсміхывацца** *незак.* Падсмейвацца. *Што ты пыцьсьміха́ісься, ён праўду гаворіць, тута за дзела брацца нада. Прыкапёнык нічога ні гыварію, толька ўсё нешта пацьсміхывыўся.* **Падсміхнуць** *зак.* Пакпіць, высмеяць. *Лю́біць ніўзаметку пыцьсьміхну́ць, шпільку патпу́сьціць будзь здароў і ўродзі ён нічога.* **Падсміхнуцца** *зак.* Падсмяяцца. *Я зразу пыніла́, чаго ён пыцьсьміхну́ўся.*

**Падсоніца** *ж.* Сланечнік. *Сёліта харошыя пацсоніцы вы́рысьлі, кружэлкі бальшэя, па решыту, і семя дужа поўныя.*

**Падсонічына** *ж.* Адна расліна сланечніка. *На бульбі вырысла пацсонічына, неік семічка пупала туды, і вырысла.*

**Падстаўляцца** *незак. іран.* Высоўвацца наперад. *Ох, якей ён ахотнік усюдых пыцстыўля́цца, усігда вы́лізіць, айдзе нада, айдзе й ні нада.* **Падставіцца** *зак.* Высунуцца наперад. *А чаго ты пыцста́віўся, што табе там нада було?*

**Падстрапалянне** *н.* Падбухторванне. *А ты махні рукою на іх пыцстрыпыля́ньня, ніхай ізыкі пачэшуць, калі яны ім дужа сьвірьбя́ць.*

**Падстрапаляць, падстрапаліваць** *незак.* Падбухторваць. *Сваты́ яго ўсё ўремя пыцстрыпыля́юць, сам ба ён так ні кіпяці́ўся. Ці ты іх ні знаіш, — нарошня будуць пыцстрыпа́лівыць: грызіціся.* **Падстрапалёны** *дзеепрым.*

*Ну няўжэлі ты ні знаіш, чаго ён такей пріскачыў: пыцстрыпалён быў.*

**Падстрыганнік** *м.* Той, хто падстрыгае. *Сь цябе тожа такей самый пыцстрыга́ньнік, як с Колі, ці дзіржа́ў ты калі машынку ў руках.* **Падстрыганніца** *ж. Вот бярецца пыцстрыга́ньніца, січас вам усім крысату́ нывядзець.*

**Падстываць** *незак.* Крыху прастуджвацца. *А табе пыцстыва́ць саўсім нілізя́, ці даўно с успаленіім ліжаў і ўзноў зьляжыш.* **Падстыць** *зак.* Крыху прастудзіцца. *У лесі пацсты́ў, дык бухўкыіць як у бочку.* **Падстылый** *дзеепрым. Ты крепка пацсты́лый, ці німа дайжа цімпіратуры, гылыва, кажыцца, гыря́чыя.*

**Падсубочываць** *незак. жарт.* Прыбіраць па-святочнаму. *Што цябе пуцсубочывыць, цябе Танічка і так пызна́іць.* **Падсубочывацца** *незак.* Прыбірацца па-святочнаму. *Няўжэлі ты ня думыіш пуцсубочывыцца?* **Падсубоціць** *зак.* Прыбраць па-святочнаму. *Нешта ты брата ня хочыш пуцсубоціць, ён як бальшэй зьбіра́іцца ны вічарінку.* **Падсубоціцца** *зак.* Прыбрацца па-святочнаму. *Трошку і Грішычка пуцсубоціўся, відзіш, новыя рубашка, боты начы́шчыны.* **Падсубочаный** *дзеепрым. Некуды пыкацілі пуцсубочыныя пат Ходысы, ні знаю куды.*

**Падсукыванне** *н.* Падкасванне. *Аб'іжджа́іць тваё пацсу́кывыньня, ты крепка зыкладзі́ разы трі і будзіць дзіржацца.*

**Падсукываць** *незак.* Падкасваць. *Лі посыду усігда рука́вы нада пацсу́кывыць.* **Падсукывацца** *незак.* 1. Падкасвацца. *Нейкій рукаў, што ня хочыць пацсу́кывыцца.* 2 *перан.* Чапляцца. *Сьпірва пычалі́ пацсу́кывыцца, а тады аччапіліся.* **Падсукаць** *зак.* Падкасаць. *Пуцсука́й штаны, ато абрыся́нісься, у мокрых будзіш хадзіць.* **Падсукацца** *зак.* 1. Падкасацца. *У цябе вун адна кылышына́ пуцсука́лыся.* 2. Прычапіцца. *Былі крепка к Сямёну пуцсука́ліся, добря, што нашы мушчыны пыдыйшлі.* **Падсуканый** *дзеепрым. Іўля́іцца сюда як гірой: штаны навы́пуск ны сыпагі, кра́йкыю пытпіря́зын, рука́вы пуцсука́ны — любўйціся.*

**Падсытыкнуць** *зак.* Падбухторыць. *Па-мойму, ета Мітрыхванька яго пыцсытыкнўў нарошня, ён усё за лес ня можыць прасьціць.* **Падсытыкнутый** *дзеепрым. Як ляціць сюда з рызя́ўліным ротым — гатоў сварıцца, я ўжо віджу, што пыцсытыкну́тый бягіць, нехта пад'юдзіў.*

**Падсяваннік** *м.* Той, хто падсявае зерне. *Ты ж, пыць-*

*сіва́ньнік, хуць решыта ні рузлума́й.* **Падсяванніца** *ж. Пызапы́лівыліся пыцьсіва́ньніцы, пыра ўжо абедыць, ідзіця мыйціся.*

**Падтаптывацца** *незак. перан.* Слабець у працы, у клопатах. *Кылі чылавек пытта́птывыіцца, работнік зь яго плахей. Пятрок стаў пытта́птывыцца саўсім, ня тэй, што раншы быў.*

**Падтачывацца** *незак. перан.* Падлязаць. *Паць сена глубока пытта́чывыюцца і сьпяць, тама ім цёпла.* **Падтачыцца** *зак.* Падлезці. *Патточыцца ка мне збоку пыд адзіяла, сагреіцца і сьпіць.*

**Падтопа** *ж.* Распалка, трэскі для распальвання. *Ны паттопу хырашо лучыны ныськіпа́ць, іна за коміным пацсохніць і зразу рызга́ріiцца. Памянш.* **падтопка.** *Нада паттопкі хуць нямнога ныкалоць, бярёзывыя дровы суруваты, ня хочуць адны зыга́рівыцца.*

**Падтопіна** *ж.* Трэска для распальвання, распалка наогул. *Дыстань паттопіну ды пыдлажы, скарей рызгаріцца. Ікая паттопіна была, дык я ўжо ўсё пыдыбра́ла. Памянш.* **падтопінка.** *Атрежці-ка цільпушок сасновый ды пышчыпа́йця ну лучыну, ато ні паттопінкі ні аста́лыся, сырьё ні растопіш.*

**Падтрапываць** *незак. перан.* 1. Нагаворваць. *Яны пыттря́пывыюць, а ты ўсякый лухце веріш.* 2. Псаваць (пра здароўе). *Пыттря́пывыіш ты сілу з мыладых гадоў, а што к старысьці будзіць.* **Падтрапывацца** *незак.* Псавацць (здароўе). *Зы сваю жызьню чылавек пыттря́пывыіцца.* **Падтрапаць** *зак.* 1. Нагаварыць. *Ета ня тэй пыттріпаў, ны каго ты думыіш, тута біс твайго Сенічкі ні абыйшлося.* 2. Сапсаваць (пра здароўе). *Мой ужо саўсім здароўя пыттріпа́ў.* **Падтрапацца** *зак.* Сапсаваць (здароўе). *Што ж ты хочыш, чаму ні паттрепліцца зы такоя ўремя.* **Падтрапаный** *дзеепрым.* 1. Нагавораны. *Усё ета нарошня табе пыттріпа́на, а ты думыіш, што праўда.* 2. Сапсаваны (пра здароўе). *Кылі здароўя пыттріпа́на, работнік тады плахей.*

**Падтрахываць** *незак.* Падтрасаць. *Ты салому трошку пыттря́хывый ны грыбля́х, як згріба́іш, тады ў ёй зірнят ня будзіць астыва́цца.* **Падтрахывацца** *незак.* Падтрасацца. *Ня дужа ў цябе пыттря́хывыіцца, ты ладна тріхані.* **Падтрахнуць** *зак.* Падтрэсці. *Бяріся зы краі с тога боку, а я тут вазьму і пыттряхнём пасьцілку.* **Падтрахнуцца** *зак.* Падтрэсціся. *Ну стань ты, можа ў цябе*

*луччы пыттряхнецца.* **Падтрахнутый** *дзеепрым. Усё пыттряхнўтыя адгрібай ґ боку, пряма вун туды, к сьценкі.*

**Падтройчык** *м.* Металічны круг у возе ў перадку паміж падушкай і воссю.*Есьлі кываль спіцыяліст, ён, бувала, харошый паттройчык скуець.*

**Падтрухнуць** *зак.* Падтрэсці. *Нада було б путтрухнўць сянцо, яно б скарей пацсохла, можна б і скласьць сяньня.* **Падтрухнутый** *дзеепрым. Путтрухнўтыя ўсё скарей сохніць, яго луччы сонца прыймаіць.*

**Падудукаць, падудукацца** *зак.* Пагаварыць паціху. *Не, яны доўга ні стыялі, пра нешта пудудўкылі і рызыйшліся. Любюць пудудўкыцца, адна другой усе новысьці пірідадўць.*

**Падуздухвіна** *ж.* Сонечнае спляценне. *Ат пудуздўхвіны і ў бакі нейкыя боль ідзець, урімінáмі аж цярьпець нілізя.*

**Па-дуронаму** *прысл.* Неразумна, неразважліва. *Кылі пу-дурёныму дзелыць, дык луччы ні брацца. Вярзець ны чылавека пу-дурёныму. Рызварочына ўсё ны дваре пудурёныму, німа хызяіна пырядык навесьць.*

**Падуростак** *м.* Падлетак. *У Аńкі два ладныя пудуросткі, гадоў пітнаццыць і гадоў шыснаццыць, яны ёй хырашо пымыгáюць.*

**Падхадзяшча** *прысл.* Добра, прымальна. *Яму зы карову пытхыдзяшча дывалі, будзіць жалець, што ні аддаў, большы ён ня возьміць.*

**Падхватна** *прысл.* Паслухмяна, ахвотна. *А ты думыіш, Аксюцін сын пытхвáтна возьміцца? — ён увы ўсякім дзелі як ламень.*

**Падхватнасць** *ж.* Паслухмянасць, ахвота. *Табе б трошку мáміныя пытхвáтнысьці, і ты б тады нічога маліц быў.*

**Падхватывацца** *незак. перан.* Раптоўна падымацца, павышацца (пра цану). *Ны кароў цына як калі — калі нібыльшáя, а калі дужа пытхвáтывыіцца.* **Падхваціцца** *зак.* Раптоўна падняцца, павысіцца (пра цану). *Вясною цына ны пырысят крепка пытхвáціцца, іх рызьбірáюць гудувáць.*

**Падходліва, падходна** *прысл.* Абыходліва, умела. *Ён умеіць дужа патходліва кулу людзей: с адным закуріць, з другім пылылáкыіць, — і ў яго пулучаіцца. Ня ўмеіш ты патходна зь людзямі абрышчáцца, чуць што ні пы табе — гы-ы, гы-ы!*

**Падходлівасць, падходнасць** *ж.* Абыходлівасць, уменне. *Німа ў яго ніякія патходлівысьці, можна було пыгыварыць зь людзямі, яны б і піріпусьцілі вочырідзь, ато пріляцеў: ага, сяньня я пасу, а вы як хочыця. У яго ні разу ні було патходнысьці к людзям, як пыльным мяшком удáріный, і чаго ён такей зыдáўся на сьвеці.*

**Падходлівый** *прым.* Абыходліві, умелы. *Кыласкоў дужа патходлівый быў чылавек, ён с кажным пыталкýіць, пыгаворіць як нада.*

**Падхупліваццa** *незак.* Падхоплівацца. *Нечыга яму було патхýплівыцца, Мікіцёнык праўду скызаў.* **Падхупіцца** *зак.* Падхапіцца. *Мы й самі ні зразу сыбразілі, чаго ён етык патхýпіўся і пабег. Кыністрацёнык як патхýпіцца: а як так можна ні паслухыць, а чаго брігадзір ні на што ня хочыць глядзець?*

**Падцешываць** *незак. перан.* Падкормліваць. *Крепка мы ішчэ ні сталі карміць, так, пацьцешывыю трошку, адзьдзельна мішáю.* **Падцешыць** *зак.* Падкарміць. *На тоўстыя сала мы ні гадýім, трошку пацьцешым і б'ём.* **Падцешыцца** *зак.* Падкарміцца. *А скаромныя ўжо ідзець к канцу, во кыбанок пацьцешыцца трошку і заб'ём.* **Падцешаный** *дзеепрым. Ні прібідняйся, у цябе пырасёнык ладна пацьцешын.*

**Падцірашка** 1 *ж.* Анучка для выцірання, падцірання. *Пыцьцірáшка вун лі пяколка ляжыць, вазьмі ды пыдатрі разьлітыя. Што ты ўсьлед за імі ходзіш с пыцьцірáшкыю, як зы мáліцькімі?* 2 *м.* і *ж. перан. абраж.* Паслугач. *Стаў ты ў іх пасьледнію пыцьцірáшкыю.*

**Падцэліванне** *н. перан.* Працяглыя зборы. *Будзіш думыць, гыдáць, — а ты біс паццэлівыньня сыбярíся й едзь.*

**Падчаровак** *м.* Падчарэўе. *Дужа жырныга кыбына забілі, пыччарёвык тэй ны пяць пальцыў, а лі гылавы чэцьвірцю ні схваціць. Пыччарёўка пыджжáріць нядренна. Памянш.* **падчаровачак.** *У нас ішчэ трошку вядзецца пыччарёвычык.*

**Падшаваліванне, падшавеліванне** *н. перан.* Падганянне, паддаванне рухавасці. *Ты ладна сьцібані, ато с такім пычшывáлівыньнім і к цёмныму ні даедзіш, а тут горька нада бульбу атпыхáць. Якоя ні пычшавелівыньня, ну трошку ж бягіць.*

**Падшаваліваць, падшавеліваць** *незак.* 1. Падварушваць. *Сяньня ж траву ніхто ні пычшывáлівыў. Ці пыч-*

*шавелівый ты сяньня сена?* 2. Падганяць, паддаваць рухавасці. *Дужа медлінный работнік, усё яго нада пычшыва́лівыць. Пычшавелівый кыня, ато ён пляцецца ныга ціріз нагу.* **Падшаваліць, падшавяліць, падшавальнуць, падшавяльнуць** *зак.* 1. Падварушыць. *Схадзі-ка ты пычшывалі сена, яно к вечыру да́йдзіць. Калі пычшавеліш, скарей вы́сыхніць. Пагода дужа харошыя, нада пычшывальну́ць пакосы. Пычшывяльнеш, дык вы́сыхніць, а так сыроя будзіць ліжаць.* 2. Падагнаць, паддаць рухавасці. *Каб ні пычшываліў, яны б да вечыра у ку́сьцікых пралежылі. Самі яны ня дужа пытхва́тныя, нада пычшывяліць. Як ты етыга кыня пычшавеліш, ён чуць ча́пыіць. Цімох прішоў, троху іх пычшывальну́ў. Як ні пычшывяльнеш, самі ні пару́пюцца.* **Падшавальнутый, падшавяльнутый** *дзеепрым. Пычшывальну́тыя трыва сухенічкыя, а айдзе ня трогына, там зьнізу сыроя. Пычшывяльну́тыя сена можна гресьць.* **Падшавалёмшы, падшавялёмшы** *дзеепрысл. Вас ні пычшывалёмшы, толку ні дажджэсься. Пычшывялёмшы усё луччы сохніць, а так ляжы́ць зьнізу сыроя.*

**Падшапарнуць** *зак.* Таемна падказаць. *Хто б ета мог пычшыпарну́ць Аўдыкімёнку пры Вакуліных, ён усё чы́сцінька знаіць.* **Падшапарнутый** *дзеепрым. Раз пычшыпарну́та, ты ўжо нічым цяперя ні апрыўда́ісься.*

**Падшметанне** *н.* Ніжні слой смятаны. *Мае дзеці зы пачшметыньнім дужа гыня́юцца, як сыбяру́ верьх, так ім і ныліваю.*

**Падшныпарыць** *зак.* Пашукаць, паглядзець. *Любіць пачшны́пыріць усюдых, увы ўсякыю дзірьку гатоў улезьць.*

**Падшчогла, падшчоглавата** *прысл.* Падцягнута, сухарлява. *Яму ўжо гадоў пыря́дышна, а выгліда́іць пачшчоґла, як мылады́й. Ты саўсім пачшчоґлывыта глядзісься.*

**Падшчоглый** *прым.* Тонкі, сухарлявы. *Яны ўсе пачшчоґлыя, бацька ні разу тоўстый ня быў і сыны такея. Памянш.* **падшчогленькій.** *К Сямёнывый дачке бегыіць нейкій пачшчоґлінькій зь Віхрян.*

**Падшыванніk** *м.* Той, хто падшывае. *Сядзіць пычшыва́ньнік, кулупа́іцца ш шы́лым, можа трошку пачшы́іць.* **Падшыванніца** *ж. Ікая ні пычшыва́ньніца, а трошку падошву прікряпіла.*

**Падыйшоччы** *дзеепрысл.* Падышоўшы. *Іван пыдый-*

*шоччы тожа скызаў: нашто ты так дзелыіш. Ні с таго ні зь якыга нывалілыся пыдыйшоччы на етых хлопцыў.*

**Падыспаддзе, падысподдзе** *н.* Ніз. *Мост абізацільна пірісьцілáць нада, падыспыдзьдзя усё пыгніло, чуць ліпіць. Не, крепкыга ў пыдысподзьдзі нічога німа.*

**Пад'юджыванне** *н.* Падколванне. *Каб ты меншы ўсякыга пад'юджывыньня слухыў, іна б і жызьня луччы ішла.*

**Пад'юджываннік** *м.* Той, хто падколвае, падкусвае. *Ты мне Цімку ні хвалі, я яго чыйшчы цябе знаю: первый пад'юджывыньнік быў.* **Пад'юджываннiца** *ж. Тыкая самыя пад'юджывыньніца, як мама.*

**Пад'ядала** *м.* і *ж.,* **пад'яданнік** *м. перан.* Той, хто падкусвае. *Такей пыд'ідáла, ён ба ўсіх чыста на сьвеці пыпаеў. Кірілыва дычка ня меншыя пыд'ідáла. Чаго ты такей пыд'ідáньнік урадзіўся, табе пряма мýліць, калі каго ні паткýсіш.* **Пад'яданніца** *ж. Усе знаюць, ікая Мутруноўна пыд'ідáньніца.*

**Пад'яданне** *н. перан.* Падкусванне. *Як табе сымаму такоя пыд'ідáньня ні ныпастыліць?*

**Пад'язджала** *м.* і *ж.,* **пад'язджаннік** *м. перан.* Той, хто ўмее падысці, падлабуніцца. *А ня будзь такім пыд'іжджáлыю, аж глядзець праціўна, як ты ны задніх лáпкых ходзіш. Ікраз тыкая пыд'іжджáла, як цётка. Ой, быў пыд'іжджáньнік, ён, бувала, масьліным бліным к любому падлезіць.* **Пад'язджанніца** *ж. Тыкая пыд'іжджáньніца, ізыком лах, лах, лах, пряма сыма ні знаіць, як пыткаціцца.*

**Пад'язджанне** *н.* 1. Язда на падарожным транспарце. *Якоя там пыд'іжджáньня, іх саміх поўныя калёсы набýрхылыся.* 2 *перан.* Падлабуньванне. *Я нагледзілыся на іхныя пыд'іжджáньня, як яны к Хымчанку лісіцыю пыдлізáлі.*

**Пад'ялдыкыванне** *н.* Падкусванне, падкалупванне. *Я яго прыздрáўлю зы пыд'ялдыкывыньня, толька пупаду, нашто йта людзей звадзіць, ніпріятнысьці дзелыць.*

**Пад'ялдыкываць** *незак.* Падкусваць, падкалупваць. *Цябе нарошня пыд'ялдыкывыюць, каб ты зь людзямі апыстыляўся, разьві ты етыга ні пынімáіш.*

**Пад'яўляцца** *незак.* З'яўляцца нечакана. *Мы спаць ужо сыбраліся, а тут пыд'іўляіцца Кіреіў сын, ну, пысядзелі зь ім троху, пыгыманілі.* **Пад'явіцца** *зак.* З'явіцца

нечакана. *Ты знаіш, калі ён пыд'явіўся? — ужо другея пітухі прапелі.*

**Паеннік** *м.* Той, хто поіць, дае піць. *Як пашлі мае паеньнікі кароў паіць, дык во ішчэ німа, усё поюць.* **Паенніца** *ж.* *Цягні скарей, паеньніца, карова ажно сь сябе выходзіць піць.*

**Пажабіць** *зак.* Пагнуць, паперагнуць. *Ты мне усе лазіны пыжа́біш і ні аднаго абруча́ ні сагнеш, такей майсьцір.* **Пажабіцца** *зак.* Пагнуцца, паперагнуцца. *Пасьці ўся лыза пыжа́білыся, нада у луг схадзіць нарезыць.* **Пажабленый** *дзеепрым.* *Пыжа́бліныю лазу толька у хворыст пірісякеш.*

**Пажаднець** *зак.* Зрабіцца больш сквапным. *Аўдзяёнык пыжаднеў к старысьці, раншы ж ён турува́тый быў.*

**Пажаднічаць, пажадаваццa** *зак.* Праявіць сквапнасць. *Чаго ж ты ні даў Пітрачонку грошы? — пыжа́днічыў? Ёсьць у іх грошы, ета пыжа́дывыліся, усё дно як мы ні ддадзім.*

**Пажалабіць** *зак.* Пажалабаціць. *Неік пыжылабіла етыя досткі, што ні прідумыіш нічога вы́різыць.* **Пажалабіцца** *зак.* Пажалабаціцца. *Шалёўкі нымя́клі, стануць сохнуць і пыжылыбя́цца.*

**Пажалецца** *зак. гумар.* Паабдымацца, бурна выразіць пачуцці. *Я віджу, што ты дужа хочыш сь цёткыю пыжалецца.*

**Пажаніхацца** *зак.* Пазаляцацца, пасватацца. *Мутруноўнін сын пыжыніха́ўся,— пыд'явіўся, ужо ваду лі калодзіжа чарепыіць.*

**Пажарабцаваць, пажарабцавацца** *зак. асудж.* Пагультаяваць, параспуснічаць. *Ізьвесна, чаго яны сюда зьехыліся — пыжырібцува́ць. Такея ілбы сыбра́ліся, памошч маткі нічога ня хочуць, пыжырябцу́юцца і нызад паедуць.*

**Пажаўтавіцца, пажаўтлявіцца** *зак.* Пажаўцець, зрабіцца жаўтаватым. *Кылы пасьцілык на́вылычкі пыжыўта́віліся, краска, відна, някрепкыя. Лісьця ну гурках пыжыўтля́вілыся, нешта ім нідылiга́іць.*

**Пажвялець** *зак.* Пажвавець. *Ны траву цiляты як вы́йдуць, пыжвялеюць. Як мыладога зяця ўзіла, дык і пыжвялела.* **Пажвялелый** *дзеепрым.* *Я відзіў, што ён ужо бегыіць пыжвялелый.*

**Пажвянькаць** *зак.* Падакучаць, паназаляць размова-

мі. *Ужо хвáціць, пыжвя́нькыла за бульбу ладна. Іна ўсігда нáйдзіць пра што пыжвя́нькыць.*

Пажылле: **жылле-пажылле** *н.* Нутро. *Хвытáіць як ні ў сваё, а тады: ой, жы́льля-пáжыльля баліць. Такей нісызнáцільный жы́льля-пáжыльля пывыця́гывыіць.*

**Пазабабухаць** *зак. перан.* Глыбока закапаць, забіць. *Шульля тоўстыя, пызыбабу́хылі дужа глубока, етым сьценым веку ня будзіць. Тама сваі пызыбабу́хылі, верна, метры пы два, мост крепка будзіць стыяць.* **Пазабабуханый** *дзеепрым. Дужа глубока пызыбабу́хыны штындáры, так ні нада було зыкáпывыць. Кольля пызыбабу́хына у жэрдзь тыўшчыною.*

**Пазабарсываць, пазабарсаць** *зак.* Паўцягваць аборы ў лапці. *Як мы зімою хадзілі? — атопкі якея пызыбáрсывыіш і ходзіш, во як нам пріхадзілыся. Пызыбырсáць лапці тожа нада було ўмець.* **Пазабарсывацца, пазабарсацца** *зак.* Паўцягвацца ў лапці (пра аборы). *Як пызыбáрсывыюцца, так і ладна, абу́іш. Нешта ў цябе ні так, як нада, пызыбырсáлыся.* **Пазабарсываный, пазабарсаный** *дзеепрым. Укінуў у печ разым, і пызыбáрсывыныя, і біз абор. Пызыбырсáныя лапці я на сенцы ўськінула.*

**Пазабрытываць, пазабрытаць** *зак.* 1. Панадзяваць аброці (на коней). *Яны ўжо і коні пызабры́тывылі, гатовы ехыць. Толька скажы, коні яны мігым пызыбрытáюць.* 2 *перан. іран.* Узяць пад сваю ўладу, аказаць уплыў. *Вас лідагоськія дзеўкі пызабры́тывылі саўсім. Доўга вас пызыбрытáць, кылі вы самі ў рукі ідзіцё.* **Пазабрытываный, пазабрытаный** *дзеепрым. Коні пызабры́тывыны, толька ехыць некыму. У іх пызыбрытáныя коні ўцяклі.*

**Пазабузаніваць, пазабузаніць** *зак.* 1. Занасіць, забрудзіць. *Пузубузáнівылі адзёжу, што ні прідýмыіш, зь якога боку прістуліцца чысьціць яе. Пузубузáніць яны ўмеюць што хочыш, дужа нікурáтныя мальцы.* 2 *перан.* Затузаць здзекамі і прыніжэннем чалавечай годнасці. *Ета плойма,— пузубузáнівыюць усіх, хто ім ні нырáвіцца. Не, Сямёнывых ні пузубузáнюць, тэя умеюць даць здачы.* **Пазабузаніввацца, пазабузаніцца** *зак.* Занасіцца, забрудзіцца. *Само ні пузубузáнівыіцца, калі бярежч троху будзіш. Усё ў цябе пузубузáнілыся, ня ўмеіш ты с адзёжыю апхадзіцца.* **Пазабузаненый** *дзеепрым. Такоя пузубузáніныя да толку ні дывядзеш, сам ніхай што хочыць, то й дзелыіць.*

**Пазабузовываць, пазабузаваць** *зак.* Занасіць, забру-

дзіць. *Ці відзіш, як ён усю адзежу пузубузовывыў? Як пузубузўюць адзёжу, яе і ні аччысьціш і ні ататреш.* **Пазабузаваный, пазабузованый** *дзеепрым. Чаго ў вас такія пузубузуваныя пінжакі? Баціккі етыя большы некуды як пузубузовыны, грязь пряма кымкамі выпрісыхала.*

**Пазабухываць, пазабухаць** *зак.* 1. Закапаць вельмі глыбока, убіць вельмі моцна. *Пызабухывылі шульля, верна метра пу пуўтыра, так глубока і ні нада б було. Многа туды кольля пызабухыў і дужа глубока, будзіць прясла дзіржацца.* 2 *перан.* Моцна стаміць. *Пызабухывылі яны коні, чуць прічапылі. Пызабухыюць коні ў лесі, дарога дужа цяжолыя.* **Пазабухывацца, пазабухацца** *зак.* Моцна стаміцца. *Пызабухывыліся мы над етымі штындарымі. Пызабухыліся кыла шульля, дужа цяжолыя работа, а памошнікі нашы ніважныя.* **Пазабуханый** *дзеепрым. Кольля пызабухына, што яго ніякыю сілыю ня вырьвіш.*

**Пазаважджываць, пазаважджаць** *зак.* Папрывязваць лейцы да аброцей запрэжаных коней. *Хлопцы ўжо і коні пызываджджывылі, а вы ўсё тута вазґоліціся ш чыріпкамі. Што вы, пызывыжджалі ўжо сваіх рісакоў?* **Пазаважджываный, пазаважджаный** *дзеепрым. Коні стыялі пызываджджывыныя, і самі яны збоку стыялі, курілі. Коні пызывыжджаны, а іздакі толька зьбіраюцца, Пятрок, знаць, ішчэ заўтрікыіць.*

**Пазавазголіваць, пазавазголіць** *зак.* Замазаць, вымазаць (пра значную меру, колькасць). *Так пызывазґолівыў рубашычкі, што да іх ні дуступіцца мыць. Каб я ні зыбрала латычку, ён ба ішчэ ні так усё пызывазґоліў.* **Пазавазголівацца, пазавазголіцца** *зак.* Замазацца, вымазацца (пра значную меру, колькасць). *Айдзе ты етык пызывазґолівыўся, хто цябе атмуваць будзіць? Доўга малым пызывазґоліцца? — яны ўсігда найдуць у што.* **Пазавазголіваный, пазавазголеный** *дзеепрым. Нейкыя тряп'ё пызывазґолівыныя ляжыць кучыю. Ты глянь-ка, як тубуретычкі пызывазґоліны!*

**Пазавазграўліваць, пазавазгравіць** *зак.* Запэцкаць, замазаць (пра значную меру, колькасць). *Нашто ты чыстыя ныдзяеш к рабоці, узноў хочыш пызывызґряўлівыць? Пызывызґрявіла абея кохты, як іх у рукі ўзяць.* **Пазавазграўлівацца, пазавазгравіцца** *зак.* Запэцкацца, замазацца (пра значную меру, колькасць). *Наверна лі*

*пацсошка у погрібі пызывызґряўлівылыся, пряма нейкыя грязь полысымі. Каб акуратнейшый быў, так ба ні пызывызґрявіўся.* **Пазавазграўліваный, пазаваграўленый** *дзеепрым. У нешта ж улез, рукáвы адззáду да плеч пызывызґряўлівыны. Усе твае лахмоткі пызывызґряўліныя у сенцых.*

**Пазавазграціць, пазавазгроціць** *зак.* Запэцкаць (пра значную меру, колькасць). *Ты дужа свае боты пызывызґряцiў, абмыць нада. Апшлажкі пызывазґрёціў, ды яшчэ сáлым, як іх цяперіцька атмы́іш.* **Пазавазграцiцца, пазавазгроцiцца** *зак.* Запэцкацца (пра значную меру, колькасць). *Як ты ня будзь акурáцін, а ш шáйкымі мост усігда пызывызґряцiцца. Ніхай зьядýць ды зразу місычку зыбярі, ато яны ўсе чы́сьцінька пызывазґрёцюцца.* **Пазавазграчаный, пазавазгрочаный** *дзеепрым. Гáнкі пызывызґрáчыны, што стаць нейдзі. Што пызывазґрёчыныя, кладзі сюда, я сяньня ацьцірáць буду.*

**Пазаварзёкываць, пазаварзёкаць** *зак.* Замазаць (пра значную меру, колькасць). *Пызыварзёкывыў посыд, што ні прідýмыіш, як мыць. Глядзі ж, глядзі, ні пызыварзёкый мне рукаўчыкі.* **Пазаварзёкывацца, пазаварзёкацца** *зак.* Замазацца (пра значную меру, колькасць). *Ня столька пад'елі, сколька пызыварзёкывыліся. Нада ж ім так пызыварзёкыцца!* **Пазаварзёканый** *дзеепрым. Пызыварзёкын мост цестым, хут ты яго стынавіся ды пыцскрібáй.*

**Пазаварзёпываць, пазаварзёпкываць, пазаварзёпаць, пазаварзёпкаць** *зак.* Замазаць, вымазаць (пра значную меру, колькасць). *Няўрёма што хочыш пызыварзёпывыіць. Так пызыварзёпкывыць нада ішчэ прідýмыць. Загнет увесь пызыварзёпыла ета тапленьніца, вы́трі бумагыю ды ў печ. Самі сябе пызыварзёпкылі, якей ішчэ толк зь іх, з мальгвы́.* **Пазаварзёпывацца, пазаварзёпкывацца, пазаварзёпацца, пазаварзёпкацца** *зак.* Замазацца, вымазацца (пра значную меру, колькасць). *Ні дагледзь аднае мінуты і січас пызыварзёпывыюцца. Гляджу, пасьпелі пызыварзёпкывыцца, а я ж ны адну мінутычку атвярнýлыся. Пызыварзёпыліся, чуць вочы відны, во наеліся дык наеліся! Ні прібяреш міскі, ён пызыварзёпкыіцца у мінуту.* **Пазаварзёпаный, пазаварзёпканый** *дзеепрым. Кýртычка пызыварзёпыныя, і ён ходзіць, ні на што ні глядзіць. Пызыварзёпкыныя стульчыкі стыяць пысярод хаты, худзь ба прібралі.*

**Пазагламаздаць** *зак.* Заплесці абы-як. *Троху пызыглымыздáў карзінкі, бульба будзіць высыпáцца. Нада пызыглымыздáць пляцень, каб хуць гусі ні лазілі.* **Пазагламаздацца** *зак.* Заплесціся абы-як. *Як пызыглымыздáіцца, так і ладна, скарей дзелый, выбіраць бульбу нада.* **Пазагламазданый** *дзеепрым. Відзіш, як пызыглымыздáна, ясныя дзела — няўрёміна работа.*

**Пазагламаздзіць** *зак.* Загрувасціць усё навокал. *Пызыглымазьдзіў хворысьцім увесь двор.* **Пазагламаздзіцца** *зак.* Загрувасціцца (пра ўсё навокал). *Пызыглымазьдзіліся, што ні знаюць, калі яны там рызьбярўцца і пыпрібірáюцца.* **Пазагламазджоный** *дзеепрым. Каб што добрыя, ато ўсякім быpaxлом пызыгламожджыны пýні.*

**Пазагневаць, пазагнявіць** *зак. іран.* Разгнявіць, раззлаваць усіх, многіх. *Ці ня дзевірь вас пызагневыў, нейкій ён пашоў рыздысáдывыный. Ай-я-яй, як ты пызыгнявіў сваіх роднінькіх.* **Пазагневацца, пазагнявіцца** *зак.* Разгнявіцца, раззлавацца (пра ўсіх, многіх). *Сільчанкі ны цябе пызагневыліся, дыбра ты цяперіцька ня жджы. Во пызыгнявіліся, кызалі, Мутрунёнка у хату ні пусьцілі.* **Пазагневаный** *дзеепрым. Я знаю, чаго яны пызагневыныя.*

**Пазаграмазджываць, пазаграмаздзіць** *зак.* Вельмі загрувасціць. *Што ж ты ўсё пызыгрымáжджывыў, што к вароццым ні пуцступіцца. Пызыгрымазьдзіў праходы, хуць ціpязь верьх лазь.* **Пазаграмазджывацца, пазаграмаздзіцца** *зак.* Вельмі загрувасціцца. *Ай, як ты нікурáтна зьдзелыў, са ўсіх бакоў пызыгрымáжджывыўся. Скарей вы рызьбірáйціся, пызыгрымазьдзіліся паленьнім, ні пуцступіцца ні к чому.* **Пазаграмазджываный, пазаграмозджаный, пазаграмазджоный** *дзеепрым. Пытпаветка ўсім усякім пызыгрымáжджывына. Нічога ты ў праўлычык ні пыстáвіш, тама пызыграможджына ўсё. Чаго ж у цябе так пызыгрымажджона, можна ж прібраць, у дваре седзючы.*

**Пазадзелываць, пазадзелаць** *зак.* 1. Заштукаваць усё, усюды. *Нада крепка хрантоны пызадзелывыць, каб снегу ні нудувáла. Усе шчэлычкі пызадзелыў, пыбаткнýў крепка,— зімуй, баба, бяз горя.* 2. Вымазаць у гразь. *Пызадзелывыў і штаны, і рубашку, увесь нікчомный. Ня лезь, мы самі уськінім, толька рукі пызадзелыіш.* **Пазадзелывацца, пазадзелацца** *зак.* 1. Заштукавацца (пра ўсё, усюды). *У цябе ўсё пызадзелывыіцца само,*

*толька ты ня хочыш скызаць калі. Як пызадзелыіцца, дык ныдзяжней будзіць, сьнегу ні напрець.* 2. Вымазацца ў гразь. *У што ж вы так пызадзелывыліся? Доўга ма́лым пызадзелыцца? — грязь пупаду́ць — у грязь улезуць.* **Пазадзелываный, пазадзеланый** *дзеепрым.* 1. Заштукаваны. *Відзіш, якея ў яго красівыя, пызадзелывыныя хрантоны. Крепка пызадзелыны, пызышчышчоны сьцены, ніякій мароз ня пройміць.* 2. Вымазаны ў гразь. *Пызадзелывыныя прішлі, погріб пуўдня пупруўля́лі. Відна, пы грязі айдзе-то поўзылі: локці пызадзелыныя, калені пызадзелыныя — што зь іх тваріцца, зь естых дзяцей!*

**Пазадзервянець** *зак.* Задзеравянець, застыць (пра ўсё). *Ідзіця скарей есьць, бульба пызыдзірьвянела, а яны рузмундыкыюць. Ці яны там пызыдзірьвянелі, ці што, заву́, заву́ — сідзяць.*

**Пазадный** *прым.* Такі, які застаецца як адыходы пры малацьбе або веянні. *Пыза́дный ячмень сып адзьдзельна, пацсу́шыцца ды зьмеліцца пырасёнку.*

**Пазадрамаць** *зак.* Задрамаць (пра некалькіх асоб). *Сядзелі, сядзелі і пызыдріма́лі, а ў яе рукі шах і ў бакі ўніз, бабы ая-яй і за дзьвері куды каторыя,— во нупужа́ліся, дык нупужа́ліся, во вам і Кроціха, і памінкі!*

**Пазадрыпкывацца, пазадрыпкацца, пазадрыпывацца, пазадрыпацца** *зак. іран.* Абнасіцца з-за неахайнасці (пра некалькіх асоб). *Відна, такея хызя́йкі, як мама: пы аднаму дзіцёнку, а пызадріпкывыліся, як псярню дыгліда́юць. Ета січас яны хырашы́ і красівінькі, а як пызадріпкыюцца, тады на іх пыглядзіш. Штоб дзьвюм бабым у дваре пызадріпывыцца, аднаго дзіцёнка і самі сябе дагледзіць ня могуць. Вам стыдна етык пызадріпыцца.* **Пазадрыпканый, пазадрыпаный** *дзеепрым. Вот вашы пызадріпкыныя жыніхі іўля́юцца, бягіця сустрюкаць. Ходзюць пызадріпыныя, ні дагледзюць сябе як нада.*

**Пазадуваць, пазадуць** *зак.* 1. Замесці, занесці снегам. *Другей раз як пузудува́іць дарогі, дык ша́гу нікуды ня сту́піш. Хворыст мой пузудуло, нядзелю ні магу далезьць. Нядзелю дужа нясло і пёрла, так ужо дарогі пузудуло, што нікуды нільзя было прайціць.* 2. Патушыць. *Вы ж тут лампы ні забудзьця пузудува́ць, ато ноч будуць гарець. Мы пряма зь вечыра пызаду́лі лампы, рана ляглі.* **Пазадуваный, пазадутый** *дзеепрым. Ні знаю, ці пра-*

*едуць яны айдзе, усе дарогі пузудуваны. Дарогі пызадўтыя, чысьціць нада.*

**Пазаесць** *зак. перан.* Пазаядаць, замучыць папрокамі (усіх, многіх). *Во будзіць сьвякройка, пызаесьць нявестык. Як вас там, ішчэ ні пызаела Мутруноўна?*

**Пазажымаць, пазажмаць, пазажаць** *зак.* 1. Зацiснуць моцна. *Крепкімі былтáмі пызыжымáлі брўсься, ні паверніцца. Як ты пызажмеш, калі тута рукі ні прасўніш. А глядзі, яны крепка пызыжáлі, дайжа ні шаволіцца.* 2 *перан.* Прысвоіць, утаіць. *Ікая ў людзей совісьць, што чужэя грошы пызыжымáлі. Нільзя було падумыць, што Нісьціріняты пызажмўць чужоя. Етыя пызыжáць могуць, на іх совісьць ня дужа надзейся.* **Пазажымацца, пазажмацца, пазажацца** *зак.* Зацiснуцца моцна. *Ці крепка ж у цябе тут пызыжымáлыся? Ныўрáд, ці пызажмецца тут, яно ні прігнáна як нада. Усё пызыжáлыся, нічога ні дыстаецца.* **Пазажыманый, пазажманый, пазажматый, пазажатый** *дзеепрым. Ны скáбых усё пызыжымáна, ні вурухнецца. Пызыжмáныя крючкі сідзяць, як іх дыстáніш. Пызыжмáтыя кольля ні выцягывыіцца, нада бярьвеньня рыскáтывыць. Як я дыстáну, есьлі тута калодымі пызыжáта.*

**Пазазубліваць, пазазубіць** *зак.* Вельмі пашкодзіць лязо. *Усё дно як хто нарошня етый тапор пызазўблівыў. Пузузубілі стамесычкі, нада нáныва тачыць.* **Пазазублівацца, пазазубіцца** *зак.* Пашкодзіцца (пра лязо). *Пызазўблівыліся тыпарі, пакуля крышу рызьбірáлі, то там пы гвазду пупадзеш, то там. Пузузубіўся інструмент, нада тачыць, каб ны тачыла харошыя ціpнўў.* **Пазазублены** *дзеепрым. Мае рубáнкі калі-то былі войстрыя, а цяперя пызазўбліны.*

**Пазазываць, пазазваць** *зак.* Запрасіць урачыста. *Многа гасьцей пызызывáлі, быгатыя ксьціны спрáвілі. Сколька зналі радні, усіх пызызвáлі, гулялі троя сўдык.* **Пазазваный** *дзеепрым. Ну як жа яны ня пойдуць пызызвáныя.*

**Пазайстрываць, пазайстрыць** *зак.* Навастрыць (пра некалькі адзінак інструменту). *Хырашо пызáйстрівыў нажы, войстрінька режуць. Пызайстрі стамескі, яны скора нада будуць.* **Пазайстрывацца, пазайстрыцца** *зак.* Навастрыцца (пра некалькі адзінак інструменту). *Нічога пызáйстрівыліся ножычкі. Пызайстріліся ці не —*

*бярі, пыбягім.* **Пазайстраный** *дзеепрым. Я думыў, пызайстріныя ножычкі, а ты за іх і ні браўся.*

**Пазакармліваць, пазакормліваць, пазакарміць** *зак.* 1. Загадаваць, перакарміць. *Усігда пызыка́рмлівыіць сьвіньней пудоў ны пітнаццыць, сала чэцьвірцю ні схваціць. Як пызакормлівыіш курей, яны жырым зуплувўць і несца ня будуць. Ты сваіх мужукоў пызыкарміла, яны як сьлімяньнё.* 2. Дрэнным харчаваннем давесці да схуднення. *Етый хызяін пызыка́рмлівыў скот, што тольки ногі валочыць. Як жа ета так скот пызакормлівыць? Ці помніш, як тэя кунюхі пызыкармілі раз коні?* **Пазакормленый** *дзеепрым.* 1. Занадта сыты, тлусты. *Ідуць здыраву́шчыя хлопцы пызакормліныя.* 2. Схуднелы ад дрэннага харчавання. *Қыравёнкі тэя худзенічкія, пызакормліныя, усё дно як там хызяіна німа.*

**Пазакарэць, пазакарэцца** *зак.* Закарэць моцна. *Нябось ты, у харошыя хызяйкі нічога ні пызыкареіць. У цябе дайжа ны сталe ніізьвесна што пызыкарелыся.*

**Пазакваклівать, пазаквакліць** *зак.* Пазамазаць, пазапэцкаць. *Ня столька натоўк, сколька мост пызыква́клівыў бульбыю. Ну кітува́ць нада, тольки ты сьцёклы пызыква́кліш.* **Пазакваклівацца, пазаквакліцца** *зак.* Пазамазацца, пазапэцкацца. *Пыглядзі ты ны свае калені, чым ты пызыква́клівылыся етык? Як ста́ніць што лі посыду дзелыць, так і пызыква́кліцца.* **Пазакваклівaный, пазакваклeный** *дзеепрым. Ікая зь яе хызяйка, ці відзіш, як сьцены пызыква́клівыны, шпалеры пыбырва́ны. Печ нейкім цестым пызыква́кліна, пыпрікарела, і ні на што ні абрышча́іць уні́ма́нія.*

**Пазакічываць, пазакіціць, пазакітаваць** *зак.* Пазакітоўваць. *Ніяк ні сыбяру́ся вокны пызакі́чывыць. Қалі ж ты мне вокны пызакіціш, вот-вот хылады уда́рюць. Заўтря я падвойныя вокны абізацільна пызыкіту́ю.* **Пазакічываный, пазакічаный, пазакічоный, пазакітованый, пазакітаваный** *дзеепрым. У цябе ўжо, я віджу, і вокны пызакі́чывыны. Устыўляць нада пызакі́чыныя вокны, тады хужы будзіць вазіцца. І вокны пызыкічоны, і дзьвері абіты, усё упыря́ччына. Яны былі хырашо пызыкітовыны, а ўжо пасы́пыўся кіт. Вокны пызыкітува́ны, ды дужа нікура́тна, міста́мі неік налепліна кускамі.*

**Пазаклёвываць, пазакляваць** *зак. перан.* Затузаць. *Зь естымі лучча ні зьвязывыцца, яны вас пызаклёвывыюць. Пузуклюю́ць хрыбряцоў такіх, вы іх саўсім мала*

*знаіця.* **Пазакляваный** *дзеепрым. Нейкій від у іх ні такей, нейкія пузуклюва́ныя.*

**Пазакліновываць, пазаклініваць, пазаклініць, пазаклінаваць** *зак.* Заклінаваць (пра некалькі прадметаў). *Ты пызыкліновывыў ба чыря́ны, усе лупаткі шыта́юцца. Граблі нада акуратна пызаклі́нівыць. Сам узьлезь, ты лу́ччы пызыкліні́ш. Як ты пызыклін́уіш, кылі тута ні зь я́кыга боку ні пацсту́пісься.* **Пазакліновывацца, пазаклінівацца, пазаклініцца, пазаклінавацца** *зак.* Заклінавацца (пра некалькі прадметаў). *А ўзьбіва́й ужо, троху пызыкліновывыіцца і будзіць дзіржацца. Тута можна пріступіцца, хырашо пызаклі́нівыіцца. Як пызыклінілыся, так і ладна. Як яно ў цябе тут пызыклінува́лыся?* **Пазаклініваный, пазаклінены, пазаклінаваный, пазакліновaный** *дзеепрым. Троху пызаклі́нівына, можа дзень пыліпіць. Не, тут ні пышатнецца, крепка пызаклі́ніна. У мытавілі ўсе цапочкі пызыклінува́ны. Пызыкліновыныя козлы рышшыта́ліся, узноў нада дзелыць клінкі і зыбіва́ць.*

**Пазаклумліваць, пазаклуміць** *зак.* Затлуміць усіх. *Вас тута як пызаклу́млівыюць, вы будзіця сядзець як вырыня́ты. А пузуклумілі яны нас саўсім.* **Пазаклумлівацца, пазаклуміцца** *зак.* Затлуміцца (пра ўсіх). *Ат іхныя пустаты́ пызаклу́млівыліся, слухыўшы іх. Ці вы іщчэ ні пузуклуміліся тута?* **Пазаклумленый** *дзеепрым. Выйшлі аттуля пызаклу́мліныя, чуць пыачу́хывыліся.*

**Пазаклянаць, пазаклясць** *зак.* Праклясці (пра некалькіх асоб). *Іна пызыкліна́іць вас зы такея вы́дзілкі. Саўсім ні за што пызыкліла́ ма́льцыў, яны тама ні былі і тых яблык у вочы ня відзілі.* **Пазаклянатый** *дзеепрым. Пызыкліна́ты вы будзіця, яны вам дадуць места.*

**Пазакратываць, пазакратаць** *зак.* Закласці ўсё. *Што ж ты сухея дровы сырым хворыстым пызыкря́тывыў, як іх цяперіцька дыста́ніш. Айдзе толька была ікая дзірька, усюдых пызыкря́тыў сеным.* **Пазакратывацца, пазакратацца** *зак.* Закласціся, абкласціся (пра ўсё). *Ну ні самі етыя валінкі пызыкря́тывыліся, нехта ж варочыў усё ета шырабу́рья. Сёліта яны іщчэ большы пызыкря́тывыюцца кырма́мі. Сеным пызыкря́тыліся ладна, пыд вясну грібану́ць грошыкі.* **Пазакратываный, пазакратаный** *дзеепрым. Атава пызыкря́тывына саломыю, ні дыбяресься ніяк. Што там ужо ў яго пызыкря́тына, ні знаю.*

**Пазакухтываць, пазакухтаць** *зак.* Загарнуць, ахінуць

празмерна. *Пызакýхтывылі дзяцей, што ім дыхыць нечым. Як пызакýхтыюць мáлых, тэя пывярнýцца ня могуць.* **Пазакухтывацца, пазакухтацца** *зак.* Загарнуцца, ахінуцца празмерна. *Чаго вы пызакýхтывыліся, сяньня ж саўсім цёпла. А вы яшчэ большы пызакýхтыцца ні маглі?* **Пазакухтываный, пазакухтаный** *дзеепрым. Яны ўсігда ідуць на вуліцу пызакýхтывыныя, каб на іх ні дунýла ветрым. Калі дзеці ціряшчýр пызакýхтыныя, ім дайжа ніздарова.*

**Пазалашчаніваць, пазалашчаніць** *зак.* Зашмальцаваць (пра значную колькасць). *Яны пызылышчáнівылі і пінжакі, і штаны, ажно блішчáць. Чаго ж ты так абоя плáшчыкі пызылышчáніў?* **Пазалашчанівацца, пазалашчаніцца** *зак.* Зашмальцавацца (пра значную колькасць). *Лі машын уся адзежа пызылышчáнівыіцца. Пызылышчáніліся нашы хлопцы, ідуць як у кожынным.* **Пазалашчаненый** *дзеепрым. Ты ў пызылышчáніным гатоў і ны бызар пабежч.*

**Пазаледзянець** *зак. перан.* Заледзянець, змерзнуць (пра некалькіх асоб). *Ежылі ня хочыця ныпрятывыцца, вы пызылідзянеіця такім холыдым, хыладзіна — зуб на зуб ні пупыдáіць.* **Пазаледзянелый** *дзеепрым. Як прікоюцца пызылідзянелыя, тады нáўчуцца ныдзівáцца.*

**Пазаліваць, пазаліць** *зак. перан.* Пазатапляць. *Будуць дурáчыцца ў ряке і пызылівáюць адзін другога. Ці ты пызаліць іх хочыш?* **Пазалівацца, пазаліцца** *зак.* Пазатапляцца. *Пойдуць адны нісмышлёнушы, каб яны тама ні пызылівáліся. Дурáчыліся ў вадзе і чуць ні пызыліліся, большый Мікітыў сын выцягывыў.*

**Пазалубець, пазалубянець** *зак.* Злубянець, закарэць (пра значную колькасць). *Ны важ жа рубашкі пузулубелі, чаго вы бані ня топіця, ні пірідзіiцёся? Нада ж так пузулубянець етым шубёнкым, ну яны, праўда, і пыд дажджом ні раз былі.*

**Пазамазголіваць, пазамазголіць** *зак.* Замазаць, вымазаць (пра значную колькасць). *Пызымазґолівыў увесь перід у рубáшычкі, ат крупені ажно пацёкі. Пінжачкі ні бярёг, пызымазґоліў, дык цяперя табе узноў спруўляй?* **Пазамазголівацца, пазамазголіцца** *зак.* Замазацца, вымазацца (пра значную колькасць). *Пызымазґолівыліся па вýшы куляшом, пубмувáць нада. Доўга мáлым пызымазґоліцца, у што хочыш вымыжуцца.* **Пазамазголіваный, пазамазголеный** *дзеепрым. У што ж*

*вашы рубашычкі етык пызымазґолівыны? У лес можна і ў пызымазґоліных пінжыках зьезьдзіць.*

**Пазамазкатаць** *зак. перан.* Моцна збіць. *Ён ба вас пызымызкытаў, каб злавіў тута, ета ж нада лазіць, еткій сук атлумаць ат яблыны.*

**Пазамамыліцца** *зак.* Змоўкнуць, саромеючыся сказаць, выказацца (пра некалькіх асоб). *Барышні тваё нешта пызымамыліліся, відна, ты дренна зь імі апходзісься.* **Пазамамыленый** *дзеепрым. Сідзяць пызымамыліныя, дужа іх нехта угыварівыць станіць.*

**Пазамамырыцца** *зак.* Надзьмуцца з капрызным і неприступным выглядам (пра некалькіх асоб). *Ну што вы пызымамыріліся, хто вас чым пырызабіджывыў?* **Пазамамыраный** *дзеепрым. Ну ніхай пызымамыріныя пысідзяць, дужа яны некыму важны.*

**Пазамарываць, пазамарыць** *зак.* Стаміць (пра некалькіх асоб). *Такей касец усіх пызымарівыіць, яго хуць ні станоў первым. Ты так і коні пызаморіш, ніхай мінутку пыстыяць, аддыхнуць.* **Пазамарывацца, пазамарыцца** *зак.* Стаміцца (пра некалькіх асоб). *Так мы пызымарівыліся лі капцоў, чатырі капцы зубуртувалі. Вазьміця с сабою большы пірікусіць, у лесі нялёхка, пызаморіціся як чэрця.* **Пазамораный** *дзеепрым. Прідуць пызаморіныя, ты іх тута кармі, а я пыбягу карову цырканў.* **Пазамаромшы** *дзеепрысл. Яны пызымарёмшы будуць, работа цяжолыя. Пызымарёмшы коні выпріглі, селі аддыхнуць.*

**Пазаматываць, пазаматаць** *зак.* 1. Паабкручваць, пазахутваць. *Ты тута пызыматывыў, што канцоў ні найдзім. Пызымыталі, дзяцей як у марозы-пікуны, яны пыпарюцца.* 2 *перан.* Прысвоіць, утаіць. *Яны німала чужых грошы пызыматывылі. Етым нада дываць с агляд- кыю: пызымытаюць і будуць сьміяцца, што ты зь імі зьдзелыіш.* **Пазаматывацца, пазаматацца** *зак.* 1. Паабкручвацца, пазахутвацца. *Чаго вы етык пызыматывыліся, вы ж ні паверніціся. Пызымыталіся — ета ныпыказ сваё уборы выстывілі.* 2. Пралічыцца. *Пызыматывыюцца етыя гындляры, прідзіцца за іх рысплачывыцца. Сьпірва храбріліся: мол, мы, нам нічога ні страшна, а як пызымыталіся, павесілі голывы.*

**Пазамуздываць, пазамуздаць** *зак.* Зацугляць (пра некалькіх коней). *Пызамуздывыйця коні, так ня едзьця, яны вас пасьkідыюць зразу. Сам пузумуздай, тады ні-*

*хай едуць.* **Пазамуздывацца, пазамуздацца** *зак.* Зацугляцца (пра некалькіх коней). *Як яны ў вас пузумуздáліся, етыя коні ня дужа слýхыюць.* **Пазамуздываный, пазамузданый** *дзеепрым. Тама ў іх і коні такея, ну едуць — пызамýздывыны. Іх і пызамýздыных ня дужа ўдзержыш. Як коні пузумуздáны, тады ныдзяжней.*

**Пазамурзачываць, пазамурзаціць** *зак.* Пазамурзаць шмат. *Пузумурзáчывыіш ты толька дзяцей сваімі прісмáкымі. Пузумурзáціў посыд, дык цяперя мый сам як хочыш.* **Пазамурзачывацца, пазамурзаціцца** *зак.* Пазамурзацца. *Ета ж і прідýмыць ні кажный прідýмыіць етык пузумурзáчывыцца. Доўга ім умеючы пузумурзáціцца, толька атвярніся, яны ўжо гатовы, вы́мызыны.* **Пазамурзачаный** *дзеепрым. Сідзяць лі чугунка пузумурзáчыныя, а йна печ топіць, вучыцца хызяйнічыць.*

**Пазамякаць, пазамякнуць** *зак.* Намокнуць (пра некалькі прадметаў). *Каб мяшкі ні пызымікáлі ў пуні, крыша тама ня дужа надзёжныя, тады сушы́ся. Копы могуць пызымя́кнуць, іх ня дужа сьпецныя мысьцяры клалі.*

**Пазапанець** *зак. неадабр.* Запанець (пра некалькіх асоб). *Дужа вы пызыпанелі зы бацькыю ды зы маткыю, узяцца у вас ні за што ахоты німа.*

**Пазапетаваць, пазапетаць** *зак.* 1. З сілай убіць. *Ні далжны́ б пырысяты падры́цца, дужа глубока я кольля пызапетывыў. Во сюда нада кольля дубовыя пызапетыць у ряд, дык будзіць дзіржацца беріг.* 2 *перан.* Бязлітасна пабіць. *Пызапетывыць зы бáлыўства нада, ета ж прідýмылі такую дуратý тваріць! Ён вас пупадзець, дык пызапетыіць.* **Пазапетавацца, пазапетацца** *зак.* 1. З сілай убіцца. *Тута ўжо крепка пызапетывылыся, нічога ні абрýшыцца. Кылякі пызапетыліся ніізьвесна як глубока.* 2 *перан.* Моцна стаміцца. *Мы сяньня там пызапетывыліся, зь я́мымі — ета дужа цяжолыя работа. Яны пызапетыюцца кыла пнёў.* **Пазапетаваный, пазапетаный** *дзеепрым.* З сілай убіты. *Гвозьдзя па чэцьвірці пызапетывына, нікуды тут ні вурухнецца. Рагі ат вілык пызапетыны, во што ета.*

**Пазапірхываць, пазапірхнуць** *зак.* Засунуць шмат. *Што яны сюда пызапірьхывылі, ніяк ні магу праткнýць палкыю. Якоя-то тряп'ё пызыпірьхнýлі, і ніяк рады ні дам.* **Пазапірхывацца, пазапірхнуцца** *зак.* 1. Заткнуцца. *Тута многа дзірік було, цяперя неік пызапірьхывыліся.*

*Шчэліны хлоп'ім пызыпірьхнýцца і ладна будзіць.* 2 *перан. груб.* Падавіцца. *Бульбу хвытáюць, як ні пызапірьхывыюцца. Знаць, пызыпірьхнýцца нішчы́мніцыю, ці яны ня могуць крошку мяса купіць.* **Пазапірхываный, пазапірхнутый** *дзеепрым. У зáсікых усе дзірькі пызапірьхывыны, цяпер нада глінью зымáзыць. Пячуркі усім усякім пызы́пірьхнýты, пывыкідáй усё.*

**Пазаплутухаць** *зак.* Папераблытаць, зблытаць. *Пузуплутухáў вярёўку, што нійдзе ніякыга кынца ні нáйдзіць.* **Пазаплутухацца** *зак.* Заблытацца, зблытацца. *Ніткі пузуплутухáліся, іх ні рызьбяреш, атарьві ета плутухáньня і вы́кінь.* **Пазаплутуханый** *дзеепрым. Суваі то ёсьць, толька яны дужа пузуплутухáныя, ці вы́біріш якей кончык, ці не.*

**Пазапорчываць, пазапорціць** *зак.* Папсаваць (часткова). *Ні бірігіцёся, лёхкія пызапорчывыіця, тады будзіця мýчыцца. Самі пызапорцілі здаройя, цяпер хы́рліюць.* **Пазапорчывацца, пазапорціцца** *зак.* Папсавацца (часткова). *Пызапорчывыліся яблыкі, гнісьць пычáлі. Бýльбіна ад бульбіны пызапорцюцца і ўся пыгніець, нада пірібірáць зразу акурáтна.* **Пазапорчаный** *дзеепрым. Етый лес пызапорчыный, гнілінка ёсьць, я табе дужа ні саветыю браць такога.*

**Пазарашэчываць, пазарашэціць** *зак.* Папрыбіваць паплёт (пра некалькі аб'ектаў). *Мне цяпер астáлыся пýні пызырашэчывыць. Як хаты пызырашэцім, тады пысвыбаднеіць урем.* **Пазарашэчывацца, пазарашэціцца** *зак.* Папрыбівацца (пра паплёт). *Калі пызырашэчывыіцца, тады й ладна, усё дно крыць січас нечым. Троху-патроху пызырашэцюцца бакі і прікінуцца саломыю.* **Пазарашэчаный** *дзеепрым. Хаты ў іх стыяць пызырашэчыныя і салома ў кулях ляжы́ць.*

**Пазарудзець, пазарудзянець, пазарудзецца, пазарудзянецца** *зак.* Зрабіцца брудным, занасіцца. *У мыладзьбе як пузурудзеюць сарочкі, дык ні дамы́цца. Ні разу ні дупускáй, каб адзежа пузурудзянела, ікая ты хызяйка будзіш. Ні хыця́ пузурудзеіцца, кылі ні цьцірáць воўрімя. Нада ж так рубашкым пузурудзянецца!* **Пазарудзелый, пазарудзянелый** *дзеепрым. Як ета прідумыць дамы́цца такоя пузурудзелыя? Пузурудзянелых тряпык пыря́дышна, шчолык сяньня дзелыю.*

**Пазарудзяніць** *зак.* 1. Зрабіць брудным, занасіць (пра некалькі рэчаў). *Кыўнярі пузурудзя́нілі, ці яны*

*шыі ня мыюць, ці што.* 2. Зрабіцца брудным, занасіцца (пра некалькі рэчаў). *Ны табе ўсё пузурудзяніла, сходзі ў бані памыйся, раз чылавек завець.* **Пазарудзяніцца** *зак.* Зрабіцца брудным, занасіцца (пра некалькі рэчаў). *Дренна і мыць, калі пузурудзянілыся.* **Пазарудзянены** *дзеепрым. Тута хвытаіць і пузурудзяніныга, і ўсякыга.*

**Пазаскабліваць, пазаскабіць** *зак.* Загнаць шмат стрэмак. *Рукі пызыскáблівыіш, большы ты нічога ня зьдзелыіш. Пызыскáбіў пальцы, ды бальшэя скáбкі сідзяць.* **Пазаскаблівацца, пазаскабіцца** *зак.* Быць кругом у стрэмках. *Глядзі, пызыскáблівыюцца пальцы, тады будуць нырывáць. Ногі пызыскáбіліся, быляць, на левыю нуступіць ня можыць.*

**Пазаскакываць** *зак. перан.* Шмат падагаджаць. *Усім яны пызыскáкывылі німáла, ета, знаць, адзь дзядоў прівычка тыкая пышла у іх.*

**Пазаставаць, пазастаць** *зак. перан.* Адвярнуць, адагнаць (пра жывёлу ў час пасьбы). *Я пызыстывáў кароў і пыпрігыняў, а цяперя ты троху пыглядзі. Нада пызыстáць цілят, ато яны рысьцягнуліся пы ўсяму полю айдзе каторый.*

**Пазастраміць, пазастрамліваць** *зак.* Моцна насарамаціць (пра некалькіх асоб). *Я ж ба іх каб устреціла, пызыстраміла б, ні нясьлі б яны большы лухты ны Дзім'янёнка. Пызыстрáмлівыць мала такіх бясстыжых людзей, ета нада еткыя зругáцільства ат іх цярьпець і пірінасіць!*

**Пазасукываць, пазасукаць** *зак.* Пазакасваць. *Вы рукавы пызасукывыіця, возьміціся, толька дым пойдзіць. Пузусукáйця вышы штаны, так грязьзю аблепіця.* **Пазасукывацца, пазасукацца** *зак.* Пазакасвацца. *Канцы пызасукывыліся, мішаюць, пыпрáўлю січас. Рукавы неік самі пузусукáліся.* **Пазасукываный, пазасуканый** *дзеепрым. Стыдна йціць ны вічарінку с пызасукывынымі рукувáмі. Штаны вышы кален пызасукыны, ні намочуцца. Ух, якея хрыбряцы, рукавы пузусукáны, кыўнярі пырашшпіліны, толька глідзяць, куды ўцеч.*

**Пазасураць, пазасурываць, пазасурыць** *зак.* Запарушыць (пра некалькіх асоб). *Вочы пузусурялі, у мякіні кыпáўшыся. Будзіця так бáлывыцца, і вочы адзін другому пызасурівыіця. Тута нядоўга вочы пузусуріць.* **Пазасурацца, пазасурывацца, пазасурыцца** *зак.* Запару-

шыцца. *І ў вас, як у маліенькіх, вочы пузусуряліся. Будзіця етык пылым кідацца, вочкі пызасурівыюцца, тады ні пішчыця. Ны мыладзьбе пыльна, ураз вочы могуць пузусуріцца.* **Пазасураный** *дзеепрым. Пызасуріныя вочы церць ні нада. Пузусураныя вочы прамый чыстыю вадою.* **Пазасуромшы** *дзеепрысл. Пузусурёмшы вочы труць, а яны большы красьнеюць.*

**Пазатануць** *зак. перан.* Пазнікаць (пра некалькіх асоб). *Ці яны тама пызытанулі ў тых кустах, ехыць нада, уремя ня жджэць, а іх німа і німа.*

**Пазатвараць, пазатварыць** *зак.* Расчыніць у некалькіх пасудзінах (пра цеста). *Калі йшчэ тэя госьці будуць і ці будуць саўсім, а яны бліноў пызытвырялі, печ будуць. У трёх дзежкых пызытварілі хлеб, як к свадзьбі гатовіліся.*

**Пазатлумліваць, пазатлуміць** *зак.* Затлуміць усіх прысутных. *Яны пызатлумлівылі нас сваёю лухтою. Як возьмуцца рысказывыць, усіх пызатлумюць басьнімі.* **Пазатлумлівацца, пазатлуміцца** *зак.* Затлуміцца (пра ўсіх прысутных). *Мы ня меншы вас пызатлумлівыліся. Пакуля дайшлі да толку, дык пузутлуміліся.* **Пазатлумленый** *дзеепрым. Я ўжо віджу, што сідзяць пызатлумліныя, нічога ні сыбрыжаюць.* **Пазатлумёмшы** *дзеепрысл. Куды ён іх выпрывіў, пузутлумёмшы голывы?*

**Пазатравяніваць, пазатравяніваццa, пазатравяніць, пазатравяніцца** *зак.* Зарасці травой. *Як пызытрывяніваіць поля, тады дужа зь ім трудна. Ні палоўшы, усё пызытрывяніваіцца, а ў траве нічога росьць ня хочыць. Гряды пызытрывянілі, і зы палоньня брацца некылі. Пызытрывянілыся бульба, ні знаю, калі я што да толку дывяду.* **Пазатравяненый** *дзеепрым. Нашы кускі дужа пызытрывяніныя.*

**Пазатрапываць, пазатропываць, пазатрапаць** *зак.* Занасіць усё, пра што ідзе размова. *Якую адзежыну ні спраў, усё пызытрапывыюць за месіц. Чаго ж ты так сваe касьцюмы пызатрёпывыў? Ці даўно чыстыя былі пінжакі, ужо справіўся пызытріпаць.* **Пазатрапывацца, пазатропывацца, пазатрапацца** *зак.* 1. Занасіцца (пра ўсё адзенне). *Касьцюмчыкі старінькія, пызытрапывыліся, а гультуям жа заробіць ня дужа хочыцца, к рабоці ні прівучыны. Пызатрёпывылыся адзёжа, нада спруўляць новыю. У іх доўга чыстыя адзежа ні пабудзіць, скора пызатрепіцца.* 2. Абнасіцца (пра некалькіх асоб). *Неш-*

*та вы пызытря́пывыліся як ста́рцы, пірядзеньціся. Вам стыдна так пызатрёпывыцца, усяго маглі нуспруу́ля́ць. Ня будзіця стыря́цца, дык скора пызатрепіціся.* **Пазатропаный, пазатрапаный** *дзеепрым. Ішлі ў нейкіх пызатрёпыных пінжычка́х. Нейкій від у іх дужа пызытріпа́ный, у тваіх хва́ліных.*

**Пазатрасываць, пазатрасаць, пазатрэсць** *зак.* Злёгку засыпаць, прысыпаць, растрэсваючы (пра некалькі аб'ектаў). *Пызытря́сывылі сьляды, каб ня відна було. Троху зьверьху пызытріса́й, ніхто тут глядзець ня будзіць. Ён сваё бярьвеньня сакою пызатрёс.* **Пазатрасываный, пазатрасаный, пазатрэсеный** *дзеепрым. Мы ідзём і глядзі́м, што тут пызытря́сывына. Пызытріса́ныя снапкі ві́дны с-пыц саломы. Мя́льлім пызатресіна кыстра́ аты льна, сьпецна зьдзелына.*

**Пазатуркываць, пазатуркаць** *зак.* Затузаць, затукаць усіх, пра каго ідзе размова. *Пызату́ркывыла етых дзяу́чоных, яны яе як агня быяцца. Не, етых ні пызату́ркыюць, яны жыва дадуць атпор.* **Пазатурканый** *дзеепрым. Яно й па віду пызна́іш, што нейкія пызату́ркыныя.*

**Пазатурмачываць, пазатурмачыць** *зак.* Загаварыць, задурыць (пра некалькіх асоб). *Пашлі́, дык іх жа пузутурма́чывыюць атлёты тэя. Доу́га вас пузутурма́чыць, тут бальшога уменьня ні нада.* **Пазатурмачывацца, пазатурмачыцца** *зак.* Загаварыцца, задурыцца (пра некалькіх асоб). *Як пузутурма́чывыліся яны, дык нічога сыбразіць ня могуць. Ат аднаго вашыга тлу́му можна пузутурма́чыцца.* **Пазатурмачаный** *дзеепрым. Прішлі пузутурма́чыныя, стыяць як глумакі якея.*

**Пазатыкаць, пазаткнуць** *зак. перан.* Паставіць усюды знакі, якія забараняюць пасвіць жывёлу. *Сёліта лугі дужа рана пызытыка́лі, думыюць большы сена сыбраць. Усе аборычкі стыршына пызаткну́ў, будуць атаву гудуваць.* **Пазатыкацца, пазаткнуцца** *зак.* Паставіцца (пра знакі, якія забараняюць пасвіць жывёлу). *Во як усё кругом пызытыка́іцца, сы скатом будзіць дужа трудна. Лужкі нашы вот-вот пызаткну́цца.* **Пазатыканый, пазаткнутый** *дзеепрым. Мы ўжо відзілі, што ў вас лугі пызытыка́ны. Раз аборкі ні пызаткну́ты, то сы скатом ня горя.*

**Пазатыняць, пазатыніваць, пазатыніць** *зак.* Абставіць сценкі кругом плахамі (у пограбе, сажалцы). *Бувала, як пызытыня́іць дзед пыгрябы́, дык яны стыяць ніізьвес-*

*на сколька, а ў яго ўсігда два було. Сáжылкі мала і кыпаюць, а каб хто пызатынівыў, дык не. Ці ні зьбіраісься і ты пызытыніць етыя сьценкі?* **Пазатыняный, пазатынены** *дзеепрым. Пызытыняныя пыгрябы доўга стыялі. Мы калі-то рыскáпывылі пызатыніныя сажылкі, дык унізу плáхі дубовыя ішчэ крепкія былі.*

**Пазатырхацца, пазатырхнуцца** *зак. груб.* Падушыцца (дрэннай ежай), падавіцца (пра некалькіх асоб). *Глядзіця, пызытырхáіціся, так хвытаўшы, усё рыўна як вас хто гоніць у шыю. Пызытырхнуцца нішчымніцыю, а ня пойдуць куска мяса ня купюць.*

**Пазахакывацца, пазахакацца** *зак.* Задыхацца (пра некалькіх асоб). *Беглі дужа шыбка, пызыхáкывыліся. Чаго вы етык пызыхáкыліся, усё дно як зы вамі хто гнаўся цэлыю вярсту.*

**Пазахаладжываць, пазахалоджываць, пазахаладзіць** *зак.* Пазастуджваць, застудзіць. *Пызыхылáджывыіця вы сваe ногі, тады будзіця гурюваць. Яны з мыладосці пызыхалоджывылі сябе, а цяперя мучыюцца. Ногі як пызыхалодзіця, якея вы тады жыцілі, кылі разу ступіць ня зможыця.* **Пазахаладжывацца, пазахалоджывацца, пазахаладзіцца** *зак.* Пазастуджвацца, застудзіцца. *Глядзі, глядзі, каб мáлыя ні пызыхылáджывыліся. Січас ні глідзяць сябе, ні бірягуцца, пызыхалоджывыюцца, а тады мучыюцца. Пызыхыладзіцца нядоўга, а вылічыцца— скора ня вылічысься, а буваіць, і саўсім ня зьлечысься.* **Пазахаладжываный, пазахалоджываный, пазахалоджаный** *дзеепрым. Каторыя змáлку пызыхылáджывыны, тым к старысьці ўсё атрыгáіцца. Мы з мáлых гадоў пызыхалоджывыныя. У цябе ногі пызыхалоджыны, во чаго ўсё баліць.*

**Пазахлуджываць, пазахлудзіць** *зак.* Засмеціць, загрувасціць усё навокал. *Усім усякім пызахлўджывыў двор, ні прістуціцца ні к чому. Штоб етык клець пызахлўдзіць, чаго толька сюда ні ныцігáна!* **Пазахлуджывацца, пазахлудзіцца** *зак.* Засмеціцца, загрувасціцца (пра ўсё навокал). *Айт, яно само неік пызахлўджывылыся. Ніўзаметку пызахлўдзіцца, што зы нядзелю ні ўпыряччыш.* **Пазахлуджываный, пазахлуджаный** *дзеепрым. У рўпытныга хызяіна так пызахлўджывына ня будзіць. Пуні ў цябе пызахлўджыны абы-чым.*

**Пазахлынацца, пазахлынуцца** *зак. груб.* Захлынуцца (пра некалькіх асоб). *Пызыхлынáйціся вы сваім быгá-*

*ствым, мне ат вас нічога ны капейку ні нада. Пызыхлынўцца адж жаднысьці, аткуля ета цяперь такея людзі бяруцца.*

**Пазахлюпываць, пазахлюпаць** *зак.* Запырскаць, абпырскаць усё, з усіх бакоў. *Ды кален штаны пызахлю́пывылі, яны ж як ідўць, нісколька дарогі ні глідзяць. Штаны пызахлю́пыіш, ні пыткысáўшы, будзіш у гря́зных хадзіць.* **Пазахлюпывацца, пазахлюпацца** *зак.* Запырскацца, абпырскацца з усіх бакоў. *Айдзе ж було так пызахлю́пывыцца, дарога сухая, — праўду гаворюць, што чорт балота нáйдзіць. Пызахлю́пыліся па поіс, можна ж було акуратнінька прайціць.* **Пазахлюпываный, пазахлюпаный** *дзеепрым. Прішлі пыд раньня пызахлю́пывыныя кругом і палезьлі на сена. Плáшчыкі на іх пызахлю́пыныя, самі гря́зныя, кывалеры тэя.*

**Пазацюпываць, пазацюпаць** *зак.* 1. Захлюпаць з усіх бакоў. *Пызацю́пывыў штаны, хуць абатрі троху, яны пацсохлі. Як пойдзіць, усігда штаны пызацю́пыіць, не каб акуратней прайціць, прецца як зря.* 2 *перан.* Затузаць, затукаць (пра некалькіх асоб). *Пызацю́пывылі мульчугáныў, яны ў іх як пыпірáшкі якея. Думылі, што і етых пызацю́пыюць, ды атпор пулучылі.* **Пазацюпывацца, пазацюпацца** *зак.* Захлюпацца (пра некалькіх асоб). *Калі ня пойдуць, усігда пызацю́пывыюцца. Пызацю́пыліся па поіс, зь іх плувець ажно.* **Пазацюпаный** *дзеепрым.* 1. Захлюпаны. *Прішлі позна вечыра ўсе пызацю́пыныя, ну дарога тыкі грязныя.* 2. Затузаны, затуканы. *Дзеўкі там такея, пызацю́пыныя, на іх дайжа ні глядзіць ніхто.*

**Пазачумачываць, пазачумачыць** *зак.* Адурманіць, затлуміць (пра некалькіх асоб). *Схадзіця, паслу́хыйця, яны вас тама пузучумáчывыюць. А нягож ні пузучумáчылі, іх паслухыць ні абы-якоя цярьпеньня нада ймець.* **Пазачумачывацца, пазачумачыцца** *зак.* Адурманіцца, затлуміцца (пра некалькіх асоб). *Нешта вы саўсім пузучумáчывыліся. Там ні хыця́ пузучумáчыціся ат іхных трілю́д.* **Пазачумачаный** *дзеепрым. Сідзяць пузучумáчыныя, голывы зьвесіўшы.*

**Пазачумліваць, пазачуміць** *зак.* Затлуміць, зачмурыць (пра некалькіх асоб). *Яны усіх сваімі рызгаворымі пызачу́млівылі. Як зывялі, айдзе былі ды што відзілі, ды каго сустрюкáлі, дык ні піряслу́хыць, пряма пузучумілі.* **Пазачумлівацца** *зак.* Затлуміцца, зачмурыцца (пра

некалькіх асоб). *Ат іх трілюды пызачу́мліваіціся, толька паслухыйця.*

**Пазашмаровываць, пазашмараваць** *зак.* Зашмальцаваць моцна, з усіх бакоў. *Ты нейкім дзёхцім штаны пызышмаровывыў. Нікура́тный ты, ні глядзіш нічога, пузушмурува́ў ку́ртычку, на што йна цяперь пахожа.* **Пазашмаравацца** *зак.* Зашмальцавацца моцна, з усіх бакоў. *Тряп'ё тваё пузушмурува́лыся, выкінь ты яго.* **Пазашмараваный** *дзеепрым. Летыся пріïжджалі яны ны кані: ірьмячы́шкі пузушмурува́ныя, боты нейкія зь дзірькымі, праўда, бутылку прівазілі куплёныя.*

**Пазашчучываць, пазашчучыць** *зак.* Палавіць, застаць, заспець (пра некалькіх асоб). *Глядзіця, лісьнікі січас сярдзітыя, як пызашчу́чывыюць вас, ма́ла ня будзіць. Дык якея вас тама хлопцы пызашчу́чылі? — нешта вы ні хва́ліціся.*

**Пазашчычаць, пазашчышчаць, пазашчыціць** *зак.* 1. Заштукаваць усё. *Зату́лы крепінька пызышчыча́ў. Увосінь усё нада пызышчышча́ць, каб сьнегу ні нудува́ла. Пацстрешша пызышчыцілі і так усё абгледзілі, можна зімуваць.* 2. Абараніць усіх. *Нашы хлопцы іх пызышчыча́лі, ато б ім пупала ладна. Троху пызышчышча́ў, а тады гаворіць: «Сам вінуват і рызьбіра́йся». Вас пызышчыціць ёсьць каму.* **Пазашчычаный, пазашчычоный, пазашчышчоный** *дзеепрым. Пы-хызяйску зьдзелына, пыбаткну́та, пызашчы́чына. Ты пыглядзеў ба, як у Мыкара пызышчычона. Кылі пызышчышчона, сьнегу ні нынясець, а так адгріба́цца ні пасьпеіш.*

**Пазаядацца, пазаесца** *зак.* Паставіць сябе ў непрыязныя адносіны. *Такім ветрінным нядоўга пызыіда́цца, самі ня будуць знаць за што і будуць гры́зца. Яны даўно пызаеліся, ішчэ гадоў пяць таму нызад.*

**Пазблуджываць, пазблуджывацца, пазблудзіць, пазблудзіцца** *зак.* Заблудзіцца і не вярнуцца ў двор (пра шмат аб'ектаў). *Тады як хуваліся ў вайну, у некытырых скот пазблу́джывыў. Ціляты як пазблу́джывыліся, нійдзе іх і ні найшлі. Нада йціць шукаць, ці аўцам доўга пузблудзіць, ішчэ ваўкі нарвуцца айдзе-небудзь. Якея ж вы жонкі, што ў вас мужукі пузблудзіліся.*

**Пазбродываць** *зак. перан.* Павесці сябе распусна. *Такей прайдоха, умеіць пыткаціцца, пазбродывыў тута зь дзеўкымі гады два.*

**Пазбутураць, пазбутурыць** *зак.* Пазганяць. *Мы ўжо*

*як жырá, стыряімся пузбутуряць скот к вадзе ці саўсім у ваду, каровы тады улезуць і стыяць. Хырашо, што скот пузбутурілі ў кусты, ато б маглі па полю разьбежца.*

**Пазвадзіцца, пазвесца** *зак.* 1. Звесці ў адно месца. *Пызьвядўцца с каровымі, стыяць і рузмундыкыюць. Пызьвяліся тады сы скатом у яго пуні.* 2. Страціць добрую пароду жывёлы, птушак. *Неік у мяне пызвадзіліся хароўшыя пароды куры. Ну як жа так, каб с усяго пазьвесца, каб ні курёнка, ні пырасёнка ны дваре.*

**Пазволіваць** *незак.* Дазваляць. *Ні нада ім пазволівыць кажныю ноч бегыць ніізьвесна айдзе.*

**Пазвучаць, пазвучываць, пазвучыць** *зак.* Прывучыць патураючы. *Пузвучáлі цілят у клівярок бегыць, дык ні ўпасеш. Пазвýчывылі курей, то тоя кініш ісь сянец, то тоя, цяперя яны ні атходзюць ні ны шаг. Пузвучылі кароў ны пывыдкáх дзіржаць, дык ня дужа хочуць у тубуне скусьць.* **Пазвучацца, пазвучывацца, пазвучыцца** *зак.* Прывыкнуць. *Бірягі, каб сьвіньні ні пакўшылі бульбы, пузвучáюцца лазіць, тады ні атаб'есься. Пазвýчывыліся пы сыдах лазіць ды гароды выцірáць твае харошынькія. Так пузвучыліся бáлывыцца, што спасу німа.* **Пазвучаный, пазвучываный, пазвучоный** *дзеепрым. Канешня, яны ні сяньня пазвýчыны двору ўцікаць, знаюць, што ў дваре смáшныга дадýць. Каровы пазвýчывыны, што пірят полім кажный раз накормюць. Пузвучоны каровы ны вярёвычкых пы дарожкых ды пы кынáўкых.*

**Пазвыкаць, пазвыкнуць** *зак.* Прывыкнуць моцна (пра многіх). *Пызвыкáлі вы, мáльцы, дуратý сыпысáць, хто зы вас работыць станіць. Як пакýшыюць каровы клівяркý, як пазвыкнуць туды бегыць, дык ты палкыю ні атаб'есься адгыняць іх.*

**Пазгарнываць, пазгартываць, пазгарнуць** *зак.* Пазгортваць. *Нада ўсё пызгáрнывыць у адну кучу ды прікінуць саломыю. Пызгáртывыйці-ка вы ету аторьку бліжы к сьценкі, іна мішáць ня будзіць. Усё я ўместа пызгарнýў, некылі було адзьдзельна вазіцца.* **Пазгарнывацца, пазгартывацца, пазгарнуцца** *зак.* Пазгортвацца. *Пызгáрныіцца, дык тута места большы стáніць. Як ні пызгáртывылыся, абы ні раськідына кругом. Ніхай пыляжыць, пазьней пазгорніцца.* **Пазгарнываный, пазгартываный, пазгорнутый** *дзеепрым. Відзіш, як у яго акуратнінька пызгáрнывына, ні так, як у цябе роілым. Усё пызгáртывыныя нада хырашэнька накрыць, можыць*

*дождж пайціць. Як ні пазгорнута, дык хуць у адном месьці.*

**Пазгультаіцца, пазгультайнічацца** *зак.* Зрабіцца гультаём, лодарам (пра многіх). *Пузгультáіліся вы дужа, пра двор нічога ня думыіця. Ня тýкый, ні пріклыдáй к рабоці, дык пузгультáйнічыюцца, дроў дайжа ні нысякýць.*

**Паздзічэць** *зак. перан.* Адвыкнуць ад людзей (пра многіх). *Яны тáмыцька адны седзічы пызьдзічэюць, схадзі хуць глянь, як яны, што дзелыюць.*

**Паз'ёрзываць, паз'ёрзаць** *зак.* Пазбіваць ёрзаючы. *Я ні гляджý і ні гляджý, думыю, зыняліся, ніхай гуляюць, а яны адззáду усю крышу пазьёрзывылі. Стажкі пазьёрзыюць, дождж пойдзіць і пыпрымікáюць.* **Паз'ёрзаный** *дзеепрым. Крываці пазьёрзыныя, путулувáныя, ні знаю, што яны тута дзелылі цэлый дзень.*

**Пазжываць, пазжыць** *зак.* Пазбыць (усё або значную колькасць). *Мікілай пыжжывáў усё і паехыў к сыну ны Дынбас. Пажжыць нядоўга, нубувáць куды трудней.* **Пазжывацца, пазжыцца** *зак.* Пазбыцца (пра ўсё або значную колькасць). *Не, я так ні магу, каб с усяго пыжжывáцца. Ай, яно само неік пыжжылося, як пойдзіць на звод, тады ідзець і йдзець.*

**Паззубліваць, паззубіць** *зак.* Ззубіць, затупіць (пра некалькі прылад). *Па гвозьдзіх па нейкіх сек, паззýбліваў тапор саўсім. Такея войстрыя былі стамесычкі, дык пуззубілі.* **Паззубіцца** *зак.* Затупіцца (пра некалькі прылад). *Самі ж етыя скоблі ні паззýблівыліся, пыхадзілі ж кыла іх чые-то рукі. У кольлі тут дужа многа гвоздзя, акуратна сякіця, каб тыпары ні пуззубіліся.* **Паззубленый** *дзеепрым. Рубанкі настолька паззýбліны, што нада новыя жалы ны тачылі дзелыць.*

**Паззуваць, паззуць** *зак.* Паскідаць з ног. *Яны ў мяне прівýчыны, грязный вобуў усігда ў сенцых пуззувáюць. Паззýйця тут боты, дальшы грязі ні вылакіця.* **Паззувацца, паззуцца** *зак.* Разуцца. *Ніхай тама акуратнінька пуззувáюцца, ня лезуць сюда. Пыхадзіў у етых бацінкых, дык яны чуць паззýліся.* **Паззуваный, паззутый** *дзеепрым. Усе вашы пуззувáныя чобыты ны лáвычкі стыяць лі дзьвярей. Паззýтую вобуў у сенцых пыстаўця.*

**Паззываць** *зак.* Склікаць усіх, хто патрэбны. *Яны ня толька сваіх, а і суседзіў пыззывáлі, быгатыю вячэрю спрáвілі.*

**Паззызнуць** *зак.* Перамерзнуць (пра некалькіх асоб). *Астáньціся вы луччы ў дваре, дужа холыд бальшэй пычынаіцца, паззы́зьніця.* **Паззызлый** *дзеепрым. Увалíліся ў хату паззы́злыя, пірікалелі большы некуды.*

**Пазлíняць** *зак. перан. іран.* Пахудзець (пра некалькіх асоб). *Не, ні гывары́, пызьлíня́лі Мылашонкывы хлопцы, ці помніш, якімі яны залетыся пріїжджáлі.*

**Пазлубець, пазлубянець** *зак.* Злубянець (пра некалькі рэчаў). *Кідáіш ты етыя плáшчыкі як пупала, пузлубеюць яны і пулумáюцца. У харошыга чылавека вобуў так ні пузлубянеіць.* **Пазлубелый, пазлубеўшый, пазлубянеўшый** *дзеепрым. У пузлубелых у нейкіх шубёнкых явіліся — кывалеры! Што тут вы́біріш у етых пузлубеўшых чобытых. Выляюцца вун нейкія пузлубянеўшыя курткі.*

**Пазлысіць** *зак.* Крыху абчасаць. *Хырашо яны ні цісалі, пазлы́сілі, айдзе бугаркі былі, і кінулі.*

**Пазлятаць, пазляцець** *зак. перан. іран.* 1. Знікнуць, прапасці. *Пызьлітáў гоныр зы пасьледнія гады́, пыцішэлі, саўсім другімі сталі. І зыдывáньня пызьляцíць, і рызгывáрівыць нáўчуцца як другея, — етыя зыдáчы ні на ўсю жысьць.* 2. Страціць пасаду. *Ня думылі, што яны так скора пызьлітáюць. Пызьляцелі з нычальства, ніхай троху у рідавы́х паходзюць.*

**Пазмагарнічаць** *зак. гумар.* Крыху пазмагацца. *Ты крепка пызмагáрнічыла с Аўдзяёўныю, ды нешта ні пыбядзілі ні тая, ні другая.*

**Пазматычываць, пазматычыць** *зак.* Пассякаць матыкай шмат. *Ты ж, палоньніца, глядзі, хуць капусты умесьці с травою ні пызматы́чывый. Я траву троху пызматы́чыла, нада сыбраць ды вы́кінуць.* **Пазматычывацца, пазматычыцца** *зак.* Пассякацца матыкай. *Тут пызматы́чывыіцца і ладна будзіць. Містамі трыва пызматы́чылыся, скора іна ўзноў зугудзíць.* **Пазматычаный** *дзеепрым. Ды лібідá там пызматы́чына, толька ж яе ня дужа вы́відзіш.*

**Пазнатою** *прысл.* Познім часам. *Еткыю пызнатою я пыбыя́лыся б адна бежч. Куды вы такою пызнатою пойдзіця, начуйця тут.*

**Пазнібець** *зак.* Пахныкаць, паныць. *Троху пызьнíбела зьвечыра, тады заснула, відна ёй нешта нідылігáіць.*

**Пазняхацца** *зак. неадабр.* Знюхацца, пасябраваць.

*Сьпірва яны ні дружылі, а тады пызьняхыліся, зуступаюцца адзін зы днаго: ета первый хызяін.*

**Пазраджываць, пазрадзіць** *зак.* Падвесці ўсіх, многіх. *Яны Андреівых дужа пызраджывылі, тэя думылі, што абізацільна пад'едуць. Ні знаіш, ці прідзім, дык ні бішчай, ато людзей ныпрасна пызрадзіш.*

**Пазругывацца, пазругацца** *зак.* Наздзекавацца. *Нат кім толька ён ні пазругывыўся, — ныт кажным, калі толька сілу паймеіць. Ныд Мільлянком яму ні далі пузругацца, усе зуступіліся.*

**Пазрудзець, пазрудзянець** *зак.* Зрабіцца рудым ад гразі. *Пузрудзелі за етыю бульбыю, во толька кончым, станім прівадзіць сябе ў пырядак. Чаго ж ні пузрудзянеіць і адзёжа, усё ў пылі і ў пылі.* **Пазрудзянелый, пазрудзянеўшый** *дзеепрым. Худзь ба пузрудзянелыя як памыць, нада шчолык дзелыць. Пузрудзянеўшыга ні дамыісься, рукі пысьцірайш.*

**Пазрудзяніць** *зак.* 1. Зрабіць рудым ад гразі. *Пузрудзяніў бяльлё, ны нядзелю у шчолык нада класьць.* 2. Зрабіцца рудым ад гразі. *Ны вас усё пузрудзяніла, чаго вы ні пірядзеніціся як усе.*

**Пазубіць** *зак.* Затупіць (пра шмат прылад). *Провылку сек на войстрым тыпаре, пузубіў увесь чыста.* **Пазубіцца** *зак.* Затупіцца (пра шмат прылад). *Чаго ж у цябе ножычкі так пузубіліся?* **Пазубленый** *дзеепрым. Цісла дужа пазубліна, доўга будзіш тачыць.*

**Пазызнуць** *зак.* Памерзнуць, пакалець. *Ня хочыця ўзяць ныпрятык, дык пазызьніця, к вечыру холыд можыць пытхваціцца нівісь якей.*

**Пазюкаць** *зак.* Пазюзюкаць, пагаварыць (паціху, па сакрэту). *Кума с кумою усігда найдуць пра што пазюкыць, а тут жа, верна, дзьве нядзелі ня відзіліся.*

**Паіндычыцца** *зак. іран.* Пафанабэрыцца. *Яны ўсюдых пыіндычуцца, дужа любюць пыкызаць сябе, хуць, праўда, пыказывыць нечыга.*

**Паірдзець, паірдзіцца** *зак.* Моцна пазлавацца. *Зы калёсы пыірдзеў раньня: нашто ўзялі бяс спроса. Пряма ня можыць, каб ні пыірдзіцца, ён і зу лучынку знайдзіць прічынку.*

**Паірзаць** *зак.* Падурэць, пагойсаць, пасваволіць. *Твае тожа ня меншы любюць пыірзаць, рызбалывыліся пасьледнія ўремя.*

**Паістрыць, пайстрыць** *зак.* Павастрыць. *Што ты мне*

*сяньня пымінáіш, я ўчора увечырі пыістріў тыпары. Каб пайстріў, піла б луччы резыла, дык ты ня дужа хочыш зы яе браццa.* **Паістрыцца, пайстрыцца** *зак.* Павастрыцца. *Сам тапор ні паістріцца, прідзіцца табе ўзяцца. Нож калі й ні пайстріўся, біда нібыльшая, а рубанкі пайстрі.* **Паістраный, пайстроный** *дзеепрым. Ножні хыраша паістріны, стрыгі хочыш авец, хочыш быраной. Брытва пайстрёна як агонь.* **Паістромшы, пайстромшы** *дзеепрысл. Пыістрёмшы і етый ба нож троху резыў. Пайстрёмшы і аднарýчкыю атрежыш, січас іна дужа тýпа.*

**Пакабызіцца** *зак.* Пакапрызнічаць. *Ну й што толку, есьлі іна пыкыбызілыся, усё дно ж пы яе ня выйшла і выйціць ні магло.* **Пакабызёмшы** *дзеепрысл. Пыкыбызёмшы ты луччы ня зьдзелыіш, ідзі, куды пысылáюць.*

**Пакавэнчыцца** *зак.* Памучыцца ад болю. *Крепка аппёкся і здорыва пыкавэнчыўся, аппечыныя дужа балючыя і няскора зыжывáіць.*

**Пакавярзаць** *зак.* Няўмела сплесці, заплесці. *Во паплёў дык паплёў, ці ета пляценьня, абы-як пыкывірзáў і ўсё.* **Пакавярзацца** *зак. Зал.-бессуб'ект. ад* пакавярзаць. *Як яно ў цябе тут пыкывірзáлыся, ці бульба ні пывысыпáіцца?* **Пакавярзаный** *дзеепрым. Ну хуць ету пыкывірзáныю карзінку бярі, нада ж у што-небудзь пыдбірáць.*

**Пакаенчыцца** *зак.* Памучыцца, папакутаваць з енчаннем. *Я відзіла, сколька ён пыкаенчыўся з нагою, дужа глубока було пасечына, месіцы два нуступіць ня мог.*

**Пакажанець** *зак.* Закарэць ад бруду, ад дрэннага догляду. *Яны тама пыкыжанеюць, нада б схадзіць, прікызáць, каб баню прукурілі, памыліся. Пырысяты мáліенькія, біз мылыка пыкыжанелі.*

**Пакакарэчыць** *зак.* Пагнуць, пакруціць. *Ета ж так сьнегым пыкыкаречыла кусты, ён посьлі воцьціпілі асідáіць і лазу цягніць, крýціць.* **Пакакарэчыцца** *зак.* Пагнуцца, пакруціцца. *Мыладзенькія асінкі, буваіць, як пыкыкаречуцца, каленымі ўсякімі пулучáюцца.* **Пакакарэчаный** *дзеепрым. У лесі адна нібыльшáя мясьцінка ёсьць, бярёзкі стыяць пыкыкаречыныя, кругом роўныя, а етыя як хто нарошня гнуў усяк і ў рáзныя бакі.*

**Пакалантырыцца** *зак.* Памітусіцца, патаўчыся. *Троху пыкылантыріцца, а посьлі ўніміцца, угыждáць я яму ні зьбірáюся.*

**Пакалдыбаць** *зак.* 1. Пахадзіць кульгаючы. *Кылы ха-*

*ты пыкалдыбыю трошку, далёка іціць я ні магу.* 2. Пайсці кульгаючы. *Пыкалдыбыў ці ня ў горыд, як ён дыбярецца толька. Пыкылдыбалі туды ўверьх, ці ня к цёткі пашлі.*

**Пакаліць** *зак.* Папрабіраць, павыгаворваць. *Ніхай ба ты хуць нямножка іх пыкаліла, дужа ж яны, дужа рузмудрелі, ніякыга уталоньня ні знаюць.*

**Пакальжэць** *зак.* Перамерзнуць, перастыць. *Як пыкальжэіця, хрыбряцы такея, тады пызнаіця, ці праўду матка гыварїла, — мароз, усё бела, а яны ў пінжычках вупруўляюцца.* **Пакальжэлый** *дзеепрым. Прікоцюцца пыкальжэлыя, ты ім хуць капусты звары гырачыя сірбануць.*

**Пакаляднічаць** *зак.* Пакалядаваць. *Мы, бувала, як пыкылядьнічыім, дык і ну бутылычку нызьбіраім, і зукусіць усігда ёсьць чым.*

**Пакалянець** *зак.* 1. Зацвярдзець. *Боб здорыва пыкылянеў, чуць раскусіш.* 2 *перан.* Замерзнуць, перамерзнуць. *Пыкылянеіця біз ныпрятык, надзеньціся.*

**Паканархаць, паканырхаць** *зак.* Памучыцца. *Ні знаю, сколька ён пыкынархыіць, дужа-дужа слаб. Летыся ён доўга пыканырхыў, чуць выскрібся.*

**Паканіцеліць** *зак.* Памучыць у валакіце. *Яго пыкыніцелілі, ды мала, ён дужа рузмудрей зы пасьледнія ўремя.* **Паканіцеліцца** *зак.* Памучыцца ў валакіце. *Што, кылі яны пыкыніцелюцца, уремя пройдзіць, а выйгрыць нічога ня выйгрыюць.*

**Пакапашыцца** *зак.* Паварушыцца крыху. *Малыя троху пыкыпашыліся і заснулі, дайжа ні разу ні пранулі́ся за ноч.*

**Пакапцець, пакапціць** *зак. перан.* Пажыць (пра слабога здароўем). *Сколька ўжо ім прідзіцца пыкапцець, ніхай у сваіх вуглах сідзяць. Ну што ж, пыкапціць трошку, с такім здароўім многа ні ўжывеш.*

**Пакаравіць** *зак.* 1. Забрудзіць. *Ікая была адзежына, усю пыкырявіў, ні глядзіць, ні бірягець нічога.* 2 *перан.* Зняславіць. *Многа людзей пыкырявіла, ніхай іна сыма ета аццерьпіць.* **Пакаравіцца** *зак.* Забрудзіцца. *Кініш раз ні прібраўшы, кініш другей, і пыкырявіцца ўсё.* **Пакараўленый** *дзеепрым.* Забруджаны. *Ці ні тваe пріборы пыкыряўліныя выляюцца.*

**Пакарбаціцца** *зак.* Пакрывіцца, пакарабаціцца. *Крыша была ніважныя, столь зымякла і пыкырбаціліся.*

**Пакарбачаный** *дзеепрым. Нескылька пыкырбáчыных шалёвык выляіцца, можа як пріб'ецца каторыя.*

**Пакардыляць** *зак.* Пакідаць кардыль — палачку, якая пры кіданні ляціць уперад, становячыся канцамі на зямлю. *Нешта мáлым нійдзе сяньня ні гуляіцца, пыкырдылялі трошку і ў хату пабеглі.*

**Пакаржэць, пакаржанець** *зак.* Засохнуць як корж. *Як вы ні бірігіцё хлеба, нарежуць, кінуць, ён пыкаржэіць. Пыкыржанелі твае пріснакі, хуць у шайку укінь, пырасёнку рызьмякнуць.* **Пакаржэлый, пакаржанелый** *дзеепрым. Пыкаржэлыя кускі выляюцца усюдых. Тама адны пыкыржанелыя скарінкі, мачонкі толька зь іх мачыць.*

**Пакарстваваць** *зак.* Памучыцца вельмі моцна і працягла. *Міхеіў большый крепка пыкáрствывыў ж жалудкым, пакуля апірацыю зьдзелылі, апірацыя пымыгла.*

**Пакархаць** *зак.* 1. Моцна пакашляць. *Прустудзёмшы грудзі, ні хыця пыкáрхыіш.* 2 *перан.* Ледзь паліпець. *Жыціль зь яго плахей біз здароўя, трошку пыкáрхыіць, можа зь якей год прылініць.*

**Пакарцініцца** *зак. жарт.* Прыхарашыцца. *Нашы дзеўкі пыкарцініліся, сталі што куклы, хуць січас замуж.*

**Пакарчэць** *зак.* 1. Пакарчанець, перакалець, перастыць. *Зрáньня було цёпла, мы лёгінька надзеліся, а холыд як удáріў, мы пыкарчэлі там жывыя.* 2 *перан. груб.* Памерці. *Каб яны пыкарчэлі ўжо зь еткыю жáдысьцю!* **Пакарчэлый** *дзеепрым. Пріехылі пыкарчэлыя ў сваіх трáнтых. Калі-небудзь нáйдуць пыкарчэлых ны дарогі.*

**Пакарыцца** *зак.* Зняцца (пра кару дрэў). *Як пакорюцца пáлкі, яны скарей высыхнуць і кряпчэй будуць, а пыт карою преюць.*

**Пакарэбкацца** *зак.* 1. Палезці. *Чаго ён пыкарэбкыўся на ету сасну, што яму там нада, гнітанýцца зыхацеў?* 2 *перан.* Паспрабаваць змяніць становішча. *Лявон пыкарэбкыўся троху, толька яму трудна було посьлі такой бяды, паехыў ґ дачке.*

**Пакасавурыцца** *зак.* 1. Паглядзець скоса, пакасіцца. *Я цябе січас пыкысавýрюся, я цябе, кылі хвырасьціну ладныю вазьму.* 2 *перан.* Паглядзець пэўны час варожа, непрыязна. *Пыкысавýріўся ны цябе Андрей за копкі?*

**Пакасціць** *зак.* Моцна палаяць. *Антоніха іх крепка*

*пыкасьціла, ладныю праробку дыла, каб большы ні вытвырялі такога.*

**Пакатлець** *зак.* Памерзнуць. *Як пыкатлеіш, тады успомніш, што табе сістра кызала, і будзіш знаць, ці брацъ ныпрятку, ці ны пылаці закідывыць. Пыкатлелі, што ў іх зуб на зуб ні пупыдаў.* **Пакатлелый** *дзеепрым. Прівёз іх пыкатлелых ды на печ скарей: ніхай атыгрі-ваюцца.*

**Пакахікаць** *зак.* Пакашляць. *Рыспацелый вады халодныя хваціў, іна ажно са льдом была, дык пыкахікыў.*

**Пакаціць** *зак.* Прывесці ягнят (пра авечак). *У мяне сёліта пріплод малый: дзьвюх авец кінуў на зіму, пыкацілі пы быранчыку.* **Пакаціцца** *зак.* Прывесці ягнят (пра авечак), нарадзіцца (пра ягнят). *Войцы рана пыкаціліся, ігняты большэя, цэлый табун у аднаго. Етыя ігняты ішчэ ўвосінь пыкаціліся.*

**Пакачагарыць** *зак.* Пабыць у якасці качагара. *Я віджу, як ты пыкычыгаріш — напёр поўныю печку сухіх дроў, агонь шугаіць, баня можыць узяцца сьвечкыю.*

**Пакачарожыць** *зак.* Пагнуць, пакрывіць. *Сьнегым асінкі пыкычарёжыла: нываліць многа, а тады у воцьціпіль асідаіць і гнець куды каторыю.* **Пакачарожыцца** *зак.* Пакурчыцца ў пакутах. *Вы ж пыкычарёжыціся, так рана комін зычыняўшы, ніхай печ троху шчахніць.*

**Пакачаць** *зак. перан.* Пакалоць рагамі. *Як пыкычаіць бык, тады ты ня будзіш такім сьмелым, — ходзіць кылы яго с тростычкыю.*

**Пакашаліцца** *зак.* Збіцца, стоўпіцца. *Халодна дужа, войцы пыкышаліліся за кусьцікымі, ігняткі пысярёд, і скусьць ня хочуць.*

**Пакашываць** 1 *незак.* Скошваць. *Цяперя трыва ні астаецца, усе лугі пыкашывыюць. Яны здаровыя, за лета нівісь сколька пыкашывыюць.* 2 *зак.* Пакасіць пэўны час. *Пыкашывый-ка ты сяньня ды заўтря ды абеду, там нямножка астаніцца, старэй даб'ець.*

**Паквакліць** *зак.* Замазаць, запэцкаць. *Пад'есьць ты пад'ей і тубурецік ладна куляшом пыкваклій.* **Паквакліцца** *зак.* Замазацца, запэцкацца. *Ты зірні-ка ны сябе, як у дзёгыць айдзе-то пыкваклійся.* **Пакваклены** *дзеепрым. Пінжачок ладна пыкваклінын, толька на людзі і ныдзіваць.*

**Паквасіць** *зак. перан.* Пабіць, паразбіваць. *Палез*

*упацёмкых ла́нпу дыстыва́ць с палічкі, пыква́сіў посыд, сколька стыяла ны лаўкі, усё паськідывыў.*

**Паквэцацца** *зак.* Запэцкацца. *Я відзіла, што яны дзелылі: троху у гліні паквэцыліся, а тады ны гарод пабеглі. У што йта ты паквэцыўся, рукаў увесь чыста у нешта задзелын.*

**Пакірарэць** *зак.* Пакрыцца граззю, пакарэць. *Памыць нада ма́лых, ато яны пыкірарелі, хуць у атмочку пыкладзі іх.*

**Пакіўкаць** *зак. жарт.* 1. Пакурняўкаць. *Трошку ў пу́ні, я чуў, пакі́ўкыла твыя любіміца.* 2 *перан.* Пажыць. *Ні гаръ́ой, старэй, ты ішчэ троху пакі́ўкыіш, ішчэ здаро́ўя ёсьць.*

**Пакладаць** *незак. перан.* Таптаць, вытоптваць (пасевы). *Пыклыда́ють куры гарод, заперць нада, іна́чы нічога ня вы́рысьціць.* **Пакласць** *зак.* Патаптаць, вытаптаць (пасевы). *Ладный кусок пышаніцы с краю пыкла́лі куры, ныўряд, ці абойдзіцца ета.* **Пакладжаный** *дзеепрым. Ці відзіў ты, сколька бульбы пыкла́джына ац са́жылкі, верна, Пуўлюковы сьвіньні уваліліся.*

**Паклёваць** *зак. перан.* Пажыць (пра слабога здароўем). *Пыглідзіцё, доўга ён ні паклёвыіць, тута жыць саўсім нечым, толька чар тэй, што чылавек.*

**Паклуміць** *зак.* Патлуміць. *Пуклумі́лі яны мяне саўсім, цалю́хтынькій дзянёчык носюцца, прыгыюць, гылыгыля́ць, чаго толька зь іх ні тварі́цца.* **Паклуміцца** *зак.* Патлуміцца. *Я б нядзелю якую пуклумі́лыся, а тады б скызала: зыбіра́йця, вашы дзеці, вы і дурі́ціся.*

**Пакоськаць** *зак.* Паклікаць каня словамі «кось-кось». *Я і ў аборкых пакоськыў, і зу кустамі пыглядзеў — і німа, пакуля наду́мыўся к вы́ку схадзіць.*

**Пакрывяніць** *зак.* Акрывавіць. *Ні зусука́ўшы, рука́вы пыкрывя́ніш, зумува́ць нада будзіць.* **Пакрывяніцца** *зак.* Акрывавіцца. *І акуратна рызьбіраў кыбынка, і пыкрывя́ніўся, увесь подыл зыма́зыў.* **Пакрывянены** *дзеепрым. Твае пыкрывя́ніныя тря́пкі у сенцых пыкла́ла, можа памыю заўтря.*

**Пакрэмзаць** *зак.* Парэзаць абы-як. *Пакремзыў хлеб ня ськібкымі, а глуты́рімі, ажно ў рукі нілізя ўзяць.* **Пакрэмзаный** *дзеепрым. Во тут нейкія пакремзыныя кускі выляюцца, ці ні ма́лый пыртня́жнічыў.*

**Пакукобіцца** *зак.* Паваждацца, панянчыцца. *Ну што*

*ж ты зьдзелыіш, і ёй прішлося пукукобіцца, ні ўсігда так пулучáіцца, як хочыш.*

**Пакуксіцца** *зак.* Паплакаць пры недамаганні (пра дзіця). *А ніхай пакýксіцца дый засьнець, а возьміш на рýкі — яшчэ большы рысьпішчы́цца.*

**Пакулажыцца** *зак.* 1. Паплакаць пры недамаганні (пра дзіця). *Быў пукулáжыўся, а січас нічога, гуляіць.* 2. Пачаць зацягвацца хмарамі на кароткі час. *Зрáньня пукулáжылыся, а к абеду пысьвятлела, неба рашчы́сьціла, сонца пычало сьвяціць.*

**Пакуламесіць** *зак.* Змяшаць з граззю, з брудам. *Пырысяты у сенцы улезьлі, усё тут пукуламесілі, ні прідýмыіш, сколька ўремя будзіш пырячыць.* **Пакуламесіцца** *зак. перан.* Патоўпіцца ў вялікай цеснаце, неразбярысе. *Нічога мы ні купілі, толька у грязі пукуламесіліся, ніхай яго, такога бызару.*

**Пакулдыкаць** *зак.* Пакуляць. *Пукулды́кыў мáлыга, дык ён ажно зыхліпáіцца, рягочыць.* **Пакулдыкацца** *зак.* Пакуляцца. *Тута нямножка пукулды́кыліся ны траве, а тады зь мячыкым пабеглі некуды.*

**Пакурняўкаць** *зак.* Памяўкаць (пра ката). *Ніхай троху пукурняўкыіць зы дзьвірямі, ато ляжы́ць на печы дзень прі дні, ляніцца зьлезьць, кармі яе толька.*

**Палабрэтаваць** *зак.* Пагультаяваць (пра здаравяку). *Чаго здарой ня будзіць столька ўремя пылабрэтывыць, толька вічарінкі знаў, большы нічога.*

**Паладнець** *зак.* Зрабіцца лепшым, падрасці, узмужнець. *Ты іх відзіў нібальшы́х, а цяперя пыладнелі, харошыя дзяўчонкі зьдзелыліся, ужо бегыюць пы вічарінкых.*

**Палалакаць** *зак. неадабр.* Пабалбатаць. *Нешта сяньня яны нядоўга пылылáкылі, скора рызыйшліся.*

**Паламаць** *зак. перан.* Прайсці з бараной па ворыву адзін раз. *Як успáшуць, тады нада прайціць быраною уперік, пулумáць глуты́рі, а посьлі ўжо скародзюць.* **Паламаный** *дзеепрым. Там толька пулумáна, ішчэ нада скырадзіць.*

**Паланкі** *мн.* Мякіна ад абтоўчанага зерня, якая аддзяляецца пры паланні. *Пылáй ныч шайкыю, каб пáлынкі на мост ня сы́пыліся. Пылáнкі з бульбыю зьмішаюцца, пырысяты пыядýць. Памянш.* **паланачкі.** *Як ты трясеш, што пáлынычкі на мост сыплюцца.*

**Паланне** *н.* Ачыстка абтоўчанага зерня пры дапамо-

зе маленькіх начовачак. *Ты акуратней с пыла́ньнім, ато пылавіна круп ачынецца ў ша́ічкі.*

**Палапаціць** *зак.* Павастрыць мянташкай (касу). *І касу пулупа́ціць нада ўмець, ато жала заверніш у бок, ра́зу ні різанеш.* **Палапаціцца** *зак.* Павастрыцца мянташкай (пра касу). *Як умела пулупа́ціцца, ладна пакос пройдзіць.* **Палапачаный** *дзеепрым. Бярі, кыса пулупа́чына, іна войстрыя, будзіць хырашо резыць.*

**Паласкатаць** *зак. неадабр.* Пабалбатаць гучна, крыкліва. *Большы нічога ні нада, дай пылыскыта́ць уволю, ныласкочуцца — тады яны давольны.*

**Паласястый, паласацістый** *прым.* Паласаты. *У нейкім пылыся́стым пальце ішоў яе жаніх, нікрасівый мыцірія́л. У яе была пылыся́стыя карова, такея редка бываюць. Я пылыса́цістыя касьцюмы ня дужа люблю.* *Памянш.* **паласясценькій.** *Ныбрала ны плацьця пылыся́сьцінькія мацеріі, так нічога, вясёлінькій цьвет.*

**Палаташыць** *зак.* Абтрэсці, абабраць (сад, пладовыя дрэвы). *Сяньня вічарінка, і яны сад як пылыташы́лі, калі ні пысядзіш сам, ні пысьціряегеш. Дайно зьбіраюцца пылыташы́ць тваю мідунічку.*

**Палаўчэць** *зак.* Зрабіцца лепшым. *Яе жызьня пылаўчэла, цяперя абжыліся, дзеці на ногі сталі, нічога жывў́ць.*

**Палахаць** *зак. асудж.* 1. Пабегаць, шукаючы спажывы. *Пакуля ні пыла́хыіць с кажныя хаты ў хату, пряма ня жыва, цярьпець ня можыць.* 2. Пабалбатаць, папустасловіць. *Такога масьціра пыла́хыць у акругі ні найдзіш, язык ходзіць як пыдма́зыный.*

**Паледзянець** *зак. перан.* Азябнуць (пра некалькіх асоб). *Ці вы пылідзянець хочыця, што пасьці голыя вупруўля́іціся холыдым?*

**Паленіна** *ж.* Адно палена. *У цябе з дрыва́мі ішчэ ня горя, пашлі́ мушчын, ніхай паленіну піряпілюць.* *Памянш.* **паленінка.** *Скаці ў адно места паленінкі, ніхай будуць пріпу́чыны.*

**Палескатаць** *зак. перан.* Пабалбатаць гучна, звонка. *Зы работыю яны дужа ня гонюцца, сойдуцца, пыляскочуць, і дзень пройдзіць.*

**Палёты** *мн.* Моцная навальніца. *Што ўжо былі прошлыя лета палёты, жа́ріць, жаріць, а посьлі жары́ пычына́юць такея піруны́ біць, ажно страшна.*

**Палівалка** *ж.* Пасудзіна для палівання. *Пыліва́лка*

*на сенцых, нада дыстáць ды гряды палíць, яны саўсім пірясохлі. Памянш.* **палівалачка.** *Наша пылівáлычка ці ня ў пуні стаіць.*

**Паліваннік** *м.* Палівальшчык. *Нашы пылівáньнікі ахотна ўзяліся зы работу. Памянш.* **паліваннічак.** *Бярі, бярі, пылівáньнічык, вядзерца, нада цьвецікі пыпаіць.* **Паліванніца** *ж. Зь яе тыкая пылівáньніца: захочыць — зьдзелыіць, а ні захочыць — ня возьміцца.*

**Паліняць** *зак. перан. жарт.* Пахудзець. *Пыліняў Антон, ні тая стала ряжка, што была.* **Палінялый** *дзеепрым. Сызанок ходзіць пылінялый, мінулыся яму раскоша.*

**Паліпець** *зак.* Патрымацца (пра слабы стан). *Ні знаю, каб доўга твой сват пыліпеў, дужа слаб ён. Можа як пыліпіць етый гаршчонык, пакуля новый куплю. Нісколька твае дровы ні пыліпяць, яны січас гýркнуць.*

**Палонне** *н.* Праполка, праполванне. *Ат палоньня рукі быляць. Нада пыглядзець зы яе палоньнім, ато й быракі с травою пывырывáіць.*

**Палоннік** *м.* Той, хто поліць. *Відна, сьпіны ў нашых палоньнікыў пызыбалелі, стыяць, а тыкі пырядышна пымаглі. Памянш.* **палоннічак.** *Ты толька пынадзейся на етыга палоньнічка, ён паможыць.* **Палонніца** *ж. Ета ж цяперь лён пысыпáюць нечым і ўсё, а раншы ат яго палоньніцым аддухі ні було.*

**Палубець, палубянець** *зак.* Злубянець, закарэць. *Пулубелі вашы пулушýбычкі, вы іх ні біряглі нісколька. Нада ж етым накідкым так пулубянець, пулумáліся містамі, нікуды ня годны.* **Палубянелый, палубянеўшый** *дзеепрым. Боты пулубянелыя стыяць у твайго хызяіна, іх ны нагу ня ўссýніш. Нічога тут у яго ні найдзіш, пулубянеўшыя нейкія плáшчыкі вісяць.*

**Палузкаць** *зак.* 1. Палузаць. *Усю квасолю сяньня палýзкылі. Гарох яны жыва пулузкáюць, толька зьядуць большы, чым будзіць нулузкáна.* 2 *перан.* Пабіць, пазнішчаць. *Я етых курей палýзкыю пы адной, ня будуць яны ў мяне гряды драць.* **Палузкацца** *зак.* Палузацца. *А ўремя ішчэ многа, пулузкáіцца і квасоля.* **Палузканый** *дзеепрым. Палýзкыный боб ссып у кыцялок. У мяшочыку пулузкáныя арехі, нада схувáць к кылядым.*

**Палуношнік** *м.* Той, хто не спіць позна. *Я ўжо і ня чуў, калі нашы пулуношнікі вярнуліся.* **Палуношніца** *ж. Ёй і сну німа, етый пулуношніцы, у ноч, у поўныч і пабегла, і пабегла.*

**Палупечыць** *зак.* Пабіць. *Будуць так во бáлывыцца, бáлывыцца і пулупечуць ціплят, ніхай бігаць на вуліцу.*

**Палухціць** *зак.* Нагаварыць глупстваў. *Січас і другей падойдзіць, пра што-небудзь пулухціць, можыця паслýхыць.*

**Палуччыць** *зак.* 1. Папраўіцца, паздаравець. *Не, ён дойга ні ліжаў, скора палýччыў. Ці палýччыла твыя ныга ай усё баліць?* 2. Папраўіць, падрамантаваць. *Палýччый-ка ты троху етыя зáсікі, яны саўсім рызвáліюцца.* **Палуччаный** *дзеепрым.* Папраўлены, падрамантаваны. *Вот табе дзьве палýччыных карзінкі.*

**Палыніна** *ж.* Адна расліна палыну. *Нескылька палы́нін вы́рысла во такенных, у рост ш чылавекым. Памянш.* **палынінка.** *Ня трогый палы́нінку, рукі будуць пахнуць.*

**Палыскаць** *зак. перан.* Пабіць. *Ні я буду, калі я етых курей ні палы́скыю: увесь гарод пыклыдáюць. Вы зь ім астарожна, ато ён даўно зьбіраўся вас палы́скыць.*

**Палыхаць** *зак. асудж.* Пабегаць, шукаючы спажывы. *Як ты сяньня, ці ўволю палы́хыла пы дзярэўні?*

**Паляганне** *н. перан.* Змяншэнне (пра пухліну). *Ня дужа ідзець к пылігáньню: і крысьнытá ні праходзіць, і вопух дзяржы́цца.*

**Палягаць** *незак. перан.* 1. Класціся (ад смеху). *Як стаў Ныпряёнык рысказывыць пры свáтыўства, усе ажно пылігáлі аць сьмеху.* 2. Змяншацца (пра пухліну). *Дойга вопух дзіржáўся, толька сы ўчырáшніга дня стаў пылігáць.* **Палягацца** *незак.* Змяншацца (пра пухліну). *Столька ўремя дзяржы́цца пухлíна і дзяржыцца, ні пылігáіцца.* **Палежч** *зак.* 1. Пакласціся (ад смеху). *Так ужо чудзілі, так чудзілі, мы там пыляглí аць смеху.* 2. Зменшыцца (пра пухліну). *Куды ты пойдзіш, пысядзі ў хаці, пакуля вопух троху пыля́жыць.* **Палежца** *зак.* Зменшыцца (пра пухліну). *Калі ж етый вопух пыля́жыцца, дужа дойга ні праходзіць ніяк.*

**Паляшыць** *зак.* Адзначыць мяжу зерня пры сяўбе ўручную. *Ідзі пыляшы́ бацьку, ета работа ніцяжолыя. А калі ты сыма палешыш, дык што стáніць?*

**Памаганне** *н.* Дапамога. *Ні нада мне яго пымыгáньня, ніхай луччы саўсім сюда ні пріходзіць.*

**Памагач** *м.* Памагаты. *Вот вам яшчэ адзін пымыгáч ідзець, цяпера зыкіпіць работа.* **Памагачка** *ж.* *Зь яе*

*тыкая й пымыга́чка, ну ніхай хуць пуўкарзінычкі пыдбярець і то ладна.*

**Памадзець** *зак.* Пажыць у цяжкіх умовах або са слабым здароўем. *Што йна адна будзіць дзелыць, пымадзеіць, пымадзеіць ды паедзіць ґ дочкым к каторый. Здароўя яго ўсё, можа з год якей пымадзеіць.*

**Памазкатаць** *зак.* 1. Пастукаць. *Ніхай пымазкочыць у дзьвері, я ўжо ні палезу яму аччыня́ць, сам аччыняй, калі пускаіш на ўсю ноч.* 2. Пабіць на дробныя кавалкі. *Столька посыду пымызкыта́ў! — уноччы усьпёрся на ўслон і абярну́ў.*

**Памамыліцца** *зак.* Памаўчаць, сароменочыся сказаць, выказацца. *Трошку пымамы́ліцца, а тады рыска́жыць, ён усігда так.*

**Памамырыцца** *зак.* Падзьмуцца з капрызным і непрыступным выглядам. *Ніхай пымамы́ріцца, ета яму на пользу будзіць, ато дужа рузмудрей.*

**Памантачыць** *зак.* Памарнатравіць. *Каб хызяін, тут ба можна жыць ды жыць, а етый хлюст усё пымынта́чыў, і сваё, і бацькыва.* **Памантачыцца** *зак.* Памарнатравіцца. *У вас многа чаго пымынта́чылыся, бяс толку пашло.* **Памантачаный** *дзеепрым. Пымынта́чыныга нызад ня верніш, як ні круці.*

**Памаркатаць** *зак.* 1. Пабляяць ціха (пра авечку). *Аўца зь ігнятымі троху пымыркыта́ла, а цяперь ня чуць.* 2 *перан.* Пабурчаць невыразна. *Зы ўсякыю мелыч пакуля пымаркочыць, наслу́хыісься яго.*

**Памасліць** *зак. перан.* Паўлагоджваць. *Кіряёнкі пыма́сьлілі сваю куму́, думылі, што іна паможыць.* **Памасліцца** *зак.* Павазіцца, стараючыся давесці рэч. *А што ён дужа дзелыў, пыма́сьліўся с карзінкыю, а тады на печ палез.*

**Памастачыць** *зак. гумар.* Паштукаваць. *Сярьгей умеіць пымыста́чыць, учыць яго ні нада.*

**Паматалыжыць, паматалыжыцца, паматалыжнічаць, паматалыжнічацца** *зак.* Пазаймацца круцельствам. *Думыіш, ён работыць будзіць? — пымыталы́жыць айдзенебудзь і нызад зыя́віцца. Два месіцы пымыталы́жыліся і коцюць, сустрюка́йця іх. Паліц ап паліц уда́ріць ня хочыць, глядзіць, каб толька пымыталы́жнічыць. Мы знаім, якея яны былі: любілі пымыталы́жнічыцца.*

**Памашараваць, памашаравацца** *зак.* Параспараджацца бесцырымонна. *Не, у Мархвы іна многа ні пы-*

*мышарўіць, тая жыва асодзіць. Ого, сколька ён тут пумушурувáўся!*

**Паметляваць** *зак.* Абшыць, абкідаць краі адзення, тканіны. *Нада було б усё пымітлювáць, луччы б глядзелыся.* **Паметляваца** *зак.* Абшыцца, абкідацца (пра краі адзення, тканіны). *Як пымятлю́іцца, тады луччы рызьбяресься, што як шыць.* **Паметляваный** *дзеепрым. Пымітлювáныя кладзі адзьдзельна, каб посьлі ні рызьбірацца, што айдзе.*

**Паміжсобка** *ж.* Міжусобіца. *Ета пыміссобка можыць дужа далёка завесьць, так зывядзець, што ні распу́тыіціся.*

**Паміжсобкаю** *прысл.* Міжусобна. *Пыміссобкыю зывяліся, ды крепка пыхлістáліся, — во табе й знакомцы.*

**Памікаць** *зак.* Парыкаць, памыкаць. *Цёлычка троху пыстыяла лі ґанык, памікыла — піць прасіла, а тады ты ні нясеш, дык іна пышла ґ балоту.*

**Памітацца** *зак.* Памільгаць. *Нехта пымітáўся лі кустоў, ні то касіў, ні то так што-то дзелыў, я ні рызыбрáла.*

**Памітушыцца** *зак.* Памітусіцца. *Некуды пылажыла вузялочык і ня ўспомніць куды, дык пымітушы́лыся.*

**Памлець** *зак. перан.* Шматразова праявіць моцнае жаданне, нецярпенне. *Памлеў, каб і яго ўзялі с сабою у горыд. Ніхай памлеіць, нічога ні палу́чыць с такою хліпясьлівысьцю.*

**Памога** *ж.* Дапамога. *Ты ўжо дыждáўся памогі, можна сядзець спакойна. Якея ты памогі ад гультуя́ хочыш.*

**Памурзаціць** *зак.* Памурзаць. *Адзін другога пумурзáцілі і йдуць, гіроі.* **Памурзаціцца** *зак.* Памурзацца. *Ня столька пад'елі, сколька пумурзáціліся.* **Памурзачаный** *дзеепрым. Твой ішчэ посыд пумурзáчыный стаіць, а ты ўсё лылалы́ разводзіш.*

**Памурыжыць** *зак.* 1. Пацерці, няўмела павастрыць. *Трошку пумуры́жыў нож, ня хочыць резыць.* 2 *перан.* Памучыць, пагрызці. *Пакуля пумуры́жуць, пакуля нывылаводзюць, тады толька якую бумажку патпішуць.* **Памурыжыцца** *зак.* Пацярпець пакуты, непрыемнасці. *Пумуры́жыўся ты із-зы свайго нідыгляду.* **Памурыжаный** *дзеепрым. Яны абоя пумуры́жыныя ладна.*

**Памушкарыць, памушкардзіць** *зак.* Памуштраваць, памучыць бесперапыннай тузанінай. *Цяперя цябе пу-*

*мушкáрюць, духі вы́мытыюць, троху пызнáіш, як на сьвеці жыць. А й ладна було б, каб яго хто пумушкáрдзіў, ніхай ба знаў, як кусок хлеба дыстаецца.* **Памушкарыцца, памушкардзіцца** *зак.* Памучыцца ў бесперапыннай тузаніне. *Ні так ужо ты пумушкáрдзіўся, як гавbooріш. Ету нядзелю яны крепка пумушкáрдзіліся.*

**Памыкаць, памычыць** *зак.* Счасаць на грэбені і скруціць у мычкі (пра лён). *Нада, каб ты ўвесь етый лён памы́кыла. Я ўжо скора памы́чу, тута пара жменік астáлыся.* **Памыкацца, памычыцца** *зак.* Счасацца на грэбені і скруціцца ў мычкі (пра лён). *Як-небудзь і етый лён памы́кыіцца. Пыдажджы́ трошку, памы́чуцца табе мычкі.* **Памыканый, памычаный** *дзеепрым. Раз лён памы́кын, ты цяперя свабодзін. У мяне ўсё памы́чына, і я цябе ждаць ня буду.*

**Памымрыцца** *зак. іран.* Падзьмуцца. *Ну памы́мріся яшчэ трошку, дужа ты рызабіджыный сяньня.*

**Памырчэць** *зак.* Пабурчэць, памурлыкаць, памарматаць. *Путуўхáў яго ў бок, ён пымырчэў і ўзноў сьпіць, паспробуй дубудзіся.*

**Памыць** *зак. перан.* Пахаваць. *Еткыга хлыпцá памы́ць — ета серцу рызырвáцца нада, яно ўсё у маткі, наверна, шчарнела.*

**Памэнчыць** *зак.* Павалаводзіць. *Сы ўсякыю мелычч\u0443 пакуля памэнчуць, тады толька зьдзелыюць.* **Памэнчыцца** *зак.* Паваждацца, павалаводзіцца. *Пакуля ты зь імі памэнчысься, дык мы пасьпеім ґ дзядзьку сxадзіць.*

**Памягнуць** *зак.* Пасмагнуць. *Вазьміця, абізацільна вады с сабою вазьміця, ны такой жаре пымя́гніця, хуць будзіць у році прымачы́ць.*

**Памяжджуліць** *зак.* Падавіць, парасціскаць. *Ня прі ўсяго ў адну карзіну, булкі пымяжджу́ліш, што ў рукі ня возьміш.* **Памяжджуліцца** *зак.* Падавіцца, парасціскацца. *Усё ў цябе тут пымяжджу́лілыся, ні рызьбяреш, што айдзе.* **Памяжджуленый** *дзеепрым. Пымяжджу́ліныя кускі укінь у шайку, есьць іх ніхто ня будзіць, а пырысяты зьяду́ць.*

**Памякаць** *зак.* Паваліць (неаднаразова). *Большый яго пымя́кыіць, а ён рягочыць, здаровінькій мальчык, любіць, каб зь ім гулялі.*

**Памяло** *м.* і *ж. перан. груб.* Бесталковы чалавек, дурань. *Што ты с пымялом будзіш гывapіць, ён як веціp: січас адно гаворіць, а цірізь мінуту другоя.*

**Па́мяльнік** *м.,* **памяльнішча** *н.* Дзяржанне ў памяле. *Таўсьцейшыю арешыну вы́сік, во табе й пымяльнік. Пымяльнішча адгарела саўсім. Памянш.* **памельнічок, памяльнішчыка.** *Пымільнічок абгареў с кынца, нада новый дзелыць. Вы́сікі-ка ш чаго-небудзь пымяльнішчыка.*

**Панабрытываць панабрытаць** *зак.* Забрытаць (пра некалькіх коней). *Яны ужо даўно коні пынабры́тывылі, ета нешта Мікілай задзержывыіцца. Ці ім доўга коні пыныбрытáць, цірізь мінуту тут будуць.* **Панабрытаваный, панабрытаный** *дзеепрым. Яны туды, к лужку пывялі пыныбрытáных коні.*

**Панабурхывацца, панабурхацца** *зак.* Найсці празмерна многа. *Як пынабу́рхывылыся к Мікіту людзей, ні пывярнуцца було, мы дайжа і зыхадзіць ні сталі. Чаго вас столька пынабу́рхылыся сюда?*

**Панабушмачываць, панабушмаціць** *зак.* Нагаварыць, нахлусіць вельмі многа. *Што вам тута сваты́ пунубушмáчывылі? Яны нарошня пунубушмáцюць, а ён тады сь сябе выходзіць.* **Панабушмачаный** *дзеепрым. Я зразу пызнаў, што ім нівісь чаго пунубушмáчына.*

**Панаваджываць, панаводжываць, панавадзіць, панавесць** *зак.* Панаводзіць, навесці, прывесці ў вялікай колькасці. *Адны як астáнуцца, пыныва́джывыюць мáльчыкыў дый бáлыюцца. Ні нада табе сюда дзітвары пынаводжывыць. Прікажы хырашэнька, каб сядзелі ў дваре і ні балывыліся, ато ўзноў пынаводзюць сюда ніізьвесна каго. Пынывялі́ хлопцыў, дзевык, гармонь прінясьлі і вічарінку спрáвілі.*

**Панавухрываць, панавухрыць, панавухраць** *зак.* Панавучваць, пападвучваць, настроіць ваяўніча, рашуча. *Іх пынаву́хрівылі, каб ны Сімінят гыварілі, яны і вярзу́ць што зря. Етыя чаму хочыш могуць пунувухрі́ць. К чаму вас пунувухря́ць, туды вы і верніця, свайго розуму ў вас німа.* **Панавухраный, панавухроный** *дзеепрым. Каб яны былі к чаму путному пынаву́хріны. Відна, што пунувухрёны, у адно слова гаворюць, ні пыткыпаісься к ім.*

**Панаграбаць, панагрэсць** *зак. перан. асудж.* Набраць празмерна, нахапаць. *Чаго ён толька ні пыныгрібáў, кажыцца, лопніць адж жáднысьці. Пынагресьць яны ні пысьцісьня́юцца.* **Панаграбацца, панагрэсца** *зак.* Набрацца празмерна, нахапацца. *Калі яны пыныгрібáюц-*

*ца, калі іх нысытáіць хто-небудзь? Віднa, ужо дос, пынызгрябліся, усё зь іх мала було.* **Панагрэбеный** *дзеепрым. Яны й самі ці знаюць, сколька ў іх чаго пыныхвытáна і пынагребіна.*

**Панагракаць** *зак.* Накласці вельмі многа. *Пыныгрякыў хворысьця ува ўсе зыкавýлычкі, куды толька можна було.* **Панаграканый** *дзеепрым. Ні грашы богу, у цябе ў сымаго ня меншы пыныгрякына.*

**Панагуртаваць** *зак. неадабр.* Накласці вельмі многа, але абы-як. *Пунугуртувáлі кýчышчы дроў, кажныму ны два гады хвáціць і астáніцца.* **Панагуртаваный** *дзеепрым. Пунугуртувáна калодзьдзя пілінызга, калоць нада.*

**Панадаядаць, панадаесць** *зак.* Вельмі надакучыць. *Адзін прішоў — расьсеўся, цяперя другей пыныдыідаў сы сваімі новысьцімі, у мяне работы дыхнýць некылі, сядзі зь імі. Ды чаго ж мне пыныдаела тыкая работа: адно ня кончыў, зу другоя хвытáйся, тады трецьціга глядзі — і так кажный дзень.*

**Панадражацца** *зак.* Паздзекавацца, пасмяяцца, пакпіць. *Нат кім яны толька ні пыныдрыжáліся, а тута атпор пулучылі, дый крепкій атпор.*

**Панадубецца** *зак.* Назябнуцца да страты рухомасці. *Ну й пунудубеліся мы за ету паездку, а ніхай іна згаріць і іздá тыкая.*

**Панадуваць** *зак.* Надзьмуць (пра некалькі аб'ектаў). *Яны паехылі б, каб хто за іх кáміры пунудувáў.* **Панадувацца** *зак.* 1. Напоўніцца паветрам. *Рубашкі пунудувáліся ззаду ат ветру.* 2 *перан.* Надзьмуцца, пакрыўдзіцца (пра некалькіх асоб). *Ніізьвесна чаго пунудуваліся, можа увідзілі, што я зь зічычáнімі пыстыяла.* **Панадуваный** *дзеепрым.* 1. Напоўнены паветрам. *Мячыкі вашы пунудувáныя, бягіця, гуляйця.* 2. Надзьмуты, пакрыўджаны. *Сідзяць пунудувáныя, нешта ім нявестка ні ўгадзіла.*

**Панаесца** *зак.* Панаядацца. *Дай ты ім пынаесца, відзіш, хвытаюць, усё роўна як з галодныга краю, а ты з рызгаворымі.* **Панаетый, панаяданый** *дзеепрым. Пару часоў у кýсьцікых пыдзіржаў, трыва дужа ядомыя, скот пынаетый. Во якея брюхі пыныідáныя, як бырыбáны сталі.*

**Панаеханыя** *дзеепрым.* Тыя, якія з'ехаліся ў вялікай колькасці. *Сяньня быгатый бызар, людзей пынаехына*

*було многа, пырысят хырашо купля́лі. І сваіх, і пынаехыных — усіх було.*

**Панажарываць, панажарыць** *зак.* 1. Шмат насмажыць. *Нукупля́лі сьвежыга мяса, пыныжа́рівылі — гасьцей сустрюка́лі. Быгатыя ксьціны справюць, і пыныпіка́юць, і пыныжа́рюць усяго.* 2 *перан.* Моцна напаліць (пра некалькі аб'ектаў). *Аксюта, бувала, пыныжа́рівыіць хаты, і пяреднію, і заднію, што сядзець нілізя. Пыныжа́рюць печы, хуць уціка́й адж жары.* **Панажараный** *дзеепрым.* 1. Насмажаны. *І пыныжа́ріна, і пыныскваріна було, быгатыя сталы стыялі.* 2. Моцна напалены. *І печ, і грубка пыныжа́ріны, у хаці хуць па́рься.*

**Па́назынуць** *зак.* 1. Наваліцца, напасці моцна. *Пыназы́нулі на іх ніізьвесна за што.* 2. Найсці ў вялікай колькасці. *Пыназы́нула людзей сяньня, ны бызарі було ні прытаўкну́цца, пырысят дужа многа нывязьлі, кароў нывялі.*

**Панакалупаць** *зак. перан.* Выручыць, атрымаць. *Пунукулупа́юць зы пырысят грошы, а паткніся ты пыпрасі якую дзісятку ны нядзелю — німа, яй-богычку німа ні капеічкі.*

**Панакасываць, панакасаць, панакасывацца, панакасацца** *зак.* Прычапіцца, навязацца (пра некалькіх асоб). *Чаго іх пыныка́сывыла сюда? Іх як пыныка́сыіць, ні аччапіцца. Во яшчэ пыныка́сывыліся мне прывыжа́тыя, усё дно як я бязь іх дарогі ні знаю. Пыныкыса́ліся, што ні знала, як атвіза́цца.*

**Панакахліваць, панакахліць** *зак.* Напаліць вельмі моцна (пра некалькі аб'ектаў). *Так пыныка́хлівылі печы, што як яны толька ні палопыюцца, а ў хатых жарка, жарка. Нашто ж вы етык пыныка́хлілі і там і там, вы ж у такой жаре ня ўседзіця.* **Панакахленый** *дзеепрым. Дужа ўжо пыныка́хліна, ціряшчур.*

**Панакляпываць, панаклянліваць, панакляпаць** *зак.* 1. Накляпаць (пра некалькі кос). *Косы я пыныкля́пывыў, можна йціць. Ён вам косы січас пыныкля́плівыіць, зьбірайціся. Я косы пыныкліпа́ць ні пасьпеў, яны ўжо ліцяць.* 2 *перан.* Нагаварыць, наплявузгаць. *Чаго хочыш могуць пыныкля́пывыць ны чылавека. Яны, сопсьцьвінна яны пыныкля́плівылі ны Мыкарёнка. Доўга ім пыныкліпа́ць чаго хочыш? — не, нядоўга.* **Панакляпываный, панакляпліваный, панакляпаный** *дзеепрым. Косы хырашо пыныкля́пывыны, Хведзька умеіць давесьць. Косы*

*ішчэ зь вечыра пыныкляплівыны. Косы пыныкліпáны, ды ў іх лыпатýха ці ні ўвыгнáта.*

**Панакратываць, панакратаць** *зак.* Накласці, наваліць вельмі многа. *Мыкрыцьця́ пыныкря́тывылі кучыю, разьвесіць нада було. Во ета пыныкря́тылі сена, яны б ні адну, а трёх кароў прыкармілі етым сеным.* **Панакратаваный, панакратаный** *дзеепрым. Усякыга бырыхла кучымі пыныкря́тывына, раськідыць нада. Дроў у іх пыныкря́тына і ў пýніх, і пыт павецьцю, і ў клець, знаць, ці ні насілі — усё зь іх мала.*

**Панапараджацца, панапарадзіцца** *зак. неадабр.* Сабрацца, падрыхтавацца (пра некалькіх асоб). *Некуды нашы пыныпыріджáліся сяньня, ці ня ў Бель сыбрáліся. Доўга ім пыныпырядзіцца, адзін аднаму: пашлі? — Пашлі. І ныпрáвіліся.*

**Панапарываць, панапароць** *зак. перан.* Пазнаходзіць, назбіраць шмат (звыч. пра грыбы). *Ён усігда як пойдзіць, бырывічкоў мыладзенічкіх-мыладзенічкіх пыныпáрывыіць, умеіць шукаць. І сяньня пыныпаролі харошых грібоў, айдзе-то мясьціны знають.*

**Панапеч** *зак.* Панапякаць. *Нада ж було столька пынапеч усяго, верна, с поўнычы ўсталі.* **Панапечаный** *дзеепрым. У іх знаіш сколька адных пірагоў було пынапечына.*

**Панапрадаць, панапрасць** *зак.* Напрасці шмат. *Многа-многа пыныпрідáлі, клубкоў тых, клубкоў вісіць ны шастý, сýшуцца. Нада ж столька пыныпря́сьць, калі яны ткаць пасьпеюць.* **Панапраджаный** *дзеепрым. У вас усяго пыныпря́джына: і лёну, і воўны, і пысканьней.*

**Панапратываць, панапрануць** *зак.* Апрануць (пра некалькі вопратак). *Яны пыныпря́тывылі усё луччыя, пыхваліцца зыхацелі пірідз залоўкымі. Сяньня вы пыныпряніця што цяплей, вецір узьнімáіцца, становіцца халодна.* **Панапратывацца, панапрануцца** *зак.* Апрануцца (пра некалькіх асоб). *Як вы пыныпря́тывыліся, вас прадмець зы адну мінуту, што вы места сабе ні нáйдзіця. Вы ж ба лаўчэй пыныпранýліся, там многа людзей будзіць, нікрасіва так іціць.* **Панапратываный, панапранутый** *дзеепрым. Ну троху ж пыныпря́тывыны, цэлы будуць, ні пыкалеюць. Польты ні пыныпря́нуты, а так ны рыспáшкі уськінуты.*

**Панараджаць, панарадзіць** *зак.* Адзець прыгожа, прыбраць (пра некалькіх асоб). *Пыныріджáла сваіх*

*хлопцыў, ідуць як жыніхі. Сяньня іх нада крысівей пынырядзіць.* **Панараджацца, панарадзіцца** *зак.* Адзецца прыгожа, прыбрацца (пра некалькіх асоб). *Пыныріджáліся як пыд вянец, адна луччы другой. Куды ж яны етык пынырядзіліся?* **Панараджаный, панараджоный** *дзеепрым. Ты пыглядзі-ка, якея яны пыныря́джыныя! Пыныряджоныя ішлі ў горыд, відна, сь кім-то устрічáцца думыюць.*

**Панараў** *м.,* **панараўе** *н.* Падабанне. *Ні глядзі, што старэй, ішчэ пры пынырáў думыіць. Якоя там пынырáўя табе нада?*

**Панасварываць, панасварыць** *зак.* Насмажыць шмат. *Кыўбас іс сáлым пынысквáрівылі, сырога сала пынырізáлі, харошый стол быў. Аўласёнкі ні пыжалеюць, пынысквáрюць усяго.* **Панасварывацца, панасварыцца** *зак.* Насмажыцца шмат. *Я чуць ня с поўнычы стыя́ла, ці яно само пынысквáрівылыся. Ці я мала ім пынысквáрілыся?* **Панасвараный** *дзеепрым. І пынижáріна було, і пынысквáріна, галодный ніхто ні пашоў.*

**Панастрапаліваць, панастрапаляць, панастрапаліць** *зак.* Падбухторыць (пра некалькіх асоб). *Думыіш, хто рожыўцыў пыныстрыпáлівыў? — твой брацiц, большы ніхто. Вас пыныстрыпыля́ць нада адна мінута, вы зразу успы́хніця. Пыныстрыпаліў сваю зашчы́ту, ды пы яго ня выйшла.* **Панастрапаляцца, панастрапаліцца** *зак.* Намерыцца (пра некалькіх асоб). *Яны пыныстрыпыля́цца і што хочыш яму утворюць. Ета ж нада, пыныстрыпаліліся ўжо у Зьмітракоў сад злазіць.* **Панастрапалёный** *дзеепрым. Мы думылі, яны проста так хіхíкыюць, а ета ж пыныстрыпалёныя, патпеў ім нечыга Мітрыхванок.* **Панастрапалёмшы** *дзеепрысл. Яны былі раншы пыныстрыпалёмшы.*

**Панастуджываць, панастудзіць** *зак.* Настудзіць моцна. *Туды-нызад носюцца, пымінýтна аччыня́юць, зычыня́юць, пынастýджывылі хату, саўсім халодна. Ні дывай бегыць, пынастýдзюць хату, зыкалеіш.* **Панастуджывацца, панастудзіцца** *зак.* Настудзіцца (пра некалькі аб'ектаў). *Дужа хаты пынастýджывыліся, пакуля с кыбаном вазіліся. Зычыняй пуні, ато пынастýдзюцца і скату будзіць халодна.* **Панастуджаный** *дзеепрым. У пынастýджыных пымяшчэньніх холыд нівыносный.*

**Панасурываць, панасураць, панасурыць** *зак.* Насмеціць усюды. *Дзеці за дзень усю́дых пынасýрівыюць,*

*толька прібірапь спруўляйся. Нашто ж вы етык пунусуря́лі? Ну толька вы мне яшчэ пунусурі́ця, я вас зыста́ўлю прібірапь.* **Панасурывацца, панасурацца, панасурыцца** *зак.* Насмеціцца ўсюды. *Нікуратна насіў салому, пынасу́рівылыся усюдых. Усё пыныкрыва́й: будуць хадзіць пы хаці і пунусуря́іцца ува ўвесь посыд. Дровы зыкіда́ў як зря, у гаршкі пунусурі́лыся.* **Панасурываный, панасураный** *дзеепрым. Каб акуратней насілі, так ба ні було пынасу́рівына. І нікога тут ні було, і пынасу́ріна усюдых.* **Панасуромшы** *дзеепрысл. Пунусурёмшы падмесьць нада, а ні кіда́ць сьмяцьцё па ўсёй хаці.*

**Панасытаць, панасытацца, панасыціць, панасыціцца** *зак. перан. груб.* Здаволіць прагнасць. *Ніяк іх ні пынысыта́іць. Усё пынысыта́цца ня могуць, самі ні приду́мыюць, сколька б яны вылаклі і цягну́лі. Сяньня вясёлыя Адаміха пабегла, ці ні пынасы́ціла сватоў тваіх. Не, такіх людзей пынысыці́ць трудна. Ну можа ж і Лукерыіны сыны пынасы́цюцца, етык хвытаўшы і грёбшы. Калі ўжо яны пынысыця́цца, калі такоя ўремя прідзіць?* **Панасытаный** *дзеепрым. Пынысыта́ныя сідзяць, большы ні нада ім дыбра.*

**Панатрыцца** *незак.* Прывыкаць, брапь за прывычку. *Я ўжо віджу, што пычынаіць пына́тріцца ґ гарелкі, дык ту́кнула ны яго.*

**Панахватывапь, панахватапь** *зак.* Нахапапь, набрапь шмат, залішне. *Пыныхва́тывылі участкыў лёну, каб большы заробіць, а цяперя палоць ні спруўля́юцца. Пыныхвыта́ла мацеріі, што ні знаіць, куды дзівапь.* **Панахватывацца, панахватацца** *зак.* Нахапацца, набрацца. *Што за совісьць у людзей, ніяк ні пыныхва́тывыюцца. А пыныхвыта́юцца, насы́цюцца калі-небудзь.* **Панахватаный** *дзеепрым. Ніхай яны хуць спыжыву́ць пынагребіныя і пыныхвыта́ныя.*

**Панахлынуць** *зак.* 1. Нацячы шмат. *Пынахлы́нула вады на двор са ўсіх бакоў аць сьцен.* 2 *перан.* Найсці адначасова многа. *Ідзі раншы, народу пынахлы́ніць, што будзіць нікуды ня ўбіцца.*

**Панаюджывапь, панаюдзіць** *зак. асудж.* Нагаварыць шмат з мэтай падвесці. *Іх пынаю́джывыць ніцяжола, што скажыш, таму й паверюць. Аткуль жа я знаю, хто іх і айдзе пынаю́дзіў.* **Панаюджываный, панаюджаный** *дзеепрым. Мы пы рызгавору пыня́лі, што ім пынаю́джывына. Раз пынаю́джыны, гываріць зь імі цяжола.*

**Панекаць** *зак.* Паадмаўляцца. *Ну што, кылі іна панекыла, пабожкыла, ета яе меншый агонь рысклыдáў там і капу ён спаліў.*

**Панельна** *прысл. іран.* Далікатна. *Пыглядзі-ка, як ён панельна кылы свáцьці ходзіць, пріслугоўвыіць ёй. Памяни.* **панельненька.** *Ён умеіць дужа панельнінька абрышчáцца, праўда, ш чужымі, ні сы сваімі.*

**Панельнасць** *ж. іран.* Далікатнасць. *І айдзе ты еткія панельнысьці ныбраўся, усё дно як нейкія курсы прыхадзіў.*

**Панельный** *прым. іран.* Далікатны. *Ён дужа умеіць панельным быць. Памяни.* **панельненькій.** *Ну, ён жа ні ў абы-якой сям'е рос, чаму ж ня быць панельнінькім.*

**Панімаюшчый** *прым.* Разумны, развaжны, развіты. *Хведзька ня кыш варона, ета чылавек пынімáюшчый, ён сам усякія жызьні пыспытáў.*

**Панішчымнічаць** *зак.* Пажыць на нішчымніцы. *А як пынішчы́мнічыюць, тады будуць знаць, ці нада рýпіцца, ато рýпыты ніякія німа.*

**Пантаннё** *н. зб. асудж.* Нявытрыманыя асобы, вар'яты. *Ці ты зь імі пыгаворіш, ці ўверіш у чом-небудзь, адно пынтаньнё.*

**Пантаный** *прым. асудж.* Нявытрыманы, такі, які паводзіць сябе, як вар'ят. *Каб жа ён быў чылавек як чылавек, зь ім ба дыгываріўся, ато ж пынтáный нейкій: зыкрічаў, рукамі зымыхáў і пабег.*

**Пантухлёўка** *ж.* Бяздумная, непаважаная жанчына. *Ці с пунтухлёўкыю хто путнэй гываріць станіць. Пунтухлёўку ня трогый, луччы палы атреж і ацступіся. Павеліч.* **пантухлёвішча.**

**Панукаць** *зак.* Пашукаць згінаючыся, памільгаць. *Ну ніхай і іна пыну́кыіць, кылі ёй дужа аньціресна на том дваре. Сколька разоў я прімеціла ўжо: із-зы ўгла пану́кыюць і схуваюцца.*

**Панюндзіць** *зак.* Паплявузгаць нудна, манатонна. *Думыіш, яны тама пра што разумныя пыгыварілі? — так, паню́ньдзілі і рызыйшліся.*

**Паняты** *мн. перан. іран.* Дзеці, якія прывыклі жыць па-панску. *Ну, ета ж ныстыя́шчыя пыня́ты, ім пыдáй, прібярі за імі, а яны вылынґáцца будуць, прагýлівыцца.*

**Пападсміхывацца, пападсміхацца** *зак.* Пападсмейвацца пэўны час. *Нядоўга яны пыпацьсьміхывыюцца,*

*скора пірістáнуць. Ніхай цяперя ныц сабою пыпыцьсьміхаюцца.*

**Пападстаўляць, пападставіць** *зак.* Падставіць неаднаразова. *Пыпыцстыўляў палкі, прігырадзіўся і ўзьлез на крышу. Усе пукі пыпыцстáў пад крышу, глядзі ні забудзь.* **Пападстаўленый** *дзеепрым. У яго там ладна пыпыцстáўліна, можна лезьць.*

**Папад'ядаць** *зак.* 1. Пад'есці (пра некалькіх істот, асоб). *Пыпыд'ідáлі каровы па ржы́шчу, тама ў лашчыных дужа харошыя трыва. Хвытáюць, аж зытыхáюцца, усё дно як быяцца, што ні пыпыд'ядýць.* 2. Пад'есці, ад'есці знізу. *Нехта кыряанькі пыпыд'ідáў у капусьці.* 3 *перан.* Падкусіць шматразова. *Ён тады Міхеівых ладна пыпыд'ідáў, то адным, то другім путкулупнець.* **Папад'еджаный, папад'етый** *дзеепрым.* 1. Пад'едзены, ад'едзены знізу. *Во пыглядзіш, што тута кареньня пыпад'еджына. Раз кареньня пыпад'етыя, то пірісáджывый рысаду.* 2. Сыты. *Каровы прішлі пыпад'еджыныя. Скот пыпад'етый, ні нада ну пустухоў абіджáцца.*

**Папасцівіць** *зак.* Папасвіць. *Каб ты пыпáсьцівіў сяньня зы мяне, я б табе піріпусьціў вочырідзь у любоя ўремя.*

**Папахываць** *зак.* Пааараць непрацяглы час. *Можа б ты пыпáхывыў зы мяне, а я ў лясьнічыства у Соіна атвярнýся.*

**Папеклаваца** *зак.* Папрацаваць вельмі цяжка. *Пыпіклуваўся, дык зато дроў ылажыў, будзіць сядзець зіму бяз горя.*

**Папелесаваць** *зак.* Адлупцаваць бязлітасна, аж да ўтварэння пісягоў. *Я б іх пыпілісувáў, што яны б ня селі, даў ба ім і гуркі, і брýкву.*

**Паперапускаць** *зак.* 1. Ачысціць, сыплючы так, каб прадзьмувала ветрам (пра пэўную колькасць). *Нада б ячмень пыпіріпускáць, у ім сьміцьця́ усякыга пыря́дышныга.* 2. Уступіць. *Я ўсім пыпіріпускáў вочырідзь, а мне уступіць ніхто ня хочыць.*

**Паперасыпаць** *зак.* 1. Перасыпаць шмат. *Тама у нескылькіх мяшочыкых патрошку круп астáлыся, нада б пыпірясы́пыць у адзін. Я ўсё у бочычку пыпірісыпáў, мішаць ня будзіць.* 2 *перан.* Абнавіць, перасыпаць (пра пабудовы). *Зы два гады усю пастройку пыпірясы́пыў, летыся хату, а сёліта клець і пуньк.* **Паперасыпацца** *зак.* Перасыпацца (пра значную колькасць). *Ніхай яно*

*пыстаіць, заўтря пыпірясы́піцца. Ні справімся січас, пыпірісыпа́іцца пазьней.* **Паперасыпаный** *дзеепрым. Я толька сыбра́ўся сы́пыць, а тута ўсё пыпірясы́пына. Ды я ўжо віджу, што пыпірісыпа́на, і дайжа атпылавініна ладна.*

**Паператрасаць, паператрэсць** *зак.* 1. Пер态трэсці шмат. *Я ўсё тваё тряхольля пыпірітріса́ў, німа катушкі нійдзе. Я ні знаю, хто тут пыпірятрёс усё, што тут каму нада було.* 2 *перан.* Абнавіць, перасыпаць (пра пабудовы). *Пыпірітріса́ць пастройкі ні так проста. Хата ў яго крепкыя, а халодныя пастройкі пыпірятрёс.* **Паператрасаный, паператрэсеный** *дзеепрым. Пыпірітріса́ныя нечыга другей раз рыськіда́ць. Тут ды цябе усё пыпірятресіна, што ты будзіш тресьць.*

**Паперахаджываць, папераходжываць, паперахадзіць, паперайціць** *зак. перан.* Паправіць пасля акучвання (пра бульбу). *Яны ўчыцьвяры́х як прільну́лі, скора усю бульбу пыпіріха́джывылі. К вечыру нада пыпіряходжывыць бульбу. А ці пыпіріхадзілі вы бульбу, што ў горыд сыбіра́іціся? Бульбу пыпіряйшлі і кытану́лі ў ягыды.* **Паперахаджываный** *дзеепрым. Пыпіріха́джывыныя бульба відна, іна райней стаіць.*

**Паперацюкываць, паперацюкаць, паперацюкнуць** *зак.* Перасячы лёгка (пра некалькі аб’ектаў). *Пыпіряцю́кывый етыя пруціны, піхай ні выля́юцца. Драбнейшыя па́лычкі ён пыпіряцю́кыў, я во пыдз загнет пылажыў. Ніхай у печ пыпіряцю́кніць етыя кылячкі, куды ты іх будзіш зыбіваць.*

**Папетаць, папетаваць** *зак.* Пабіць. *Каб я іх папетыў дайно, тваіх курей, і каноплі былі б цэлы. Нада папетывыць катоў, ета ж нада пріду́мыць: ны шасту ды кілбас дыбра́ліся.* **Папетацца, папетавацца** *зак.* Папрацаваць вельмі цяжка. *Ты папетыўся б столька, сколька Сідарёнык, а тады б гыварiў. Папетывыліся нач шу́льлім, пакуля абработылі, дубіны сухея, аж тапор ацска́кыіць.*

**Папіпчыць** *зак. гумар.* Пакурыць. *Папіпчыць пабеглі за пуню, куды ж яшчэ, хочуць яны вярёўкі, етыя курцы́.*

**Папіхайла** *м. іран.* Папіхач. *Яны ўжо сабе другога пыпіха́йлу вы́брылі. Ахота табе зы пыпіха́йлу служыць, ныт табою усе сьмяю́цца.*

**Папіхнуць** *зак.* Падштурхнуць. *Я знаю, як ён паможыць: будзіш у пролыбку валіцца, дык ішчэ пыпіхнець.*

**Папіхнуцца** *зак.* Адштурхнуцца. *Палку вазьмі крепкыю, пыпіхнесься і піряскочыш, тута ня дужа шурока.*

**Папішчэць** *зак. перан. неадабр.* Паплакаць. *Што ён, пыпішчэў троху біз маткі? — ніхай прівукáіць адзін быць.*

**Паплашаць** *зак.* Знясілецца ў выніку хваробы, аслабець. *Максім зы пасьледнія ўремя дужа пыплышáў, чуць ногі пірідзьвігáіць.* **Паплашалый** *дзеепрым. Я віджу, што ён пыплышáлый, неік дайжа ліцо бледныя зьдзелылыся.*

**Паплецце** *н. зб.* Паплёт. *Яны многа нывазілі сабе паплецьця, гыварілі, будуць пуні пірікрывáць вясною.*

**Паплёвішча** *н.* Нікчэмнасць. *Усякыя паплёвішча сюда зьбірáіцца. Паплёвішча нейкыя, а ні чылавек. Доўга яны служылі Максіму зы паплёвішча.*

**Паплутухаць** *зак.* Паблытаць, пераблытаць. *Кыцянёнык тваe ніткі пуплутухáў: пупаў клубочык і дывай кычаць, ён ссы́пыўся.* **Паплутухацца** *зак.* Паблытацца, пераблытацца. *Кідáіш як зря, суваí пуплутухáюцца, што ні русплутухáіш.* **Паплутуханый** *дзеепрым. Ны лаўкі троху пуплутухáных канцоў вылялыся, можа выцігніш што-небудзь.*

**Паплысць** *зак. перан.* Асыпацца, пачаць асыпацца. *Просу бірягі ды бірягі, ато пуплувець і нічога ні сыбяреш.*

**Паплюгавіць** *зак.* 1. Збузаваць, папсаваць. *Разьві так зямлю абрыбáтывыюць, пуплюгáвілі і ўсё, на етым полі нічога ня вы́рысьціць.* 2 *перан.* Зняславіць. *Пуплюгáвілі людзей, усё дно як яны нічога ня стоюць.* **Паплюгавіцца** *зак.* Збузавацца, папсавацца. *Німáла ў цябе харошыя адзежы пуплюгáвілыся, гамзіш усё пыдряд.* **Паплюгаўлены** *дзеепрым. Спрáвілі яму нідаўна касьцюм, усьлед другей, абоя пуплюгáўлiныя выляюцца.*

**Паплюскаць** *зак.* Паміргаць. *Ніхай паплю́скыіць, ішчэ ныпрáўду зырявець, як ремінь вазьму. Пракоп пычаў ужо гаваріць, а Зыхаріха паплю́скыла, каб муўчаў.*

**Папостываць** *зак. часта жарт.* 1. Папасціць. *Ня хочыш карміць кыбанчыка, папостыіш.* 2 *перан.* Пацярпець нястачу. *Табе тыкі нада троху папостывыць, ато ты ня цэніш жонку ніскoлька.*

**Папоўзць** *зак. перан.* Пачаць распускацца або ірвацца (пра тканіну). *Ці тута ніткі якея слáбыя, ці што, па-*

*поўз етый сьвітарок кругом, во адна дзірька, а ны сьпіне другая.*

**Папрагневаць, папрагнявіць** *зак. іран.* Разгнявіць, раззлаваць. *Чым жа вы пыпрагневылі Айдзіінят, гываріли, толька стренуць вас, аччытáюць. Пыпрыгнявіла кума сваіх родзічыў, ня йдуць яе атведывыць.* **Папрагневацца, папрагнявіцца** *зак.* Разгнявіцца, раззлавацца. *Пачуюць, што ты гаворіш, пыпрагневыюцца. Дужа я стану плáкыць, кылі яны пыпрыгнявіліся.* **Папрагневаный** *дзеепрым. Мы іх сустрелі: дужа пыпрагневыныя былі, іна як сь сябе ні выхадзіла.*

**Папраканне** *н.* Папрокі. *Ну што ж нам яе пыпрікáньні, мы ні вінуваты, што ў іх дзела ні злáдзілыся.*

**Папракудываць, папракуднічаць** *зак.* Папракудзіць. *Етыя прайдохі так і глідзяць пыпракýдывыць, умеюць пыўтвырáць. Тута ныўряд ці ўдасца ім пыпракýднічыць, на іх дужа ніхто любувацца ня будзіць.*

**Папрамляць, папрамліваць** *незак.* Выпрамляць. *Пыпрімляў чэп і саўсім злумаў, нада йіціць у кузьню другей дзелыць. Ня дужа ты хочыш пыпрáмлівыць.* **Папрамляцца, папрамлівацца** *незак.* Выпрамляцца. *Неік у цябе слаба пыпрімляіцца, кряпчэй бі. Трошку пыпрáмлівыіцца, ды мала.* **Папраміць** *зак.* Выпраміць. *Гвозьдзя я ўсё пыпрáміў, лезь прібівáй.* **Папраміцца** *зак.* Выпраміцца. *Хырашо, кылі пыпрáміцца, а як саўсім атломіцца, што тады?* **Папрамленый** *дзеепрым. Новыга гвозьдзя німа, во пыпрáмліных стáрых нескылька штук ляжыць.*

**Папрапытывыць** *зак.* Разведаць, распытаць. *А ты патрошку пыпрапытывый, можа айдзе прачýіцца і ладный пацьцёлык, мы б узялі гудувáць, ато наша карова стурувáта і ўсё целіць бычкоў.*

**Папратануць** *зак. перан.* Знікнуць. *Ці яны тама пыпрытанýлі, етыя мушчыны, каторыя ўремя жджом, а іх німа й німа.*

**Папраць** *зак.* Паперыць. *Пакуль я плацьця пыпрáла, дык і зьбірáцца некылі, позна.* **Папрацца** *зак. Зал.-бессуб'ект. ад* папраць. *Заўтря пыпярецца тваё тряхольля, ніхай ляжыць.* **Папраный** *дзеепрым. Пыпрáныя ды хырашо вымырыжыныя бяльлё чысьцінькыя.*

**Папрыкасывацца, папрыкасацца** *зак.* Прычапіцца (пра некалькіх асоб). *Пыпрікáсывыліся: тут нашы мяшочыкі стыялі, — чуць атвізáліся. Пыпрікысáліся і ўсё, а тады відзюць, што ня ймець, дык атлезьлі.*

**Папрыламываць, папрыламаць** *зак. перан.* Навучыць крыху. *У мяне лодыря корчыць ня будуць, я жыва ґ дзелу пыпрілáмывыю. Яны пынятлівыя дзяўчонкі, іх к любой рабоці жыва пыпрілумáіш.* **Папрыламывацца, папрыламацца** *зак.* Навучыцца крыху. *Жаць мы мáлінькія пыпрілáмывыліся і хырашо жалі. Кылі з мáльства к рабоці пыпрілумáюцца, ета нядренна.* **Папрыламаный** *дзеепрым. Прясьць мы былі пыпрілумáныя к пяці гыдам.*

**Папрымудраць, папрымудрыць** *зак. перан.* Прыстасаваць. *Пáлычкі пыпрімудряў, ныгырадзіў і дзяржыцца. Ты падумый луччы, і тут можна пыпрімудріць.* **Папрымудрацца, папрымудрыцца** *зак.* Прыстасавацца, уладкавацца. *Як прідзіцца туга, пыпрімудрáюцца жыць, ні мáлінькія. Ды як вы хырашо ўсе пыпрімудріліся!* **Папрымудраный** *дзеепрым. У іх тама дужа ладна пыпрімудрáна, усё дно як узрослыя зьдзелылі.*

**Папрынараджываць, папрынараджаць, папрынарадзіць** *зак.* Апрануць па-святочнаму (пра некалькіх асоб). *Пыпрінырáджывыла сваіх як кукыл. Ну як жа, празьнік, нада пыпрінырідждáць. Сяньня іх нада луччы пыпрінырядзіць, многа хлопцыў прідзіць.* **Папрынараджывацца, папрынараджацца, папрынарадзіцца** *зак.* Апранацца па-святочнаму (пра некалькіх асоб). *Пыпрінырáджывыліся, кывалерыў ждуць — ні даждуцца, а тэя ўсё ні пыказыюцца. Як пыпрінырідждáюцца, і яны дзеўкі нічога. Ты на іх пыглядзі, як пыпрінырáдзюцца, тады скажыш.* **Папрынараджаный** *дзеепрым. Ого як пыпрінырáджыны, хто б ета калі падумыў, што Пёкліны сыны так рызадзенуцца.*

**Папрыпучываць, папрыпучаць, папрыпуціць** *зак.* Уладкаваць, упарадкаваць, даць прыстанак, прытулак (пра некалькі аб'ектаў, некалькіх асоб). *Сухоя сена пыпріпýчывыць нада, ні ждаць, пакуля дажджы лінýць. Скора яны хлапцоў сваіх пыпріпýчывылі. Табе ішчэ нада дровы пыпріпучáць. Дзяцей іна пыпріпучáла ўсіх, што ёй, сядзі хлеб еж і ўсё. Вы ж ня жджыця, пакуля вам нехта зьдзелыіць, самі пыпріпуціця хвырасток.* **Папрыпучывацца, папрыпучацца, папрыпуціцца** *зак.* Уладкавацца, знайсці прыстанак, прытулак (пра некалькіх асоб). *Пыўстрáівыліся, пыпріпýчывыліся і нядренна жывуць. Нада думыць, як пыпріпучáцца у жызьні, ета самыя глаўныя. Яе дзеці даўно самі пыпріпуціліся.* **Папрыпучываный, папрыпучаный, папрыпучоный** *дзеепрым.*

*У Сідарёнка усё ны дваре пыпріпу́чывына. Есьлі дзеці пыпріпуча́ны, то нечыга гурюваць. Калі йна астаецца у дваре, усё будзіць пыпріпу́чына, роілым нічога ня кініць. Хаты ў яе бальшыя, раскошныя, тольки ня дужа пыпріпучоныя.* **Папрыпуцёмшы** *дзеепрысл. Пашлі, усё пыпріпуцёмшы.*

**Папрысіліваць, папрысіліць** *зак.* Прымусіць (пра некалькіх асоб). *Як ты іх пыпрісілівыіш, калі яны ў рот ня хочуць тваё ту́шыныя морквы. Пыпрісілілі нас: ежця і піця.*

**Папрыскяпліваццa, папрыскеплівацца, папрыскяпацца, папрыскяпіцца** *зак. перан.* Прыстаць, прычапіцца (пра некалькіх асоб). *А во якея-небудзь на́йдуцца, пыпріськя́плівыюцца, і што ты будзіш адзін дзелыць. Пыпріськеплівыліся, ён відзіць, што дзела плоха, ды ўцікаць. Ніхай ба яны папробывылі к нам пыпріськіпа́ліся. Пыпріськепюцца, што ні атвя́жысься.*

**Папрыслуговываць, папрыслуговывацца, папрыслужываць, папрыслужывацца** *зак.* Падагаджаць пэўны час. *Мыя матка усім пыпріслуговывыла, хваціла зь яе. Што, ты тожа хочыш ста́рыму пыпріслуговывыцца? — ён ета любіць. Яно й відна, што табе дужа хочыцца ім пыпріслу́жывыць. А ці мала вы пыпріслу́жывыліся Нувумёнку?*

**Папрыснашчываць, папрыснашчаць, папрыснасціць** *зак.* Прыстасаваць ненадзейна. *Усякія жордычкі пыпріснáшчывыў, снапоў пыныстыўля́ў сушыцца. Нада ж так пыпрісныішча́ць етый громызд! Пыпріснасьціў красіва, калі яно ні пыляціць усё.* **Папрыснашчывацца, папрыснашчацца, папрыснасціцца** *зак.* Уладкавацца ненадзейна. *Вароцы былі запёрты, дык куры пыпріснáшчывыліся ны яблынкі. Пыпрісныішча́ліся на том вазу як ны калу. Што айдзе пыпріснасьціцца, там і ладна.* **Папрыснашчываный** *дзеепрым. У яго на жордкых пыпріснáшчывыны карзінкі, яшчыкі — усякыя быpaxло.*

**Папрысукывацца, папрысукацца** *зак.* Прыстаць, прычапіцца (пра некалькіх асоб). *Яны із-за Верычкі пыпрісу́кывыліся, а чаго ж яшчэ. Былі пыпрісука́ліся, а тады ўвідзілі, што нічога ня зьдзелыюць, ацста́лі.*

**Папрытыкаць, папрыткнуць** *зак. перан.* Уладкаваць часова. *Некуды було дзівацца, айдзе што пыпрітыка́ў у суседзіў. Ны ладныя мясьціны пыпріткну́ў сваіх ма́льцыў.* **Папрытыкацца, папрыткнуцца** *зак.* Уладкавацца

часова. *Пыпрітыкáліся ў горыдзі, ці надоўга, ці не. Нада айдзе-небудзь і ім пыпріткнýцца.* **Папрыткнутый** *дзеепрым. Толька што пыпріткнýты снапкі — ны адной жардзіні, веціp падмець, і могуць пыляцець.*

**Папрычаляць, папрычаліць** *зак.* Уладкаваць вельмі ненадзейна (пра некалькіх асоб). *Ён сваіх меншых у братоў пыпрічыляў. Думыіць, худзь ба куды-небудзь на первыя ўремя пыпрічаліць.* **Папрычаляцца, папрычаліцца** *зак.* Уладкавацца вельмі ненадзейна (пра некалькіх асоб). *Тады посьлі асвыбаждзенія пыпрічыляліся хто айдзе, разьехыліся пы дзіріўнях. А ніхай едуць, пыпрічэлюцца у сваіх, пакуля айдзе луччы устроюцца.* **Папрычаляный, папрычэленый** *дзеепрым. Хут троху большыя дзеці пыпрічыляны, а меншыя ніхай падвучыюцца. Надзёжныга нічога німа, так, пыпрічэліны на первыя ўремя.*

**Папрычыгывацца, папрычыгацца** *зак. іран.* Дажыцца, дайсці да апошняга ў жыццёвых патрэбах у выніку безгаспадарлівасці. *Я знаю, што пыпрічы́гывыюцца — капейкі ня будзіць пыабедыць сходзіць. Сьпірва дужа шурока едуць, а як пыпрічы́гыюцца, дык глідзяць, у каго б пытхваціць пяцёрку.* **Папрычыганый** *дзеепрым. Я ўжо віджу, што пыпрічы́гыныя зыявіліся.*

**Папрыючываць, папрыючаць, папрыюціць** *зак.* Уладкаваць часова (пра некалькіх асоб). *Хто ж іх пыпрію́чывыіць, калі ні свае. Меншых цёткі маглі б пыпріючáць. Хто іх, гультаёў етых, пыпрію́ціць!* **Папрыючывацца, папрыючацца, папрыюціцца** *зак.* Уладкавацца часова (пра некалькіх асоб). *На ўремя пыпрію́чывыліся саўсім у чужых людзей. А во пыпріючáліся ў горыдзі і жывуць, прівыклі ўжо. Можа яны ў Ганьніныя сьвякровы пыпріюціліся?* **Папрыючываный, папрыючаный** *дзеепрым. Большыя пыпрію́чывыны, за іх ні нада біспакоіцца. Хут трошку пыпрію́чыныя, і то ладна.*

**Папрыяць** *зак.* Паспрыяць некаторы час. *Пынасёнык ім крепка пыпріяў. Я знаю, чаго ён нам пыпріяіць.*

**Папукаць** *зак.* 1. Пападаць (пра плады з дрэва). *Відна, віцярок уноччы быў, мідунічкі папýкылі, пыря́дышна ліжаць пыдзь дзірівáмі.* 2. Памалаціць раскладзеныя снапы другі раз. *Пышанічку нада будзіць папýкыць, у ёй ішчэ ёсьць зірняты, ня ўсё вы́мылыцілыся.* **Папуканый** *дзеепрым. Папýкыныя снапкі аткладывый адзьдзельна.*

**Папульгаць** *зак.* Пашпурляць. *Троху тут адзін у другога камлыжкымі пупульгáлі, а тады ўніз пабеглі.* **Папульгацца** *зак.* Пашпурляцца. *Пупульгáюцца адны ну другіх, а тады узноў умесьці гуляюць.*

**Папургаць** *зак. груб.* Паесці. *Не, етыя ні пірібірáюць, што ні нывáріць Аксеньня, усё папýргыюць, толька пыдліваць спруўляіцца.* **Папурганый** *дзеепрым. І крупеня пупýргына, і капуста ўся.*

**Папурхаць** *зак.* Злосна пабурчаць. *Первыя ўремя ён папýрхыў, усё ні так було, ні пы яго, а троху патроху уняўся і маўчыць.*

**Па-путному** *прысл.* Добра, як трэба. *Каб пу-путному прігласіў, чаго ж ба мы ні пашлі, схадзілі б, а то пірідаець цірізь людзей: ніхай прідуць, — і ціріс каго пірідаець.*

**Папыпліцца** *зак.* Пакешкацца, памкнуцца нерашуча да дзеяння. *Ну што ён памог, папыпліўся і большы нічога.*

**Папэкаць** *зак.* Пагаварыць запінаючыся. *Ён так і ўчыўся: бувала, устаніць, папэкыіць, ныстаўнік яго дужа і ні спрашывыў, відзіў, што ні знаіць.*

**Папякацель, папяканнік** *м.* Той, хто папракае. *А што ён мне, пыпікáціль найшоўся, ці ета яго я пацьцёлка прыдылá. Ты, пыпікáньнік, луччы глядзі зы сваім дваром, а ка мне табе нечыга лезьць.* **Папяканніца** *ж. Ніхай ба іна мяне зычапіла, я б етый пыпікáньніцы ныйшла што скызаць.*

**Папяросіна** *ж.* Адна папяроса. *Во табе Мікітыў сын: пыпіросіну ў зубы і смáліць як бальшэй. Памянш.* **папяросінка.** *Можа табе другую пыпіросінку даць ай тае хвáціць? Павеліч.* **папяросішча.** *Пыпіросішчу зы пыпіросішчыю смáліць, ад дыму у хаці хуць затохніся.*

**Папярхаць** *зак.* Моцна пакашляць. *Ціряшчýр хрáбір: у халодный вадзе пукупáўся, дык во зь нядзелю крепка пыпірьхáў.*

**Парадчанне** *н.* Навядзенне парадку. *Ніхай пыря́ччыць, толька каб ні прішлося посьлі яго пыря́ччыньня яшчэ раз пырядык нывадзіць.*

**Парадчыць, парадчыцца** *незак.* Наводзіць парадак. *Нада пыря́ччыць сваё тряхольля, заўтря паедзім. Ты ўжо каторый дзень пыря́ччысься, а толку усё німа.* **Парадчаный** *дзеепрым. Ты яму толька верь, што ён скажыць, нічога тута ні пыря́ччына.*

**Паражня, паражняка** *прысл.* Паражняком. *Ні нада было ехыць пырыжня́, капёшкі б тэя уськінулі і прівязьлі. Ён што-то пырыжнікá ехыў, знаць, с катком нешта случылыся.*

**Паразабіджываць, паразабідзець** *зак.* Пакрыўдзіць моцна (пра некалькіх асоб). *Няўжэлі Мутруноўна вас так пырызабі́джывыла? Іх нядоўга пырызабі́дзіць, дужа многа капры́зыў.* **Паразабіджывацца, паразабідзецца** *зак.* Пакрыўдзіцца моцна (пра некалькіх асоб). *Як пырызабі́джывыліся ны Лявоніху, што скызала пра Косьціка. Ніхай пырызабі́дзюцца, ніхай не, мяне ета ня дужа біспакоіць.* **Паразабіджаный** *дзеепрым. Ты ні знаіш, чаго яны такея пырызабі́джыныя?*

**Паразаць** *зак.* Заняцца рэзаннем непрацяглы час. *Іна умеіць, да беда пырізáла торх, дык нівісь сколька выкінула, а мы ўтраіх порімся і ні пулучáіцца. Кылі й ты с пуўчыса пырізáіш, цэл будзіш.*

**Паразбухываць, паразбухаць** *зак. перан.* Раскапаць празмерна. *Пыразбу́хывылі ямішчы у пяць разоў большыя чым нада. Пыразбу́хылі пыгрябы́, што яны туды класьць будуць.* **Паразбуханый** *дзеепрым. Уся дарога пыразбу́хына, а калі хто ныпрáвіць, ніізьвесна.*

**Паразвалакываць, паразвалоч** *зак.* Расцягнуць, разабраць цягнучы. *Тэй тады, тэй тады, пы палкі і пырызвылáкывылі нарожнік. Етыя быйстра толк дадуць: пырызвылаку́ць бацькыва дабро зы нядзелю.* **Паразвалакывацца, паразвалочца** *зак. перан.* Разысціся, расцягнуцца. *Скот пырызвылáкывыўся пы ўсяму полю, а пустухі, верна, сьпяць. Пырызвылакліся па сьвету і ні пріiжджаюць сюда.* **Паразвалакываный** *дзеепрым. Дык што, ужо і баня пырызвылáкывына?*

**Паразгалдзецца** *зак. неадабр.* Падняць крык, гвалт (пра некалькіх асоб). *Нідаўна выхадзіла, успыкáівыла, а яны ўзноў пырызгалдзеліся, пряма ґвалт спрáвілі.*

**Паразгневаць, паразгнявіць** *зак. іран.* Разгнявіць, раззлаваць (пра некалькіх асоб). *Нечым кумоў пыразгневылі, ду́юцца за нешта і ні рызгывáрівыюць. Дужа доўга іх пырызгнявíць, слова ні так скажы і ўжо кріўда.* **Паразгневацца, паразгнявіцца** *зак.* Разгневацца, раззлавацца (пра некалькіх асоб). *Ты глядзі, каб узноў ні пыразгневыліся, ато яшчэ нада будзіць угывáрівыць. За нешта ж пырызгнявíліся твае куклы, муўчаць.* **Па-**

**разгневаный** *дзеепрым. Ты б на іх ны пыразгневыных пыглядзеў, во айдзе указэя.*

**Параздзяўбывацца, параздзёўбывацца, параздзяўбацца** *зак. перан.* Разабрацца з цяжкасцю (пра некалькіх асоб). *Дай ты ім урема пырызьдзя́ўбывыцца, яны ж толька пыдыйшлі. Ты ні даждэсься, пакуля яны пыразьдзёўбывыюцца. Чуць-чуць пырызьдзіўба́ліся, куды йціць, ніяк ні маглі пыня́ць.*

**Параздрогываць, параздрогаць** *зак.* Растрэсці, везучы па дрогкай дарозе. *Так вёжшы, ты іх пыраздрёгывыіш саўсім. Яны й так былі абломкі, етыя калёсы, а ты іх пыраздрёгыў, яны й рызваліліся.* **Параздрогывацца, параздрогацца** *зак.* Растрэсціся на дрогкай дарозе. *Пыцьсьцялі зьнізу сена большы, інычы твае вядзерцы пыраздрёгывыюцца. Глянь-ка, можа там і везьць нечыга, можа усё пыраздрёгылыся.* **Параздроганый** *дзеепрым. Пріехылі мы пыраздрёгыныя, цяжолыя дарога.*

**Параздурацца** *зак.* Папрачынацца. *Ні сьвет ні зыря пуруздура́ліся і дывай балывыцца, і што ўжо на іх нада, на етых рузура́тнікыў.*

**Параз'ёрзываць, параз'ёрзаць** *зак.* Пазбіваць моцна. *Так пыразьёрзывылі стажок, што ні прідўмыіш, як пыпра́віць, хуць на́ныва піріклыда́й. Ні пагоніш с пуні, дык пыразьёрзыюць сена на нет.* **Параз'ёрзываный, параз'ёрзаный** *дзеепрым. Пыдгрябі ўсё пыразьёрзывыныя ды ўськінь наверьх, каб старэй ні віда́ў. Пыглядзеў, дык копкі пыразьёрзыныя.*

**Параззваніваць, параззваніць** *зак. перан. неадабр.* Разнесці шырока чуткі. *Ніхай на нохыць што пачуюць, пырыззва́нівыюць, нібыццым тут ніізьвесна што. Пру Кузьмінка Хвядора пырыззваніла усюдых.*

**Параззяпліваць, параззяпіць** *зак. груб.* 1. Парасчыняць. *Усё кругом пырызьзя́плівыіць, кініць і пашоў,— во табе й хызяін. Ны дваре холыд — ня вы́дзіржыць, а ён вокны пырызьзя́піў.* 2 *перан.* Пачаць крык (пра некалькіх асоб). *Папробый-ка ім скызаць што-небудзь, січас глоткі пырызьзя́плівыюць. Пырызьзя́пілі горлы свае, айдзе ты скрічысься.* **Параззяплівацца, параззяпіцца** *зак.* 1. Парасчыняцца. *Ну ні само ж яно ў цябе ўсё пырызьзя́плівылыся. Вароты пырызьзя́пиліся, яму цяжола зычыніць.* 2. Раскрычацца (пра некалькіх асоб). *Пырызьзя́плівыцца яны ўмеюць, навукі ім ні нада. Адна пі́ріда дною пырызьзя́піліся ны Насту, іна ні знала, ку-*

*ды дзіва́цца.* **Паразззяпленый** *дзеепрым. Усё пырызьзя́пліна, куры ў хаці, пырасёнык у сенцых, а ён сьпіць сабе і ў вус ня дуіць.*

**Паразлянець** *зак.* Моцна разленавацца. *Настолька пырызьлянелі, што палкі дроў пірясеч ня хочуць,— во якея яны слухмя́ныя.*

**Паразмудрэць** *зак.* Вельмі разбалавацца (пра некалькіх асоб). *Дужа вы, мальцы, пурузмудрелі, каб ны вас бацька харошый сь ціріськсядзельнікым, вы б зы адны судкі шаўковыя сталі.*

**Паразмуздываць, паразмуздаць** *зак.* Расцугляць (пра некалькіх коней). *Коні пыразму́здывылі, папу́тылі і пусьцілі ны ата́ву, а самі спаць у капу. Пурузмузда́йця коні, ім скусьць дренна.* **Паразмуздывацца, паразмуздацца** *зак.* Расцугляцца (пра некалькіх коней). *Самі б яны ні пыразму́здывыліся, нехта рузмузда́ў. Аткуль ты знаіш, што яны самі пурузмузда́ліся.* **Паразмуздываный, паразмузданый** *дзеепрым. Айдзе ж яны пыразму́здывыны, зумузда́ныя стыяць. Ну што ты, мы сваіх пурузмузда́ных пусьцілі, пурузмузда́лі і папу́тылі.*

**Паразмундыкываць** *зак. іран.* Паразважаць. *Пакуля пысядзелі, пурузмунды́кывылі, дык і сонца зайшло, і йструб некылі глядзець.*

**Паразмяжджуліваць, паразмяжджуліць** *зак.* Парасціснуць, параздавіць. *Ліжалі кусочыкі кілбасы ў бумагі, вы тут ёрзылі ны калёсых, пырызьмяжджу́лівылі. Атнімі кашолку, яны тама творг пырызьмяжджу́люць.* **Паразмяжджулівацца, паразмяжджуліцца** *зак.* Парасціснуцца, параздавіцца. *Пірагі твае саўсім пырызьмяжджу́лівыліся. Яблыкі атталі, пырызьмяжджу́ліліся, каша зь іх стала.* **Паразмяжджуленый** *дзеепрым. Сыбрала, сыбрала усё пырызьмяжджу́ліныя і ў шаічку.*

**Паразяўляцца** *зак. груб. перан.* Пакрычаць. *Твой тожа ладна пырызіўля́ўся, толька чаго яму лезьць.* **Паразявіцца** *зак.* Пачаць крык (пра некалькіх асоб). *Як пырызя́віліся, ты б толька паслухыў — ого, зь імі трудна скріча́цца.*

**Паранетый** *прым.* Ранены. *Мы хадзілі у бальніцу к пыра́нітым, унасіць пымыгалі. Мікілай нядоўга быў ны вайне, ён пыра́нітый прішоў.*

**Парануць I** *зак.* Парнуць. *Што йта зы карова, носіцца цэлый дзень з рыгамі, так і цыля́іць, каб каго пыряну́ць. Луччы атыйдзі, пырянець вілкымі.* **Парануцца I**

*зак*. Накалоцца. *Тут астыражней, пырянесься на што-небудзь.*

**Парануць II** *зак*. Папарыць крыху. *Вазьмі яго с сабою, пырянеш трошку ны палку, цэл будзіць, кылі й пыпішчыць.* **Парануцца II** *зак*. Папарыцца крыху. *Я многа ў жаркым ні магу, трошку пырянуся і скарей абдываца.* **Паранутый** *дзеепрым. Толька што пырянутый, ны палку пабыў, разьві ета паріньня.*

**Парасёнкаў, парасёначкаў** *прым*. Такі, які адносіцца да парасяці. *Пырасёнкыва ідá ў чугунку стаіць, пакорміш, як сонца с абедыў зьверніць, я яму нідаўна травы укінула. Так ня лі, пачысьць пырасёнычкыва карыцца.*

**Параскідаць, параскідываць** *зак. перан.* Парастрасаць крыху. *Ты схадзіў ба, трошку пырыськідáў гной, старэй саўсім зымаріўся. Сена пыраськідывылі с пуўчыса і пабеглі купацца.*

**Параскудактацца** *зак. перан. іран.* Раскрычацца бязладна (пра некалькіх асоб). *Ну што ні ў лад, чаго пурускудáктыліся як куры пірід буцяном?*

**Параскутываць, параскутаць** *зак*. Расчыніць усё, шмат. *Усе вокны пыраскутывылі, толька скрызьнякі сьвішчуць. Дзьвері пыраскутыюць і кінуць, усякыя гáдысьць ат пунь ляціць.* **Параскутываный, параскутаный** *дзеепрым. А я гляджу, чаго у вас вокны пыраскутывыны. Кымяны пыраскутыны, нічога ні далжно пáхнуць.*

**Параскяпліваць, параскепліваць, параскяпываць, параскяпіць, параскіпаць** *зак*. Раскалоць (пра некалькі аб'ектаў). *Нада ж як-небудзь і сукувáтыя палкі пырысьскяплівыць. Ён бірнушкі пыраськеплівыў, пляшкі пулучыліся. Драбней пырысьскяпывый, ны паттопу будзіць. Етыя нада драбней пырысьскяпіць, яны ні згыряць зы раз. Каб ні пыляніўся, ты б і етыя палкі пырысьскіпáў.* **Параскяпліваца, параскепліваца, параскяпываца, параскяпіцца, параскіпацца** *зак*. Раскалоцца (пра некалькі аб'ектаў). *І сукувáтыя, а лёхка пырысьскяплівыліся. Тута ўсё пыраськеплііцца, крепкыга дужа нічога німа. Усе твае ручкі пырысьскяпывыліся, дзелый новыя. Сямён як возьміцца, дык пыраськепюцца і сукувáтыя цільпухі. Чацьвёртыя тыпарішча дзелыю, усе пырысьскіпáліся.* **Параскепленый, параскіпаный** *дзеепрым. Ні хваціць на ўсе сьценкі круглякоў, будзім пыраськеплінымі дыклыдáць. Пырысьскіпáныя грыбільнішчы нада пасеч, яны ні на што ні нада.*

**Параспараджацца** *зак.* Пагаспадарыць некаторы час. *Ёй толька дай пырыспырıджáцца, скора нывядзець пырядкі, што нийдзе нічога ні найдзіш.* **Параспарадзіцца** *зак.* Зрабіць распараджэнні. *Пырыспырядзіліся гнаць скот пад Лібісы, а ці ёсьць там трыва ікая.*

**Параспасаджываць** *зак. асудж.* Растраціць шмат, па частках. *У яго пырядышныга грошы було, мог ба што лáдныя купіць, дык пырыспысáджывыў, пашлі бяс толку усе ды капеічкі.*

**Параспрарэшывацца, параспрарэшыцца** *зак.* Распрарэшыцца (пра некалькі аб'ектаў). *Пы быках рубашкі пырыспрарешывыліся, зашыць нада. Пырыспрарешыліся пінжачкі, яны ўжо саўсім стáрінькія.* **Параспрарэшаный** *дзеепрым. Там вісяць дзьве рубашкі, ды яны, знаць, пырыспрарешыныя.*

**Парассусолівацъ** *зак.* Паразважаць, пагаварыць. *Пакуля вы пуруссусолівыіця, і лаўкі ўсе пызычыняюць, нечыга будзіць і йиціць.*

**Парасторкываць, парасторкаць** *зак. перан.* Параздаваць бяздумна або для схову. *Была ў яе і воўна, дык іна пырасторкывыла. Нябось ты, ня дужа яны пырасторкыюць. Знапі, што могуць найціць, дык пырасторкылі у сваіх усё.* **Парасторкывацца, парасторкацца** *зак.* Параздавацца бяздумна. *А так неік туды-сюды пырасторкывылыся і нічога ні астáлыся. Яно нізаметна пырасторкыіцца, калі бярежч ня ўмеіш.* **Парасторкываный, парасторканый** *дзеепрым. Што, ужо ўсё пырасторкывына, большы нечыга аддывáць? Пырасторкыныя ныза́д ня верніцца, нада трошку з гылавою жыць.*

**Парастрапаць** *зак. перан. неадабр.* Разбалбатаць. *Андрей ба муўчаў, а етыя ня ўцерьпюць, усё пырастрепюць.*

**Парастуркываць, парастуркаць** *зак.* Разбудзіць крыкам (пра некалькіх асоб). *Ня дужа іх лёхка пырастýркывыць посьлі вічарінкі. Сьпяць як забітыя, я іх чуць пырастýркыла.*

**Парасхварацца** *зак.* Пачаць хварэць (пра некалькіх асоб). *Мае былі як пырысхвырáліся, сьпірва адзін зьлёг, тады ўсьлед другей, дык пывазілыся зь імі.*

**Парасхлябіць** *зак. асудж.* Парасчыняць на ўсю шырыню без патрэбы. *Пырысхлябіў і вокны, і дзьвері, вецір усюдых гуляіць.*

**Парасчысляць** *зак.* Паразважаць. *Сьпірва зыгарейся*

*ехыць, а тады пырышчысьляў — не, гаворіць, нікуды я ні паеду.*

**Парасшвіргаць** *зак.* Раскідаць (пра некалькі аб'ектаў, некалькіх асоб). *Усігда пырышшвірьгáіць етыя тряпкі, нічога нійдзе ні найдзіш. Каб яны палезьлі к Якыву, ён ба іх адзін пырышшвірьгáў.* **Парасшвірганый** *дзеепрым. Чаго ў цябе усё так пырышшвірьгáна, як вуювáўся хто.*

**Парасшураць** *зак.* Паразганяць. *Ну што ета зы сыбака, нашто яму воўцы, прібег і пурушшуряў іх.* **Парасшураный** *дзеепрым. Сьпірва пурушшуряіць скот, а тады бегыіць, сыбірáіць пурушшурянный.*

**Паратазейнічаць, паратазеіць, паратазявіць** *зак. неадабр.* Паназіраць без патрэбы, бяздумна. *Чаго ім туды бежч, пыстыяць, пырытазейнічыюць, нашто йта? Ну й етыя пырытазеілі, што ім там нада було. Дужа быльшая польза будзіць, кылі ён тамыцька пырытызявіць.*

**Парашэнне** *н.* Апарос. *Не, ня буду богу гряшыіць, мыя сьвіньня і посьлі пырашэньня ціхыя, бярём пырысят, дык іна нічога.*

**Парватый** *дзеепрым.* Парваны, рваны. *Тыкая крепкыя задоўка пырвáта! Вожычкі тваe саўсім пырвáтыя. Ты і ў пырвáтым можыш пайціць на ксьціны.*

**Парка** *ж.* Пара, два кані, запрэжаныя ў воз або плуг. *Пáрка запрежыныя стаіць, січас пакоцюць. Ны пáркі як гріміць, пыд вакном: тпру-у-у! Ны пáркі ў нас дужа редка пыхалі.*

**Паркаю** *прысл.* На пары. *Пáркыю ета ня дужа быгатый пан езьдзіў. Бульбу луччы пáркыю рызгыняць.*

**Парнёвый** *прым.* З двайнят. *У яе парнёвыя дзевычкі радзіліся, пырядышыныя ўжо, бегыюць пы хаці.*

**Парнёўкі** *мн.*, парнёўка *ж.* Двайняты. *С парнёўкымі, кылі помышчы німа, дужа цяжола. Анька — парнёўка, іна тут астáлыся, а яе сістра у сьвет зьехыла, там і жывець. Памянш.* **парнёвачкі.** *У яе ўнукі парнёвычкі, троху пымыгáіць дачке глядзець.*

**Пароддзе** *н.* Род. *Я каб і ні знала, дык скызала б, што етый мульчугáн з вашыга пародзьдзя, пыглядзі: дайжа ныгамі кріўляіць, як Трахім.*

**Паронне** *н.* Выпорванне. *Тута кылі й тхоро, пароньнім нічога ня зьдзелыіш, нада раськідывыць дровы.*

**Паруга** *ж.* Здзек. *Нашто мне такей мужык, каб паругу ат яго цярьпець. Аддалі яе ў Пірядніна ны паруґу.*

**Парудзянець, парудзянецца** *зак.* Зрабіцца рудым ад гразі. *Ны табе, работнік, адзёжа пурудзянела, мыцца нада. Жніво, гырячка, пурудзянелыся усё, нада шчолык прупускаць.* **Парудзянелый** *дзеепрым. Такую пурудзянелыю рубашку як і атмыць, ні знаю.*

**Парудзяніць** *зак.* 1. Зрабіць рудым ад гразі. *Рубашкі пурудзяніў, калі мне мыць іх.* 2. Зрабіцца рудым ад гразі. *Во куча тряхольля ляжыць, пурудзяніла, ніяк ні сыбярўся зымачыць.* **Парудзяніцца** *зак.* Зрабіцца рудым ад гразі. *Калі яшчэ пурудзянюцца кыўнярі, сам ацьцірай.* **Парудзяненый** *дзеепрым. Ну што ж ты зьдзелыіш, нада і пурудзяніныя атмуваць.*

**Парухаць** *зак.* 1. Парохкаць. *Пацьсьвінычык парюхыў, а тады успакоіўся, лёг.* 2 *перан. груб.* Пабурчаць злосна. *Я знаю, яму ні пыныравіцца, парюхыіць.*

**Парываць** *зак.* Пакапаць пэўны час. *Каб вы ўдзьвюх пырывалі суботу і скрысеньня, пырядышныга бульбы пыдыгналі б.*

**Парыгаць** *зак. перан.* Парыдаць. *Ты парыгыў, ды мала, ні ўспакоісься — яшчэ палўчыш.*

**Парыпаць** *зак. перан.* Няўмела паіграць на гармоніку. *Вам абы хто-небудзь паріпыў, вы нысқачыціся. Ён такей і гырманіст, ну трошку паріпыіць.*

**Пасаблянне** *н.* Дапамога. *Якоя ні пысыбляньня, а трошку паднёс, каб ні памог, яшчэ большы б зымаріліся.*

**Пасабляннік** *м.* Памочнік. *Пысыбляньнікі мае бігаць, ніхай трошку пыгрябуць, пірібіранкі паносюць.* *Памянш.* **пасаблянічак.** *Вот табе зразу два пысыбляньнічкі.* **Пасаблянніца** *ж. Зь мяне абычайныя пысыбляньніца, большы ны мяжэ буду сядзець, чым матычыць.*

**Пасадніць, пасадніцца** *зак.* Пашчымець, папячы. *Больна ударіўся, пысадніла пләчо крепка. Цірнуўся, кожу сыдраў, цяперь пысаднііцца.*

**Пасайстрываць, пасайстрыць** *зак.* Пасцерці вастрэннем. *Жалы пысайстрівыў, а дальшы пашло мякка і резыць ня будзіць. Ты глядзі, саўсім ні пысайстрі лёзы, чым тады пустругаіш што.* **Пасайстрывацца, пасайстрыцца** *зак.* Пасцерціся вастрэннем. *Айт, сколька мы йстрілі етыя лупаткі, яны пысайстрівыліся, нада купляць новыя. Пысайстріліся стамескі, іх толька выкінуць.*

**Пасайстраный** *дзеепрым. Ножыкі вашы саўсім пысайстрінья, паетыму і ня режуць.*

**Пасапасаць** *зак.* Павычвараць. *Яны нойдуць што пысыпысаць, зь іх усякія дураты́ німала тварiцца.*

**Пасарвываць, пасарваць** *зак. перан.* Пазжынаць. *Там і проса тыкая, ну нада ж пысарвывыць, ніхай ні тарчыць. Ячмень яны пысырвалі, ён сёліта ніважнінькій.*

**Пасарпаць** *зак.* Пафыркаць. *Конь зь вечыра троху пысарпыў, а тады скуб спакойна.*

**Пасашчапліваць, пасашчапіць** *зак.* Пасашчапляць. *У нескылькіх містах ету цэпку пысышчаплівыў. Пысышчапілі рукі і клянуць адна адну.* **Пасашчапліваццa, пасашчапіцца** *зак.* 1. Пасашчапляцца. *Тута крепка дужа ні пысышчаплівыцца, худзь ба трошку дзіржалыся. Крючкамі трошку пысашчэпіцца і ладна будзіць, пыдзяржыцца нямнога. 2 перан.* Абняцца. *Дужа падругі задушэўныя, пысышчаплівыліся, як дзесіць гадоў ня відзіліся. Во пысышчапіліся, хуць рызьнімай ці рызвадзі.* **Пасашчапліваны** *дзеепрым. Дывай-ка ты етыя пысышчаплівыныя пучкі сюда, я павешу на шосьцік.*

**Пасашчапуліваць, пасашчапуліць** *зак.* Пастульваць, пасціскаць. *Раз губы пысышчапулівылі, то ўжо аднаго слова ат іх ні даб'есься. Ну чаго вы рукі пысышчапулілі, гресьць нада, дождж можыць пайціць.* **Пасашчапуліваццa, пасашчапуліцца** *зак.* Пастульвацца, пасціскацца. *Ніхай-ка яны лыжацца спаць, у іх ужо вочкі пысышчапулівыліся. Пірід даждждом цьвяткі пысышчапуліліся.* **Пасашчапуленый** *дзеепрым. Стыялі с пысышчапулінымі губамі, ні знаю, чаго яны дмуцца.*

**Пасвенне** *н.* Пасьба. *Ну яго с такім пасьвіньнім, у балота загоніць і зываліцца спаць, а дзеці з балота кароў ні пускаюць.*

**Пасвеннік** *м.* Той, хто пасе. *Нада сходзіць пыдмяніць пасьвіньнікыў, ато яны тама саўсім жжаріліся.* **Пасвенніца** *ж. Січас другая пасьвіньніца пыдбягіць, хуць карову атверніць ач шкоды.*

**Пасвістаць** *зак. перан.* 1. Пабрыкаць, пападкідаць азадкам. *Мыладэй етый конь пысьвістаў, бувала, папробый злавіць — б'ецца.* 2. Пабегчы. *Сяньня яны зы ряку пысьвісталі ны вічарінку.* **Пасвістацца** *зак.* Пабрыкацца, пападкідаць азадкам. *У мяне б ён пысьвістаўся, я б яго атаўчыў сьвістацца.*

**Пасвоіцца** *зак.* Зрабіцца сваякамі, пачаць лічыць сябе сваякамі. *Ты ня чуў, яны ішчэ ў прошлым гаду пасвоіліся. Пасвоюцца, разым вуліцы мёўшы. Яны датуля пасвоюцца, пакуля бутылычкі будзіш ставіць.*

**Пасіпець** *зак.* Пашыпець. *Дровы сырэя, пысіпяць, пакуль рызгыряцца. Старыя ны яго нешта пысіпела, відна, дапёк ёй.*

**Пасіціцца** *зак.* Працерціся і пачаць прасвечвацца, як сіта. *Нейкыя някрепкыя мацерія, нямножка пынасіў, і рубашка ны плічах пасіцілыся.* **Пасічаный** *дзеепрым. Куды такую пасічыныю рубашку ныдзіваць, вазьмі другую.*

**Паскараджываць** *зак.* Паскародзіць нядоўгі час. *Ніхай сяньня мальцы пыскыраджывыюць, адзін да беда, а другей посьлі.* **Паскарадзіць** *зак.* Паскародзіць. *Сярьгей ужо бульбу пыскырадзіў, ці дайно ён сеіў.* **Паскарадзіцца** *зак.* Паскародзіцца. *Каб пыскырадзілыся, тут ба мякчэй стала, а так дужа цьвёрда.* **Паскароджаный** *дзеепрым. Пыскароджыныя поля узноў зызілянела.* **Паскарадзёмшы** *дзеепрысл. Пыскырадзёмшы сходзіш у горыд, скырадзі січас, ато ніізьвесна, калі ты таго кыня пупадзеш у рукі.*

**Паскверцца** *зак. перан.* 1. Папячыся. *Ны такой жарішчы паскверцца можна.* 2. Пакрактаць (пра жаб). *Пакуля выда, пасквяруцца, а як высыхніць, ня будуць скверцца.* 3. Паплакаць, пахныкаць; пагаварыць скрыпучым голасам. *Пысквярецца троху дый засьнець. Скора падойдзіць твыя кума, пысквярецца.*

**Паскіпаць** *зак.* Пакалоць. *Сілы многа, ён узяўся — зы час усе дровы пыськіпаў.* **Паскіпацца** *зак.* Пакалоцца. *Калун вазьмі, даўбню с клінамі, дык і сукуватыя пыськіпаюцца.* **Паскіпаный** *дзеепрым. Пыськіпаныя дровы я ўсе склаў пат крышыю.*

**Пасклімець** *зак.* Паплакаць, пахныкаць. *Зы канхветымі пысклімеў, замеціў, што я купіла, — дай яму абізацільна.*

**Паскнарыцца** *зак. асудж.* Пасквапіцца, паскнарнічаць. *Ета такей чылавек, што ўсігда сьпірва пыскнаріцца, а тады ўжо дасьць.*

**Па-скораму** *прысл.* Хутка, неадкладна. *Па-скорыму ськідывылі ету банчыну, можа айдзе і ні дамшылі. Як різануў у яго жывот, дык схвацілі ны калёсы ды па-скорыму у бальніцу.*

**Паскрыляць** *зак.* Парэзаць абы-як. *Дужа яны многа тае бру́квіны наелі, пыскрыля́лі, пыскрыля́лі і кінулі.* **Паскрыляный** *дзеепрым. А чаго тута пыскрыля́ныя быракі выляюцца?*

**Паскрыпець** *зак. перан.* Пажыць. *Можа зь якей год пыскріпіць, пыдзяржы́цца, толька ён дужа слаб.*

**Паскрэсца** *зак.* 1. Паскрэбціся. *Ня хочыш тапіць баню, пыскрябесься.* 2 *перан.* Палезці ўверх. *Па ўглу паскрёбся, паскрёбся і ўзьлез. Чаго ён паскрёбся на ету сасну, як ка́хніцца ўніз, ні захочыць большы лезьць.*

**Паскуда** *м.* і *ж.*, **паскуд** *м.* Паскуда. *Паску́д быў чылавек, сколька ён уріда людзя́м тварі́ў, ні прівядзі бог, сколька. Узмацн.* **паскудзіна.** *Хто ні знаў яго, ніхай хва́ліць, а мы крепінька знаім: пасьледнія паску́дзіна быў. Павеліч.* **паскудзішча.** *Паску́дзішча ты, во хто, кылі братоў біс хаты хочыш кінуць.*

**Паскуддзе** *н.* 1. Дрэнь. *Нашто табе ўсякыя паску́дзьдзя двору цягнуць, нашто яно табе?* 2. Паскуда. *Чаго ён такоя паску́дзьдзя? Усе яны паску́дзьдзя, зы каторыга ні хвацісь.*

**Паскуджанне** *н.* Паскудства. *Аць цябе я такога паску́джыньня ні ждала, дайжа падумыць ні мыгла.*

**Паскуджаннік** *м.* Паскуднік. *Ат паску́джыньніка толку ніхто ні дажджэцца.* **Паскуджанніца** *ж. Кума ніхай кума, а што паску́джыньніца, — дык етыга ніхто ні атка́жыць ат яе.*

**Паскуднічаць** *незак.* Паскудзіць. *Ён усігда і ува ўсём любіў паску́днічыць, проста натура тыкая га́дкыя.*

**Паслабляннік** *м.* Той, хто паслабляе, аслабляе. *Рызьвя́жыць і ўпу́сьціць етый пыслыбля́ньнік, ты сам рызьвяжы́ акуратнінька і атпусьці́ чуць-чуць.* **Паслаблянніца** *ж. Стань-ка ты, пыслыбля́ньніца, луччы ўбок.*

**Пасляпіць** *зак. перан.* Абдурыць, увесці ў зман (пра некалькіх асоб). *Ён адзін, а вас цэлыя куча і ўсіх вас пысьляпіў, як рытазеіў якіх.*

**Пасмегавацца** *зак.* Пагараваць у нястачы. *Біз нашыя Сіўкі мы дужа пысьмігува́ліся, што ж ты хочыш, летым самыя іда́ — стыкан мылыка.*

**Пасмурыжыць** *зак.* Змякчыць вяроўку трэннем. *Вярёўка мякчэіць, як пусмуры́жыш.* **Пасмурыжыцца** *зак.* Змякчыцца трэннем (пра вяроўку). *Ці ладна ж іна пусмуры́жылыся, ато новыя усігда цьвёрдыя.* **Пасмурыжа-**

**ный** *дзеепрым. Во етыя вожычкі пусмурыжыныя, ты і бярі.*

**Пасмылець** *зак.* 1. Пагарэць. *Ты пыклаў чуць ні ў жар, чаму ж ні пысмыляць валінкі. Тыкая была жыра, што ны грідах усё пысмылела.* 2 *перан.* Пабалець невыносна. *Ох, у мяне трі дні рана пысмылела, цярьпець нілізя було.*

**Пасмыляць** *зак.* Пашпурляць. *Тута бáлывыліся нідаўна, пысмылялі камлыжжым адзін у аднаго.* **Пасмыляцца** *зак.* Пашпурляцца. *Доўга ім чым-небудзь пысмыляцца?*

**Пасмядзіць** *зак.* Пажыць з дрэнным здароўем. *Жыціль ён — ужо ня жыціль, так, пысьмядзіць трошку, пыкапціць сьвет.*

**Пасовесціць** *зак.* Пасарамаціць. *Ты ж ба яго пасовісьціла хырашэнька, як жа ета так — аччыняць чужую хату, зыхадзіць як к сабе.*

**Пасопсць** *зак. іран.* Пасапці. *Яму нада пыстыяць, пасопсьць — ета ён думыіць, а тады ўжо ці пойдзіць, ці не, як яму захочыцца.*

**Паспаведываць, паспавядаць** *зак. перан. ірач.* Налаяць, набэсціць. *Січас падойдзіць Мыланка, іна вас абоіх пыспаведывыіць, ня будзіця лухту несьць. Во гірой-баба: пыспывідáла брігадзіра і пышла.*

**Паспадаць, паспасць** *зак. перан.* Схуднець. *Неік пасьледнія ўремя яе хлопцы пыспыдáлі і сталі нейкія бледныя. Нада ж так — як сьліміянькі былі і разым пыспáлі.*

**Паспаіваць** *зак. перан.* Намачыць моцна. *Нада ж етык пыспáівыць адзёжу, айдзе, што й калі цяперя дасўшысься.*

**Паспахываць** *зак.* Заараць, зраўнаваць пры аранні. *Тама былі бургункі мáлінькія, ці ні мурашкі пытачылі, а во пыспáхывылі плугамі і роўна стала, касіць хырашо.* **Паспахываный** *дзеепрым. Пыспáхывыныя бургункі рузруўняць нада.*

**Паспецца** *зак. перан. неадабр.* Цесна аб'яднацца (на аснове асуджальных дзеянняў). *Думыіш, етыя ні пысьпяюцца? — скора пылáдзюць, будзіць адна шайка-лейка.* **Паспетый** *дзеепрым. Ета іх Сярьгей зьвёў, ато б такея пасьпетыя ні былі.*

**Паспіваць, паспіць** *зак.* Спіць шмат. *Нехта ж пысьпівáў вяршкі, ну, каб пупала, мала б ні було. Лыбы-*

*тряс нішчасный жывець бязўлыю, во найдзіць пыстаўліныя гырлачы і пысап'ець.*

**Паспраўджывацца, паспраўдзіцца** *зак.* Ажыццявіцца, з'явіцца ў сапраўднасці. *Каб усё пыспраўджывылыся, што іна ныгываріла, дык ба ніізьвесна што було. А аткуля ты знаіш, а можа й пыспраўдзіцца.*

**Паспраўнець** *зак.* Зрабіцца больш спраўным, поўным. *Усё нейкімі зумухрышкымі хадзілі, а цяперя відзіш як пыспраўнелі.* **Паспраўнелый, паспраўнеўшый** *дзеепрым. Пыспраўнелый стаў, відна, нічога жывець. Ні такей ужо ён пыспраўнеўшый, ну пыстарей троху.*

**Паспучываць, паспучаць, паспуціць** *зак.* Збіць з правільнага шляху (пра некалькіх асоб). *Самі б яны такую дуратў тваріць ні сталі, іх паспучывылі тэя гэрчыкі. Пуспучаюць яны вас, папомніця маё слова, што пуспучаюць. Ваша дружба дабром ня кончыцца, яны пуспуцяць вас, хочыця — красьць разым пывядўць.* **Паспучывацца, паспучацца, паспуціцца** *зак.* Збіцца з правільнага шляху (пра некалькіх асоб). *Яны ні цяперя паспучывыліся. Так пуспучаліся, што ні знаіць, як угываріваць. Бацька ні глядзеў, дзелыйця, што хочыця, таго і пуспуціліся.*

**Пассесца** *зак. перан.* Зменшыцца ў памерах (звыч. пад уздзеяннем вады). *Як бралі, былі рубашкі ікраз па ём, а цяперя пасьселіся, ня можыць надзець ні адну.*

**Паставіць** *зак. перан.* Пастанавіць, рашыць. *Раз пыставілі так пасьвіць, то й ніхай пасўць, а ня будуць яны, ня будзім мы.*

**Пастаражаваць** *зак.* Павартаваць, папрацаваць вартаўніком. *Каб пустуружуваў зімў, трудадней ба пырядышна заробіў, стоіць брацца, цяперя ну трудзьдзень даюць.*

**Пастаялка** *ж.* Свежае малако, якое крыху пастаяла. *Пыстыялкі нальлець, хлеба накрышыць, наесца, — дужа ён малый любіў так есьць. Памянш.* **пастаялачка.** *Во ж пыстыялычка, поўный гырлач, улі ды зьеж.*

**Пастраміць** *зак.* Пасароміць. *Нада було пыстраміць, каб большы і зарёкся так дзелыць.* **Пастраміцца** *зак.* Пасаромецца. *Пыстраміся бегыць пы хатых, каб табе хто чарку наліў.* **Пастрамленый** *дзеепрым. Ён і пыстрамліный другей раз пыбягіць к Сямёнывым.* **Пастрамёмшы** *дзеепрысл. Ні пыстрамёмшы, ён сам нічога ня пойміць.*

**Пастройчына** *ж.* Пабудова (нязначная). *Ніхай-ка ета пастройчына пыстаіць, збыць лёхка, а йна табе ішчэ сымамў зныдабіцца. Памяніш.* **пастройчынка.** *Зь яго пастройчынкі толку ўжо мала, іна ўся слáбінькыя.*

**Пастухоўна** *ж.* Дачка пастуха. *Такому жыніху і пустухоўна будзіць ладна.*

**Пастушня** *ж.* Пабудова для пастухоў у панскім маёнтку. *Пастўшня так водыль стыяла, тама бытрыкáм есьць варілі, нікаторыя нучувалі там с пустухамі.*

**Пастушыха** *ж.* Жонка пастуха. *Во ішчэ кылі хочыш пустушыхі угыждáй, ато ён ні пагоніць пасьвіць.*

**Пастыліцца** *зак.* Апастыляцца. *Зь людзямі ні разу ні нада пастыліцца, можна біс сваркі дыгывaріцца пы-харошыму.*

**Пастылянне** *н.* Сварка, лаянка. *Пыстыля́ньня я ні разу ні любіла, як ета пастыліцца ш чылавекым, кылі можна пыгывaріць як людзі.*

**Пасудзініна** *ж.* Пасудзіна. *Квасоль можна у любую пусудзініну пірясыпыць, у гырлач вун, а кашолычка у горыд нада. Памяніш.* **пасудзінінка.** *Тута быльшая пусудзінінка ні нада, пірясып у што-небудзь. Павеліч.* **пасудзінішча.** *Табе каб во еткыя пусудзінішча, ш чугунок, ня меншы.*

**Пасукаваць** *зак.* Пазамаўляць словам «сук» пры гульні ў мяч з мэтай, каб той, хто б'е па мячу, не папаў па ім. *А што, я пусукувáла, і ты зьбіўся, цяперя ідзіця пад ніз, вы аттуля ні разу ня выбіріціся.*

**Пасуміцца** *зак.* Панікнуць. *Як узілáся Ганна дываць праборку, дык пусуміўся, сагнуў гылаву.*

**Пасупаратываць, пасупаратывацца** *зак.* Пасупраціўляцца (жартам), панаравіцца, панатурыцца. *Яму каб толька пусупуратывыць хуць у чом-небудзь. Ты, знаць, трошку пусупурáтывыўся сь цёткыю.*

**Пасурочываць, пасурочыць** *зак.* Асурочыць (пра некалькіх асоб). *Ета вас ці ні віхрянскія дзеўкі пусурочывылі? Хто ж вас так пусурочыў, што вы дайжа ад бутылычкі атвырáчывыіціся?* **Пасурочаный** *дзеепрым. Можа яны і ныпраўду пусурочыныя, хто ж іх знаіць.*

**Пасурыць** *зак. перан.* Пакласці нямнога (пра гной). *Каб гнайкў пусуріў, луччый ба ічмянёк быў, тута ўжо дужа пуста.* **Пасураный** *дзеепрым. Айдзе гною пасўріна, дайжа на від пышаніца атлічáіцца: зілянейшыя, лісьцікі*

*шурачэйшыя.* **Пасуромшы** *дзеепрысл. Пусурёмшы гною, усё луччы расьцець.*

**Пасушнік** *м.* Сушняк, сухі хмызняк. *Каб прівёз вазкі два пáсушніку, ні звыляўся б, ны растопу ён дужа харош. Памянш.* **пасушнічак.** *Пáсушнічык ішчэ трошку вядзецца, ну ўжо нямножка астáлыся, нада пацьсеч хворысьця.*

**Пасцівіць** *незак.* Пасвіць. *Раншы було многа ахотнікыў пáсьцівіць, а цяперя кругом па вочырідзі пасўць, нійдзе пустуха ні ныймáюць.*

**Пасцілка** *ж.* Посцілка. *Я і рядзіць, і ткаць пасьцілкі умела луччы ўсіх у дзяреўні. Памянш.* **пасцілачка.** *Мы ўжо забылі, калі тэя пасьцілычкі ткалі. Памянш.-зневаж.* **пасцілчонка, пасцілчэнка.** *Кылі ты пысьцілчонку вы́ткыць ня ўмеіш, ікая сь цябе нявеста. Пысьцілчэнку якую вазьмі, накрыйся, трошку цяплей будзіць.*

**Пасціраццa, пасцерцца** *зак. перан.* Пазнікаць (пра многае). *Столька сямей зы ваенныя ўремя пысьцірáлыся, во вазьмі толька ў нашый дзяреўні сколька. Ці мала чаго ны зямле пасьцёрлыся!*

**Пасыпацца** *зак. перан.* Пачаць часта нараджацца. *Раз дзеці пасы́пыліся, то ны ўсякія гульні забўдзіш, ні ду гульні станіць.*

**Пасюль, пасюля, пасюліцька** *прысл.* Дагэтуль, да гэтага месца. *Пасю́ль я прыпалю́, а дальшы вы стынавіціся. Прішлі во пасю́ля мокрыя, айдзе яны ўсю ноч цігаліся, ні гаворюць. Пасю́ліцька аткасі, а дальшы ня трогыйся, ато зубурчáць.*

**Пасякаць** *зак.* Крыху насячы. *Нада б табе схадзіць лазіцы пысікáць, пакуля конь у руках, прівезьць ба можна.*

**Паталаваць** *зак.* Павытоптваць. *Край пышаніцы ат кустоў дужа скот путулувáў, каровы то тады ўскочуць, то тады.* **Паталавацца** *зак.* Патаптацца. *Як коні пыталўюцца, то ўжо нечыга будзіць жаць.* **Паталаваный, паталованый** *дзеепрым. Што ж ты хочыш нымылаціць с путулувáныга аўса? Пыталовыныя скасіў, тама нічога німа.*

**Паталаскаць** *зак.* Патузаць, пацягаць. *Цябе нада було дайно пытылыскáць. Шчыняты пупалі куртычку, пытылыскáлі зá дзінь, што яе толька тря́пышніку здаць.* **Паталаскацца** *зак.* Патузацца, пацягацца. *Мы чулі, што яны пытылыскáліся, толька ні знаді, за што.* **Паталаска-**

**ный** *дзеепрым. Вазьмі хуць ету пытылыскáнью хвярю́бінку, трошку прікры́ісься.*

**Патарабарыць, патарабарыцца** *зак. неадабр.* Пабалбатаць бязладна. *Ні знаю, што ў іх було дужа іньцірэсныга, ну пытырыбáрілі кучыю пырядышныя ўремя. Сколька ні пытырыбáрюцца, самі яны нічога ні дыгаворюцца.*

**Патарабеніць** *зак. рэдкаўж.* Пабалбатаць. *Сыбяруцца, пытырабенюць, ета і ўсё зыня́ція ім.*

**Патараторыць** *зак. неадабр.* Пагаварыць шпарка і невыразна, пабалбатаць. *А ета нявестка Ільлёва пытыраторіла тут.* **Патараторыцца** *зак.* Пагаварыць у неразуменні. *Пытыраторься, кылі табе ныра́віцца, мне ета ня дужа аньціресна.*

**Патарачыць** *зак. жарт.* Панесці. *Во стогніць што-то, ня можыць, — ён ішчэ ладныю клу́мку пытыра́чыў нечыга ат аўтобуса.* **Патарачыцца** *зак.* Пайсці. *Куды-то старэй пытыра́чыўся, ці ні надумыўся сватоў атведыць.*

**Патарчак** *м.* Патарчака. *Сьсякі етый пытырча́к, узаб'ецца хто-небудзь, прабіцца можыць.*

**Патаўморыць** *зак.* Патаўчы, памясіць нязграбна. *Тута і так гря́зі поўна, а ты яшчэ больша ыгамі пытаўморіў.* **Патаўморыцца** *зак.* Патаўчыся, зрабіць нязграбна. *Пакуля ты пытаўморісься, можна було б трі разы туды зьездзіць і ызад вярну́цца.* **Патаўмораный** *дзеепрым. Нейкыя цеста пытаўморіна, ні рызьбяресься што.*

**Патаўмясіць** *зак.* Памясіць, патаптаць. *Ета ж твыя карова пытыўмясіла быракі.* **Патаўмясіцца** *зак.* Памясіцца, патоўпіцца. *А што толку, есьлі вы там пытаўмесіціся.* **Патаўмяшоный** *дзеепрым. Тута ўсё пытыўмяшона у грязь, што я буду выбіраць.* **Патаўмясёмшы** *дзеепрысл. Пытыўмясёмшы ў такой грязі, ні захочыш другей раз лезьць.*

**Патаўпорыць** *зак.* Патаўчы, памясіць. *Цеста зы ша́ічкыю було ыкв́акліна, ты яго пытаўпоріў.* **Патаўпорыцца** *зак.* Патаўчыся, памясіцца ў цеснаце. *Будзіць толк, есьлі ты яшчэ там пытаўпорісься.*

**Патаўпясіць** *зак.* Памясіць, патаўчы. *Хто ета пытыўпясіў, я ні знаю.* **Патаўпясіцца** *зак.* Патаўчыся ў цеснаце. *Нікога мы ня ўстрелі, троху пытыўпясіліся, цесна, вы́лізьлі і пашлі.* **Патаўпясёмшы** *дзеепрысл. Пытыўпясёмшы тута, нікуды я большы ні пайду.*

**Паташнаваць** *зак.* Пабедаваць, патужыць. *Бувала,*

*адна астануся, троху пысяджу, пыташнўю дый лягу спаць.*

**Патваранне, патворыванне, патворнічанне** *н. неадабр.* Патуранне, адсутнасць абмежаванняў пры заганнай паблажлівасці. *Каб яму меншы пытвырäньня дывай, ён ба ціщэйшым быў. Прівыклі, што ім усігда патворывыньня, рызбáлывыліся. Ат патворнічыньня толк мáлый, у руках крепка дзяржы, дык луччый чылавек вырысьціць.*

**Патварыць** *зак.* Пазаймацца ганебнымі ўчынкамі. *У іх тады была крепкыя кынпанія, ладна пытварілі, пакуля аднаго пы адным ні пірібрали.*

**Патворнік, патворываннік, патвараннік, патворшчык** *м. неадабр.* Той, хто патурае. *Бáлыўнікі любюць такіх патворнікыў, якія ім распусту даюць. Дужа стаў патворывыньнікым у пасьледнія ўремя. Глядзі, пытвырäньнік, распусьціцца, што сам рад ня будзіш. Якую я яму пытачку даю, ты сам большый патворшчык.* **Патворніца, патворыванніца, патваранніца, патворшчыца** *ж. Ну як жа ты ні патворніца, калі яны ў цябе паверьх хаты пашлі. Ты сыма яшчэ большыя патворывыньніца. Ня будзь пытвырäньніцыю, крікні раз ды другей, дык уніміцца. І ты ні глядзіш, і йна патворшчыца, а яны галўзы.*

**Патлач** *м.* Патлаты чалавек. *Узноў пытлычá свайго пывылыклá к старой, трухтувáць тая будзіць.* **Патлачка** *ж. Табе дужа нікрасіва такою пытлáчкыю хадзіць.*

**Паторкаць** *зак. перан.* Пасадзіць абы-як. *Як зря паторкыў, паторкыў ліпкі, яны ня прімуцца. Лі гуркоў пы крыйкáх быракі паторкыла.*

**Патравянець, патравянецца** *зак.* Зарасці травой. *Чаго йта вы, хызяйкі, за бульбу ні біріцёся, іна пытрывянела, што сам чорт ряду ні дасьць. Пышаніца пытрывянелыся, нада прыпалоць абізацільна.* **Патравянелый** *дзеепрым. Рыспыхáць можна і пытрывянелыю бульбу, толька посьлі прайціць хырашо нада.*

**Патравяніць** *зак.* 1. Зарасці травой. *Ні знаю, калі брацца, пытрывянілі гряды саўсім.* 2. Садзейнічаць зарастанню травой. *Самі вы пытрывянілі усядзьбу і нечыга ны каго-то абіджáцца.* **Патравяніцца** *зак.* Зарасці травой. *Айдзе пытрывяніцца, толку ня жджы, нічога ня вырысьціць.*

**Патрахтаваць** *зак.* Пачаставаць. *Каго я толька ні путрухтувáла, і сваіх, і чужых нутрухтувáлыся.* **Патрах-**

**тавацца** *зак.* Пачаставацца. *Путрухтувáйся і хваціць, едзь к сваім, там у цябе цётка родныя.* **Патрахтаваный** *дзеепрым. Канешня ж, ат Пёклы паехый хырашэнька путрухтувáный.*

**Патрудзіцца** *зак.* Вельмі памучыцца ад фізічнага болю. *Старік мой дужа цяжола ліжай, пасьледнія нядзелі дзьве путрудзійся.*

**Патруніць** *зак.* Пакпіць. *Учора мушчыны тут доўга сядзелі, ныць Сярьгеім путрунілі, як ён ізь зяцёў варочыўся.*

**Патруняцца** *зак. асудж.* Палодарнічаць, пабадзяцца без справы. *Ён жа так і выбірай у самыя гырячыя ўремя паехыць, каб путрунáцца — ні там ні тут нічога ня дзелыць.*

**Патрупехнуць** *зак.* Спарахнець, струхлець. *Пáлкі выляліся як зря, пакуля путрупехлі, а іх ба ж можна було скласьць у пуню і цэлыя ліжалі б.* **Патрупехлый** *дзеепрым. Путрупехлый паплёт пысякі ды складзі пат крышу, пыпáліцца.*

**Патрылюдзіць, патрылюдзіцца** *зак. іран.* Пабалбатаць, папустазвоніць. *Якую ж вам лухту пытрілю́дзіла свыцьця́? Нічога яны ня зьдзелылі за цэлый дзень, да беда кучыю пытрілю́дзіліся, а тады посьлі беда яшчэ дыбáвілі.*

**Патрысціць** *зак.* 1. Паламаць з трэскам, без разбору. *Пытрысьціла карова усю тваю зáгырыдку, ці йна рыгамі вуювáла, ці хто яе знаіць, што дзелыла.* 2. Пасукаць. *Ніткі я пытрысьцій, дывай другую работу.* **Патрысціцца** *зак.* Паламацца. *Цапкі ліжалі ны зямле, па іх, знаць, хадзілі, пытрысьціліся сайсім.* **Патрышчаный** *дзеепрым.* Паламаны. *Прясла тваё узной патры́шчына.* **Патрышчоный** *дзеепрым.* Пасуканы. *Пытрышчоныя ніткі змытáй у клубочык.* **Патрысцёмшы** *дзеепрысл. Якоя там прясла, яно ўсё пытрысьцёмшы.*

**Патуняцца** *зак.* Палодарнічаць, пабадзяцца без справы. *Думыіш, ён работыць будзіць, калі й возьміцца? — не-а, ня будзіць, путуня́іцца зь месіц, і яго ўзной прагонюць.*

**Патупілічыць** *зак. жарт.* Парэзаць. *Ты ні глядзі, што мáлый, ён вас усіх путупілі́чыць.* **Патупілічаный** *дзеепрым. А можа яны ліжаць путупілі́чыныя, а ты ня сходзіш, ні пыглядзіш.*

**Патураць** *зак.* Моцна паганяць. *Учора, знаць, путу-*

*ряла Аўдотка свайго дырагога, нешта крік тама быў.* **Патурацца** *зак.* Моцна паганяцца. *Путуряліся адзін зы адным па выгыну, во ўжо шымаччо нейкыя, а ня людзі.* **Патурыцца** *зак.* Пагнацца. *Як патуріцца за Колію, тэй як кытанець, ны кані ні дыгнаў ба.* **Патураный** *дзеепрым. Прібег путуряный, зыхакыўся, што слова ні прыгаворіць.* **Патуромшы** *дзеепрысл. Цябе ні путурёмшы хырашэнька, дык ты ны гылаву гатоў сесьць.*

**Патурлычыць** *зак.* Пагаварыць неразборліва. *Яны тута путурлычылі нешта і пашлі.* **Патурлычыцца** *зак.* Паразмаўляць. *Пакуля путурлычыўся с Куліныю, іна нідачуіць, дык і йціць нада двору.*

**Патурчэць** *зак.* 1. Паабзывацца гукамі, падобнымі да цвыркання (пра цвыркуноў, птушак). *Путурчэлі цыркуны ну лугу, цяперь ня чутна. Нейкыя птушычка нескылька вічароў путурчэла у бярёзкых.* 2 *перан.* Пацячы моцным струменем, пачаць цячы. *Глядзі, каб ні путурчэла выда у погріб, тама што надзелылі мышы, ай-я-яй сколька дзірік. Путурчэла вядро, збоку дзірічка ёсць.*

**Патусмець** *зак.* 1. Паблякнуць, выцвісці. *Нейкыя краска ніважныя, сьпірва была яркыя, а тады скора путусьмела.* 2 *перан.* Пахуднець ад гора, перажыванняў. *За етыя дзьве нядзелі, як схувалі Мырчынка, яны пряма путусьмелі.* **Патусмелый** *прым.* Пабляклы, выцвілы. *Ты ж ні так даўно етыя пасьцілкі ткала, а яны нейкія путусьмелыя.*

**Патыканка** *ж.* Посцілка шматкаляровая. *Красівыя ў цябе пытыканкі пулучыліся, ты сьпецна ўмеіш ткаць.* *Памянш.* **патыканачка.** *Я сястре дыла дзьве пытыканычкі, ёй некылі зы крыснамі сядзець.*

**Патыніць** *зак.* Абставіць драўлянымі плахамі. *Яны абоя свае пыгрябы пытынілі, крепка зьдзелылі.* **Патынёный** *дзеепрым. Патыніныя сьценкі ні апсыплюцца, дайжа есьлі і мыш айдзе праточыць.*

**Патыхаць, патыхкаць** *зак.* Пабіцца моцна (пра сэрца). *Патыхыла серца: ці прідзіць Толік, ці не. Віду ён ні пыкажыць, умеіць дзіржацца, а серца патыхкыіць.*

**Патэпкацца** *зак.* Патупаць. *Ікая зь яе работніца, пы хаці трошку патэпкыіцца і ўзноў лажыцца.*

**Паўбадзюліваць, паўбадзюліць** *зак.* Уваткнуць з цяжкасцю (пра некалькі прадметаў). *Пыспрабуй-ка пыўбадзюлівыць пруцьця ў такую сухую зямлю, дождж*

*нада каб абізацільна прайшоў. Чуць пыўбадзю́ліў етыя кылячкі.* **Паўбадзюліваццa, паўбадзюліцца** *зак.* Уваткнуцца з цяжкасцю (пра некалькі прадметаў). *Трошку пыўбадзю́лівыліся і ладна, ніхай тырча́ць. Ня дужа тут што-небудзь пыўбадзю́ліцца.* **Паўбадзюлены** *дзеепрым. На гліні, а так лоўкінька пруцікі пыўбадзю́ліны.*

**Паўбіць** *зак.* 1. Паўбіваць. *Кольля я крепка паўбіў, далжно дзіржацца.* 2 *перан.* Вельмі стаміць. *Коні паўбілі, самі чуць жывэя прікаціліся.* **Паўбіцца** *зак.* 1. Паўбівацца. *Кылячкі пыўваб'юцца і снуй свае кросны.* 2 *перан.* Вельмі стаміцца. *Мы сяньня паўбіліся ў лесі, што ні рукою, ні нагою ні шывяльню́ць.* **Паўбітый** *дзеепрым.* 1. Паўбіваны. *Ета крю́чча крепка паўбіта, нічога тут ня вырьвіш.* 2. Вельмі стомлены. *Сыма ўсё тут дадзелывый, яны пріедуць паўбітыя.*

**Паўбухаць** *зак.* 1. Выбіць з сіл. *Сьнег дужа глубокій, з дарогі зьвярню́лі, коні паўбу́хылі, ні туды ні ныэад.* 2 *перан.* Патраціць дарэмна (пра грошы). *Грошы паўбу́хылі, а толку ніякыга.* **Паўбухацца** *зак.* Выбіцца з сіл. *Мы так паўбу́хыліся, чуць жывэя пріехылі.* **Паўбуханый** *дзеепрым.* Патрачаны. *Сколька ў ету пастройку і срествый, і сілы паўбу́хына!*

**Паўважаць, паўважацца** *зак.* Праявіць павагу. *Пыўвыжа́ў ба ста́рыга чылавека, ён табе дайжа ні бацька, а дзед, а ты такоя гаворіш. Ты ж людзей пыўвыжа́йся ныпра́сьніцу выду́мывыць.*

**Паўгамаваць** *зак.* Суняць, супакоіць (пра некалькіх асоб). *Вас нада було дайно так пуўгумува́ць, ціряшчур вы рузмудрелі.* **Паўгамавацца** *зак.* Суняцца, супакоіцца (пра некалькіх асоб). *Ці пыўгаму́йіціся вы мне, ай узноў нада хлыбазіну брацъ?* **Паўгамаваный** *дзеепрым. Сідзяць пуўгумува́ныя і ня пікнуць, — во, стану я на іх богу маліцца.*

**Паўгневаць, паўгнявіць** *зак. іран.* Разгнявіць. *Раз пайгневыў, ідзі, сам рызьбіра́йся. Глядзі, пыўгнявіш, дык і есьць ні зва́рюць, ні раз у затылку пыскрябеш.* **Паўгневацца, паўгнявіцца** *зак.* Разгнявіцца. *За нешта ж пайгневыліся ны вас, дайжа відзіць ня хочуць. Ці ні зы іржы́шчыка пыўгнявіліся, яны самі хацелі скасіць, трыва там была харошыя.* **Паўгневаный** *дзеепрым. Калі пайгневыныя, то луччы ні чыпайся, толька хужы зьдзелыіш.*

**Паўгоднічаць** *зак. іран.* Падагаджаць. *Скажы, а ці*

*ты сам меншы паўгоднічый, ты ж піряд імі пряма банным лістом слаўся.*

**Паўдзядзець** *зак. жарт.* Пастарэць, пасталець (пра ўсіх, многіх). *Ла́дныя лабрэты пыўдзядзелі, яны ўжо могуць самі хату пыставіць.* **Паўдзядзелый** *прым. Пыўдзядзелыя хлопцы, толька к рабоці ня дужа прілума́ны.*

**Паўзбутураць, паўзбутурыць** *зак.* Падняць, разбудзіць (пра некалькіх істот, асоб). *Нашто ж ты скот пуўзбутуря́ў біс пары, ніхай ба пыліжалі. Нада було ішчэ цёмнінька пуўзбутуріць ды ніхай ба ішлі бульбу рыспа́хывыць.* **Паўзбутурацца, паўзбутурыцца** *зак.* Прачнуцца, падняцца (пра некалькіх істот, асоб). *Чаго яны так рана пуўзбутуряліся? Пуўзбутуріліся чуць дзень і пабеглі, заўтріка ні сталі ждаць.* **Паўзбутураный** *дзеепрым. Яны знаіш калі пуўзбутуря́ны? — толька серінька стынавілыся.*

**Паўзганяць, паўзагнаць** *зак.* Узагнаць (пра некалькіх істот, асоб). *Бягі-ка ты паўзгонь кароў, ніхай ідуць скусьць. Вас каб ні пыўзыгна́ў, вы б гатовы да вечыра вылежывыцца.* **Паўзагнатый** *дзеепрым. Як мы пыдыйшлі, скот ужо быў пыўзыгна́т.*

**Паўзніззе** *н.* Ніз, нізіна. *Мы ішлі пы паўзьнізьзю і ніякыга кріку ня чулі. Паўзьнізьзім туды дайжа лаўчэй будзіць прабежч.*

**Паўзыйціць** *зак.* Паўзыходзіць. *Толька гуркі пыўзыйшлі, мароз ударіў, яны пыжаўцелі, ні растуць, відна, нічога ня будзіць і пірісіва́ць пузнува́та.*

**Паўклешчывацца, паўклешчыцца** *зак. перан.* Моцна ўчапіцца (пра некалькіх асоб). *Паўклешчывыліся усьлед ма́лыя, ні аччапіцца ат іх. Яны ж як паўклешчуцца, пряма ні адбіцца.*

**Паўкляпываць, паўкляплівацъ, паўкляпаць** *зак. перан. іран.* Пераканаць, нагаварыць. *Што ты яму пыўкля́пывыіш, калі ён нікога у рязон ні бярець. Мы замучыліся, пакуля пыўкля́плівылі ім, што нада ўчыцца. Пойдзіць туды, Аўхімёнкі усякія трілю́ды паўклепюць яму, тады ажно сь сябе выходзіць.* **Паўкляпывацца, паўкляплівацца, паўкляпацца** *зак.* Закахацца (пра ўсіх, многіх). *У піря́днінскіх дзевык пыўкля́пывыліся і ні выходзюць аттуля. У чыіх жа то яны пыўкля́плівыліся, я там усіх знаю. Ішчэ штаны пыдвя́зывыць ні паўчы́ліся, а ўжо ў дзевык пыўкліпа́ліся.*

**Паўлітар** *м.* Паўлітра. *У мяне дайно стаіць паўлітыр,*

*усё абішчаіць брат заехыць, дык бірягу. Памяни.* **паўлітрык** *м.*, **паўлітрыка** *н. Ніхай ба стыяў цэлый паўлітрік, можа, на што можыць прігадзіцца. Паўлітріка було, дык выцыдзілі, яны б і з другім справіліся.*

**Паўнімаць, паўняць** *зак.* Суняць (пра некалькіх асоб). *Пыўнімай-ка ты іх, ато пряма ны гылывах ходзюць. Я б іх ні так пыўняў, у мяне б шаўковымі сталі.* **Паўнімацца, паўняцца** *зак.* Суняцца (пра некалькіх асоб). *Дужа б хырашо було, каб вы самі пыўнімаліся. Бацька толька гляніць у тэй бок, як яны зразу паўнімуцца.*

**Паўнюхтанька, паўнюхтачка** *прысл.* Паўнюсенька. *Паўнюхтынька пынылівáў вёдры, чуць ня збрэзь. Гырлачы пынальлю паўнюхтычка і стынаўлю кіснуць.*

**Паўнюхтанькій, паўнюхтачкій** *прым.* Паўнюсенькі. *Паўнюхтынькыя хата набўрхылыся людзей, пальца ушчаміць ні було куды. Рызьвілá паўнюхтычкыю шайку, ніхай поюць цялёнка.*

**Паўпадаць, паўпасць** *зак. перан.* Запасці. *Нешта цялёнычку нідылігáіць: стаіць, бакі пыўпыдáлі і нічога ня есьць, каб ні пыціряў ён жвáчку. Я ўстрецій Сірьгяёнка: вочы пыўпáлі, сам бледный — саўсім ня тэй чылавек.*

**Паўпускаць** *зак.* 1. Упусціць (пра некалькіх істот). *Пуўпускáў у хату і катоў, і сыбаку, цэлыю хвірму сыбраў.* 2. Паўводзіць у вочы (пра лякарства). *Нядзелю пуўпускáў кáплі, і вочы балець пірісталі.*

**Паўпякацца, паўпечца** *зак.* Надакучыць, абрыднуць (пра некалькіх асоб). *Пыўпікáўся маткі, пакуля тута жыў, ні кáпількі яе ня слухыў, што йна скажыць — усё дно як ні ды яго.*

**Паўраніваць** *зак.* Выпусціць з рук (пра некалькі аб'ектаў). *Глядзі, пыўрáнівыіш чáшычкі і пырызьбівáіш, яны саўсім слáбінькія.*

**Паўродываць, паўродывацца, паўроднічаць, паўроднічацца** *зак.* Паздзекавацца самаўпраўна і пачварна. *Як ба ён ня прыгый, тут яму ні дадуць паўродывыць. Мала што ён хочыць паўродывыцца, ні на тых ён нынáў. Хвáціць сь цябе, паўроднічый, так і нада, што ўспакоілі. Не, нядоўга яны паўроднічыліся.*

**Паўроіцца** *зак.* Здацца, прыйсці ў галаву. *Што ім паўроілыся, нікуды тэй Мікіпыр ні хадзіў, ён з нашымі хлыпцáмі праседзіў увесь вечыр.*

**Паўскапашыцца** *зак. неадабр.* Паўставаць дачасна,

вельмі рана. *Я ўстала, каб раншы печ прукуріць, і яны пыўскыпашыліся, пычалі балывыцца ны пасьцелі.*

**Паўскручываць, паўскруціць** *зак. перан. неадабр.* Падняць з пасцелі. *Чаго вас паўскрўчывыла чуць ня ў поўныч? Іх калі як паўскрўціць, нізашто ня ўложыш.* **Паўскручывацца, паўскруціцца** *зак.* Устаць, падняцца дачасна. *Сяньня яны ні паўскрўчывыюцца, як учора, набегыліся увечырі, будуць доўга спаць. Мы ўсталі раншы сыбірацца, і яны пуўскруціліся.*

**Паўслуговываць, паўслуговывацца, паўслужываць, паўслужывацца** *зак.* Папрыслужвацца. *Так ужо ён пуўслуговывыў Цімоху, а тэй нічога яму ні памог. Ці ты тожа хочыш ім пуўслуговывыцца? Няўжэлі мала табе паўслўжывылі Пынасывы? Усе кругом яму паўслўжывыліся, толька нічога за ета ні пулучылі.*

**Паўсотка** *ж.* Старая мера гарэлкі, 1/200 частка вядра, шкалік. *Наш дзед, помню, любіў з горыда паўсотку прівезьць. Памяниш.* **паўсотачка.** *Сяньня б ат паўсотычкі і ты ні аткызáўся.*

**Паўстраваць, паўстраць** *зак.* Паўмешвацца. *Каб астрейкыўцы ні пыўстрівáлі, там ба ніізьвесна што магло пулучыцца. Вы яшчэ пыўстрáньця, вас ні хвытала тут, у іх сваё дзела і самі ніхай рызьбірáюцца.*

**Паўстурквываць, паўстуркаць** *зак.* Разбудзіць крыкам. *Як ты іх паўстўркывыіш, яны сьпяць як забітыя. Чуць паўстўркыла сваіх, позна пришлі, нізашто ня хочуць устываць.* **Паўстурканый** *дзеепрым. Сідзяць паўстўркыныя і вочы труць, ні рызьбяруцца, што к чаму.*

**Паўталковываць, паўталкаваць** *зак.* Растлумачыць, прымусіць усвядоміць. *Ім што-небудзь пыўталковывыць дужа трудна. Гыварю, што нілізя так дзелыць, дык ці ты чырцям пыўталкўіш.*

**Паўтвараць** *зак.* Павычвараць. *Чаго яны толька ні пыўтвырялі, во каб було каму пыдзівіцца ці тўкнуць.*

**Паўціхаміраваць, паўціхамірыць** *зак.* Суняць (пра некалькіх асоб). *Як разойдуцца, ня дужа іх пыўціхамірівыіш. Пыўціхаміріць вас даўно нада, жалка, што некыму.* **Паўціхамірывацца, паўціхамірыцца** *зак.* Суняцца (пра некалькіх асоб). *Доўга шумелі на вуліцы, я ўсё чула, ні спала, пат поўныч пыўціхамірівыліся. Ці пыўціхаміріцца калі-небудзь ета бысытвá?* **Паўціхамірaный** *дзеепрым. Як мы пріехылі, яны ўжо сядзелі пыўціхамірiныя.*

**Паўцургываць, паўцургаць** *зак. неадабр.* Даць, прадаць непатрэбнае. *Вам што хочыш могуць паўцу́ргывыць, вы ўсё возьміця. Паўцу́ргылі ім такея, чуць зьлепліныя боты, ны вічарінку схадзілі, яны і разьехыліся.* **Паўцургывацца, паўцургацца** *зак.* Папасці, трапіць у непрыемнае становішча. *Прікажы, каб былі астарожны, ато куды хочыш могуць паўцу́ргывыцца. Зь естым лесым паўцу́ргыліся, ні знаюць, як вы́путыцца.*

**Пахакаць** *зак.* Падыхаць цяжка. *Пыстаіць, пыха́кыіць, а тады ўзноў кыпа́іць, здароўя яе саўсім усё.*

**Паханне** *н.* Аранне. *Я знаю тваё пыха́ньня: пыўскывіря́іш як зря, узрехыў надзелыіш, калі хочыш, пиріпа́хывый зы табою.*

**Паханнік** *м.* Араты. *Зымаріліся пыха́ньнікі, прішлі двору: дайця хуць мінутку пыліжаць.* **Паханніца** *ж.* *Ныпа́шыш ты, пыха́ньніца, ныкывіря́іш узрехыў, тады едзь зы табою пірядзелывыць.*

**Пахарахоніцца** *зак. іран.* Парыхтавацца дзейсна, з шумам. *Многа ён ні пыхырахоніцца, зыда́чы яго усе знаюць.*

**Пахарашыць** *зак.* Зрабіць лепшым, прыгажэйшым. *Пыхыраши́ ж ты і ету, іна тожа хочыць красівыю быць.* **Пахарашыцца** *зак.* Прычапурыцца, падхарашыцца. *Пыдажджы́ ўжо мінуту, січас яны пыхырыша́цца, можа іх тама хто сустрюкаць будзіць.* **Пахарашомшы** *дзеепрысл.* *Так пыхырашомшы, хуць ны па́ньськыю вічарінку йдзі.*

**Пахаць** *ж.* 1. Ворыва. *Я йшоў пы па́хыці, мякка вы́дзілына зімля, ныга ажно тоніць.* 2. Ворыўная зямля. *У іхный брігадзі па́хыці ні так многа, самі спруўляюцца абрыба́тывыць.*

**Пахватный** *прым.* Працавіты. *Каб ты была тыкая пыхва́тныя, як твыя сістра, табе ніхто слова ні скызаў ба ні разу.*

**Пахінуць** *зак.* Пахіліць. *Пыхіні-ка, пыхіні трошку большы, я схвачу за сук.* **Пахінуцца** *зак.* Пахіліцца. *Во мыйсьцяры́, дывадзілі сьценку, а йна пыхіну́лыся.* **Пахінутый** *дзеепрым.* *Верба дзіржалыся пыхіну́тыя, а сяньня буря зываліла.*

**Пахітаць** *незак.* Пахістаць. *Я пыхіта́ў стоўбікі — крепка сідзяць, нада аткапывыць, так ня вырьвіш.* **Пахітацца** *незак.* Пахістацца. *Што, кылі пыхіта́лыся, унізу сучок і ні дыста́ніш.* **Пахітнуць** *зак.* Пахіснуць. *Айдзе ты такоя дзеріва пыхітнеш!* **Пахітнуцца** *зак.* Пахіснуцца.

*Стаіць сыха́ і ні пыхітнецца, яе луччы зрезыць, чым мучыцца, аткапывыць.* **Пахітаный** *дзеепрым. Пыхітаный кол скарей вырьвіцца.*

**Пахлапень** *м.* Лапаць з ачоскавых вяровачак. *Пыхлапні у нас редка хто плёў, пяньковыя, лыкывыя плялі лапці, пыхлапень шчытаўся пасьледнія дзела.*

**Пахлехатаць** *зак.* 1. Моцна пацячы, паліцца. *Агледзь хырашэнька погріб кругом, ато як пыхляхочыць вясною выда, прыпадзець бульба.* 2. Пакіпець вельмі гучна і бурна. *Пыхляхочыць чугунок і цягні.* 3. Пабыць пэўны час у ахвоце (пра свінню). 4 *перан.* Пазлавацца вельмі бурна. *Ніхай пыхляхочыць, кылі ў яго дужа многа злосьці ныбра́лыся.*

**Пахлёскаць** *зак.* Паляскаць (пугаю). *Дай-ка я пахлёскыю, ці ў мяне так палу́чыцца, ці не.*

**Пахліпцець** *зак.* Папрагнуць. *Пыхліпцела, каб і ёй спра́вілі такея са́мыя боцікі, як у Танькі.*

**Пахлынкаць** *зак.* Пабадзяцца, паблукаць. *Айдзе ён быў? —ізьвесна айдзе: пы бызару пахлы́нкыў, тады друзей пупаў, с тымі пысядзеў айдзе-небудзь.*

**Пахлыскаць** *зак. перан.* 1. Пабіць. *Яны тама будуць ба́лывыцца, балывыцца дый ціплят пахлы́скыюць, прікажы, каб ня трогылі.* 2. Папіць. *Як была іх тут кынпанія, пахлы́скылі гарелычкі.*

**Пахмарываць** *незак.* Паказваць на дождж. *Нешта нінадзёжныя пагода, пыхма́рівыіць.* **Пахмарыць, пахмарыцца** *зак.* Паказаць на дождж (пэўны час). *Зра́ньня пыхма́ріла, а тады рызыгнала. Буваіць, пыхма́ріцца і нічога, а другей раз і біс хма́ріньня дождж пойдзіць.*

**Пахмыліцца** *зак.* Пакасавурыцца (пра каня). *Ты глядзі, ня верь каню, пахмы́ліцца, а тады й глыдану́ць можыць.*

**Пахныкаць** *зак. перан.* Пахадзіць, прыглядаючыся, шукаючы. *Айдзе ён што найдзіць, кылі ён пахны́кыў лі тых кустоў, яны ма́хырі атпетыя, есьлі схвацілі, то позна шукаць.*

**Паходный** *прым.* Дабраякасны (пра льнотрасту, ільновалакно). *Ета паходный лён, зы яго хырашо плоцюць, сёліта іх калхоз будзіць з грышамі.*

**Пахрапатаць** *зак.* Пахрабустаць. *Нілізя так пускаць ціплят адных, каб с квакухыю, нічога б, а адных каты́ пупадуць у бульбі і пыхрапочуць.* **Пахрапатаный** *дзее-*

*прым. Глянь-ка, зьбіраюцца ціпляты, ды ўсе, кажыцца, а я думыла, яны пыхрыпытáны.*

**Пахрупаць, пахрупкаць** *зак.* Пахрумстаць. *Воўцы такоя сена дужа любюць, усё да бы́лычкі пахру́пыюць. Так скора ты ўсе быра́нкі пахру́пкыў?*

**Пахрыстаць** *зак.* 1. Парваць на кавалкі. *Падлез: я, мол, воґірь, — пыхрістáлі на ём усю рубашку і па шыі ладна схваціў.* 2 *перан.* Пабіць. *Пыхрістáлі троху, а тады торснулі: ідзі.* **Пахрыстаный** *дзеепрым.* Парваны. *Некуды ету тряхоліну ныдзівáць, іна ўся пыхрістáныя.*

**Пахуднець** *зак.* Пахудзець. *Нісколька ён ні пухудней, ні тряпліся ты, на ім жыру — хуць полысымі спускáй.* **Пахуднелый** *дзеепрым. Хымчанёнык пріехыў пухуднелый, відна, прішлося ўсяго пыспытáць.*

**Пахужэць** *зак.* Пагоршаць. *Аткуль жа я знаю, ці пухужэла яму там, ці палу́ччыла. Мала што там нымішáна, можыць пухужэць, ґ доктыру луччы схадзі.*

**Пахуркаць** *зак.* Пабурчэць злосна, адрывіста. *Старэйны нявестку паху́ркыў учора, нечым ні дыгадзіла яму.*

**Пахуцавець** *зак.* Зрабіцца больш акуратным. *Ні знаю, ці пухуцавеіць калі ета няўрёмішча, усё ў яго ні па-лю́дзку дзелыіцца.*

**Пахыркаць** *зак.* Пахрыпець. *Нісколька ні бірягецца: прасту́дзіцца, пахы́ркыіць, атпáрю яго троху, ён узноў голый пабег.*

**Пахырлець** *зак. перан.* Пажыць чахнучы, марнеючы. *Калі ня будзіш сам сябе глядзець, многа ні пахы́рлііш. Ладна пыхырле́й, прустудзіўся дужа крепка.*

**Пацёмак** *м.* Цемната, цемра. *Ужо быў пацёмык, як яны ехылі, я чуў, як тпру́кылі. Як жа ты пойдзіш пацёмкым?*

**Паціняціць** *зак.* Паэканоміць, выдаткоўваючы вельмі ашчадна. *Ж жырáмі ў мяне було крута, у абрез, прішлося пыціняціць трошку, пакуля кыбанчыка забілі.* **Паціняціцца** *зак.* Паэканоміцца, выдаткоўваючы вельмі ашчадна. *Прідзіцца пыціняціцца, а што ж ты зьдзелыіш.*

**Паціўкаць** *зак.* 1. Паўтвараць гукі, падобныя да шчэбету вераб'я. *Віряб'і ны тваіх кыныплях паціўкыюць, пакуля ўсё аббяру́ць.* 2 *перан. жарт.* Пажыць. *Твой старэй ішчэ паціўкыіць, можа й цябе піріжывець.* 3 *перан. жарт.* Падаць голас (неаднаразова). *Нешта паціўкылі пыд вакном ды муўчаць.*

**Пацішачку** *прысл.* Ціхусенька, асцярожненька. *Можа*

*як пацішычку і пыдыйшла́ б, тут жа нідалёчыка. Дзьверы пацішычку аччыняюцца, ідзець унук Адаркін.*

**Пацыгаць** *зак.* 1. Папішчаць (пра куранят). *Біс квакýхі ціпляты пацы́гыюць, яны прівыклі усё з маткыю і з маткыю.* 2 *перан. неадабр.* Пашукаць павольна, старанна. *Пацы́гыў тут троху ды пашоў некуды.*

**Пацыўкаць** *зак.* Памаргаць. *Толька што пыстыяў, пацы́ўкыў, ён нічога ні пыняў, пра што тут гыварілі.*

**Пацьмець** *зак. перан.* Пажыць (у безнадзейным стане). *Посьлі такея апірацыі ужо ня жы́ціль, можа з год якей пацьмеіць, большы ныўряд каб прыцягнýў.*

**Пацягайла** *м.* Гультай, лодар, вісус. *Ніхто нічога дзелыць ні зыстыўляў, вырыс пыцігайла, нажрецца, вы́брюзьніцца і ўзноў пашоў.*

**Пацягушы** *мн.* Пацягванне, пацягушкі. *Ай, якея харошыя ў ма́літькыга пыцягýшы. Ого пыцягýшы, на чэцьвірць падрос! Памянш.* **пацягушачкі.** *Пыцягýшычкі, каб рос бальшэй, бальшэй.*

**Пацяпаць** *зак.* Пасячы. *Нічога яны ні насеклі, пыця́пылі мінуты трі, а тады зываліліся пат куст і прыспалі пуўдня́.*

**Пацяраніе** *н.* Ачмурэнне. *Другей раз нічога, а калі дык як нейкыя пыціра́нія у яго гылаве, нічога ні сыбрыжа́іць. Стыра́ліся, бралі ды пыціра́нія, хацелі ўсё дыкасіць.*

**Пачаёўнічаць** *зак.* Пачаставацца чаем. *Яны любюць пычаёўнічыць — пысідзяць, пыгаворюць, пра жызінь пуруссужда́юць.*

**Пачапаць** *зак.* Пайсці, пахадзіць з цяжкасцю. *Пыча́пыю-ка я двору, ато сьцямнеіць, як я дывылакýся. Дужа іна слаба, пы двару трошку пыча́пыіць, пысядзіць ны ла́вычкі і ўзноў ляжы́ць.*

**Пачапурыцца** *зак.* Панараджацца. *Ніхай іна троху пучупуріцца, калі ж ёй чупуріцца, есьлі ні цяперя.*

**Пачаставаць** *зак. перан. іран.* Пабіць. *Пычастýіць цябе бацька зы ба́лыўства, ох, пычастýіць.* **Пачаставаный** *дзеепрым. Ні ўспакоіcься, дык і ат'етуля пучустува́ный пойдзіш.*

**Пачатніць** *зак.* Пачахнуць, памарнець. *Ён саўсім хворый вярнуўся, пыча́тніў тут з год і пашоў на тэй сьвет.*

**Пачом** *часц.* Адкуль *Пачом я знаю, ці буваіць тэй*

*Грішка тут, ці ні буваіць. Пачом мы будзім знаць пры вашых сватоў?*

**Пачопка** *ж.* Почапка. *Во я прівізаў к карзіні ряменныю пачопку, ета ні парьвецца. Памянш.* **пачопачка.** *Сюда б тожа нада была ікая-небудзь пачопычка.*

**Пачухацца** *зак. перан.* Патурбавацца. *У сям'е ён жыў, дык нічога ні знаў, усё було гатовыя, а аднаму прідзіцца пачухыцца.*

**Пачыгаць** *зак.* Пажыць у нястачы. *Ад гультайства пачыгыў, нягож ач чаго, разьві такей лабрэт ня мог пызабоціцца, каб прідбаць сабе ўсяго.*

**Пачыканіцца** *зак.* Пакешкацца, павазіцца. *С табою Сямёнывы німала пычыканіліся, а я табе ў зубы глядзець ні стану.*

**Пачыкаць** *зак. жарт.* Парэзаць. *Ці ня ты мне тут моркву пачыкыў?* **Пачыкацца** *зак. перан. неадабр.* Павазіцца, пакешкацца. *Ты тожа пырядышна пачыкылыся зь ім, а каб раншы ўзіла ў шоры, куды б луччы було.* **Пачыканый** *дзеепрым. Склаў пачыкыныя цьвяткі і пабег, ах, балыўнік.*

**Пачыкрыжыць** *зак. жарт.* Парэзаць. *Ты відзіў, скольска ён бульбы пычыкрыжыў, — во табе й маленькій.* **Пачыкрыжаный** *дзеепрым. Усып ужо ў карзінку пычыкрыжыныя яблыкі, карова паесьць.*

**Пачыкрыніць** *зак. жарт.* Парэзаць. *Ці ня вы пычыкрінілі стольска бульбы?* **Пачыкрыніцца** *зак. неадабр.* Паваждацца з асцярожнасцю. *Я с табою ні пычыкрінюсь, ты ў мяне заўтря пойдзіш і с касою, і з грабількымі.* **Пачыкрыненый, пачыкрынетый** *дзеепрым.* Парэзаны. *У цябе ўжо усе яблыкі пычыкрініны, пастой, я яшчэ карзінку сыбяру. Вун пычыкрінітых быракоў ныкладзі чугунок і хваціць сь цябе.*

**Пачэгнуць** *зак.* Схуднець, памарнець. *Калі троху пачэгнуць яны ў мяне, ты дужа ні клыпаці.*

**Пашабуцець** *зак.* Пашумець, пакрычаць, пабуяніць. *Ці ня ўздумыў ён і тута пушубуцець, дык нашы хлопцы яго жыва асодзюць.* **Пашабуцёмшы** *дзеепрысл. Ні пушубуцёмшы, ты, відна, саўсім ня можыш.*

**Пашаваліць, пашавяліць** *зак. перан. гумар.* Пайсці спрытна. *Відзіш, як пышывалiў у Різанцы, паспробый спраўся зь ім. Узноў у лес пышывялілі, нагледзюць лашчынкі, а тады выкашыюць.*

**Пашалапуціцца, пашалапутнічаць, пашалапутнічац-**

**ца** *зак.* Павычварацць, пазадавацца. *Доўга ён ні пышылапўцiцца, Рiпiна скора апсякець. Што ты зь яго хочыш, цi яго бацька мала пышылапўтнiчый. Каб жа яны троху пышылапўтнiчылiся, ато ж кынца краю ня вiдна шылапўтнiчыньню.*

**Пашалацца** *зак.* Пабадзяцца, пашвэндацца. *Троху па сьвету пышылáўся, нiйдзе прiтўльля нi найшоў, цяперь у горыдзi жывець, у зiцях у нейкiя.*

**Пашанiчына** *ж.* Каліва пшаніцы, пшаніца наогул. *Пышаніцы ў мяне ні пышанíчыны німа, дайжа аднаго зяренца. Пы ячменю пышанíчыны кой-айдзе тырчаць. Нада і пышанíчыну у зямлю ўкінуць, хуць ны бліны калі якей пуд зьмеліцца. Памянш.* **пашанічынка.** *Тут ячмень пасеін, а во ета пышанíчынкі ўсходзюць.*

**Пашарахаць** *зак.* Пацерці. *Ты тута гыльнíком пышырáхый, далжно аць церцца.* **Пашарахацца** *зак.* Пацерціся. *Пышырáхыісься раз ды другей, дык пінжачок станіць, што ні ататреш і ні атмы́іш.* **Пашараханый** *дзеепрым. Плечы твае пышырáхыныя, пряма полысы рідамі уперік.*

**Пашарахоніцца** *зак.* Парыхтавацца дзейсна, з шумам. *Ён думый, што й тута пышырахоніцца, як у дваре, ажно тута скызалі: сядзь-ка ты, хлопіц, і ўнíміся.*

**Пашарбаваный** *дзеепрым.* Гранёны. *Быў і пушурбувáный стыкан, ды разьбіўся, гладкія астáліся.*

**Пашарсціць** *зак.* 1. Знішчыць, нанесці страты. *Ваўкí могуць пышарсьціць авец, яны тута ці ня вы́віліся, цігаюцца.* 2 *перан.* Пабіць, адлупцаваць. *Вас нада було даўно пышарсьціць ладна, каб забылі пры сад.*

**Пашарудзіць** *зак.* Падбадзёрыць, падагнаць. *Ты іх пушурудзі, ато яны доўга будуць кулупáцца.* **Пашарудзіцца** *зак.* Падбадзёрыцца, пачаць рабіць хутчэй. *Як скызаў, тады яны пушурудзіліся троху. Скызалі, што Іхімёнык едзіць, дык яны пушурудзіліся.*

**Пашарыць** *зак. неадабр.* Пашукаць старанна. *Ці ня ты ета пышáріў пы кырманых, у мяне ў куртычкі ліжалі канхветкі, дык ужо німа.* **Пашараный** *дзеепрым. Я зразу пызнаў, што тута раншы пышáріна.*

**Пашвагрыцца** *зак. жарт.* Стаць шваграмі. *Як пышвыгрáцца, тады ў іх будзіць пріяцільства — вадою ні разьліць.* **Пашвагрэніцца** *зак.* Стаць швагеркамі. *Вы ўжо і пышвагреніцца пасьпелі?*

**Пашвіргаць** *зак. неадабр.* Пакідаць са злосцю, ня-

дбайна, пашпурляць. *Тама ўсякыга лымачча було многа, ён пышвірьгаў уніз.* **Пашвіргацца** *зак.* Пакідацца са злосцю, пашпурляць адзін у аднаго. *Пышвірьгаліся камлыжкымі адзін у другога, а тады пабеглі разым к кустам.* **Пашвірганый** *дзеепрым. Усё тваё тряп'ё ны масту ляжыць пышвірьганыя.*

**Пашкарудзіцца, пашкаруднічаць, пашкаруднічацца** *зак. неадабр.* Пазадзірацца, павычвараць. *Ці я ні знаю, што зь яго будзіць? — пышкарюдзіцца і ўспакоіцца. Пышкарюднічыць ён усігда любіў, пріродзьдзя такоя. Дужа ён ня мог уседзіць, ды пышкарюднічыцца ні далі.*

**Пашкарыднічаць, пашкарыднічацца** *зак. неадабр.* Пазадзірацца, павычвараць зацята. *Ого, Трыхімёнык умеіць пышкаріднічыць, ён сябе ціряшчур вісока нясець. У нас ба ён столька ні пышкаріднічыўся, жыва пріпуцілі б, што ня піснуў ба.*

**Пашкумардзіць** *зак.* Парваць, падзерці, пашкуматаць. *Куртычкі свае пушкумардзілі, што толька выкінуць асталыся.* **Пашкумардзіцца** *зак.* Парвацца, падзерціся, пашкуматацца. *Ны табе ўсё пушкумардзілыся, пірядзенься, ні хадзі старцым.* **Пашкумарджаный** *дзеепрым. Ішоў, — нейкыя кухваічка на ём пушкумарджыныя, штаны грязныя, бацінкі разьбітыя.*

**Пашкумаціць** *зак.* Парваць, пашкуматаць. *Чаго ж яны ні пушкумацюць адзёжу, так лазіўшы па йгрушых, тут жалезныя ня выдзіржыць.* **Пашкумаціцца** *зак.* Парвацца, пашкуматацца. *Пінжак пушкумаціўся, што ні надзеніш, нада новый купляць.* **Пашкумачаный** *дзеепрым. Тут бырыхла многа, ды яно ўсё пушкумачыныя.*

**Пашломаць, пашломкаць, пашломкацца** *зак.* Патэпаць. *Лі двыра можна і ў етых чобытых пашломыць, к табе дужа ніхто ні станіць прігліданца. Нічога ён там ня дзелыў, пы грязі троху пашломкыў, прішоў і сеў. Дужа табе хочыцца пашломкыцца упацёмкых, заўтря сходзіш і пыглядзіш, як відна будзіць.*

**Пашлындацца** *зак.* Пабадзяцца, пашвэндацца. *Пойдзіць, каб пашлындыцца пы бызару, можа, каго с пріяцілій устреціць, пыталкуюць. Пашлындыліся па вуліцы, а тады спаць зываліліся.*

**Пашлэпкаць** *зак.* Пайсці няўклюдна. *Некуды Мыкаріха пашлэпкыла ў тэй бок, можа, сваціцю пышла праведыць.* **Пашлэпкацца** *зак.* Пахадзіць няўклюдна. *Пось-*

*лі дыжджа грязь усюдых, пашлэпкыісься, будзіш грязный.*

**Пашныпарыць, пашныхарыць** *зак. неадабр.* Пашукаць празмерна старанна, пранырліва. *Калі ўжо куды зыйшла, іна так ня ўпу́сьціць, усюдых пашны́пырiць, ува ўсе вугалкі гляніць. Кажыцца, йшла і німа, а ета іна пашны́хырiла па пуні, а тады ў хату вылакецца.*

**Пашоччы** *дзеепрысл.* Пайшоўшы. *Пашоччы, трошку сыбраў ба ягыд, яны ішчэ ня ўсе выбрыны. Пашоччы, айдзе-небудзь кышанеш, лішній клок сена ні звыля́іцца.*

**Пашпыняць** *зак.* Пападколваць. *Думыіш, толк бальшэй, што яго пышпыня́лі, у яго совісьці дайжа на мезініц німа.* **Пашпыняный** *дзеепрым. Ён і пышпыня́ный ня дужа за што возьміцца.*

**Пашпыраць** *зак.* 1. Пападганяць. *Ці ты пышпыра́ў, ці не, конь цябе ня слухыіць.* 2 *перан.* Пападколваць. *І хырашо зьдзелылі, што пышпыря́лі яго, можа тут трошку будзіць язык прідзержывыць.* **Пашпыраный** *дзеепрым. Пышпыря́ныму дык трошку стыдна стала, неік пасу́піўся.*

**Паштыраць** *зак.* 1. Пападганяць энергічна. *Мала ты кыня пыштыря́ў, ён дужа ляні́ў.* 2 *перан.* Пападколваць. *Адна — адно, другая — другоя, кучкыю яго ладна пыштыря́лі.* **Паштыраный** *дзеепрым. Пыштыря́ный як рак выскычыў красный.*

**Пашураць** *зак.* Паганяць. *Сыбака Аўдзеіў ладна пушуря́ў авец, яны думылі, верна, што воўк. Вас нада, каб і ні так хто-небудзь пушуря́ў.* **Пашураный** *дзеепрым. Пушуря́ныя воўцы дык дайжа на двор іціць быяцца.*

**Пашурхаць** *зак.* Пабурчаць злосна. *Мала што нервынный, ён пашу́рхыіць, а ты прімоўч, і ціха абойдзіцца, біз ґвалту.*

**Пашчанак** *м.* Сківаца. *Гыварію, што ў яго па́шчынык баліць. Ты ўжо сваімі па́шчынкымі ні хваліся.* **Пашчанне** *н. зб.* Сківаццы. *Як зяўнець, ажно па́шчыньня тряшчы́ць.*

**Пашчыгульнец** *зак.* Зрабіцца больш стройным. *Відзіш, як зы два месіцы пышчыґульнела, як кукылка стала.* **Пашчыгульнелый** *дзеепрым. Пышчыґульнелый пріехыў, брюха айдзе дзелыся.*

**Пашчырыць** *зак.* Пашчыраваць. *Як Мархва жыла ўмесьці, іна пышчырiла, а як паехыла, усё ў іх пашло шы́вырыт-навы́вырыт.*

**Пашчэнне** *н.* Захоўванне посту. *Якоя цяперь пашчэньня, хто цяперя посьціць, ета калі-то дурута́ была, скаромныга пы дзьвінаццыць нядзель ня елі.*

**Паязджацца** *незак. перан.* Поўнасцю падпарадкоўваць. *Яны прівыклі ны Райчонку пыіжджа́цца, дык думылі, што і зь Лявоным так будзіць.*

**Пекла** *н.* Паўкруг над квадратамі ў дзіцячай гульні «У класікі». *Ета дзеці як у кла́сікі гуляюць, паўкругым чэрцюць такую дугу, ета пекла.*

**Пелесаванне** *н.* Моцная лупцоўка. *Як табе посьлі пілісува́ньня, ці успымінаіцца ціріcьсядзельнік?*

**Пелесаваць** *незак.* Моцна лупцаваць. *Як узяўся свайго пілісува́ць, пішчэў ён, пішчэў ды пішчэць большы некуды.*

**Пенухі** *мн.* 1. Невялікія пні ад маладых дрэў. *Канём такея пінухі ня ўзьверніш, трактырым ба ўспыха́ў.* 2. Зачаткі пер'я. *Пінухі тожа нада пывышчыпывыць, ці ты іх варіць будзіш.*

**Пенушок** *м.* Невялікі пень, пяньчук. *Там ёсьць сасновыя пінушкі і, відна, ня дужа крепка сідзяць, каб ныкыпа́ў, паттопа была б ны зімý. Памянш.* **пенушочак.** *То там пінушочык сядзіць, то там, ня ўсе йшчэ вы́рылі.*

**Перабабіць** *зак.* Прыняць роды, спавіць. *Раншы к ёй усігда Антоніху звалі, а меншыга у яе Куліноўна пірібáбіла.* **Перабаблены** *дзеепрым. Ма́лый яе ўжо быў пірібáблін, як мы пріехылі.*

**Перабарсыванне** *н.* Замена абор у лапцях. *Ацсýньса іс сваім пірібáрсывыньнім, пыліць тут мне расьсеўся ныд вадою.*

**Перабарсываць** *незак.* Мяняць аборы ў лапцях. *Нечыга тут пірібáрсывыць, выкідай усё разым.* **Перабарсывацца** *незак. Зал.-бессуб'ект. ад* перабарсываць. *Ня дужа яно пірібáрсывыіцца, вузлы чыпля́юцца.* **Перабарсаць** *зак.* Змяніць аборы ў лапцях. *Я думыў, ты пірібырса́ў, а ты й ні браўся.* **Перабарсацца** *зак. Зал.-бессуб'ект. ад* перабарсаць. *Абора пірібырса́іцца, і можна будзіць набуць ны казьбý.* **Перабарсаны** *дзеепрым. Каб былі пірібырса́ны, дык ба і абуў калі-небудзь.*

**Перабежышча** *н.* Таемны шлях звяроў. *Нідырмá тэй чылавек рыска́зывыў, што вуўчынкá машыныю зыдавілі, ета іхныя пірябежышча, ваўкі тут вядуцца.*

**Перабіндзюгацца** *зак.* Палодарнічаць, пахадзіць без

справы пэўны час. *Лета ў Сьлёзкых пірібіньдзюгáўся, цётка карміла, а ны зіму можа зьедзіць куды.*

**Перабіраннік** *м.* Той, хто перабірае, адбірае. *Січас пірібірáньнікі як прільнýць, зразу работа зугудзіць. Памянш.* **перабіраннічак.** *Ах ты пірібірáньнічык, ты тожа знаіш, якую бульбу нада сеіць.* **Перабіранніца** *ж. У аднае пірібірáньніцы ужо атвалілыся ахота, на сонца пыглідáіць.*

**Перабіраць** *незак. перан.* 1. Аглядаць, папраўляць пасля акучвання. *Бульбу атпыхáлі, нада пірібірáць, ёсьць засыпыныя кусьцікі.* 2. Выяўляць пераборлівасць. *Нечыга пірібірáць, што дыла, тоя й еж.* **Перабраць** *зак.* Паправіць пасля акучвання. *Мы ўдзьвюх станім, зу пуўдня́ абойдзім етыя грядкі, пірібярём.* **Перабіраный, перабраный** *дзеепрым.* Папраўлены пасля акучвання. *Во етыя грядкі пірібірáныя, а тута мы ні пасьпелі. Ты ёй пыкажы, айдзе пірібрáныя борызны, айдзе не.*

**Перабірлівый, перабірастый** *прым.* Пераборлівы. *Раншы ты ня быў пірябірлівым, ета цябе мылыдая жонка к прісмáкым пріўчыла. Мыя карова ня дужа пірябірістыя, стрýшынкі ныкладу і паесьць.*

**Пераблуканяцца** *зак.* Прахадзіць без справы і без мэты, праблукаць. *Думыіш, ён работыць будзіць? — ета во прічаліўся, каб пірiблукуня́цца нескылька месіцыў.*

**Перабрыляць** *зак.* Пабаранаваць абы-як. *Якоя там скырaджэньня, пірібрыля́ў, трошку раўней пахыта стала.* **Перабрыляный** *дзеепрым. Ай, так пірібрыля́на, нада яшчэ раз борыны пускаць.*

**Перавазграўліваць** *незак.* Квэцаць, пэцкаць. *Большы ты мне так ня будзіш посыд пірівызґря́ўлівыць.* **Перавазграўлівацца** *незак.* Квэцацца, пэцкацца. *Нечыга пірівызґря́ўлівыцца, вылізай з зáсіка, тама ўсё пырызьмя́кла.* **Перавазгравіць** *зак.* Пераквэцаць, перапэцкаць. *Такей-то абед, а ўвесь посыд пірівызґря́вілі, што ні дамыцца.* **Перавазгравіцца** *зак.* Пераквэцацца, перапэцкацца. *А божычка ж ты мой, ці ета дзіцёнык сядзіць, ці хто, ці відзіця вы, як ён пірівызґря́віўся.* **Перавазграўлены** *дзеепрым. Кідай усё пірівызґря́ўліныя у шайку, я сяньня буду мыць.*

**Перавазграціць, перавазгроціць** *зак.* Пераквэцаць, перапэцкаць. *Глядзіця, вы мне узноў пірівызґря́ціця усё як учора. Ты й так усё пірівазґрёціла большы некуды.* **Перавазграціцца, перавазгроціцца** *зак.* Пераквэцацца,

перапэцкацца. *Усё ў цябе ны стале пірівызґряцілыся, што ні пуцступіцца. Можа пірівазґрёціцца, а можа й так абойдзіцца.* **Перавазграчаный, перавазгрочаный** *дзеепрым. Во яны, лі шáічкі твае міскі пірівызґрячыныя. Пірівазґрёчына, зыкарела, паспробый дамыйся.*

**Пераналантырыць, пераналантырыцца** *зак.* Шмат памарудзіць, пакешкацца. *Ён думыіць етый месіц пірівылантыріць, а тады паедзіць і ўсё пы ўсяму будзіць. Сколька ён пірівылантыріўся с такою ірундою, усё то там, то там сáрвывылыся.*

**Паравалхвіць** *зак.* Залішне напесціць. *Валхві, ды ні пірівалхві, ато ўжо ты сыма ні знаіш, што яму паднесьць.*

**Пераварзёкаць, пераварзёпаць, пераварзёпкаць** *зак.* Перамазаць вельмі, вымазаць. *Пакуля пад'елі, дык увесь стол піріварзёкылі. Доўга ім піріварзёпыць адзёжу? Нашто ж ты так пасуду піріварзёпкыў?* **Пераварзёканый, пераварзёпаный, пераварзёпканый** *дзеепрым. Кладзі ў тазік піріварзёкыныя тарелкі, січас буду ваду дыстывáць. Прішлі упацёмкых піріварзёпыныя у грязь. Ета і новінькія рубашычкі піріварзёпкыны?*

**Пераваяваць** *зак. перан. гумар.* Шмат зрабіць. *Ты пыглядзі-ка, столька ён адзін тут пірівуювáў, мы б удваіх столька ні пірякідылі.*

**Переведыванне** *н.* Наведванне. *У вас, відна, ніплахоя было піряведывыньня, Прося біш чустувáньня с хаты ня выпусьціць.*

**Перавухраць, перавухрываць** *незак.* Перавучваць, перавыхоўваць. *Узялыся свайго дзевіря пірівухряць. Сколька ты будзіш яго піряву́хрівыць, ён ужо к аднаму прівык.* **Перавухрыць** *зак.* Перавучыць, навучыць празмерна. *Ты, знаць, свайго ціряшчур пірівухріла, ён ужо йдзець і на сьвет ні глядзіць.* **Перавухраный** *дзеепрым. Яно й відна, што піряву́хрiныя, насы пызыдзірáлі — ні дыстаць.*

**Перагаджыванне** *н.* Моцнае псаванне. *Я дужа ні люблю пірігáджывыньня, што йта, нільзя прібраць палюдзку ці што?*

**Перагаджываць** *незак.* Моцна псаваць. *Нашто січас лугавоя сена пірігáджывыць, яно табе луччы спынáдыбіцца у марозы.* **Перагаджывацца** *незак.* Моцна псавацца. *Як ета у вас уся адзежа пірігáджывыіцца, разьві ж можна у грязь ныдзіваць чыстый касьцюм?*

**Перагадзіць** *зак.* Дагадзіць звыш меры. *Ты ўжо сыма ні знала, як угыждáць етым сваім гысьцям, ты ім ужо ціряшчур пірігадзіла.*

**Перагамзіць, перагамзаць, перагэмзаць** *зак.* Збузаваць, змяць дашчэнту. *Ну што ты зьдзелый, пірігамзіў касьцюмы і ўсё, што ў празьнік надзеніш? Пірігымзáць адзёжу нядоўга, а я табе ўсякій раз ні нуспруўляюся. Пірягэмзыла плáцьці зы два месіцы, ды такея плацьці былі!* **Перагамзіцца, перагамзацца, перагэмзацца** *зак.* Збузавацца, змяцца дашчэнту. *Якея былі зірняткі, пірігамзіліся ісь сьмяцьцём, курям хуць пасып, вы́біруць. У нізґрáйніка усё пірігымзáіцца. Сколька ў цябе чаго пірягэмзылыся, а ты ж мог усё прібірáць як нада.* **Перагамжоный, перагамзаный, перагэмзаный** *дзеепрым. Сь пірігамжоныга ужо трудна што-небудзь выбірaць. Тріп'я ў яе многа, дык яно ўсё пірігымзáныя. Глядзі, там вун куча пірягэмзыных трáнтыў ляжы́ць.*

**Перагарныванне** *н.* Перагортванне. *Ныпрáсныя ета работа, тут можна і бісь пірігáртывыння абыйціцца.*

**Перагарнываць** *незак.* Перагортваць. *Мáлінькія куччкі тожа пірігáрнывый уместа, прікры́ім саломыю і ніхай ляжыць.* **Перагарнывацца** *незак.* Перагортвацца. *Ня будзіць тут нічога пірігáрнывыцца, яно ўсё на месьці.*

**Пераглумачываць** *незак.* Псаваць, марнатравіць. *Я б табе дужа ні саветывыла піріглумáчывыць етыю атáўку, іна дужа ядомыя.* **Пераглумачывацца** *незак.* Псавацца, марнатравіцца. *У цябе многа чаго піріглумáчывыіцца.* **Пераглумачыць** *зак.* Сапсаваць, змарнатравіць. *Піріглумáчыла погріб бульбы, пылавіну пымарозіла, путнэй ба чылавек азылаціўся ат яе.* **Пераглумачыцца** *зак.* Сапсавацца, змарнатравіцца. *У такіх хызяіныў ішчэ ня столька дыбра піріглумáчыцца.* **Пераглумачаный** *дзеепрым. Піріглумáчыных плацьціў ты ўжо ні надзеніш.*

**Перагойзаць** *зак. неадабр.* Ператаптаць, перабузаваць. *Растрёс салому прусушы́ць, дык яны дадуць прасохнуць? — пірягойзылі усю чыста, у жмýркі хуваліся і ныгамі шукалі.* **Перагойзаный** *дзеепрым. Як астáнуцца адны, усё будзіць пірягойзына.*

**Перадаражыцца** *зак.* Запрасіць занадта дорага. *Усё хацеў большы ўзяць зы пацьсьвінка, пірідыражы́ўся і павёз двору.*

**Перадзешавіць, перадзешавіцца** *зак.* Прадаць занадта танна. *А я пірідзішавіла с цубулію, можна було пы-*

*стыяць і большы ўзяць. Ты ўсё баісься, каб ні пірідзішавіцца, ськівуў ба паўсотню, людзі б зыбрáлі і пашоў ба двору.*

**Перадлінніваць** *незак.* Рабіць даўжэйшым, чым трэба. *Плáцьця, як каротка, нікрасіва, ну й пірядліньнівыць ні нада, каб пы пітах шлёпылыся.* **Перадлінніць** *зак.* Зрабіць даўжэйшым, чым трэба. *Пірідліньніла йна табе рубашку, нада атрезыць і пудрубіць.* **Перадліннены, перадліннёный** *дзеепрым. Нікчомныя кохта — і пірядліньніныя, і сядзіць неік саўсім мехым. Ета рубашка пірідліньнёныя, яе нада пасьці на чэцьвірць падрезыць.*

**Перадрыгаць** *зак. перан. іран.* Пахадзіць пэўны час. *Ты і ў етых штынах пірядрыґыіш, табе ладны будуць.*

**Перадрыгнуць** *зак.* Перамерзнуць. *Каб ты пірядрыґ так, як мы, дык ба табе було ні ду гульні, глядзеў ба, каб скарей атагрецца.*

**Перадуковываць** *незак.* Перавучваць. *Позна цяперіцька пірідуковывыць, нада було змалку ні пызвылáць руспускáцца.* **Перадукаваць** *зак.* Перавучыць. *Глядзі, пірідукýіш ты іх, кылі яны дайжа у тэй бок ні глідзяць, што ты гаворіш.* **Перадукаваный, перадукованый** *дзеепрым. Пулучыў аць цёткі узбучку, цяпера ты будзіш пірідукувáный. Аць цябе усе пірідуковыныя ідуць.*

**Перажалець** *зак.* 1. Нашкадавацца залішне. *Дужа ты яго піріжалела, усё: мáленькій, мáлінькій,— а цяперя вырыс лыбытрáс, палкі дроў ні расколіць.* 2. Перастаць шкадаваць. *Ты свайго Пецічку, відна, піріжалела, што і глянуць у яго бок ня хочыш.*

**Пераждацца** *зак.* Прачакацца. *Цябе ўсё німа і німа, яны піріждáліся сядзеўшы, ужо хацелі іціць двору.*

**Перажыджываць** *незак.* Рабіць занадта вадкім. *Крупеню піряжыджывыць нілізя, іна тады нісмашна.* **Перажыдзіць** *зак.* Зрабіць занадта вадкім. *Піріжыдзіла ты сяньня кулеш, нада б кыпілінычку гусьцей.* **Перажыджаный, перажыджоный** *дзеепрым. Каб ні піряжыджына, іна б смашныя капуста была. Быракі нічога, ды піріжыджоныя.*

**Перажымаць** *незак.* Пераціскаць. *Бáлыюцца, дурачуцца цэлый дзень, піріжымáюць адзін другога.* **Перажмаць** *зак.* Пераціснуць. *Тута нада крепка піріжмáць, каб дайжа ні пувурушылыся нічога.* **Пержжматый** *дзеепрым. Пыбылá рука піріжмáтыя, і нямнога, а пальцы сталі сінець.*

**Пeражыў** *м.* Пеpажыванне. *Марья апала на ногі з бальшога піряжыву, а ён саўсім палуччыў, ходзіць як гогыль.*

**Перазімак** *м.* Перазімавалы маладняк свойскай жывёлы (звыч. свіней). *У мяне два пірязімкі, аднаго прыдам, капейчына на расходы будзіць, а другога ґ зіме пыткычаю. Памянш.* **перазімачак.** *Нічога пірязімычык бегыіць пы двару, заб'ець, дык крошка у гаршчок будзіць.*

**Перазываць** *незак.* Запрашаць у госці ў адказ на гасціннасць. *Сяньня Кузьмовым ні ды цябе, яны пірізываюць Лявоныўых, самі ў іх гулялі.* **Перазваць** *зак.* Запрасіць у госці ў адказ на гасціннасць. *Вы былі у Андрея, нада ж будзіць і вам пірізваць, і дужа далёка ні атклaдывыйця.* **Перазваный** *дзеепрым.* *Ідуць вашы пірізваныя, сустрюкаць нада.*

**Перакавік** *м.,* **перакавіна, перакавушка, перакавушына** *ж.* Папярочная перакладзіна. *Хадзі-ка ты сюда, памож пірікавік усьцягнуць, ён ціжулуват. Ны пірікавіны у мяне адзьдзельна палкі ліжаць. Як паложым пірікавушкі, тады у мяне пылавіна работы атпадзець. Урубі пірікавушыну, а зьверьху пы кынцах пы гвазду забі. Памянш.* **перакавічок, перакавінка, перакавушачка, перакавушынка.** *Мы тут два пірікывічкі атрезылі, січас паложым. Пірікавінка нада кырацейшыя, палкі на дзьве нада пыкырацiць. Пірікавушычкі адзьдзельна пылажыў кыла доўгіх збоку. Тут між сукоў піряпілім, пірікавушынка палучыцца.*

**Перакавэй, перакавый** *прым.* Папярочны. *Пірікавэя планкі тута чуць ліпяць, пасьці саўсім ні дзіржацца. Прібіў пірікавыя жордычкі, вы палычык ацьсякіця, нада будзіць прібіваць дальшы.*

**Перакаівацца** *незак.* Глыбока раскайвацца. *Сяньня будзіць пірікаівыцца, а нызаўтріга усё забыў.* **Перакаяцца** *зак.* Глыбока раскаяцца. *Ён ужо ні раз пірікаіўся, што так гыварiў.*

**Перакапцець** *зак. перан.* Пеpажыць, пражыць (пра ціхае, сумнае жыццё). *Жызьня яе абычайныя: зіму у дачкі пірікапцела, а на лета сюда пріехыла.*

**Перакархаць** *зак. перан.* Пеpажыць (са слабым здароўем). *Халодныя ўремя пірікархыў і ладна, а вясною ужо як-небудзь цярьпець можна, ета ні марозы-пікуны. Етыя месіцы ён і там пірікырхаіць.*

**Перакахікаць** *зак. перан.* Пераэжыць (пра слабога на лёгкія). *Марозы пірікахікыіш на печы, а там падойдзіць цёплыя ўремя, ты й саўсім акліяіш.*

**Перакачаць** *зак. перан.* Прагадаваць. *Пацьцёлка пірікычáць ніплахоя дзела, яго ўсігда прыдасі і капейка будзіць.* **Перакачацца** *зак.* Прагадавацца. *Я ўжо думыла, зь іх нічога ня будзіць, а во пірікычáліся і ладныя пырысяткі сталі.* **Перакачаный** *дзеепрым. Лішнія пірікычáныя авечка ні пымішáіць: і капусты зваріш зь мясны́м, і аўчынку вы́дзілыіш.*

**Пераківацца** *зак. перан.* Перахадзіць (у стане хваробы). *І гылыва баліць, і работы дужа многа, можа якнебудзь піріківаюся патрошку.*

**Перакідывацца, перакідацца** *незак. перан.* Класціся, лажыцца адпачыць на кароткі час. *Некылі пірякідывыцца, конь запрежын, гыняць бульбу нада. Калі ён надўмыўся пірікідáцца, у самыю гырячыю мінуту.* **Перакінуцца** *зак.* Легчы адпачыць на кароткі час. *Ны саломі ў пуні пірякінуўся твой Хведзька, ну ніхай пыляжы́ць, ён сяньня зымаріўся.*

**Пераклыпаць** *зак.* Прахадзіць з цяжкасцю (пра старога, слабога). *Нашто мне тэя новыя, піряклы́пыю я і ў етых атопкых.*

**Пераклычыць** *зак.* Памяць, пацерці, паблытаць (звыч. салому). *Куры піряклы́чылі салому, усё пірікыпáлі, кой-айдзе зірняты пупыдáюцца.* **Пераклычыцца** *зак.* Памяцца, пацерціся, паблытацца (звыч. пра салому). *Салома як піряклы́чыцца, тады іна толька ны пацьсьцілку.* **Пераклычаный** *дзеепрым. Што ты будзіш выбіраць, тута ўсё піряклы́чына.*

**Пераксціць** *зак.* 1. Перахрысціць. *Мыя старуха кызала, каб дзіцёнка піряксьціць, мы ні паслухылі. Наш дзед, бувала, лоб ні піряксьці, і за стол ня пусьціць.* 2 *перан. іран.* Аблаяць, збэсціць. *Гапычка цябе як піряксьціць, дык ты зырякесься дайжа пымінáць яе сына.* 3 *перан.* Моцна ўдарыць. *Будзіш так во лезьць, ныдыідáць, дык ён цябе піряксьціць.* **Пераксціцца** *зак.* 1. Перахрысціцца. *Піряксьціся, чылавек, як табе ня стыдна гывáріць, нічога ні знаўшы.* 2. Выслухаць лаянку. *Схадзіў, піряксьціўся і нызад ідзець.* **Перакшчоный** *дзеепрым.* 1. Перахрышчаны. *Раншы у кажныга дзеці былі пірякшчоны.* 2. Аблаяны, збэшчаны. *Пойдзіш пірякшчоный, іна табе дасьць сьмешычкі.* 3. Пабіты. *Пірякшчоный пыбя-*

*гіш ты січас.* **Пераксцёмшы** *дзеепрысл.* 1. Перахрысціўшы. *Піряксьцёмшы дзіцёнка, усігда угышчáлі кумоў, сваіх.* 2. Аблаяўшы, збэсціўшы. *Піряксьцёмшы аднаго, зу другога бярецца.*

**Перакулажыцца** *зак.* 1. Перастаць хмарыцца, пачаць паказваць на пагоду. *З раньня було як аблажы́ла, а цяперя відзіш, можа пірікулáжыцца, ня будзіць дыжджá.* 2 *перан.* Перастаць хныкаць, плакаць (пра дзіця). *Доўга нешта хны́кыў, а пірікулáжыўся і заснуў.*

**Перакуска** *ж.* 1. Яда (для сілкавання на рабоце, у дарозе). *Нясі-ка ты пірякýску сваю, можа там што-небудзь смáшнінькыя ёсьць.* 2. Перакус. *Нешта пірякýска ваша цягніцца дужа доўга.*

**Пералапатаць** *зак. перан. неадабр.* Перабраць у балбатні. *Як сойдуцца, дык пакуль усяго на сьвеці ні пірілапочуць, ты іх ні рысьцягніш.* **Пералапатаный** *дзеепрым. Вы ўжо самі ні знаіця, сколька ў вас чаго пірілыпытáна.*

**Пералёжка** *ж.* Пераляжалы лён. *Пірялёжку пасьледнім номірым прінімаюць, ато дык і саўсім ня хочуць браць.*

**Пералівы, пераліўкі** *мн. неадабр.* Балбатня. *Ты б зь імі, кажыцца, дзень і ноч сядзеў, а я дужа ні люблю пірялівы слухыць. Сыбярýцца, рысьсядуцца, як зывядуць сваe піряліўкі, дык ім, здаецца, кынцá краю ні разу ня будзіць.*

**Перамадзець** *зак.* Пеpажыць пэўны час (у цяжкіх умовах або са слабым здароўем). *Ету зімý іна тута якнебудзь пірімадзеіць, а большы не, ні астáніцца.*

**Перамантачыць** *зак.* Змарнатравіць. *Дужа многа ты дыбра пірімынтáчыў, як толька Пёкла дзяржыць цябе ў хаці.* **Перамантачыцца** *зак.* Змарнатравіцца. *Усяго ў цябе пірімынтáчылысь, ты ўжо даўно мог абжыцца як другея.* **Перамантачаный** *дзеепрым. Пірімынтáчыныя нызад ня верніш, позна цяперь жалець.*

**Пераменчыватый** *прым.* Пераменлівы. *Нейкій веціp сяньня пірямeнчывытый, са ўсіх бакоў крýціць. Хрáкцір у яго пірямeнчывытый, сяньня так, а ныз́áўтріга пу-другому.*

**Перамёт** *м.* Сумёт, гурба. *Па ўсёй дарогі усьцяж пірямёты, мясьцíна чы́стыя, а тады сьнегу намецíна чуць ня ў рост чылавека. Памянш.* **перамёцік.** *Пірямёцікі нібальшэя, ну па ўсёй дарогі, ніва́жна ехыць.*

**Перамот** *м.* Перамотка. *Як нывіва́іш кросны, ніткі неік зыска́кыюць, пулуча́іцца пірямот.*

**Перамягнуць** *зак.* Намучыцца ад смагі, спякоты. *Дужа жа́рка, а вады німа, мы тамыцька пірімя́глі.* **Перамяглый** *прым. Тут пат крышыю ды́хыць нечым, а яны ж на сонцы стыяць пірімя́глыя.*

**Перамярковываць** *незак.* Перараэмяркоўваць. *А што тута пірімярьковывыць, па-мойму, усё правільна зьдзелына.* **Перамярковывацца** *незак.* Перараэмяркоўвацца. *Гыварілі, што сінакос будзіць пірімярьковывыцца.* **Перамеркаваць** *зак.* Перараэмеркаваць. *Калі ўсе цьвёрда скажуць, дык пірімярьку́юць.* **Перамеркавацца** *зак.* Перараэмеркавацца. *Ніхай ба так ішло, калі ета яно пірімярьку́іцца.* **Перамеркаваный** *дзеепрым. Пірімірькува́ныга я ны два пу́ды большы пулучы́ў.*

**Перануць** *зак.* Моцна ўдарыць. *Каб яны цябе піряну́лі аць сябе ладна, ты б тады атаўчы́ўся пыцска́кывыць, ато іш ты яго, узяў моду.* **Перанущца** *зак.* Моцна ўдарыцца. *Бег, а тады як пірянецца аб ву́гыл, ажно схваціўся зы плячо.* **Перанутый** *дзеепрым. Піряну́тый ацскачыў, айдзе й воґірьства дзелыся, уміг сыскачы́ла.*

**Перапаласкываць** *незак.* 1. Перапалоскваць. *Большы я ня буду піріпыла́скывыць, яно чыстыя.* 2 *перан. неадабр.* Абгаворваць. *Нашто йта вам піріпыла́скывыць людзей?* **Перапаласнуць** *зак.* Перапаласкаць. *Я січас кохтычкі піріпыласну́ і пыбягім, я сыма знаю, што заседжывыцца нілізя́.* **Перапаласнуцца** *зак.* Перапаласкацца. *Калі й трошку пыгыдзя́ піріпыласьнецца, ні страшна, ідзі сьпірва карову падой.* **Перапаласнутый** *дзеепрым. Усё піріпыласну́тыя у тазу ляжы́ць, нада там, нывярьху́ пыразьвешывыць, ніхай сохніць.*

**Перапалаць** *зак.* Правеяць абтоўчанае зерне пры дапамозе начовак. *Крупы патоўчыны, січас піріпыла́ю ды буду ставіць крупеню.* **Перапалацца** *зак. Зал.-бессуб'ект. ад* перапалаць. *Піріпыла́юцца тваe крупы, хадзі пымагі мяшкі пыдаць.* **Перапаланый** *дзеепрым. Есьлі піріпыла́на, дык мый, буду кіпятком нылівaць.*

**Перапалоцца** *зак. іран.* Стаміцца полючы. *Ты ўжо дужа піріпалолыся сяньня: ны адной гря́дкі пысядзела час.*

**Перапасвіць, перапасцівіць** *зак.* Прапасвіць пэўны час. *Зайтря піріпасём скот, тады на дзьве нядзелі свабодны. Ету вочырідзь ты нам пымагі пірі́па́сьцівіць.*

**Перапасвіцца, перапасцівіцца** *зак.* Перапасвіць пэўны час, стаміцца пасучы. *Як вочырідзь піріпасецца, дык як камінь с плячэй зваліцца. Дужа вы зы адзін дзень пірі-пасьвіліся, як тольки жывы. Ні так ужо ты піріпасьці-віўся, ні прістыўляйся.* **Перапасвены, перапасцівены** *дзеепрым. У мяне адна вочырідзь піріпасьвіна, я пасьвіў зы Андреівых. Як скот піріпасьцівін, пустуху атліга, хлеба заробіў, сядзі і еж.*

**Перапіхнуць, перапхнуць** *зак. перан.* Перадаць (пе-ранесці, перавезці) таемна. *Сколька було бырыхла, іна туды, за Сож сваім піріпіхнула. Сколька чаго яны піряп-хнулі сваім, тама сям'ішча, ратоў многа, а рук мала, дык етыя іх і кормюць.* **Перапхнутый** *дзеепрым. А што вы за ўсё піряпхнутыя пулучылі, яны вам і спасіба ні скызалі ні разу.*

**Пераплюгавіць** *зак.* 1. Папсаваць значную колькасць. *Усе рубашкі піріплюгавіў, што ны свадзьбу надзець не-чыга.* 2 *перан.* Збэсціць канчаткова. *Іна любога чылаве-ка скырявіць, піріплюгавіць, кырявей кырявыя анучы зьдзелыіць.* **Пераплюгавіцца** *зак.* Папсавацца (пра знач-ную колькасць). *Якей хызяін, так яно і йдзець: сена пі-ріплюгавілыся, бульба памёрзла, як ён дальшы думыіць на сьвеці жыць.* **Пераплюгаўлены** *дзеепрым. Піріплю-гаўліныя транты твае нікому ні нада, ніхто на іх ні пыгаліцца.*

**Перапрыгыванне** *н.* 1. Пераскокванне. *Будзіць піря-прыгывыньня, як шубулдыхніць каторый у кынаву.* 2 *перан.* Пераўзыходжанне. *А што мне яго піряпрыгы-выньня, ніхай каго хочыць піряпрыгывыіць ці піріскакы-выіць.*

**Перапрыгыванніk** *м.* Той, хто пераскоквае. *Такея пі-ряпрыгывыньнікі каб ног ні пывыкручывылі прыгыўшы.* **Перапрыгыванніца** *ж. Во ікая ты піряпрыгывыньніца, луччы ўсіх прыгнула.*

**Перапрыгываць** *незак. перан.* Пераўзыходзіць. *Ні та-го ты зьбіраісься піряпрыгывыць, Мільлянёнык даўно тоя забыў, пра што ты і ня думыў.* **Перапрыгнуць** *зак.* Пераўзысці. *Айдзе табе піряпрыгнуць Сямёна, ён і ні прасьпіць і ні прыляжыць, а ты туняісься з дня ў дзень.*

**Перапусканне** *н.* Правейванне перасыпаннем. *Ёсьць у ячменю сьмяцьцё і посьлі піріпусканьня, ня дужа ат-веілыся.*

**Перапускаць** *незак.* Правейваць перасыпаннем. *Ай-*

*дзе-то ны дваре Машка, просу піріпускáіць.* **Перапускацца** *незак.* Правейвацца перасыпаннем. *Раз ветру німа, і піріпускáцца ня будзіць.* **Перапусціць** *зак.* Правеяць перасыпаннем. *Нада пару мяшочыкыў піріпусьціць, каторыя на мельніцу везьць.* **Перапусціцца** *зак.* Правеяцца перасыпаннем. *Ладна піріпусьцілыся, чыста, сьміцьця́ німа.* **Перапусканый, перапушчаный** *дзеепрым. Піріпускáныя проса у начоўкых, я ні пірісыпáла нікуды. Піряпу́шчыныя ссыпця у адзін мяшочык.*

**Перапырхыванне** *н.* Пераскокванне. *Якоя ета піряпы́рьхывыньня — два шагі, во Коля як пырьхніць, чуць ні ны пяць метрыў.*

**Перапырхываць** *незак.* 1. Пераскокваць. *Во якея былі ў нас пы балоту кынавы, я кажныю піряпы́рьхывыў.* 2 *перан.* Пераўзыходзіць. *Ты б усіх піряпы́рьхывыў, толька каб зы цябе хто работыў.* **Перапырхнуць** *зак.* 1. Пераскочыць. *Што тут піряпы́рьхнуць, ірундá, пы́рьхый сьмела з разгону.* 2. Пераўзысці. *Яны ўсе думылі піряпы́рьхнуць Аўдзяёнка, ды ні пулучы́лыся ў іх.*

**Перапялёска** *ж.* Паласатая жывёла. *Красівыя цёлычка піріпялёска, думыіць гудуваць сабе, праўда, яго карова стурувáта.*

**Перапялёсый, перапялёсістый** *прым.* Паласаты, перапалосы. *Бычок нейкій піріпялёсый, як ён такей удаўся. Буваюць і піріпялёсістыя каровы, у нашый дзярэўні была тыкая. Памянш.* **перапялёсенькій.** *Ты ці ні наду́мыўся збувáць сваю піріпялёсінькыю?*

**Перасакатаць** *зак. перан. іран.* Перабалбатаць. *Етыя як сыбяруцца, няскора ўсё пірісакочуць, ім дужа многа урремя нада.*

**Перасаліванне** *н.* Перасольванне. *Ныдаела тваё пірісáлівыньня, як зваріш, кажный раз нілізя у рот узяць.*

**Перасердзіцца** *зак.* Раззлавацца адзін на другога. *Яны пірясердзіліся із-за Тонькі: тэй ны таго, што ты адбіваў Колю, а тэй ны таго.*

**Перaскакываць** *незак.* 1. Пераскокваць. *Ого, ты ўжо так вісока пірíскáкывыіш?* 2 *перан.* Пераўзыходзіць. *Ці табе брацца Сідарёнка пірíскáкывыць!* **Пераскачыць** *зак.* 1. Пераскочыць. *Што яму етый пляцень, пірíскачы́ў і кытану́ў у клевір.* 2. Пераўзысці. *Не ўжо, табе іх ні пірíскачы́ць, як ні цягніся, яны мыладэя, здаровыя, а ты што?*

**Пераскараджыванне** *н.* Перабараноўванне. *Ні гыва-*

*рі, посьлі піріскырáджывыньня зімля многа пымякчэла і глутыpi ні ліжаць, як ліжалі.*

**Пераскараджываць** *незак.* Перабараноўваць. *Нічога тут ні нада піріскырáджывыць, зімля мяккыя, во стáніш, ныга і тоніць.* **Пераскараджывацца** *незак.* Перабараноўвацца. *Ня дужа ахотня ў цябе піріскырáджыіцца, — нада було зразу дзелыць як нада.* **Пераскарадзіць** *зак.* Перабаранаваць. *Праехыў туды — нызад і гатова ў яго, я пыслаў піріскырадзіць.* **Пераскарадзіцца** *зак.* 1. Перабаранавацца. *Піріскырадзілыся, дык мякчэй стала.* 2 *іран.* Стаміцца барануючы. *Ня дужа ён піріскародзіцца, ня тэй чылавек, за кýсьцікымі пыліжáць лю́біць.*

**Перасклець** *зак.* Перастыць, перамерзнуць. *Гылыва твыя, дзеўка, садовыя, як жа ты еткім холыдым у траньцікых пыбягіш, пірясклеіш уся, пірікалеіш, — во і ўсе тваe пріборы будуць.* **Перасклелый** *прым. Як прікоцісься пірясклелый увесь чыста, будзіш тады знаць, ці нада браць ныпрятку, ці ні нада.*

**Перасклімець** *зак.* Пеpaжыць пэўны час хныкаючы, плачучы. *Ну, кылі зіму пірісклімеў, дык вясною вы́дужыіць, вы́нісіш на сонца, на чыстый воздух, і ны пыпраўку дзела пойдзіць.*

**Пераскяпыванне, пераскяпліванне, пераскепліванне** *н.* Расколванне. *С тваім піріськя́пывыньнім рукý пысякеш. Тапор убіў, ні туды ні нызад, во якоя піріськя́плівыньня. Якоя тут пірясьkеплівыньня, кідай, так згаріць.*

**Пераскяпываць, пераскяпліваць, пераскепліваць** *незак.* Расколваць. *Узяўся піріськя́пывыць круглячок ды ні пы палкі, а міма, пы бацінку. Ні нада яе піріськя́плівыць, сухая, згаріць і так. Хто йта так пірясьkеплівыіць? — пацю́кый, пацю́кый і кінуў.* **Пераскяпывацца, пераскяплівацца, пераскеплівацца** *незак.* Расколвацца. *Кажыцца, і тонінькія, а ня дужа піріськя́пыюцца. Сукувáты, ня хочуць піріськя́плівыцца, аж тапор ацскáкыіць. Пірясьkеплівыіцца, ды кругом палкі, павітыя нейкыя дзеріва.* **Пераскяпіць, пераскіпаць** *зак.* Раскалоць. *Піріськяпі што-небудзь роўнінькыя ну лучыну, паттопа будзіць. Тут нескылька палык можна піріськіпáць.* **Пераскяпіцца, пераскіпацца** *зак.* Раскалоцца. *Калі пысярёд пупадзеш, етый целіш зразу пірясьkепіцца. Не, тута ні піріськіпáіцца, кідáй, нада пілою падрезыць.* **Пераскіпаный, пераскепленый** *дзеепрым. Круглых ня трогый, пі-*

*рiськiпáныя бярі. Адзін пень піряськеплін пупылáм, дык яго ж у печ ні ўвапреш. Дзеепрысл.* **пераскяпёмшы.**

**Перaслядзіць** *зак.* Прасачыць, высачыць. *Нейдзі нясецца куріца і ні найду айдзе, ну я яе абізацільна пірісьляджý.*

**Перасмурыжываць** *незак.* Пераціраць трэннем. *Нашто ж табе крепкыю вярёўку пірісмурыжывыць?* **Перасмурыжывацца** *незак.* Пераціраццa ад трэння. *Ці відзіш, што ў цябе вожкі пірісмурыжывыюцца.* **Перасмурыжыць** *зак.* Перацерці трэннем. *Бáлывыліся цэлый дзень, вожычкі крепінькія былі — пірісмурыжылі: піріцягывылі адзін аднаго ціряс крюк.* **Перасмурыжыцца** *зак.* Перацерціся ад трэння. *Доўга цёршы, любая вяроўка пірісмурыжыцца, самыя крепкыя.* **Перасмурыжаный** *дзеепрым. Твыя задоўка на сенцых пірісмурыжыныя выляіцца.*

**Перасмядзіць** *зак.* Пражыць у безнадзейным стане. *Бальшэй бог будзіць, калі ваш Кірей пірісьмядзіць ету восінь, на ём пряма сьмярётныя ўсё.*

**Пераспялянне, пераспеліванне** *н.* Празмерная спеласць. *Нашто табе пірісьпілянньня, зілінкáвінькія етыя яблыкі дайжа смашней. А ну цябе с тваім пірясьпелівыньнім, ідзі ды абарьві.*

**Пераспяляць** *незак.* Пераспельваць, даваць магчымасць стаць вельмі спелым. *Дýлькі пірісьпіляць ні нада, яны тады нісмáшныя.* **Пераспяліць** *зак.* Пераспеліць, даць магчымасць стаць вельмі спелым. *Вінныю яблыну ты пірісьпяліў, нада було раншы зьнімаць.*

**Перастрэціць** *зак.* Сустрэць спецыяльна з нядобрымі намерамі. *Будзіш так апыстыляцца, яны цябе калі-небудзь пірястрецюць аднаго.*

**Перастыванне** *н.* Празмернае ахаладжэнне. *Пірістывáньня так ні праходзіць, калі-калі, ды атрыгнецца.*

**Перастываць** *незак.* Перамярзаць. *Ай, ці раз я пірістывáла, пыбягу ў шчáвіль, холыд як пытхвáціцца, дык я ўся сьсінею і скатлею.* **Перастыць** *зак.* Перамерзнуць. *Мы заўчора кылы скыта пірястылі, зрáньня було цёпла, а посьлі беда пыднялося нівісь што, холыд — ня выцірьпіць.* **Перастылый** *дзеепрым. Холыд бальшэй быў, пірястылыя пріехылі.*

**Перасудак** *м.* Абгаворванне. *Ніхто іхныга пірясýдку ні прізнаець, ніхай пылапочуць ізыком, кылі ім так дужа хочыцца.*

**Перасэндзіць** *зак. неадабр.* Абгаварыць. *Ім толька дай сыйціцца, яны ні мала пірясэньдзюць.* **Перасэнджаный** *дзеепрым. Ці ў вас сяньня усё пірясэнджына ай яшчэ троху нызаўтріга астáлыся?*

**Ператашнаваць, ператашнавацца** *зак.* Набедавацца. *Што пірітушнувáла Наста, як яе хлопцы паехылі, паехылі і як у ваду кáнулі, ня пішуць і ня пішуць. Ні хыця́ піріташнýісься, калі нічога ня будзіш знаць пры дзяцей.*

**Ператопаць** *зак. перан.* Прахадзіць. *Пірятопыіш ты і ў етых вáлінкых, яны ішчэ крепкія, а пакуля звáлюць — і зіма кончыцца.*

**Ператрапываць** *незак.* 1. Трапаць нанова (пра лён). *Ідзі сыма, кылі хочыш, пірітря́пывый, я ні пайду.* 2 *перан. неадабр.* Паўтараць абгаворванне. *Адно й тоя па дзесіць разоў пірітря́пывыюць,— во якея ў іх рызгаворы.* **Ператрапывацца** *незак. перан.* Выбівацца з сіл у цяжкай працы. *Нечыга яму ў іх пірітря́пывыцца, ніхай ідзець двору ды жывець.* Ператрапаць *зак. перан.* Паўтарыць абгаворванне. *Ці ўсіх вы тута пірітріпáлі?* **Ператрапацца** *зак. перан.* Выбіцца з сіл у цяжкай працы. *Цяжолыя було ўремя, мы тожа пірітріпáліся, пакуля ны хызяйства троху узьбіліся.*

**Ператрыбушыць** *зак.*Ператрэсці. *Што тут каму нада було, нехта усю адзёжу пірітрíбушыў, ці шукаў што-небудзь, ці што ён дзелыў?* **Ператрыбушаный, ператрыбушоный** *дзеепрым. Прібяpі хуць с-пад ног пірітрібýшыныя шырабýрья. Я зразу пыняў, чаго тута ўсё пірітрібушона.* **Ператрыбушомшы** *дзеепрысл. І пірітрібушомшы, нічога ў такой кýчышчы ні найдзіш.*

**Пeратрысціць** *зак.* Пераламаць. *Ета ж такея злаўредныя людзі, нарошня пірітрысьцілі ўсё: во вам зы вашу і ласку, і дыбрату.*

**Перахаладзіцца** *зак.* Пераахаладзіцца. *Быў дужа рыспацейшы і пашоў у адной рубашкі, а віцярок ёдкій цягнуў, піріхыладзíўся і ўспаленія, чуць атхадзілі.*

**Перахлябіцца** *зак.* Перагнуцца (пра высакарослую асобу). *Ты ні тыкая ўжо стáрыя, а нешта саўсім пірíхля́білыся.*

**Пераходамі** *прысл.* Праз пэўныя прамежкі часу (пра дождж). *Во трецьцій дзень піряходымі дождж ідзець і ідзець, сена многа накошыныга, ні даець высушыць.*

**Пераходжываць** *незак.* Пераходзіць. *Як станіць рысказывыць пры Мікілая, гаворіць, як січас віджу, як ён*

*піряходжывыіць балота, топіцца ў ряке,— ажно кропна неік.*

**Пераходзіны** *мн.* Частаванне з выпадку пераходу ў новую хату. *Ты, знаць, тожа учора ны піряходзіных быў? Андрей быгатыя піряходзіны спрáвіў.*

**Перахоп** *м.* Празмернасць. *У яго піряхоп пулучыўся, усё ета ніпраўда. Ня верь ты, ета піряхоп.*

**Пераціўкаць** *зак. перан. гумар.* Перажыць. *Ай, ні крякчы́, ні крякчы́, ты ішчэ піряціўкыіш свайго Івана. Стыгнаў, стыгнаў і зіму піряціўкыў.*

**Перацмыгаць** *зак. неадабр.* Абшукаць павольна, старанна. *Як ёй толька ня стыдна: у чужом дваре усё пірящмы́гыла,— хуць айдзе ў такея совісьць, совісьць у яе і ні нучувáла.*

**Перацыгаць** *зак. перан.* 1. Перажыць. *Дні два-трі піряцыгы́юць ціплятки, пыкряпчэюць, тады будуць і адны бегыць.* 2 *неадабр.* Абшукаць павольна, старанна. *Ці ты тута ішчэ ня ўсё піряцы́гыў, а можа ты і ні клаў туды нічога?*

**Перацюкываць** *незак.* Перасякаць (лёгкімі ўдарамі сякеры). *Во так піряцю́кывыюць — раз і гатова.* **Перацюкывацца** *незак.* Перасякацца (лёгкімі ўдарамі сякеры). *Што, ні так піряцю́кывыіцца, як ты думыў?* **Перацюкнуць** *зак.* Перасячы (лёгкімі ўдарамі сякеры). *Піряцю́кні па́лычкі, лумаць іх доўга, ды яны й нядужа лумаюцца.* **Перацюкнуцца** *зак.* Перасячыся (лёгкімі ўдарамі сякеры). *Тута й сеч нечыга, лёгінька піряцю́кніцца.* **Перацюкнутый** *дзеепрым. Я тваё грыбільнішча піряцю́кнутыя ішчэ ўчора відзіў.*

**Перацяжкі** *мн.* Перады. *Етыя піріця́жкі дужа крепкія, ім зносу ня будзіць, каб толька ніз дзіржаўся.*

**Перачаўрываць** *незак.* Перасыхаць, рабіцца цвёрдым. *Вясною зімля дужа скора пірічáўрівыіць.* **Перачаўрыць** *зак.* Перасохнуць, зрабіцца цвёрдым. *Дождж ба нада, зімля пірічáўріла, у такой ня ўзойдзіць нічога.*

**Перачыгаць, перачыгацца** *зак.* Перажыць з цяжкасцю. *З маім здароўім і адзін месіц пірячы́гыць нялёхка, асобінна зімній. Тую зіму пірячы́гыўся бяс корму, а сёліта узноў нічога ня думыіць,— ну што з гультуя́ хацець.*

**Перашкумардзіць** *зак.* Пашкуматаць. *Як расьсердзіцца, дык ён табе нывядзець тут пырядык: усё пірішкумáрдзіць.* **Перашкумарджаный** *дзеепрым. Тріп'я пірішкумáрджыныга куча ляжыць пысярёд сянец.*

**Перашкуматаць** *зак.* Пашкуматаць. *Усё дно як нарошня ён пірішкумутáў етый пінжачок, яго ж у рукі узяць нільгá.* **Перашкуматацца** *зак.* Пашкуматацца. *Усё пірішкумутáлыся ны табе, ськінь ды надзень лю́дзкыя.* **Перашкуматаный** *дзеепрым. Такоя пірішкумутáныя і тря́пышнік ня возьміць.*

**Перашкумаціць** *зак.* Парваць, падраць на шматкі. *Тваё ўсё ета тряп'ё нада було даўно пірішкумáціць.* **Перашкумаціцца** *зак.* Парвацца, падрацца на шматкі. *Яно ўжо тута ўсё пірішкумáцілыся, выкідай.* **Перашкумачаный** *дзеепрым. Тужу́рычка ў яго пірішкумáчыныя, усё дно як яе сыбакі тылыскáлі.*

**Перашмараваць** *зак.* Моцна замазаць, заквэцаць. *Пірішмуруваў штаны, дзіхця́выя-дзіхця́выя сталі.* **Перашмаравацца** *зак.* Моцна замазацца, заквэцацца. *Айдзе яны так пірішмуруваліся, ці ні пымыгалі трактыр рімань-цірывыць?* **Перашмараваный** *дзеепрым. Во каб сьпічку к твайму пірішмурувáныму пінжачку, во пы́хнуў ба.*

**Перашоччы** *дзеепрысл.* Перайшоўшы. *Піряшоччы лашчынку, увідзіш нібальшэнькыю сьцежку, во і бягі па ёй. Піряшоччы ў наш калхоз, ён стаў большы зырыбáтывыць.*

**Перашпілены** *прым. перан.* З тонкай таліяй. *Зь нейкім піряшпіліным хадзіла па горыду, хлопцу дык ажно нікрасіва быць такім.*

**Перашпуляць** *зак.* Перашпурляць. *Ну ні прідумыю, што ім зьдзелыць, етым бáлыўнікым: усю бульбу пірішпуля́лі адзін у аднаго.* **Перашпуляны** *дзеепрым. Тут ужо нічога німа, усё пірішпуля́на.*

**Перашчыгіляць** *зак.* Пераўзысці. *Адзін дужа хырашо умеіць, а етыя пірішчыґіля́лі і Хадосычкіныга сына.*

**Перашчырыць, перашчырыцца** *зак.* Перашчыраваць, пашчыраваць звыш меры. *Троху вы пірішчырілі, яны ні заслу́жывылі такога сустрюкáньня. Ты ўжо глядзі хуць ні пірішчырíся сы сваімі дзівіря́мі.*

**Перва, перша** *прысл.* Спачатку, перш. *Разым ні нада йціць, перва ніхай Коля зáйдзіць, а ўсьлед ужо ты. Я перва і ні пыняў, пры каго яны гаворюць. Перша ты скажы, а я пыцьцьвярджу́.*

**Петушаціна** *ж. гумар.* Курынае мяса. *Я знаю, што пітушáціну ты любіш. Памянш.* **петушацінка.** *Можа б ты кусочык пітушáцінкі зьеў ай у Ріпініных большы німа пітушкоў?*

**Петушэнне** *н.* Задаванне, вычваранне. *Я ні раз адзіла яго пітушэньня. Пітушэньня столька, што й меры німа.*

**Пеўнасць** *ж.* Надзейнасць, пэўнасць. *Ікая ж будзіць пеўнысьць, кылі ў яго сем пятніц ны нядзелі, сам ні знаіць, што гыварíць і абішчаць.*

**Пеўне** *прысл.* Канкрэтна. *Цяперь яны нічога ні скажуць пеўня. Што я дапы́тывыцца буду, кылі пеўня ён сам ні знаіць.*

**Пеўный** *прым.* Надзейны, пэўны. *Ныпряёнык — чылавек пеўный, ён ні пыдвядзець. Пеўныга яны мне нічога ні скызалі.*

**Пеха, пехам, пехака, пехаком, пешака, пешаком, пешачка, пешачком** *прысл.* Пехатой, пешкі. *Нам ац самых Чавус прішлося пеха дыбірацца, хвацíла. Ты пехым скарей пасьпеіш, чым яны на етый кабылі. Папёрлі піхыка́ пряма па полю, ні глядзелі ны дарогу. Няўжэлі ж прідзіцца піхаком ту́пыць, туды ж, верна, вёрст дзьвінаццыць. Вы́прывіліся пішыка́, ці іх пыдвязець ікая мышына, ці не. Дасца вам, есьлі прíдзіцца ўсю дарогу пішаком іціць. А я пішычка́ ні пыбаю́ся, як-небудзь датопыю. Ці ні сыбірáісься ты пішачком вы́прывіцца ў тоя Чарнілыва?*

**Пікам** *прысл.* З коптурам, вышэй краёў. *Бульба як калі, калі як зародзіць, пяць кусто́ў вы́рыіш — пікым карзіна.*

**Піленнік** *м.* Пільшчык. *Нешта нашы піленьнікі ня йдуць заўтрікыць, зыработыліся.* **Піленніца** *ж.* *Вазьміціка вы пыдмяніця етых піленьніц, яны зымаріліся як мокрыя мышы.*

**Пільнуць** *зак.* 1. Папілаваць (крыху). *Дужа яны многа пільну́лі: трі калодычкі атрезылі.* 2 *перан.* Лупянуць, аперазаць. *Як пільну ремнім, ты на месьці зразу саўесься, я табе дам ба́лывыньня.*

**Пінжак** *м.* Пінжак. *Памянш.* **пінжачок.** *Купіў ні касьцюм цылікам, а адзін пінжачок. Памянш.-зневаж.* **пінжачышка, пінжачэнка, пінжачэначка.** *Адно ныванія, што пінжачы́шка, на ём рубца жывога німа. Разьві ета чылавек,— з гультаёй гультай, пыглядзі ты, у яком ён пінжачэнкі ходзіць, а можна ж і заробіць, і справіць, як усе людзі. Пінжачэнычка-старёнуш і штаны аптрёпыныя — жаніх явіўся, садзіця за стол. Павеліч.* **пінжачышча.** *Пінжачы́шча пы калені і ру́кавы чуць ні ды зямлі, вас троя сюда нада.*

**Піпка** *ж. перан. іран.* Нос. *І етый піпку торкыіць, ні ў сваё дзела. Памянш.* **піпачка.** *Дужа вісока твыя піпычка стала зыдзірацца. Павеліч.* **піпішча.** *Ты сваю піпішчу ня торкый куды ні нада.*

**Пісаннік** *м.* Той, хто піша, займаецца пісаннем. *Я знаю, якей ты піса́ньнік, двух слоў правільна ні напішыш, а с памы́лкымі. Памянш.* **пісаннічак.** *Хадзі, піса́ньнічык, пыкажы, што ў цябе пулучаіцца.* **Пісанніца** *ж. Сь цябе піса́ньніца ні абы-ікая, як напішыш, дык ніхто ні прычытáіць.*

**Пісануць** *зак.* Папісаць крыху спяшаючыся, абы-як. *Нешта пісану́ў і пабег на вуліцу. Ці табе ўжо цяжола два словы пісану́ць?* **Пісануцца** *зак. Зал.-бессуб'ект. ад* пісануць. *Як пісанецца, так і ладна, садзіся.* **Пісанутый** *дзеепрым. Нешта во тут пісану́та, ды я нічогінька ні рызьбяру́.*

**Піскуння** *ж.* Піскуха. *Ныдаела піску́ньня, цэлый дзень скіліміць, усё ёй нечыга ні хвытáіць.*

**Піссяк** *м.* Сівец. *Пісься́к саўсім ня косіцца, кыса па ём езьдзіць і ўсё. Памянш.* **піссячок.** *Пісьсячок як зыся́дзіць, яго ня вы́відзіш нічым. Узмацн.* **піссюган.** *Пісьсюгáн зарос па ўсіх аборкых, яго ніякій скот ня есьць. Павеліч.* **піссюганішча.** *Адзін пісьсюгáнішча, што ты тут кышанеш.*

**Піханне** *н. перан.* Даванне. *Ат такога піхáньня і сваім дзіцям нічога ні астанецца.*

**Піхаць** *незак. перан.* Даваць. *Доўга іна мне піхáла цыбулю, нашто мне браць, кылі сваю дзіваць некуды.* **Піхнуць** *зак.* Даць. *Ну як ні гывары, свыя, то тоя піхну́ць, то тоя, ніхай абжываіцца.*

**Пішчэлка** *ж.* Дудачка, наогул прымітыўны самаробны музычны інструмент. *Яны зьдзелыюць сябе пішчэлкі, тады бегыюць, сьвішчуць, бáлыюцца. Памянш.* **пішчэлачка.** *Жы́ціну вы́цігнуць, аткусюць кусочык, во і пішчэлычка.*

**Пладлівый** *прым.* Пладавіты. *Сьвірепка дужа пладлівыя, кажыцца, усю вы́рьвіш, а цірізь нядзелю узноў аткуля што бярецца. Пладлівыя у яго воўцы, то двух, а то й трёх коцюць і коцюць.*

**Плажма, плажмя** *прысл.* Плазам. *Каторый дзень плáжма ляжыць, ні пыдымáіцца. Плáжма яго касою лясь пы гылаве. Плáжмя зваліўся з бáлькі, чуць устаў.*

**Плак** *м.* Плач. *Тама бяды тэя столька, на трі капейкі*

*с пылавінаю, а пла́ку надзелымі на руб. Пла́кым плачыць, клянецца-божыцца, што дайжа ні была там.*

**Плаканнік, плакун** *м.* Плаксун. *Ён с самыга ма́лку такей пла́кыньнік. Ну хто ж цябе, мой плаку́н, саўсім рызабідзіў?* **Плаканніца, плакуха, плакуння** *ж. Я ня думыў, што ты еткыя пла́кыньніца, ажно стыдна. Ма́лыя і ты ня меншыя плаку́ха была, усё рюмзыла. Відна, канхвету зыхацела твыя плаку́ньня.*

**Плакануць** *зак.* Паплакаць горка. *Ні раз адна плыканець і яго ні раз пымя́ніць, за ім іна была як зы камінныю гарою.*

**Плаксуння** *ж.* Плаксуха. *Зывіла́ся плаксу́ньня, цяперя пуўдня ня ўніміцца, сунь ужо ёй пячэнінку.*

**Плашэць** *незак.* Слабець здароўем. *Куліна зы пасьледнія ўремя дужа пыдыла́ся, пряма ны вычах плашэіць.*

**Плевуціна** *ж.* Плеўка. *Плівуціну пызьніма́й ложкыю ды ськінь у шайку. Памянш.* **плевуцінка, плевуціначка.** *Во тут яшчэ трошку плівуці́нка аста́лыся. Тоніькыя плівуці́нычка, ні адзьдзіраіцца.*

**Плевуцініна** *ж.* Асобная плеўка. *Кусок плівуцініны астаўся, можа ты сам зьніміш. Памянш.* **плевуцінінка.** *Ета ж нейкыя плівуці́нінка, аткуля іна ўзілася, ні знаю.*

**Плесневатый** *прым.* Плесневы. *Ну, плесьнівытыя скарінкі я ўжо грызьць ня буду і людзям такога ні пыкладзеш.*

**Плёсканне** *н.* Плёскат. *Я йду і чую нейкыя плёскыньня зу куста́мі,— ажно ета вы тута.*

**Плёсканнік** *м.* Той, хто плёскаецца. *Етыя плёскыньнікі цірізь мінуту будуць мокрымі, іх толька дупусьці́ ды вады.* **Плёсканніца** *ж. Ці ні твае ета плёскыньніцы у лужыні сідзяць?*

**Плісіца** *ж.* Пліска. *Гаворюць, што там плісіцы ёсьць, а я іх дык і ня відзіў ні разу.*

**Пліханне** *н. жарт.* Стралянне. *Ай, ні баюся я твайго пліхыньня, ты, верна, і зу ружьё ня ўмеіш брацца.*

**Пліхаць** *незак. жарт.* Страляць. *У каго ж ты зьбіра́ісься пліхыць? — ты можыш усіх чыста пірябіць.* **Пліхнуць** *зак.* Выстраліць. *Як пліхніць у яго лі вуха, тэй ажно пыцскачыў.*

**Плутанне** *н.* 1. Блытанне. *У етым плута́ньні трудна рызыбрацца.* 2. Страта арыенціроўкі. *Во мне було плу́тыньня: зукруціўся і ні знаю, куды двору.*

**Плутаць** *незак.* Блытаць. *Вы мне плу́тыіця пря́жу, атыйдзіця ат'етуля. Ты яго толька плу́тыіш сваімі саветымі.* **Плутацца** *незак.* Блытацца. *Усякія ніткі як ні змыта́ны, дык плу́тыюцца. Канешня, ні знаўшы дарогі, будзіш плу́тыцца.* **Плутаный** *дзеепрым. Тут суваёк выцігнуць можна, ды дужа плу́тына.*

**Плутуханне** *н.* Блытаніна. *Кідай ты ў печ усё разым, у такім плутуха́ньні нічога ні рызьбяресься.*

**Плутухаць** *незак.* Блытаць. *Ніткі плутуха́ць ні нада, іх акуратнінька у клубочык зма́тыюць.* **Плутухацца** *незак.* Блытацца. *Яны плутуха́юцца, етыя сувайкі, толку ні дыбяреш.* **Плутуханый** *дзеепрым. Нічыньніца б іна нічога, крепкыя, каб ні тыкая плутуха́ныя.*

**Плывунец** *м.* Баравік, які з'яўляецца, калі каласуе (выплывае) жыта. *Пабег ранінька і кашолычку плувунцоў прінёс, ядрінькія, крімя́нінькія.*

**Плюндра** *ж.* Нязграбная, неахайная жанчына. *Думыіш, ета плю́ндра есьць пы-чылавечыску зва́ріць? — хочыш, бульбу ш шулухою пыдапрець. Павеліч.* **плюндрышча.** *А плю́ндрішча, а што ж іна тваріць, як іна будзіць на сьвецi жыць, ніря́ха тыкая!*

**Плюсканне** *н.* Мірганне. *Іна ні пыглядзела ны Пракопыва плю́скыньня, скызала ўсё, што думыла.*

**Плюсканнік** *м.* Той, хто міргае. *Во плю́скыньнік, нейкыю дурную прівычку паймеў, цяперя ні атучыцца.* **Плюсканніца** *ж. Нікрасіва пыміну́тна плю́скыць, будзіш плю́скыньніца.*

**Плюшчэць** *зак.* 1. Плюхаць. *Ныцякло вады, аж плюшчы́ць пыд ныгамі.* **2** *перан.* Моцна цячы. *Палезла ў погріб, а тама з мышы́ныя дзірькі выда плюшчы́ць хвынта́ным.*

**Плявуха, плюха** *ж.* Аплявуха. *Што, зьнёс плявýху, ні пыглядзелі і ны тваю хва́брысьць, далі? Палу́чыш плю́ху і ўспакоісься. Як пыднясу́ць плю́ху — другую, тады ты сабе места зразу найдзіш. Узмацн.* **плявушына.** *Знаіць, за што плявýшыну да́лі, ніхай пыхва́ліцца.*

**Плявушыць** *зак.* Біць у вуха. *Такея сволычы пыліцэйскія, іс свае дзярэ́йні, умесьці расьлі, умесьці гулялі, злавілі яго, як сталі плявýшыць, ажно зываліўся.*

**Пляйсцер** *м.* Тонкі засохлы пласт мяккага рэчыва. *Ня будзіш прібіраць як нада, у цябе тут пля́йсьціры пызысыха́юць. Памянш.* **пляйстрык.** *Тонінькій пля́йстрік зреж ды ў шайку ўкінь.*

**Пляміна** *ж.* Асобная пляма. *Памянш.* **плямінка, пля-мінaчка.** *Пашлі нейкія плямінкі пы ліцу, ач чаго ета яны такея, ні знаю. Тута чуць заметныя пляміныечка.*

**Пляскушка** *ж.* Невялікі расплясканы кавалак металу. *Я ні знаю, длі чаго тыкая пляскушка дзелылысь. Памянш.* **пляскушачка.** *Етыя пляскушычкі дзіцям зубуўляцца, большы яны ні длі чаго ні нада.*

**Плятнёўка, плятнюшка** *ж.* Плятнёвы хлеў. *Мы сваю плятнёўку рузурілі, іна чуць дзіржалыся. Былі зьдзелылі плятнюшку, летым карову ставілі, а зімою пустувала.* Памянш. **плятнёвачка, плятнюшачка.** *Раншы ў іх ні-бальшэнькыя плятнёвычка стыяла, ці пріпялі яны яшчэ што-небудзь, мы ня відзілі. Летым у плятнюшычку будзім авец зыгыняць.*

**Пляценнік** *м.* Той, хто пляце, займаецца пляценнем. *Прітна ўзяўся пляцeньнік зы работу, скора карзіна будзіць гатова.* **Пляценніца** *ж. Ты пляценьніца луччы зы Сьпірідона, табе хуць зыказы дывай.*

**Пляшывістый** *прым.* Пляшывы. *Ладзін табе будзіць і пляшывістый жаніх, яму ж, наверна, ішчэ і шызьдзісяці німа. Памянш.* **пляшывісценькій.** *Іна свайго пляшывісьцінькыга пычыла хырашо дыглідаць.*

**Поваратка** *ж.* Паварот, паваротка. *Ты скорінька бягі і глядзі повырытку ні прупусьці, іна ня дужа заметна. Памянш.* **поваратачка.** *Улева будзіць повырытычка, тады вы йдзіця ў лес, а тут ягыд ні ныбіріцё.*

**Подрасцень** *м.* Падростак. *У яе маліц ладный подрысьцінь, увесь чысьцінька Мікілай, дайжа паходка тыкая. У Мархвы ладныя дзяўчонка подрысьцінь.*

**Помаз** *м.* Пэндзаль. *Ні шукай ужо, на дровы пыклалі, дык Ріпіна укінула помыз у печ, думыла, ні нада.*

**Поніззю** *прысл.* Понізу. *Табе прямей будзіць прыскачыць понізьзю, апхадзіць ні нада: дужа далёка.*

**Поп** *м.* Вялікі сноп, якім накрываецца капа або мэндлік. *А што ж, і поп зьдзелыць нада ўмець, аблумаць акуратнінька, а тады роўнінька уськінуць. Памянш.* **попік.** *Ны бабку меншый попік дзелыюць.*

**Попаддзе** *н.* Пакаранне, лупцоўка. *Даўно ты, маліц, попыдзьдзя шукаіш, ну палучыш калі дык палучыш, ажно задзівісься.*

**Попелка** *ж.* Сорт ранніх яблынь і іх плады. *У мяне толька адна попілка. Ныпхалі у кырманы попілык і пабеглі, што ім забоціцца пра што. Памянш.* **попелачка.**

*Ён прішчапіў сабе попілычык, скора будзіць зь яблыкымі.*

**Поразь** *прысл.* Адасоблена, асобна. *Яны ужо дайно жывуць порызь. Ну як ета, каб у адной хаці порызь гатовіць, кажный сам сабе?*

**Порва** *ж.* Цяжар. *Тыкая порва была перць етый мяшок, чуць данёс, пряма духу ні прідыхыць.*

**Порч** *ж.* Псаванне. *Вот нейкыя порч ныпала ны цьвяты, крўцюцца, сохнуць, ні растуць. Хто йта якея порчы напўсьціць, ні прідўмывыйця вы.*

**Послеабеддзе** *н.* Пасляабедзенны час. *Сяньня ў мяне посьлібедзьдзя свабодныя, можна будзіць пад'ехыць.* *Памянш.* **послеабеддзіка**. *Ён усё посьлібедзьдзіка пароўся і нічога ня зьдзелыў, ні пулучаіцца ў яго.*

**Послеабедашній** *прым.* Пасляабедзенны. *Посьлібедышнія кызьба ня тоя, што ўраньні, і кыса ні так косіць, і трыва ні так режыцца.*

**Поставаць** *незак. перан іран.* Цярпець нястачы. *Відна, што табе прідзіцца узноў постывыць, Проська гываріла, што скора паедзіць.*

**Почап** *м.* Вочап. *Почып атырваўся і ніяк ні субугорімся прічапіць, так і цігаім ваду вярёўкымі.*

**Пра** *прыназ.* Для, на. *Дужа ня шырься, пра лета пудблюдай скаромныя. Ніхай будзіць ета шубычка пры зіму, ні пымішаіць.*

**Праартамоніць, праартамоніцца, праартамоннічаць, праартамоннічацца** *зак.* Зазявацца, разгубіцца. *Ніякыга толку ня будзіць, кылі ён сходзіць, прыартамоніць і так верніцца. Зь ім толька прыартамонісься, урemя ныпрасна пыціряіш. Столька ўремя прыартамоньнічыў і нічога ні дабіўся. Узноў яны прыартамоньнічыюцца, ці я ні знаю.*

**Прабабчыцца** *зак.* Пракешкацца, прапоркацца. *Пуўдня прыбабчыўся, а етыя клечыкі можна було зу пуўчыса пыўбіваць.*

**Прабазарыць, прабазарыцца** *зак. неадабр.* Правесці час у шумнай балбатне, крыку, сварцы. *Што вы там дзелылі, пуўдня прыбызарілі, разьві етый аборычык упяцёх пуўдня гресьць. Зь іртндою прыбызаріліся, нада було цьвёрда скызаць ці так, ці так.*

**Прабалабоніць** *зак. іран.* Прабалбатаць, праплявузгаць. *Вас ніізьвесна за чым толька пысылаць, столька ўремя прыбылабонілі, нічога ня зьдзелылі.*

**Прабалакаць** *зак.* Правесці час у пустой няспешнай гаворцы. *Сойдуцца то ў аднаго, то ў другога, вечыр прыбыла́кыюць, усё ўспымінаюць, што яны у мыладосьці дзелылі.*

**Прабалахоніць, прабалахоніцца** *зак. неадабр.* Правесці час у пустой нуднай балбатне. *Дзела яны ніякыга ня зьдзелылі, прыбылахонілі пат кусьцікымі за ку́зьнію. Пашлі іх разым, дык прыбылахонюцца, ніхай луччы адзін с касою ідзець, а другей бульбу пыгыня́іць.*

**Прабандурыць, прабандурыцца** *зак.* Прабалбатаць (звыч. пра мінулае). *Пра што вы там пуўдня прыбанду́рілі? У іх ёсьць пра што пыгыварічь, усігда на́йдуць пра што прыбанду́ріцца.*

**Прабарабаніць** *зак. перан.* Правесці час у бойкай балбатні. *Вечыр прыбырыба́нілі етыя пря́льлі, пы віряценцу ныпря́лі.*

**Прабілябеніць** *зак. неадабр.* Прабалбатаць. *На ўзгорку сталі, ны граблі аппёрліся, часы два прыбілябенілі, можа пры ўчырашній сход гываріл і.*

**Прабіндзюгаць, прабіндзюгацца** *зак. асудж.* Праблукаць бязмэтна. *Чаго ён пріехыў? — лета прыбіньдзюга́іць, а тады ызад паедзіць. Цэлый месіц прыбіньдзюга́ўся, адзін раз толька схадзіў у кусты, паўвоза арешніку насек.*

**Праблуканяць, праблуканяцца** *зак.* Прахадзіць бязмэтна пераблукаць. *Як яму ня стыдна прублукуня́ць такоя гырячыя ўремя! Тут зь яго ніякыга толку німа і туды паедзіць — прублукуня́іцца,— з гультуя́ чылавека ні палу́чыцца.*

**Праблындаць, праблындацца** *зак. неадабр.* Праблукаць, прахадзіць бязмэтна. *У цёткі дзьве нядзелі прабльі́ндыў, а я работыць зыста́ўлю, у мяне гуляць некылі. Ён і глядзіць, каб толька праблы́ндыцца, ці яму работа ікая на ўме.*

**Прабрындаць** *зак. неадабр.* Прахадзіць бязмэтна. *Ніхай ба ён ішоў пріцэпшчыкым, а так прабры́ндыіць і трудыдня ні заробіць.* **Прабрындацца** *зак. перан.* Схадзіць. *Ніхай хуць у Дуччычы прабры́ндыіцца, ато ўжо зыліжа́ўся тут.*

**Прабузавацца** *зак.* Цяжка папрацаваць пэўны час. *Прубузува́ўся ён тады у Мыкарывых большы месіца і дайжа спасіба ні пулучый.*

**Праваджаннік, праваджываннік** *м.* Той, хто право-

дзіць. *Ідзі-ка ты, прывыджáньнік, двору, а я і адна дарогу знаю. Лырьяныўскія прывáджывыньнікі сь песьнімі пашлі двору. Памянш.* **праваджаннічак.** *Прывыджáньнічык ты мой, зывядзі мяне дамой.* **Праваджанніца, праваджыванніца** *ж. Пывялі прывыджáньніцы сваіх гасьцей ны быльшак. Ету прывáджывыньніцу самую весьць нада будзіць, ніхай сядзіць у хаці.*

**Правазголіцца** *зак.* Патраціць час на важданіну з цестападобным рэчывам. *Некылі сяньня рышчыняцца з блінамі, прывазґолісься і грядкі астáнуцца нявыбрынымі, а тута мароз.*

**Правазгравіцца, правазграціцца, правазгроціцца** *зак.* Страціць час у пэцканні. *Ніякыга толку ня будзіць, што ты прывызґрявісься, тута ні зымáзывыць нада, а досткыю забіць. Ня лезь ты сяньня у гряды, толька прывызґряцісься, якоя палоньня посьлі такога дажджу. Хуць і прывазґрёцілыся пуўдня, ну сенцы вымыла, аж бліщчаць.*

**Правалакіціць, правалакіціцца** *зак.* Патраціць час на валакіту. *Глядзі, ён цябе і сёліта можыць прывылакіціць як летыся, і ты астанесься узноў як на моры бізь вісла. А ну яго, етыга Кузьму, мы зь ім бяс толку прывылакіціліся, ён ужо ні прыдаець пацьцёлка.*

**Правалантырыць, правалантырыцца** *зак.* Патраціць час на цяганіну, валакіту. *Мікілаіў нінадзёжный чылавек, можыць нарошня прывылантыріць. Во скажы, і ніхто ні паверіць, што зь ірундою можна столька прывылантыріцца.*

**Праварзёкацца, праварзёпацца, праварзёпкацца** *зак.* Патраціць час у пэцканні. *Ні нада табе сяньня рышчынáцца з ладкымі, прыварзёкыісься, урем пыціряіш. Пуўдня прыварзёпыўся на столі, адну кватэрку зымазыў. Увесь дзень сь печчу прыварзёпкылыся, бяліла, красў нывадзіла.*

**Праваяваціца** *зак. перан.* Шмат папрацаваць. *Столька ўремя прувуювáўся ныпрасна, каб я знаў, я б і ні пыдыйшоў к етыму пню, ніхай ба ён тута згарэў на месьці.*

**Праведыванне** *н.* Наведванне. *Па-мойму, ты ладна вясёлінькыя была посьлі праведывыньня.*

**Праверабеніць** *зак.* Патраціць час у пустой балбатні. *Нада столька ўремя прывірябеніць, ета ж высідзіць — і то якоя цярьпеньня нада.*

**Правільготываць** *зак.* Пражыць пэўны час прыволь-

на, бясклапотна. *Ты ж два месіцы прывільготывыў у цёткі, як табе ня стыдна, ці ты ня мог дроў ёй зыгатовіць.*

**Правылангацца** *зак. асудж.* Вылежацца. *Ні прітýркый пайціць, зьдзелыць, поўніькій дзень прывылынѓáіцца, ні ап чым яго душа ні баліць.*

**Прагаладаваць** *зак.* Пагаладаць пэўны час. *Якога ты толку хочыш ад гультуя́, год пругулудувáў і ўзноў ні пра што ня рýпіцца.*

**Прагоркій** *прым.* Надта горкі. *Якей табе шчáвіль, нейкыя прагорькыя трыва, ажно язык шчы́пліць.*

**Прагрыбазвоніць** *зак. абраж.* Прабалбатаць. *Ну што вы дзелылі цэлый вечыр?— прыгрібазвонілі, успымінал́і, верна, як хлопцы зы вамі бегылі.*

**Прагрымець** *зак. перан.* Знікнуць. *Ніхай яны прыгрімя́ць, такея свае, яны б кажныга у ложкі вады ўтапілі. Ці яны айдзе прыгрімелі, етыя мушчыны, заўтрік сты́ніць, а іх німа.*

**Прагубашлёпіць** *зак.* Празяваць. *Шчытáй, на месьці бульба была, у руках, а вы пругубашлёпілі, цяперя едзьця ны бызар.*

**Прагутаторыць, прагутаторыцца** *зак.* Правесці час у няспешных размовах. *Яны гадоў дваццыць ня відзіліся, паетыму і пругутаторілі чуць ня ўсю ноч. Нівісь сколька пругутаторіліся, усё успымінал́і, як пы вічарінкых бегылі, дзевык прывыджáлі.*

**Прад** *м.* Няўдалы хлеб. *Ці ні так учы́нін, ці ня вы́пікся, нейкій пряд пулучыўся ціжаленный, а ня хлеб, у ім зубы вя́знуць.*

**Прадаванне** *н.* Продаж. *Ні люблю я етыга прыдывáньня, вязі кылі хочыш сам і сядзі з гуркамі пысярёд бызару.*

**Прадаваннік** *м.* Той, хто прадае. *Стаіць прыдывáньнік зь яблыкымі, пýкынык нысыбірáў, іх брацць ніхто ня хочыць.* **Прадаванніца** *ж. Ты будзіш прыдывáньніца як мама, тая ўсё тарчы́ць ны бызарі, хуць і дзела ніякыга німа.*

**Прадзеннік** *м.* Той, хто прадзе. *З мушчыны буваіць прядзеньнік ня хужы чым з бабы, вун Васіль Восіпыў хлопцым усігда хадзіў па сýпрідкых і пряў зь дзеўкымі.* **Прадзенніца** *ж. Нешта наша прядзеньніца сьпіць сяньня над гребнім.*

**Прадзешавіцца** *зак.* Прадаць танна. *Прыдзішавіўся*

*ты с каровыю, каб пыдзіржа́ў пару нядзель, ты б чуць ні ўдвыя́ узяў.*

**Прадзячыць, прадзячыцца** *зак.* Прабалбатаць, праплявузгаць. *Прыдзя́чылі цэлый вечыр пустоя. Каб ні прыдзя́чыліся посьлібедзьдзя, дык ба можна було усё сянцо у капёшкі скласьць.*

**Прадых** *м.* Продых, перадышка. *Якей ты хочыш прады́х прі ўборкі, цяперя работа гаріць, нідырма́ гаворюць, што летній дзень год корміць.*

**Пражвянькаць, пражвянькацца** *зак.* Правесці час у пляткарстве, надакучлівых размовах. *Прыжвя́нькыюць етыя работніцы увесь дзень, а бульба зыначу́іць ніпірібі-ра́ныя. Ты ўжо зь імі саўсім прыжвя́нькылыся.*

**Пражмаць** *зак.* Праціснуць. *Пражмеш карзінку, дно рузлума́іцца і вы́кініш.* **Пражмацца** *зак.* Праціснуцца. *Мытрас прыжма́ўся, яго б атріманьціpывыць нада. Як ты пражмесься у такую шчэлку?* **Пражманый, пражматый** *дзеепрым. Вун твыя шаічка с прыжма́ным дном вы-ля́іцца. Сундучок етый сплецін акуратнінька, ён харошый, ды крышка прыжма́та.*

**Пражын** *м.* Пражатая паласа. *К кустам пражы́н зьдзелылі сьпіцыя́льна, кароў можна гнаць.*

**Праздраўлянне** *н. перан. іран.* Лаянка. *Наслухыўся Аўсяёўнінычга прыздрыўля́ньня, большы ні захочыш чы-па́цца.*

**Празора** *ж.* Скразная шчыліна. *Як жа ты бірнушкі пріпуска́іш, што празора астаецца. Памянш.* **празорка.** *У гумне бірнушкі шчы́тна ні пріпускалі, дзелылі, каб празоркі былі, каб ветрым сушыла хлеб.*

**Прайдошлівый** *прым.* Вельмі пранырлівы. *Хто яго ні знаіць, дык падумыіць, што прысьцячок чылавек, а мы знаім: прайдошлівый мужык.*

**Пракавулак** *м.* Завулак. *Ат калодзіжа у прыкаву́лык паверніш, іхныя хата другая будзіць зьлева. Памянш.* **пракавулачак.** *Як гумны стыялі, тута быў нібальшэй прыкаву́лычык.*

**Пракавэнчыцца, пракаенчыцца** *зак.* Памучыцца, папакутаваць пэўны час. *Што ён мне памог, ён два месіцы з нагою прыкавэнчыўся, с кыстылём хадзіў. Як хваціла гылыва, я ні спала ўсю ночычку, прыкаенчылыся на печы.*

**Пракалантарыць, пракалантырыцца** *зак.* Патраціць час у мітусне, таўканіне. *Ну што, кылі ты прыкыланты́-*

*ріў, што толку? Другей дзень, буваіць, прыкылантыріськ ся і нічога ня зьдзелыіш, як нарошня ні пулучаіцца.*

**Пракалякаць** *зак.* Прагаварыць пaціху, паволі. *Яны удваіх чуць ня цэлый дзень прыкылякылі, у іх, канешня, ёсьць пра што пыгывaріць.*

**Пракапцець** *зак. перан.* Пражыць бескарысна. *Ікая яе была жысьць, што хату чуць піріхадзіла, етыя гады іна тольна прыкапцела.*

**Пракаўкаць** *зак. перан. іран.* Сказаць, прагаварыць нясмела, ціха. *Нешта ён тама з вугла прыкаўкыў, яго дайжа ці пачуў хто-небудзь.*

**Пракахікаць** *зак.* Пакашляць пэўны час. *Айдзе-то яго ладна ріхвацілa холыдым, дык во ўсю нядзелю прыкахікыў, на печы выгріваўся, банкі сыма ставіла.*

**Пракаціць** *зак. перан.* Растраціць. *Ён такей: сколька ні дай грошы, усё пракоціць, друзей найдзіць, сыбярўцца кучыю і ўсё.* **Пракочаный** *дзеепрым. Я віджу ужо зразу па ём, што грошы пракочыны ды капейкі.*

**Пракладаць, пракладываць** *незак. перан.* Паліць (у печы). *Летым я ўсігда ціразь дзень прыклыдаю печ. Варіць я пасьці нічога ні варю, дык мне і печ прыкладывыць ня дужа нада.* **Пракласць** *зак.* Выпаліць (у печы). *Устану, печ прыкладў, на дзінь гаршчонычык прістаўлю і пайду пароцца ны гародзі.*

**Пракляціна** *м.* і *ж.* Нягоднік. *Прыкляціна урадзіўся, ён ба с усімі ніізьвесна што зьдзелыў, каб тольна сымаму було хырашо. Павеліч.* **пракляцішча.** *За ўсіх быў прыкляцішча, ува ўсёй акругі другога такога ні було.*

**Пракручываць** *незак. перан.* Траціць без карысці, прагульваць. *Грошы пракручывыць яны ўмеюць, зырыбляць ня дужа ім хочыцца.* **Пракруціць** *зак.* Растраціць без карысці, прагуляць. *Дзьве сотні яму дыла, прікызала, каб купіў сабе касьцюм — дык купіў: зы нядзелю прукруціў усе і іўляіцца: яшчэ дывай.*

**Праксціць** *зак. перан.* Параздаваць на хрэсьбінах. *Матка сваріцца, бувала: іна тольна хустык шырсьцяных праксьціла пітнаццыць штук.*

**Пракуда** *м.* і *ж.* Штукар, пракуда. *Узмацн.* **пракудзіна.** *Ну й пракудзіна твыя большыя, як жа йна ўмеіць усё прістaвіць! Павеліч.* **пракудзішча.** *Усякіх я відзіў людзей, ну такога пракудзішчу первый раз устрічаю.*

**Пракудліва, пракудзіста** *прысл.* Дасціпна, пранырліва. *Ніхто так пракудліва ня ўмеў зьдзелыць, як Васіль.*

*У яго ўсё пулучаіцца пракýдзіста, пряма як па-пісыныму выходзіць.*

**Пракуды** *мн.* Штукарства. *Мы думылі сьпірва, што ён ціхінькій, а ат етыга ціхінькыга мы столька пракýд нагледзіліся.*

**Пракудыванне, пракуднічанне** *н.,* **пракудлівасць** *ж.* Штукарства, пранырлівасць. *Я і ні такога пракýдывыньня нагледзіўся. Мы знаім Цімохыва пракýднічыньня. У яго у аднаго пракýдлівысьці ны дзісіцярых хвáціць.*

**Пракудываць, пракуднічаць** *незак.* Штукарыць, гарэзаваць, пракудзіць. *Ох, ён умеў пракýдывыць, і аткуля ў яго што бралыся толька. Акáзывыіцца, і ты найчыўся пракýднічыць?*

**Пракукобіцца** *зак.* Праваждацца, пранянчыцца. *А што іна мыгла зьдзелыць, кылі з мáлым прукукобілыся усё ўремя, яму, віднa, што-то нідылігáіць, пішчыць і пішчыць.*

**Пракцікоўный** *прым.* Вопытны. *Ежылі чылавек прыкцікоўный, яго ўчыць ні нада, ён сам дыгыдáіцца, куды схадзіць і як зьдзелыць.*

**Пралазіста** *прысл.* Спрытна. *Ён то хітрец, толька ня дужа, у яго так прылáзіста ні пулучаіцца, як у Ісаёнка.*

**Пралазістасць** *ж.* Спрыт. *Прылáзістысьці ў яго хуць адбуўляй, ды ні на тых ён пупаў, у іх саміх хітрысьці хвытаіць.*

**Пралазістый** *прым.* Спрытны, лоўкі. *Тута нада каб быў чылавек дужа прылáзістый, а твой не, нічога ні даб'еццa.*

**Праласкатаць** *зак. асудж.* Прабалбатаць. *Ты іх ні знаіш: дзень могуць прылыскытáць і ні за што ня возьмуцца. Яны тама і кароў прыласкочуць.*

**Пралузкывацца** *незак. перан.* З'яўляцца. *Бувала, як шчáвіль станіць пралýзкывыцца, мы і пашлі пы кынáвых, цалю́хтынькій дзень порімся.* **Пралузнуцца** *зак.* З'явіцца. *Грібы былі прулузнýліся, а большы ні растуць: суха дужа.*

**Пралупіцца** *зак. перан. груб.* 1. Прачнуцца. *Калі дык сьпяць, а сяньня іх і сон ні бярець, толька я ўстала, і яны прулупіліся.* 2. Паглядзець. *Сьпірва прулупіся, а тады гывapi,— мы тама ні былі дайжа.*

**Пралындаць** *зак.* Прашвэндацца. *Ну скажы, ну што ты зы нядзелю зьдзелыў? — пралы́ндыў і ўсё.*

**Прамадзець** *зак.* Пражыць пэўны час у неспрыяльных умовах або са слабым здароўем. *Можа етый год*

*тута прымадзеюць. Ні знаю, сколька іна прымадзеіць, ну зь яе жы́цілка плыха́я.*

**Праматалыжыць** *зак.* Растраціць, распусціць. *Сколька ты яму ні дай, ён усё прымыталы́жыць.* **Праматалыжыцца** *зак.* Растраціцца, змарнатравіцца. *Прымыталы́жыўся, што дайжа рубля німа у сталоўку схадзіць пабедыць. У яго так, бяс толку грошы прымыталы́жыліся.* **Праматалыжаный** *дзеепрым. У яго ўжо німа нічога, усё прымыталы́жына.*

**Прамахнуць** *зак. перан.* Зрабіць промах, памылку. *Прымахну́лі вы с хатыю, ваша была ішчэ крепкыя, пырядышна б стыяла, а ета старёнык, а ні хата.*

**Прамашараваць** *зак. іран.* Прайсці. *Січас яны кучыю прымышару́юць, увідзіш, якея гіроі.*

**Праміжсобкаю** *прысл.* Міжусобна. *Ніхай яны прымісcобкыю дыгаворюцца, ніхай ні ўшчынаю́ць быталіі, ета пасьледнія дзела пу судах цігáцца.*

**Прамкі** *мн.* Прамы шлях. *Абыйдзі дарогыю, ато заблу́дзісься пу кустах, будуць табе прямкі.*

**Прамленне** *н.* Выпрамленне. *Во яго пря́мліньня, пря́міў, пакуля мыс атлумаў, сухей дужа.*

**Прамленнік** *м.* Той, хто выпрамляе. *Етыя пря́мліньнікі каб пы пальцыых адзін аднаго ні ўда́рілі.* **Прамленніца** *ж. Ты, пря́мліньніца, як возьмісься, ураз дзела зугудзіць.*

**Прамленый** *дзеепрым.* Выпрамлены. *Пря́мліныя гвозьдзя я ў кыцялок склаў, ім можна будзіць ряшэціць.*

**Прамушкарыць, прамушкардзіць** *зак.* Змарнаваць час у бесперапыннай тузаніне. *Яны мяне большы некуды прумушка́рілі, за ета ўремя можна було паехыць і ны работу устроіцца. Ты ня жджы, а хадзі, дыбіва́йся, яны могуць доўга прумушка́рдзіць і ў цябе тады нічога ні палу́чыцца.* **Прамушкарыцца, прамушкардзіцца** *зак.* Прамучыцца ў тузаніне. *Прумушка́ріўся, а толку ні дабіўся ніякыга. Месіц прумушка́рдзіўся, гываріў, скора нызад паедзіць.*

**Прамысловый, прамышлёный** *прым.* Гаспадарлівы, спрытны. *Такей прымысловый, як Лёнька, верна, ніхто ня будзіць, ён што хочыш мог дайціць і дабіцца. Бацька быў спакойный, а сыны такея прымышлёныя хлопцы, па ком яны і ўдаліся.*

**Праныра** *м.* і *ж.* Праныра. *Узмацн.* **пранырына.** *Што зы праны́ріна, ён табе ўсюдых пралезіць і даб'ецца. Павеліч.* **пранырышча.** *Во праны́рішча быў, кажыцца, нічо-*

*га ні було, што б ён ні дыстаў ці ні ўзнаў.* **Пранырка** *ж. Пранырка дзяўчонка, відзіш, дакуль дастукылыся.*

**Пранырный** *прым.* Пранырлівы. *Ну, штоб такей праны́рный ды ні дыбраўся да етыга сыдка. Сабе яны дужа праны́рныя.*

**Прапасціваць** *зак.* Прапасвіць. *Я ж цябе многа ні прашу, ну дзень жа ты можыш прыпа́сьцівіць.* **Прапасціваца зак.** Прапасвіцца. *Ны нашым полі і дзень прыпа́сьцівіцца трудна, усюдых гола як бубін.* **Прапасцівеный** *дзеепрым. Самыя трудныя ўремя прыпа́сьцівіна, цяперя будзіць ляхчэй, кругом іржы́шча многа.*

**Прапекла̀вацца** *зак.* Папрацаваць вельмі цяжка пэўны час. *Лета прыпіклува́йся, зато будзіць с хлебым, зіму ні пра што ні нада будзіць думыць.*

**Прапутацца** *зак. перан.* Прашвэндацца. *Там, відна, яго ўжо ня дужа хочуць дзіржа́ць, дык пріехыў сюда, тута думыіць цёплыя месіцы прапу́тыцца.*

**Прарвыванне** *н.* Прарэджванне. *Трошку ж дасьць і пра́рвывыньня, усё ні так гряды будуць зуглуша́цца.*

**Прарвываць** *незак.* 1. Прарываць (пра нарыў). *Калі нары́ўчык пра́рвывыіць, ета хырашо, скарей зыжывець болька.* 2. Прарэджваць. *Асот пы ячменю пашоў, я трошку пра́рвывыла. Густэя быракі нада пра́рвывыць, інačы зь іх нічога ня будзіць, адно бацьвіньня.*

**Прарэшына** *ж.* Прарэх. *У цябе ну рубашкі ладныя прарешына, зьдзень, зашыць нада. Памянш.* **прарэшынка.** *Нібальшэнькія, алі ж дзьве прарешынкі ёсьць ужо.*

**Праскакываць** *незак. перан.* Праходзіць (пра дождж). *На той нядзелі дождж ці ня трі разы прыска́кывыў, усё гресьць ні дываў.* **Праскачыць** *зак.* Прайсці (пра дождж). *Учора саўсім ніпахожа було на дождж, а ён атвечыра ладный прыскачы́ў.*

**Праскітацца** *зак.* Праблукаць, прабадзяцца. *Нейдзі гадоў пяць прыськіва́йся, ня чутна було, а ўчора ў горыдзі відзіў яго.*

**Прасліна** *ж.* Дэталь агароджы. *Во ету жардзіну кінь, ніхай пыляжы́ць, зь яе пря́сьліна будзіць.*

**Прасліца** *ж.* Прасніца. *Лён пряду́ць на гребінь, а воўну ны пря́сьліцы, воўну і хлоп'я тожа, кудзелю прівязывыюць. Памянш.* **праслічка.** *Пря́сьлічка мыя рышыта́лыся саўсім, нада, каб ты укряпіў яе.*

**Прасміхыванне, прасмяханне** *н.,* **прасмішка** *ж.* Абсмейванне. *Прасьміхывыньня ніхто ня любіць, ну нада ж*

*дзелыць так, каб ні прысьміхáлі. Мне яго прысьміхáньня ня дужа важна, ніхай луччы ны сябе пыглядзіць. Ён у мяне палýчыць зы прасьмішкі, толька ніхай устречу, нылáю бакі.*

**Прасмяхайла, прасмяхацель, прасмяханнік** *м.* Той, хто абсмейвае. *Ён ізьвесный прысьміхáйла, ніхай луччы сам ныц сабою пысьмяецца. Так то мне важын етый прысьміхáціль, мыцірікá загнý — во й будзіць яму сьмех. Ох, прысьміхáньнік, носа ішчэ пацьцерць ні найчыўся.* **Прасмяханніца** *ж. Іна была знаіш ікая прысьміхáньніца, толька пупадзі ны ізычок, няскора спýсьціць.*

**Прасмяхаць, прасміхываць** *незак.* Абсмейваць. *Былі пычалі прысьміхáць Вольгу, уго, кума ні зулюбіла. Яны ўсіх любілі прасьміхывыць, а кылі хто над імі пысьмяецца, ні нырáвілыся.* **Прасміхнуць** *зак.* Абсмяяць. *Дужа я стану плакыць, кылі майго Сьціпана ды прысьміхнýць у чом-то.*

**Праснаваць** *зак.* Аснаваць, зрабіць аснову тканіны. *Каторыя з вас цяперя кросны пруснуець, — а мы ж па столька гýбык ткалі кажный год.* **Праснаваный** *дзеепрым. Якоя там пылатно, трі гýбычкі прusнувáна ўсяго.*

**Праснушнік** *м. жарт.* Ахвотнік да праснушак — прэсных праснакоў. *Устывáйця, пряснýшнікі, іда ваша гатова. Памянш.* **праснушнічак.** *Во мой пряснýшнічык, пряснýшкі з мылачком пад'есьць і пабег.* **Праснушніца** *ж. Січас прібягіць мыя пряснýшніца: дай, баба, есьць.*

**Праспавядаць, праспаведываць** *зак. перан. іран.* Налаяць. *Дзянісіха цябе січас прыспывідáіць, што калёсы узяў ні спрасёмшы. Шчуўкунова жонка іх жыва прыспаведывыіць, ніхай пыкажуцца.* **Праспавядацца, праспаведывацца** *зак.* Наслухацца лаянкі. *Ну што ты, гаворюць, прыспывідáўся у Проські? Цябе, відна, дужа ахота рызьбірáіць прыспаведывыцца у Сазоніхі.* **Праспавяданый, праспаведываный** *дзеепрым. Ты і сяньня пойдзіш ат'етуля прыспывідáный. Ён і прыспаведывыный такей самый будзіць, нісколька ня зьменіцца.*

**Праспаліта, праспалітна** *прысл.* Пранырліва, з асаблівай кемлівасцю. *Ні пыдлáзь етык прыспаліта, ато нос можыш ушчаміць. Усюдых ціряшчур прыспалíтна лезіць.*

**Праспалітасць, праспалітнасць** *ж.* Выключная пранырлівасць. *Такея прыспалíтысьці я ні ў кога яшчэ ня відзіў. Каб к яго прыспалíтнысьці ды яшчэ навука ладныя.*

**Прастамол** *м.*, **прастамолка** *ж.* Мука простага памолу. *У нас усігда, бувала, цыліндроўка ёсьць, адзін прыстамол — ета мала. Мяшочык луччыя мукі стаіць, мяшочык прыстамолкі.*

**Прастамольный** *прым.* Простага памолу. *Іж жыта усігда прыстамольныя мука, ны ва́льцы пышаніцу малолі ны бліны, ны пірагі.*

**Прасцяцкій** *прым.* Вельмі простый, кампанейскі. *Лявон — прысьця́цкій мужык, зь ім усігда і пыгываріць, і дыгывары́цца аба ўсём можна.*

**Прасянне** *н.* 1. Прасянішча. *Крошка таго прыся́ньня, ну нада було б успыхаць.* 2. Салома ад проса. *Прыся́ньня скот ня есьць, яно ніядомыя. Памянш.* **прасяннікa.** *Укінь прыся́ньніка ў пуню, яно пацсохла, ніхай большы ні мя́кніць.*

**Праталалахкаць, праталалахкацца** *зак. неадабр.* Прабалбатаць. *Дзень прытылыла́хкылі, нічога ня зьдзелылі. Во сам увідзіш, што прытылыла́хкыюцца, а сена можыць астацца ніварочыным, ці ты іх работы ні знаіш.*

**Пратанне** *н.* Біццё. *Ні ка́іцца ён і посьлі пря́тыньня, тыкая ўжо ву́дыль зыдыла́ся.*

**Пратарчак** *м.*, **пратарчака** *ж.* Патарчака. *Глядзі, астыражней ідзі, тута нейкій прытырчак, узьбіцца можна. Прытырча́ка ікая-то сядзіць, нада сьсеч ці вы́кыпыць. Прібярі ету прытырча́ку, сам ні замеціш — успорісься. Узмацн.* **пратарчачына.** *Во, пуця ні було, на нейкыю прытырча́чыну узьбіўся.*

**Праташнаваць** *зак.* Прабедаваць. *Прыташну́іць, пакуля яны ні пріедуць. Марья усё ета ўремя прутушнува́ла.*

**Пратрапацца** *зак. перан.* 1. Папрацаваць працяглы час цяжка, але бескарысна. *Сколька гадоў ён прытріпа́ўся зы нішто ніякыя.* 2 *перан.* Прабалбатаць. *Кучыю прытріпа́ліся ладныга ўремя, дзевык, відна, абгыва́рівылі.*

**Праўдашный** *прым.* Сапраўдны. *Ета ня выдумка, ета пра́ўдышный быў слу́чый, як Віктар прівёз ны дзярэўню жывую ваўчыцу.*

**Праўша** 1 *ж.* Правая рука. *Ты вучыся праўшою усё брацъ.* 2 *м.* і *ж.* Той, хто дзейнічае праваю рукою. *Первый раз дзіцёнку усігда нада дываць пра́выю грудзь, тады ён будзіць прыўша́.*

**Праўшун** *м.* Той, хто дзейнічае праваю рукою. *У яго*

*два сыны, адзін ляўшўн, а другей праўшўн. Памяни.* **праўшунок.** *Пруўшунок ты мáлінькій, ужо знаіць, каторыя правыя ручка.*

**Прахадзіць** *незак. перан.* Перахітроўваць. *Ён і ні такіх атлётыў прыхадзіў, а тут яму што, семічкі.* **Прайціць** *зак.* Перахітрыць. *Ого, ты сымаго Дзяніса сыбраўся прайціць! — не, ні палўчыцца ў цябе.*

**Прахватываццa** *незак. перан.* Прачынацца раптоўна. *Я трі разы зá ныч прыхвáтывыўся, быяўся, каб ні прыспаць.*

**Прахлынкаць** *зак.* Прабадзяцца, праблукаць. *Што ж ён зьдзелыў? — увесь дзень прахлынкыў, а можна ж було і аборычык скасіць ці хвырасткў насеч.*

**Прахропсць** *зак. перан. іран.* Прахрапці, праспаць. *Цэлый дзень прахроп работнічык мой, ніхай сена само сушыцца як хочыць.*

**Прахырлець** *зак. перан.* Прахварэць, памарнець. *Прастўды пытхваціў айдзе-то крепкія, прахырліў цэлыю нядзелю, пасьці сь печы ні злáзіў, я ўжо адна і зы вадою, і лі скыта тыптáлыся.*

**Працацкацца** *зак. неадабр.* Правесці час у бяздзеянні. *Работы ў дваре па горла, а ты прыцáцкыўся дзень і нічога ня зьдзелыў, думыіш, я табе ўсё пірядзелыю.*

**Праціняціць, праціняцітца** *зак.* Паэканоміць вельмі ашчадна. *Троху крошык ёсьць, прыціняціш туды к хылыдáм, а там пырасёнка зыб'іцё. Такою крошкыю доўга ні прыціняцісься.*

**Прачатніць** *зак.* Прахварэць, памарнець. *Лёхкія сваё сперціў, тады усюдых кідыўся, ніўдзе ні пымагло, прычáтніў года пуўтырá.*

**Прачутка** *ж.* Чутка. *Можа айдзе будзіць ікая прачўтка, скажыш. Прайшлі прачўткі, што іх у Крічыві відзілі.*

**Прачуцца** *зак.* Стаць вядомым. *Ты пыгывары зь людзямі, можа айдзе-небудзь прачўіцца пытхыдзяшчыя хата, я ўзяў ба і пірявёз.*

**Прачыхацца** *зак. іран.* Застацца без сродкаў у выніку марнатраўства. *Ён скора прачыхыіцца, у яго капейка ні задзержыцца.*

**Прашалацца** *зак. неадабр.* Прабадзяцца, прашвэндаць. *Во, хочыш ты зь яго толку якога, паехыў, два месіцы прышылáўся і ызад коціць, — дырма грошы ніўдзе ні даюць.*

**Прашкі** *прысл.* Проста. *Табе тут прáшкі пад'ехыць ны*

*лісапеці, сядзіш і зы двацыць мінут тама. Памянш.* **прашачкі.** *Па-твойму, усё прашычкі, кылі так, дык узяўся б сам дый зьдзелыў.*

**Прашоччы** *дзеепрысл.* Прайшоўшы. *Прашоччы такую дарогу, ні хыця́ заморісься.*

**Прашпарываць** *незак.* Апарваць. *Ета ж я так стол прышпа́рівыла: нейкія жучкі зывяліся.* **Прашпарывацца** *незак.* Апарвацца. *Ці ладна ж прышпа́рівыіцца ў цябе?* **Прашпарыць** *зак.* **Апарыць.** *Прышпа́рю усю хату кругом па сьценых, ніякія га́дысьці ні аста́ніцца.* **Прашпарыцца** *зак.* Апарыцца. *На печы ўсе шчэлкі хырашо прышпа́ріліся.* **Прашпараный** *дзеепрым. Во ета бочычка луччы прышпа́ріна, ну гуркі будзіць.*

**Праязджанне** *н. перан.* Прасоўванне ў гразь. *Ета ішчэ ні прыіжджа́ньня, во я раз чуць ні пы калена прываліўся.*

**Праязджаць** *незак. перан.* Прасоўвацца ў гразь. *Я папробывыў іціць пря́ма, дык ногі прыіжджа́юць у глей, нада апхадзіць.*

**Праякатаць** *зак.* Праенчыць (пэўны час). *У майго сьпіна́ як хваціла, як рызбалелыся, ён усю ноч прыікыта́ў, ні заснуў ні расінычкі.*

**Пробываннік** *м.* Той, хто спрабуе, каштуе. *Пробывыньнікі тут, відна, ла́дныга напробывыліся.* **Пробываніца** *ж. Ікая ж ты хітрінькыя пробывыньніца: паспробыіш і ўсё зьясі, бабі нічога ні аста́ніцца.*

**Пробыт** *м.* Жыццё, існаванне. *Ні нада Зьмітрачонку завідывыць, яго пробыт дужа ніва́жный.*

**Прокст** *м.* Падарунак на хрэсьбінах. *Старік дужа ні любіў, каб я хадзіла кумою, каб хадзіла бабыю, а я кажу: глядзі, каб ні пыбяднеў, я сваё зынясу́, прокст, ла́дык сьпяку́.*

**Пропад** *м.,* **пропадзь** *ж.* Пагібель. *Ніпраўда, найдзіць і ён якей-небудзь пропыд. Ніхай ны вас пропыд, ны такіх приіяцілі́ў. Ты даўно сабе пропыдзь шукаіш.*

**Просвет** *м.* Прасвет. *Якей табе просьвіт будзіць прі ўборкі. Ён усю сваю жызьню просьвіту ня відзіў.*

**Просіна** *ж.* Адно каліва проса (зерне, расліна). *Кашу ўчора зваріла і ні адной просіны ні аста́лыся. Во, яшчэ і тут вырысла нескылька просін. Памянш.* **просінка.** *Худзь ба айдзе просінка, хуць пыішчы дайжа.*

**Прослух** *м.* Чутка. *Каб якей-небудзь прослух быў, мы*

*б абізацільна пачулі. Як паехыў, пры яго ніякыга прослуху німа.*

**Простамалот** *м.* Малацьба ўручную. *Канешня ж, ета прыстымалот, ці я аткуль мылацілку прівазіў.*

**Простамалотный** *прым.* Абмалочаны ўручную. *На крышу нада прыстымалотныя салома, с-пыд машыны ж ні пыцягніш ношкымі.*

**Проця, проці** 1 *прысл.* Супраць. *Усе сыглышаліся, каб ён пасьвіў, а Сідарёнык проця. Я цьвёрда знаю, што Стыхванёнкі проці ня будуць.* 2 *прыназ.* Супраць. *Ільлёвы жылі проця нас на ўзгорычку. Проці нашых кла́дычка ёсьць ціряз речку.*

**Пруд** *м.* Млын. *На пруд, бувала, пывязеш атвечыра і за ноч зьмеліш. Раншы прудоў кругом було многа — у Малый Зяціцы, у Мідзькыўшчыні, у Каробчыні, у Шыріях.*

**Пруднік** *м.* Млынар. *Як пру́днік знакомый, бувала, скарей зьмеліш, ён скажыць каму-нібудзь піріпусьціць і ты за́сыпліш.*

**Прыбегаць** *зак. перан. іран.* Нарадзіць без шлюбу. *Усё ўходу ні було, насілыся, пакуля етыга Іваньку прібегыла.* **Прыбеганый** *дзеепрым. Айдзе тэй бацька ў Маслывым балоці, ета прібегыныя лялька.*

**Прыбіваннік** *м.* Той, хто прыбівае. *Ты ж, прібіва́ньнік, пальцы сабе ні пыдбіва́й.* **Прыбіванніца** *ж. Ікая зь мяне прібіва́ньніца, біла, біла крюк, ён коса пулучы́ўся.*

**Прыбіраннік, прыборшчык** *м.* Той, хто прыбірае, прыбіраецца. *Ня відзіла я ніякіх мылаткоў, можа етый прібіра́ньнік куды-небудзь закінуў. Ты прібіра́ньнік усё адно як дзеўка, і дзеўкі ня ўсе так прібіраюцца. Прібоpшчыкі узяліся зы работу ажно пыл стаўбом.* **Прыбіранніца, прыборшчыца** *ж. Прібіра́ньніцы у той хаці, ріпірця́цца к вічарінкі. Венікым трошку пыль змахну́ла, во ікая зь яе пріборшчыца.*

**Прыбраджаный, прыбратый** *дзеепрым.* 1. Убраны, схаваны. *Інструмент нада каб усігда быў прібра́джын. Не, тыкі гляджу: сена прібра́та.* 2. Прыбраны. *Я вас такіх прібра́джыных яшчэ і ня відзіла. Пашлі некуды прібра́тыя у тэй бок, ці ня к цёткі.*

**Прываджываць** *незак.* Прывучваць, прывабліваць. *Ні пріва́джывый-ка ты ма́лых к саду, ато ат іх адбою ня будзіць.* **Прывадзіць** *зак.* Прывучыць, прывабіць. *Нечым жа ты пріва́дзіла Сярёжу, што кажный дзень бегыіць.*

**Прывіванне** *н.* 1. Прышчаплянне. *Ты ніпра́вільна прівіва́іш, с такім прівіва́ньнім ня пріміцца.* 2 *перан.* Часовае пражыванне. *Што ж прівіва́ньня — сяньня ў аднаго, заўтря ў другога, нада пра свой вугыл думыць.*

**Прывязка** *ж.* Жэрдка для прывязвання саломы пры пакрыцці страхі. *На прівізкі сякуць тоніцкія вісокія бярёзкі, асінкі, а тады ішчэ сьця́сыюць, каб яны плоскія былі, луччы прілігалі. Памянш.* **прывязачка.** *Нада будзіць хуць нямножка прівізычык аццсеч.*

**Прыганнік** *м.* Той, хто прыгае. *Унімісь-ка ты, пры́гыньнік, іс тваім пры́гыньнім!* **Прыганніца** *ж.* *Во рызыйшліся пры́гыньніцы, вам ні нада прыгыць, луччы так у што пугуляйця.*

**Прыгараджыванне** *н.* Ненадзейнае прыстасаванне. *Як ру́хніць усё ета прігыра́джывыньня умесьці с табою, дык ты жывэй ці аста́нісься.*

**Прыгараджываць, прыгараджывацца** *незак.* Устанаўліваць ненадзейна. *Тута сколька ні прігыра́джывый, дык ні ўскрябесься, лесьвіца нада. Пычаў прігыра́джывыцца на крышу лезьць комін чы́сьціць, а тады кінуў.* **Прыгарадзіць, прыгарадзіцца** *зак.* Устанавіць ненадзейна. *Прігырадзі якіх-небудзь палык ны бальkых, каб ету сьвірепіну пылажы́ць. Ты хут троху прігырадзіўся, а ў мяне усё пыд аткрытым небым лижы́ць.* **Прыгароджаный** *дзеепрым.* *Дужа нінадзёжна ў цябе прігароджына, усё можыць паехыць.*

**Прыгарчэць** *зак.* Зрабіцца крыху горкім. *Ета мука пыря́дышныга стаіць, іна прігарчэла, ні нада яе пыцсыпа́ць.* **Прыгарчэлый** *дзеепрым.* *Прігарчэлыя мука вы́сыпіцца пырасёнку, ён ні пагребыіць, зьесьць.*

**Прыгаршань** *м.* Прыгаршчы. *Сколька ты нулузка́ў квасолі, адзін прігыршынь. Прігыршнімі сыпні пару разоў і хва́ціць.*

**Прыгваздзіць** *зак. перан.* Моцна пабіць. *Яны цябе зловюць аднаго калі-небудзь і пряма прігвызьдзя́ць.* **Прыгвазджоный, прыгвозджаный** *дзеепрым.* *Саўсім прігважджоный і ні каіцца ніскалька. Ні ўспакойся паспробый, пойдзіш ат'етуль прігвожджыный, яны цябе абразу́юць.*

**Прыгрэбак** *м.* Прыгрэбнік. *Ладный прігребык зьдзелыў, накрыў хырашо, можна што пылажыць і бульбу пасыпыць. Памянш.* **прыгрэбачак, прыгрэбчык.** *Худзь ба якей-небудзь прігребычык пріпя́ў, каб жыряло ні зудува́-*

*ла. Ён усігда хамут кідáіць у прігребчыку, ідзі ды вазьмі, атпашыш нескылька быразён.*

**Прыгуля** *ж. ласк.* Маладая істота свойскай жывёлы, звыч. цялушка. *Ох, ікая ты прыгýля, дужа гуляць любіш. Памянш.* **прыгулька, прыгуленька, прыгулечка.** *Рузгуля́лыся наша прыгýлька, малошніца наша. Відзіш, як рада, наша прыгýлінька, што мы йдзём. Пыдажджы, прыгýлічка, січас вы́нісу піць.*

**Прыд** *м.* Край урэзанага дна (у бочцы, шайцы). *Я сыма бочкі купляла, Стыхван пыглядзіць: хырашо прі-ды́ ўпýшчыны, хырашо дно устáўліна, — бярі.*

**Прыдзелак** *м.* Трысцен, прыбудова да хаты. *У яго і хата нядренныя пулучылыся, і ны прідзелык лесу нывазіў, быгата апстроіцца. Памянш.* **прыдзелачак.** *Прідзелычык ня дужа бальшэй, аршын на шэсьць у шырінý.*

**Прыдзервянець, прыдзервянецца** *зак. перан. груб.* Прысохнуць, прыстаць. *Ці яно тута прідзірьвянела, што ніяк ні ацскрібáіцца, ці што? Сядуць і як прідзірьвянеюць, дужа аньціресна лухту слухыць. Ну ці яны прідзірьвянеліся, етыя міскі?* **Прыдзервянелый** *дзеепрым. Вун там твае лáткі, стыяць прідзірьвянелыя.*

**Прыдзірчывата, прыдзірчаста** *прысл.* Прыдзірліва. *Так прідзірчывыта вы і зы час ні разгледзіця етый пулушубык. Ны бызарі усігда нада глядзець дужа прідзірчыста, ато што хочыш могуць уперць.*

**Прыдзірчыватасць, прыдзірчастасць** *ж.* Прыдзірлівасць. *А што мне яго прідзірчывытысьць, ніхто яго ні быяўся і ні спужáіцца. Цябе кудріцкія хлопцы як пыдзіржаць у руках, ты забудзіш ны прідзірчыстысьць.*

**Прыдзірчыватый, прыдзірчастый** *прым.* Прыдзірлівы. *Іхныя хлопцы дужа прідзірчывытыя, як смыла ґ другім лезуць. Таго, што атпору даць некыму, ён прідзірчыстый, інáчы б скора забыў дурікі.*

**Прыдумліваннік** *м.* Выдумшчык. *Ета ізьвесный прідýмлівыньнік, можыць прідýмыць такоя, чаго і на сьвеці ні було.* **Прыдумліванніца** *ж. Абея вы лáдныя прідýмлівыньніцы, і казку ету ніхто вам ні рысказывыў, самі прідумылі.*

**Прыдумліваць** *незак.* Выдумваць. *Ці ты іх ні знаіш, будуць сядзець і прідýмлівыць абы-што, большы ж ім дзелыць нечыга.*

**Прыдумлянне, прыдумліванне, прыдумства** *н.,* **прыдумка** *ж.* Выдумванне. *Дужа я ні люблю прідумля́ньня,*

*рыскажы, як було і ўсё, і нечыга нііхьвесна што былбытáць. Я прідýмлівыньнім, як ты, ні зынімáюся, я ні твайго бацькі сынок. Як ты мыгла паверіць такім прідýмствым? Разьві ты ні пынімаіш, што ета прідумка? На прідумкі яны ціряшчур спасобны, любога нáўчуць.*

**Прыдуха** *ж.* Гарачы час. *Ішчэ кызьба ня кончылыся, а тута жаць нада, тыкая была прідýха, ні знаті, за што первыя хвытацца.*

**Прыедліва** *прысл. перан.* Дакучліва, прыкра. *Кажный дзень адно й тоя дужа пріедліва слухыць.*

**Прыедлівый** *прым.* 1. Такі, які прыядаецца, робіцца прыкрым. *Каша твыя пріедлівыя, адзін раз пыд'ясі, а другей ужо ня хочыцца.* 2 *перан.* Дакучлівы, прыкры. *Адно й тоя пляцець і пляцець біс кынца, дужа пріедлівый чылавек.*

**Прыжмаць** *зак.* 1. Прыціснуць. *Гуркі як соліш — дзёнушка, на дзёнушка камінь, абізацільна пріжмáць нада.* 2 *перан.* Прымусіць. *Як пріжмáлі, дык скызаў, сь кім у сад лазілі.* **Прыжмацца** *зак.* Прыціснуцца. *Нічога, пріжмецца хвырасьціньмі і будзіць ліжаць.* **Прыжматый** *дзеепрым.* *Пріжмáтыя канцы ні выцягывыюцца, нада палкыю бярно пывярнýць.*

**Прыжучыць** *зак.* 1. Злавіць, заспець. *Яго пряма кыла кучы пріжýчылі, ныгрібаў у мяшок пышаніцу.* 2. Прыціснуць, пазбавіць магчымасці адмаўляцца. *Крепка яго пріжýчылі, дык пра ўсё рыскызаў.*

**Прызмушчаннік** *м.* Той, хто паддражнівае. *Во яшчэ прізмушчáньнік, дзелыць яму нечыга, дзяцей дрáжніць.* **Прызмушчанніца** *ж.* *Ну й прізмушчаньніца, нашто ёй ета дзяўчонка, іна ж яе с сабою у горыд ня возьміць.*

**Прызямлячыцца** *зак. перан. гумар.* Прыстаць да кампаніі. *Ці ня хочыш і ты к нам прізімля́чыцца? — не, братка, ідзі к сваёй кымпаніі.*

**Прыкалець, прыкалянець** *зак. перан. груб.* Прымацавацца, прыстаць. *Шайка прікалела, што хут ты яе тыпаром адбівай. Усё дно як яны прікалелі на той скамеічкі, пыдняцца ня могуць. Ці яно тута прікылянела, ці што, ні атырваць. А ніхай яны, прасьці божа, і прікылянеюць, сідзяць і ні паднімуцца курей сыгнаць з гряд.*

**Прыкаратка** *прысл.* Караткавата. *Тая куртычка табе была прікырытка, хырашо, што ты яе аддыла дзяўчонкі, ёй ікраз.*

**Прыкасцянець** *зак. перан. груб.* Зрабіцца нерухомым.

*Ці яны тама прікысьцянелі, ці што, заву за́ўтрікыць, усё сты́ніць, а яны сідзяць, рузмунды́кыюць.*

**Прыкасывацца** *незак.* Чапляцца, прыставаць. *Яны будуць прікáсывыцца да тых пор, пакуля палу́чуць ат мяне як сьледыіць.*

**Прыкашываць, прыкошываць** *незак.* Скошваць, падбіваючы валок травы да якога-н. аб'екта. *К кустам прікáшывыць ні нада, ат кустоў усігда косюць. Усігда сабе етый край прікошывыіць.* **Прыкашывацца, прыкошывацца** *незак.* 1. Скошваць блізка да мяжы. *Так блізка ні нада прікáшывыцца, можа ні залю́бюць. Чаго ты сюда прікошывыісься?* 2. Стамляцца ад касьбы. *Я ж табе ня буду прікáшывыцца кажный дзень, што рук ні пыдняць.* **Прыкасіць** *незак.* 1. Скасіць, падбіваючы валок травы да якога-н. аб'екта. *І ат'етуля прікасі, тута атаўка ладныя.* 2. Накасіць у дадатак. *Каб яшчэ хуць вазок прікасіў, тады б можа як пірізімувáў.* **Прыкасіцца** *зак.* 1. Скасіць блізка да мяжы. *Лішній пуд калі прікосіцца, лішнім ня будзіць.* 2. Стаміцца ад касьбы. *Мой прікасíўся чуць жывэй, яму аддыхнуць нада.* **Прыкошаный** *дзеепрым. Прікошыныя сянцо тожа нада сагресьць, яно сухоя.*

**Прыкідка** *ж.* Прыараная баразна. *Палоска астывáлыся ні туды ні сюды, я прікíдку зьдзелыў дый пысадзілі грядку бульбы.*

**Прыкладанне, прыкладыванне** *н. перан.* Рэўнасць. *Ныдаела яе пріклыдáньня, зь якою бабыю ні пыстаю — ты яе любіш. Што я ныцярьпелыся ат яго пріклáдывыньня, каго ён мне толька ні пріклыдáў.*

**Прыкладаць, прыкладываць** *незак. перан.* 1. Прывучаць, навучаць. *Дзяцей нада змáлку пріклыдáць к рабоці. Чаго ты яго ні к я́кыму дзелу ні пріклáдывыіш?* 2. Раўнаваць. *Ты мяне тольки, знаць, к Сямёну ні пріклыдáў, і то, што ён ужо ня можыць хадзіць. Ай, мне тожа ўсё ўремя мой Стыхван пріклáдывыў.* **Прыкласць** *зак.* 1. Прывучыць, навучыць. *К якому дзелу ні пріклaдзеш, дык будзіць сьпіцыяльнысьць у руках.* 2. Прыраўнаваць. *Ты ўжо мяне і к Каці пріклáла.*

**Прылажываць** *незак. перан.* Раўнаваць. *Што вы яму ўсіх дзевык пыдряд прілáжыіця!* **Прылажыць** *зак.* Прыраўнаваць. *Ета каб пысьміяцца, Тымару яму прілажы́лі, ён зь ёю дайжа ні рызгыварівыў.*

**Прылакаціцца** *зак.* Абаперціся на локці. *Ны пыдва-*

*конніку прілыкачу́ся, гляджу і сыма сабе думыю: ці прієдзіць каторый, ці не.*

**Прыламліваць** *незак. перан.* Прывучаць, навучаць. *Я сваіх патрошку прілáмлівыю к рабоці.* **Прыламлівацца** *незак.* Прывучацца, вучыцца. *Як малыя прілáмлівыюцца к чаму-нібу́дзь, яны скарей пычынаюць пынімаць.*

**Прііліпчывата** *прысл.* Назойліва, неадчэпна. *Як станіць з рызгаворымі прістывáць, настолька пріліпчывыта, аж ныдаесьць.*

**Прыліпчыватый** *прым.* Назойлівы, неадчэпны. *Дужа пріліпчывытый, ён кажныму ныдаесьць як горькыя редзька.*

**Прылюдна, прылюдня** *прысл.* Пры людзях. *Устреціць і ныстрáміць прілю́дна, тады ты будзіш знаць, як дзяцей трогыць. Я ні пыбаюся яму і прілю́дня скызаць.*

**Прымайстрыць** *зак.* Прымайстраваць. *Ты пыглядзі, можа там прімайстріш якей-небудзь шосьцік.* **Прымайстрыцца** *зак.* Прымайстравацца. *Можна во на етых калодычкых троху прімайстріцца.*

**Прымалачываць** *незак. перан.* Моцна збіваць. *Сколька разоў цябе прімылáчывылі, а ўсё ні кідáіш сваіх дуроў.* **Прымалаціць** *зак.* Моцна збіць. *Яны дайно хочуць прімылаціць цябе, і ты ім пупадзесься, абізацільна пупадзесься.* **Прымалочаный** *дзеепрым.* *Мы ідзём, а ён сядзіць прімалочыный, пыдняцца ня можыць.* **Прымалацёмшы** *дзеепрысл.* *Аць цябе, ні прімылацёмшы, толку ні дажджэсься.*

**Прымаразь** *ж.* Прымаразкі. *Як прімырызь ны траве, цельныю карову нізáштычка нілізя выгынáць, пад'есьць мёрзлыя травы і можыць ськінуць.*

**Прымасліваць** *незак.* 1. Прылізваць (валасы). *Хваціць прімáсьлівыць, пайдзём, яны дыжыдаюць.* 2 *перан.* Прывабліваць. *Пракоп дайно яго прімáсьлівыіць, відна, у зяці меціць* **Прымаслівацца** *незак.* 1. Прылізвацца (пра валасы), прычэсвацца занадта старанна. *Яны ў той хаці прімáсьлівыюцца, зыхадзі.* 2. Падлабуньвацца. *Ціткоў дайно к ім прімáсьлівыіцца.* **Прымасліць** *зак.* 1. Прылізаць (валасы). *Вадою трошку прімáсьлі валосься, яно будзіць луччы ліжаць.* 2. Прывабіць. *Нечым прімáсьлію Кындрашонка, кажный дзень шушу́кыюцца.* **Прымасліцца** *зак.* 1. Прылізацца (пра валасы), прычасацца занадта старанна. *Я, бувала, вазьму кыпілінычку нісалёныга*

*сала, рызатру́ ны ладоніх, пы гылаве прывяду́, валосься і прімáсьліцца.* 2. Падлабуніцца. *Ён умеіць к любому прімáсьліцца.* **Прымасленый** *дзеепрым.* 1. Прылізаны (пра валасы). *Прімáсьліныя валосься луччы ляжыць.* 2. Прываблены. *Есьлі прімáсьліный, то зь ім і гыварíць нечыга, яны ўмеюць напець.*

**Прыматываць** *незак. перан.* Прысвойваць. *Ета ніхто ні знаіць, а ён патрошку прімáтывыў сабе грошы.* **Прыматаць** *зак.* Прысвоіць. *Штоб такея атлёты ды ні прімытáлі, яны ат іійцá атальлю́ць.*

**Прымаўчываць, прымоўчываць** *незак.* Замаўкаць на пэўны час. *Первыя ўремя іна прімáўчывыла, а цяперя ні маўчыць, сякець пачом зря. Табе б нада прімоўчывыць, іна многа старей, можа скора к сыну паедзіць, ні сварíся.*

**Прымудранне, прымудрыванне** *н. перан.* Уладкоўванне. *Ваша прімудря́ньня ныўряд каб дзіржáлыся, кылячкí дужа слáбінькія. Ты пыглядзі ны яго прімýдрівыньня, як стыряіцца.*

**Прымудраць** *незак. перан.* Прыстасоўваць. *Што ж тут будзіш прімудря́ць, кылі гвыздá біць некуды, усё рышшымытáна.* **Прымудрацца** *незак.* Прыстасоўвацца. *І дренна було, а я прімудря́ўся жыць, неік выкру́чывыўся кажный раз.*

**Прымучыць** *зак.* Замучыць (але не да канца). *Кошка мыш зловіць, троху прімýчыць, а тады кыцянку нясець.*

**Прымяняцца** *незак. перан.* Прыцэньвацца. *Ці ты там лі кароў ні прімін́яўся сяньня, пачом яны цяперь?* **Прымяніцца** *зак.* Прыцаніцца. *Нада було б пыхадзіць лі скыта, прімянíцца, цяперя дужа дорга прасíць ні далжны.*

**Прынудный** *прым.* Прымусовы. *Во-о, ці ты ні знаіш, ён жа ны прінýдных работых быў, нідаўна вярнуўся.*

**Прыпадак** *м. груб.* Д'ябал. *Пріпáдык іх знаіць, айдзе тэя вожкі дзіваліся, я іх ні браў.*

**Прыпадашный** *прым. перан. груб.* Нягодны. *Дужа пріпáдышный чылавек быў, ныгаворіць ны цябе чаго зря, пыдвядзець у любом дзелі, ну яго!*

**Прыпаіваць** *незак.* Паіць дадаткова. *Я сваіх усігда рана пріпáівыла с соскі. Як пырысятык многа, ім мылыка ні хвытаіць, нада пріпáівыць.* **Прыпаівацца** *незак.*

Паіцца дадаткова. *Пырысяткі пасьці ўсігда пріпáівыюцца мылаком.*

**Прыпараджаць** *незак.* 1. Прыводзіць у парадак. *У цябе дужа двор зыграможджын, нада пріпыріджáць.* 2. Рыхтаваць. *Ты іх пріпыріджáіш усё дно як у свáты.* 3. Уладкоўваць грунтоўна. *Ён сваіх дзяцей ні на шутку пріпыріджáіць.* **Прыпараджацца** *незак.* Рыхтавацца, апранацца па-святочнаму. *Мае пашлі пріпыріджáцца, вічарінка сяньня і гырманіста дужа харошыга прівялі.*

**Прыпарадчываць** *незак.* Прыводзіць у парадак. *У мяне ішчэ многа чаго нада пріпыря́ччывыць.* **Прыпарадчывацца** *незак.* 1. Прыводзіцца ў парадак. *Нешта ў цябе медлінна пріпыря́ччывыіцца.* 2. Прыводзіць у парадак. *Пычаў пріпыря́ччывыцца, а тады кінуў: ніхай пыляжыць.* **Прыпарадчыць** *зак.* Прывесці ў парадак. *З мушчынымі адной цяжола, яны пад'елі і пашлі, а ты пакуля пріпыря́ччыш у хаці — і абеды ны дваре.* **Прыпарадчыцца** *зак.* 1. Прывесціся ў парадак. *Як пріпыря́ччыцца, тута будзіць пыря́дышна места.* 2. Прывесці ў парадак. *Сколька табе нада ўремя пріпыря́ччыцца?* **Прыпарадчываный, прыпарадчаный** *дзеепрым.* *Куды я пайду, у мяне ў хаці нічога ні пріпыря́ччывына. У вас хызяйства пріпыря́ччына, нечыга тушнувáць.*

**Прыпаружыць** *зак.* Уладкаваць. *Дзяцей пріпуружу́, можна работыць, толька патрошку, а вы́рыбытыўшы пыд'ясі.*

**Прыпасвіць, прыпасцівіць** *зак. перан.* Дасачыць. *Усё я хачу пріпáсьвіць яго ды пыгывварíць, каб усякія лухты ны мальца ні выду́мывыў. Пріпасу́ць яго кылы кыпца калі-нібудзь. Як жа мне пріпáсьцівіць етыга Цітынка?*

**Прыпіваць** *незак.* Запіваць. *Я яму чáшычку мылыка нальлю, ськібку хлеба атрежу, ён садзіцца на ўслончык, шапку кладзець, кусаіць хлеб і мылаком пріпівáіць.* **Прыпіць** *зак.* Запіць. *А ты чаім пріпі, яно смашней.*

**Прыпутываць** *незак. перан.* Лавіць, выкрываць. *Відзіць, што пычынаюць пріпу́тывыць, ён шашкі ў мяшкі ды ат'етуля скарей.*

**Прыпучанне, прыпучыванне** *н.* Навядзенне парадку. *Надоўга яго пріпучáньня рысьця́гыіцца, і зызіму́іш з раскрытыю крышыю. Ня жджы толку зь яго пріпу́чывыньня.*

**Прыпучываць** *незак. перан.* 1. Уладкоўваць. *Ён ужо каторый год свайго мальца пріпу́чывыіць.* 2. Наводзіць

парадак. *Нада брацца пріпу́чывыць пуню, у ёй жа рыгызьзя́, што ні зайціць.* **Прыпучывацца** *незак.* Уладкоўвацца. *Пыра б табе пріпу́чывыцца троху ў жызьні, ці ты век ны маткіный шыі будзіш сядзець.*

**Прыпушчальнік** *м.* Доўгі шост, якім паварочваецца ў кроснах вялікі навой. *Длінныю палку нятоўстыю зацешыш, каб лезла ў бальшэй навой, во табе й пріпушча́льнік. Памянш.* **прыпушчальнічак.** *Нада хуць якей пріпушча́льнічык зыцісаць.*

**Прыпяванне** *н.* Падпяванне. *Так ужо скыка́ла пасьледній вечыр, так скыкала, ды ўсё с пріпіва́ньнім.*

**Прыраіваць** *незак.* Даваць параду. *Што я яму стану пріра́івыць, ніхай сам бярець каго хочыць, як сам вы́біріць, не ны кыга будзіць абіжацца.*

**Прыроддзе** *н.* Род. *Пыкажы́сь-ка, чыйго ты пріродзьдзя, ці пызна́ю я. Чаго ж ты іх гу́ніш, яны ж вашыга пріродзьдзя.*

**Прыроівацца** *незак.* Здавацца. *Яму ўсякыя дурута́ пріроівыіцца, тады вярзець сам ні знаіць што.* **Прыроіцца** *зак.* Здацца. *Ня можыць быць, каб пріроілыся, сопсьцьвінна, гаворіць, відзіў.*

**Прыруб** *м.* Трысцен. *Лес дужа крепкій, харошый палу́чыцца пріру́б, ён сам і дзелыіць. Памянш.* **прырубчык.** *За лета пріскыкым пріру́бчык пыставіў і сенцы субугоріў. У прірубчыку сыбіраіцца печ стынавіць, а тая хата будзіць чыстыя.*

**Прырэз** *м.* Напалову кастрыраваны самец (звыч. конь). *У нашый дзяреўні у аднаго быў конь пріреэ.*

**Прысасываць** *незак. перан.* Моцна прыліпаць. *Гліна прісасывыіць вобуў, пряма ступіць нілізя, чуць атарьвеш.* **Прыссаць** *зак.* Моцна прыліпнуць. *Ма́лыму бацінычкі пріссала, стаіць і плачыць.* **Прыссаный** *дзеепрым. Глянька, як крепка пріссана, хаці ты, каб тут што узыйшло.*

**Прысвяціць** *зак.* Крыху пасвяціць. *Ну прісьвяці, я гляну і пат пол, можа й туды звалілыся шапка.* **Прысвяціцца** *зак.* Запаліць святло на кароткі час. *Дужа красін ні расходый, ато выйдзіць і прісьвяціцца нечым будзіць.*

**Прысед** *м.* Час, на працягу якога ткачыха тчэ без перапынку. *Тута ў цябе аста́лыся ны два пріседы, ня большы, за дзень можна кончыць.*

**Прысівіць** *зак.* Крыху забяліць. *Ікая ні кыравёнка, хуць крупеню прісівіць чарку мылыка цырканеш.* **Прысівіцца** *зак.* Крыху забяліцца. *Праўда, толька што прісі-*

*вільіся, мылыка тут і ні раскушыіш.* **Прысіўлены** *дзеепрым. Званьня, што прісіўліна, мылыка тут пасьці ня відна, тыкая крупеня ня дужа смашныя.*

**Прыскрынка** *ж.* Прыскрынак. *Поўныя пріскрынка усякыга бырыхла. Памянш.* **прыскрыначка.** *У пріскрынычку пылажы свае бумагі, там цалей будуць.*

**Прыследжываць** *незак.* Дасочваць. *Як ты будзіш прісьледжывыць куріцу, іна пыляціць, зьнясецца, і ты ня ўвідзіш.* **Прыслядзіць,** *зак.* Дасачыць. *Я каб прісьлядзіў тхыря, забіў ба, большы ён ба ні рішаў мне ціплят.*

**Прысмягнуць** *зак.* Падсмылець. *Пыклала валінкі ў печ, жарка було, яны і прісьмяглі.* **Прысмягшый** *дзеепрым. Што тут глядзець, прісьмягшый рукаў нада зылапіць.* **Прысмягшы** *дзеепрысл. Рукавіцы прісьмягшы, доўга ты іх ні панósіш.*

**Прысмядзіць** *зак.* Прыгарэць. *Думыю, што ета паліным пахніць, а ета ны загнеці тряпкі прісьмядзілі.*

**Прыснашчацца** *незак.* Прыстасоўвацца, прыладжвацца. *Ты пыглідай за ім, станіць прісныщчацца дый пыляціць тыршма носым.* **Прыснасціцца** *зак.* Прыстасавацца, прыладзіцца. *Ён пріснасьціўся і ыптыкаў вокны с таго боку.* **Прыснашчоный** *дзеепрым. Ужо можна рызьбірыць тэй пріснашчоный насьціл, там усё зьдзелына.*

**Прыснашчыванне, прыснашчэнне** *н.* Прыстасаванне. *Ці крепка ж стаіць тваё пріснашчывыньня, каб яно ні пыляцела умесьці с табою. Усё ета пріснашчэньня чуць ліпіць, страшна сюда лезьць.*

**Прысос** *м. перан.* Глiністая глеба. *Ны прісосі пасеіш — як высыпліш, дайжа ня ўзойдзіць, а ўзойдзіць — нічога ня вырысьціць.*

**Прыспічыванне** *н.* Вострае жаданне. *Такоя прісьпічывыньня ад балыўства, большы ні ач чога.*

**Прыспічываць, прыспічывацца** *незак.* Неадольна хацецца. *Я віджу, што майму узноў прісьпічывыіць зьбегыць у Лідагошча. Як станіць дужа прісьпічывыцца, скажы Высілёнку.*

**Прыстаўлянне** *н.* Вычваранне. *Як вам толька ні ныдаесьць глядзець ны яго прістыўляньня?*

**Прыстаўляннік** *м.* Той, хто вычварае. *Айт, прістыўляльнік, як веціp, усё ў яго хі-хі.* **Прыстаўлянніца** *ж. Мылыдая іна тыкая была прістыўляньніца, як утворіць што, дык с хохыту пыкатыісься.*

**Прыстаўляць** *незак.* Вычвараць. *Ён усігда любіў прі-*

*стыўляць.* **Прыстаўляцца** *незак.* Прытварацца. *Што пыдылá, то й еж, ато я дам прістыўляцца, іш ты яго, пыдывай прісмáкыў.*

**Прыстрэшак** *м.* Застрэшак. *Абізацільна нада прістрешык пыправіць. Памянш.* **прыстрэшачак.** *Ты ні жалей, нупускáй большы, прістрешычык кылі большый, ета няплоха.*

**Прыстуджываць** *незак.* Ахалоджваць. *Лёхкія нілізя прістýджывыць, прістьінуць — тады ты прыпáшчый чылавек.* **Прыстуджывацца** *незак.* Ахалоджвацца. *Ні бярёгся, прістýджывыўся, дык ляжыць каторыя ўремя.* **Прыстудзіць** *зак.* Ахаладзіць. *Усё зыкыляўся і зыкыляўся, пакуля прістудзіў сябе.* **Прыстудзіцца** *зак.* Ахаладзіцца. *Прістудзіцца нядоўга, а во тады выгыняць прастýду дужа няскора.* **Прыстуджаный** *дзеепрым. Я чую, што ты прістýджыный, у цябе дыхáнія цяжолыя.*

**Прыстываць** *незак.* Падстываць. *Сколька раз я прістывáў і ўсігда апхадзілыся, у бані вьіпырюся, вьіпырюся і пройдзіць.*

**Прысценак** *м.* Невялікая сцяна з бярвення, закладзенага ў шулы. *Нада було прісьценык закінуць, ні так ба сьнегу нудувáла. Памянш.* **прысценачак.** *Ны прісьценычык у мяне палык хвáціць.*

**Прысцябайла** *м. асудж.* Прыхвасцень. *Старшый сын чылавек як чылавек, а етый жа вешный прісьцібайла, хут ты ў вочы плюй, у яго стыда ніякыга німа.*

**Прысцябываць** *незак. перан.* Прышываць наспех. *Прісьцябывый як-небудзь, мне січас бежч нада.* **Прысцябнуць** *зак.* Прышыць наспех. *Прісьцябні ґýзічык, во ніткі, ён у цябе чуць ліпіць, пойдзіш і пыціряіцца.* **Прысцябнутый** *дзеепрым. Ныдзівай, прісьцябнýтыя хуць вісець ня будзіць.*

**Прысяга** *ж.* Прысяга. *Я табе прісігу даю, што мае мальцы нійдзе не былі. Што мне твыя прісіга, кылі ўвесь гарод вьіцірт.*

**Прыталка** *ж.* Вушак (у дзвярах). *На прітылкі нада лаўчэйшыя бярно выбіраць, каб смольныя, крепкыя. Памянш.* **прыталачка.** *Зь естыя палкі можна вьірізыць прітылычкі.*

**Прытаптаць** *зак. перан.* Пахаваць. *Жыў чылавек, а во памёр, прітыптáлі, каторыга успомнюць, а каторыга і не.* **Прытаптацца** *зак.* 1. Стаміцца канчаткова. *Мой старэй прітыптáўся сы скатом.* 2. Пахавацца. *Як памрець,*

*дык як-небудзь прітопчыцца, ны лайкі ліжаць ня будзіць.* **Прытаптаный** *дзеепрым. Памёр, прітыптан і ляжы спакойна, слухый, што на сьвеці дзеіцца бісь цябе.*

**Прытваранне** *н.* Прытворства. *Ат яго толька прітвыряньня і відзіш, большы нічога, аж ныдаей.*

**Прытварыць** *зак.* Зрабіць надзвычайнае. *Мыкар мог такоя прітваріць, што другей ба за ўвесь век ні прідумый.*

**Прытворнік, прытворак, прытваранннік** *м.* Прытворшчык. *Коля ізьвесный прітворнік, хіхікыіць і ня пойміш, ці ён шуціць, ці праўду гаворіць. Каб таго прітворка ні паслухый, то б даўно у дваре быў. Ого, якей сь цябе прітвыряньнік!* **Прытворніца, прытваранніца** *ж. А я і ні знаў, што ты еткыя прітворніца. Ня будзь прітвыряньніцыю, ета ні саўсім красіва.*

**Прытнасць** *ж.* Стараннасць. *Прітнысьці я ат іх нешта ня віджу, большы рузмундыкыюць, чым дзелыюць.*

**Прытный** *прым.* Старанны. *Прітныю работу і я люблю, а дзелыць абы дзень да вечыра — ета ні па мне. Памянш.* **прытненькій.** *Прітніцькыя дзяўчонычка, сьпіны ні рызьгінаіць.*

**Прытопацца** *зак. перан.* Стаміцца канчаткова. *Я к вечыру як прітопыюся, дык мне і іда ні на ўме, каб скарей аддыхнуць.*

**Прытохнуцца** *зак.* Затхнуцца. *Сямён узяў і адззаду у машыну пысадзіў пырасёнычка, я быялыся, каб ён тама ні прітохся.*

**Прытрушываць** *незак.* Затрасаць. *Сьняжок патрошку прітрушывыіць зямлю.* **Прытрушывацца** *незак.* Затрасацца. *Ці прітрушывыіцца ў цябе ай ні пулучаіцца?*

**Прытуіванне** *н.* Стойванне, затойванне. *А што мне яго прітуівыньня, я знаю, айдзе ён, вун зы стажком сядзіць.*

**Прытуівацца** *незак.* Стойвацца, затойвацца. *Кыцянок, кажыцца, ішчэ нічога ні пынімаіць, а ўжо прітуівыіцца, каб віріб'я злавіць.* **Прытуіцца** *зак.* Стаіцца, затаіцца. *Я прітуіўся за кусьцікым і гляджу, што ён станіць дзелыць.*

**Прытулішча** *н.* Прытулак, прыют. *Мы ўжо думылі, думылі, айдзе таго прітулішча шукаць будзім.*

**Прытуркыванне** *н.* Прымушэнне шматразовымі папрокамі, загадамі. *Што йна зубурчыць, ён яе прітуркывыньня у рязон ні бярець.*

**Прытуркываць** *незак.* Прымушаць шматразовымі папрокамі, загадамі. *Ня дужа іна станіць прітýркывыць, дужа трясецца над імі, жалеіць.*

**Прытурываць, прытураць** *незак.* Прыганяць. *Я скольска разоў хадзіла за імі, прітýрівыла двору, як зугуляюцца, пра ўсё забудуцца. Дужа ты рана прітуряіш скот, мог ба пыдзіржаць троху даўжэй.*

**Прытхласць, прытхля** *ж.* Застой, сырасць, затхласць. *У клець я зыйшла, дык там пряма нейкыя прітхлысць. Нешта у вас преіць, прітхлію пáхніць.*

**Прытхлый** *прым.* Застаялы, нясвежы. *Ты панюхый-ка, па-мойму, ета мука нейкыя прітхлыя.*

**Прытыхацца** *незак.* Пачынаць пахнуць. *Я ў хату зыйшла і зрáзу чую, што ў цябе мяса прітыхáіцца.* **Прытхнуцца** *зак.* Пачаць пахнуць. *Сьвежыя мяса ні кідáй нясоліныга, можыць прітхнýцца, вы́кініш.*

**Прыхакацца** *зак. перан.* Вельмі стаміцца, задыхацца. *С касою — ета табе ні з грáбількымі прайціцца, скора прыхáкыісься.*

**Прыхлябала** *звыч. м. асудж.* Прыхвасцень. *Во ўжо ні люблю я еткіх пріхлібáл, самі работыць ня хочуць, а толька б ізыкамі пліскáлі пру другіх.*

**Прыхлянуць** *зак. перан.* Прыйсці, зайсці раптоўна. *К ёй учора як пріхлянула пымыгáньніц, чуць спруўляўся рыспáхывыць бульбу.*

**Прыцюпаць** *зак. перан.* 1. Прыйсці, прытупаць. *Мой учор пад вечыр пріцю́пыў з горыда.* 2. Стаміць. *Ты пріцю́пыіш сваіх рыньніц, што і ат вячэрі аткажуцца.* **Прыцюпаный** *дзеепрым.* Стомлены. *Ай, куды яму йціць, ён саўсім пріцю́пыный.*

**Прыцюхаць** *зак. перан.* 1. Прыйсці з цяжкасцю. *Як ты пріцю́хыў пы такой дарогі?* 2. Стаміць. *Пріцю́хылі кунюшкá, што ён чуць ногі пірістыўляіць.* **Прыцюханый** *дзеепрым.* Стомлены. *Ні плач ты па ём, ні такей ён пріцю́хыный, як табе здаецца.*

**Прычалянне** *н.* Ненадзейнае ўладкаванне. *Якоя там прічыля́ньня, трі разы́ пірінучувáла, у іх ня дужа прічэлісься.*

**Прычаляцца** *незак.* Уладкоўвацца ненадзейна. *Ён трошку прічыляўся у Пырхвінка, а тады ускорысьці і паехыў.*

**Прычандалы** *мн.* Прылады, начынне. *Ты свае прічындáлы складзі у вугалок, яны мішаць нікому ня бу-*

*дуць.* **Прычандалле** *н. зб. Усё прічындáльля ац ставоў ны хаці ляжыць, тама яно цалей.*

**Прычапаць** *зак.* 1. Прыйсці ў стомленасці. *Няўжэлі ета Лісяёнык прічáпыў, ён жа саўсім слаб.* 2. Стаміць. *Цэлый дзень конь с хумутá ні выходзіць, прічáпылі яго саўсім.* **Прычапацца** *зак.* Стаміцца. *Ці мае гады са ўсімі спруўляцца, к вечыру як прічáпыісься, дык глядзіш, каб скарей на печ.* **Прычапаный** *дзеепрым.* Стомлены. *Чаму ж ня будзіць прічáпыный прі такой цяжолый рабоці.*

**Прычасціць** *зак. іран.* Аблаяць. *Што, Пёкла вас абоіх ладна прічасьціла?* **Прычасціцца** *зак.* Выслухаць лаянку. *Ну во, прічасьціўся, і то уродзі як ляхчэй стала.* **Прычашчоный** *дзеепрым. Сяньня, знаць, і твой пашоў прічашчоный.*

**Прычыканіванне** *н.* Прыбіранне. *Калі там ваша прічыкáнівыньня кончыцца, я большы вас ждаць ня буду.*

**Прычыканіваць** *незак.* Прыбіраць. *Дзеўкі зычыніліся у той хаці, прічыкáнівыюць адна другую.* **Прычыканівацца** *незак.* Прыбірацца. *Хвáціць табе прічыкáнівыцца, ты і так хырыша.* **Прычыканіць** *зак.* Прыбраць. *Прічыкáніла сваіх дачок, як кукылык ярыдзіла.* **Прычыканеный** *дзеепрым. Ідуць прічыкáніныя, голывы пызыдзіралі: любўйціся ны нас, харошых.*

**Прычэрчываць** *незак.* Адзначаць прыладай прыпуск аднаго бервяна да другога. *Ён лі бацькі скора наўчыўся прічэрчывыць, а тады і чыртў выбірацъ стаў.*

**Прышломаць, прышломацца, прышломкаць, прышломкацца** *зак.* Прыйсці няўклюдна. *Ідзі, калі прішломыіш, тады й ладна. Яны ніхай ідуць скарей, а я калі прішломыюся. Нада ж прішломкыць пы такой грязішчы. Січас прішломкыіцца, іна ўсьлед ішла.*

**Прышлопаць** *зак.* Прыйсці няўклюдна, у дрэнным абутку. *Я пакуля прішлопыю у сваіх бахілых, вы йдзіця, мне з вамі ні спрáвіцца.*

**Прышоччы** *дзеепрысл.* Прыйшоўшы. *Мы толька прішоччы двору пачулі, што Васіль пріехыў, а так мы ні знали.*

**Прышпарываць** *незак. перан.* Паскараць хаду. *Відзім, што дождж находзіць, дывай мы прішпáрівыць, чуць пасьпелі ґ дзярейні.* **Прышпарыць** *зак.* Пайсці шпарка, пабегчы. *Яны як прішпáрілі, айдзе мне зь імі справіцца.*

**Прышпіліць** ***зак. перан.*** **Сцебануць, хвоснуць.** *Каб*

*пугі яму пришпіліў хырашэнька, тады б ён паслухыў і пашоў.*

**Прышулак** *м.* Невялікае шула, якое ставіцца да сцяны або да другога шула. *Прішўлык ставіцца к сьцяне ці ґ другому шулу, каб сьценку закінуць. Памянш.* **прышулачак.** *Ты надоўга ня йдзі, я прішўлычкі скора выдзіўбыю і будзім зырізáць палкі.*

**Прышчына** *ж.* Прышчык. *Другей раз ні ач чога ні ат якыга прышчына ўскочыць. Памянш.* **прышчынка.** *Неік у яго прышчынкі пашлі пы ліцу.*

**Прышчыцца** *незак.* Лезці, цінснуцца. *Чаго ты прішчыська на ету печ, тута і бісь цябе цесна, ляж ны палу ды пыляжы.*

**Прыючанне** *н.* Часовае ўладкоўванне на прытулак. *Якоя тама прiючáньня, ім самім нейдзі пывярнуцца.*

**Прыючацца** *незак.* Часова ўладкоўвацца на прытулак. *Айдзе ж яму прiючáцца яшчэ, як ні ў сваіх, а Мархва яму родныя цётка.*

**Прыянне** *н.* Спрыянне, пажаданне дабра. *Яго прiяньня знаіць усякій: кылі выгыда, тады ён гатоў прiяць, а німа выгыды — і ў тэй бок ні гляніць.*

**Прэжч** *незак.* Пражыць, пячы. *Ты, я віджу, дужа лоўка ўмеіш пряжмо прежч. Пряглí сала і ўсю скыўрадў спалілі.* **Прэжаный** *дзеепрым. Прежыныя зірняты сыпліць у рот горсьцімі.*

**Псіканне** *н.* Выкрыкванне выгука «псік!» (на ката). *Во, баіцца ён твайго псікыньня, тряпкыю мыхані, тады можа спужáіцца.*

**Псікаць** *незак.* Выкрыкваць выгук «псік!» (на ката). *Ах, ікая збродлівыя кошка: я псікыю, а йна стала ны гырлач лáпымі і хлепчыць.*

**Псярня** *ж. перан. груб.* Зборышча. *Ету псярню нада було калі палкыю рызыгнаць ці мятлою якою пыгáныю.*

**Пугаўка** *ж.* Гузік. *Як атарьвецца ды німа пуд рукою прішыць, дык і бяс пўгыўкі дренна. Памянш.* **пугавачка, пугавічка.** *Такея мáлінькія пўгывычкі і прішывáць нялоўка. Сюда б нада была яшчэ адна пўгывічка.*

**Пугаць** *незак. груб.* Есці. *Я ныліла яму міску капусты, тады крупені пыстáвіла, як сеў пўгыць, усё паччысьціў.*

**Пужала** *н.* Пудзіла. *У нас пужáлы часьцей усяго у просі стáвілі, ну праўда, віряб'і ні так пілі. Памянш.*

**пужальца.** *Глянь, і ма́лый пужа́льца дзелыіць, тожа пынясець ста́віць.*

**Пужанне** *н.* Палоханне. *Ніхай ён луччы сваю жонку пужа́іць, а мне яго пужа́ньня ня дужа страшна.*

**Пужаннік** *м.* Той, хто палохае. *Ніхто твайго пужа́ньніка ні баіцца.* **Пужанніца** *ж.* *А йдзі ты, пужа́ньніца, к богу, ці ты цэлый дзень будзіш сядзець віряб'ёў па́сьвіць.*

**Пуза** *н.* Бруха, чэрава. *Памянш.* **пузка, пузіка, пузічка.** *Во пу́зка наеў, гла́дзінькыя стала. Нясі-ка, нясі сваё пу́зіка, я пыгляджу, ці хырашо ты пад'еў. Выстыўля́іць пу́зічка на сонца, греіць. Зневаж.* **пузёнка.** *Нада яго памыць, ён усё сваё пузёнка пыцыра́пыў. Павеліч.* **пузішча.** *Пу́зішча наеў, што яму хадзіць цяжола.*

**Пузач** *м.* Брухач. *Пріі́жджаў Анькін пуза́ч, рызадзет, ря́жышча —во, красныя. Узмацн.* **пузачына.** *Твайму пузачы́ну толька ны баку выля́цца, а ні на торх іціць.*

**Пуздрачанне** *н.* Біццё (кухталямі). *Ня дужа ён спужаўся твайго пуздря́чыньня, ны яго бізунчык харошый нада.*

**Пуздрачына** *м.* Таўстун. *Такей пуздрячы́на стаў, што на дзікый казе ні аб'едзіш. Павеліч.* **пуздрачышча.** *Некуды Варычкін пуздрячы́шча ныкірува́ўся, ён часта у тэй бок ходзіць.*

**Пуздрачыха, пуздракоўна** *ж. іран.* Таўстуха. *Тыкая стала пуздрячыха, што рукамі ні апхва́ціш. Во ікая пуздрякоўна разьдзелылыся, цябе нада дзьве такіх скласьць.*

**Пуздрачыць** *незак.* Таўчы, біць. *Як узя́ліся яго пуздря́чыць удзьвюх, ён круціўся, круціўся, ды круціцца большы не́куды.* **Пуздрануць** *зак.* Ударыць з сілай, важка. *Каб пуздряну́ў, каб атляцеў, як мячык, большы б ня лез.*

**Пуканне** *н.* 1. Гучнае паданне. *Нешта яблыкі зялёныя саўсім сы́пюцца і сы́пюцца, дужа многа пу́кыньня.* 2. Малацьба. *Мылачэньня, пу́кыньня ныдыіда́ла, бывала, рукі пыдбіва́іш, пакуля змалоціш.*

**Пукаць** *незак.* 1. Гучна падаць. *Многа сёліта яблык зялёных пу́кыіць.* 2. Малаціць. *Цыпа́мі як мылацілі, ня ўсе, ну многія пу́кылі: пройдуць с цыпамі пы кылыса́х, пысярёд, а тады яшчэ раз ідуць — пу́кыюць, каб зірнят ні астыва́лыся.* **Пукацца** *незак.* Малаціцца. *Як яно у вас пу́кыіцца?* **Пуканый** *дзеепрым.* *У пу́кыных снылах, шчыта́лыся, зірнят ні астаецца ніскалька.*

**Пулянне** *н.* Шпурлянне. *Зу пуля́ньня нада було вярёвычкі хырашэнька даць, а ні пы галоўкі гладзіць.*

**Пуляцца** *незак.* Шпурляцца. *Што яны дзелылі? — камлы́жжым пуля́ліся, маглі у вакно пупасьць, шы́бку вы́сыдзіць.*

**Пуня** *ж.* Пуня, хлеў. *Памянш.* **пунька.** *Хуць якую-небудзь нада пріпя́ць, бяс пу́нькі у зіму астывацца нілізя. Зневаж.* **пунчына.** *Стыяла пу́нчына, бацька ішчэ ставіў, дык етый хызяін рыспырядзіўся — на дровы пусьціў. Памянш.-зневаж.* **пунчынка.** *Цябе ета пу́нчынка ня трогыіць, і ты к ёй ні кысайся. Павеліч.* **пунішча.** *Пу́нішча бальшу́шчыя пустая, карові у адном баку адгароджына.*

**Пурхала, пурханнік** *м.* Буркун. *Наш старік пу́рхыла быў, як зывядзецца, няскора уніміцца. А ныдыя́длый пу́рхыньнік, усё яму ні так, ніхто ні ўладзіць.*

**Пурхнуць** *зак. асудж.* Забурчаць вельмі злосна, адрывіста. *Адзін раз пу́рхнуў, а большы ня будзіць і зырякецца, я атыўча́ць умею.*

**Пустадом** *м.* Пустадомак. *Што ты с пустадомым будзіш гыварiць, ці яго уверіш у чом-небудзь.* **Пустадомка** *ж. Расьцець пустадомка, ні пра што ня думыіць, вецір у гылаве сьвішчыць.*

**Пустадомства** *н.* Нядбальства, бяздумнасць. *Калі ў чылавеку пустадомства, дык што ты будзіш учыць, такога ніхто ні наўчыць.*

**Пустазвонак** *м.* Пустазвон. *Я с пустазвонкым ні хачу дайжа аднаго слова скызаць. Штоб такім пустазвонкым бабі быць, ні ны адну мінуту ні сьціха́іць.*

**Пустазвонне** *н.* Пустазвонства. *Некылі мне ўсякыя пустазвоньня слухыць, у мяне работы да горла.*

**Пустамалот** *м. перан.* Балбатун, хлус. *Ён ат роду пустымалот. Ты пасьледній пустымалот, разьві твайму хуць аднаму слову павеpіць можна, ці скызаў ты хуць раз праўду?*

**Пустамалотный** *прым. перан.* Пусты, бяздумны. *Такога пустымалотныга чылавека ні ўсігда найдзіш.*

**Пустата** *м.* і *ж. перан.* Пусты чалавек. *Якей чылавек пустыта́, ні пра што ня хочыць думыць, дайжа як ён заўтря будзіць жыць, ня думыіць.*

**Пустыня** *перан.* 1 *м.* і *ж.* Пусты чалавек. *Во пусты́ня чылавек, думый зы яго кылі хочыш, а ён будзіць вецір*

*лавіць.* 2 *ж.* Вялізная недагледжаная хата. *Разьвёў пустыню, хуць трі сям'і сюда мясьці.*

**Пустырнік** *м.* Лекавая расліна (трава). *Я ўсігда пару пучкоў пустырніка высушу і дзяржу ны ўсякій слўчый.*

**Пустэльня** *м.* і *ж. перан. неадабр.* Пустая асоба. *Кылі ўрадзіўся пустэльня, то яго ніхто і нічому ні наўчыць.*

**Путаннік** *м.* Той, хто путае. *Кабыла можыць крутнўцца ды дасьць кыпытом етыму пўтыньніку, што ён пакоціцца.* **Путанніца** *ж. Аддай ты, путыньніца, пута, ніхай ён сам спўтыіць.*

**Путна, путня** *прысл.* Добра, разумна, разважна. *Пўтна ён нічога ня зьдзелыў і ня зьдзелыіць, кініць, рініць як зря і пашоў. Рызважый ён пўтня, ды толку зь естыга мала. Выш. ст.* **путней.** *Можна трошку путней падмыць, ета ні работа.*

**Путнінка** *м.* і *ж.* Балаўнік, свавольнік. *Путнінка быў такей, што ніхай ён прываліцца. Пы мамі зыдыляся путнінка, пыжывець большы, дык цяпніць зь ёю горя.*

**Путнэй** *прым.* Здольны, дзелавы, разумны, разважны. *Каб пупаўся ім путнэй маліц, каб ня піў, ні дурачыўся, яны б узялі зяця. Выш. ст.* **путнейшый.** *Не, етыга я брацьня буду, нешта ён мне ні ырравіцца, пушукаю путнейшыга пацьцёлычка. Памянш.* **путнейшанькій.** *Усё шукалі путнейшынькыю цёлычку, дык прівялі, што глядзець ненышта. Узмацн.* **путнюшчый.** *Ета быў путнюшчый чылавек, тады іна жыла.*

**Пуцэнічка** *ж.* Пучок. *Пабвесіліся пуцэнічкымі с травы і йдуць як гіроі, ета ў іх гульня тыкая.*

**Пушэннік** *м.* Той, хто лае, бэсціць. *Ох, пушэньнік мне найшоўся, усё ў яго пы-сыбаччы з рота скачыць.*

**Пшэнішча** *н.* Поле, з якога ўбрана пшаніца. *Калі харошыя пышаніца, дык на пшэнішчы ні травінкі ня будзіць, іна тады саўсім ні расьцець.*

**Пыканне** *н.* Невыразнае вымаўленне. *Я ніскольна ні пынімаю яго пыкыньня, што ён ужо той ныстаўніцы гаворіць.*

**Пыканнік** *м.* Той, хто невыразна гаворыць. *Трудна ныстаўнікым с такімі пыкыньнікымі.* **Пыканніца** *ж. Што, пыкыньніца, урокыў учыць ня хочыш, знаць нічога ня будзіш.*

**Пыленне** *н.* Уздыманне пылу. *Якоя ета пыдмітаньня— пыленьня, а пыл увесь узноў садзіцца усюдых.*

**Пыліць** *незак. перан.* Бурна выражаць баязлівасць. *Чаго ён пыліць, хлопцы пушуцілі, а ён і ныпраўду падумыў, што міліцанер пры яго спрáшывыў.*

**Пыльканне** *н.* Выгукванне «пыль-пыль» пры падзыванні куранят. *Яны ішчэ ні пынімаюць пы́лькаmake ньня, ім толька трецьцій дзень.*

**Пыльканнік** *м.* Той, хто падзывае куранят выгукамі «пыль-пыль». *Аксюцін пы́лькыньнік зьбіраіць ціплят.* **Пыльканніца** *ж. Ну што, пы́лькыньніца, ня слухыюць цябе піскля́ты?*

**Пылькаць** *незак.* Падзываць куранят выгукамі «пыль-пыль». *Хва́ціць табе пы́лькыць, біс квакухі ціпляты адны ня пойдуць.* **Пылькнуць** *зак.* Падазваць куранят выгукамі «пыль-пыль». *Толька пы́лькніш, яны ку́мільгым ліцяць са ўсіх бакоў.*

**Пыні** *часц.* Указвае на фанабэрыстасць, зазнайства таго, чые словы перадаюцца. *Прішоў: пыні, я знаю, як рыспырядзіцца. Як рушумеўся: я, пыні, вам ня хто-небудзь! Ого, якей быў яго бацька: пыні, я хызяін, а вы хто?*

**Пыняць** *незак.* Падколваць. *Зы кажныю мелыч так яго пыня́юць, што аткуля толька у яго цярьпеньня бярецца.*

**Пыпленне** *н.* Марудныя дзеянні. *Я дужа ні люблю на пы́пліньня глядзець, кылі ўзяўся, дык дзелый, а ня ўмеіш — ні бяріся саўсім.*

**Пыранне** *н.* Падколванне. *Яно відна, што яму большы горькія редзькі ныдаела цёшчына пыря́ньня.*

**Пыраць** *незак.* Падколваць. *Хырашэнька яго пыря́юць пасьці кажный дзень, ніхай пыжывець, пызна́іць, якей хлеб у зіця́х.*

**Пырканне** *н.* Падзыванне курэй выгукамі «пыр-пыр». *А сьціхні ты с пы́рькыньнім, яны табе саўсім ні нада, зыня́ліся ў траве і ніхай ходзюць.*

**Пыркацца** *незак.* Поркацца, вазіцца. *Некылі пы́ркыцца, работа гаріць, січас конь прідзіць бульбу рыспа́хывыць.*

**Пыркаць** *незак.* Падзываць курэй выгукамі «пыр-пыр». *Як зывядзець, цэлый час пы́рькыіць, а куры ня слухыюць.* **Пыркнуць** *зак.* Падазваць курэй выгукамі «пыр-пыр». *Толька пы́рькніш, лётым куры ліцяць, знаюць, што дасі чаго-небудзь.*

**Пырска** *прысл.* Порстка. *Так пы́рска ні бяріся, зь людзямі нада пы-чалавечыску апха́дзіцца.*

**Пырханнік** *м.* Той, хто скача, пераскоквае. *Прыгані пырьхыньнікыў, надумыліся с такея вісычыны скыкаць, ногі пулумаюць ці ў сярёдку што пытаб'юць.* **Пырханніца** *ж. Пысядзіці-ка вы, пырьхыньніцы, цішэй, дык луччы будзіць.*

**Пыханне** *н.* 1. Пыхканне. *Нейкыя пыхыньня зы аборкым було відна, нехта агонь паліў.* 2 *перан.* Выяўленне гневу, сораму. *Ніхто яго пыхыньня ні спужаўся і ні спужаіцца, ніхай пыхыіць сколька хочыць.*

**Пыхаць** *незак. перан.* Курыць. *Ідуць як бальшэя і пыхыюць. Пашлі пыхыць за пуні, калі крышу ні пытпалюць.*

**Пыхцелка** *ж.* Жанчына, якая цяжка дыхае. *Ходзіць Іваныва пыхцелка, чуць спышыцца, рыстаўсьцела, ажно разбрюзла.*

**Пыхценне** *н.* Цяжкае дыханне. *Яго пыхценьня пачуіш зразу. Мы Зьмітрыка пызналі пы пыхценьню.*

**Пэканне** *н.* Невыразнае чытанне з запінаннем. *Наш ныстаўнік дужа ні любіў пэкыньня; кылі ня выўчыў урок, луччы зразу прізнайся, ён скарей просьціць.*

**Пэкаць** *незак.* Запінацца пры чытанні, гаворцы. *Што ж ты пэкыіш, гыварі праўду, каторый з вас у сад лазіў. Я помню, як ён атвічаў ныстаўніку: выйдзіць ґ доскі і пэкыіць.* **Пэкнуць** *зак.* Невыразна вымавіць. *Пэкніць, што ты нічога ні рызьбяреш.*

**Пэтлухі** *мн.* Непрыбраныя валасы. *Ідзець хлопіц, пэтлухі вісяць аж на плечы, думыіць, ета красіва, а ета ажно ніпріятна.*

**Пэцкала, пэцкальшчык** *м.* Пэцкаль. *Пэцкыла за што ня возьміцца, ня жджы толку. Ні работнік, а пэцкыльшчык, пырызварзёкывыў усё, што ні пацстўпісься.* **Пэцкальшчыца** *ж. Усігда пызнаіш, айдзе дзелыла хызяйка, а айдзе пэцкыльшчыца.*

**Пявуха** *ж.* Пявуння. *Мы ўсе помнім Пашку, ікая іна была пявўха, ні адна ня ўмела так пець, як іна.*

**Пякота** *ж.* Спякота. *Пасьледнія дні стыяла пякота, што ня выдзіржыць, даўно такея жарішчы ні було.*

**Пяленне** *н. неадабр.* Бесцырымоннае ўгляданне. *Ніkрасіва глядзець ны тваё пяліньня, стыдна дайжа — падойдзіць, вочы вытрішчыць і стаіць.*

**Пялёханне, пялёхканне** *н.* Пялёсканне. *Я чуў нейкыя пялёхыньня там дальшы, лі кустоў, можа яны там купа-*

*ліся. Тваё пялёхкыньня мне ажно ныдаела, дакуля ты будзіш вазіцца.*

**Пялёхаць, пялёхкаць** *незак.* Плёскаць, плюхаць. *Дзеці цэлый дзень у ряке пялёхыюць. Хвáціць яго пялёхкыць, апцірай ды кладзі спаць.* **Пялёхацца, пялёхкацца** *незак.* Плёскацца, плюхацца. *Мы, бувала, цэлыя лета у сажылкых пялёхыімся, яны некытырыя дужа глубокія былі. Дужа ты любіш пялёхкыцца, вылáзь ужо, хвацiць.* **Пялёхнуць** *зак.* Плёснуць, плюхнуць. *Відна, быльшая рыбіна тут жывець, другей раз як пялёхніць!*

**П'яный** *прым.* П'яны. **П'янаватый, п'янаваценькій.** Крыху п'яны. *Мой з горыда п'інувáтый пріехыў. П'інувáцінькія пашлі з гасьцей, вясёла рызгыварівылі.* *Памянш.* **п'яненькій, п'янёхенькій, п'янёхтанькій, п'янюткій, п'янюхтанькій, п'янёхенечкій, п'янёхтанечкій, п'янюхтанечкій.** *Не, твой, кажыцца, п'я́нінькій ні буваіць. Іна свайго і п'янёхінькыга устрічаіць дужа хырашо. Каб ка мне падыйшоў такей п'янёхтынькій, я б ні знаю што зьдзелыла. Ён і сяньня п'янюткій, не сь кім сустрейся, угасьцілі яго. Куды ён пойдзіць резыць, ён ляжыць п'янюхтынькій, пыдняцца ня можыць. Сядзіць п'янёхінічкій ны скамеічкі, язык ні варочыіцца. Такей ужо быў п'янёхтынічкій, што я ні разу яго такім ня відзіла. Патходзюць к нам п'янюхтынічкія-п'янюхтынічкія, ны ныгах ні дзіржацца.* *Узмацн.* **п'янюшчый.** *Я б яго піряўчыла, у мяне б такей п'янюшчый ні хадзіў.*

**Пянянне** *н.* Папрок. *Ніхай пін́яіць, ніхай ні пін́яіць, што мне яго пін́яньня, кылі ў мяне урemя ні було нісколічка.*

**Пярханне** *н.* Моцны, гучны кашаль. *Яго пірьхáньня далёка чутна, ац сáмыга быльшыка.*

**Пярхіла, пярхілка, пярхала, перхала, пярханнік** *м.* Пярхун. *Во яшчэ пярхіла, усё пярхі і пярхі, як што ірьвецца у грудзя́х. Айт, пярхілка, у яго, знаць, зь лёхкімі ні ў пыря́дку. Куды ж твой пірьхáла пывалокся сяньня? Во перхыла завёўся, аддыхыцца ня можыць. Чаго етый пірхáньнік ня лечыцца, ґ дыктырам ба кінуўся, лікарства б дáлі, пыляхчэла б троху.*

**Пярхнуць, перхануць** *зак.* Кашлянуць. *Ета Мітрыхван пірьханýў, яго усігда пызнáіш. Прастýдзіцца, троху пірьханець, алі каб ліжаў, дык не, у яго прастуда праходзіць скора.*

**Пятніца** *ж.* Пятніца. *Памянш.* **пятнічка, пяценка.**

*Лянь-ка ты, як дні ліцяць, ці даўно пынядзелык быў, а тута пятнічка ўжо заўтря. Ну што, дыждалыся ты сьвятэя пяцінкі?*

**Пяцерыком** *прысл.* На пяці конях. *У нас піцірікóм усігда земскій нычальнік езьдзіў, ета ўжо быў як ныстаяшчый пан.*

**Пяцярнуць** *зак.* Пры гульні «У куля» набраць адразу пяць ачкоў, тройчы падбіўшы куль. *Кажный ні піцярнець, ета умелый нада, а мáлыя двайнýць, трайнýць умеюць.*

**Пячкуранне** *н. жарт.* Складванне або рамонт печы. *Ты глядзі, каб посьлі яго пячкýріньня ні прішлося табе усю печ пірікладывыць.*

**Пячкурства** *н.* Майстэрства ў складванні пячэй. *Ён быў німудрушка мужык, ну пячкýрства хырашо знаў. Іван стаў первый сьпіцыяліст пы пячкýрству.*

**Пячкурыць, пячкурыцца** *незак. жарт.* Класці або рамантаваць печ. *А што, ёй каб пудучыцца трошку, дык ба стала пячкýріць ня хужы гырадзкога масьціра. Кынчай пячкýріцца, зытаплівыць нада ды стынавіць чугуны, ато скот гвалту крічыць.*

**Пячэнне** *н. груб.* Вантробы. *Чаго іх зы пячэньня хвытáіць. Чаго ты пячэньня ірьвеш, цэлы будуць твае вожычкі, зьезьдзіць і нызад прівязець.*

**Пяшак** *м.* Хадзьба пехатой. *Мне пішáк уеўся ў душý, ныхадзіўся дык ныхадзіўся, цяпер столька ня ходзюць.*

## Р

**Рабатнуць** *зак. гумар.* Папрацаваць. *Ну як вы сяньня рыбатнýлі, наверна, паўлуга пылажылі?*

**Рабза, рабзуля** *ж. абраж.* Жанчына з рабым тварам. *Рябзу нейкыю прівёз ісь сьвету, усё дно як сваіх дзевык яму ні хвытала. Рябзýлю сваю ідзі прысьміхай, а тутыцька табе сьміяцца нечыга. Ты сьпірва ны сваю рябзулю пыглядзі, а тады маю жонку апсуждай. Памянш.* **рабзачка, рабзулька, рабзулечка.** *К нейкый гырадзкой рябзычкі даўно клінкі пыдбівáіць, тута яму німа пу душэ. Гыварілі, што нейкыю пірядніскыю рябзýлькыю дужа ён аньцірісуіцца, што йта там ужо зы крысавіца тыкая. Калі ж ты нам сваю рябзýлічку пыкажыш, кызалі, што іна саўсім ні тыкая, як другея. Узмацн.* **рабзіна.** *Во пупаў сабе рябзіну, ні нацешыцца, праўду гаворюць: якея самі, такея й сані. Павеліч.* **рабзішча, рабзулішча**. *Ніхай ета*

*рябзішча мне дайжа на вочы ні пыказывыіцца сь сянішніга дня. Во ходзіць рябзу́лішча, хуць січас сватоў пысылай, будзіць і хата, і хызяйства.*

**Рабініна** *ж.* Асобная рабіна. *Тыкая красівыя рябініна стаіць у лесі, во каб вы́кыпыць ды пірісадзіць! Памянш.* **рабінінка.** *Чатыры рябінінкі я сабе пысадзіў, дзьве ўжо цьвілі сёліта.*

**Работаць** *незак.* Будаваць. *У нас плотнікі хату работылі, стыря́цільныя людзі, аць цімна ды цімна ля́пыюць.* **Работаный** *дзеепрым. Стаіць работыныя хата, усё зьдзелына, а верьх ні прыізводзюць.*

**Рабрак** *м.* Кант. *Рібракі у досткых нада пудруўня́ць тыпаром, яны дужа няроўныя. Пыстаў ны рібра́к дый пыцьцяшы́.*

**Рабрака, рабраком** *прысл.* На кант. *Рібрыка́ дзёнушкі пыстаў пыць сьцяну. Што ж ты ставіш рібраком, так стыяць ня будзіць.*

**Равенне** *н.* Рэў. *Мы чулі рявеньня кылы балота, а чыя там карова, хто яе знаіць, мы ні глядзелі.*

**Равіна** *ж.* Невялікі роў. *У нас зы дваром была пыря́дышныя равіна на хутыры, бярёзкі расьлі, нескылька сасонык сядзела. Памянш.* **равінка.** *Нібыльша́я раві́нка, а нада аб'іжджаць, конь цірізь яе ні піріця́гніць.*

**Рагазою, рагізою** *прысл.* Беспарадкава ва ўсе бакі (тырчаць). *Што ў цябе тарчыць хворыст рыгазою, нада акуратней складывыць. Валосься стаіць рыгізою, пріма́сьлі яго троху.*

**Рагаццё, рагацце** *н.* Сукаватыя палкі, ламачыны, суччa. *Нывазіў рыгыцьця́, каб упыря́ччыць, дровы былі б нічога, гарелі б. Пыспрабуй пареж ета рыга́цьця, калі к яму ні прідумыіш як пріступіцца.*

**Рад** *м.* Чарга. *Мы атпа́сьвілі учора, а сяньня Лявоныў ряд па́сьцівіць, ды яму два дні нада — зы карову і зы пацьцёлка.*

**Раданніца** *ж.* Радаўніца. *У нас пры ра́дыньніцу дайжа зыгадка была: у якей ета дзень у вас ды абеда па́шуць, у абед плачуць, а ўвечыры б'юцца? Памянш.* **раданнічка.** *Ці пойдзіш жа ты сёліта ны ра́дыньнічку ны магільнік?*

**Радзімашны** *прым.* Нягодны. *Такей жа радзі́мышный чылавек, ніякій чорт яму ні ўгадзіў ні разу і ня ўгодзіць.*

**Радзімец** *м.* Нейкая невядомая істота (звыч. у зла-

моўных выказваннях). *Радзіміц яго знаіць, айдзе ён ходзіць. Нейдзі ж радзімцы носюць цэлый дзень. Чорт, радзіміц, пріпадык — ета ўсё нейкыя нячыстыя сіла.*

**Радзімцаў** *прым. груб.* Невядома чый. *Дужа я знаю, чый ён, радзімцыў ён маліц, во чый.*

**Радзіцелеў** *прым.* Мерцвякоў. *Радзіціліва адзежа ні нада каб быгатыя, ну нада, каб уся была чысьцінькыя.*

**Радзіцель** *м.* Мярцвяк. *Як жа ты будзіш спаць, кылі радзіціль у хаці, як мёртвый у хаці, цэлыю ноч сідзяць.*

**Радзюга** *ж.* Посцілка з грубых нітак. *Рядзюгі ткалі з грўбых нітык, пысканьней ныпрядўць, хлыпянкі, хлыпянкыю пытыкалі. Памянш.* **радзюжка.** *Вазьмі ды пріпрыйся рядзюжкыю, троху цяплей будзіць. Павеліч.* **радзюжышча.** *Рядзюжышчу шшыла, што яе пыднянць і то цяжола.*

**Радзюжына** *ж.* Посцілка грубага вырабу. *Посьлі вайны рады былі рядзюжыныю накрыцца, нічога ж ні астальіся. Памянш.* **радзюжынка.** *Рядзюжынка ны хаці выляіцца, хлопцы бралі ныкрывацца.*

**Радкава, радкавата** *прысл.* Крыху рэдка, недастаткова густа. *Ты ня бойся, што січас морква выдаець рідкава, іна рызрасьцецца і йшчэ густа будзіць. Ці ні рідкувата ты квасолю сеіш, можна гусьцей капільку. Памянш.* **радкавенька, радкаваценька.** *Ня бойся, што рідкавінька быракі пасеіны, яны буйнейшыя будуць. Ячмень узыйшоў рідкуваціныка, ідна, зірняты порчыныя былі.*

**Радчына** *ж.* Адзенне з грубага самаробнага матэрыялу. *Раншы стырікоў дужа ні глядзелі, у якой рячныні праходзіць, і ладна. Памянш.* **радчынка.** *Старінькыю рячынку вазьмі ў лазьню пірякінуць.*

**Ражаство** *н.* Каляды. *Я старыя празьнікі хырашо помню: посьлі новыга года зразу буваіць рыжаство.*

**Ражно** *н.* Ламачына, востры кол. *Двор увесь зыгароджын, можна ны якоя-небудзь ражно узьбіцца.* **Ражэнне** *н. зб. Я ні знаю, калі ета ражэньня рызьбярў, а ты мне яшчэ пытпіраіш.*

**Ражном** *прысл.* Ламачынай. *Ходзіць с пыдвязыныю рукою, неік ражном тарчыць, злумаў нідаўна.*

**Разайкацца** *зак.* Пачаць айкаць. *Ня столька етый болі, сколька айкыньня, рызайкыўся, дык чуць жыў, спысайця яго скарей.*

**Разаранне** *н.* 1. Разбурэнне. *Дасьць брат зу рузурянь-*

*ня, ета ж пыня́ў моду: на́йдзіць гняздо і разу́рiць.* 2 *пе-ран.* Бушаванне. *Атву́чуць яго калі-небудзь ат рузуря́нь-ня, як у руках пыдзіржа́ць хырашэнька.*

**Разараннік** *м.* 1. Той, хто разбурае. *Во былі бысытва́, рызыря́ньнікі, за імі, бувала, ні адно гняздо ніјдзе ні зацэліць.* 2 *перан.* Той, хто бушуе. *Некыму уняць вашы-га рузуря́ньніка.*

**Разарвывацца, разрывацца** *незак. перан.* 1. Імкнуцца выконваць адразу шмат спраў. *Іна і так рыза́рвыіцца: і свыя работа, і ў сястры біда — паможч нада, а рукі ад-ны. Ня буду ж я табе адна рызрыва́цца — пысьпіва́ць і там, і тут.* 2 *груб.* Крычаць. *Што яны яшчэ ні пыдзялілі, чуць ні пуўдня рыза́рвывыліся, усё ім міру німа. Хва́ціць рызрыва́цца, ніјдзе вам спакою ні буваіць.*

**Разарзацца** *зак. перан. неадабр.* Пачаць сваволіць. *Рызырза́ліся вы, ма́льцы, ні пірід дабром, вам дужа-ду-жа лу́пкі зыхацелыся, і вы яе палу́чыця.*

**Разахочыванне** *н.* Знікненне ахвоты. *Я знаю, чаго у іх рызахочывыньня: ты, відна, у лаўку ні схадзіла зу бу-ты́лычкыю.*

**Разбайкываць** *незак.* Расказваць, разносіць чуткі. *Нашто вам усякыю лухту рызба́йкывыць, аткуля вы знаі-ця, што тэй Кіряёнык гывapiў.* **Разбайкывацца** *незак.* Пачынаць шмат гаварыць. *Некылі рызба́йкывыцца, ехыць нада, к цёмныму ні даедзім.* **Разбайкаць** *зак.* Рас-казаць, разнесці чуткі. *Етыя ку́мушкі ніхай што-небудзь узнаюць, рызба́йкыюць на ўвесь белый сьвет.* **Разбай-кацца** *зак.* Разгаварыцца. *Рызба́йкыліся, што і пры абед забыліся.* **Разбайканый** *дзеепрым. Яно ўжо даўно було рызба́йкына, ета ды цябе тольна ні дыхадзіла ніяк.*

**Разбалабоніваць** *незак. неадабр.* Разносіць чуткі. *Пры Пітрыка Аксеньня рызбылабонівыіць, ніяк ня мо-жыць яму прасьціць сватоў.* **Разбалабонівацца** *незак.* Пачынаць бурчаць. *Я увідзіла, што рызбылабонівыіцца, узіла ды пышла,— во, нада мне яго бубненьня.* **Разбала-боніцца** *зак.* Разбурчацца. *Ты ня чула, чаго яны тамыць-ка рызбылабоніліся? Як рызбылабонілыся: а чаго ня ўсім порыўну, а чаго мне хужы як другім,— ні ўняць було.*

**Разбалматываць** *незак. неадабр.* Разносіць чуткі. *Сьпірва шэпчуцца, а тады адна пры адну і рызбылма́ты-выюць.* **Разбалматаць** *зак.* Разнесці чуткі. *Чула ці ня чула, а што хочыш рызбалмочыць, ета натура тыкая ў*

*яе.* **Разбалматацца** *зак.* Пачаць гаварыць шмат, плявузгаць. *Як рызбалмочуцца другей раз, дык ні піряслухыіш іх.* **Разбалматаный** *дзеепрым. Не-а, ета нарошня рызбылмытáна, думыюць: а што Мікілай станіць дзелыць.*

**Разбараніванне, разбаранянне** *н.* Разніманне. *Аднаго ў адзін бок аткінуў, другога ў другей,— во і ўсё рызбырáнівыньня. Ці пымагло тваё рызбырынáньня ай ніскулька ні пымагло?*

**Разбараніваць** *незак.* Разнімаць, разбараняць. *Я ні знаю, што ў іх тама було, кызалі, Антон рызбырáнівыў.*

**Разбаранянннік, разбараняльшчык, разбараняльнік, разбароншчык** *м.* Той, хто разнімае забіяк. *Тожа мне рызбырынáньнік найшоўся, рукі дзяржыць, нада було за шкырку тырмаснýць, каб пыляцеў як ашмётык. Ты быў ба харошым рызбырынáльшчыкым, цябе ўсігда нада гукáць. Ета пашоў, знаць, Пракопыў рызбырыняльнік. Ня лезь, ня лезь, тута рызбароншчыкі ні нада, асобінна такея, як ты.* **Разбаранянніца, разбараняльшчыца, разбараняльніца, разбароншчыца** *ж. Учаліся і ты, ні хвытала такея рызбырынáньніцы тута. Атвядзіці-ка вы ету рызбырынáльшчыцу, каб іна сюда саўсім ня лезла. Ну-ка, заві рызбырынáльніцу, іна вам зразу нывядзець пырядык. Ты ладныю рызбароншчыцыю была, толька табе самой чуць ні пупала.*

**Разбаранятый** *дзеепрым. іран.* Той, хто разнімае забіяк. *Ня лезь, куды ні завýць, ні відалі тут такога рызбырынáтыга як ты.*

**Разбарона** 1 *ж.* Разніманне забіяк. *Што-то Цімох посьлі рызбароны крівіцца: нечыга було мне устрівáць.* 2 *м.* і *ж.* Той, хто разнімае забіяк. *Бягіць рызбарона, ён вас паміріць січас.*

# ЗМЕСТ



ГЕОРГИЙ ФЕДОРОВИЧ ЮРЧЕНКО

**НАРОДНОЕ ПРОИЗВОДНОЕ СЛОВО**

**Из говора Мстиславльщины М—Р (разбарона)**

Издательство «Наука и техника».

На белорусском языке

Рэдактар *М. М. Дубоўская.* Мастак *С. Т. Саўчанка.* Мастацкі рэдактар *Л. І. Усачоў.* Тэхнічны рэдактар *В. А. Чабатар.* Карэктар *В. В. Кляновік*

ІБ № 1754

Друкуецца па пастанове РВС АН БССР. Здадзена ў набор 23.08.82. Падпісана ў друк 05.01.83. АТ 16502. Фармат 84×108 1/32. Папера друк. № 2. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Друк. арк. 9,5. Ум. друк. арк. 15,96. Ум. фарб.-адб. 16,80. Уч.-выд. арк. 16,7. Тыраж 1000 экз. Заказ № 1785. Цана 1 р. 20 к. Выдавецтва «Навука і тэхніка» Акадэміі навук БССР і Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600. Мінск, Ленінскі праспект, 68. Друкарня імя Францыска (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка». 220600. Мінск, Ленінскі праспект, 68.